# ЛУКАШ


# КАЛЮГА

## ТВОРЫ



РАМАН
АПОВЕСЦІ
АПАВЯДАННІ
ЛІСТЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1992

ББК 84Бел7
К17

*Серыя заснавана ў 1989 годзе*

*Укладанне, прадмова Я. Р. Лецкі*

*Каментарыі Н. В. Гаўрош і Т. М. Трыпуцінай*

В книге наиболее полно, включая произведения, написанные в неволе и до сих пор не публиковавшиеся, собрано созданное за недолгую жизнь (1909—1937) одним из самобытнейших прозаиков 20-х — начала 30-х годов Лукашом Калюгой (Константином Петровичем Вашиной).

Неповторимо оригинальный стиль, тонкое психологическое мастерство делают его повести «Ни гость ни хозяин», «Недоля Заблоцких», лучшие рассказы приметным явлением в истории нашей литературы.

В книгу вошли и переписка Л. Калюги, и воспоминания о нем.

К $\frac{4702120201-059}{М 302(03)-92}$ 121—92

ISBN 5-340-00870-3

# У СЛОВЕ — ДУША НАРОДА

Лукаш Калюга (Кастусь Пятровіч Вашына) нарадзіўся 27 верасня 1909 года і дажыў да 1937-га. Убачыўшы апошнюю дату, чытач, мяркую, здагадаецца адразу, па чыёй віне пісьменніку суджана было пражыць такі кароткі век. У які дзень завяршыўся яго жыццёвы кругабег — невядома, як невядома і месца, дзе сатлелі костачкі аднаго з соцень тысяч выгнанцаў з роднай зямлі...

Кастусь быў немаўляткам, калі памерла мама, але сірочая доля абмінула яго: за маці стала бацькава сястра, незамужняя, якая ўзялася даглядаць малое. А калі памёр і бацька, то ў прымы да цёткі прыстаў брат Кастусёвай памерлай маці, Уладзімір Івашын, ён і замяніў бацьку. Паходзілі Вашыны з моцнага сялянскага роду, былі рослымі, фізічна моцнымі і здаровымі, жылі ў дастатку. Але працавалі ад відна да відна, часта не разгінаючы спіны.

Маленства будучага празаіка прайшло ў вёсцы Скварцы былога Койданаўскага павета, цяперашняга Дзяржынскага раёна. Менавіта тут пісьменнік сфармаваўся як асоба, увабраў у сябе тое, што складае адметнасць яго творчасці: мову, мараль, этыку, традыцыі, сам дух народны. Убачыў і спазнаў прататыпаў сваіх будучых персанажаў. З твора ў твор будзе пераходзіць вёска Баркаўцы, за назвай і за самымі螺 рознымі прыкметамі якой лёгка ўгадваюцца родныя пісьменніку Скварцы.

Кастусёва маленства, як і ў кожнага вясковага дзіцяці, было пазбаўлена сузіральнасці і марнатраўства, а большасць радасцяў вынікала з далучанасці да клопатаў дарослых — вадзіць каня на начлег, вазіць з бацькам снапы з поля, вучыцца касіць, араць,— усё гэта было не пакараннем, не цяжкім абавязкам, а шчасцем, якое яшчэ трэба было заслужыць, бо сведчыла пра сталасць, паўнацэннасць як чалавека, як гаспадара. Гэта была вялікая школа жыцця, здабываць хлеб уласным мазалём, а не круцельствам і балбатнёй. Трываласць такой жыццёвай філасофіі адчуў Лукаш Калюга і пазней зрабіў яе грунтам уласнай творчасці.

Пасля вучобы ў Станькаўскай сямігодцы Кастусь Вашына паступіў у Беларускі педагагічны тэхнікум у Мінску і паспяхова закончыў яго ў 1931 годзе. Пакуль што не напісана гісторыя гэтай унікальнай па ўкладу ў станаўленне нацыянальнай культуры навучальнай установы, якая нечым нагадвае Царскасельскі ліцэй, з той толькі розніцай, што там навучалася элітарная моладзь, а ў нас дзеці сялян, рабочых і дэмакратычнай інтэлігенцыі. Выкладалі ў Белпедтэхнікуме людзі вядомыя, сярод якіх былі і Якуб Колас, і яго дзядзька — найбольшы аўтарытэт у мовазнаўчай навуцы Язэп Лёсік, і многія іншыя. Тэхнікум быў прасякнуты духам патрыятызму, жаданнем аддаваць свае сілы роднаму народу, беларускай культуры і навуцы. Усё гэта не магло не ўплываць станоўча на далейшае станаўленне Лукаша Калюгі, на тое, што зарад духоўнасці, атрыманы ў вясковым

асяроддзі, арганічна спалучыўся ў яго з гарадской беларускай культурай.

Няма дзіва, што жудасная хваля сталінскіх рэпрэсій, якая ў першую чаргу падмінала пад сябе ўсё чалавечнае, дэмакратычнае, народнае і нацыянальнае, падмяла і амаль цалкам накрыла сабой Белпедтэхнікум разам з яго выкладчыкамі, навучэнцамі і выпускнікамі. Уратавацца здолелі толькі адзінкі.

Сябры Лукаша Калюгі па вучобе — Ніна Казлоўская і Франц Гінтаўт, якія быў таксама рэпрэсіраваны,— захавалі ў сваіх сэрцах самыя цёплыя ўражанні пра надзвычай чулага, зычлівага, кампанейскага, вясёлага норавам хлопца, які вылучаўся сярод іншых сваёй высознай, даўгавязай постаццю і часамі, каб выкінуць бяскрыўднага коніка, мог лёгка, быццам праз зэдлік, пераступіць праз выкладчыцкі стол і сігануць на месца за партай.

Пасля вучобы Калюга два гады працаваў стыльрэдактарам у навукова-даследчым інстытуце прамысловасці ВДНГ і вельмі нядоўга на беларускім радыё.

Арышт не быў для яго чымсьці нечаканым; ужо сядзелі па турмах і лагерах многія знаёмыя, у тым ліку і сябры па згуртаванні «Узвышша», а яго самога не адзін раз выклікалі ў адпаведныя органы — прапаноўвалі, папярэджвалі, пагражалі. Да гонару пісьменніка, чалавека і грамадзяніна, трэба сказаць, што ён быў адным з нямногіх, хто ні вусна, ні ў друку не выступаў з якімі-небудзь абвінавачваннямі, разноснай крытыкай у адрас тых, каго білі ці збіраліся біць, не каяўся за памылкі ўласныя, якіх не было, але прымушалі прызнаць. Такога, безумоўна, тэарэтыкі і практыкі чалавеканенавісніцтва дараваць не маглі. І для Лукаша Калюгі ў гэтай сітуацыі пытанне заключалася не ў тым, возьмуць ці не, а калі і якія абвінавачванні прад'явяць, на які тэрмін пакараюць...

У 1933 годзе, калі ўзялі Лукаша Калюгу, яшчэ захоўваліся сякія-такія фармальныя прыкметы следства і асуджэння. Сядзеў празаік у мінскай турме, той самай, дзе да рэвалюцыі за ўдзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе адбываў пакаранне Якуб Колас. Такім чынам, па волі злога лёсу наладжвалася пераемнасць былога і цяперашняга, вольналюбівых традыцый бацькоў і дзяцей, кажучы ходкім Калюгавым выразам, лучнасці нядолі тых, хто змагаўся за волю і хто гэтую волю атрымаў ад старэйшага пакалення як найвялікшы дар жыцця.

На Калюгавых «творах з-за крат» рукой пісьменніка пазначана «сутарэнне ў Мінску», а потым ужо «на выгнанні ў Ірбіце». Відавочна, пачынаў ён іх пісаць у мінскай турме, а канчаў ужо ў сібірскай высылцы. Там, зразумела, было ўсё ж лягчэй і зручней працягваць пачатае. А вось як яму ў турме пашанцавала здабыць канцылярскія бланкі, аловак, хто засцерагаў яго ад НКУСаўскай агентуры, ствараючы ўмовы для пісання? Рабіў гэта нехта адзін, кіруючыся прынцыпамі дабрыні, чалавечнасці, клопатам пра родную літаратуру, ці тут існавала нейкая заканспі-

раваная падпольная група супраціўлення? — вось пытанні, на якія, на жаль, мы не можам даць ніякага пэўнага адказу...

Цікава паслухаць сведчанне паплечніка Лукаша Калюгі Франца Гінтаўта, які ў лісце да мяне піша: «Не верыцца, што Лукаш мог многа чаго напісаць, седзячы ў мінскай турме. Тут ён мог на нейкіх шматках паперы натаваць тое-сёе, для памяці, а пасля перапрацаваць у Ірбіце. Пра гэта сведчыць і тая папера з канцылярскіх кніжак. Лукаш, як ён мне пісаў адтуль, пэўны час працаваў у нейкіх установах перапісчыкам, бо меў прыгожы, чытэльны почырк. Ён нават перапісваў ролі артыстаў у тамтэйшым тэатры. З гэтых крыніц чэрпаў паперу для сваёй пісаніны, на ёй пісаў лісты да Ніны. У той час не было сучасных самапісак, і часта многія для пісьма выкарыстоўвалі аловак. Лукаш паважаў аловак».

Следства па справе Лукаша Калюгі закончылася звыклым абвінавачваннем на выгнанне ў далёкі сібірскі край, куды пісьменнік «па этапе» быў далучаны да такіх жа, як сам, нявінных пакутнікаў, якіх, пачынаючы з канца 1929 года, нібы вар'яцкім канвеерам, гурт за гуртам, гналі з любай іх сэрцу Беларусі ў няведаную, таямнічую далеч. Гэта пазней, на прыканцы 30-х гадоў, каб прыспешыць абароты рэпрэсіўнага махавіка, «слугі народа» пачнуць дзейнічаць больш эфектыўна і эканомна (у сэнсе эканоміі выдаткаў), адпраўляючы свае ахвяры ў недалёкія ад Мінска Курапаты.

Ужо згадваўся горад Ірбіт Краснаярскага краю. Менавіта тут адбываў Лукаш Калюга высылку з 1933-га па 1937 год. Якіх-небудзь падрабязных звестак пра ягоны побыт мы не маем. У паперах, перададзеных з органаў КДБ, ніякіх дакументальна занатаваных пісьменнікам фактаў, падзей і здарэнняў няма. Адзіныя весткі адтуль — некалькі лістоў, адрасаваных Ніне Іванаўне Казлоўскай. Але ж, зразумела, пісаць у іх пра жахі «сацыялістычнага выхаваўчага лагера» Лукаш Калюга проста не мог, каб не наклікаць яшчэ большай бяды і на сябе, і на сваю сяброўку. Ясна адно: жыццё ў далёкай сібірскай няволі было не салодкім, да краю перапоўненым тугою і смуткам па родным краі, па усім тым, што засталося ў любай ягонаму сэрцу Беларусі. Пачуццём настальгіі прасякнута літаральна кожная старонка ягоных твораў «з-за крат», дзе амаль кожнае слова трымціць болем па знявечанай маладосці, растоптаных марах і спадзяваннях. Яму ж, калі гвалтоўна пазбаўлялі жыцця, не было яшчэ і трыццаці...

Так, Лукаш Калюга загінуў ва ўзросце, калі творчая асоба звычайна толькі набірае разгон, а здараецца, пачынае свой шлях. І ён, быццам прадчуваючы заўчасную смерць, пачаў пісаць вельмі рана, будучы вучнем Станькаўскай сямігодкі. Спачатку дасылаў у надзвычай папулярную ў 20-я гады газету «Беларуская вёска» допісы пра добра знаёмае яму жыццё ў родных Скварцах, потым перайшоў на апавяданні. Дасылаў іх у «Чырвоны сейбіт» — літаратурны дадатак да «Беларускай вёскі», які выдаваўся асобна ад яе, накшталт своеасаблівага часопіса. Рэдагаваў яго

Кузьма Чорны. Менавіта ў ягоныя рукі трапілі Калюгавы творы, і, блаславіўшы іх у друк, вядомы ўжо тады пісьменнік стаўся хросным бацькам маладога празаіка, якому не было тады яшчэ і дваццаці гадоў.

«Пісьменнік... і не абы-які пісьменнік, братачка. Богам дадзены талент...» — так, паводле слоў Янкі Скрыгана, атэставаў Кузьма Чорны Лукаша Калюгу.

Калі гаварыць пра маладую літаратуру Беларусі, дык яна развівалася пад сцягам «Маладняка», які ў спрыяльнае для станаўлення нацыянальнай культуры паслярэвалюцыйнае дзесяцігоддзе здолеў шырока разгарнуць дзейнасць і да 1926 года згуртаваць у сваіх шэрагах звыш пяцісот сяброў. Ідэі і дзейнасць суполкі даходзіла да глухіх куткоў Беларусі. На першай пары маладнякоўцы былі моцна з'яднанымі паміж сабой і ўяўлялі адзінае цэлае не толькі ў арганізацыйным, але і ідэйна-творчым, мастацкім плане. Разам яны быццам складалі аднаго аўтара, які выступаў у розных іпастасях, відах, жанрах, тэмах і г. д.

«Маладняк», за рэдкім выключэннем, аб'ядноўваў у сваіх шэрагах усіх маладых пісьменнікаў Беларусі. Да такога выключэння якраз і належаў Лукаш Калюга. Уступленню ў суполку, можна меркаваць, перашкаджала тое, што ён жыў на вёсцы, а, наколькі вядома, філіі «Маладняка» на Койданаўшчыне не было. Але ж не зрабіў ён гэтага і потым, калі пераехаў у Мінск. Прычынай таму, бадай, была адметнасць таленту, моцна заглыбленага ў рэальнае жыццё, пазбаўленага рамантыкі, рэвалюцыйнага пафасу, дэкларацый, на якія такой шчодрай была маладнякоўская творчасць. Нават псеўданім пісьменніка быў нібы знарок палемічна скіраваны супраць распаўсюджанай у той час завядзёнкі браць гучна-рэвалюцыйныя, узнёсла-рамантычныя, раслінна-квяцістыя літаратурныя імёны.

І ўсё ж пэўны ўплыў на пачаткоўца «Маладняк» аказаў, магчыма, міжвольна, падсвядома, бо, напэўна, дапытлівы юнак чытаў і часопіс, і творы з кніжыцы «Маладняка».

Пра далучанасць, а ў пэўным сэнсе і паглынутасць «маладнякоўствам» уласнага «я», досыць выразна сведчыць апавяданне «Вясна», першае з надрукаваных у «Чырвоным сейбіце».

Яго назва тыпова маладнякоўская, яна вар'іравалася ў іншых творах і асацыіравалася з улюбёным матывам рэвалюцыйных пераўтварэнняў і змен. Распаўсюджаным для «Маладняка» было падпарадкаванне індывідуальнага, псіхалагічнага класаваму, сацыяльнаму, хоць, да гонару Лукаша Калюгі, схема не забівае ў яго жывога характару. Сваё і чужое, агульнае для ўсіх, выяўляецца і ў мастацкай тканіне апавядання. Вось пачатак:

«Як маленечкія люстэрачкі, мяняюцца ад прамення вясенняга сонца растрэсеныя па полі сняжынкі. Весела міргае шыр палявая, як вокам скінуць, ад вуглоў трох новых хат з прыбудоўкамі хлеўчукоў ды такоў, што, як дзіця старчыхі ў цёплай хаце, туляцца ля іх, да бярэзнічку шляхечага хутара. Заве шыр на свае загоны».

У такім жа стылі, дзе малады аўтар нібы знарок дэманструе сваё майстэрства, сваё ўменне пісаць прыгожа, карыстацца распаўсюджанай маладнякоўскай вобразнасцю, разгортваецца апавяданне і далей, але не да канца, бо, уцягнуўшыся ў апісанне, у даследаванне характара, празаік нібы забыўся пра сваю першапачатковую зададзенасць і пачаў пісаць проста і дакладна, падпарадкоўваючы слова таму, што трэба было сказаць. Пазбаўляцца штучных прыгостваў, мяркую, яго найперш змушала тыпова свая, ні на чыю не падобная, мова, якая нават у першых Калюгавых творах радуе свежасцю і багаццем фарбаў.

Так, паспрабаваўшы, і зусім, заўважым, не без поспеху, пісаць пад «Маладняк», Лукаш Калюга тут жа і адышоў ад яго, выступаючы ў сваіх іншых творах цалкам непаўторным, са сваёй яскрава выяўленай індывідуальнай манерай. І ён гэтым самым, нібы ў мініяцюры, паўтарыў шлях найбольш выяўленых маладнякоўцаў, якія адчулі для сябе вузасць маладнякоўскіх рамак і заявілі 26 мая 1926 года аб выхадзе з гэтай суполкі і стварэнні новага літаратурна-мастацкага згуртавання «Узвышша».

Новае аб'яднанне мела разгалінаваную праграму самасцвярджэння, але асноўны кірунак быў на самабытны нацыянальны шлях развіцця, шырока раскрыты як для засваення мінулых здабыткаў роднай культуры, так і, кажучы іхнім слоўцам, для апанавання культурных дасягненняў іншых народаў.

Прыехаўшы ў Мінск, Лукаш Калюга становіцца не толькі студэнтам Белпедтэхнікума, але і сябрам згуртавання «Узвышша». Рэкамендацыю яму напісаў Кузьма Чорны. Трэба сказаць, што доступ у суполку быў строга абмежаваным,— сюды залічалі толькі бясспрэчна таленавітых, і ўзвышэнцаў было ўсяго каля дзесяці чалавек. Яны выступалі за свабоду творчасці, незалежнасць літаратурнага згуртавання («Маладняк», як вядома, працаваў пад апекай ЦК ЛКСМБ), заахвочвалі мастацкі пошук, у тым ліку і эксперыментаванне, заклікалі павышаць культуру творчасці ўвогуле і мовы ў прыватнасці, ствараць мастацтва, «якое ўбачаць вякі і народы». Узвышэнцы, карацей кажучы, распрацавалі праграму нацыянальнага культурнага адраджэння, якая ў параўнанні з папярэднім, маладнякоўскім, перыядам нацыянальнага абуджэння і самавызначэння, колькаснага збірання сіл, сведчыла аб якасных зрухах у асяроддзі маладых беларускіх літаратараў, аб усведамленні імі сваіх задач у абсягах не толькі ўласна літаратурных, суполкавых, а адраджэння народа, яго духоўнага самавызначэння і самасцвярджэння, выхаду на гістарычную арэну як раўнапраўнага і незалежнага суб'екта развіцця.

Падзеі ў краіне не дазволілі ўзвышэнцам разгарнуць творчую дзейнасць на поўную моц, у больш-менш спрыяльных умовах яны працавалі ўсяго тры гады (1927—1929), але зробленае і надрукаванае за гэты час у часопісе «Узвышша» ўвайшло, не пабаімося гэтага сцверджання, у залаты фонд роднай літаратуры. Назаву тут раманы Кузьмы Чорнага «Сястра» і «Зямля» ды яшчэ каля дзесятка апавяданняў, сярод якіх і славутыя «Верас.нёвыя ночы»,

апавяданні і раман «Запіскі Самсона Самасуя» А. Мрыя, лепшыя сатырычныя вершы і байкі Кандрата Крапівы; лірыку і эксперыментальныя паэмы У. Дубоўкі «Штурмуйце будучыні аванпосты» і «Пурпуровых ветразяў узвівы»; аповесць «Салавей» і першую кнігу рамана «Язэп Крушынскі» Змітрака Бядулі; крытычную спадчыну А. Адамовіча і А. Бабарэкі...

Большасць пералічаных імён і твораў добра знаёмы сучаснаму чытачу яшчэ са школы, іншыя, спадзяюся, неўзабаве ўвойдуць у нацыянальны духоўны набытак. Ужо адзін гэты кароткі пералік паказвае, якой індывідуальна своеасаблівай, па-нацыянальнаму самабытнай і адначасна расчыненай насцеж агульначалавечым духоўным памкненням, па-мастацку значнай была праца узвышэнцаў.

Творчасць Лукаша Калюгі ўжо на самым пачатку стаяла наўзбоч асноўных маладнякоўскіх плыняў, дзе выразна сцвярджала сябе і рамантычная прыўзнятасць над жыццём, і квяціста-стылёвая аздобленасць, і чуллівы лірызм, і гучна-эфектная рытмізаваная фраза, і прыгодніцтва, замешанае на неверагодных здарэннях у час змагання з «класавым ворагам». У Калюгі ж усё было проста і звычайна — спакойная і нібыта цалкам традыцыйная плынь вясковай прозы, звыклыя, часамі ўзятыя быццам паза часам сялянскія характары, свядомая арыентацыя на роднае, змалку дарагое і блізкае, прытым і на такое, што лічылася забабонным, абсалютна чужым новай рэчаіснасці. Усё гэта ніяк не стасавалася з «Маладняком», але было прыхільна сустрэта ва «Узвышшы», дзе маладому празаіку былі створаны вельмі спрыяльныя ўмовы для творчасці і друкавання.

Што ж датычыць стасункаў паміж згуртаваннямі, то адразу, пачынаючы з заявы аб выхадзе з шэрагаў «Маладняка», паміж былымі супольнікамі ўсталяваліся далёка не мірныя дачыненні — чым далей, тым больш палеміка набывала заццяты і непрымірымы характар. Пасля ж таго, як «Маладняк» падпаў пад уплыў РАППа і страціў нацыянальную самастойнасць, пераўтварыўся ў БелАПП, нападкі пачалі насіць рэзка выяўлены палітычны характар з патрабаваннем расправы над «носьбітамі варожай пралетарыяту нацыяналістычнай і кулацкай ідэалогіі...».

«Узвышша» першым пала пад ударамі сіл, якія неўзабаве паўнаўладна запануюць ва ўсіх сферах савецкага грамадства. Ужо ў канцы 1929 года былі арыштаваны Адам Бабарэка, Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча — пакуль што, дарэчы, належна не ацэнены паэт. Пазней такая ж доля напаткала Антона Адамовіча *, Фелікса Купцэвіча, а потым Лукаша Калюгу і А. Мрыя...

* Лёс Антося Адамовіча склаўся асабліва драматычна. Друкавацца ён пачаў у 1926 г. семнаццацігадовым юнаком, пасля сканчэння БДУ стаў адным з самых вядомых тагачасных літаратурных крытыкаў. Адным з першых быў рэпрэсіраваны, у 1931 г. высланы ў Сібір. Вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, апынуўся ў Мінску, дзе стаў актыўна супрацоўнічаць з акупацыйнымі ўла-

Шал пракурораў ад ідэалогіі не меншаў, а ўсё большаў — яны не толькі працягвалі бэсціць, абвінавачваць, але і дамагліся таго, каб узвышэнцы самі сябе асудзілі. Неўзабаве маглі і ўсцешыцца: спачатку было апублікавана рашэнне сходу згуртавання аб прызнанні ўласных памылак, а потым і заява з характэрным для таго часу загалоўкам «Агентам міжнароднага імперыялізму патрабуем жорсткай кары!». Гэта ў адносінах і да тых, хто сядзеў у турмах і лагерах!

Такім чынам захопліваліся, разбіваліся, дэмаралізаваліся асяродкі нацыянальнай культуры, прыстанішчы нацыянальнага духу, самасвядомасці і духоўнасці народа. І ў гэтым сэнсе лёс «Маладняка» і «Узвышша», справакаваных на літаратурную барацьбу, быў аднолькава трагічны, як і лёс іншых беларускіх культурных і інтэлектуальных цэнтраў — Акадэміі навук, Беларускага дзяржаўнага універсітэта, іншых вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, таварыства краязнаўства і г. д. Нацыя планамерна пазбаўлялася сваёй інтэлігенцыі, а тая яе нязначная частка, якая фізічна ацалела, была духоўна зломленай, маралізаванай, завербаванай на абслугоўванне бесчалавечнай машыны па знішчэнні ўласнага народа...

І няхай сабе на долю такіх, як Лукаш Калюга, выпалі нялёгкія выпрабаванні, і яны не здолелі раскрыцца на ўсю моц сваіх творчых магчымасцяў, не кажучы пра звычайнае чалавечае шчасце, якое іх абмінула, усё ж яны не сталі пярэваратнямі, не здрадзілі чалавечнасці і назаўсёды засталіся перад сваім народам чыстымі душой.

Аддаўшы ў першым апавяданні «Вясна» пэўную даніну маладнякізму, выяўленню шырока распаўсюджаных у той час у літаратуры матываў размежавання бедных і заможных сялян, так званым класавым канфліктам на вёсцы, якія сапраўды існавалі і адпаведнымі ідэалагічнымі службамі распальваліся, Лукаш Калюга ўсё ж узяў у наступных апавяданнях курс на мастацкае выяўленне традыцыйных для беларускай рэчаіснасці характараў, на сцверджанне маральных каштоўнасцяў, перш за ўсё дабрыні і спагады чалавека да чалавека, якія складваліся вякамі і працягвалі існаваць і ў новым грамадстве.

Наватарства маладога празаіка выявілася ў тым, што ён на традыцыйнае здолеў паглядзець свежым, нетрадыцыйным вокам. Перш за ўсё звернем увагу на адкрыццё ім вобраза дзівака, падобнага на таго, які значна пазней цікава заявіць пра сябе, скажам, у апавяданні В. Адамчыка «Дзікі голуб» і як цэласная, шматгранная з'ява замацуецца ў творчасці рускага празаіка В. Шукшына. У кірунку шматвыяўнага асэнсавання нацыяналь-

---

дамі. Выехаў на Захад і з 1960 г. жыве ў ЗША. За мяжой апублікаваў шэраг кніг па гісторыі Беларусі, яе культуры і літаратуры. Далёка не з усім, напісаным у пасляваенны час, можна пагадзіцца, аднак ёсць нямала і таго, асабліва з напісанага ў 20-я гады, што не страціла свайго значэння ў гісторыі нашай літаратуры.— *Рэд.*

нага характару ў яго спецыфічным «дзівацкім» увасабленні разгортвалася і навелістычная творчасць Лукаша Калюгі.

Тыпы людзей у гэтых індывідуальна і нацыянальна вельмі своеасаблівых, самабытных пісьменнікаў розныя, як розніцца псіхалогія, побыт, натура, прынцыпы паводзін, тэмперамент рускага і беларуса. Але пафас аўтарскіх пазіцый, мяркую, зводзіцца да аднаго і таго ж — да сцверджання права кожнага чалавека быць самім сабой, паважаць іншага, хто хоць у чымсьці істотным адрозніваецца ад цябе, ад тваіх перакананняў, але не перашкаджае жыць, таксама быць самім сабой.

Права гэтае героямі Лукаша Калюгі сцвярджаецца нібы само сабой, іх жыццёвай сутнасцю, хутчэй падсвядома, чым усвядомлена, шукшынскі ж герой, чалавек зусім іншай грамадскай фармацыі, нацыянальнага і гістарычнага вопыту, актыўна і цалкам усвядомлена змагаецца за сваё права чалавекам звацца, быць такім, а не іншым.

Зразумела, Лукаш Калюга і Васіль Шукшын, як літаратурныя з'явы, узніклі незалежна адзін ад аднаго, аднак многія матывы іх творчасці народжаны шмат у чым падобнай атмасферай, якая ў першым выпадку папярэднічала, ці, дакладней, была звязана са станаўленнем сталінізму, а ў другім — фарміравалася ў грамадстве пасля яго ідэйнага, палітычнага і маральнага краху.

Шукшынскія дзівакі — воля і дух народныя, якія прабіліся з-пад цяжкай каманднa-адміністрацыйнай, рэпрэсіўнай пліты, што глушыла творчую думку, эмоцыі, свабоду самавыяўлення кожнага чалавека, прымушаючы яго паводзіць сябе як усе, таймаваць прыродны покліч уласнай натуры. І вось пасля XX з'езда партыі чалавек, набраўшы ў лёгкія паветра свабоды, узбунтаваўся супраць прымусу ў любых яго праявах.

Дзівакі Лукаша Калюгі яшчэ не зведалі на сабе прымусовых «прывабнасцяў» новай сістэмы, яны жывуць традыцыйным запаволеным жыццём, іх канфлікты і непаразуменні маюць не сацыяльнае, як у В. Шукшына, а амаль выключна бытавое, псіхалагічнае, маральнае напаўненне. Але і там, і тут перад намі не стандартныя характары, што сваімі паводзінамі і прынцыпамі выломліваюцца з агульнага ходу жыцця, яны ўяўляюць сабой не правіла, а выключэнне, якім нібы знарок выпрабоўваецца гуманная сутнасць грамадства.

Лукаш Калюга, быццам прадчуваючы небяспеку глумлення над народнай душой, ператварэння чалавека з самабытнай, годнаснай асобы ў бязлікага выканаўцу волі вялікага правадыра і яго шматлікіх правадырчыкаў-памагатых, выбіраў з безлічы добра вядомых яму вясковых тыпаў найбольш самабытныя і найменш прыдатныя для стандартызацыі і сляпога паслушэнства.

Яго героі бываюць смешнымі (згадаем Трахіма з Пагулянкі, які ў знак пратэсту супраць жонкі аб'яўляе галадоўку, а сам ціхком заглядвае ў шафу з ядой), камічнымі, непрыстасаванымі ў жыцці, ахвочымі на дармавінку выпіць і закусіць. Але што значаць гэтыя дробязі супраць рэк народнай крыві, якая ж не сама сабой

лілася, а пускалася тысячамі выканаўцаў, якім трэба было віжаваць, пісаць даносы, арыштоўваць, судзіць, трымаць людзей у турмах, выконваць смяротныя прысуды...

Кампанія чалавеканенавісніцтва і людажэрства пачалася задоўга да 30-х гадоў, яна ўсяго толькі лагічна завяршыла ў другое паслярэвалюцыйнае дзесяцігоддзе тое, што пачалося ў першае.

Бачыў, усведамляў, прадчуваў ці інтуітыўна станавіўся на абарону чалавечнасці малады дваццацігадовы празаік — сёння не так і важна. Галоўнае, што пафас, маральна-этычная сутнасць твораў пісьменніка аб'ектыўна супрацьстаялі дэгуманізацыі савецкага грамадства, якое з кожным годам усё больш катастрафічна набліжалася да той страшнай мяжы, за якой было перараджэнне і ператварэнне зусім у іншую, чым задумвалася напачатку, рэальнасць. У гэтай сітуацыі важна было не сварыць людзей, а з'ядноўваць і кансалідаваць нацыю. Для пісьменніка і людзі, і вёска, пра якую ён піша,— свае, родныя, блізкія, незаменныя. Характэрная ў гэтым сэнсе канцоўка апавядання «Баркаўцы — добрая вёска, і баркаўчане — вясёлыя людзі»:

«Але хто што ні гаворыць, а я адно кажу: за нашы Баркаўцы ў свеце лепшай вёскі няма. Нізашто б я з яе не выбраўся, хоць бы мне й прыплочвалі».

У гэтым апавяданні, як і ў іншых, ёсць і светлыя лірычныя старонкі, народжаныя любасцю да вёскі і яе жыхароў, і гумар, але новым, бадай, з'явіўся погляд у глыбіню вякоў, разуменне жыцця як вечна рухомай і жывой плыні, дзе дзень учарашні пераходзіць у дзень сённяшні, высвечвае чалавечыя характары новымі гранямі.

Чалавекалюбны зарад, які несла ў сабе творчасць Лукаша Калюгі і іншых пісьменнікаў-гуманістаў, быў надзвычай патрэбным тагачаснаму грамадству, хоць, зразумела, і не мог перакрыць дарогу грубай сіле «праваахоўных» органаў, франтальнаму наступу пануючай ідэалогіі, што ўвасабляла сабой уладу, яе магутную рэпрэсіўную моц.

Пісьменнік не толькі сцвярджаў каштоўнасці традыцыйнай народнай маралі, але і адным з першых паспрабаваў разабрацца ў сутнасці новага грамадства, у тых маральных і ідэалагічных дэфармацыях, якія адбываліся ў ім. З найбольшай паўнатой яго роздум і трывога ўвасобіліся ў аповесці «Ні госць ні гаспадар» — вялікім эпічным творы, які з працягам друкаваўся ў некалькіх нумарах часопіса «Узвышша», але, на жаль, не быў завершаны, па сутнасці абарваны на палавіне, што, безумоўна, не магло не паўплываць на паўнату ўвасаблення аўтарскай канцэпцыі, нашага яе разумення.

Твор напісаны на хадавую ў «Маладняку» тэму — жыццё камсамольскай моладзі. Аднак не заўсёды маладнякоўцам удавалася намаляваць жывы і праўдзівы характар маладога сучасніка, хоць яны і лічылі, што толькі адны здольныя здзейсніць гэта. Менавіта ў піку ім Якуб Колас, якога маладыя задзірыста крытыкавалі за нібыта няздольнасць адчуць і паказаць новае, напісаў

аповесць «На прасторах жыцця». Твор гэты і да сённяшняга часу застаецца хрэстаматыйным, ёсць у ім шмат прывабнага і жывога, аднак нельга не заўважыць і таго, што пісьменнік тут арыентаваўся не так на глыбокае асэнсаванне жыцця, як на гатовыя ўзоры, на тое, што пра камсамольцаў пісаў тагачасны друк, гаварылася з трыбун. А і тады ўжо гаварылася і пісалася не пра тое, што ёсць, а што быць павінна згодна з высокімі ўстаноўкамі і рэгламентацыямі. Шмат у чым, праўда, Колас не пагаджаўся, палемізаваў, і калі б ён дасканала ведаў тое, пра што пісаў, то, напэўна, твор набраў бы большай глыбіні і праблемнасці. Але галоўнае, што паўплывала на мастацкую спецыфіку аповесці, дык гэта тое, што пісьменнік, спаборнічаючы, а значыць, і палемізуючы з маладнякоўцамі, сам, строгі, да прыземленасці дакладны рэаліст, падпаў пад іх рамантычны стэрэатып досыць аблегчанага асэнсавання жыцця, і гэта абумоўлівала, быццам загадзя праграмавала эстэтычную сутнасць гэтага самага «нетыповага» коласаўскага твора.

Нетыповага не для тагачаснай літаратуры, а для самога Якуба Коласа, яго творчай манеры. Тут пісьменнік, чыя творчасць вызначаецца надзвычай трывалай заглыбленасцю ў жыццё, пайшоў бадай што на свядомы адыход ад свайго асноўнага прынцыпу, і пабуджальным матывам для творчасці сталіся яму літаратурныя імпульсы, жаданне даказаць маладым пісьменнікам, што ён не толькі здольны адлюстроўваць тыя ж, што і яны, тэмы, але і рабіць гэта на значна вышэйшым мастацкім узроўні. І, зазначым, народны пісьменнік досыць бліскуча сцвердзіў сваю мэту, але ўжо не ў кантэксце сваёй, а іх, маладнякоўскай, творчасці.

Што датычыць Лукаша Калюгі, дык ён не палемізаваў, а апісваў жыццё такім, якім яго бачыў на свае вочы, але менавіта такі прынцып і абумовіў арганічную скіраванасць аповесці супраць пэўных тэндэнцый, што зараджаліся тады ў жыцці і так ці іначай адбіваліся ў дзейнасці «Маладняка», які ад самага пачатку быў моцна ідэалагізаваным, шчыльна прывязаным да палітычных падзей у краіне. Калюга ж арыентаваўся на народнае светабачанне, ва ўсёй сваёй творчасці быў арганічна далучаным да традыцый, глыбінных вытокаў мовы, маралі і духоўнасці свайго народа, арыентаваўся, карацей кажучы, на тое, чым была моцнай творчасць і Якуба Коласа. Гэта, мабыць, гучыць парадаксальна, але Калюгава аповесць «Ні госць ні гаспадар» успрымаецца куды больш коласаўскім творам, чым яго ўласны — «На прасторах жыцця»...

І ўсё ж, падладжваючыся пад стыль маладнякоўцаў, пад манеру паказу характару маладога героя, Я. Колас за асобнымі выключэннямі (згадаем старонкі, дзе аддавалася даніна шырока распаўсюджанай вульгарнай антырэлігійнай прапагандзе) не дазваляў сабе яўных перабораў і адыходаў ад народнай маралі, павароту да таго, што так ці іначай спрыяла дэгуманізацыі літаратуры, чалавека і грамадства.

Адна з самых небяспечных тэндэнцый заключалася ў рас-

пальванні варожасці паміж людзьмі, нянавісці адных сацыяльных груп да іншых, выпрацоўцы своеасаблівага кодэкса вышэйшасці толькі на падставе пралетарскага паходжання ці партыйнай прыналежнасці.

Многія з ідэалагічных установак адбіліся, не маглі не адбіцца і на дзейнасці «Маладняка». Памылковае разуменне сутнасці традыцый і наватарства, складаных узаемаадносін мінулага вопыту з новымі тэндэнцыямі прывяло да шматлікіх пралікаў ідэйна-эстэтычнага плана, характэрных для творчасці маладнякоўцаў. Новае літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Узвышша», якое вылучылася з «Маладняка», імкнулася сваю дзейнасць будаваць на цалкам новай платформе. Тыя асноўныя тэндэнцыі, якія выяўляліся ва ўзаемаадносінах абодвух згуртаванняў, былі ўласцівы пераважнай большасці іх сяброў, у тым ліку і Лукашу Калюгу, які належаў да «Узвышша». Найбольш выразна палемічная накіраванасць супраць «маладнякізму» выявілася ў аповесці «Ні госць ні гаспадар».

Твор належыць да так званай юнацкай аповесці. Упершыню гэты жанр асвойваецца ў маладнякоўскіх творах рамантычна-прыгодніцкага кірунку.

Што ж уяўляе сабой аповесць Лукаша Калюгі «Ні госць ні гаспадар», напісаная на блізкую да маладнякоўскіх твораў тэму?

У творы адлюстраваны той перыяд жыцця грамадства, калі яшчэ не вялася шырокая калектывізацыя сельскай гаспадаркі, ва ўсякім разе, не было яе такіх найбольш жорсткіх формаў, як масавасць і прымус. Менавіта гэта найбольш глыбока ўскалыхне вясковае жыццё, зрушыць са сваіх падвалінаў традыцыйны сялянскі побыт, адарве ад яго многіх насельнікаў і адправіць ці ў далёкую Сібір, ці ўвогуле на свой свет. Водгулле гэтых трагічных падзей са шчымлівым болем увасобіцца пазней у напісаных пісьменнікам на выгнанні творах «з-за крат». Тут жа, у аповесці, вёска малюецца, можа, і занадта традыцыйна, аднак і на такім, знешне спакойным, жыцці празаік здолеў разгледзець і паказаць вельмі істотныя для развіцця нашага грамадства працэсы і тэндэнцыі, якія ў той час толькі наклёўваліся, спакваля набіралі сілу, што здолее неўзабаве імпэтна развіцца, набраць размах, які нялёгка ўтаймаваць і ў нашы, аб'ектыўна нібыта скіраваныя супраць гэтай сілы, дні.

У свае няпоўныя дваццаць гадоў Лукаш Калюга «тайнамі» сацрэалізму не валодаў, а пісаў жыццё з натуры, без аздоб, рамантызацыі і прыхарошвання. Але яго аповесць «Ні госць ні гаспадар» пазбаўлена бяскрылага натуралізму, бо вернасць жыццёвай праўдзе пры наяўнасці таленту заўсёды выводзіць мастака на праблемнае асэнсаванне існага. У свае маладыя гады Калюга глядзеў далёка, куды далей, чым, напэўна, і сам на тое спадзяваўся.

За яго абагульненнем «ні госць ні гаспадар» бачыцца нам адна з найбольш цяжка пераадольных і задаўненых грамадскіх хвароб. Спакваля, яшчэ з 20-х гадоў, чалавек адлучаўся ад усяго,

што павінна было яго прывязваць да жыцця, надаваць сэнс зямному існаванню, абуджаць пачуццё адказнасці за матэрыяльныя і духоўныя вартасці. У выніку ж палітыкі глабальнага адчужэння мы бачым здратаваную і забруджаную «ні гасцямі ні гаспадарамі» зямлю, амаль дарэшты знішчаную нацыянальную культуру, знявечаныя душы, якім абыякава ўсё, што не датычыць непасрэднай матэрыяльнай выгоды альбо насалоды менавіта ў гэтае імгненне жыцця. Заслуга Калюгі ў тым, што ён не толькі паказаў гэтую пошасць, але і заўважыў яе тады, калі мала хто пра глабальную небяспеку і здагадваўся...

Праблема «ні госця ні гаспадара», калі глядзець на яе ў святле тагачаснага літаратурнага працэсу, была ні чым іншым, як своеасаблівым, хоць, магчыма, і не дастаткова ўсвядомленым адказам маладога празаіка на надзвычай распаўсюджаную ва ўсёй паслярэвалюцыйнай савецкай літаратуры тэндэнцыю пошукаў новага чалавека, саноўчага ідэала. Яе практычнаму вырашэнню спадарожнічала «тэарэтычнае» асэнсаванне, якое працягвалася амаль што да самага апошняга часу. І, бадай, не было яшчэ такой па-кан'юнктурнаму хадавой тэмы, на якую б было абаронена столькі доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый. Іх асаблівасцю была апалагетыка пошукаў літаратурай гэтых самых «новых» людзей, нават безадносна да іх маральнай сутнасці, да таго, у імя чаго ўсё гэта рабілася і на якім мастацкім узроўні вырашалася.

Так, нават класік беларускай літаратуры, адзін з яе шчырых і сумленных працаўнікоў Кузьма Чорны, не здолеў усцерагчы сваю творчасць ад падпарадкаванасці ідэалагічным запатрабаванням часу. А што казаць пра многіх іншых! У гэтым плане нашым літаратуразнаўцам трэба перавярнуць горы, пераасэнсаваць створанае ў святле гуманнасці і мастацкасці, чаму, на жаль, наша літаратура, хоць і не па сваёй, вядома, ахвоце, вельмі часта здраджвала.

А літаратурны працэс пры гэтым не парушыцца: на месца ўяўных, штучных і дутых велічынь стануць сапраўдныя, гісторыя набудзе пэўнасць і трываласць. Належнае месца ў ёй, упэўнены, зойме і Лукаш Калюга, чыё імя да нядаўняга часу амаль нідзе не згадвалася.

Тое, супраць чаго быў унутрана скіраваны твор Лукаша Калюгі, тады большасцю прызнавалася прагрэсіўным, адпаведным духу часу, патрабаванням пануючай ідэалогіі з яе ўстаноўкай перайначыць чалавечую пароду ў патрэбным для сябе кірунку. Аповесць Калюгі ўсёй сваёй сутнасцю выломвалася са схем і стандартаў, і таму не дзіўна, што ў час свайго з'яўлення яна не набыла іншага, апрача адмоўнага, асэнсавання і дасюль не прыпісана па-сапраўднаму ў гісторыі беларускай савецкай літаратуры.

Лічу, што сама пастаноўка пытання аб стварэнні новага чалавека, як у грамадстве, так і ў літаратуры, з'яўляецца заганнай і амаральнай, бо мае на ўвазе гвалт над чалавечай пародай, нату-

ральна-эвалюцыйным ходам развіцця. І дзе гарантыя, што прынцыпы, паводле якіх мы імкнёмся стварыць ці ўдасканаліць «старую» пароду, на самой справе з'яўляюцца прагрэсіўнымі, не чужымі чалавеку? Пра чалавека, аднак, якраз ніхто і не дбаў, бо задача заключалася ў тым, каб паставіць яго на службу ідэалогіі, зрабіць паслухмяным выканаўцам волі вялікіх і малых правадыроў, гэта значыць цалкам пазбавіць уласнага «я». А гэта ў дачыненні да літаратуры прыводзіла да страты ёю сваёй праўдзівай сутнасці, да падпарадкавання ідэалогіі, да дэгуманізацыі, у выніку чаго развіццё мастацкага слова губляла сэнс, ператваралася ў сваю супрацьлегласць.

Тады, калі пісаўся твор Лукаша Калюгі, ідэалагічны наступ яшчэ не заглушыў магутнага духоўнага патэнцыялу, назапашанага літаратурай за тысячагадовы шлях развіцця. Але імкненне глуміць натуральныя парасткі было выразным. Дэфармацыі найбольш выяўляліся там, дзе паказваліся падзеі рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Згадаем засілле «скураных куртак», якія ўвасаблялі людзей без душы і сэрца, што на пэўным часе запанілі левае крыло рускай літаратуры. Леваавангардысцкія плыні пачыналі ўсё больш настойліва пранікаць і размываць традыцыйна не крыклівую, не экстравагантную беларускую літаратуру. Найбольш падатлівымі да навацый аказаліся, што цалкам зразумела, маладыя літаратары.

Аповесць «Ні госць ні гаспадар», напісаная на маладзёжную тэматыку, выглядала занадта традыцыйнай на агульным фоне. У творы паказана жыццё беларускага сялянства, якое здабывае хлеб мазольнай рукой і корміць ім не толькі сябе, але і тых, хто амаль што ў завоблачных вышынях «генерыруе» ідэі, людзям працы абсалютна не зразумелыя і не патрэбныя. Але гэтыя ідэі часамі знаходзяць водгук у душах іхніх дзяцей, што нават згодны прызнаваць іх чымсьці куды больш вартым і патрэбным, чым нялёгкая і няўдзячная праца на зямлі. Такім чынам, спакваля пачынае фарміравацца ўсведамленне вышэйшасці перад бацькамі, перавагі пустога над тым, на чым трымаецца жыццё на зямлі. А гэта, у сваю чаргу, не можа не ўплываць на маральны стан недаростка, які пачынае сябе адчуваць у нейкім сэнсе «звышчалавекам» у адносінах да іншых.

Гэтая надзвычай важная для новага грамадства праблема ўвасабляецца ў вобразе Бладзіка Мотуза, няўрымсліва-бунтоўны характар якога найбольш «прыстасаваны» да засвойвання ўсяго новага, незвычайнага, што з вялікага свету даходзіць у глухі беларускі куток праз друкаванае слова і вусныя выступленні заезджых таварышаў. Бладзіка, які не мае ні прыроджанай, ні набытай праз кнігу культуры, заносіць, што называецца, на паваротах — ён непрадказальны і нечаканы ў сваіх паводзінах і ўчынках.

Можна толькі здагадвацца, як гэты вобраз раскрываўся ў другой, ненадрукаванай, частцы аповесці, але мы ведаем, што такія безаглядна-апантаныя, нецярплівыя і нецярпімыя да іншых

людзі імкліва паўсплывалі на паверхню ў крывава-трагічных вірах наступнага дзесяцігоддзя, станавіліся прыдатнай зброяй у руках больш вопытных палітыканаў. І ўжо ад збегу абставін ці сляпога выпадку залежала, быць ім надалей катамі, ці стацца ахвярамі ў тым драматычным часе...

Нягледзячы на эксцэнтрычнасць і эгацэнтрызм, жаданне выбіцца ў «правадыры», Бладзік Мотуз на фоне падобных на яго тагачасных вобразаў камсамольцаў успрымаецца свойскім, жывым і натуральным. Ідэалагічнае не заглушыла ў ім свайго, прыроднага. Сказанае яшчэ ў большай ступені датычыць іншых хлопцаў з Калюгавай аповесці. Дапускаю, што нават сама назва хатніцкай ячэйкі ўзнікла не выпадкова, а каб знарок падкрэсліць свойскасць камсамольцаў.

Паказваючы, што камсамольцы ўжо не могуць задаволіцца традыцыйна-сялянскімі адносінамі да жыцця, пісьменнік разам з тым не малюе іх адарванымі ад спрадвечнага сялянскага ладу, штучна ізаляванымі ад таго гаспадарчага, псіхалагічнага і маральнага вопыту, які набываўся вякамі. Дзеля прыкладу паглядзім на Ігналю Чвардоўскага і Пётру Хвалісінага. Першы з іх прадстаўнік таго пакалення, чый светапогляд фармаваўся ў дакастрычніцкі час, другі ж, наадварот, як індывідуальнасць разгортваецца ва ўмовах савецкай рэчаіснасці. У хлопцаў рознае кола інтарэсаў — Ігналя ўвесь захоплены імкненнем авалодаць сталярскім рамяством: Пётра ж апантаны прагай да ведаў. Але пры ўсёй рознасці праяўлення натур, абумоўленай логікай гістарычнага развіцця, колькі падобнага, нацыянальна своеасаблівага ў іх характарах! Абодвум уласціва стараннасць, шчырая адданасць любімай справе, памяркоўнасць у абыходжанні з людзьмі.

У аповесці ў досыць выразнай форме праводзіцца думка аб тым, што маладое пакаленне павінна пераняць ад бацькоў усё тое каштоўнае, што маецца ў іх сэрцах і душах, што здабыта і засвоена на працягу стагоддзяў.

Галоўная вартасць твора ў праўдзівасці жывых чалавечых характараў, нязмушанасці іх самавыяўлення, псіхалагічнай дакладнасці рухаў і ўчынкаў персанажаў, натуральнасці і багацці народнай мовы. Адмаўляючыся ад надуманасці і схематызму, чым нярэдка грашыла маладнякоўская проза, аўтар засяроджваецца на штодзённым побыце сваіх герояў, найбольш увагі аддае паказу спраў, думак і пачуццяў, якімі заняты ў будзённым жыцці члены хатніцкай ячэйкі. Яны не выступаюць з гучнымі дэкларацыямі, не мараць аб тым, каб адразу перавярнуць свет і ўстанавіць у ім новы лад жыцця. Ім уласцівы практычны сялянскі розум, і іх думы заняты тымі справамі, якія можна здзейсніць у бліжэйшы час: арганізацыя хатаў-чытальняў, наладжванне спектакляў, прыём у ячэйку новых камсамольцаў і г. д. Кола іх інтарэсаў, праўда, нешырокае, і яны самі добра не ведаюць, чым мусяць займацца, у чым выяўляць сваю камсамольскасць. Дый уступілі яны ў камсамол не па нейкіх усвядомленых перакананнях, а хутчэй з-за тагачаснай моды, завядзёнкі,

што існавала ў іншых месцах, перш за ўсё ў далёкім і таямнічым горадзе. Кажу пра гэта проста дзеля канстатацыі таго, што пісьменнік без усякай прадузятасці ў сваім творы паказваў.

У аповесці ён сутыкнуўся з цяжкасцю ў кампазіцыйнай арганізацыі матэрыялу. Твор напісаны няроўна, здараюцца ў ім расцягнутыя, не ўзмоцненыя думкай і не ацепленыя лірычным пачуццём сцэны, доўгія дыялогі, неабавязковыя сцэны. Усё гэта пэўным чынам зніжае чытэльнасць, асабліва калі браць пад увагу тое, што аповесць вельмі прыдалася б у сучаснай школе, бо дае не менш праўдзівую карціну з жыцця моладзі дваццатых гадоў, чым «На прасторах жыцця» Якуба Коласа. Мяркую, што было б вельмі дарэчы стварыць адаптаваны «школьны» варыянт.

Зусім магчыма, што пісьменнік спісваў жыццё з натуры, паказваў яго такім, якім бачыў на ўласныя вочы. Такая канкрэтызацыя, у пэўнай меры падразаючы крылы мастацкаму абагульненню, у той жа час засцерагала твор ад надуманага паказу маладога пакалення не такім, якое яно было, а якім яго хацелася бачыць. Якраз гэта і стане вызначальнай асаблівасцю ў многіх творах савецкай літаратуры, пазбавіць іх счэпленасці з жыццём, без чаго літаратура ператвараецца ў пустую, нікому не патрэбную забаўку. Аповесць жа Лукаша Калюгі і сёння ўспрымаецца жывым і непаўторным дакументам часу.

Паводле сведчання блізкага сябра, Антося Адамовіча (ён рэкамендаваў Лукаша Калюгу ў згуртаванне «Узвышша»), другая частка аповесці «Ні госць ні гаспадар» мелася друкавацца з першага нумара часопіса «Узвышша» за 1929 год, аднак была вернута аўтару Галоўлітам на перапрацоўку. У першым раздзеле, як зазначае Антось Адамовіч, «абазначыўся ўжо ■ поўнай вастрынёю той канфлікт між селавымі камсамольцамі і іхнімі «гаспадарамі». Аднак малады пісьменнік станоўка занаравіўся (рыса наогул характэрная і для ягонае собскае, і для ягоных герояў натуры) і заявіў катэгарычна, што ані папраўляць, ані пісаць далей аповесці наогул не будзе, «калі так»...»

«Калюгу,— піша далей Адамовіч,— угаворвалі пайсці на ўступкі Змітрок Бядуля і Максім Гарэцкі, але ён рашуча адмовіўся: «Тады і дапішацца, калі ўжо папраўляць не трэба будзе»,— было апошняе Калюгава слова, поўнае зразумелага ўсім сэнсу...»

У гэтым сведчанні выразна выяўляецца творчае крэда Лукаша Калюгі, аднаго з нямногіх, хто ў тых трагічных абставінах не паступіўся ні сваім чалавечым, ні мастакоўскім сумленнем і, па сутнасці, не напісаў ніводнага радка, дзе было б відаць падладжванне, фальш, здрада ўласным прынцыпам. Такіх нязломных, адораных унутранай духоўнай сілай волатаў не так і шмат набіраецца ў нашай літаратуры...

Калі аповесць «Ні госць ні гаспадар» пісалася на жывым матэрыяле сучаснасці, дык у «Нядолі Заблоцкіх» празаік асэнсоўвае «вечныя» праблемы існавання чалавека, гістарычнага развіцця народа.

Ведаючы пра тое, што друкаванне папярэдняга твора было спынена па прычынах яго надзённасці і вастрыні ў асэнсаванні спецыфічных канфліктаў паслярэвалюцыйнай рэчаіснасці, можна разважаць аб спробах пісьменніка ісці абыходным шляхам, аб знарокілівым адмаўленні ад паказу сучаснасці, каб такім чынам забяспечыць сабе магчымасці далейшага выхаду да чытача. Аднак у дачыненні да Лукаша Калюгі такое меркаванне выглядае занадта легкаважкім. Справа ў тым, што той, хто халтурыў ці быў апанаваны страхам, звычайна падладжваўся пад абставіны не адыходам ад сучаснасці, а шляхам яе свядомай фальсіфікацыі і падгонкі пад ідэалагічна дэклараваныя схемы і стандарты. «Адыход» жа адназначна ўспрымаўся як з'ява адмоўная.

Як памятаем, ужо з першых апавяданняў Лукаш Калюга браў накірунак на спрадвечнае, самабытнае, на стабільны нацыянальны характар, які ў сваёй аснове застаецца нязменным, нягледзячы на пераўтварэнні ў грамадстве. Змяняецца ён, калі няма прымусу, гвалту і свядомай ломкі, вельмі марудна, незаўважна. Менавіта са стабільнасці нацыянальнага жыцця арганічна вынікала аповесць «Нядоля Заблоцкіх». Зусім верагодна, што яе задума выношвалася спакваля, як твора значнага эпічнага гучання і напаўнення.

Аповесці непасрэдна папярэднічала апавяданне «Тахвілін швагер». Маецца на ўвазе не час напісання, нават не тое, што тут і там дзейнічаюць адны і тыя ж героі з роду Заблоцкіх. Найбольш істотным уяўляецца ідэнтычнасць тыпу мастацкага асэнсавання жыцця, які намацваўся ў папярэдніх навелах і цэласна ўвасобіўся ў гэтых двух творах. Назавём яго міфічным рэалізмам. Калі шукаць паралелі ў сучаснай літаратуры, дык найбольш паслядоўна рэалізуецца ён у творчасці лацінаамерыканскіх пісьменнікаў, перш за ўсё — калумбійца Гарсія Маркеса. Адной з істотных асаблівасцяў іх творчасці з'яўляецца арганічнае спалучэнне нацыянальнай самабытнасці, заснаванай на асэнсаванні глыбінных вытокаў самасвядомасці народа, з актуальнымі праблемамі жыцця сучаснага чалавецтва.

Лукаш Калюга заспеў існаванне беларусаў на пераломе іх гістарычнага развіцця, калі яшчэ моцным было міфічнае бачанне свету, вера ў рэальныя сілы, якія, аднак, успрымаліся зусім зямнымі, такімі, што жывуць і выяўляюць сябе зусім побач. Пазней усё гэта аб'яўляецца забабонамі, шкоднай чартаўшчынай і паступова знікае пад уплывам шумных прапагандысцкіх кампаній, выветрываецца з людской свядомасці пад наступам куды больш адчувальных рэалій, як магніткі, турксібы, калгасы, масавыя рэпрэсіі, голад... Значна даўжэй рэшткі старажытнага светаадчування ў свядомасці беларусаў патрывалі ў Заходняй Беларусі, дзе яшчэ ў пасляваенны час пра здарэнні з рознымі нячысцікамі апавядалася, як пра штосьці цалкам рэальнае. І, мабыць, Беларусь была апошняй славянскай краінай з такімі асаблівасцямі. Міма іх можна было прайсці, але для мастака-філосафа, які бачыць развіццё свайго народа з прадоння стагоддзяў, з надзвы-

чайнай увагай адносіцца да ўсяго, што было на роднай зямлі, які бачыць сэнс ва ўсіх праявах народнага самавыяўлення, гэта магло б стаць спрыяльным грунтам для цікавых мастакоўскіх назіранняў і абагульненняў. І пра тое, што тут можа напаткаць творцу вялікі поспех, сведчыць усё тая ж лацінаамерыканская літаратура. У беларускай таксама рабіліся спробы адкрыццяў у гэтым кірунку. Бадай, прафесійнай міфатворчасці найбольш адпавядае «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» Яна Баршчэўскага, твора, апранутага ў моўны польскі «сурдут», але па сваёй сутнасці глыбока па-беларуску самабытнага.

«Шляхціц Завальня...» як бы непасрэдна прывязаны да вуснай народнай творчасці, уяўляе сабой яе прафесійнае пісьменніцкае афармленне. «Нядоля Заблоцкіх» ствараецца па іншых законах. З народнага ўзяты і пакладзены ў аснову аповесці адзін факт: прыпавесць пра міфічнага Заблоцкага, які вырашыў абхітрыць мытнікаў і дзеля гэтага замацаваў скрынкі з мылам да споду свайго карабля. Правезці правёз, але калі пачаў даставаць тое мыла, дык аказалася, што яно размылася ў вадзе. Адсюль і прыказка: зарабіў, як Заблоцкі на мыле! Прыказка гэтая вядомая па ўсёй Беларусі. Яе філасофскі сэнс і скарыстаў у сваёй аповесці Лукаш Калюга.

Аповесць «Ні госць ні гаспадар» лёгка ўпісваецца не толькі ў кантэкст беларускай, але і ўсёй савецкай маладзёжнай аповесці 20-х гадоў, дзе яна, зусім зразумела, займае сваё адметнае месца. А вось «Нядолю Заблоцкіх» так проста нікуды не ўпішаш і не прыпішаш — яна адна такая ў сваім родзе.

Ад папярэдняй гэтая аповесць адрозніваецца не толькі тэматыкай, філасафічнасцю ў поглядзе на жыццё, не толькі тыпам яго асэнсавання, але і самім стылем, скандэнсавана афарыстычным, па-барочнаму віртуозным. А гэта сведчыла аб плённым росце маладога празаіка, аб тым, што ў літаратуру ішла самабытная творчая асоба.

Ужо зазначалася пра тое, як напачатку здолеў «разгадаць» Лукаша Калюгу Кузьма Чорны. Але не менш высока шанаваў яго, як сведчыць Антось Адамовіч, другі выдатны беларускі пісьменнік старэйшага пакалення: «Ні госць ні гаспадар» была адзначана Максімам Гарэцкім як выдатная падзея ў нашай літаратуры.

Тут была якраз тая праблема, якую ўпершыню паставіў на кон і ўвесь час распрацоўваў у нашай літаратуры сам Максім Гарэцкі. Галоўны герой Калюгавай аповесці, як і галоўны герой усяго творства Максіма Гарэцкага,— гэта выхадзец з сялянства ў інтэлігенцыю, які, аднак, варочаецца назад у сяло з тым, каб служыць яму, ды пры гэтым апыняецца і пачуваецца там «у палажэнні «ні госця ні гаспадара», паводле Калюгі, або «ад зямлі адарвалага і да неба не дасталага», паводле Гарэцкага. Адно што Калюгаў герой дзеіць у новым часе і ў новых абставінах».

Сказанае ў значнай меры стасуецца і да аповесці «Нядоля

Заблоцкіх», дзе таксама даследуецца праблема «выхадцаў» з народа, якія імкнуцца здабыць сабе шчаслівую долю розным «кру-там-мутам», не зважаючы на нядолю тых, з чыйго асяроддзя яны павыходзілі.

Праблема народа і адрыву ад яго тых, хто выбіваецца ўгару, знаходзіцца ў верхніх эшалонах улады, была асабліва актуальнай для Беларусі, пачынаючы з XVII стагоддзя, калі маёмасныя пласты паступова здраджвалі свайму народу, адракаліся ад яго мовы і традыцый, спачатку паланізаваліся, а потым русіфікаваліся. Працягвала яна заставацца па-трагічнаму актуальнай да апошняга часу, ператварыўшыся ў выніку глабальнай дэнацыяналізацыі і чарнобыльскай аварыі ў праблему фізічнага і духоўнага выжывання народа на мяжы катастрофы...

Калі пісалася «Нядоля Заблоцкіх», нічога такога і ў зародку не было, але ўдумлівы мастак, які пільна ўглядаўся ў мінулае свайго народа, асэнсоўваў яго шлях на прыкладзе самабытных нацыянальных характараў, не мог не думаць пра долю і нядолю як асобнага чалавека, так і народа ўвогуле. Ці трэба казаць, што такі падыход менш за ўсё адпавядаў тагачаснай ідэалагічнай атмасферы, калі рашуча адмаўляліся агульначалавечыя каштоўнасці, усякім чынам распальвалася варожасць і класавая барацьба, насаджваўся вульгарна-сацыялагічны погляд на гісторыю. Падобнага ў аповесці Лукаша Калюгі не было, і таму няма нічога дзіўнага ў тым, што яе, як і папярэднюю, перасталі друкаваць, абарваўшы на першай частцы.

Другая палова твора дапісвалася ўжо ў далёкім сібірскім краі, куды быў вывезены аўтар. Ад яе, на жаль, дайшлі да нас толькі асобныя фрагменты. Але якія фрагменты! Вядомы яны з падачы Антося Адамовіча, які ў канцы аповесці змясціў «Даказаньне зьместу нявыдрукаваных частак «Нядолі Заблоцкіх» (на аснове ўспамінаў пераказу гэтага зьместу самым аўтарам у лісьце да сябра на выгнаньні)». Надрукаванае сведчыць, што жыццёвыя нягоды, допыты і катаванні не зламалі, не паставілі на калені Лукаша Калюгу, гэтага моцнага душой чалавека. Маецца на ўвазе не толькі светапоглядная нязломнасць, але і захаваная здольнасць эмацыянальна ўспрымаць і перажываць жыццё. Гэта, спадзяюся, адразу адчуе чытач, прачытаўшы невялікі ўрывак з твора, дзе паказана прымусовая ростань галоўнага героя, за якім бачыцца сам пісьменнік з любай ягонаму сэрцу Бацькаўшчынай:

«Вясна-красна на двары была зусім, калі вывозілі Савосту з роднага краю — туды некуды, дзе вясна ці й бывае калі, а яшчэ, каб «красна»... Тут жа поўнае ёю было паветра таго досьвітку, калі ўстаўлялі на турэмным дварышчы этап на станцыю гнаць (ганялі досьвіткам заўсёды, каб менш вачэй). І падалося на мамэнт Заблоччыку, што ня этап гэта, а валачобнікі — гэтыя шэрыя людзі зь мяхамі (сідарамі па-вастрожнаму) за плячыма. Зараз вось пачынальнік высока завядзе — і «вясна-красна на двары з усіх грудзей грымне...

Ды дзе тыя валачобнікі, дзе тая песьня! Зьвінела яна адно

ў самога Савосты ў душы, як калісь, у маленьсцьве, у родных Баркаўцох:

Ды ляцела пава ды павістая.
Вясна-красна на двярэ.
Пагубляла пер'е залацістае.
Вясна-красна на двярэ.

І дармо, што ўсё, дармо што й этап гэты — ізноў, як тады пачынала зьвінець нанова і тая ж надзея: «Ану, можа! Можа калі і на наш гразкі, скапытаваны двор згубіць пава залацістае пяро... Ня век жа разводзьдзе, і ў гразі ня векаваць будзе».

«Вясна-красна на двярэ... будзе — ану ж!

— Ану, давай! — гукнуў сваё турэмна-стандартнае канвой, і этап цяжка захлюпаў па тэй жа гразі векавечнай векавечнымі лапцямі і ўрэдкую — падкоўкамі ботаў...»

Аб тым, наколькі глыбока запаў гэты твор у душы Калюгавых паплечнікаў па «Узвышшы», крытыкаў Антося Адамовіча і Адама Бабарэкі, сведчыць і сам факт, і змест іх перапіскі, якую яны вялі ў жудасных умовах сталінскай лагернай рэчаіснасці, чэрпаючы ў «Нядолі Заблоцкіх» для сябе натхненне, суцяшэнне і радасць. Ці ж гэта не сведчанне глыбокага эмацыянальнага ўздзеяння твора высокага мастацтва на душу высокаразвітай, інтэлігентнай асобы?!

Лёс лістоў Адамовіча невядомы, як і тое, трапялі яны ў рукі да самога празаіка ці не, але наконт Бабарэкавых сумнявацца не даводзіцца — яны былі сярод Калюгавых папер, перададзеных нам з органаў КДБ.

Ці трэба даводзіць, якім апірышчам і падтрымкай для вязня было слова сяброў, крытычны аўтарытэт якіх высока шанаваўся і ва «Узвышшы», і сярод іншых сур'ёзных літаратараў. Думкі і ацэнкі крытыкаў былі тым дадатковым стымулам, які падштурхоўваў і натхняў, нягледзячы ні на што, да апошняга ўздыху аддаць сябе роднай літаратуры, беларускаму народу. І вось мы маем выпадак, калі чалавек пераадольвае абсалютна варожыя ўсякай творчасці абставіны і стварае значныя, у пэўным сэнсе унікальныя рэчы.

Пра іх пагаворым крыху пазней, а пакуль што вернемся назад, бо «Нядоля Заблоцкіх» не была апошнім творам, напісаным і апублікаваным «на волі». Пасля яе з'явіліся апавяданні «Цеснаватая куртачка» і «Вам знаёмае».

А цяпер уявім становішча пісьменніка — два яго папярэднія творы спыняюць друкаваць, а ў гэты час усё большую сілу набірае магутная прапагандысцкая кампанія з патрабаваннямі фізічнай расправы над «класавымі ворагамі» і тымі, хто іх падтрымлівае ці хоць бы застаецца ў баку ад зацятага змагання.

Большасць беларускіх пісьменнікаў ужо былі арыштаваны, пасаджаны ў турмы, высланы ў далёкія сібірскія лагеры. Сярод тых, што засталіся, распальвалася варожасць, паклёпніцтва, у выніку чаго многія дэмаралізаваліся, паводзілі сябе без усякай

годнасці як у жыцці, так і ў літаратуры. Былі сярод іх і такія, хто дасюль ужо набраў значны духоўны і эстэтычны патэнцыял, чыя папярэдняя творчасць вызначалася чалавекалюбствам і дэмакратызмам. Каб адчуць жахлівасць такога «перападу», дастаткова, скажам, параўнаць першую і другую часткі рамана З. Бядулі «Язэп Крушынскі», папярэднюю творчасць і надрукаваную ў сталінскія гады паэму К. Крапівы «Хвядос — Чырвоны Нос». У творах былых узвышэнцаў (як і ў паэме іх колішняга антыпода белаппаўца Андрэя Александровіча «Цені на сонцы»), многія старонкі якіх напісаны ў жанры палітычнага даносу, ёсць шмат агульнага, такога, што да літаратуры не мае ніякага дачынення. Але такі быў час, які заахвочваў выжыванне адных коштам ліквідацыі іншых, такія былі нормы, як вынік і прадукт запатрабаванняў гэтага часу...

У атмасферы фізічнага і маральнага тэрору захоўваць алімпійскі спакой было проста немагчыма — чалавек быў пазбаўлены нават магчымасці схавацца ў манастыр, бо і манастыры грамілі, а іх насельнікаў-мніхаў разам з усімі адпраўлялі на Салаўкі і ў іншыя не менш прыдатныя для гэтага месцы. Ды не ўсе людзі ў гэтых бесчалавечных умовах спакушаліся здрадай і аддавалі сябе ва ўслужэнне д'яблу, у чалавечым, вядома, абліччы. Не спакусіўся гэтым і Лукаш Калюга. Ды яму трэба было не проста жыць, а яшчэ пісаць і друкавацца. Самавыяўляць сябе ў творчасці — гэта арганічная патрэба сапраўднага таленту, і гэта яшчэ раз пацвярджаецца на прыкладзе Лукаша Калюгі, які не пераставаў пісаць датуль, пакуль не перастала біцца ягонае сэрца.

З таго часу, калі многія пісьменнікі каяліся ў сваіх «грахах» («сія чаша», як вядома, не абмінула і Коласа з Купалам, хоць аўтарства пакаянных лістоў, пад якімі стаялі ў друку іх подпісы, і выклікае сумненне і патрабуе даследавання), кляліся, што цвёрда сталі на пазіцыі пралетарыяту і будуць правільна адлюстроўваць савецкую рэчаіснасць, да нас дайшла толькі адна невялікая нататка, змешчаная ў трэцім нумары «ЛіМа» за 1933 год, дзе Лукаш Калюга інфармаваў «грамадскасць» пра свае планы і пазіцыю. Прывядзём яе цалкам:

«У 1933 годзе мяркую выдаць зборнік навэл пад назваю «Вам знаёмае» і працаваць далей над гэтым жанрам.

На маю думку, навэла найбольш падыходзіць у наш час. Яна паўней, яскравей можа адлюстраваць сацыялістычныя тэмпы нашага жыцця. Класавыя ж супярэчнасці, асабліва абвостраныя цяпер, якраз і дадуць удзячны матэрыял для вострай сюжэтнай канструкцыі.

Цяпер мяне найбольш цікавіць, як селянін, уласнік у мінулым, у калгасах, саўгасах, на сацыялістычных прадпрыемствах гораду ператвараецца ў свядомага будаўніка радаснага грамадства.

Акрамя таго маю напісаць за гэты год невялікі — сама больш на 5 друкаваных аркушаў — раман, таксама — актуальны, дынамічны, радасны».

Чытаць пра пачуцці нястрымнай радасці, якія нібыта былі ўласцівы жыццю і самому Лукашу Калюгу, можна толькі з пачуццём горкай усмешкі, бо добра вядома, якімі пачуццямі быў перапоўнены тады народ і чаму пісьменнік казаў так, а не інакшай. Бо вымушаны быў хоць неяк апраўдвацца, дэкляраваць, заслужыць сабе права друкавацца. І таму не будзем дакараць яго за такі ход, які на агульным фоне выглядае чымсьці бясхрыўдным і непрыкметным. Важней, у імя чаго гэтыя хітрыкі рабіліся і стаў ці не пісьменнік фальшывіць у сваёй творчасці...

У «Цеснаватай куртачцы» аўтар звяртаецца да таго, з чаго пачынаў сваё першае апавяданне «Вясна» і што легла ў аснову аповесці «Ні госць ні гаспадар»,— да сучаснай яму праблематыкі, асэнсоўваючы яе сродкамі рэалістычнага пісьма.

Ці меў права празаік на такі тып мастацкага мыслення і ці крывіў ён пры гэтым душой? Мяркую, што не. І гэта можна пацвердзіць не адцягненымі разважаннямі, а самой сутнасцю мастацкага твора — праўдзівага, кампазіцыйна зладжанага, па-мастацку завершанага і дасканалага. У цэнтры яго — псіхалагічна праўдзівыя вобразы вясковых людзей, натуральная жыццёвая плынь, чаго, заўважым, усё больш не ставала ў тагачаснай літаратуры, бо стандарт і схема вельмі часта забівалі ў ёй усё жывое.

Калі ў ранейшых навелах пісьменнік займаў пазіцыю бясстраснага апавядальніка, то тут яго стаўленне больш эмацыянальна трапяткое, непасрэднае. Зусім новымі былі характарыстыкі ад аўтара, накшталт: «Быў непаваротны, цельпукаваты Адась Банькоўчык — акурат традыцыйны герой беларускай літаратуры». З усмешкі, з якою пісьменнік глядзіць не толькі на Адася, але і на калгаснага брыгадзіра Антося Драніцу, вынікае і смешная, займальная лінія анекдатычнага сватаўства, у выніку чаго Адась вымушаны жаніцца на выпадковай дзяўчыне, пакідаючы вабную, душэўную Вольку.

Тон, дзе ўсмешка мяжуе са слязой, выдурнянне з трагедыяй, быў навіной у творчасці празаіка. І ўменне ўзняць канкрэтную рэалію жыцця на ўзровень мастацкага і жыццёвага абагульнення — таксама. «Цеснаватая куртачка» — гэта не толькі апратка, але і сімвал жыцця, якое не ўкладваецца ў застарэлыя формы, погляд на чалавека, які нібы закансерваваўся, застыў, страціў, застаючыся добрым працаўніком, душэўную чуласць. Карацей кажучы, апавяданне асветлена харошым чалавечым пачуццём і думкай, якія не супярэчылі, здавалася б, і тым патрабаванням, якія дэклараваліся афіцыйнымі інстанцыямі. Але ўсё адно праз два гады пасля надрукавання вядучы на той час крытык Якаў Бранштэйн на старонках «Полымя» (1934, № 8) настолькі «глыбока» пранік у палітычны кантэкст твора, што ад яго рэальнага зместу не засталося і знаку...

І хто ведае, можа, навелу «Вам знаёмае» празаік знарок пісаў крыху спрошчана, аднамерна, каб унікнуць падобных інсінуа-

цый. Яна пазбаўлена выдумкі, віртуознасці, іроніі, якія сведчылі аб бясспрэчным творчым росце пісьменніка. Не прэтэндуючы на колькі-небудзь значныя мастацкія адкрыцці, навела «Вам знаёмае» выглядае сімпатычнай сваёй непасрэднасцю, уменнем аўтара бачыць і паказваць чалавека такім, які ён ёсць у жыцці. Мова і стыль твора, у параўнанні з ранейшымі апавяданнямі, беднаватыя і пснаватыя, пазбаўлены адценняў, таноў і фарбаў, што, магчыма, звязана было і ■ тым, што тут пісьменнік упершыню звярнуўся да паказу гарадской рэчаіснасці. Адбівалася агульная атмасфера, той дыктат, які ўстанаўліваўся ў грамадстве і не мог не адбіцца згубна на самой сутнасці мастацкага твора. Пісьменнік не мог цяпер, у атмасферы ўсеагульнай падазронасці, абвінавачванняў і страху дазволіць сабе тое, што было ў яго ранейшых творах і з'явіцца ў пазнейшых, напісаных без усякіх шанцаў надрукавацца, але з надзеяй на аднаўленне праўды, справядлівасці і чалавечнасці. Цяпер жа, як гэта ні парадаксальна, «звышзадача» заключалася ў тым, каб адмовіцца ад набытых і ўласцівых сапраўднай літаратуры якасцяў: ад падтэксту, ад эдольнасці да шырокіх абагульненняў, паказу па-грамадску значных, панацыянальнаму самабытных характараў, самавітай і сакавітай беларускай мовы. З гэтым, наступаючы на горла ўласнай песні, пісьменнік справіўся, хоць мы і не ведаем, якою цаною гэтая навука яму давалася. Але, мяркуючы па горкай іроніі, сказанай нібыта пра іншага пісьменніка ■ якое пачыналася навела, не лёгка давалася гэтае «самазабойства» ў творчасці...

Калі гаварыць пра перспектывы творчасці і магчымасці самавыяўлення на гэтым этапе, дык зняволенне ў чалавечым плане было страшэннай, пакутлівай бядой, а ў творчым — своеасаблівым вызваленнем ад ідэалагічнага і цэнзурнага дыктату, які, пачынаючы з канца 20-х гадоў, усё больш пагрозліва навісаў над культурай, не даваў магчымасцяў для натуральнага самавыяўлення творчай асобе. Літаратура паступова выдыхалася, задыхалася; фальш, прыстасавальнасць, пустазвонства набывалі масавы характар, не абмінулі і творчасці жывых класікаў, якія яшчэ ў дакастрычніцкі час сцвердзілі сябе як волаты духу, выказнікі запаветных дум і імкненняў свайго народа. Яны, забыўшыся на свой народ, вымушаны былі славіць «правадыра» і тыя сілы, якія стаялі за ім і складалі грунт каманднa-адміністрацыйнай, таталітарнай сістэмы.

А цяпер увявім «на свабодзе» (падаём гэты выраз у двукоссі, бо мяжа паміж воляй і няволяй была хісткай, няўлоўнай, краіна ўяўляла сабой адзін велізарны лагер, дзе ў любы час кожны мог апынуцца за кратамі ці дротам) Лукаша Калюгу, які абсалютна не быў прыстасаваны да такой рэчаіснасці як чалавек і творца. Яго талент — не «заказны», які можна паварочваць у патрэбным кірунку, а глыбінны, арганічны, такі, што нават не залежыць ад волі свайго ўладальніка, гэта значыць самога пісьменніка. Мяркую, што ён, каб і захацеў, не здолеў бы адгукнуцца на спушчаныя зверху тэмы і праблемы, напісаць, скажам, заказны твор

пра Асінбуд ці Беламорканал, як гэта рабілі некаторыя, не пазбаўленыя таленту, аўтары.

Найбольш верагодным мне ўяўляецца, што Лукаш Калюга проста паспрабаваў бы адмовіцца ад друкавання, зашыўся [redacted] у які-небудзь ціхі куток на непрыкметную працу, а ў вольны час пісаў для сябе, у стол, не спадзеючыся ўбачыць створанае апублікаваным. Але ці дазволілі б яму паводзіць сябе менавіта так? Маўчанне ж тады таксама ўспрымалася як выклік і пратэст. Бо ад пісьменнікаў патрабавалася не маўчаць, а славіць тое, што патрабавалася, асуджаць і бэсціць тых, на каго ўлада скіроўвала свой гнеў і нянавісць. Сітуацыя, карацей кажучы, была тупіковай, і яе не здолеў пазбегнуць ніводзін пісьменнік...

Але Лукаша Калюгу напаткаў лёс вязня. Тыповы для беларускага пісьменніка той пары. Аднак ад соцень рэпрасаваных, за адзінкавым выключэннем, нічога не засталося, ці, дакладней, не дайшло да нас. Магчыма, неўзабаве расчыняцца «спецхраны» і ў нас складзецца зусім іншае ўяўленне пра «нявольніцкую» літаратуру, хоць у мяне на гэты конт асабліва спадзяванняў няма.

Што датычыць твораў Лукаша Калюгі, дык дайшлі яны да нас хутчэй па шчаслівай, амаль неверагоднай выпадковасці: іх, па-першае, трэба было неяк умудрыцца напісаць ва ўмовах спачатку турмы, потым выгнання і захаваць ад розных «шмонаў». «Изъятые» перед пакараннем, яны маглі, як іголкі ў стозе, згубіцца ў тайніках НКУСа, як згубіўся там ужо згадваны напачатку скрутак Калюгавых папер, перададзены туды з сям'і Антося Адамовіча. І, нарэшце, проста пашанцавала, што папера [redacted] просьбай вярнуць Калюгавы творы трапіла ў рукі спрыяльнага чалавека, які адшукаў і вярнуў літаратуры тое, што ёй па праву належыць.

Творы гэтыя напісаны не на звычайнай паперы, а на канцылярскіх дакументах, на іх адваротным баку, не чарнілам, а алоўкам, след якога ў шмат якіх месцах стаў невыразным. Такім чынам узнікла праблема расчытання напісанага. На дапамогу прыйшлі Ніна Казлоўская і Алена Шарахоўская — жанчыны са светлымі душамі, сапраўднай адухоўленасцю і бескарыснасцю, якія назаўжды засталіся вернымі ідэалам маладосці, сяброўскім сімпатыям яшчэ з часоў сумеснага навучання [redacted] Лукашом Калюгам у Белпедтэхнікуме.

Да нас дайшло [redacted] няволі чатыры, на жаль, няскончаныя Калюгавы рэчы — раман і тры аповесці. Узнікае пытанне: чаму ўсе яны засталіся незавершанымі? Адказаць на гэта цяжка, бо мы ўвогуле незнаёмыя з лабараторыяй і псіхалогіяй творчасці пісьменніка нават «на волі». Ва ўмовах жа поўнай несвабоды ўсё залежала ад яго вялікасці выпадку, які ў пэўны момант спрыяў ці цалкам перашкаджаў творчаму самавыяўленню. І, зусім верагодна, празаіку даводзілася з-за неспрыяльных абставін адкладваць на невядомы час распачатую рэч, а потым, калі надаралася нагода пісаць, ён ужо быў эмацыянальна настроены на іншае. І ўвогуле, фактар нечаканасці пачуццёвых усплёскаў, звязаных

са шчымлівым перажываннем таго да болю дарагога і балючага, што засталося ў далёкай Беларусі, быў, мяркую, для Лукаша Калюгі вельмі істотным. Усе чатыры напісаныя ў няволі Калюгавы рэчы надзвычай эмацыянальныя, душэўныя, у іх адсутнічае традыцыйны сюжэт, выразная кампазіцыя, акрэсленая тэма і праблема (прычына такога ўспрыняцця яшчэ і ў незавершанасці твораў), але б'ецца трапяткая чалавечая душа, якая гневаецца, абураецца, смуткуе, плача, пакутуе, радуецца. Такая эмацыянальная насычанасць вынікала з аўтарскага неспакою, непрымірымасці са становішчам, у якое ён трапіў, і душэўнай нязломнасці і ўнутранай сілы, што не ўдалося зламаць і знявечыць турмой і выгнаннем. Фізічна ён ніяк не мог вырвацца з няволі. Заставалася творчасць, якая дазваляла зрабіць немагчымае — перанесціся ў любую ягонаму сэрцу Беларусь. Менавіта ў гэтай бязмежнай любові да бацькоўскага краю і яго людзей бачыцца нам прычына таго, што ў гэтых творах не знайшла належнага адлюстравання турэмная і лагерная рэчаіснасць — яна, як правіла, саступае месца вяртанню ў дарагое і роднае...

На прыкладзе аповесцяў «Ні госць ні гаспадар» і «Нядоля Заблоцкіх» мы бачылі досыць шырокую, ад побыта-рэалістычнай да метафарычна-міфалагічнай, амплітуду пошукаў празаіка. Значныя «хістанні» праглядваюцца і ў апавяданнях. У творах «з-за крат» ён выступае стылёва адназначным, цэласным, быццам знаходзіць сябе ў сінтэтычным, калі мець на ўвазе папярэднія пошукі, стылі, дзе рэальны чалавек выяўляе сваю сутнасць праз ёмістае, метафарычнае слова, а канкрэтныя жыццёвыя сітуацыі набываюць такую эмацыянальную скандэнсаванасць, што ўздымаюцца да сімвала.

У кожным з чатырох, у стылёвых адносінах, аднародных, творах пісьменнік вырашыў свае спецыфічныя задачы, асвойваў новыя тэмы і жыццёвыя пласты. Аднак мы разумеем, што не было ў яго пры гэтым нейкай рацыяналістычнай запраграмаванасці, а ўздзейнічаў найперш эмацыянальны імпульс, які скіроўваў позірк пісьменніка на той ці іншы жыццёвы абсяг.

Самыя свежыя яго ўражанні былі звязаны з горадам, адкуль яго вкусаўцы сілком адарвалі, з жыццём нацыянальна свядомай творчай інтэлігенцыі. Гэтай праблеме і тэме, дарэчы, вялікае значэнне надавалі ўзвышэнцы, найбольш цікавае іх тут дасягненне — раман Кузьмы Чорнага «Сястра». Да горада, як памятаем, звярнуўся ў сваім апошнім, напісаным «на волі», творы Лукаш Калюга. Гаворка пра навелу «Вам знаёмае». Але ў параўнанні з вясковымі апавяданнямі яна прайгравала, была пазбаўлена самабытных моўных і стылёвых фарбаў. Уласна кажучы, названыя асаблівасці будуць уласцівы ўсёй беларускай гарадской літаратуры наступных дзесяцігоддзяў. Яе кволасць найчасцей выводзіцца са спецыфікі жыцця беларускага горада, які паступова змушаны быў адрачыся ад сваёй самабытнасці, у значнай ступені дэнацыяналізавацца, страціць родную мову, на месца якой прыйшла руска-беларуская трасянка, штамп, калька,

інфармацыйнасць. Але ў часы Лукаша Калюгі становішча яшчэ не было такім пагрозліва-трагічным, русіфікацыя пад шыльдай інтэрнацыяналізму яшчэ прыйдзе. Аднак і з таго часу да нас дайшло не так і шмат па-мастацку яркіх, па-нацыянальнаму самабытных твораў. Адна з прычын, мяркую, заключалася ў вясковым паходжанні большасці беларускіх пісьменнікаў, якім спачатку трэба было ладна пажыць у горадзе, зжыцца з ім, каб адчуць яго такім жа свойскім, як пакінутая вёска, бо гарадское і вясковае жыццё ва ўсіх народаў мае сваю выразную спецыфіку. Беларускае ж насельніцтва ў горадзе ў першае паслярэвалюцыйнае дзесяцігоддзе займала ад агульнай колькасці жыхароў Беларусі досыць нязначную частку. Таму і пісьменнікаў з яго асяроддзя выходзіла значна менш, чым з вясковага. Увогуле ж патрэбен быў пэўны час, каб народ, які дасюль быў пазбаўлены элементарных правоў, усвядоміў сваю нацыянальную цэласнасць і непадзельнасць, свой дзяржаўна незалежны, а не каланіяльна-падняволыны статус. Ва ўмовах палітыкі беларусізацыі працэс гэты адбываўся досыць хутка, літаратура наша пераставала быць толькі сялянскай і ўздымалася да ўсведамлення сваіх па-дзяржаўнаму агульнанацыянальных задач. Ці не найбольш магутным выяўнікам гэтых тэндэнцый меўся стацца раман Міхася Зарэцкага «Крывічы». Аднак яго друкаванне было гвалтоўна спынена, да чытача дайшлі ўсяго некалькі раздзелаў, а лёс твора застаецца да нашага часу невядомым.

У рэчышчы нацыянальна ўсвядомленай літаратуры развівалася і «нявольніцкая» творчасць Лукаша Калюгі, у тым ліку і напісаная на гарадскую тэму аповесць «Зоры вам вядомага горада». У ёй арганічная для вясковых твораў празаіка моўнастылёвая плынь не засталася нязменнай, а набыла характэрныя гарадскія асаблівасці, забруіла новымі колерамі, але не страціла натуральнасці, засталася такой жа па-беларуску арганічнай, як і творы пра вёску.

На вялікі жаль, шматмерны пласт гарадскога жыцця, які так арганічна ўваходзіў у творчасць Міхася Зарэцкага, Кузьмы Чорнага, Лукаша Калюгі, потым зробіцца адчужаным ад нацыянальнага мастацтва, перш за ўсё ў выніку глабальнай дэнацыяналізацыі, якая найбольш паўплывала і духоўна паралізавала горад, звёўшы да мінімуму яго ўклад у самабытную культуру, а не ў тое памнажэнне яе масавых, тыражыраваных ад акіяна да акіяна формаў, якія, уласна кажучы, культурай і не з'яўляюцца. За дзесяцігоддзі панавання камандна-бюракратычнай сістэмы гарады нашы страцілі сваё нацыянальнае аблічча, а мова іх жыхароў засмецілася, абмялела, згубіла свае натуральныя барвы і сваё непаўторнае хараство, якое яшчэ захоўвалася ў часы Калюгавай маладосці. Але і тады, паўторым, пісьменніку, выхадцу з вёскі, яе вялікаму патрыёту і адналюбу, выхаванаму на традыцыйным грунце вясковай маралі і этыкі, было няпроста пераключацца на новы жыццёвы матэрыял, новыя стылёвыя пласты, новую лексіку, новыя тэмы, праблемы, вобразы.

Нам невядома ўнутраная духоўная праца, якая папярэднічала і суправаджала напісанне новых твораў. Але яе вынікі маюць выразны мастацкі сэнс і пазбаўлены рэшткаў чарнавой пакутніцкай працы — і друкаваць іх трэба без усякіх рэдактарскіх правак і ўмяшання. Што датычыць аповесці «Зоры вам вядомага горада», дык урыўкі з яе напісаны лёгка, зграбна, нязмушана, з унутранай свабодай, віртуознай стылёвай дасканаласцю і дасціпнасцю як у вядзенні апавядання ад аўтара, так і ў размовах персанажаў. Не шмат, бадай, набярэцца ў нашай літаратуры твораў, прысвечаных не толькі, як тут, мастакам, але ўвогуле людзям творчым, чыё б літаратурнае жыццё было напоўнена такім значным духоўным сэнсам, а самі творы гучалі так арганічна нязмушана і па-беларуску натуральна...

Натуральнасць, нязмушанасць гучання ўласцівы і адзінаму дзіцячаму твору Калюгі, няскончанай аповесці «Зэнка малы ніколі не быў». Тэматычна, ■ улікам узросту героя яна нібы стаіць папярэдзе «Ні госця ні гаспадара», дзе дзейнічаюць хлопцы-камсамольцы. Тут жа паказана набліжэнне Зэнкі да гэтай узроставай, палітычнай рысы.

Загаловак напісанага ў зняволенні твора быццам знарок парадаксальны, але ў ім ніякі не намёк на нейкія незвычайныя якасці хлапчука, а своеасаблівы ключ да разумення аповесці, дзе і лагодная ўсмешка, і гумар, і пакепліванне, і боль за малога чалавечка, які імкнецца выглядаць больш сталым, дарослым, бачыць сэнс жыцця ў гэтым сваім самаадрачэнні, заўчасным пасталенні і далучэнні да дарослых клопатаў і праблем. Працэс станаўлення характару хлапчука, фарміравання ў ім асобы, абуджэння грамадзяніна, гарманічнага выяўлення сацыяльнага і інтымнага, спалучэння добрага і дрэннага паказаны без усякай прадузятасці, псіхалагічна тонка і па-мастацку нязмушана.

Аповесць пазбаўлена апісальнасці, што, як памятаем, у пэўнай меры было ўласціва «Ні госцю ні гаспадару». Кампазіцыйная кампактнасць, сюжэтная скандэнсаванасць на адным героі і праблеме дазволілі пісьменніку на невялікай плошчы паказаць рух часу, але не як яго падзейную канву, а праз унутраны рух чалавечай душы да пасталення, якое адбываецца ў складаных умовах паслярэвалюцыйнай рэчаіснасці, дзе абуджэнне народа да свайго нацыянальнага адраджэння, да свабоды і дэмакратыі сутыкалася са з'явамі супрацьлеглымі, скіраванымі на прыглушэнне і нават задушэнне заваяванага рэвалюцыяй.

З любасцю гледзячы на свайго героя, празаік нікольні яго не ідэалізуе, тонка прыкмячае дэфармацыі, якія адбываюцца пад уздзеяннем агульнай атмасферы. Рыхтуючыся стаць камсамольцам, Зэнка ўжо з пагардай глядзіць на сялянскую працу, збор каласкоў на ніве. А вось як ён рэагуе на прывітанне Марылі:

«— Памажы божа! — было сказана, як добраму чалавеку, але Зэнку, як камсамольцу праз паўтара года, нават дзеля ветласці не выпадала дзякаваць».

А як камічна выглядае Зэнкава імкненне чыста чалавечыя

адносіны вытлумачваць дзесьці пачутымі сацыяльна-эканамічнымі катэгорыямі. Так заляцанні Віныкі Вароніча да Марылі ён называе эксплуатацыяй, а потым, крыху падросшы, намаўляе дзяўчыну, якая, дарэчы, і яму падабаецца, напісаць, што Варэнічы яе эксплуатавалі. Але такімі ж прыёмамі будзе дзейнічаць супраць яго самога старшыня сельсавета Рыжы Пярун, помсцячы за змешчаную Зэнкам карыкатуру ў газеце. У графе анкеты пра сацыяльнае становішча чыноўнік паставіць яму «заможны селянін», што ў тых умовах класавай дыскрымінацыі абазначала калі не высяленне ў Сібір, дык «каставую» непаўнацэннасць у грамадстве.

У краіне тады адбывалася штосьці незразумелае. Не магло не ўздзейнічаць на кволую, незагартаваную дзіцячую душу, на яго псіхалогію тое, што адбывалася ў грамадстве:

«Гэна той з бліщчастымі вачыма малы ўдаў, што бацька ■ абагуленае нівы сваёй карове ўночы мяшок канюшыны прынёс. «Амерыканца» пагналі, а маці і сына выштырыла ўслед. І ад тых дат — ні на парог!

Так малое і вылочыцца: дзе ноч пераначуе, дзе дзве. Ото бо пайшоў свет! Каб яго пярун ясны,— казала,— высмаліў!»

Колькі за гэтым фактам балючай праўды таго часу, сваёй трагічнай сутнасцю скіраванага не толькі супраць дарослых, але і дзяцей, які, па сутнасці, пазбаўляў іх нармальнага і натуральнага маленства. І ў гэтым сэнсе загаловак Калюгавага твора гучыць сімвалічна.

Сімвалічнасць не чужая творчасці празаіка, а ўнутрана арганічная яе якасць. У некаторых творах (гэта найперш датычыць аповесці «Ні госць ні гаспадар») яна спалучалася, ці, дакладней, выяўляла сябе праз амаль натуралістычнае адлюстраванне жыцця ў быццам адэкватнай яму форме. У творах, напісаных у зняволенні, пісьменнік нібыта ўзвысіўся над добра вядомым яму жыццёвым матэрыялам, паглядзеў на яго здалёку, прынікаючы ў найбольш істотны сэнс. Незалежна ад таго, пісаў ён пра вёску ці горад, дарослых ці дзяцей, інтэлігенцыю ці сялянства, імкнуўся ўлавіць тое галоўнае, вызначальнае, што ўласціва было чалавеку, грамадству, лёсу народа.

Аповесць «Дзе косці мелюць» (звернем увагу на гэту метафару) сваёй назвай непасрэдна стыкуецца з лагернай доляй празаіка. Горкай іроніяй і боллю прасякнуты яе пачатак, той абзац, дзе гаворыцца, «што людзі кручаных дзён сіверынаю смярдзяць». А потым пачынаецца па-біблейску эпічнае апісанне глабальнай, амаль што ўсечалавечай бяды. Празаік на сваёй скуры зведаў вось такое жыццё: «...на дварэ восень, на дарогах гразь, і па цэлым свеце сячэ аблудных бесхацімцаў дробненькі сеены дождж. Золкі ён і вастрэйшы за голку і праз усякія цыраты і брызенты лёгка працінае да самага цела».

І, безумоўна, мог бы напісаць пра яго пранізаны шчымлівым болем твор. Але, хлюпаючы па гразі, калеючы на марозе, жывучы ў чужым яму Краснаярскім краі, ён, напэўна, у думках,

душой і сэрцам увесь быў на Беларусі, сярод яе людзей, бароў і азёр. А таму ў творчасці неадольна вяртаўся да роднага і блізкага, якое асвечвала высокай паэзіяй, грэла лагодным цяплом, цешыла спакутаваную душу светлымі ўспамінамі. Вось чаму ў аповесці «Дзе косці мелюць» з душэўнай прасветленасцю апісаны абрадавыя святы: дзяды, куцця, каляда, усё тое, што свяціла нязгасным святлом, клікала назад на Бацькаўшчыну.

Боль, спакутаванасць, пратэст супраць існага асабліва моцна і паслядоўна гучаць у рамане «Пустадомкі», у прыватнасці, перадаюцца праз адчуванні і перажыванні аднаго з яго галоўных герояў, Маркі, які ў лісце да брата так перадае свой штодзённы стан пад час захаду сонца:

«Я не магу... Не магу, калі надвечар бачу яго на захадзе. Гэта ж недзе там над нашым, Шылавіцкім, борам свеціць нашай зямлі, нашаму народу. Ледзьве ногі валачэш, а вабіць... Як воўка да таго, усім вядомага кусту. Цяжка вытрываць — тых пакутных сноў не спраўдзіць. І тое можа стацца калі не ў гэты чацвер — цераз сем (а то і ў дубальт таго) ненавідных нядзель можа выйсці з цярпення».

У гэтым урыўку, хоць ён і не адзіны ў шэрагу падобных, знаходзіцца ключ да ўсяго твора, заключаны яго эмацыянальны код, які расшыфроўваецца з тугі пісьменніка па сваёй Бацькаўшчыне. І нездарма скразным для твора з'яўляецца вобраз сонца, якое ўвасабляе любоў да Беларусі і яе людзей. Але чым бліжэй пад канец, тым часцей сонца зацягваецца хмарамі, тым большай трывогай, неспакоем і боллю напаўняецца эмацыянальны лад твора, тым часцей знешне спакойная, традыцыйная для Калюгі, крыху нават замаруджаная плынь узрываецца, узвіхурваецца, выяўляючы гэтым самым трагічныя прадчуванні пісьменніка наконт уласнага лёсу, лёсу свайго народа, выяўляючы пратэст супраць гвалту над жыццём. Прадчувалася, што і вось гэты твор застанецца незавершаным. Апошні яго абзац — гэта голас чалавека на ростанях паміж існым і наканаваным, куды ён па злой волі вымушаны быў адысці ў свае няпоўныя трыццаць гадоў. Пісьменнік нібы звяртаўся да ўсіх голасам скрухі, адчаю, горкай іроніі, спасцярогі: адумайцеся, спахапіцеся... Але голас яго патануў у голасе далёкай тайгі.

«Новы — куды цікавейшы, непараўнальны сюжэтны пачынаўся раман. І месца дзеяння небывалае — адваротны свет. Толькі пра гэта бадай што ніколі ад мяне не будзе працягу».

Вось з такімі словамі, унутрана нібы ўсё яшчэ супраціўляючыся наканаванаму і прадвырашанаму (звернем увагу на «бадай што»), у росквіце жыццёвых і творчых сіл адышоў ад нас адзін з самых патэнцыяльна моцных, але, на глыбокі жаль, толькі ў малой долі выяўленых працаўнікоў роднай літаратуры.

Гэты агульны абрыс жыццёвага і творчага шляху Лукаша Калюгі завяршаем, спадзеючыся, што наперадзе яшчэ будзе пасапраўднаму ўдумлівае і кваліфікаванае даследаванне яго мовы, стылю, мастацкай манеры, характараў.

*Яўген Лецка*

# НІ ГОСЦЬ НІ ГАСПАДАР

*Аповесць*

## I

Цалюткія два тыдні крукам гнуўся Хвядос Чвардоўскі над кніжкамі, чытанымі дагэтуль многа разоў. Усё ў іх знаёма. Усё чута й бачана ў свой час. Але потым баяўся, каб не падвяла памяць, каб не вярзці лухту на экзамене. Трэ было не сесці куццёю. Як жа ж бы тады на вочы найці каму знаёмаму ці бацьку, што гэтулькі страціўся на яго? З сораму толькі згарэць, не кажучы пра тое ўжо, што дома бэсціць будуць, як якога злачынца.

Але на што наважыў, тое й спраўдзіў: папытаюць чаго — нібы секачом адсячэ, гаворыць — што рэдзьку скрыляе. Ні ў чым не зачапіўся. Гладка скончыў сямігодку.

І адпала прыкрасць чакання нечага нияснага (як вол доўбні) і надвае варожанага: добра будзе ці блага?

Толькі пашэрае на дварэ, валакуцца з розных вуліц мястэчка сямігодскія выпускнікі ў тутэйшы нардом. Штукуюць. Смяюцца. (І ўсё затым, што хутка ростань.) Горне ў гурт, у таварыства сябрукоў, [redacted] кім тры гады цёр локці апранахі аб сямігодзскія скамейкі.

Абегаўшы кватэры сваіх сяброў па класе, калі пастушкі прагоняць каровы па канцавых сялянскіх вуліцах мястэчка, шырока сігае Хвядос калі тратуарам, а калі сцежкаю па загароддзі на сваю кватэру. Вячэру ж там яму рыхтуюць. Бывае, параніцца каторы раз. Тады ценжар на яго там навальваецца. Жадункі бяруць не-

куды пайсці, нешта зрабіць. У такі момант, яму абы таварыства, дык пайшоў бы к каму ў сад не садавіны прыдабыць, а так... голле паламаць, платы разбурыць; палез бы дзе ў чужы гарод... Каб таптаць, плянтаваць... Каб хто лавіў... Каб уцякаць... Каб весела было! І следам за гэтым ідзе сум. Падаецца, як бы страціў нешта дый забыўся, што й дзе, а знайсці яго, канечне, патрэбна. Затым і збрыдалі, як горкі яблык-дзічка, пабяляныя сцены яго кватэры. Ужо зардзелася чырванню сонца на захадзе, а не відаць яго (толькі адчуваецца, што гэта — так), бо на падаконніках — ражэрня вазонаў.

Гаспадыня гэтыя дні ласкавейшая стала. Час-часам частуе яна Хвядоса чым-небудзь панаднейшым з свайго стала. А ён калі скажа:

— Дзякуй! Нешта не хочацца.

А калі:

— Пакаштуем!

І, як павіннасць адбываючы, зачэрпае лыжкі дзве.

— Дзякуй вам!.. Будзе з мяне.

— Чаму ж гэтак мала?

— Хопіць.

Ды потым павявае халадком ад усяго, што толькі ёсць месточковага, абрыдлага яму.

Упадзе Хвядос на свой ложак, што ў парозе стаіць. Заплюшчыць вочы — ану, можа, сон зморыць. Дык — не. Вярзецца жвавая, што пяецца пад скок, прыпеўка-дрындушка:

І ты — полька,
І я — полька.
Не чапай майго падолка.
Мой падолак срэбрам шыты,—
Будзеш дурань ты набіты!

Дзе ён чуў! Адкуль яна яму навярзлася? — У Жыздрыцы. У сваёй вёсцы гэтак маладзеж пяе.

Няма на сон ахвоты. Не ляжыцца. І, калі няма нікога ў хаце, дык з нейкаю рашучасцю ўсхватваецца ён з ложка, адразу на ногі становіцца. Здаецца, узяў бы ўсе гэтыя вазоны й ручнікі з паперы, што над абразікамі вісяць, папяровыя фіранкі над вокнамі ды пабіў бы, парваў, каб і шныру нідзе не засталося. Але няхай! Не ён парадак тут уводзіў — не яму й руйнаваць.

За хатаю ў Хвядосавых гаспадароў ёсць называны сад. Цукровая яблыня і дзве бэры ў ім растуць. А збо-

ку — хлеў і ток пад аднэю страхою. І ўсё багацце тут, толькі шчэ за мястэчкам папоўшчыны тры дзесяціны й шнур сенажаці, што некалі ў арэндзе трымалі, цяпера-ка — уласнасць іх.

У сонечны дзень возьме Хвядос кніжку з сабою і йдзе ў гумно. Сядзе ў цяньку старое бэры ды чытае. На яго твары варушыцца рабацінне — цень дрэва. Адсюль відаць, як над мяшчанскім токам, цераз тры платы, распасцерлася падгалістая бяроза з белым камлём, як у прышчэпы ў добрага садоўніка.

Што раўня тут свайму, хатняму?! Тамака ўсё харашэй. І бярэзнік за сажалкаю ў поплаве званчэй з ветрам гамонку вядзе. Свая хата ветлівей. Весялейшы й поле мае погляд.

Каб хаця ж барждждэй!!

Ужо спеюць цукроўкі ў Жыздрыцы. Да долу звісае голле з вінёўкамі, антонамі, па гарбузу велічынёю.

А калі тыя дакументы дадуць? — ліха іх ведае! Барждждэй каб хаця! Толькі б тут яго й згледзелі.

Гаспадар Хвядосавай кватэры шнапарыцца каля дому. Свае тры дзесяціны ўжо даўно ўсеяў, а цяпер чакае касавіцы. Убачыць Хвядоса, усміхнецца ды й папытае:

— Нешта маркотны ты стаў... Пра дом думаеш?

— Хутка выберуся ад вас.

— Абрыдалі, мусіць?

— Не!.. так сабе...

Хлопцы-таварышы хваляцца не нахваляцца, хто куды падацца надумаў. А Хвядос маўчыць. Хто — у настаўнікі, хто — у каморнікі, меліяратары... Адзін ён — гаспадар («мужык» бы даўней сказалі). Трохі — крыўда (ці ж ён горшы за ўсіх?). Крыху і прыемна. Вёска — цёмная. Вёска — бацькаўшчына. І ўсе ўцякаюць [redacted] яе. Толькі працёр каторы свае, у таку закураныя, вочы, дык і махнуў у горад: у гэты вір-болбацень. А хто зямлю капаць будзе? Хто без вас застанецца хлеб рабіць?

Не бяда!

Сам сябе развaжыць Хвядос, і лягчэй яму стане.

Хаваецца сонца за гаспадаравым пагрaбцом. Пастушкі [redacted] захлюпанымі калошамі вядуць на павадках і гоняць каровы з гасцінца. Рыкаюць па хлявах цялята. У свіных хлеўчыках неспакой. Жывёлы яды дамагаюцца. Гаспадыня, падаткнуўшы верхнюю спадніцу з

абодвух бакоў, нясе пад хлеў у адной руцэ вядро памыяў, а ў другой дайніцу цеста. З коміну стужкаю ўецца дымок. Вецер збівае яго на зямлю. Гэта гаспарова дачка вячэру варыць.

Спаражніў Хвядос скавараду смажанкі, сваёй любай яды. Ужо й змерклася. Не заснеш у веснавы вечар.

Ідзе ён у нардом.

Там за доўгім, на скарбовыя кары падобным стале шасцёра чалавек звесілі галовы над чытаннем, у газеты пазіраюць. А за шашачным столікам адзін-адным сядзіць Пракоп Капцэвіч ды лістае «Лапаць». Хвядос адразу да яго:

— Каторы раз ты гэтых разявакаў глядзіш?

— Калі ж іншых няма.

— Тут больш хлапцоў не было?

— Не было.

Капцэвіч у «Лапаць» загледзіўся. Хвядос жа, па старому свайму звычаю, аглядае сцены нардомскія (ці няма чаго новага?). Усё на іх тое самае, што ■ восені застаў: ленінскі куток, дабрахім з нор мышы псюрыць газамі, чалавечак з шырокім ротам крычыць, каб куплялі сялянскую пазыку й шчэ што збольшага. І на ўсіх іх відаць мушыная праца й вынік яе: адменны колер.

— А нашы выпускнічкі й носу сюды не пакажуць. Гонару набраліся. Гэта ж трэба ведаць: сямігодкі прайшлі?!

— Сёння на месце бачыў Марылю з Волькаю. Каля вазоў швэндаліся.

І іх гаворка пайшла штораз шпарчэйшым тэмпам. Набягалі ўсё новыя й новыя тэмы. Мацнеў голас. У адказ на гэта з-за доўгага стала толькі крыва зірнуў адзін чытач, сталы ў гадах. А супрацоўнік камсамольскага райкому недатрываў-такі, каб не адазвацца:

— Ціха, хлопцы!

— Ша!.. Дзверы вунь шырокія,— адкуль ён толькі зарваўся, чарговы камсамолец, што гэтага вечара за парадкам у чытальні наглядаў.

Толькі яны не вельмі палохаліся апошняга. Пакуль той іх прапсюрыць, дык можна б было з ім паспрачацца ў ахвоту гадзін са тры. Але й у нардоме, што й на кватэры,— ані не лепш. Парашылі выйсці, вочы прахаладаць.

— Ды ўжо ж... хіба пацягацца...

— ...і найлепш...

Электрычны ліхтар, што вісіць над нардомскім ганкам, клаў бляды паўкруг на шырокую, з абодвух бакоў высаджаную ў «дзень лесу» маладымі клянкамі ды асінінамі, мястэчковую вуліцу, на твары й вопратку спацыраваўшых мяшчан — было гэта ў нядзелю ўвечары. Надвор'е пагоднае. Крыху яркавата, хто лёгка апранут ці ў адной кашулі.

Жвава пайшлі хлопцы ў той бок вуліцы, што канчаецца яўрэйскімі могілкамі й пераходзіць у гасцінец. Паваротна разміналіся, выпярэджвалі.

— Хутчэй бы дамоў,— што было наўме, тым Хвядос і хваліўся. Гарэлі б яны з дакументамі... толькі злосць. Абрыдзела...

— І без дакументаў нельга. Куды ні паткніся — дакументы пакаж!

— Бацька й так паверыць.

— Не дзеля бацькі яны робяцца. Вось паспрабуй: падайся куды...

— Куды мне падавацца?

— Як куды? Зайдзі ў Рык. Там табе ў культаддзеле пакажуць, куды можна падацца, сямігодку скончыўшы. Я быў ужо: многа школ...

— Дома пакінуць няма каго,— з горыччу кажа Хвядос.

— Чаму так — няма? Бацька — мядзведзь Жыздрэцкі, што не ўсякі сілач здолее абзурыць. Сястра — самая страйніся, толькі па вячорках і бегае, як вечар настане. Гэ-э-эт!..

Падцмокнуў Хвядос ды кажа:

— Не выпадзе, браце!

— Хіба не хочаш сам?

— Чаму не хачу?!

Капцэвічу робіцца шкода сябра свайго, й ён некаторы час маўчыць ды за ім ісці паспявае. Потым перакажуе яму яго долю ціхім голасам, як бы ў студню зняпацку ўляцеўшы, ратунку адтуль просіць. Гэтакаю яна здаецца Пракопу:

— Растрасеш сваю навуку за плугам, за бараною. З пылам пойдзе яна... развеюць вятры па полі. І навекі прапашчы ты...

— А самаадукацыя! — як не крыкнуў Хвядос. І ўспомніў Горкавы «Мои университеты», чытаныя гэту зіму. «Родныя былі кнігі» — піша там. І ён з «род-

нымі кнігамі» дома сваяўство завядзе. Каторыя пазычыць, каторыя прыкупіць і возьмецца са смагаю каля іх.

Капцэвіч жа не чуе, ці мо не хоча чуць. Ён кажа далей:

— Пройдзе год-два часу... можа, адумаешся, захочаш дзе паступіць. Ды толькі завузкі дзверцы табе будуць. Ты, у сваім сялянскім кажусе, ■ густою воўнаю, каўняром-заслонкаю й шырокімі крысамі не ўціснешся туды. Там пачуеш грознае слова, што цябе ў дрыжыкі кіне — экзамен.

Затым Капцэвіч трохі змоўчаў і другі раз паўтарыў:

— Экзамен, брат!..

— Самападрыхтоўкаю навярстаю, што трэ будзе, калі толькі захачу куды. Але гэта ўсё дарма! Нікуды мне не трэба. Дома няма каму... Але я й так хачу штонебудзь ведаць. Прыдабуду кніг ды ў свабодны дзень ці хвіліну й засяду...

— Лепш маўчы! Смяяцца будуць, хто пачуе.

— А ты шчэ тое ведай, што я камсамолец.

— Дык пішчы ў ячэйцы, каб далі камандыроўку, калі ты камсамолец.

Пайшла спрэчка ў іх. Дуду-дуду — й прасігалі ўсю, як вялікая была, вуліцу. Мінулі брук і шырокія дашчаныя тратуары й выйшлі ў сялянскі канец яе, дзе жывуць называныя «агароднікі». Абодва бакі «агародніцкай» вуліцы былі рэдкавата ўстаўлены звычайнымі вясковымі хатамі закотам на вуліцу. Толькі ў тым тутака й прымета мястэчка, што ■ аднаго боку палажан тратуар, як аднаму прайсці, ды ў большасці хат па сценах уецца павой і ля вуліцы перад хатамі ёсць агародчыкі з краскамі. У канцы гаем здаваліся яўрэйскія могілкі. Гэта хлопцы тутака й заўважылі ды вярнуліся назад.

— Пяць вёрст адлегласці нічога не значыць на маладыя ногі. Улетку сойдземся пагаварыць.

— Да ўжо ж!.. будзем бачыць.

А ідучы назад, Капцэвіч бубніў:

— ...я б ніколі!.. табою быўшы!..

Тым часам заблішчалі ліхтарыкі ■ паказаннем нумара дома й назвы вуліцы на сценах хат — пачалася жыдоўская частка вуліцы, блізшая к месту. Сірочым

сваім агеньчыкам трапечуць газніцы ў сярэдзіне ліхтароў.

Бубніць Капцэвіч. Бубніць — не заўнімецца. Хоча Хвядос ўсе дашчэнту свае меркаванні пераказаць. Думае навучыць яго, як ціснуцца туды, адкуль гоняць назад, дзе дзверы вузкія, але ўсярэдзіне хараство. Кажа, як яму самому даводзілася, калі сядзеў у чацвёртай групе сямігодкі, лгаць настаўніку па гісторыі. Крута тады прыходзілася — кватэру ў мястэчку наняць, дорага абыдзецца. Сваякоў у мястэчку няма. Дык завёз яго бацька ў адну вёску, што за паўтары вярсты ад мястэчка стаіць, і тамака ўсталяваў на кватэру ў стрэчнай сястры. Пакуль узімку дабярэцца туды — змеркнецца на дварэ. А кніжак сваіх няма, папрасіць зноў няма ў каго (каб у мястэчку — расстараўся б!). Дык калі-нікалі выпрасіць у сальнікавага сына сабе падручніка на дзень. Вывучыць сваю лекцыю, як верш які, дый ранейшыя прагледзіць і наперад зірне, што там будзе. А тады ўжо тыдзень-паўтара яго галава за гісторыю не баліць. Толькі словы кніжныя бярэ, а сам гэтакія «гісторыі» здумляе, што вучні (ведаючы яго знароўку) толькі сцішка пасмейваюцца ў рукавы, а настаўнік паглядзіць праз сінія акуляры асавелымі, вечна заспанымі вачыма. «Калі не заўнімаецца, дык ведае нешта»,— падумае й закрыецца нейкаю тоўстаю кнігаю, якую носіць заўсюды за сабою ў класы, каб самому чытаць. Выходзячы, настаўнік скажа свае заўсёдныя словы: «На ўрок вазьмеце пяць чарговых карт і дайце мне падручнік, каб у журнал запісаць». Смяюцца потым вучні. Рад і Пракоп — падашукаў настаўніка! Не падашукаць бы яму, каб па «Елпаціеўскім» вучылі, [illegible] ў «Ігнатоўскага» ці «Пакроўскага» той, па сваёй заядласці да ўсяго цяперашняга «бальшавіцкага», не хоча й глядзець: от вучыць дый не так вучыць, як вучні самі вывучваюць.

Яго доўгія апавяданні пра сябе паспелі ўжо азыраць Хвядосу. Усё гэта ён чуў ад яго, а чаго не чуў, тое бачыць даводзілася. «Старыя ракашэды»,— думаў ён пра Пракопаву гаворку. Каб чым-небудзь зрабіць прыкрасць свайму сябру, пусціў Хвядос па тратуары шырокія крокі, як сажням сцягнуць. Куртаты Пракоп ледзь паспяе за ім, подбегам бегучы кароткімі ножкамі, што калодкі на адно шурковае палена, дробна — борздзенька цюпкае; аж засопся! Хвядос жа ўсё па-

праўляецца. Яму робіцца пацешна, асабліва калі назад азірнецца. Але зірнуў на бокі, некага заўважыў. ...сцішыў свой ход.

— Пракоп!

— Што?

— Ці не Вінька гэна?

— Такі ён!

З другога тратуара прама на іх садзіў, таксама сёлетні выпускнік, Вінька. На яго губах ззяла прыветная ўсмешка.

— Чаго вы швэндаецеся? — кажа ён, перайшоўшы брук.

— Спацыруеце?

— Мяшчаннём пастрыбучаем... А ты куды?

— На кватэру. (Якраз ён і кватараваў на гэтай самай вуліцы ў аднаго «агародніка».)

І адразу стаў расказваць самую цікавую школьную навіну, якой толькі й чакалі яны.

— Быў надвячоркам у загадчыка.

— І што?..

— Казаў, што дакументы ўжо спраўны. Заўтра можна будзе браць.

Радасці іх меры не было. Гэтак хутка! Гэтак добра!

— О, гэта я ведаю!..— сказаў Капцэвіч.

Хвядосу дзецца не было дзе. У ім абудзіўся той шасцігодні хлапчук, што гатоў быў на адной назе скакаць, калі бацька ■ торгу гасцінца прывёз.

— Заўтра трэба будзе... Збяру свае манаткі з самай раніцы. А там бацька пад'ехаць павінен. Збрыдала ўсё... Тры гады быў — нічога не запамячаў, а цяпер агінула. Стукаюць, бразгаюць, крычаць... Абы барджджэй!.. каб хаця ж бацька дома не забавіўся!..

* * *

Чакаў і дачакаўся. У Хвядосавых руках крамяны ліст з аднаго боку друкаванай паперы з пяцерма подпісамі й пячаткаю ўнізу. Апошні раз ён у вучнёўскай грамадзе. Усе дакументы бяруць. Адны другім даюць наказы.

— Хто блізкі — гуляць прыходзь, далёкія лісты шліце.

Чаго больш хацець?

Разышліся... Раз'ехаліся. Пад саламяныя стрэхі

вясковых хат (ці надоўга?!) накіравалася большасць, як тыя вераб'і ўзімку.

Хвядос бацькавай хурманкі чакае. Прыкра аднаму на кватэры сядзець. Пайсці б куды? — раз'ехалася яго таварыства. І ■ гаспадарскай сям'і ў хаце — каб душа: за работаю пайшлі. Прабуе заснуць, ды не ліпнуць вочы. Тады дастаў з-пад лавы скрынку з кніжкамі. Стаў складаць — сартаваць.

Трэба «Новую зямлю» ў бібліятэку аднесці. Чаго яна будзе ў мяне валяцца.— Успомніў свой абавязак, убачыўшы яе.

Разгарнуў спачатку.

«Пачытаю трохі».

Прабег вачыма па знаёмых радках. Узяў з стала аловак, а з скрынкі сшытак, у каторым запісана два вершы Купалы, трохі ■ Бядулі, Чарота й «Нёман» Каганца, туды ж і выпісаў:

Мой родны кут, як ты мне мілы!
Забыць цябе не маю сілы!

— Гэтак-гэтак!.. Мілы родны кут — бацькава хата! Нельга забыцца пра яе. Магнэс — яна. З далёкіх краёў цягне к сабе, на чужыне ў думак супакой адбірае.

«А можа, каб не аднёс. Глядзі, што тыя запісы згубіліся, дзе ўкрэмзан я. У нардомскай бібліятэцы гэта не наўда»,— сам сабе ён развражае.

Ды й палажыў кнігу на раней прызначанае ёй месца ў свой сакуяш.

Зноў няма чаго рабіць. Зноў сум.

Адно жаданне, адно імкненне: дамоў бы барждзжэй. Доўга чакаць. Трудна прычакаць.

«Што цяпер тамака робіцца?» — думае Хвядос і, здаецца, чуе:

— Цуку — цуку — цуку!..— дробненька, ласкавым голасам склікае маці куранят на двары.

«А бацька чым заняты?»

«Нарады падмазуе: хутка ж сена будзем вазіць. Ходзіць глядзець, як жыта красуе, ці густа й высока сенажаць зарасла, ці шырок у пер'і ячмень, як угару бордза прэцца».

«На вуліцы ж што робіцца?»

«Ад песень яна разлягаецца. Жартаў у меру й зверх яе».

— Цсь — сь — ся!.. — чуваць знаёмы голас.

«Ці не па мяне?» — цікнула Хвядоса.

Борздзенька зірнуў у вакно — бацька. Тады бягом рушыў на двор. Нават забыўся за сабою ў хаце дзверы зачыніць (гэтага ж гаспадыня цярпець не магла: у хату мух наляціць знадворку).

— Але ж і позна вы! — упікае бацьку.

— Чаго табе позна? Як паснедаў, дык запрог і паехаў.

Зайшлі ў хату. Услед за імі прыйшоў і гаспадар. Следам за мужыком адчыняе дзверы й гаспадыня ў падранай шарачковай куртцы й падперазаная скарачом з махрамі (яна перабірала бульбу ў паграбцы, што ад насенніцы асталася). Ідзе сабе, на Хвядоса адным вокам заглядае й пасміхаецца.

— Дачакаўся-такі!

Жвава пакуе Хвядос свае манаткі: кніжкі, адзежу, пасцель. А спакаваўшы, бацьку не даў у хаце заварнуцца, з гаспадарамі сёе-тое пагандзюрыць, што ў іх чуваць, распытацца, за кватэру рахункі звесці; разпоразу ганяў яго:

— Татка!.. едзьма!..

— Барджэй — не рассасулюйце!

Гаспадыня пакрыўдзілася за гэта:

— Бачыш, як мы табе азыралі!

— Прыказка й праўда: дзе воўк радзіўся, там і куст ямуміл.

— А вось і няпраўда,— запярэчыў гаспадар.— Я ў Ігумені радзіўся, а тутака як абжыліся, дык калом не выганеш.

Хвіліну за гадзіну Хвядос палічыў, што ў хаце яму давялося прабыць. Калі ж бацька пачаў развітацца з гаспадарамі, ён без памяці паляцеў на двор, як галавы не зламаў. Старая «каштанка» стаяла ў аглаблях, адвесіўшы губу, як той лубок, што некалі на Вялікдзень па ём яйцы качалі.

— Газеты чытаеш,— звярнуўся да яе Хвядос любым выразам свайго бацькі (той вунь да чаго раўнуе кабыліну адвісшую губу).

— Ты б хаця развітаўся з людзьмі, як чалавек,— шапянуў яму бацька з дакорам.

— Шчэ папраўлюся,— адказаў.

І толькі выйшлі гаспадары на ганак, з капыта рушыў да іх.

— Ну й жваў жа ты! — казаў гаспадар дзівячыся.

А на бацькаву драбінку так спрытна скакануў, бы яго хто спружынаю ўскінуў.

— Бывайце здаровы!.. Жывеце вясёлы!..— крычаў з воза.

— Аставайцеся здаровенькі!

— Паедзьце здаровы!

І гаспадар з гаспадыняю датуль глядзелі на іх хурманку, пакуль яна не прапала за павароткаю. А тады моўчкі пайшлі кожны за сваю спынёную працу.

* * *

Дарога сухая, як мур. Па ёй коціцца Хвядосава хурманка, а за імі ўслед даганяе — не выперадзіць доўгі хвост пылу. Сцелецца ён на малажавую рунь ярыны, на людзкіх плячах, шапках. Даўно як тутака дажджы былі. Людзі чакаюць іх — не счакаюцца. Кусок папары, што адзін-адным чарнее ў моры зялeніва, як цэгла зрабіўся і пакалоўся нават. Многа калдабаноў у каляінах. Драбінку трасе, у бакі носіць. Не пускай, падарожны, языка на зубы: ураз адляціць. Бацька «нокае» і мацае пугаю ў «каштанкі» мякчэйшае месца, дзе б горш балела (лянуецца — бо цягнуць, старое шэпшала).

Пад узгорак цішэй паехалі. Абодва маўчаць, аб-глядаюць сенажаць каля маленькай рачулкі, абапал густа ўросшай дробнаю лазою й алешнікам. Бацькава кемкае вока зялёны мурог кладзе на вазы. «Колькі ж гэта будзе?» Хвядос мяркуе, што ў гэтай луцэ можна добрую калекцыю па заалогіі й батаніцы падабраць.

«Дрэнь — усё»,— падрэшту дае цану сваім меркаванням. Не яго гэта цяпер справа. Людзі рогат справяць, калі стане блазнаваць ды валачыцца дзеля кветак і розных там шалупаек пад рэчку. З гэтага дня ён сталы чалавек, гаспадар.

І абодва перабіраюць вачыма саўхозскую сенажаць, завідуюць, што добрая.

Пачынаецца ціхая гаворка падарожных. Бацька гэтак доўга распачаў, што, мусіць, хопіць да самага дому.

— ...Я ўсё аб табе... Усё ты ў мяне наўме. Кепска табе выпала... Што ж зробіш? Нельга начай... няма чаго маркоціцца. Зямлі будзе з нас... пяць дзесяцін... аж надта! Толькі рабі... абы здароўе!

А потым:

— Што вучоны? Добра — дык пан, не раўня нашаму брату. Спракудзіўся ж у чым крыху — дык і пастух. А ў галодныя гады, у самую завaруху што рабілася? У гаспадара таго чорнага, карэлага ўсе гэтыя панкі й палупанкі скарынку цвілую прасілі даць... калі то голад прыскічыў! Гаспадар жа,— і пры гэтым бацькаў голас, як можа, урачыста звініць: — Гаспадар, крый божа, толькі бяды якой ды напасці, дык ніякага чорта не хоча знаць. Адно да турмы не ведай дарогі.

— Ат! Што казаць?! — кажа ён пасля кароткага перапынку.— Будзем працаваць, дык і хлеб будзе свой на стале. Прыказка й праўда: няма лепшага панства, як гаспадарства. Не дурныя людзі казалі.

Яшчэ доўга йдзе бацькава гамонка (адкуль толькі яна й бярэцца?!). Многа ў старога планаў, як жыць. Ён хоча сына на век вечны пусціць па калдабаністай гаспадарскай дарозе.

Хвядос усё на вум бярэ. Часам урэдкую перапыніць бацькаву мову пацвярджальнаю заўвагаю ці адным толькі словам «але!», «гэтак!». Слухае ён. Што па яго выходзіць, а што й не: напроціў яго думак. Ды не хочацца Хвядосу бацьку пярэчыць, урачыстасць яго сумнай радасці перабіваць. «Ат! хай сабе й так будзе». Слухаць — слухае, а сваё наўме трымае:

«Каго ж дома пакінуць? Маці, бацька, сястра ды ён, і па ўсёй сям'і. Пакуль стары крапіцца, жывецца як ось як. А калі брыкне ці занямoжа — дрэнь справа тады. Бацька зычыць усё кінуць, усё забыцца. Не! не за гэтым ён едзе ў бацькоўскі дом. За гаспадарства бішчыра возьмецца, але й кнігі не выпусціць з рук. Бібліятэкі абходзіць, у знаёмых што-колечы зарве да часу. А толькі калі надарыцца вольная хвіліна, дык ён і зірне ў іх мудрыя лісты.

Курыць ад пылу дарога. Духам імчыцца ў Жыздрыцу іх драбінка, маляваная ў вішнёвы колер. Мінулі кудзерку бору. Далёка ззаду засталіся пясці прыместочковых палёў. На сустрэчу ім расчынілі свой калідор прысады, што шылам сходзяцца перад самаю Жыздрыцаю. Клянкі паабапал пасплятаціся сваім голлем над дарогаю, засланіў неба іх зялёны навес. Зацень на дарозе ад іх лапушыстай зеляніны. Ледзь знаць па лістах, што вецер вее.

Дома на пастаўніку першы з імі прывітаўся белашывы сабака з добрае цялё. Перадкуе каля Хвядоса, лезе лашчыцца.

— Лыска, дай лапы!

Пагладзіў трохі, а тады к бацьку падбег:

— Тата, можа, вам памагчы?

— Ідзі сабе ў хату. Я й сам выпрагу.

Толькі згледзела і йдзе на гумно маці. Сястра з хаты ў вакно паглядзела. Як бы яны яго ў першы раз бачаць!

«Вясёлы — значыцца добра сышло»,— здагадваецца маці.

— Ну як?.. Здаў? — пытае.

— А як жа!

На вуліцы Мікалай — аднагодак з ім — стрэўся. (Некалі ў пачатковай школе ў адным аддзяленні сядзелі.) Усміхнуўся нечага.

— Як справы?

— Добра!..

Надвячоркам прыходзіць Базыль на іх двор вады з студні ўзяць, бо ў сваёй кот надоечы ўтапіўся. Спусціў з каромысла вёдры. Бярэцца за вочап. Ды згледзеў Хвядоса.

— Не зрэзалі?

— Чаго яны зрэжуць, калі ведаеш.

— І гэта праўда.

Усё даўно знаёмае. Усё міла й дарага.

На двары два клянкі, да баравікоў падобныя, зялёнаю стрэшкаю ківаюць. Ад ценжару яблыкаў, ігруш у дрэў пазвісала голле ў садзе. Падгалістыя бярозы за сажалкаю драцянымі цыбінкамі звоняць, шапацяць лістам-драбязою, аж заходзяцца, пахінуліся на ўсход.

— Дзе-дзю-дзю!.. цкі-цкі-цкі,— без канца на суседнім двары кліча Параска падсвінкаў, што з хлява дропнулі, як карміла.

— Ці не бачыў ты дзе часам падсвінкаў двух? — папыталася яна ў Хвядоса, праз шчакеты яго ўбачыўшы ў садку.

— Не! не бачыў.

— Толькі што вырабіліся з двара і як у воду палі. Дзю-дзю-дзю!..

Роднае ўсё. Свая дамоўка тут.

II

Ні піску, ні крыку-гоману: ціха ў хаце. Крыху парушае ўрачыстасць сціхаты рой мух, што таўчэцца на вакне пад слонца, б'ецца ў шыбы, натрусам укрывае жоўтую хварбу рам, але ўсё гэта — дробязь.

З паўкапы мух шчакоча Хвядосу твар да прыкрасці, залазяць у нос. Можа затым ён і прачнуўся. А прачнуўшыся, не ўслед расплюшчвае вочы, а перш адным махам рукі ўзнімае слату мух з твару й шчэ ляжыць сціхатою, цешыцца з ціпыні бацькаўскага дому: не зварухнецца. Слухае, як мушыны рой гудзе на вокнах, як шпакі з вераб'ямі сварацца за старое сваё гняздо на клёне перад акном. А мухі счуліся Хвядоса: па аднэй злятаюцца на твар, спацыруюць па павеках, смокчуць яго ссохлыя губы, драсуюць шчокі. Яму зараз жа гэта абрыдала, і ён зірнуў.

У хаце, апрыч яго, каб душа жывая.

З двух акон ідуць бліскучыя палосы. У іх цярушыцца мяцеліца пылу. У спрэс чорнага ката, што на лаве «хурню» пяе, шэрсць усыпана зоркамі драбней макавага зярняці. Вось ён стаў на лапы. Выгінае спіну, пацягваецца. Тады спакойна спацырам ідзе па лаве к сталу, як добры гаспадар, збіраючыся снедаць. Гальданўў на стол: уваткнуў морду ў міску з нейкаю стравою, што маці за работаю забылася па сняданні прыняць. Хлебча сабе, як бы гэтак і трэба.

Хвядос усё чыста бачыць, але не гукае; чакае ён: што тут будзе?

— Апсічак, каб ты здох! — не выцерпеў-такі. І кот кумільгам шмыгнуў ■ стала. Апынуўся на печы. Сеў сабе й мыецца (а гэта па матчынай прымеце паказвае, што госці маюць быць).

Зноў ціш, спакой... як дома.

Ніхто не прымушае — свая воля. Няма дзевятай гадзіны й журнала прысутнічаючых. Сам сабе гаспадар.

Хвядос падзівіўся з добрых парадкаў у бацькаўскай хаце, устаў ды пайшоў пад студню мыцца з цэбра, сёе-тое ўздзябурыўшы на сябе.

Бачыць: цень ад кляноў на паўночны захад пахінёна. Зірнуў на слонца — такі ж высока.

«Пэўне лекцыі дзве праспаў бы»,— падумалася.

Сам сабе ўсміхнуўся.

«Ведама першы дзень дома — здарожыўся».

Пайшоў у агарод шукаць мацеры, каб паядаць дала. У садку, у зацені трава Хвядосу ў калена. Красак у ёй як у касавіцу на канюшыне, толькі рознага колеру. Над імі пчолы завіхаюцца, цягнуць ■ рыльцаў салодкі сок. Ценькімі галасамі ад пчол звініць зямля наўкола. Кулямі сігаюць яны, лецючы ў суседні вулей. Хвядосаў жа стары хоць мёд і густуе, але не любіць пчол, што кусаюцца моцна, дык затым і не трымае пчэльні. А варта б было: блізка рэчка з вялікімі лукамі, на полі грэчкі многа высяюць, і лес блізка.

Зайшоў у адчынены ток. Там бацька пратае староны, куравае сена — астачу ад зімы — верне на перадточча. Хутка жыздраўцы пойдуць канюшыны-бардзаспейкі касіць, дык трэба ж месца даць. Убачыў той Хвядоса:

— Цяперака ўстаў?

— Але. Можа памагчы?

— Невялікая праца. Упраўлюся й сам.

Маці ■ Ксеняю (сястрою Хвядоса) за токам агарод палолі: поркаліся каля капусты. Ксеня толькі згледзела Хвядоса, дык і адазвалася.

— Выспаўся?

Хвядос змоўчыў.

— Позна ж, паніч, адпачывалі! — зноў пакеплюе яна.— Хацела за нагу ■ ложка сцягнуць, ды на першы раз уважылася.

— Я б цябе сцягнуў, нябось!.. Мамка, ідзіце ўлійце чаго есці.

Доўга чакаюць вечара, калі ніякага занятку няма. Абрыдзены тады зробіцца дзень... канца-краю яму нямашака. Маркоціцца Хвядос. Без дай прычыны швэндаецца нага за нагу па дварэ, гумне, каля будынку. Потым дай, думае, схаджу на поле збожжа пагляджу. Як сказаў, дык і пайшоў. Прайшоў мяжою навозную ніву, як доўга была. Аўсы добра ўрунялі й колерам удаліся зялёныя, як не чорныя, што — знак на добры ўраджай. Картаплянік на картоплі ўжо ў калена парос, а як сама картопля ўдасца — невядома. Зрабіўшы гэтакія назіранні, Хвядос выйшаў аж на папярочную сцяну. Ісці ў другі палетак не было ахвоты, і ён завярнуўся пад дом. Пад ціхі шопат аўса з бакоў думалася, дзе б знайсці які занятак.

«Трэба дзе паблізу хоць хату-чытальню апароць ды

пашукаць у ёй чаго добрага з кніжак»,— парашыў ён на гэты раз.

А тым часам сонца паднялося на паўдня. Дома, пэўне, за стол палуднаваць селі — тое ведае Хвядос і прыбаўляе кроку, хоць і дом — рукою падаць адсюль. Зараз жа апынуўся там.

Узышоўшы на гумно, бачыць: полюць маці з Ксеняю ўжо мак, бацька рэзьгінамі носіць куравае сена ў гной. Як сціскае вязку, дым з яго верне, нібы ў пяску дзе качалася гады са тры. Перш бацька вязку падыме на страху току, а ўжо адтуль злаўчыцца й на плечы ўзяць: усё мадыгуецца як сабе лепш ды лягчэй. Хвядос к яму ў час падаспеў: толькі што той вязку ўціскаў. Дык паддаў яе бацьку на плечы й памалу пайшоў у хату.

Трохі пачакаўшы, за ім сабраліся й усе сем'яніны на полудзень. Спаважна й моўчкі селі за стол. Бацька заняў сваё спрадвечнае месца з канца стала ля хлеба, які яму заўсёды выпадала рэзаць на лусты. Сеўшы, ён ціха, але ўпэўнена прагаварыў:

— Лі там, старая, капусты крыху!

І пакуль развесяліліся, дык выменцілі цэлую міску капусты. Падліваць яе ніхто не пажадаў, і маці паставіла другую міску затоўчанай куцці з картопляю. Тады толькі разгаварыліся. Перш маці папытала Хвядоса, куды ён хадзіў. Хвядос адказаў:

— На навозы.— І пры гэтым пераказаў зробленыя тамака назіранні над аўсом і бульбаю.

Тады маці з Ксеняю ўдзвёх паведамілі, як да іх у агарод падышла Параска. Села ў баразне. Выняла з-пад паясніцы мяшэчак з тытуном і, звярцеўшы «суслу», давай пэхкаць ды казаць, што Мікалай Ярмак з качалкаю на жонку насядаў за невашта, а яна яму чапялою адпор давала, які там вэрхал быў узняўся і што за словы чулі людзі з вуліцы. А пра самую Параску маці зазначыла:

— Я б яе за гэтыя «суслы» з прадзелаў Беларусі праштырыла б, як тыя суды судзяць.

Бацька ж толькі пасміхаўся й з вэрхалу ў Ярмаковай хаце й з Парaскі з яе суслаю. А вылазячы з застолля, сказаў:

— Пашалелі людзі.

І потым, надзеўшы шапку на галаву, з парога дадаў, як бы раздумаўшыся:

— Яно й даўно гэтак было.— Ды пайшоў за дзверы.

Зноў па полудні пайшлі хто куды віда за работаю. А Хвядоса ў хаце пакінулі. Неяк неўзапаметкі адбіўся ён ад другіх. Няма яму ні дзела, ні работы, дый годзе. Дык давай капацца ў скрынцы, лепшыя й навейшыя парадкі ў ёй устанаўляць. А тамака ўсё падручнікі ды падручнікі. Адна «Новая зямля» завалялася. Дастаў яе. Борзда знайшоў «Дзядзька ў Вільні» — свой аблюбаваны раздзел. Стаў услых чытаць (балазе ў хаце, апрыч яго, няма нікога. Не любіў Хвядос, каб хто збоку слухаў, калі ён што сам сабе чытае).

Дачытаўся да канца раздзелу й палажыў кнігу, дзе ёй месца ў скрынцы гэты раз прымеркаваў.

Зноў хата-чытальня ўзбегла на вум.

«Трэ было б дзе паблізу схадзіць...»

Але пасля нядоўгай развагі парашыў, што

«будны дзень... усе працаю заняты, а ён, як які бяздомны, павалачэцца чортведама куды ў дзесятае сяло».

Цвёрда й канчаткова сам сабе сказаў:

«Не! не трэба. Хай другім разам...»

Гэтак яно й асталося.

І па поўдні да самага вечара хадзіў-блудзіў Хвядос па сваёй сядзібе. Памог бацьку двое рэзьгін курава ў хлеў на подсціл затарабаніць, а пра рэшту бацька сказаў:

— Я ўжо гэта сам... сам зраблю.

І больш сам насіў.

Ледзьве вечара дачакаўся Хвядос.

— Сёння па коні я пайду,— апавясціў тады.

— Як сабе хочаш.

Пачуўся слабы халадок, як сонца спусцілася за жыздрэцкія стрэхі. Зараз за гэтым і пусціў у вёску авечак пастух.

— Авечкі! авечкі, авецкі!..— загукала дзятва на вуліцы.

Кінула маці картоплю ў цэбры перамываць — пабегла на вуліцу. Ёй у помач з-за каліткі ў садок выскачыла й Ксеня.

— Ашкіра дамо!.. ашкіра дамо! — ужо чуваць іх галасы з вуліцы.

Хвядос у сенцах на цвіку знайшоў вобрацъ, ускінуў на плечы свой картовы фрэнч з паадрыванымі ўнізу

кішэнямі, на борздую руку зірнуў у люстэрка, паправіў шапку ды выйшаў на двор.

Зірнуў цераз шчакеты ў адзін канец вуліцы, у другі — нікога не відаць па коні йдучы.

«Пачакаю крыху»,— сабе думае, дый узапёрся на шчакеты (добра, што нізкімі бацька загарадзіў і з круглымі вярхамі).

Нікога на вуліцы не відаць. А калі зірне Хвядос на навозную сценку — ідуць туды гуртам мужчыны, відаць, нешта гамоняць, калі пальцамі паказваюць туды, дзе дзелася сонца.

«Мусіць, згадуюць пагоду на заўтра»,— здагадваецца Хвядос і адчыняе вароты, каб дагнаць іх, вінавеціць сам сябе за прастой — гэта ж так і коні б людзі дамоў прывялі б, а ён усё таварыства чакаў бы.

— Гэй!.. куды ты? — чуе Хвядос збоку.

Абярнуўся туды, дык гэна ж Мікалай тож з вобраццю пад яго шыбуе. Прысланіўся к хаце да часу.

— Па коні?

— Але. І ты?

— Як бачыш.

— Дык барждж эй жа! Мужчыны даўно па навозах пайшлі.

— Паспешымся.

— Ідзем і мы на наша гумно ды па навозах.

— А там сцяною... Бліжэй будзе.

Калі выйшлі з гумна, відаць быў толькі акраец сонца з маладзік велічынёю і штораз глыбей уязджаў за небасхіл, а наўкола яго неба й хмары крывавою чырванню ірдзелі. У пагонца ■ вярсту ўдаўжкі пастух гукаў на каровы:

— Адо-о-ду-ум!.. Куды, га?! Чарна! Каб цябе вывалаклі! Куды га?!. Куды-ы, воўчае мяса!!. Раба!..

А наперадзе стадку йшоў падпасавіч, памахваючы пугаю, збіваў кветкі з падбелу, спрабаваў пугу, ці спусная: свішча, падла, добра; а дзе сустракаў вароты адчыненыя, дык зачыняў.

Уперадзе хлапцам відаць было шырокае балота, што належыць сваімі кускамі пяці вёскам, якія абступілі яго ■ усіх бакоў, а ад залеташняга году, як падзялілі панскі двор і завялі саўхоз, дык яшчэ да вёсак і тры пасёлкі прыбавіліся на краёх гэтага балота. Цяпер яго, дзе ні кінь вокам, было ўсыпана гуртамі коней і людзей. Людзі сядзелі вялікімі кучамі ды гаманілі не-

шта спрэчнае, бо здалёк час-часам чуваць былі іх моцныя выгукі. Да гэтых прыстанішчаў па залёных грудах і па ўкрытым жоўтымі кветкамі балотных ваўчкоў куп'і мокрых мясцін валакліся мужчынскія і жаноцкія постаці. А па берагах пакапаных некалі графам канаў, цяпер заплыўшых тванню і ўрослых зялёнаю спакуслівою травою балот, якая часам падманьвае збродлівых кароў, каб яны ўгразлі, палезшы за спакусаю,— па берагах канаў стаялі кудзеркі алешніку.

Ідуць сабе хлопцы грудам ля поля сярод шырокіх, але затое рэдка паросшых купін з пахучым чабаром і ціхенька гамоняць аб сваіх інтарэсах.

— Кажаш, скончыў сямігодку,— пытае Мікалай,— а цяпер куды?

— У Жыздрыцу.

— Чаму ж ты гэтак?

— Не выпадае начай. Трэба быць дома.

Потым маўчаць.

Ізноў першы пачынае Мікалай:

— Выходзь сягоння на вуліцу — субота ж (тое ведай).

— Ды ўжо ж.

— Незаводня выходзь.

— Дзе цяпер збіраюцца?

— Дзе зарвуць... Пройдзеш вуліцаю — убачыш. Дзе дзевак застанем, там і зборня ў нас.

Пры конях яны засталі гурт мужчын з хлапцамі-падшывальцамі. Трохі водалей ад іх на куп'і сядзела тры малыя дзяўчынкі. (Сталейшыя трохі саромяцца па коні хадзіць, а злашча ехаць конна дамоў. Калі ж па якой прычыне й давядзецца каторым гэты абавязак, дык мяркуюць ісці так, каб адразу ўзяць каня й дадому весьці ў руках пазадзе гурту.) У мужчынскім гурце спіраліся аб патравах. Антось казаў:

— Як пусціць каторы, скраўся ды штырхануў якім ражном, каб скіпела здыхата на месцы. Тады, нябось!.. схадзіў бы ў...— і тутака ён назваў сваім імем адну вельмі несамавітую рэч,— па розум: не пусціў бы другі раз.

А яму пярэчылі:

— Хаця й не парні! Як парнуць цябе гадкоў на тры, ды шчэ калі прыпякаюць за ўрон спагнаць, дык дзесятаму закажаш...— а «што закажаш», так і не сказаў, толькі па выразу яго твару можна было здагадац-

ца, што дужа кепска таму будзе, хто адважыцца штырхануць.

— Што трэба прасадзіць, закажаш? — яму дапамагаючы, адазваўся Антось.

— Тады інакшае запяеш. Гэта табе не жэрдку ў лесе спусціць.

— Трэба ж рабіць, каб сляпыя не бачылі.

— Дудкі!

— Патрубіш у кулак (не трэба будуць дудкі), як бяда прыпрэ.

І сонца няма ўжо, а ўсё спіраюцца мужчыны. З пярэстых хмарах кроў даўно сцякла, а калі — ніхто не ўгледзеў, у свой шараваты колер увабраліся яны. Пачало змяркацца. Даль штораз цямнее, і плошча, як вокам згледзець, саступаецца ўсё вузей і вузей наўкола іх.

Дагэтуль усё ішлі-брылі, хто спазніўся, па коні, а ўжо кінулі ісці: значыцца, усе тут.

— Ідзем, мужчыны, коні браць!

— Пара!

— Да ўжо ж...

Такія аказаліся галасы.

Паўставалі, хто сядзеў ці прылёгшы быў. А хто стаяў, дык адразу й рушыў к каню. Заварушылася й дзятва. Яна ўжо наперадзе, толькі як большыя крануліся.

— Дзядзечка, падсадзіце трошкі! — просіцца нейкае малое ў табуне людзей і коней.

— Зараз, толькі паджаробка злаўлю.

— Кось, кось, кось!..— крычыць малы, ідучы за простым канём, выставіўшы шапку, каб падманіць, што дасць аўса. А конь (няма дуру) і блізка не дасца падысці, іграе па куп'і, паставіўшы дудою хвост.

— Кось, кось, кось!..— ужо з плачам у голасе кліча малы, утаміўшыся бегаючы.

— Дарма гойсаеш. Ідзі дамоў, а конь сам за гуртам уляжа да дому, воўк яго не возьме.— Гэтакую параду дае яму нехта з сталейшых мужчын.

Хлапцу давялося паслухаць. Надзеў шапку на галаву, насунуў брыль на самыя вочы, каб слёз яго, ад злосці што, не было відаць, шчэ грозіць наравістаму свайму каню:

— Я ж цябе,ваўчына, пачастую!.. Ты ж у мяне пападзеш!..

Збоку едуць конна гэтакія ж самыя падшывальцы, як і той, што ідзе.

— Гэ-э!.. Як табе собіла?

— Не ўлавіў, не ўлавіў!.. Але ж і брыдка: ...не ўлавіў!

— Сядзь пад'едзь!.. Гэ-э!..

Злосці тут маломý, як не разарвецца, але трывае і маўчыць.

Доўгі хвост конных выцягнуўся па сцежцы, утоптаной у некалькі радоў, якія то сыдуцца блізка адзін к другому, як рукою падаць, то на паўганей разбягуцца ў бакі, абмінаючы ямы й густое куп'е. Мужчыны і цяпер абзываюцца адзін да другога кароткімі заўвагамі. Там жа ў гурце нехта паскардзіўся, што мала травы на балоце — й жыздрыцкі набытак ды коні дамоў ідуць, а кішкі марша ў іх іграюць.

— Мала табе — на начлег едзь,— адсек яго Антось,— няма чаго пухнуць ад сну.

Хвядос моўчкі неўзапаметку ўзяў на вобраць «каштанку», хвацка прымайстраваўся з добрай купіны гальдануць ёй на спіну і ехаў у сярэдзіне табуна. Ніхто нічога да яго не прагаварыў, і ён нікому нічога не сказаў-адказаў. Гэтак і ехаў да самага дому.

У варотах свайго двара яго стрэў бацька і ўслед за ім зачыніў вароты. Ужо было цёмна. Вобмацкам знайшоў вароты ў загарадцы й зачыніў іх, упусціўшы на сваё месца кабылу.

У хаце ўжо гарэла лямпа. Маці вілкамі цягала з печы гаршкі з стравою. Хвядос, нічога не чакаючы, сеў на зэдлік ля стала, каб вячэраць. Маці зараз яму падставіла гліняную міску капусты. Высербаў паўміскі капусты, трохі пакаштаваў забеленай куцці ды й вылез, пакінуўшы за сталом двое старых. Глядзіць, дзе ж Ксеня. А таей ужо даўно й след прастыў, недзе к таварышкам пабегла.

Успомніў Хвядос свае слова, што даў Мікалаю, і стаў збірацца на вуліцу. З лавы ўзяў хартовы свой фрэнч, уздзябурыў на плечы. Шапку знайшоў на ложку ў парозе.

Выйшаў на двор.

Было шчэ вораней пары. Вуліца пуставалай сцішылася на гэты раз. Яшчэ людзі вячэралі, у знак чаго й гарэлі агні маль не ў кожнай хаце.

«Куды б пайсці?» — паставіў сам сабе Хвядос пытанне. Нідзе нікога не чуваць, не відаць.

Па-старэчаму ўзапёрся ён на нізенькія шчакеты з круглымі вярхамі каля хатняга вугла. Чакае, пакуль хто з яго таварыства будзе па вуліцы йсці. Хто — як хто, а Мікалай павінен пад яго падысці: ён дружны хлапец. Цераз гумно відаць, як неба на поўначы чырванню наліта, пасмамі відаць яно паміж фіранкамі хмар.

Хвядос то ў адзін бок зірне, то ў другі: каб дзе хто зварухнуўся на вуліцы, цёмна — чорна, як у невыпраганым коміне.

А калі трохі ён пачакаў, дык і дазнаў, што сваё гаданне праўдаю сталася: запамеціў у цемрадзі Мікалая. Борзда той сігаў па сцежцы каля шчакет ■ другога боку вуліцы. Падышоў бліжэй і ўжо намерыўся быў свіснуць, ды ўгледзіў Хвядоса.

— Чаго ты чакаеш?

— Так сабе... Выйшаў вот ды, думаю, пачакаю трохі, ці не ўгледжу каго. Хто там ёсць на вуліцы? — папытаўся.

— Каб душа дзе жывая.

— Яно шчэ рана, павячэраць не ўправіліся.

— А Ксеня дома?

— Як прывёў кабылу, дык толькі яе й бачыў. Шмыгнула недзе.

— Ідзем,— кажа Мікалай.

— Куды ты пойдзеш ад гэтай пары?

— Недзе некага знойдзем. Зараз павыходзяць на вуліцу...

Хвядос адчыняе вароты й выходзіць на вуліцу. Садзіцца на прызбу і кажа на Мікалая:

— Сядай. Можа хто акажацца, тады пойдзем далей.

Мікалай яго паслухаў.

Тымчасам на ўзгорку з-за вугла выйшла чарада дзяўчат у белых хустках. Селі на прызбу. Нечага выскіляюцца. А як сцішыліся, запелі:

Трэба было, трэба было
Не хадзі-і-іць!
Трэба было, трэба было
Не хадзі-і-іць!
Чым цяпер, чым цяпер
За-бы-ва-а-аць!

— Пойдзем, Хвядос, у наш канец.
— Што ж тамака, у вашым канцы?
— Не гэтакая глуш, як у вашым.
— Якая табе глуш?! Чуеш, як пяюць!
— Што з іх песень? У нас лепш... тамака меншыя дзеўкі збіраюцца, хлопцы свае; а мала табе сваіх, дык яшчэ й хатніцкія падыходзяць.

Ідучы, пахвалілі Язэпа за яго тратуар, адзін на ўсю Жыздрыцу. І хоць сцежка была,— што камень на магіле: сухая й гладкая, але хлопцы звярнулі на тратуар. Калі высока падымаць ногі й цяжка ступаць, дык гэтыя дзве дошкі, паложаныя толькі сваімі канцамі на пакладох, стукаюць, аж ляха йдзе па вуліцы. Хлопцы гэта ведаюць і, йдучы па Язэпавым тратуары, так заляпалі, гэтак застукалі, што, пэўна, прачнуўся Язэп і скляў цяжкаю клядбою той дзень і тую хвіліну, калі сабе гэту бразгалку пад акном палажыў. Ужо даўно, кажуць, ён збіраецца вылучыць вольны час і прыняць гэту людскую выгаду, а свой неспакой.

— Толькі каля гэтага бабздыр'я,— навучыў Хвядоса Мікалай, гэтак завучы сталейшых дзяўчат, што на ўзгорку сабраліся,— ніколі не занімайся. Хлопцы нашы з імі ў злосці. А павядзеш лады, дык і не ўгледзіш, калі з-за вугла памыямі апалошчуць.— Пачакаўшы крыху, шчэ дадаў: — Гэта добра, калі памыямі, а то гатовы гэтакую штучку выкусіць, што й брыдка, й гадка будзе.

— Ды ўжо ж... Дзе ты, там і я буду вяртацца.

Гэтак спрадвеку вядзецца тут: б'юцца, злуюць, спасцігаюць адны другім, хто чым можа: адны языком, другія пошвыркам з-за вугла.

На гары яны й не заўняліся. А пра «дабрывечар» і казаць няма чаго: моўчкі пасунуліся. Толькі азірнуўшыся назад на Мікалая, Хвядос заўважыў, што той знарок удаў выгляд храбрага ваякі, а як мінулі гару, дык і ён асеў, й задзёр прайшоў.

— Чаго вы зеваеце, каб вам пазаймала! — гукнуў і ў той бок не гледзя, ужо мінуўшы.

— Яркія, бачыш, сталі.

А потым ні з таго ні з сяго Мікалай заўважыў:

— Будуць вам пераплясы.
— Але не праз тваю ласку.
— А можа, і праз маю.
— Слабо!

— Не саслабіць, калі наважым,— ужо з трэцяга грунту гукнуў Мікалай.

На прызбе чацвёртай хаты з канца, па правым баку ў вёску йдучы, валаводзіцца моладзь. Калі падышлі туды хлопцы, там ужо, хто зарваў, сядзелі з дзяўчатамі. У гамонцы іх не было агульнасці, толькі быў вялікі гоман на ўсю вуліцу. Збоку нельга было ніводнага слова разабраць і магло падацца, што ў пчэльні канцавога Ігната высыпаўся рой (толькі што вечар). Тамака былі два сталейшыя, яшчэ нежанатыя, хлопцы і Хвядосава таварыства да апошняга хлопца, як бы ім хто загадаў сабрацца ў гэтым месцы. З яго сяброў перадкаваў у гурце Платон Ліняўскі. Ён смяшыў сваімі выхілкамі і ўтыкаў свой язык усюды, дзе толькі можна.

— Добры вечар! — прывітаўся Хвядос.

— Дарыць нечым.

— Дабрывечар.

— Добра білі — добра енчыў.

На розныя лады й галасы адказалі з гурту.

Хвядос перш-наперш стаў пазнаваць, хто ёсць у гурце. А Платон, галоўная асоба тут, тым часам падбліжыўся к быдлячым пастушкам, што асобна сваім кагалам сядзелі ў канцы прызбы. Тамака йшла сур'ёзная гамонка пра саўхознага паплаўнічага. Вельмі ж ён за саўхоз бярэцца. Каб дзе малечка што перапусціў, дык не. Гэтага ад яго не заробіш. Толькі прыпусціся дзе ў сенажаць ці ў сакаўную маладзенькую канюшыну-лазоўку — зараз жа прапсюрыць (калі пад лад яму), а не — дык і ў хлеў забярэ ў саўхоз. А адтуль ужо без трох рублёў не возьмеш набытку дамоў. Крані толькі што, дык і ён ужо падаспее на той час з стрэльбаю. Міхалку Донькаваму калі шлейнуў поўху, дык і звіўся хлапчына. Каторы раз яго ганяў паплаўнічы, а ён (няма дуру) пішчаліцаю лезе ■ сваёю кароўкаю.

— Дайце, падшывальцы, закурыць! — зачаў з імі гаворку Платон.

Адзін пастушок вывернуў кішэню з капоты й вытрас усё, што было ў ёй, на крысо.

— Дай, Бладзік, паперы! — загадаў другому.

— На,— падаў той рог «Беларускай вёскі», што заўчасне з сельсавету сцібіў.

Платон, як знакаміты па часці курэння, зараз перамацаў тытун у крысе і выняў адтуль крошку хлеба, як вераб'ю на раз пад'есці.

— Што гэта за тытун?! Гэта ж можна й накурыцца, й наесціся. А каб ён гарэў! — І даў кулаком з-пад нізу ў крысо з тытуном.

Малы як не заплакаў, але ўважыўся на кепікі і толькі злосна зірнуў на Хвядоса (а Платон у цемрадзі й не бачыў таго).

— Чаго ж высыпаў? Не хочаш — не трэба.

У гурце моладзь з нечага справілі смех. Усе, хто ведаў яго прычыну, як не качаліся.

Спахваціўся й Платон. Шпарчэй маланкі ён апыніўся там, дзе рогат. Цікнула:

— Чаго вы? З чаго смех.

— Нам ведаць.

— А мне?

А Хвядос перш пастаяў з паўгадзіны ля гурту, а потым, загледзіўшы пустое месца, як аднаму сесці, каля Ганькі Анцішэўскай заўчасне прысеў. А то стой чорт ведае чаго сярод вуліцы: гатоў хто наехаць ды аглаблі ў патыліцу загрэць. К пастушкам падсесці — смяяцца будуць. Хлапец мае семнаццаць гадоў (жаніць хоць у пятніцу можна) ды з падшывальцамі гешэфты вядзе. Куды гэта падобна!

> Ой, ляж, бяда!
> Ды пыляж, бяда!
> На ўсю ночаньку спаці...—

гуртам пела моладзь.

— Што ж ты ім не ў помачы? — пытае Хвядос у Ганькі.

— Не ўмею.

— Ілжы каму другому, а не мне.

А потым перайшоў на другую гаворку:

— Хваліся, што тут рабілася, як мяне не было.

— Ат! Што тут добрае будзе?

— А казалі, добрае йгрышча на Міколу спраўлялі.

— Якое там чорта — добра. Пазвалі музыку. Папярадзі ўсё добра было. А потым заневашта задраліся ды давай біцца. Мікалай з Змітрам і згрэбліся. Мы ходу дадому, а хлапцоў шчэ там пакінулі. Чым тамака скончылася — хто яго ведае. Толькі потым, кажуць, міравую пілі ды, упіўшыся, па вуліцы хадзілі, пяючы.

— Ганька!— клікнула яе тавармшка й перабіла мову.

— Чаго?

— Памажы!

— Давай!

А хвіліну змоўчыўшы, папала ў такт песні:

Рожа — лілея...
Рожа цвет губіць...

Тым часам [redacted] дарогі ўзышоў на вуліцу Бладзік Мотуз, адзін камсамолец на ўсю Жыздрыцу. Цалюткі вечар у Хатніках праседзіў на нейкім камсамольскім сходзе, ці паседжанні, і вельмі каяўся, што дома, у сваёй вёсцы, гульню прапусціў. А ўбачыўшы, што на прызбе шчэ сядзяць, каля гурту пусціўся ўпрысядкі, падпяваючы:

На вяселлі была
　　Не палуднавала.
Памаленьку скачу,
　　Бо я есці хачу.

— Каго ж ты там жаніў? — папытаў у яго Платон.

— Каго я жаніў... Доўгая гаворка гэта.

Гэтым часам дзяўчаты шапянулі адна другой, што дамоў пара. Згаварыліся разысціся. Разам, як па якой камандзе, усталі й пайшлі ў бок вёскі, а адна на двор пайшла, і чуваць толькі было, як бразнула завалка ў сенцах і скрыпнулі хатнія дзверы.

— Дзе ж вы дзевак дзелі? — пытаецца Бладзік, гэтага не згледзеўшы.

— Цябе збаяліся: уцяклі.

— Чаму ж ты не патрымаў?

— А ты чаму мне загадзя не аказаўся.

Позны быў час. Месяц справіўся перакаціцца цераз рухавыя хмары на захад і паказваў хлопцам адзін свой рог з-за маладых вішань, што растуць у агародзе ўдавы Лявоніхі.

Пад яго святло й угледзеў Бладзік, што Хвядос ёсць тут на прызбе.

— Хвядос!

— Чаго?

— У сераду зайдзі надвячоркам па мяне — пойдзем у Хатнікі на бюро ячэйкі.

— Добра. Зайду.

— А хто дзе болей ёсць на вёсцы? — папытаўся [redacted] гурту некаторы хлапец, што не любіць рана спаць.

— Які чорт дзе табе будзе да гэтай пары.

І праўда апошняга: на вясковай вуліцы была гэта-

кая ціш, што каб у гэтым канцы пераламаў частаколіну, дык, пэўна, у тым пачулі б трэск.

— Што, цяпер дадому?

— Толькі ж хіба...

### III

Школа стаіць наводшыбе. З канца вёскі да яе ганей са двое. Ад хат вясковых заможнікаў яна толькі тым розніцца, што гонтамі крыта, ды вокны ўвышкі, як чалавеку стаць, і з форткамі, чаго ніколі ў вёсцы не ўбачыш. Увечары тутака сціхата. Толькі калі-нікалі вясковы хлапец падлазіцца правесці дамоў з пагулянак дачку школьнага вартаўніка, ды пашэпчуць самі з сабою, стуліўшыся дзе ў цемрадзі. Дарэчы сказаць: каля школы дарога ўслана накатам ад тых дат, калі вайна з немцам была. У памяць падарожным гэты накат. Кожны раз ходзяць скіўіцы ўпрысядкі ў таго, хто едзе сюдою. Каб тое ставалася, што яго выклінали, дык даўно б трэ было праваліцца гэтаму месцу скрозь зямлю. Ужо каторы раз гандзюрылі камсамольцы, і аднаго разу на іх сходзе стаяў даклад пра гэта, што трэба суботнік зрабіць і сюды вазоў колькі пяску падвезці; але як сталі меркаваць, каму пяхотам на працу прыйсці, а каму [illegible] канём прыехаць, дык сход зацягнуўся ад паўдня да цямна, пасварыліся ў ахвоту, ды без ніякай рэзалюцыі разышліся па адным дамоў.

У гэтай самай школе й атабарылася камсамольская ячэйка Хатніцкага сельсавету. Толькі прыйдзе нядзеля, сыплюцца хлопцы сюды з усёй акалічнасці, абы звярнула сонца з паўдня. У два тыдні раз серадамі з агнём маленечкай газніцы тутака пацее над абежнікамі з райкома бюро.

Сёння — серада. У плане працы піша, што мае быць паседжанне бюро.

Жыздрыцкія камсамольцы, Хвядос з Бладзікам, ужо тут.

— Шчэ нікога няма,— кажа Бладзік, абмацаўшы на дзвярах замок з арэх велічынёю.

Звечара гэтыя дні цёмна: не відаць ні зямлі пад нагамі, ні тэлеграфных слупоў, кучаю зваленых проці школьнага ганка на той бок дарогі. Усё чорна, не чэрнячы. Кусты вішэнніку здаюцца кучамі гною, вывезенымі на школьны агарод. Неба, што дапрызыўніцкая

мішэнь, пабіта на бліскучыя дзіркі. Голасу людскога не чуваць. Толькі за двое ганей ад школы на вясковым вішэнніку ўгары сакочуць конікі.

— Заўтра пагода мае быць,— угадуе Хвядос.— Конікі ўверсе сакочуць.

— Ты верыш?

Хвядосу не было чаго казаць.

— Ну й камсамолец з цябе! — У бабскія «казалы» верыць.

— Я так сабе... Гэта ж прыкмета такая ў жыздрыўцаў ёсць.

— А хіба!..

Селі хлопцы на ўсходках ганка, паспускалі босыя ногі на росную мураву, дробненькі рамон ды трыпутнік. Хвядос замармытаў сам сабе пад нос нейкую «хурню», як не галодны кот у цяпле. Калі Бладзік прыслухаўся, дык выходзіць:

«Цары паілі нас манoccupied...»

Сядзяць пораўне й маўчаць сціхатою, пазіраюць у цемень вясновай начы. А ў цемрадзі ўсе прадметы трацяць акрэсленасць сваіх формаў і абрысу ды не то расплываюцца ва ўсе бакі й запаўняюць прастор сваім месівам, не то робяцца драбней макавага зерняці й збягаюцца ў адзін камяк. А ўжо ты глядзі на гэта ды саргуй паводле свайго густу, што й да чаго, як табе хочацца, ды глядзі, да чаго можа яго дараўнаваць.

У настаўнікавай кватэры чуваць ціхі авечы кашаль: перш сціхне, а хвілін колькі пачакаўшы, зноў усходзіцца дробненька пярхаць, аж здалёк здаецца, што тамака капусту шаткуюць вострым нажом.

— Табе не даводзілася ў гарадскіх камсамольцаў быць? — пытаецца Бладзік.

— Не.

— А ты ж надоечы казаў, што летась на экскурсію ездзіў.

— Ездзіў. Быў у музеі, тэатры. Бачыў, як шкло, як кнігі робяць. На электрастанцыю хадзілі.

— А ў клубах моладзі не быў?

— Не даводзілася.

— А я сёлета нагледзеўся... на курсы камсамольскага актыву камандыравалі мяне. Два тыдні дулі тамака на ўсе застаўкі. З самай раніцы дзве гадзіны напяваюць палітграмату, а сама што ўвечары за электрычаствам яшчэ дзень у дзень тры даклады. А так ца-

люткі дзень вольны. Дзе хочаш швэндаешся. Куды табе люба валачэшся. Тады я й нагледзеўся. У горадзе не тое, што ў нас. Там — камсамол... ого, што там камсамол! Калі сход пачнуць, дык сход за маё-маё, а не зборышча, не брахалка. Ідзецца парадкам: даклады, спрэчкі... актыўнасць! А на іх камсамолак каб ты паглядзеў — баявыя дзеўкі. У нас жа ўжо каторы раз прэ райком паперкі «аб працы сярод дзяўчат». Сакратар іх нам на сходзе чытае. Прачытаем... зірнём адзін аднаму ў вочы: «Ці не скажаш ты (знай дзела) чаго». Перш маўчаць усе. А потым, як стане сакратар кручкі загінаць, дык і хлопцы палягчэюць на язык. «Ты яе, дзеўку каторую, на ланцуг вазьмі,— кажуць нашы хлопцы,— і то нават блізка пад ячэйку не падцягнеш. Іх толькі на выскількі й здало і ўрода гэтакая». На гэтым і канцы ў нас.

— Куды там вёсцы да гораду раўнавацца.

— А ведаеш што?! — ужо хапіўся Бладзік за другое.— Як вярнуўся я з курсаў, дык хлопцам так і сказаў: «Я бачыў, як у людзей што робіцца. І жыў не буду, калі сваю ячэйку не налюдзяю. А хто мала-веля што закуражыўся, дык, браце, у парадку камсамольскай дысцыпліны — аруйс вон! Яны, я ведаю, каюцца, што тады на курсы выправілі, але цяпер — позна, я ўжо парадкі ўвазнаў. Палавіну ячэйкі трэ будзе пад мятлу. Незаводня палавіну! А хто спрацівіцца, і таго вон, каб і шныру не было. Я, брат, калі чаго наважу, дык здохні, а дайду, і па-мойму выйдзе. Бывае, калі ў райкоме мне асою ў вочы кінуцца. «Ты, таварыш, памыляешся». «Трэба ўчытвацць палажэнне». А я куламом з пляча па сталу калі ўрэжу, каб аж чарнільніцы павыкульваліся, ды «вот,— кажу,— палажэнне. Я нізавы таварыш. Я ведаю лепш за вас». Дык нябось зараз яны назад, назад і ўжо мне ў руку гавораць. Бачаць: «калі хлопец на чым цвёрда стаіць — яго праўда».

— Яны можа цябе баяцца?

— Чаго ім баяцца? Але ведаюць, што слова свайго я на вецер не пускаю.

Дарэчы ўспомніліся яму й жыздрыцкія карцёжнікі. Даўно на іх добрага вока не мае Бладзік. Здаецца яму, што немаведама што б зрабіў, каб вывесці іх.

— А мужчыны нашы,— кажа ён,— над чым па вечарах гібеюць? Каб у газету зірнуць ці кніжку якую

прачытаць, дык яны ў «ачко» да паўночы рэжуцца.

— Бо дурні!

— Але як падаткну калі ў міліцыю, што «азартныя ігры» ў нас не зводзяцца, ды калі наскочаць каторага вечара на малайцоў — от паморгаюць, яшчэ й штрафу прымажуць рублёў пяць.

— Гэта калі рабіць, дык трэба спатайка.

— А няўжо ж, ты думаў, я буду ў адкрытую.

І так дудукаюць: усё час барждджэй бяжыць. А потым збрыдала, чакаючы.

— Халерыя іх душыць там недзе,— бунуе Бладзік.

— Каго гэта? — пытаецца ў яго Хвядос.

— А хатніцкіх... на бюро больш не йдуць.

— Але ж праўда!..

— Тутака, браце, каб на добры лад, ды палавіну... незаводня палавіну трэба пад мятлу! Я вазьмуся... а то... ну іх к... мацеры! А ты Агусту Сялібовіча ведаеш?

— Адкуль той Агуста?

— З пасёлку... тутака водалей жыве... наш камсамолец.

— Чорт яго ведае!

— Дык во гэнага самага гэрца ўжо два разы на бюро выклікалі. Чаму на сходы не ходзіш? — пыталіся, ды выгавары, папярэджанні выносілі. Я яму ў вочы казаў, што даўно варта гэтага «індывідуала» пад мятлу ды вон з ячэйкі. Злуе за гэта. А што мне яго злосць? — нюх табакі. Сёння зноў, казаў сакратар, будзем яго разглядаць. Выкінем, мусіць... ды й незаводня выкінем! А хто будзе брацца за яго — й той паляціць. Я ў райком схаджу. Гэтакім хлопцам спісы пэцкаць. Яго ж, як плюнуць...

І Бладзік плюнуў.

— Ведаеш што, Бладзік?

— А што?

— Давай спектакль уладзім!

І гэта я бачыў у адным клубе. Там штосуботы яны робяцца. Я быў на дзвёх. Паначэплююць, брат, бароды сівыя, як добры мочаны кужаль, вусы, бакі, ды калі стануць дзівачыць, дык, бывае, бакі падарвеш со смеху. А яны выходзяць на высокіх палатках, дык што ні скажа слова, то й ляж, лопні з рогату. Потым пакажуць, каторыя ўсе ўходы там ведаюць, таго самага дзеда ў людзях, дык — малады хлапец, вачам сваім не верыш, што той самы гэта. А добра б было, каб і ў

нас гэтак. Толькі — не! А дзевак дзе возьмеш? — З Мінску не выпішаш. Іх, брат, з ланцугом...

— Хлопцу спадніцу й каптан адзенем, завяжам хустку — й пярвейшая дзеўка будзе.

— Не, брат,— не тое. Але абы крыху.

— Ды й добра будзе.

— Дык ты ведаеш што? Стаў свой даклад на бюро.

— Можна будзе.

— Ты нічога не чуеш? — трохі пачакаўшы, пытаецца Бладзік у Хвядоса.

— Не. А што?

— Ідуць, здаецца.

З гэтым словам хлопцы сцішыліся, услухоўваюцца.

Такі ж чуваць, што з вёскі нехта босы ідзе і, мусіць, не адзін, бо вельмі дробненька. А цёмна-чорна: убачыць нельга, хто там. Калі хлопцы шчэ хвілін колькі пачакалі й тыя, што ідуць, паблізіліся, дык чуваць стала, што тыя нешта паціху гамоняць самі сабе.

— Ідуць,— шэпча Хвядос.

— Яны,— адказвае Бладзік,— на бюро.

— Эх, каб цябе халерыя!

— Што табе?

— Ногі аб накат пазбіваў, пальцамі рэзнуўся.

Галасы былі знаёмыя.

— На бюро валакуцца,— адзначыў гэта Бладзік [redacted] радасным хваляваннем голасу.

Пад іх падыходзіць сакратар [redacted] двумя хлопцамі з Хатнікаў: сябрам і кандыдатам бюро.

— Здаровы, хлопцы! — кажуць два галасы.

Рука за руку вітаюцца.

— Гэта ты, Мотуз? — пытае сакратар у Бладзіка.

— А няўжо ж хто.

— А гэта хто з табою? — зноў той самы пытае, абмацаўшы Хвядосаў картовы фрэнч.

— З Жыздрыцы адзін хлопец.

— Ён заяву нам падаваў?

— Начорта яму заява, ён дагэтуль вучыўся ў мястэчку й там у камсамольцы паступіў.

— Хіба гэтак! На лета дамоў прыехаў? — пытае ўжо ў Хвядоса.

— Сёлета скончыў,— адказаў Хвядос.

— Трэба, мусіць, к настаўніку па ключ схадзіць? — пытаўся шчэ не знаёмы Хвядосу хатніцкі камсамолец, мацнуўшы замок-арэшак.

Гэтым часам сакратар ужо шнапарыўся нечага ў кішэні і тое, чаго шукаў, выняў адтуль.

— Ключ у мяне,— кажа ён, адмыкаючы.— Школу на нас настаўнік павярае да самых Пакроў. «Толькі,— кажа,— не рабіце псотаў». Каб скамейкі былі цэлыя ды вокны з шклом — прасіў.

У класе цёмна, мусіць, мудрэй, як у той турме: ледзь шыбы вакон блішчаць. Неяк зачапіўся Бладзік за нядэшлую скамейку, што па авечаму бляе, як толькі хто да яе прыкранецца, і вечкамі груку нарабіў. Памянуў «яе маць» у бруднай лаянцы й пайшоў услед за хатніцкімі, больш хаджалымі тут. Сакратар бордза знайшоў на падаконніку газнічку, зробленую з вялізнай чорнай чарніліцы, шаргануў запалку, і бліснуў агонь, запаліў газніцу.

Тым часам Бладзік сядзеў на скамейцы й пароўся ў кніжках-блінах, да часу зложаных тамака ў скрынцы. Зірнуў на сакратара, на хлопцаў — тыя глядзелі ў нейкія пакамечаныя паперкі, і самыя галоўныя іх месцы сакратар паказваў пальцам. А заўважыўшы, што ніхто ў той бок на яго не пазірае, скруціў самую грубейшую кніжку ў трубу й увапхнуў у кішэню ў штаны.

Недалёчка ад яго сеў і Хвядос.

— Слухай! — звярнуўся Бладзік да сакратара.— Трэ было б тутака якую чытальню на лета дзеля моладзі адкрыць.

Гэта незаводня зробім, абы толькі час быў. На чарговым сходзе паставім такое пытанне й пагаворым, як бы лепш зрабіць. Тады каго-небудзь з хлапцоў-камсамольцаў у раён па кніжкі выправім. Гэта добра, што ты ўспомніў, а то я даўно тое самае думаў, ды на гэты час вось з памяці сышло.

— Ты хаця гэтым, што тут ляжаць, прытон дай.

— Па гэтых няма чаго бедаваць.

— Зараз не будзе па чым бедаваць.

— Не твая, я табе кажу, галава будзе балець.

— Паглядзім чыя!

— Вот і паглядзім!

Так яны трохі й не пасварыліся.

— Даўно б трэба было гэта зрабіць,— дадаў Бладзік, падумаўшы.

— Усяго, браце, за раз не паробіш,— услых падумаў сакратар.

Паветра ў класе тухлінаю аддае. Чуваць сырая глі-

на ад летась замаразкамі вымураванага стаяка, непаленага ад самых «хрэсцаў».

Пад святло газніцы — «смаркача» (гэтак яе камсамольцы прадражнілі), Хвядос разглядае хатніцкіх камсамольцаў. Круглы ў твары, шырокі ў плячах ды ў шчэ шыршай непадперазанай кашулі — «таўстоўцы», сакратар перагортваў абежнікі, друкаваныя на такой паперы, што вельмі б падобна была да курэння; прачытае нешта-нейкае, выме з кішэні карандаш і запіша сабе на паперку альбо на благім баку абежніка зробіць запаметку. Сябар бюро, схаваўшы вочы пад шчаціннe броў і проці носа на лбе палажыўшы два буйныя зморшчы, сядзеў на адной скамейцы з сакратаром з самага канца і ўпарта вартаваў дзверы, дзе слаўся густы змрок. Здавалася, што ён чакае прыходу нейкага канешне патрэбнага тут чалавека: можа дакладчыка ці шчэ каго падобнага. А кандыдат выняў з кішэні толькі што куплены ў кааператыве карандаш ды маляваў ім на скамейцы пузатага разяваку на ценькіх нагах, з носам-бульбачкаю, кісла адвісшаю іспадняю губою й да немагчымасці вытрашчанымі вачыма. Джоргае...— квэцае... кіне. Адверне галаву, як можна толькі гэта зрабіць не ўстаўшы з месца, пацікуе адтуль. Добра! Зноў стукае, шуршыць карандаш па слаістай сасне.

— Мотуз, хадзі сюды! — падклікае Бладзіка сакратар.

Ён падышоў. Глядзяць удвух паперку з позву велічынёю. Бладзік перш нешта шапянуў ціхенька, а потым услых дадаў:

— Чаго ж? Добра.

Сакратар паказвае яму шчэ другую карталюшку.

— А гэта добра будзе?

— Валяй!

Тады сакратар паправіў на галаве кепку з скураным брылем, усёю пяцярнёю закінуў за левае вуха пасму валасоў, каб не лезлі ў вочы, ды кажа:

— Усе, значыцца, сабраліся?

Гэта было сказана да таго моцна, што кандыдат устрапянуўся, кінуў пэцкаць разяваку, вылупіўся на сакратара. Хвядос тож трошкі крануўся з месца. Гучны сакратароў голас здаўся незвычайным у сціхаце школьнага класа, падобнага на склеп з бульбаю.

— Значыцца, пачнём!..

— Калі значыцца, дык і ацеліцца,— нібыта з сур'ёзам у голасе адазваўся сябра бюро.

— Цяленне — адна справа, а паседжанне бюро — другая. Трэба парадак трымаць і дысцыпліну. Дарма трапацца няма чаго. Я вось зрабіў вунь якую павестку дня. Слухайце:

Першае...

Другое...

— Які табе дзень? — гэта ж вечар,— не ўнімаўся сябра бюро з сваімі жартамі. Ён добра ведаў порсткую натуру сакратара й любіў падражніцца. І сказанае цяпер слова папала куды трэба.

Сакратар зарымеў:

— Ты, Андрэй, свае жарты пакінь. Уляціш з імі! Тое й ведай: на чарговым сходзе стаўлю аб табе пытанне ва ўвесь рост. Перш-наперш выдалім з бюро...— Уплоць да выключэння з касамэ. Дык май на ўвазе, таварыш! — скончыў сакратар.

— Паглядзім... спанялы які!..

— Паны ў Варшаве... вунь дзе! І няма чаго баласціць. Дык, значыцца, павестка гэтакая:

Першае...

Другое...

Трэцяе...

Чацвёртае — бягучыя справы.

А дайшоўшы да гэтых самых бягучых спраў, ужо мерыўся загадаць, каб рукі паднялі, але наспяшыўся Бладзік.

— Во гэты хлопец,— паказаў ён на Хвядоса,— мае сёння даклад зрабіць. Запішы там!

— Як яго прозвішча?

— Чвардоўскі,— сам за сябе адказаў Хвядос.

— Значыцца, пятае — даклад таварыша Чвардоўскага. Хто за гэта — падыміце рукі!

Кандыдат і Хвядос з Бладзікам адразу й памкнуліся тыцнуць рукі ўверх, ды Андрэй нешта запярэчыў, і яны аселі.

«Што ж ён рэкне?» — зацікавіла іх.

— Ты паглядзі, каторая пара! Раніца на носе, а ён з дакладамі раз'ехаўся на цэлую ноч. Па-мойму, трэба толькі «бягучыя справы» пакінуць, а рэшту на другі раз. А яны, бараны, нічога не разбіраючы, ужо й падымаюць...— аблаяў ён хлапцоў.

Бладзік ці то з таго, што й яго ўпікнуў дрэнным

словам, ці можа з-за нялюбасці да Андрэевага спрадвечнага спірання ▪ усім, хто да толку што скажа, адсек яму:

— Да дзяўчат не паспееш, мусіць?

І яго твар скрывіўся ў кіслую, зняважлівую ўсмешку, як бы ён глядзеў не на камсамольца-актывіста, а на гнілую падлу сярод поля.

— Не твая справа. Я кажу як трэба.

— А годзе табе, Андрэй! Хлопцы, значыцца, галасуем?! Хто — за! — узніміце рукі!

— Прыняць і квіта,— раіць Бладзік.

— Карацей хаця... поўнач ужо.

— Як трэба.

З гэтага й пачалі.

Сакратар разгарнуў паперкі, што на курэнне добры б былі. Цэлую кукамяць выняў іх з таўстоўкі. Чытае адну за другою. Хоць і трэці раз бачыць іх, але ўсё ж капыціўся троху. На словах з «слоўніка замежных слоў» ён занімаўся, слібізаваў па складах і наракаў на члена бюро:

— Чорт цябе ведае, Сцёпка, калі ты слоўнік аддасі. Гэта ж з райкому прысланы, і трэба, каб умелі ўсе хлопцы, а не ты адзін.

А як дойдзе да таго месца, дзе сакратар з справаводам чырвоным парасцісаваны, дык казаў:

— Вось што, хлопцы!

Андрэй час ад часу патакаваў яму:

— Вось маем, а загваздку па дарозе згубілі.

Толькі сакратар не браў увагі на яго словы, і паседжанне йшло рэгулярна.

Калі-нікалі давалася сакратаром і яшчэ адна заўвага:

— Працы, таей працы! — не ацерабіцца.

Пра Агусту Сялібовіча гутарка каротка.

— Як з ім зрабіць?.. Выкасаваць, значыцца?

Андрэй пацвердзіў:

— Вон яго, і ўсё з усім.

А Бладзік у злосці быў.

— Паслаць яго пад...— тутака ўжо не абышлося без «мацеры» з пэўным эпітэтам.

— Пэўне!

— Вядома што!

— Значыцца, буду пісаць: пастанавілі... Агусту Сялібовіча...

Хто дыктаваў, той сам і запісваў.

А тым часам дайшла чарга й да Хвядоса пра спектакль казаць. Ён перш быў, па школьнаму звычаю, устаў і, пачаўшы з слова «таварышы», засыпаў даклад. Успомніў, што не вучань, а гарадскі працаўнік і не лекцыю настаўніку здае, а даклад ячэйцы робіць — і сорам яго ўзяў: не выпадае яму ў струнку выцягвацца, уставаць. (Чаму шчэ шапкі не зняў? — сам з сябе кепік састроіў.) Гэта ж гэтыя скамейкі спакусу робяць, школьныя парадкі напамінаюць. Тады ён падаўся на хітрыкі: перш узапёрся на ўзлакоткі, а потым і зусім сеў. Седзячы, пачувалася добра, па-гаспадарску.

Гаварыў шмат. І гэта мела школьныя карэнні. Тамака класкомы, вучкомы, агульны сход. Усюды за тры гады пабываў Хвядос, да ўсяго налажыўся. А шчэ ж тамака ў мястэчку штонядзелі агульны камсамольскі сход у народным доме, ды кампаніі розныя. І Хвядос усё гаварыў. Адкуль толькі яно ў яго бралася. Сказаў, як у мястэчку ■ спектаклямі камсамольцы ўладжваліся, (не без таго) свой удзел у іх выставіў напаказ. Падахвоціў хлапцоў, выкваццаўшы ў фарбу твар, людзей смяшыць. Давёў гэта такімі прыкладамі, што ўсе як не паехалі са смеху. А калі сказаў, што праз спектаклі ячэйка мае ўзрасці дый сярод дзяўчат можна будзе працу павесці. Першым чынам залучыўшы больш разбітных у драматычны гурток, дык твары ўсіх (не выключаючы й Андрэя) прасвятлелі, а ў некаторых, менш самаўпэўненых, і губы ўсмешкаю зашавяліліся.

— Хто за? — пытаўся сакратар, як толькі Хвядос сказаў: «я скончыў».

— Я за!

— Дзвюма буду галасаваць!

— Ты ж па татку не галасаваў.

— Як захацеў.

А сакратар кажа:

— Аднагалосна. Пастанавілі... выслухаўшы даклад... таварыша Чвардоўскага...

Сам дыктаваў, сам і пісаў.

— Пачакайце,— захліпаючыся кажа Хвядос.— Можа каму на сцэне й плаксівую ролю давядзецца йграць, дык тады й пагаласуе, як бацьку пахаваўшы.

— Пагаласуем.

— Паглядзім, што ў вас будзе.

А трохі й не ўгадаў Андрэй: разыходзіліся а поў-

начы. Услед за хлапцамі сакратар узяў школу на замок і ключ сабе ў кішэню палажыў.

— Доўга будзеш дома? — пытае ў Хвядоса.

— Буду й буду... на гаспадарцы застаюся.

— І самы раз. Цяпер не даўнейшае — паны зводзяцца.

Рука за руку аддалі «бывай здароў» ды пайшлі ў розныя бакі, куды каму трэба было.

Жыздрыцкія цераз зрыты свіннямі выган узышлі на сценку паміж саўгасным яравым палеткам, дзе трамціць зялёная шчотка аўсу пад павевамі вятроў, і шнурамі хатніцкага жыта ў самай красе. Не так даўно на небе выплыў месяц і цяпер дае нырца ў лёгкія, пуховыя хмаркі, праз іх марлю цікуе на дол. Яркае надвор'е. А на сценцы парасла высокая дарожная трава з дробным лісцем і драцянымі сцяблямі. Цяпер на ёй стаіць раса. І хлопцы, каб не зарасіцца, мусілі падкасаць трохі калошы ў галіфэ.

— Пэўне, нікога ў Жыздрыцы на вуліцы не застанем,— кажа Бладзік да Хвядоса.

— Чорта. Няміл свет каму сядзець да гэтай пары,— адказвае Хвядос.

У лагчыне над рэчкаю стаўпіўся туман, схаваў у сваёй белі кусты алешніку, што растуць абапал на беразе. Белы пас яго выкручваецца ў розныя бакі, абыходзіць — закручваецца каля большых узгоркаў. Наўкола па абшары, як вокам сцягнуць, відаць вёскі ў садах, хутары, саўгасныя стрэхі з даховак на мураваных пакоях, дзе некалі жыў эканом, на аборы, на стайні. Агурыліся яны, не адзавуцца, голасу не ўкажуць: спяць людзі ў іх, спіць і жывёла па хлявах сваіх. Ледзь запаметна адсюль Жыздрыца: яна здалёк — лясок маленькі. Толькі добра ўбачыш тамака поверх дрэў дзве страхі — Язэпаў ток і Міхалкавых хата з канца.

Ідуць хлопцы ды разглядаюць акалічнасць пад святлом месяца. А сценка перагнулася ўжо на ўзгорку і спусціста пайшла ў лагчыну, дзе ў самай нізіне туман сцелецца па луках. Бладзік ловіць рукою жытнія каласы, асморгуе сабе ў жменю іх красу, потым сее яе перад сабою.

— Жыў, кажа, не буду, калі Андрэй з ячэйкі не вылеціць.

— І трэба гэтак,— пацвярджае Хвядос.

— Думаеш, яму камсамол трэба? Ніколі. Ён нядаў-

на за краўца павучыўся, дык хоча, каб у калектыў як убіцца. Але — дудкі! Жыў не буду, калі ён дзе ўваб'ецца.

Гэтак гамонячы, сышлі пад самую рэчку. Туман пачаў штораз радзець, чым бліжэй падыходзілі да берага. Ужо й мурава згінула сярод калянін і збоку, ды ступіўшы два разы й сценка прапала. Пад нагамі заспастаў буйны чвыр, густа ўсыпаны дробнымі каменьчыкамі.

— Падкасацца вышэй трэба,— кажа Хвядос і тое робіць, што сказаў,— вада ў калена тут.

Як буслы, з голымі лыткамі ўвайшлі хлопцы ў брод. А вада, што луг,— цёплая. Недалёка бурбаліць яна моцна і пераліваецца. Хлопцам знаёмы гэты голас ракі. Па ім можна смела ўгадваць, што блізка броду нехта вязовішча зрабіў ды нераты на рыбу заставіў. Каб гэта было ад Жыздрыцы ганей са трое, дык варта б было патрэсці іх. А тут гэта зрабіць — боязна неяк: гатоў хто пільнаваць ды злавіць, тады і пападзеш на абаранкі дый брыдка будзе, папаўшыся ў рукі к таму, хто знае цябе. І хлопцы, на ўсё гэта ўзяўшы ўвагу, толькі заўважылі, што:

— Нераткі блізка стаяць недзе.

— Можа й рыба ёсць.

— Можа й ёсць.

Перайшоўшы брод, за хвілін колькі хады апынуліся хлопцы сярод свайго, жыздрыцкага, поля. Мінуўшы яго, хлопцы сцежкаю па сенажаці выйшлі на выган, а адтуль у вёску рукою падаць.

— Сёлета добры год на сенажаці,— паказвае Хвядос на лагчынкі, якія ўвясну, як снег зганяе з поля, залівае паводка.

— Тут няма таго году, каб няўрода ўдарыла. А вот на нашым шнуры ёсць узгорачак-лабэціна, дык я таго году не помню, каб не выгараў ён.

І ў доказ сваіх слоў, як толькі міналі Бладзікаў шнур, ён і паказаў гэту самую «лабэціну».

— Бачыш, як згарэла.

Дый праўду казаў. Узгорак той выгараў і падпражыўся, аж жоўты стаў.

У Жыздрыцы на вуліцы ніводнай душы. Сціхата й спакой. Усе ўжо дамой разышліся й храпуць, пэўне, як прыбітыя, у сваёй пасцелі.

Бладзікава хата бліжэй к канцу, чым Хвядосава.

Як падышлі пад яе, дык яшчэ на хвіліну заўняліся проці варот. Бладзік ледзь дастаў з кішэні запратораную туды кніжку.

— Глянь, што я спёр,— паказвае яе Хвядосу.

Хвядос узяў у свае рукі і пад месяц прачытаў.

Карл Маркс. «Гісторыя грамадзянскай вайны ў Францыі».

— Добрая кніжка,— кажа ён, абглядаючы яе з усіх бакоў.

— Хай будзе. А тамака б усё роўна нехта спёр,— кажа Бладзік, а потым дадае: — Давай у Жыздрыцы якую чытальню зробім. Я тады гэту аддам, ды яшчэ прыстараемся з ячэйкі. А як мала будзе, дык мне дваццаць вёрст ні туды — схаджу ў райком — дадуць, быць не можа.

Можа з гадзіну шчэ стаялі ля варот і гутарылі пра чытальню: як бы яе ў Жыздрыцы адкрыць. Некалькі разоў збіраліся разысціся, ды загаворацца, й сон тады не наўме.

Урэшце Хвядос пазяхнуў ды кажа:

— Пагаворым потым... пара спаць.

Так яно й сталася.

## IV

— Трэба налажвацца добра работу рабіць. Трэба прыглядацца, як што людзі робяць. Косіць хто здатна, ты йдзеш каля яго, заўніміся й паглядзі, заўваж, як ён стаіць, як касу ў руках трымае. Гэта згодзіцца.

Клепле косы Хвядосаў стары, у такт мацае іх лязо малатком; навучае сына. Дзе ні пойдзе, што ні возьмецца рабіць — калі Хвядос пад рукою — пакажа яму, да ўсякай драбніцы пры рабоце наложыць, як малога.

Часам абрыдае Хвядосу.

— Што вы, татка?! Гэтакае глупства мне дзеўбіцё, дзе ні ступлю.

— Што ўмееш, за плячыма не будзеш насіць.

— Дык я ж больш забыўся, як вы...

— А трэба не забывацца,— настаўніцкім голасам у адзін зваг тлумачыць бацька, нібыта й не цяміць сыновага кепіка.— Не забывайся, а шчэ больш у галаву бяры.

— Ці ж мне гэта першыня? Я ж з малых год у працу пайшоў.

У таку сойдуцца калі. І тутака стары паказвае розныя таямніцы хараства і спрытнасці ў гаспадарскім жыцці так, як стары вядзьмак перад смерцю адказвае свае замовы аблюбенаму чалавеку, каб лягчэй было паміраць (як людзі кажуць). Адным звагам звініць яго голас:

— ...Вучыся! каб чыста было, хараша, людзі каб не смяяліся. Калі салома на гумне натрасецца ці камяк сена выпадзе з рук і не трэба табе яно — дармо! — падымі потым, дай прытон. Тады й самому добра будзе зірнуць, калі парадак у гаспадарцы ёсць, усюды чыста прыбрана, што тарчыць — падаткнёна. Людзі ўбачаць — пазайздросцяць.

Бацька гаворыць доўга-доўга, пакуль хто не нойдзе, ды не пяройме іх мовы.

— Мяне слухай. Мне патурай... Сорак гадоў ужо, як хараства ў працы гляджу, да чаго змалку дalожан.

Хвядос маўчыць. Дый што казаць яму, блазну, шчэ проці бацькі. Той за сорак год толькі ў войску і быў, а то ўсё глядзеў сваіх ганей, што ад бацькі ў спадкі прыйшліся. І каб з раз хто выскіліўся з яго — дык ніколі. Яму толькі й ведаць хараство ў спрытна зробленай працы. Затым і гаворыць, спавядаецца перад сваім памочнікам. Слоў не сыпле каб як найбольш, а яны коцяцца адно за другім, не капыцячыся па ўбітай гадамі сцежцы. Кажа — душу сваю пластам перад ім высцілае. Пра адно толькі маўчыць. Маўчыць, што па фунту соды ідзе ў тыдзень на яго сарваны жывот, што да сто разоў нанач з боку на бок пераварачваецца, косці баляць у гэтакім веку — усяго сорак год. А Хвядос гэта ведае. Карціць папытацца. І туды й сюды думкі двояцца. Скажаш — сэрца старога вострым лязом кранеш, урачыстасць яго споведзі парушыш. Злоўчыш — а што на гэта бацька скажа? — будзе карцець, каб уведаць. Аддае Хвядос першаму перавагу і маўчыць. Маўчыць ды слухае.

Паўстае ахвота бацькаву долю спазнаць. Толькі бярэ сумненне, што ўвесь час яна глыне, нельга будзе кніжку ў рукі ўзяць, газету час ад часу прагледзіць. Маладыя гады яго марна загінуць. Нічога ён не будзе знаць на свеце, не будзе ведаць. Ноччу піліпаўскаю павісне цемра над ім. «Што ён ведае?! Над чым вярэ-

дзіцца яго кудлатая мужычая галава?» — будуць думаць чужыя яму і яго ўкладу жыцця людзі аб ім. За стоптаны падносак будуць яны яго мець. Стане сваё будучае жыццё меркаваць — і жаласна зробіцца, ценжар успадзе.

Падумае ды маўчыць Хвядос: бацьку слухае. Урэдкую сваю заўвагу ўставіць, у патрэбным месцы клічнік падасць.

Адзін калі дзе застанецца, тады ўжо другое наўме.

«Кніжак каб па гаспадарцы прыдабыць. Аграномаў трэба хоць праз друк паслухаць. У школе ж не кранулі гэтай навукі, патрэбнай гаспадару».

Потым была нядзеля. Выпагадзілася ■ самай раніцы пасля ўчарашняга дажджу, што ішоў надвячоркам. Сабраліся к Хвядосу яго сябрукі, засталі яго шчэ снедаючым за сталом. Быў там і Бладзік, і Мікалай, і Платон, ды шчэ двух. Ксеня дома ў святы дзень толькі ёсць, а так, як Вялікдзень, на сяле гуляе з таварышкамі. І гэту нядзелю яна толькі з раніцы завярнулася дома, нават снядання разам з усімі не чакала. Па снеданні і бацькі недзе высунуліся з дому суседзяў праведаць. Засталіся хлопцы ў хаце адны. Дурэй, гуляй, ламі сваю галаву, абы знаку не зрабіў, каб старыя шкоды не пазналі. Пра тое-сёе разладэдзіліся. А Хвядосу не да гуляў, не да таварыства. Няма ахвоты з сябрукамі ісці ў размовы. Нешта карціць, нешта рупіць. Некуды б ішоў. Нешта б зрабіў такоўскае. Не выпадае хлопцам сказаць: «ідзіце вы дадому», і з імі няма разгарнення.

Ледзь дачакаўся, калі хлопцы пайшлі. А было тады ўжо роўна паўдня. Прыйшлі дамоў старыя. Крыху пачакалі Ксені. А як толькі яна, вясёлая й па-святочнаму ўбраная, сыскалася дамоў, маці ўзяла вілкі й палезла ў печ па полудзень.

Папалуднаваўшы, ізноў усе разышліся, хто куды відна. Аднаго Хвядоса пакінулі дома. Не ўрачыстасць свята, а маркотнасць ад недастачы работы апанавала яго. Узяў ■ паліцы «Новую зямлю», разгарнуў на сярэдзіне, прачытаў уголас радкоў шэсць ды ізноў злажыў. Зірнуў у скрынку. Там «Фізіка», «Алгебра», «Сінтаксіс» на яго глядзяць з зашмальцованых асадак.

«Хай ляжаць сціхатою»,— падумаў.

Ляснула века ад скрынкі. Падсунуў яе пад лаву.

«Трэба дзе схадзіць... праветрыцца»,— заманулася яму.

Думае, куды б пусціцца, і ўздумаць не можа: няма куды. На сяло пайсці, там тое самае, што і дома. Схадзіць к катораму, што разам у школе сядзелі,— далёка.

Пайшоў у садок, абарваў штук колькі спелых цукровак. Прыйшоў на двор, сеў на ганак, пакаштаваў цукровак.

«Трэба было б выпісаць газету»,— успомнілася яму, і Хвядос аж рад стаў, што знайшоў сабе сякі-такі занятак. Каб гэта зрабіць, трэ было ісці ў Хатнікі, дзе мелася пошта на тры сельсаветы.

Раз сказана ў яго, дык усё роўна як і зроблена. Апрануў свой картовы фрэнч не дзеля холаду, а ад ветру і выйшаў на двор. Паправіў трохі брыль на шапцы, падаткнуў пад каўнер кашулі рубец [redacted] сарочкі (высунуўся быў) і памалу, бо да вечара шчэ далёка, пабрыўся на поплаў. А адтуль можна было, не робячы кругу, па межах выйсці на сценку паміж хатніцкім жытам і саўгаскім аўсом.

А цяпло на полі самае прыемнае: ні спёка, ні холаду няма. Роўнымі пруткамі стаіць жыта. На бакі не скалыхнецца авёс. Поле маўчыць сціхатою, бы [redacted] волава вылітае ці намаляванае на паперы.

«Трэба папярэдзе зайсці к катораму камсамольцу,— парашыў Хвядос,— а то адзін не патраплю».

К каму б яму зайсці?

Ведае Хвядос аднаго толькі Андрэя ў гэтым канцы Хатнікаў, што пад Жыздрыцу, ведае яго самога й яго хату.

«Давай зайду».

За нядоўгі час быў Хвядос там. Здалёк пазнаў браму з новых, яшчэ белых, дашчок, шчыльна прыпушчаных лоб у лоб, вокны з жоўтымі пявунамі на шалёўцы.

Знайшоў закрутку ў дзвярах з двара ў сенцы і кавальскую клямку з сянец у хату. У хаце з першага разу не ўбачыў нікога. Хацеў вярнуцца на двор, пасядзець трохі на прызбе, чакаючы гаспадароў. Ажно калі зірне на куткавы ложак, у галовах заложаны сціртаю падушак маль не пад самую столь, дык заўважыў, што нехта ляжыць, у нагах, скруціўшыся ў столькі пагібеляў, колькі трэба, каб стаўпіцца ўсяму целу на кароткім ложку, не крануўшы сцірты падушак. Ужо адны гэтыя падушкі гавораць тое, што ў хаце павінна быць не адна дзяўчына, калі меркаваць па іх мноству. Што

ў Андрэя ёсць сёстры, можна было бачыць і па тым, што навогул у хаце чыстата ў пашане: падлога падмецена, на стале хлеб аздобны ўкрыт абрусам, ложкі пасасціланы, і прыпек у печы завешан.

Хвядос не менш хвіліны стаяў ціха ў парозе і не ведаў, што яму рабіць. А потым адважыўся.

— Дзень добры! — сказаў ён да таго голасна, каб з адным заходам і прывітацца, і соннага пабудзіць.

І праўда: прахапілася пажылая кабета. Лупнула вачыма на Хвядоса. Бачыць — незнаёмы. Тады нацягнула сабе белую хустку, з беражком у кветкі, ад патыліцы на сваё належнае месца, падаткнула пад яе свае чорныя, як смоль, валасы; абцёрла далонню сліну з левай шчакі, падцягнула фартух наперад і толькі тады адказала Хвядосу на яго «дзень добры» й папытала:

— Адкуль жа вы самы?

— З Жыздрыцы, Ігналя Чвардоўскага сын.

— Ігналя знала некалі... Сядайце ж у нас.

Гэта была Андрэева маці. У святы дзень па адным уся сям'я звалаклася на сяло. А яна пакуль агледзелася з свіннямі, карміць якіх у свята й у будзень — абавязак вясковай кабеты, дык ужо ў хаце не было ніводнага чалавека.

«Пазганяў чорт...» — падумала ды лягла адпачыць на хвілінку, і тая хвілінка зацягнулася аж за паўдня; ужо і сонца аж у заходніх вокнах стала.

— Сядайце ж! — клапоціцца яна.

Хвядос перш адмаўляўся, кажучы, што дома ўсё сядзеў і дарога невялікая, а потым і без нічыёй просьбы сеў з канца лавы.

Кабета пазяхнула ды пытае:

— Мусіць, да Андрэя прыйшлі? Камсамолец, пэўне?

— Але.

— Вот недзе з раніцы як сышоў з дому, дык і палуднаваць не прыходзіў. Мае зараз быць дома. Нябось вымерхаўся аб адным снеданні.

Зірнула ў акно:

— Вунь ён і ідзе!

Зараз адчыніліся дзверы з сянец, увайшоў Андрэй.

— А, здароў жывеш? — прывітаўся ён ад самага парога.

— Качаемся памаленьку.

І ў сваёй хаце, як дзе на старане, не зыходзяць з

яго ілба маршчакі-патарчакі проці палазком выгнутага носа, як бы штылем ён увагнаны ў лоб. Таксама, як і заўсёды, вочы варушацца пад густым шчаціннем броў. Некалі нарочна вызверваўся, каб злосным здавацца, а цяпер у прывычку ўвайшло.

— Чаго ты прыйшоў? — пытае ён.

— Гуляць да цябе.

— Ілжэш!

— Не ведаю, дзе пошта ў вас. Завядзеш мяне.

— Цяпер шыльду павесілі. Але сходзім. Толькі папалудную.

— Гэта ж ужо падвячорак, а не полудзень.

— А ў мяне полудзень.

— Ну, маці! — казаў ён, сеўшы за стол.— Дай чаго крыху.

— Чаго ж табе, мачання, капусты ці куцці?

— Дайце мачання!

Маці адхінула занавеску, адчыніла заслонку і выцягнула з печы патэльню ■ скваркамі ў мачанні. Андрэй тым часам адкрыў абрус і, зняўшы з кастра з паўтузіна бліноў, завінуўся каля мачанкі.

— Хаця б ты шапку скінуў. Як нехрысць які...— наракала маці.

— А йдзеце вы: няма часу.

Борзда пад'еў.

— Пойдзем! — сказаў, вылазячы з застолля.

На вуліцы, амаль не на кожнай прызбе, сядзелі гурты старых мужчын і кабет, дзе разам, а дзе і паапрыч. З канца быў сабраўшыся маладзеж. Спявалі нешта. А прайшоўшы добрую палавіну вуліцы, заўважыў Хвядос у аднаго гаспадара на шуле ў варотах паштовую скрынку.

Да яго яны і зайшлі. Па шырыні сядзібы паштара можна было палічыць за чвартковага. З правага боку стаяла яшчэ новая хата з надзвычайна тоўстых плышчакоў (відаць было, збудавана ў час рэвалюцыі, за бальшавікамі, калі над лесам усякі быў паўнамоцны гаспадар). Проці яе цераз двор, як з калёсамі праехаць, быў свіран — аднагодак хаце на высокіх штандарах. А за ім ішлі ўсцяж хлеў быдлячы, стайня і пры ёй хляўчук на свінні.

У хаце яны засталі за сталом пажылога чалавека з сівымі ў чорных валасах. Па падлозе льга было па-

знаць, што тутака многа бывае людзей — вельмі ж яна ўчэрнена.

Хлопцы прывіталіся:

— Дзень добры!

— Здраствіця!

І ім быў дадзены падвойны адказ.

Затым паштар унізе лісту прывёў рыску на ўзмах рукі, перакінуў нешта на рахаўніцы й борзда пад рыскаю вынік падпісаў.

— Што, хлопцы? — па газеты?

— Давайце маю «Звязду»!

— А мне каб выпісаць.

— Можна. Чаму ж не?!

Гэта справа — абычайная ў паштара.

— Якую? — борзда пытае ён Хвядоса, падцягваючы да сябе маленечкую кніжыцу з квіткамі, і разгарнуў яе, і нарыхтаваў карандаш, каб запісаць.

— «Беларускую вёску» пішыце.

— Якое выданне?

— З «Плугам».

— Прозвішча?

— Чвардоўскі.

— Імя?

— Хвядос.

— Куды?

— У Жыздрыцу.

— Тэрмін?

— Тры месяцы.

А Андрэй не чакаў нічога. Ён ведаў тутака ўсе парадкі, як і сам паштар. Выпараў, дзе газеты ляжаць, вывалак з іх хатніцкі звязак і пасартаваў іх: сельсавецкія асобна, кааператыўныя апрыч, а з людскіх вывалак дзве «Звязды» свае.

— Чорт іх ведае з кітайцамі! Калі яны сціхнуць душыцца? — сам дзеля сябе кажа ён, захінуўшыся «Звяздою», як посцілкаю, а другую ўваткнуў у кішэню.

— Ты ўжо там парадкі навёў!

— А няўжо ж чакаць буду?

— Ага! Я ледзь не забыўся. Давай і ты падпіску, ужо тэрмін сходзіць.

— Дам шчэ.

— Табе трэба і з сялян сабраць падпіску: камсамолец жа ты. К чацвяргу па нядзелі тэрмін. Не спазніся.

— Добра. Калі хто выпіша, дык і падпіска будзе. А ўрэшце — бывайце здаровы!

— Бывайце здаровы! — пацвердзіў і Хвядос.— Толькі каб газета добра йшла.

— Будзе ісці. У нас пошта наладжана.

На двары хлопцы разышліся. Андрэй на вуліцу выйшаў, а Хвядос паштаровым гумном у Жыздрыцу накіраваўся.

— Я пайшоў,— кажа Хвядос, падаючы руку Андрэю.

— Гуляй. Ты ж казаў: «гуляць прыйшоў».

— Дзе там. Няма часу.

* * *

Аднаго разу з чацвярга на пятніцу ўвечары запозніліся Чвардоўскія ■ вячэраю. І толькі яны палажылі лыжкі, як чуюць, што перад хатаю ў агародчыку перш моцна закапала па лапушыстых лістах віргіні ды гонкіх, прудкіх кавалерах, а штораз буйней-буйней. Разышоўся дождж. Зазвінелі ўгары шумкі, ды такія галосныя, што ніводзін жыздрыцкі рызыкант не чапляў сабе абгэтакіх на каня, едучы за кавалера. У хаце, дзе кіт абваліўся, зазвінелі ім у такт звонкія шыбы. Бліскавіца сцераз-поразу мігцела ў насунутай цемры, толькі на сценах выгіналіся агністыя бісагі — бляск. Шугнула цурком вада з капяжа.

Зірнуў Хвядос у вакно — раздажджылася.

«Трэба пачакаць — можа, перасціхне»,— падумаў.

Бацька шчэ старых звычаяў не выракся. Перад тым як спаць класціся, яму пацеры згаварыць трэба. І цяпер пад грымоты-стукоты ўзяўся свае модлы марматаць.

— ...Прыпанцісты-пілатым,— злавіў Хвядос, крыху прыслухаўшыся, але і гэтага было даволі, каб здагадацца, што гаворыцца «верая», і, значыцца, будзе зараз канец.

І ўспомніў Хвядос сваё маленства. Гаворыць, бывала, гэту самую «верую» борзда-бораздзенька. Сон ціснуў абячайкі воч. Плюшчацца яны. Гаворыць — мармоча, а потым і сам не заўважыць, калі кіне модлы ды ўздумае, што сёння маці вораней паклікала яго вячэраць, а ўсе хлопцы-аднагодкі шчэ асталіся «ў белку» гуляць, павячэраўшы, як ні прасіўся, як ні пішчаў мацеры —

не пусціла; а бацька й папругаю ўгразіўся, каб спаць клаўся ахвотней. Гняце злосць-гадаўка малое сэрца.

А ўпомніцца, дык як ні ў плач кінецца. Маці яму ўтлумачыла, што грэх, пацер не згаварыўшы, класціся спаць. Разам хваціць з пачатку ад самага «ваймяцца», як той конь з глыбокай каляніны цяжкі воз у бок на бітую ўезджаную дарогу.

Успамянуў даўнейшае, свае дзяцінныя леты й сам з сябе смяецца.

«Дурны тады быў».

— Ваймяцца й сына...— кажа бацька, ужо сеўшы на свой ложак. Пазяхае і лезе пад коўдру.

— Хвядос! — кліча бацька, падняўшы з падушкі галаву.

— Чаго?

— Заўтра каб вораней прачнуўся: пойдзем ■ расою канюшыну касіць.

— Добра.

— Глядзі ж, каб устаў. Будзіць не пайду.

— Як будзеш адыходзіць, пагасі лямпу,— загадвае маці, лезучы на печ.

Перасціх дождж, і выйшаў Хвядос на двор, а лямпу задзьмуў. Глянуў Хвядос на вуліцу — нідзе нікога ні душы. Дождж пераняў звечара моладзь, дык з самага вечара спаць палеглі. На шапку капнула некалькі буйных кропель з клёна.

Шамуль-шамуль... пайшоў у ток. З боку падскочыў Лыска. Трэцца аб ногі то з аднаго, то з другога боку: лашчыцца захацеў. А Хвядосу не ў галаву яго пяшчоты, яму трэба адпачыць.

— Вон, псіна, каб ты здох!.. каб ты...

Скрыпнулі завесы ў варотах раз — другі раз, і з току заскочыў на сваё месца крук: зачыніўся Хвядос.

## V

Завідна ўстаў Ігналя. Зачэрпаў кубак вады, памыўся, уцёрся й пайшоў у вадрынку Хвядоса будзіць.

Гумно толькі пазаўчора як скошана. Сена нанач былі ў копы злажылі. Памацаў Ігналя адну-другую капу: ці не сагрэлася? А яно хоць бы што! Толькі пах сенажатні чуваць: чаборам, купаллем і рознымі другімі краскамі.

Жанкі яго высушаць за дзень.

Дзе сцежкі тгптаныя штогоду, там каса не возьме малой травы — муравы ды трыпутніку. Цяпер яны па пакошы зялёнымі межамі ад варот да кожнага будынку разыходзяцца па гумне, а самая шырэйшая з іх, зрэзаная глыбокімі каляінамі, вядзе на навозы ды адтуль на сядзібную ніву й паваротка на пыльную папярочную сцяну. Цяпер на сцежках дробная раса. Босыя ногі прыемна адчуваюць слабы халадок.

— Хвядос! — клікнуў Ігналя, тузаючы варота.

Адказу не чуваць.

— Хвядос! — мацней гукае, стукае кулаком.

— Хто там? — пытаецца голас з адрынкі.

— Зараз! — мацней кажа, раскурстаўшыся.

— Не зараз, а ўставай! Барждажэй жа! Кабылу на пашу завядзі.

Зашастала за дзвярыма салома. Чуваць — пазяхнуў. Тады падаліся дзверы ўсярэдзіну. З грукам выскачыў крук з прабою. Адчыніў Хвядос адну фортку дзвярэй. Ідзе гумном, паціраючы вочы, а яны, неслухі, спаць хочуць — позна ўчора ўвечары з вуліцы прыйшоў.

З двара чуваць, як бацька косы клепле.

Узяў на вобраць кабылу. Памалу паехаў.

На дварах дзе-нідзе праходзяць адзінокія сонныя мужчыны, хлопцы, кабеты... Наперадзе ў Хвядоса выехаў з двара малы на сівым кані з гарчыцаю ў адзнаку старасці. Сцішка на язык вытылінгуе сам сабе пад нос нейкую гульню, чутую на вяселлі ці дзе на зборні моладзі. Толькі з вуліцы ў пагонку выехаў Хвядос, пераважок путам каштанку па рэбрах і патрухаўся. Ззаду пакінуў малога. Напаткаў двух мужчын. Пораўне едуць яны і жарабята пры боку на вобратках вядуць. Мусіў і Хвядос цішэй за імі паехаць. Паабапал пагонкі, пораўне з ёю ідуць нівы рознай шырыні ўдаўжкі да самага балота. З правага боку блішчыць на сонцы росны авёс. З левага — палетак мяшанага збожжа: там і бульба, і ячмені, гарохі, віка і ўсякая рознасць на патрэбу гаспадару.

Спуталі коні ля самай пагонкі. Пастух пачародні гэты раз воранеей на балота свае коні прывёў (што варта ў газеты запісаць, як вялікую рэдкасць).

Дамоў ісці сабраўся гурт. Вядзе перад Ігналя (не Хвядосаў бацька, а той, што з канца ля самай пагонкі жыве). У шарачковай капоце, трымаючы рукі ў кішэ-

нях, спаважна пэхкае ёй папіросу. Калі ж толькі ззаду зачынаюць гаворку пра цікавае што, дык паварачваецца бокам і на хаду выказуе, што мае. Толькі ногі, хворыя на раматус, не высока ў гору йдуць. Тонкім туманам ідзе пыл з-пад іх ды за плот на аўсы сцелецца.

У гурце адзін мужчына казаў, як яму надарылася на соннага зайца найці, а той:

— ...Калі гальдане вышэй маёй галавы ды кулём на балота ў хмызнёг...

З пагонкі ўсім гуртам, апрыч канцавога Ігналі, павярнулі на навозную сцяну, што каля самых гумён. На гумне вышчыкнуў Хвядос з грады тры пярцы цыбулі і еў, ідучы да хаты. Па ўсёй вёсцы з комінаў валіць густы дым. Ад суседняй хаты вецер сцеле яго па Чвардоўскім гумне.

У хаце маці ломіць лучыну на чатыры часткі кожную, у печы ёю толькі што падпалюе. Ксеня з злосным адбіткам недаканчанага сну на твары, наравіста ададзьмуўшы губы, скрыляе скрэбеную бульбу ў гаршчок.

Хвядос адкраіў скібку хлеба, разламаў яе на чатыры часткі ды ў кішэню кладзе.

— Бацька не казаў, куды пайшоў?

— Хто яго ведае — не казаў.

А Ксеня мацеры паправіла:

— Пад рэчкаю, татка.

Зняў з шастка пад хатаю толькі што паклёпаную касу. Ускінуў на плячук і пайшоў вуліцаю.

Чэрвень месяц настаў. Самая касавіца. Пякучае сонца не сушыць потных кашуль на спінах касцоў. Сенажаць кішыць людзьмі. Куды ні зірні — там і касец. Адзін касу запускае ў мурог. Другі менціць, толькі звон наўкол ідзе. Хто спазніўся прыйсці, ставіць тычкі па межах, роўную сцежку, як пад шнур, вытоптуе ад суседа. З рэчкі чуваць, як плюхае нехта, купаючыся. У беразе на кустах дробнага алешніку вісіць, сохне нейчая адзежа. Мяняюцца ўваччу рознакалёрныя кашулі касцоў. Збоку відаць саламяны Мікалаеў, Хвядосавага сябрука, капялюш.

Ігналя скінуў на першы пракос сваю, у блізны тканую, кашулю. У адной белай сарочцы, расшпіліўшы пры шчыновыя каўнерыкі і каўнер, завіхаецца каля сваёй паласы. Да Хвядосавага прыходу шэсць пракосаў прайшоў быў.

А потым — бацька ідзе наперадзе. Хвядос за ім. Удвух і барджджэй і ахватней. Раса шчэ не спала, дык лёгка касіць. Слова не прамовіць Ігналя,— толькі як заходзіць, каб новы пракос заняць, дык зірне на сына, лёгенька зварухнецца вус ад усмешкі. Паменціць касу ды зноў за сваю працу бярэцца.

На тры качаргі сонца ўвысь узнялося, як згледзелі касцы Ігналіху з спарышкамі ў адной руцэ і невялікім вандзелкам у другой. Нясе жанка снеданне. Зварачуе з дарогі на сцежку, утоптаную па сенажаці. Дае таму-сяму, хто бліжэй к сцежцы.

— Памажы божа!

Падышла да сваіх. І ім кажа тое самае пажаданне.

— Дзінькуем! — адказвае Ігналя.

Яна ставіць спарышы ля пракосу. Побач з імі кладзе касцёр бліноў, увязаны ў скарач.

— Хадзеце, мужчыны, сюды! — кліча.

— Пракос хаця скончым,— адзываецца Ігналя. Шчэ разоў колькі замахнуў касою. Абцірае на ёй прылішую траву — драбязу ды кладзе на пракос.

Падыходзіць бліжэй:

— Што ў цябе тут ёсць?

— Зацірка й яечня.

— Развязуй!

Услед за бацькам, паўтараючы яго рухі, моўчкі падыходзіць к спарышам Хвядос.

Ігналіха пазірае ўсцяж свае паласы, азіраецца назад. Дрыжаць яе блядыя шчокі, шырай рассоўваюцца.

— Але ж вы й многа аблажылі! Да паўдня маеце да рэчкі пракасіцца?

Ігналя адказу не дае. Шчэ й сам прамярае на вока: праўда гэта ці не?

— Чаму ж не? — скосім,— харобра пацвердзіў Хвядос.

Гэта самае й бацькі хацелі казаць.

Прыляглі касцы наўкола стравы. Збоку сядзіць Ігналіха ў сінім паркалёвым каптане, на тым тыдні набраным у местачковым каапэратыве, пакручвае ў руках цыбінку травы-званца. Вецер кудлачыць кароткую польку на Ігналевай галаве. У спарышы з яечняю хутка дно стала відаць. Асталося шчэ чатыры бліны і дзве палавінкі. На зацірку гарт адсеў. Павальней ходзяць лыжкі, не ■ спехам сёрбаюць.

— Ну і гарачая! — толькі што з печы, мусіць?

— Але ж! Засланку засланіла ды панесла.

— А Хвядос злосці набраўся, пакуль снядання прычакаў,— свеціць бацька кплівымі вачыма ў сынскі бок.— Аж дрыгва ля канавы ходырам ходзіць, гэтак бярэ.

— Гэта ж я, каб за вамі паспець: надта ж вы жвавыя!

Ігналя смяецца.

— Добра! Добра, сынку, йдзецца ў нас. Збоку зірнуць — любата. Глядзі ж, каб гэтак і надалей было.

Не шырок, але довяг прасцяг Чвардоўскіх сенанаці.

— Гэтакая дэўж!..— кажа Ігналя.— Ахвота шыбе пры дружнай рабоце. Дзе б я адзін насілу-насілу да вечара пракасіўся к рачной луцэ, а то да палудня гуляючы сапстрыкаем.

Уцеха бярэ старых, што лад ёсць у гаспадарцы. Здаецца Ігналісе, што яна сама мужыковы словы гаворыць.

Па сняданні падабрала рэшту стравы. Ідзе дамоў, мінаючы пракосы, й так, аж пакуль за густым плотам жыта не хаваецца яе шэрая хустка.

Па сняданні прылеглі касцы на ўзлакотках адпачыць, выбраўшы сабе сухі грудок. Пракосы агарнулі іх. Там яшчэ сочны мурог, званец, белыя краскі-купалле, і радзей — пастрэл. Скачуць жвавыя конікі рознага колеру: большыя, даўгалыгія — зялёныя, а што драбнейшага сорту, дык тыя рудыя, як руда на балоцістай сенажаці ў равах. Па зямлі, у сене поўзаюць, варушацца масці рознай і ймяноў, а то й проста мошкі, дый толькі. Ад дарогі, шчэ зялёнае, але ёмкае ў саломе й ядранае ў коласе жыта пад павевамі ветру шуміць, думы навявае рупнаму гаспадару...

## VI

Сабрацца першы раз на рэпетыцыю было назначана ў суботу ўвечары на гэтым тыдні. Прыстарацца патрэбных кніг падрадзіўся Хвядос. Гэта яго абавязак і ў пратакол завялі.

— Схадзем, Бладзік, у чытальню да Камлёва! — сказаў ён аднаго разу ў прысвятак Мотузу.— Можа тамака й расстараемся чаго. Аднак час ёсць.

Той памеркаваўся. Сена сушыць не было. А ад хатняй работы льга адкосіцца на адзін дзень. Падумаў дый кажа:

— Пойдзем!

Да Камлёва дарога невялікая: усяго восем вёрст. Што значыць на маладыя ногі? У гаворцы прайшлі, як прабеглі.

На чвыраватай камлёўскай вуліцы каб душа дзе была! Няма ў каго хлапцам папытацца, як у чытальню патрапіць. І ў хату к каму зайсці не добра. А тут, як наліха: выткнецца дзе хто з двара, праскочыць на другі бок вуліцы ці ступіць у дарогу хлапцом крокаў колькі й прападзе за вуглом незнаёмае хаты.

Ідуць яны ды па баках разглядаюць: ці не будзе якой запаметкі?

Бачаць — вывеска белым па чырвоным напісана: «БССР, Камлёўскі сельскі савет».

— Зайдзем папытаемся.

— Давай.

У савеце гурт мужчын каля стала трэцца. Нізенькі, чарнамазы, ■ суконнаю жакеткаю на апашку, хлапец спіраецца пра свой інтарэс:

— Ну добра!.. Добра! Сенажаць абчэсцвеная?

— Абчэсцвеная! — сцвярджае сельсаветчык з-за стала.

— Дзяліць трэба на бедных, а ніякім там цясцём, кумом...

— Братка!.. дзе ж ты ўсім?..

— А я хто! Ну хто я? — не бедны? Калі карову аблезлую й каня-дэрбу маю ды зямлі тры дзесяціны, дык не бедны я?

— Ну трэба!.. і табе трэба!.. Але ж сенажаць не гумаляст — не расцягнеш,— хрыпіць сельсаветчыкаў голас. Абрыдла яму. Каб адчапіцца, выпраўляе хлопца: — Ідзі, братка, з сваімі справункамі ў камітэт узаемадапамогі. Ён жа старшыня бядняцкі, абаронца ваш.

Другі, маладзейшы крыху за яго, збоку сядзіць. Піша нейкую карталюшку памерам — як скруціць чатыры разы па памяркоўнай папяросе. Пад локцем — «Справа № 14 — адноснікі з РВК». Да таго яна напакована, што абы крануў з месца, дык і пасыплецца папяровая мяцеліца. Да маладзейшага сельсаветчыка і падступіліся жыздрыцкія хлопцы. Пытаюцца:

— Дзе гэта ў вас чытальню знайсці?

— Цераз сенцы ў другія дзверы,— коратка адказаў. Ужо хлопцы й пацiснуліся паміж людзей, каб выйсці. Хвядос за нечым паправіў у хлапца брыль. Ажно пісару нешта ў галаву прыйшло. Ля парога заўняў іх сваім запытаннем:

— Адкуль самі?

— З хатніцкай ячэйкі касамэ.

Гэта пачуўшы, к ім абярнулася некалькі цікавых галоў з натоўпу. А дагэтуль і не бачылі! І што ж? Хлопцы, як хлопцы. Зірнулі й адвярнуліся ў другі бок.

Цераз сенцы ў вялікім камары, абстаўленым каля сцен доўгімі, шчэ не замурзанымі зэдлямі, загадчыка чытальні яны засталі ядучы. Густая пара з міскі фіранкаю захінала яго твар.

Прывіталіся хлопцы. Часу не марнуюць. Адразу кажуць, чаго прыйшлі.

— П'ес хочаце расстарацца? Ёсць!.. ёсць у нас крыху.

— Ці нельга б было выбраць?

— Чаму ж не? Чудныя вы! Дам тыя, што самі ставілі.— Гэтак гаворачы, спаражніў міску. Тады адчыніў шафу й паставіў міску ўнізе, разам з вокладкамі ад кніжак рознага колеру й памеру. Потым парыўся на высшых паліцах. Дае на выбар дзве кніжкі «сцэнічных твораў». Адну, больш пакудлачаную, дзе у п'есах менш людзей бярэ ўдзел, і п'есы самыя карацейшыя. Хвядос адлажыў сабе.

— Гэту возьмем.

— Дык трэба запісаць. Як прозвішча? — пытае, расстараўшыся алоўка й паперы.

— Гэта на ячэйку.

— Дармо! Трэба на таго, хто бярэ.

Потым пытаюцца хлопцы:

— І сабе можа можна ўзяць што?

— Чаму ж не?! Можна. Толькі, чорта!.. Няма добрага нічога. Вось якое стар'ё! — стаў перабіраць адну паліцу. А тамака: некалькі рудых, што кара альховая, брашур выдання Заходняга камітэта РКП з 1918—19 гадоў. Трохі кніжак — бліноў з зашмальцованымі лістамі. А пачынаюцца каторая на дванаццатай старонцы, каторая на дваццаць сёмай. Гэтулькасама не хватае й з канца. Самая лепшая й чысцейшая сярод іх «Думкі аб рэлігіі» Сцяпанава.

— Можа, каб пакапаўся, дык і знайшоў бы што.

Але, чорта! — паразбіралі,— жаліцца загадчык, перакідаючы сваю мізэрную бібліятэку.— Не ўловіш у чытальні ніводнай. Калі прынясе каторы здаваць, дык з ім прыходзіць і другі, што ўзяць ахвотнік.

Узяў загадчык у рукі адну іржавую брашурку. Пакруціў. Паглядзеў. Ды прапусціў уніз, дзе міску толькі што паставіў. У яго руках папера мела трохі кніжную форму, а зляцела ўніз мяцеліцаю, абсыпала міску па лістку.

— Толькі гэта балота й засталося,— у той бок рукою павёў, гэта кажучы.

— Выбірайце самі! — дазволіў хлапцам.

«Думкі аб рэлігіі» ды шчэ па пары ўзялі яны сабе. Загадчык перш Хвядосавы запісаў, а потым у Бладзіка пытае:

— Як цябе па прозвішчы зваць?

Бладзік добра адказаў. Зірнуў на запісы, Хвядоса локцем у бок таўхануў. Скіўнуў галавою ў загадчыкаў бок. Неўзапаметку ўсміхнуўся. Толькі Хвядос у гэтым не разабраўся. Бладзікавых знакаў не зразумеў.

Калі ж загадчык папытаўся, адкуль ён, Бладзік упэўнена адказаў:

— З Хатнікаў.

Хвядос ужо быў і рот адчыніў, каб паправіць яго. Думаў, што Бладзік недачуў. Загадчык вёскі пытае, а ён яму адказаў, якога сельсавета. Ды заўчасне Бладзік яму даў зразумець. Локцем гэтак пад бок пачаставаў, што аж калаццё закалола. Падмаргнуў — маўчы!

Толькі дамоў ідучы, ужо ў паўдарогі ўспомнілі пра гэта.

— Я сваіх кніжак не панясу здаваць.

— Ат!.. каб што добрае. А ўрэшце, ты думаеш, што калі вёскі не сказаў, дык і не знойдуць?

— А ці ж я — Котуз?

— Ён гэтак запісаў?

— Але.

— Малайчына, Котуз! — засмяяўся Хвядос, а за ім і Бладзік.

Вырагатаўся ён ды й кажа:

— Дармо! Чорт казны не возьме. Ды хай і сам дурань не будзе. Трэ было б яго не гэтак навучыць. А мы вось збяром крыху сякіх-такіх кніжак ды ў Жыздрыцы сваю чытальню зробім. Чорт яе бяры ■ ячэйкаю.

— Хіба чырвоны куток? Не разганяйся ты вельмі!

— Хай сабе й куток... Не ўсё адно?!
— Паглядзім потым.
— І глядзець няма чаго.

Прычакаўшы суботы і павячэраўшы, ахінуўся Хвядос у свой картовы фрэнч. Зняў ■ трамы «Сцэнічныя творы». У лямпе падкруціў агонь.

Ігналя схадзіў замкнуць хлеў. З ключом вярнуўся ў хату. Бачыць — зачытаўся сын.

«Пэўне, нешта цікавае, калі гуляць ці спаць не йдзе»,— падумаў і спаважна пайшоў к ложку.

А той прагледзеў збольшага «Збянтэжанага Саўку» — п'есу ■ зборніка. Скруціў кніжку ў скрутак, як у кішэню ўлезці, уваткнуў яе ў штаны. К дзвярам падаўся.

— Куды ты?
— Выйду дзе...
— З кніжкаю... поначы?..

Тым часам Хвядос апыніўся ў сенцах. Бацькавых слоў не пачуў і адказу не даў.

Аддаў «дабрывечар» на вуліцы двум гуртам моладзі, ■ сам джгае далей.

— Куды спяшаешся? — папыталіся былі з аднаго гурту.

— У вадно месца.
— Зайдзі сюды!
— Нямашака часу... потым!

К Мотузавым за агнём прыйшоў. На ложку ў запеку сядзіць стары Мотуз, Бладзікаў бацька. Пакурue папяросу ў доўгім папяросніку. Мотузіха з вілкамі палезла ў печ па гаршчок. Бладзік сядзіць у канцы стала. Спусціў галаву на булку хлеба. Падапёр яе кулакамі. Шапку на вочы насунуў: нечага надзьмуўся. І жакетка на яго плячах накінута.

— На, злоснік, еж ды ідзі сабе, куды збіраўся,— прагаварыла да яго маці. Паставіла міску стравы пад самы нос. У століку знайшла лыжку і палажыла яму пад рукою. А Бладзік — каб крануўся!

— Бадай на цябе ўпадак! — жартам скляла Мотузіха.— Што ты шчырым постам наважыў гэту суботу спасціць, ці што? Калі канечне наважыў, дык трэ было б учора, як пятніца была, а то ўчора скароміліся, а сёння — арст у цябе. Гэта ж не перад Вялікаднем: богу даходна не будзе! Еж! На нас не ўважай. Нам хва-

ціць часу. Трэба шчэ картоплі ў куццю наскрэбці й у бліны садраць. Сёрбай ды бягай, куды табе трэба.

— Адыдзеце к чорту! — ні ■ таго ні з сяго голасна рыкнуў Бладзік, пэўне, на навозах чуваць было, а што на вуліцы — нізаводня. Падняў вышэй галаву. Нямашака яму на ком злосці спагнаць. Грозным поглядам абгледзеў усё, што было наўкола. Бачыць — міска стаіць пад рукою. Капянуў яе, што доле аж на сярэдзіну хаты апынілася. Шчэ добра, што лімінева была, а то б на друзы пасыпалася; каб гліняная, і чарапкоў бы не сабраў. Услед за ёю й лыжку папусціў... пацяклі па гразкай падлозе белыя рагі забеленай куцці. Кошка-рыска счула пажыву, кулём кінулася ■ печы, каб злізаць. І ўсё гэта ў вадзін момант.

— Каб ты здохла! — у другі раз рыкнуў Бладзік. Раптоўна саскочыў ■ лавы... так капянуў кошку нагою, што тая пабіла бок аб парог і супэнду перш кінулася ў дзверы, не ведаючы, дзе дзецца, а раскурстаўшыся, драпянула, як ногі вынеслі, у куток пад ложак.

Што больш рабіць — не ведае Бладзік. Хвілін тры прастоіў сярод хаты. Шырокімі вачыма, бачачы аднуадным белую пляму на падлозе, паглядзеў на міску, на разлітую страву. Унурыўся і памалу пайшоў к сталу. Сеў на ранейшае сваё месца. Звесіў галаву над укрытаю абрусам булкаю хлеба.

Не чакала гэтага Мотузіха. Не затым закідала жарты яна. Думалася старой, што развесяліцца Бладзік перад чужым хлапцом і не ўдасць, што хатняя спрэчка ў іх гэтак зацята йшла ад самага змроку. Надзеі потым не траціла... Як была, гэтак і скамянела, трымаючы ў адведзенай убок руцэ фартух, каторым бяруць гаршкі. Само па сабе вырвалася з грудзей:

— Во-о!..

Стары як сядзеў, так стаіць. А калі ўстаў, ні напамкі нікому. Выпрастаўся, быццам з-за людскога натоўпу хоча зірнуць, што наперадзе робіцца. Злосна на сына глядзіць. Пусціў дыму, колькі ў роце льга было змясціць, як зацягваўся. Тады давай сварыцца:

— Добра, сынок! Старайся! Але дзе ж цябе дзець, кабыліна, пасля гэтага?!.

Карцела й Хвядосу нешта сказаць. Ні ў старых — ні ў Бладзікаву руку, ■ так... каб да міру ўходзіла яго слова. Рупіла ўткнуць язык у чужую кашу. Ды адумаўся.

«Не праз мяне пачалося, не канечне мне й цешыць».

Змоўчаў. І добра зрабіў, бо не на смех распачалі.

— ...пад'еў!.. пад'еў!.. сваё,— дзяўбла старая.

І стары разбубніўся як мае быць: сыпаў лаянкі, праклёны...

— ...чаго табе трэба ад нас? Ідзі к чорту з маёй галавы. Не дуры яе. І так яна надурана. Ідзі, каб і не смярдзеў тут на гэтым грунце, на праклятай Мотузаўшчыне. Бачыш? — разбухаўся!.. Нейкай яму халеры трэба! З ядою хаваешся ад яго... не добра садзяеш... Гад ты кручаны!.. кабыльнік ты! Не сцягнуўся з дому без пары. Садзіся за стол... вужака ты!.. ды еж тое, што маці нагатавала. А дзеля цябе ніхто гаршкоў асобных ставіць не будзе, не захоча дроў дарма паліць. Многа ты іх навазіў?! Каб цябе не могліцы вывезлі! Ды не чакай, каб на могліцы!.. на выгане, як сабаку валачашчага, дзе завернуць. А садзяваць... Сам бачыш... Каб ты сцежкі не бачыў! каб панавалакала! каб панацягавала!.. не ў шоўку ж ходзім.

— Агні вас хай спаляць з вашым з усім!!! — праз слёзы кажа, але голас моцны ў Бладзіка. Нехта вуліцаю йшоў у гэты час. Заўняўся. Паслухаў і далей памалу пасунуўся.

Потым Бладзік:

— Эх-х! — сашчапіў зубы.

— Чаго ж усхадзіўся?! — харобра ступіў стары Мотуз на два крокі бліжэй к сталу.— Зараз гукну людзей. Звяжым рыштанта.— Сышліся бровы ў яго над пераносіцаю. Глядзіць на сына, што грош дае. Не жарты былі дагэтуль, а цяпер зусім усур'ёз увайшло. Усхваціўся й Бладзік. Грудзі наперад і правую руку адвёў. Адно слова толькі патрэбна і ў загрудкі ўзяцца гатовы.

У мацеры слёзы... коцяцца па бабовым каліве. Выцірае рогам хусткі мокрыя вочы. А яны не высыхаюць.

— Хай цябе аднаго, сынок, перуны спаляць дзе сярод чыстага поля, водалей ад добрых людзей.

— І не ўважыў бы Мотуз. Але жончын плач... Узяў на яго ўвагу стары. Асядае гарт яго злосці.

— Ды вельмі й не разбухавайся! А то як пайду ды заяўлю, дык ураз рыштанта забяруць. Нябось! На бацьку лепшая паверка.

— Не той час. Скулу табе.

— Чуеш, маці? Скулу сынок зычыць.— Злосны смех дрыжыць на яго губах.— Што садзяваў яго, што карміў, на руках насіў малога... во! — маеш.

— А чаго ж ты надта?! — усхапіўся Бладзік зноў на ногі. Твар парабіўся на пляшы: шатанская злосць яго шыбе.

— Патыкаўся, рубля не прапіўшы! — усё не сыходзіць з бацькавага твару дрыгучы смех.

Дваіцца агонь у Бладзікавых вачах. Зноў сеў. Узапёрся на булку хлеба.

Папытаюся: хто, разам у ваднэй хаце жывучы, не сварыцца пры нашай бытнасці? Аб'едзь — абыдзі ўсе вёскі Беларусі нашай і не знойдзеш той хаты, дзе злагада штодзень была. Спрачаюцца, сварацца... ды ўсё сцішка, каб у чужыя вушы не ўнесці хатнія спіранні, каб не разбрахалі людзі, у дзесяць столак далгаўшы. Раззлуюцца, разбрэшуцца, бывае, у далёкае — трацяголедняе палезуць, успамінаючы. А скрыпне хто дзвярыма — і сціхнуць. Потым, калі чужы ўвайшоў, маўчаць сціхатою, а як свой — вінаватага нанава пачынаюць шукаць. Кожны сам за сябе апраўдаецца. Пачынаецца сварка зноў. І ў Мотузавых гэтага не купіць. Сварыліся, дый ці раз, а назаўтра забываліся й злагадна жылі. Толькі ў апошні час мае Бладзік закалец на Змітру, старэйшага брата свайго. Раз'еліся адзін на аднаго, што каты. Малячка што, дык і выкідаюць на вока. І гэты вечар пачалося з Змітром, а з бацькамі канчаць Бладзіку давялося.

Ды збрыдала яму слухаць бацькава спавяданнебрахню. Так і карціць: ой, даў бы!.. Ды трэба ўважыць. Як сабе не было, а бацька яму прыходзіцца.

— Н-ну! — скрыгнуў ён зубамі і пайшоў на двор. З усяе сілы калі бразне дзвярыма, за сабою зачыняючы, што аж вокны звонам сваім паўтарылі, заматлялася лямпа над сталом.

— Зубамі, кабыліна! — прасоп бацька, як пасля цяжкай працы.

— Бладзік, Бладзік, што ты гэта людзей смяшыш? — апомніся ты,— аказалася маці.

А ён адазваўся з сянец:

— Хвядос, ідзем! — і апошнія дзверы зачыніў шчэ шчыльней, як перша.

Хвядос усхапіўся з лавы. Борзда рушыў к дзвярам. У парозе яго за рукаў сутрымала Мотузіха.

— Бачыў, што робіцца? — зірнула яму ў вочы, папытаўшыся, як бы вінаватая была.

— Што ж? — паціснуў ён плячыма.— Я тут ні пры чым! Не ведаю, што й сказаць вам на гэта.

— Яно гэтак чужому чалавеку.

— Самы бачыце.

На дварэ, узапершыся на вароты, яго Бладзік чакаў.

— Дык гэта вайна ў вас сёння?

— А маўчы ты!

Ідуць у садок цераз вуліцу, а адтуль на сцежку па загароддзі ды ў Хатнікі. Бладзік — наперадзе, Хвядос — за ім. У Мотузавых садок невялічкі: усяго два рады дрэў, па сярэдзіне сцежка. Велікаваты хто йдзе сюдэю дык і ўгінаецца, каб не зачапіцца ды вачэй не павымаць. Кучарыстыя яблыні пасплятаді голле. Ігрушы — тычкі над імі. А ўнізе ў зацені мучаная трава. Касу ў яе запусціць і думаць няма чаго.

— Хвядос! — вось дзе салодная! — спераду заве Бладзік, сышоўшы з сцежкі набок. А сам тым часам завіхаецца кішэні напіхаць.

— Каб цябе халера! Што ты з іх пажывішся? Гэта ж завязь яшчэ.

— Чорт яе бяры, што завязь. От рві!

Бліжэй падыходзіць Хвядос. Поўна галля пад яблыняю. У нogi муляецца.

— Кінь, Бладзік! Ты, дык — ты, [illegible] й на мяне будуць маракаваць.

— І... іх мацы! Я ім пакажу.

— А ну цябе! Я пайду адзін.

— І каціся к чорту на вячэру.

Хвядос пайшоў. Ды зараз чуе — Бладзік гукае, астаўшыся:

— Пачакай, я іду.

Заўняўся. Азірнуўся назад. Бачыць — нечага порыцца той у сцірце кулёў, што страхою суседняга току. Па плячо ўсуне руку ў адно месца, у другое, а ўсё нямашака таго, чаго трэба.

— Прапала,— у голас Бладзік падумаў.

— Што прапала?

— Штучка адна.

— Украў нехта?

— Украсці не ўкраў, але ціхенька ўзяў,— жартам спярша Бладзік адказаў, а потым:

— Н-ну! — сашчапіў зубы.— Папомніш!..

Хвядосу цікавасць: нешта ж было там! Карціць, каб вынайдаваць — што.

— Можа, я ў каго тваю штучку бачыў. Скажы, што за яна!

— Глупства.

— А такі ж што?

— Адразанка ў мяне тамака схована была. Адабраў яе летась на Пятра ў Чыпаўскага хлапца.

— Спрытны ты хлапец! — пахваліў Хвядос.

— А чаму ж не?!

Мінуўшы брод, стаў Бладзік расказваць, як гэта было:

— Пайшоў я на Пятра ў Чыпаўшчыну. Тамака фэст у гэта свята. З фэсту пазвалі сваякі ў госці. Трохі падчубэрыўся я ў іх. А ўвечары ў адной хаце музыку зрабілі. Зайшоў і я туды. Перш ішлося ўсё як трэба: ігралі, гулялі. А потым і сашчапіліся ўдвух хлопцы за гулі. Адзін быў закамандаваў польку йграць. Не даўшы й злажыцца музыку, падбягае другі раскол. Хвайт за цымбалы зверху рукою. «Іграй мне казака!» — крычыць. Дый той, што польку йграць загадаваў, хлапец не прамах. Гэтага загрудзі ды поўху. «Сядзь,— кажа,— сысун!» А гэты яму назад смальнуў. Той ямчэйшы, потым — удвая аддудзенчыў. Што казака хацеў, узад падаўся. Бачыць — крапок непрыяцель. «Сюды, хлопцы! На помач!» — давай сяброўства ззываць. Дый палячнік растаропны па гэтай часці. Смаргануў сяготаго. «Знай дзела, паможаш, калі не паўздужаю». А сам як у воду пайшоў: недзе прапаў у людзях. Неўзабаве вярнуўся назад. У руках адразанка. «Разыдзіся! — гукае.— А то зараз мяса нараблю». Ды ўсё гэта на маіх вачах. Бачу — файная штучка ды ў дурня ў руках. Кароценькая такая (самы раз пад крысо ўзяць), з прыкладам, магазіннаю скрынкаю... Усё як мае быць! «Каб гэта мне падхваціць?» — думаю. Ды ўсё роўна як хто шэпча: адбяры! І не адважуся: шчэ зубы паб'е. Урэшце расхрабрыўся. Папробую! што б там ні было. Можа б гэтак і не зрабіў, каб ад сваіх выйшаў цвярозым. Добра там падчубэрыўся. За стол не пайшоў: «Не п'ю,— кажу,— я камсамолец!» Але дзядзька на выхілкі здацен. Скеміў, як мне пасуліць. Трохі пачакаўшы, за мяне ды ў кухню. «Пойдзем,— кажа,— пагаварыць. Я нешта маю да цябе». Не ўпіраюся, іду. Тады ён ка-

рафінку з паліцы. Наліў. Абяцае да мяне. Пробаваў я адказвацца. «І слухаць не хочу»,— замахаў дзядзька рукамі. Так мы памаленьку й асушылі з карафінкі кварты паўтары на двух. Мера не малая, але на нагах устоіць льга і языком куды трэба шчэ паўздужаеш пакіраваць. Ад гэтага мне й падпаў такі настрой, што ўсё пабок і сам — губернатар. За гэтым і ў кашу на музыцы ўлез. «Дзе ваш калавурны?» — пытаюся ў малых. Паказуюць мне. Я яму свой камсамольскі білет пад нос. «Вось хто я такі!» Потым кажу: «Хадзі сюды на помач». І ўсё гэта гавару такім голасам, бы загад аб мабілізацыі на вайну чытаю. Не цёрты чалавек Чыпаўскі калавурны: слухае мяне. «Стой!» — кажа ён расколу, толькі той адвёў руку, каб аплявуху загрэць. І я ў помачы: «Пакаж дазвол на права нашэння аружжа!» Бачыць той: не мужыкаюцца з ім. Мусіць, мае права: начальнік нейкі. Прайшоў яго задзёр. Прапала адвага. Збялеў хлапец. Слова не прамовіць. Аддае адразанку. А рукі трасца носіць. Я ўзяў. «Прыйдзеш,— кажу,— у сераду ўвечары ў Хатнікі, зойдзеш на бюро ячэйкі. Тамака зложым пратакол і справу накіруем у гапаву. А тут на зборні п'яных не месца гэтакія сур'ёзныя справы разбіраць». І сам тым часам не сапу надта, каб не ўсякі дурань чмыхаў, чым дышу. У гаворку слоаў як найбольш палітычных умешую. Ану, можа, падумаюць, што з цэнтру які прадстаўнік. Трэба ж холаду задаць. На гэтым і канец быў. Прайшла адна серада, ідзе другая, за ёю трэцяя — не паказуецца на вочы Чыпаўскі раскол: пасмялеў, мусіць! А я, ад тых дат, нікому нічога не кажучы, і трымаў яе дома. Гэта ўвесь мой спрат быў у кулёх, дзе шукаў. Ды, мусібыць, паехала, падгледзеў...

— А на што яна табе сёння спатрэбілася? — папытаўся Хвядос.

Бладзік як і не чуў.

— Папо-омніш! — скрыгнуў зубамі.

Тым часам ужо відаць быў і сірочы агонь у вокнах школы, дзе хатніцкія камсамольцы чакаюць іх. На дарозе, пад бляск месяца, убачылі хлопцы нейкі гурт. Тамака гукаў адзін:

— Барждждэй бяжы, а то баяцца будзеш.

Другі цішэйшы крыху голас казаў:

— Начорта ты казаў яму. Яшчэ спалохаецца, як будуць што страшное датвараць.

Першы голас ізноў гукаў:

— Вярніся, Анцік! Гэта ж недалёчка. Пастукаеш у вакно — маці дзверы адапрэ, у хату пусціць. Вярніся! — просьбаю прасіў.

— Не хацю! — адазвалася здалёку малое дзіцянё.— Пацякай кліську!

— Позна ж яны збіраюцца, халера на іх,— вылаяўся Бладзік, пятае цераз дзесятае пачуўшы з галасоў.

— Дзе ж гэта ваш Змітра? — собіла Хвядосу папытаць.

А таго не ведае ён, што Бладзіку такія словы, як на больку соль. Не люба яму мова пра брата.

— Пацягнуўся,— нездаволена адказаў.

— Куды?

— Не ведаеш куды?

— А хто яго ведае!

— Да паненкі. Гэта ж другі год ужо пайшоў, як у Юзікавых днюе й начуе. І як гэта ты не ведаў?

— Ды такі ж, што не ведаў! Хто яго. Не прыглядаўся.

— Два гады ўжо, браце... Ды мусіць прыстараўся... нахадзіў, бо аднаго разу ў таку я найшоў; як у бацькі прасіў, каб заручыны зрабіць. Наверх выходзіць! суду баязно!.. Га-га-га-а!

З ума тронуўся хлапец — можна было падумаць, збоку гледзячы. Гэтакі дзікі быў яго смех. Спалохаліся малыя, што йшлі пад акно глядзець рэпетыцыі. Далі дзёру яны з-пад школы.

— Ага!.. Цюга!.. Лаві іх!..— гукнулі хлопцы. А тыя гэта самае чулі ўжо. Такім здаўся ім Бладзікаў рогат.

Не маўчаць камсамольцы, сабраўшыся ў школу. Штукуюць. Выскіляюцца. Жыздрыцкіх чакаюць — не счакаюцца. Няма занятку без іх. Забавіліся недзе дома ці не думаюць прыйсці. У многіх гэта на вуме. Асыкаюцца нецярплівыя:

— Каго ты прычакаеш сёння?

— Не тая пара.

— Каб думалі, дык даўно б тутака былі. Нябось тыя разы першымі прыходзілі.

Андрэй жа з двума хлапцамі больш рашуча хацеў зрабіць. Па слову прыкінуўшы, к дзвярам падаліся. Ды папалі на вочы сакратару. Бачыць той: непарадкі, дысцыпліны няма.

— Куды гэта вы?

— Мы так сабе.

— Ведаю гэта «так сабе»! Трэба чакаць. Раз ім загадалі і ў пратакол завялі, чаго трэба, каб расстараліся, дык з-пад зямлі вырві — а споўні абавязак і на рапарціцыю з'явіся. Што гэта за не прыдуць! Не прыдуць, дык і мы па іх не пойдзем, і пасланцоў не пашлём. Выкасуем з ячэйкі, й квіта!

Сакратаровы словы такі мелі павагу. Адступіўся ад дзвярэй Андрэй. За ім следам яго дружакі, бы на шнурку знізаныя.

Бладзік з Хвядосам адчынілі дзверы ў класны пакой такім часам, калі іх ніхто не чакаў. Але згледзелі хутка.

— Тут яны!

— Прыйшлі!

— А я што казаў?

Так хлопцы дуду-дуду, ды штораз мацней. Усякі нешта мае сказаць. Кожны нейкім словам хоча адазвацца. І нарэшце хоць вушы затыкай. Аж мусіў сакратар пра сваё вяршэнства ўспамянуць.

— Хлопцы! — гукнуў.

Нікому не чуваць, што сказаў ён. Тады шчэ ў другі раз паўтарыў:

— Хло-опцы!

— Чаго цябе дрэнчыць? — не ўцерпеў Андрэй. Трохі быў у яго на сакратара закалец.

— Хай вас халерая! Цішэй вы крыху. Не раз жа казаў, што на мае рукі школа здадзена. Я за яе адказ даю. Мы ў гэтым камары равём як на жывот, а там,— паказаў рукою на сцяну,— спіць настаўнік з сям'ёю.

— Распанелі вельмі, ліханька ім!

— А каб я твайму бацьку ў сенцы прыйшоў ды гэтакі вэрхал узняў, дык паглядзеў бы ён на цябе?

— На гэта ў майго бацькі чапяла ў качарэжніку стаіць.

— Вось бачыш!

— Але ж то яго хата, а тутака казённы дом!

— Усё адно: захоча — прапсюрыць і адгэтуль.

— Не мае права. А ячэйка — нашто?

— Такое й права.

Далей апраўдвацца сакратар не захацеў. Падсеў к жыздрыцкім. Усё, чаго не забыліся, расказалі тыя яму. Чытальню з надворку й з сярэдзіны апісалі. Бладзік яшчэ такое заключэнне зрабіў:

— Няма нічога такоўскага. Дур нам свае не мець.

— Трэба будзе пастанову зрабіць ды прасіць райкома.

Гэтым часам нейчае кемнае вока згледзела, што ў Мотуза паадтаркаўшы кішэні. Перш шэпты былі. Потым сціпка памацаў адзін, другі...

— Яблыкі,— сціпка перадаюць адзін другому.

Потым моцна сказалі:

— Адабраць!

— Ізноў узяліся? — зазлаваў сакратар.— Зараз выштыру!..

А да Бладзіка мякчэй загаварыў:

— Дзялі, Мотуз! — наставіў прыгаршчы.

Таму й просьбы не трэба. Усім дае. Гуртам абступіў яго маладзеж. Бяруць, ядуць, хваляць, што:

— Смачныя!

— Салодкія!

— Цукровыя!

Некаторыя здагадуюцца.

— Дзіва, што забавіліся: па садох чмарылі.

— Зірні! і яблыкі з лісцем.

— Ірвучы, спяшаліся.

Сакратар скончыў тыя, што ад першага разу прыйшліся. Просіць:

— Дай яшчэ.

А як даў, дык і кажа:

— Кепска гэтак, хлопцы, рабіць. Гэта добра, калі за ўдачу вышлася. А ўвабраў бы хто...

— Не хочаш — і трасцу! Болей не дам,— з касою ўсмешкаю на твары перабіў Бладзік яго мову.

Сакратар тады ўзад. Не рад свайму слову.

— Я не тое... абы толькі ніхто не застаў.

— Што ж той маўчыць? Ці многа ў яго, давай паглядзім,— кажуць на Хвядоса.

Памацалі ў кішэнях, за пазухаю.

— Няма.

— Хаты, мусіць, вартаваў, каб не выйшаў хто.

На руку Бладзіку, што веры не даюць, каб з дому гэтулькі садавіны прывалок. Злосная ўсмешка здаволенасці кранула вуглы губ. «Хай ведаюць, от!..» Ды смяецца з хлапцоў:

— Гэта ж нашы яблыкі, з дому. Казаў і яму,— матнуў галавою на Хвядоса,— дык не захацеў. І чорт яго бяры! А можа даць? — раптам стаў ласкавейшым,

спакусліва пакруціў, у два пальцы ўзяўшы, зялёны яблык перад Хвядосам.

— Давай, калі раздабрэў вельмі.

— ...дома чорт лысы скарыстае... хай лепш хоць таварышы з'ядуць.

— Гэта па-камсамольску,— пахвалілі Бладзіка.

— Табе толькі сёння ў галаве закруціла, як дома... Ды не даў Бладзік Хвядосу больш казаць.

— Маўчы лепш... Заўсёды я цяпер...— І гэтага не скончыў, другое закамандаваў: — Годзе! Чытай, Хвядос, тое, што мне паказваў, каб усе чулі. Раніца нас тут агорне.

— Праўду кажаш.

Дастаў Хвядос з кішэні ў скрутак скручаныя «Сцэнічныя творы». Разгарнуў на таей карце, дзе рог і дому заламаў. Прабег вачыма пад загалоўкам. Паглядзеў на хлапцоў. Нешта замарматаў сам сабе пад нос.

## VII

У нядзелю раненька, не даўшы Чвардоўскім паснедаць, прыйшоў да Хвядоса Пётра Хвалісін.

Ігналя, адказаўшы на «дзендобры», папытаў, ці высушыў ён сена на луках.

— Не. Шчэ ў завоіне разбітага ёсць вазы на два,— адказаў.

Ігналіха падзівілася:

— Але й раннія людзі ёсць: ужо вось Пётра й агледзеўся дома. А мы з Ксеняю дык да паўдня спім.

— А якая там воглядка мужчыну ўлетку! Каня вывеў на пашу, паснедаў і хоць на край свету да вечара сыходзь.

Ксеню трохі кальнула мацярына слова. Спаць да паўдня — не гонар вясковай дзяўчыне. Круціся сабе на сяле як ноч вяліка, да пявуноў, да ранку; а толькі развідневаць стане, дайніцу ў рукі й бяжы ў хлеў каровы даіць, каб у пасту не выгнаць нядоеных. Па задзе ж за пастухом гнаць — нязручна: людзі будуць за гультаямець, хлопцы пальцамі паказваць, калі ўгледзяць.

— Што вы, мамка, кажаце! За вамі ніколі хвілінкі лішняй не прыкархнеш. Ад поўначы самі ўстанеце дый возьмецеся.— «Уставай!.. раніца!.. вунь!..» — праводзіць.

Смяецца Ігналіха.

— Маладзец ты ў мяне! — пахвалілася перад хлоп-цам.— Дасужая!..

— Альбо ж Пётра каму адкажа?

— Альбо й не?

— Пётра, адкажаш? — Як сядзела перад сталом на столку, дык палажыла лыжку на стол і абярнулася к яму тварам Ксеня.

Той быў заняты. На падаконніку апароў нумар «Беларускай вёскі». Тады, як Ксеня пыталася, прачытваў «Што робіцца на свеце» — свой любы аддзел.

— Як сабе хочаш! — ляпнуў, не падумаўшы, не чуўшы пытання: абы адкасніцца.

Ксеня ў рогат. Усміхнулася ўсё застолле людзей. Падняў на іх вочы Пётра, скончыўшы запаметку венгерскага селькора. На другіх глядзя, вяла ўсміхнуўся й ён.

— Ці не любіцеся вы, ліха вас ведае? Чаму ён цябе гэтак слухае? — смехам папыталася ў Ксені маці.

— А хто яго ведае? Папытайцеся ў самога.

Зноў пашавяліў Пётра губамі.

---

А цяпер будзе мова аб тым, што за хлопец Пётра Хвалісін.

Перш-наперш падак ён да ўсяго друкаванага. Дзе б ні трапілася яму што якое, што можна прачытаць, дык не выпусціць з рук, ці не адойдзецца, пакуль не прачытае, што толькі можна: ці то кавалак газеты леташняга, пазалеташняга, васемнаццатага, дзесятага году, або якая абвестка ці вывеска. За гэтыя гады праз яго рукі прайшло мноства ўсякіх лісткоў і брашураў на палітычныя тэмы. Мае некалькі штук і сваіх, што прыйшліся яму шчэ да прыходу палякаў на Беларусь.

Тады пашыраліся кнігі не за грошы, а дарам. Хто трохі цёрся каля розных камітэтаў, дык цягаў іх дамоў па пачку. Быў і з Жыздрыцы адзін чалавек, выбраны ў валасны рэўком за дэпутата. Завяліся і ў яго палітычныя кнігі. А пашла заваруха. Пусцілі дзейкі пра палякаў: вельмі ж яны камуністаў не любяць і з людзьмі — гады. Памеркаваўся жыздрыцкі дэпутат:

— Кепска будзе!

І меўся пусціць з дымам сваю бібліятэку, каб за камуніста не палічылі. Сказаў гэта ў сакрэце двум-

тром павяроным сваім прыяцелям. Ад некаторага з іх і падчуў Пётра пра гэта. Тады шчэ малы ён быў: у пачатковую школу толькі што кінуў хадзіць.

Зарупіла малому сабе кніжак прыдабыць. Можа й з цацкамі шчэ! Шэраю гадзінаю аднаго разу прыходзіць ён к дэпутату і просіць:

— Аддалі б можа мне, дзядзька, кніжкі! Нашто іх дарма паліць.

Падумаў той. Памеркаваўся дый кажа:

— Бяры сабе. Толькі глядзі, каб дома не сварыліся на цябе.

— Не, не будуць.

Адчыніў дэпутат шафу. У ёй зверху на паліцах сякі-такі пасудак стаіць і пляшкі з-пад самагонкі, а на іспадняй — пад адзежаю кніжкі.

— Бяры, каторыя хочаш!

Выбраў Пётра тыя, што таўсцейшыя й з вокладкі аздобныя альбо з малюнкамі ўсярэдзіне.

— Гэтыя,— кажа,— забяру.

— Можаш і ўсё браць. Мне не шкода: не купленыя.

— Хваціць. Хаця гэтыя прачытаць.

Дома ў пячурцы за печчу схаваў сваю бібліятэку. Ды не доўга яна там палюцкавалася. Нечакана іх апарола й тамака Пётрава маці. Шукала гэта яна суконак на печы, каб Язуку, музыку свайму, у лапці абуць. Памацала ў пячурцы.

— Што гэта тут?

Маўчыць Пётра сціхатою, усё роўна як і не ведае нічога.

Нягодная маці яго, Век вечны на некага ўсё злуе. Нешта ёй не па душы Язуком як хоча, так і камандуецца. Загадае калі на поле ехаць, калі гной вывезці, на зіму пазябліць. І з суседзямі сама сварыцца: нікому й злажыцца з брэхнямі не дасць. Пярэч ці вінавата слухай — усё адно, ніхто тваіх слоў за яе звонкім, моцным голасам не пачуе. А Язук крапіўся-крапіўся ды на сорак трэцім годзе свайго жыцця й аблёг. Крываўка тады хадзіла. За тыдзень і даўся, бядак. Хваліся перад людзьмі ўсяго разоў два бралася прыказваць. А каля работы шчэ жарчэй пайшла. Ад тых дат нічога не змянілася. Камандатарства так і асталося ў Хвалісіных руках.

Агледзела сынаву бібліятэку — і ўсхадзілася... усшурмавалася.

— Гад ты!.. Цераз цябе прападзём! — доўга-доўзазна прыказвала, лепш як па мерцвяку.

Потым зняла скарач з шастка над комінам. Пётру прэнзлямі высцебала. Кажа:

— Нясі туды, дзе ўзяў. Каб і шнырy іх не было.

Неапранутага, без шапкі высунула за дзверы. Падаткнула кніжкі пад паху. У каршэнь кухталя на дарогу дала. Пайшоў Пётра, усхліпуючы. Давіцца горкімі слязьмі.

А было гэта пазнавата, увечары. Восень находзіла. Дзьмуў сярдзіты вецер. Шастае на хлапчуковых шчупленькіх плячах шырокую кашулю. Дрыжыкі прабіраюць. Іголкамі дацінае холад яго неапранутага.

Паглядзеў на вуліцу. Нямашака нікога нідзе. Азірнуўся на бліскушчыя вокны свае хаты — не прызыраюць за ім.

Борздзенька на дыбачках, каб у хаце не пачулі, пабег у гумно. Да часу падаткнуў кніжкі пад страху ў калашні. Тамака трохі шчэ пасядзеў на саломе ды вярнуўся ў хату.

— Аднёс? — з пытаннем яго стрэлі, толькі пераступіў парог.

— Але,— панура адказаў. А ў горле солана ад слёз. Палез на печ. Сеў адзін-адным у куточак. Гэтак і вячэры прычакаў.

Назаўтрае паехалі сталейшыя на поле картоплю капаць. Хацелі й Пётру павезці з сабою: патом накапае кашэль які! Але памеркаваліся й сказалі:

— Хай хаты папільнуе, а то толькі змерзне ў полі.

А яму гэта й наруку. Узяў жалезняк. Пайшоў у калашэньку, узадраў памосту дзве дошкі. Выкапаў ямку невялічкую. На гары найшоў стары куфэрак без завес. Спакаваў у яго сваю бібліятэку. Закапаў. Замасціў. І прызнаў:

«Нідзе знаку няма».

Гэтак было датуль, пакуль палякаў не прапсюрылі. Тады прыйшлі бальшавікі. З палякамі заміріліся. Смялейшы стаў Пётра. Адкапаў магілу ў калашні. Бачыць: цэлыя.

Перахаваў на гару, далей ад матчынага дасціпнага вока. Калі мае час, дастане адну каторую ды чытае сам сабе, што праз саломінку ў гарачы летні дзень цягне з

светлай крынічкі сцюдзёную ваду. Добра тады. З календара за дзевятнаццаты год вывучыў жыццяпісы правадыроў рэвалюцыі. Ведае, як тульскі мужык вуму-розуму навучыўся, і шчэ шмат чаго.

Увясну і ўлетку надвячоркам збіраюцца на вуліцы мужчыны каля чые прызбы. Трэба ж аб тым-сім пагаманіць. Падыдзе туды й Пётра. Заўнімецца збоку дзе. Наперад не лезе, каб сталейшым у рот пазіраць, як тыя гавораць. Не мае ён гэтай дзяцінай моды. Не, канечна, каб усюды ўтыкацца.

У гурце спрэчкі йдуць альбо лагодная гамонка.

— У бальшавікоў у васемнаццатым годзе добрая была праграма. Зямлю, значыцца, усю на сялян падзяліць. А цяпер вунь што! — саўхозы. І начорта яны — каб хто папытаў? — лагоніць каторы з разумнікаў жыздрыцкіх, бывае, што й даўнейшы дэпутат.

Слухае Пётра. Сам сабе ціхенька ўсміхаецца. Маўчыць. Каменем на языку вісіць тое, што трэ было б сказаць. Ды зацяжак ён, падла, гэты язык. Не слухае хлопца сарамяжага. А ўдругое: ці ж малому хто веры дасць? Дый боязна неяк перад сталейшымі. Смяяцца, накпіваць будуць:

— Разумнік знайшоўся!

— Дай ты рады! І, здаецца, гэтакі даматур.

З Хвядосам затаварышкаваў. Маль не аднагодкі яны абодва. Ну, можа, Пётра старэйшы гады на два. Сыдуцца дзе разам — ад гаворкі не ацерабіцца. Нават і гулі сабе новыя, не такія, як у другіх дзяцей, задумалі. Збяруць дзяцей ды:

— Слухайце, малыя! Вы будзеце асэры, а мы бальшавікі. Будзем гэтак гуляць.

— Давай гуляць! — згаджаюцца.

Толькі нарвецца каторы пухнач. Развядзе рукавом рагі па шчоках, як вусы ў даўнейшага паліцэйскага. І той просіцца:

— І я буду за бальсавіка!

— Дзе ты будзеш. Гэтакаму малому толькі за асэра й быць. Мы большыя, дык і бальшавікі.

Паробяць з лучыны шаблі.

— Давай у вайну гуляць.

І пабеглі на выган.

А падраслі крыху, ужо брыдка ў вайну гуляць: дома — бацькі смяюцца. Хвядос больш двух слоў і гаварыць саромецца з блазнамі, сваім былым «войскам».

Пётра лепшага характару. Калі папросяць, дык і пакажа, як выштукаваць ваўчок з шпулькі ад крамных нітак ці як стрэлку ўвясну з маладой хвойкі спусціць. Толькі пасміхацца з іх стаў, чаго ніколі не запамячалася.

Потым аддалі Хвядоса ў навуку. Бацька ў мястэчка адвёз. Урэдкую на нядзелю прыедзе ці прыйдзе дамоў. А ў панядзелак з самага ранку, шчэ зацемна, бацька ў мястэчка з хлебам і да хлеба замчыць на каштанцы.

Убачыць ці пачуе ад каго, што дома Хвядос, прыбяжыць да яго Пётра.

— Можа што прывёз? — папытае.

— Прывёз крыху.

У местачковым нардоме кніжкі чытаць даюць дадому. Калі сам спадабае Хвядос каторую, дык, дома быўшы, й Пётру да часу дасць.

«Хай чытае, калі ахвота ёсць».

У гэтым ліку многа чаго было. Там і: «Што дала сялянству Кастрычніцкая рэвалюцыя», й «Стэнаграфічная справаздача кангрэсу Чырвонага Профінтэрну». Ды больш усяго шыбе Пётру ахвота да «Гісторыі партыі». Расстараўся яму Хвядос кніжку Бубнова. Прачытаў.

— Добрая,— кажа,— але малая.

— Можа поўную «Гісторыю партыі» прывёз? — усё папытуецца.

— Няма, братка, цяпер.

— Глядзі ж расстарайся!

— Ды ўжо ж! Другім разам...

Яго маці, Хваліся, падка на работу. Дзе йдзе, дык усё подбегам. Некуды ёй трэба заўчасне паспець. Крычыць, дзе нарвецца на свайго сем'яніна, калі той што зрабіў ці як ступіў не па яе нораве. Ходырам ходзіць скура ў такі час на ілбе. Бэсціць яна Пётру за чытанне:

— Зноў распасцер свае кантычкі?!

На сына гляне, як падатак за пабочны заработак аддаючы. Толькі той сцягне кніжку з трамы, каб разгарнуць, раіць:

— Трушанкі лепш на заўтрае страсі.

На яе словы Пётра ўсміхаецца доўгаю цялячаю ўсмешкаю сваёй. Спагадна на матку зірне шырокімі вачыма.

— Трушанкі заўтра страсу. Нашто яна дарма будзе на таку ляжаць.

— Добрыя людзі на цэлы месяц наперад натрасаюць, а ў гультая заўсёды гэтак: «Ат! я потым», а той «потым», як жыдоўскі «пачакай».

На гэта Пётра адказу не дае. Збрыдала ўжо. «Добрыя» ды «чужыя» людзі даўно прыслухаліся яму. Многа гаворкі пра іх. Толькі ні разачку бачыць іх на свае вочы не траплялася.

Пётра ўжо сядзіць за сталом і ціхенька сам сабе губамі мыляе.

— Ідзі лапці мне падшый!.. аборы паві спярша,— дае Хваліся пільнейшую работу.

Цяперака не адкаснешся. У Пётры жвавей забегалі вочы з радка на радок. Барждджэй замыляў губамі. Не ўслед, а датуль, пакуль датычаецца да запаветнага месца, каб у другі раз адразачку знайсці,— яго й пугаю не адгоніш ад кнігі. Што маці ні лепіць, як клясці ні дадумляецца! — няма дуру.

Бывае, што й малодшая сястра асыкнецца. У мамчыну руку слова закіне.

— Во нурэц! Не кіне модлаў...

Каму дык спусціў бы слова, а ёй не папусціцца Пётра. Дзе гэта відана, каб усякая жаба вучыла! Калі толькі зачэпіць, дык хоць па прапорцы: адно слова да дзесяці, але не змоўчыць ён.

— На, сучка, на!..— перадражніць, свой голас пад сястрын падвёўшы.

А дойдзе да запаветнага месца, загорне кніжку. Памаленьку на траму паложыць ля абразікаў. Тады шукае пянькі. Уе аборы лапці падшываць.

Не помач бывае просьба, дык гразьбою Хваліся думае вяршэнства над сынам узяць.

— ...скрадуся калі, ды ў печ усе «кантычкі» калі ўпраўлю! Трасцу!.. Тады й Чвардоўскага кружадух не дасць другіх.

— Вы гэта кожны раз пляцеце. А вось каб з раз...

Далей Пётра сястры не дае гаварыць.

— Тут яна!.. На-цю-на! Без цябе не абышліся.

— Спалю... падзяру!..— грозіць старая.

— Гэта й не Хвядосава кніжка,— спакойна тлумачыць сын матцы.

— Чорт яе бяры! А чыя ж?

— Казённая. З бібліятэкі.

— Не пагляджу, што ў бібліятэкі,— не можа Хваліся выгаварыць апошняга слова,— адно ёй месца будзе.

— Паспрабуйце толькі!

— І спрабаваць няма чаго — з трамы ды ў полымя.

— Спаліце, дык заплаціце, колькі варта будзе, ды шчэ штраф прыложаць, к таму за самаўпраўства,— страшыць мацеру Пётра.

Глядзіць тая ў сынскія вочы, утаропілася. Але гэта не доўга... Раскурсталася і пачынае:

— Каб цябе, маё дзіцятка!..

І так, пакуль не абрыдае ці за работаю дзе не адвернецца.

Бывае, разгорне Пётра кніжку, а ў Хвалісі й чароднай працы напагатове няма. Думае — не здумае. Па добрасці раіць яму тады:

— Ідзі, сынок, засні крыху! Весялейшы будзеш.

— Не хочацца мне,— адкажа. І памалу перагортуе ў кнізе карту за картаю.

Рускі месяц пасядзеўшы за сталом, паснедалі Чвардоўскія. Гэтак у свята й мае быць, калі пільнай работы няма й страў наварана ды напечана многа. Пазадзе ўсіх вылез з-за стала Хвядос, хоць і першы палажыў лыжку. Раней бацькі не хацелася трывожыць, што на перадзе яго сядзеў.

— Ну што? што добрае знайшоў? — папытаўся ў Пётры. Цераз яго плячук зірнуў у разгорненую газету.

— Кітайцы ўсё ваююць. І канца ім няма! Узяліся б дружна ды й прапсюрылі б навалач замежную. А яны цацкаюцца! Ад самага Вялікадня ў руках газеты я не трымаў. Тады толькі ў Аляксандравых зяця, што з гораду прыязджаў, падхваціў быў тры «Звязды» за сакавік месяц. І ўсё адно: што тады, тое й цяпер. Усё кітайцы душацца. Але потым у гэтай вось пішуць, што рэвалюцыя пераможа. І добра б было!.. Кітайская ССР ды шчэ наша...— падаўся Пётра ў доўгую гаворку.

Пераняў яго мову Хвядос.

— Гэта ж я выпісаў сабе «Беларускую вёску».

Зірнуў Пётра сябру ў вочы.

— Добра! — зазначыў ды йзноў пачаў перапыненую мову: — А што? Я такі думаю, звернуць буржуям галовы! Гэта ж кітайшчына.

— А як жа ж!

З цвіку над ложкам зняў Хвядос шапку. Пазваў Пётру з сабою:

— Хадзем на двор пад сонца.

— Я газету вазьму.

— Бяры сабе.

Услед за імі выйшаў на двор і Ігналя. Заўняўся каля варот на вуліцу. Прыскіліўся. Паглядзеў, як высока сонца, ці далёка да паўдня. Кажа:

— Пойдзем, Хвядос, копы разаб'ём.

— Пабудзь тут. Я зараз прыйду,— папрасіў той Пётру.

— А дзе я дзенуся? Ідзі куды трэба!

На гумне тры капы мурагу, прывезенага з лук, і копка асакі з завоіны. Сенажатнія кветкі чуваць. Усярэдзіне копы сагрэліся крыху. Адчуваецца парнасць, як бярэш рукамі пласт. За забаўку разбілі Чвардоўскія сена сваё па пакошы. Няхай насыхае. Пад вечар зложыцца ў старану.

— Ты ж, Хвядос, не ўцякай сёння нікуды: з паўдня будзем сена з кліну вазіць. Бабы вунь разбіваць пайшлі,— паказаў бацька Ксеню ■ мацераю, якія ішлі на вуліцы ў напрамку лук.

— А ты звазіў з кліна? — папытаўся стары ў Пётры.

Той падняў галаву ад газеты:

— Учора скончыў.

— А што яму значыць з дзвёх дзесяцін...

— Пэўне!

Узышоў Ігналя на двор. Заўняўся каля студні. З хвіліну пастаяў, пачакаў. Нечага падумаў. Зірнуў у студню, зарослую воўчымі грыбамі. Потым раптоўна смаргануў брывамі ўгору. На твары павесялеў. Зачыніў за сабою вароты ад вуліцы. Пайшоў на вёску.

Хлопцы селі на бярвеннях пад сонца.

Пытаецца Хвядос у Пётры:

— Што ты думаеш пра камсамол?

Не раз, ходзячы ў Хатнікі, гаманілі пра Пётру. Перабіралі па адным усіх жыздрыцкіх хлапцоў. І выходзіла ў іх:

— Пётра — добры хлапец. Яго і ў камсамол ільга б было...

— І палітычна разбітны.

— Толькі маці — вужака з вужак.

— Трэба з падходам, спакваля.

Колькі раз пачынаў з ім Хвядос гэтакую гамонку, як і цяпер, ды ўсё з выхілкамі, не выказуючы адразу ўсяго. Давай кніжкі чытаць, у каторых пра камсамол пішацца. Думалася: «Ану, можа, зацікавіцца». Ды б толку з гэтай турбацыі не відаць было.

Усё адказваў, як і цяперака:

— Што ж? Добра! Гэта ў нас, дык... а вось у Заходняй Беларусі ці Кітайшчыне — тамака патаемна ўсё.

Далей з Пётрам гаварыць — будзе вялікая мова. Толькі запамячае Хвядос, што ён змест прачытаных кніжак пераказуе па-свойму, як зразумеў. Не ахвота слухаць чутае ўжо не раз. На бліжэйшае зварочуе мову Хвядос.

— А ў Хатніках, ты думаеш, нічога не робяць камсамольцы?

— Што ж яны за камсамольцы былі б, каб не рабілі нічога? Бладзік казаў, што сходы збіраюць, пасяджэнні бюро ў два тыдні раз у сераду ўвечары.

«Ужо й Бладзік яго падгаварваў»,— падумалася Хвядосу.

— Цяпер вунь спектакль ставіць будзем,— хваліцца.

— Стаўце,— зусім не зацікаўлена адказаў яму Пётра. Цяпер ён заняты. Падрад гоніць зверху «Запытанні й адказы».

Хвядос, не тоячыся, папытаў:

— Можа б ты, Пётра, запісаўся?

Той як і не чуў.

— Во дзе нехта пытаецца: «Ці можна адсудзіць у суседа грошы, што я пазычаў яму ў 1923 годзе?» Ёсць чаго пытацца?! Падаў бы заяву ў народны суд — і квіта.

— Пётра! падай ты заяву ў камсамол! Добра б тады было. На сходы ўтрох бы хадзілі: ты й я з Бладзікам.

Нясмела, бы рот жвакаю заняты, пачаў Пётра:

— Па мне можна б было.— На гэтым і суняўся. Вяла спусціў галаву бліжэй к газеце.

— Дык чаго ж там! Я дам паперу — накрамзоль заяву!

— Што там крамзоліць.

— Так не прымаюць. Трэба заяву... А раз хочаш, дык нашто чакаць?

— Па мне — нічога, але вось...— Доўгая цялячая ўсмешка пры гэтым слове скрывіла яго ўніз нахілены твар.

— Плюнь на ўсё гэта!

— ...дзень у дзень удзвёх агрызаць будуць.

— Пайшлі іх з раз па крайняй меры! — з прыціскам сказаў Хвядос апошнія словы.

— Бывае.

— Пасылаеш ужо?

— Як падчас,— не сваім языком адказаў Пётра,— абы адкасніцца.

Тарокаліся, аж пакуль Ігналя не вярнуўся з вёскі. Тады сонца бралася пад поўдзень. Чвардоўскія пайшлі сена варочаць на гумно. Пётра паджгаў да дому палуднаваць. Неўзабаве вярнуліся й бабы з лук.

А па палудні загадуе бацька Хвядосу:

— Катні, галубок, на пашу па кабылу! — будзем сена вазіць.

Паглядзеў Хвядос на сонца — пара яму ў Хатнікі брацца. Просіць бацьку:

— Татка, схадзеце самі! — ды гэтак хораша, па ласцы.— Мне ў вадно месца трэба.

— Куды ж гэта табе прыспела?

— Тата!.. схадзеце!..

— Ну, ідзі сабе! — уважыў яму Ігналя.

Сам тым часам зняў у сенцах з крука вобраць. Рушыў у сваю дарогу.

Хвядос яшчэ раз на сонца зірнуў.

«Цяпер самы раз»,— сказаў сам сабе. Пусціў шырокія крокі па вуліцы. Па Бладзіка яму шчэ трэба зайсці.

На балоце стары не забавіўся. Хутка паказалася старая салдацкая шапка з абламаным гіверам з-за вугла Цімохавай хаты, што на паваротцы вуліцы стаіць. Першыя ж жыздраўцы ставілі хаты там, дзе чорт колле паўтыкаў. Потым: каторы агародчык сабе перад акном адгарадзіў, другі толькі прызбу ад вуліцы абсыпаў, каб з суседам было дзе ў святы пасядзець, яго паслухаць і самому слова — два прыкінуць. Затым і вуліца не на нацягнутую струну, а на несабранае вужышча падобна.

Трохі сагнуўшыся сядзіць Ігналя на каштанцы, спаважна паглядае на людскія двары.

— Хвядос прыйшоў? — папытаўся ў Ксені, толькі

ўз'ехаў на свой двор. У цэбар уліў два вядры вады. Поіць кабылу.

— А куды яго пагнала?

— Недзе прасіўся збегаць. Я што ведаю — куды?

— Нямашака дома.

— Збегай, Ксенька, к Мікалаю, пазаві! Можа ён там.

— Добра! — адазвалася тая з вуліцы.

Сынова непаслушэнства ўстурбавала Ігналю. Усякую драбязу да сэрца прымаў. Першая прычына была дуга, круглая й залішне цяжкая й сталаму чалавеку. Узяў яе стары ў руку, каб у гуж залажыць, а яна круць у руках. Другім бокам перавярнулася і дзёўб у зямлю канцом.

— Гэх-х!.. Каб цябе агні высмалілі! — прагаварыў, рота не раззяўляючы.

А Хвядоса ўсё няма. Усё не йдзе дамоў. Загуляўся недзе... Прапала й Ксеня.

«Я ж яму пакажу! Я ж яго адучу, сабаку, рабочы як час марнаваць: па вёсцы валачыцца. Я ж яго палаю — папагрызаю!» — загадзя смакуе Ігналя сваю ўладу.

Ксені (толькі згледзеў, што вярнулася) і блізка да сябе не падпусціў. За паўганей папытаўся:

— А дзе той сабака валачашчы?!

Не ўспела супэнду дзяўчына бацьку адказ даць. У другі раз папытаў:

— Хутка прыйдзе?!

— Няма нідзе на вёсцы.

Казала Змітручыха, што бачыла, як з Бладзікам Матузавым недзе па загароддзі павалакліся.

— Гэх-х! Таварыства знайшоў!

— Садзецеся! — загадаў бабам, сеўшы на біле ў драбінцы, узяўшы лейцы ў рукі.

Ксеня паслухала, прысела ззаду, спусціла босыя ногі далоў.

— А я й так зайду! — адказалася Ігналіха. Узяла сабе граблі. Пайшла па межах нацянькі.

— Но! — гукнуў стары на каштанку.

Забарабаніла жэрдка па лёстках. Расківалася ў баку драбінка па выбоістых каляінах сценкі да самай паваротки на навозную сцяну. У бакі матляюцца Ігналя з Ксеняю. А за паваротай памацаў стары пугаю ў кабылы рэбры з абодвух бакоў, шлёпнуў па спіне. Мац-

ней колы пайшлі, больш груку... Вецер у дарогу наровіць. Хаваецца хурманка ў пыле, разам з ім імчыцца на сенажаць.

## VIII

Пасля двух дзён дажджу выпагадзілася надвор'е. І адзін дзень ясны сонечны. І другі — спёка. Падсушылі людзі сена. А назаўтрае, толькі спала раса, спаважна папаўзлі пад дом накладзеныя, як каню павезці, вазы. А [redacted] дому ў поле з стукам кол, няшчыльна ўстаўленых лёстак, жэрдак імчацца як сцягнуць на сенажаць ужо спарожненыя ад сена. Вузкія сценкі пасярод жыздрыцкіх ніў. Усё зямлі людзям мала. Паўздзіралі межы, паўмежкі. Сценка стала толькі як аднаму праехаць. Размінаюцца цяпер на чыю ніву з'ехаўшы. Плянтуюць ад краю ячмені, гарохі, градкі з картопляю. На сенажаці грабуць, пласты пластуюць, на вазы кладуць — завіхаюцца. Пагода — няпэўная рэч. Ясна на небе — харашо. А нагоніць вецер хмару — ліне дождж. Ізноў рабі нанава, сушыся з сенам. І цяпер яны, хмары-спакусніцы, стоўпіліся на захадзе, самы край неба сваёю коўдраю завесілі. Пагражаюць [redacted] далёкай засады цеменню й пахмур'ем.

Чвардоўскім адзін шнур усяго й асталося ўпыніць. І ўсё сена тады ў старане будзе. З раніцы забавіліся былі дома, дык апошні воз турылі дамоў пазней за ўсіх папацёмку. Ігналя ўзяў каштанку за павады й павёў, мяркуючы на паваротках, каб не аббурыцца: воз не так ушыркі, як увышкі накладзены, за што і злаяў быў бацька Хвядоса. Хвядос з Ксеняю не пайшлі гэты раз услед сцяною падоўжнаю й папярочнаю, але нацянькі мяжою, каб бліжэй было. Ігналя перш бачыў, як плыла поверх жыта белая Ксеніна хустка і разам з ёю пара грабель. Потым пакрысе ўсё змяшалася з сінаватым вячэрным туманам, патанула, распусцілася ў ім.

З навознай папярочнай сцяны звярнуў Ігналя на гуменную сценку. Каляіны на ёй глыбокія ды выбоістыя. Носіць то ў той бок, то ў той... А на самай паваротцы не заспяшыўся збоку плячом падперці, як нахінуўся воз і абурыўся на грады з капустаю. Толькі ляха глухая наўкола пайшла.

Хвядос з Ксеняю на перадточчы сядзелі, бацькі ча-

калі. Бачыць не бачылі. А як пачулі, выскачылі на гумно. Згледзелі — услана сенам капуста. Подбегам кінуліся памагаць.

За няма што наваліўся бацька на іх. Калі ў бядзе сам сабе помачы не суладаеш даць, абы на ком — вінен ён ці не вінен — тады трэба ж злосць спагнаць.

— Паляцелі недзе!.. А ты — бацька, душыся адзін, чорт цябе возьме.

Загадуе, што рабіць:

— Выпрагай кабылу! — чаго стаіш?

Рыміць:

— Ніхто па тваёй старасці спогадзі не мае. Ніхто не стрэне, не выправіць...

Гэтак з хатняю спрэчкаю, неабходна патрэбнаю ў злосці і ў добрасці, выпраглі каня, распусцілі вужышча. Сена ўсё ўтраіх знасілі ў ток, да заўтрага пакінулі на перадзе. Усяго тое й бяды, што паўграды капусты роўна з зямлёю зломана было ды ў шырозных драбінах, што некалі купілі ў бежанцаў на снапы й сена, дзве лёсткі ад кола ад крутога павароту напал пераляцелі.

У хату за агнём прыйшлі. Ксеня такі не ўмоўчыла, першая мацеры пахвалілася пра прыгоду ў гумне.

— Туркнуў жа чорт! — засмяялася Ігналіха, пакуль не дагаварыліся да псотаў капусты. Выплянтаваныя паўграды нешта значаць у гаспадыні. І гэтага старая ні пад якім відам не можа нікому дараваць.

— Стары дурань! Каторы год ездзіць па сценках — і трэ было выкуліцца! Каб дзе ў полі сярод канаў, а то на сваім гумне не сумодаў выкіравацца.

— Ты сумодала б надта! Каб так у цябе рукі служылі, як язык, я б азалаціўся даўно.

— Трасцу вам налета, а не капусту. Хваро-обу! — бубнячы, цягала [redacted] печы гаршкі.

І толькі на стале задымілася ад пары міска гарачай затоўчанай куцці [redacted] пах расцёртай кілбасы счулі насы Чвардоўскіх, дык спрэчкі як і не было.

---

Маль не цэлую ноч і ўсю раніцу ліў дождж. Толькі пад паўдня выпагадзілася надвор'е. Гразь шчэ не размякла, толькі пыл прыбіты. Блішчаць лужы на сцежках. Дно ў іх бы з бляхі выгнута. На вуліцы перад акном стала возера. У гумне на ранняй пакошы, дзе ад-

скочыла мяккая сакаўная атава, мяняюцца пад слонца кроплі расы па бабовым каліве на лістах — дробязі.

Ігналю цяпер вольны час. Бабы ўправіліся жыта зажаць. Жменя яго ўжо трэці дзень як стаіць на куце пад абразікамі. Ды больш жаць няма чаго: шчэ зелена.

Шукаючы сабе занятку, абышоў Ігналя ток і адрыну. Памацаў сена ў старане. Папрабаваў церці канюшыну на далоні: ці не перасохла, ці не курыць.

Пашукаўшы, і работу знайшоў.

«Трэба ў калёсы лёсткі ўставіць, што выламаліся».

Ды няма матар'ялаў на пашэве. Строс ўсю сядзібу, шукаючы бярозавага палена. Усе закануркі, усе падстрэшкі абшукаў — няма нідзе падобнага. Пазалетась былі клён за паграбцом спусцілі. Знайшоў ад яго некалькі курдавалкаў. Пядзяю прамераў. Не выходзіць! — Як наліха каротка тады адрэзалі. Парашыў:

«Схаджу к Юзіку. Ану можа расстараюся ў яго».

Што падумаў, тое й зрабіў. Памалу пасунуўся па загароддзі ў другі канец вёскі. Было тады з паўдня слонца звярнуўшы. Спала раса дажджавая. У градах агуркі гараць. Галоўкі капусты панямі сядзяць, бы ў пярыне, у шырокіх лапошыстых лістах знізу. Гарбузнік адзін-адным далёка выкаціўся з град па скошаных паўмежжках, адзінока павыстаўляў на пякучае сонца свае шурпатыя лісты. Ломіцца ды закругляецца сцежка каля такоў.

Юзік, стрыечны брат Ігналяў па мацеры, ■ сітцом на твары падглядае пчол у рамавіку. Пагода добрая. Сама што яны носяць мёд. У гняздзе толькі адны маладыя, не кусашчыя пчолы засталіся на варце. Гэтакаю пароюю толькі й падглядаць. Не так борзда джалу зробіш. Выняў ён рамку. Падняў на ўзровень вачэй. Нечага ўглядаецца. А наўкола круцяцца паўкрыўджаныя пчолы. Гудуць. Некалькі штук іх поўзае па каўняры, шукаючы голага цела, дзе б спрытней джалу ўсадзіць. Рап'ём ляцяць у вочы. Стукнецца каторая ў сітцо й назад адскочыць. Збоку на адкіненым убок вечку куродым курыць. Тонкая стужка дыму ўецца ўвысь ад яго.

Згледзеў Юзік, што Ігналя йдзе. Здалёк аказаўся:

— Пачакай там, брацеl Я зараз... Надта ж іх раздражніў сягоння.

Той паслухаў добрай рады. Заўняўся каля град.

Юзік доўга не забавіўся. Борзда ўпарадкаваў рамавік. Па дзве рамкі ў вадну й другую руку ўзяў ды панёс да хаты. На дварэ сышліся з жонкаю. Заўняліся абое. Пагаварылі. Жонка перш рукі развяла. Потым уніз матнула галавою. На тым і разышліся. Юзік у хату. Яна ў свіран. Назад ішоў — убачыў жонку на пераклеці. Моцна на хаду загадаў:

— Ты там прыстарайся чаго!

З Ігналем закінуў слоў пару пра пчолы, пра мёд:

— Вось трэ было б адзін рамавік разагнаць, а то зачарвілі палову рамак. Ужо тры матачнікі быў выразаў, а яны ўсё лепяць.

— Мёд-та смачан, але ж кусаюцца затое! — усміхнуўся Ігналя.

— Я прызвычаіўся ўжо. Толькі як іголкаю... Ні болі, ні пухліны няма ў мяне.

Гэта кажучы, згледзеў Юзік, як пабегла ў хату жонка з нечым у хвартусе. Чакаць дальш не было чаго.

— Зайдзем у хату.

— Некалі мне. Я за патрэбаю...

— За якою? — скажы.

— Можа ў цябе кавалак бярэзіны во гэтакі,— паказаў рукамі,— знойдзецца. Гэта ж сена возячы, дзве спіцы выламаў у калёсах. Трэ было б паправіць, аднак час выпадае.

— Калі ж выпадае, дык зайдзем у хату. А бярэзіны колькі хочаш...

— Зайдзем... зайдзем, калі так наважыў.

У хаце на стале мужчыны застaлі бутэльку самагонкі й дзве талеркі абапал яе: адна з сырам, другая мёду наліта роўна з берагамі. Яны наўкола абложаны тонкімі скрылікамі хлеба. Каля стала выцірала відэльцы аб абрус нізкая вастраносая кабета.

— Сядай, Ігналя! — у адзін зваг папрасілі абое гаспадары.

— Ат!.. Што вы гэта?..— Ігналя пробаваў адказвацца. Але затым што мёд на стале, ён уважыўся на просьбы. Залез за стол.

— Ну! Будзь здароў! — абяцае да яго гаспадар.

Пайшла чарка радом. Перш Ігналя каля сыра з відэльцамі заварушыўся. Потым, як з бутэлькі крыху надпілі, і за мёд узяўся. Юзік, як у гэтай бяседзе выявілася, умеў не толькі пчолам добры догляд даць, але

і на смаку знаўся. Самагонка-пяршак язык падварушыла. І так ён спрыцен у Юзіка. А падпіўшы — удвае.

— Бяры, сусед, сыр ды з мёдам прабуй,— дакладваў гаспадар.— Гэта надта ж мае сыны любяць. Дальбог!.. Каб даў каторому на волю, дык, не адыходзячы, паўнюсеньку міску вымачае й цэлы сыр як ёсць утрубіць. Але баязно, каб, перадаўшы, не зашкодзіла. Вось што!.. А так — еж, хоць сабе вазьмі ды напіся. Ёсць, дзякуй богу (хоць цяпер маладыя й не любяць гэтак казаць), і сабе [illegible] добрым людзям.

— І ты ведаеш, сусед, што? — казаў ён больш.— Вот пчолы!.. І якая ў яе каторай галоўка маленечкая! Дзе б там і розуму быць?! І тыя, падлы, дух гарэлачны любяць. Напіся сабе па дзюбу... колькі душа прымае, ды прыйдзі пад самым лятком ляж,— і каб адна кранула! Будуць поўзаць па табе, у рот — калі раззявішся — паналазяць... і ніводная!.. нават не намерыцца джалы пякануць. Што да чаго ўваходзіць?!

Ігналю тое самае закруціў трохі пяршак галаву. Што ні кажы, а без малага кварта на двух прыйшлася. Які там чорта з жанкі піяка?! Толькі ўсяго разоў двойчы й памачыла Юзічыха губы. Як пакаштуе, скрывіцца, зморшчыцца...

— Моцная, падла!.. агнём пячэ!..

— Чысценька!.. Чысценька, суседка! — прымушае Ігналя.

Праўду яна такі кажа — пайшла самагонка па жылах разбіраючы, цёпленькая. І чуваць нават. Ігналю перш было не то млосна, не то ў галаве добра зрабілася. Вясёласць апанавала чалавека. Здаецца доўга-доўга гаварыў бы нешта ды ўсё ў руку, усё па злагадзе. Пачаў перш-наперш братні мёд выхваляць:

— Я, праўду кажучы, люблю мёд. І пчолы б завёў. Але піску іх не зношу. Калі пісне мне каторая над вухам, дык трапею: і рукамі, й нагамі цераблюся (збоку гледзячы, смех!), шапку з галавы ды ў руку і ўсё стараюся, каб на зямлю назолу збіць ды прытаптаць. Боязна, каб не ўкусіла!

Юзіку новая думка набегла на вум. Прасвятлеў твар. Вочы іскрамі аздобіліся.

— Але каб ты пакаштаваў!..— І ад захаплення не мог дагаварыць, у горле голас засеў. Толькі жонцы закамандаваў:

— Сходзі, старая, агуркоў прыстарайся ў градзе.

Я надоечы два дужаватыя такі выпараў быў. Рві ўсе, якія толькі можна.

Не спагадна зірнула Юзічыха на мужыка. Ды што рабіць? Не сварыцца ж перад чужым чалавекам. Схадзіла й прынесла ў хвартусе пяць агурочкаў як на разы два добра ўкусіць.

Скрыляюць іх мужчыны на маленькія скрылікі. Мачаюць у мёд. Ядуць. Хваляць — не нахваляцца, што:

— Добра!

што:

— Смачна!

Ды тым часам дуду-дуду! Тое-сёе гамоняць. І дайшло да таго, што стаў Юзік казаць, як надоечы ў Хатніках быў, у кааператыў заходзіў. Там гаворка была са знаёмымі мужчынамі. Што чуў ці бачыў, пераказаў. Да слова прыйшлося сказаць:

— Надта ж твой Хвядос улёг у Хатнікі хадзіць.

— Я бо бачу: часам будзе дома, потым — хвайт! — як скрозь зямлю праваліцца. Шукай, расшукайся, усю вёску ператрасі — прапаў, дый годзе хлапец.

— Спяктакалі, казалі, рыхтуецца з камсамольцамі прыстаўляць. Здумаюць жа нешта, работы не маючы. І ў гэту суботу мае быць адзін.

— Гэта не навіна. Ён, як і вучыўся, у гэтым дзеле быў.

Рад Ігналя, што людзі сына маюць не за раскола якога, што, хістаючыся па вуліцы, як набярэцца калі, людзям вокна шкліць. Пачне што гаварыць, будуць глядзець на яго ды папытавацца:

— Чый гэта?

— Чвардоўскага... Ігналеў,— адкажа, хто пазнаў.

Пра сына гаварыць будуць, а бацькава імя добрым словам успамянуць.

Мажа б накшым манерам яго думкі шлі б. Але самагонка... Смешную натуру на гэта мае ён. Другі, здаецца, і не задзіра, а як пападзе яму горасць на язык, дык і давай прычапкі шукаць, каб сабе й другому кроў з носа спусціць, каб сварыцца, перакорыць. Ад Ігналі ж гэтага не пападзеш. Толькі давядзецца яму з шкляным богам павесці лады, дык ад першай чаргі мякчэй пакачанай анучы робіцца: куды заўгодна крут — камечыцца. Як бы з ім ні йшоў хто на перакор — а ён усё ў руку, усё па добрасці гаворыць. Гэта

датуль, покі падобнага месца не знойдзе, дзе бы легчы можна было. Калі ж толькі гэта зрабіць выпадае, дык ужо больш не кампанейскі Ігналя чалавек. Засне. Ці ты над ім рэпку пей, ці з гарматы над вухам страляй — усё адно не прачнецца. Толькі гэты раз не дайшоў да гэтакага п'янства, каб храпунца даць. Утраіх: ён і Юзік з жонкаю, як ні браліся каля кварты, ды не змаглі яе. Мусілі ўзяць увагу на Ігналевы ўпрошаванні. На тры пальцы засталося самагонкі ў пляшцы на дне. Гэтакую й схавала Юзічыха ў насценны шкапчык.

Доўга забавіўся ў іх Ігналя. Затое ж бярэзіны разжыўся. Дома ў хату не пайшоў. Адразу ў падпаветку накіраваўся. Там прыняў ■ вярстата шаснастку падазаднага аўса, згарнуў далоў габлюшкі. Разрысаваў палена, каб надвае распілаваць. Ушчаміў яго ў вярстат. Зняў пілку з крука. Пачаў майстраваць.

Не першыня яму сталярская работа. Не заробіць ад яго ні сталяр, ні бондар, ні каляснік... Шчэ малым быўшы, хадзіў гуляць к Якуковым. У іх быў хлапчук — аднагодак яму. А стары Язук у бандарстве ўслаўлены быў, рабіць умеў вёдры, цабры, кадзі... Загледзіцца на яго Ігналя й на свае дзіцячыя гульні забудзецца. Стане водалека ад бондара, каб не замінаць, і выгледзіць усё, што трэба. Утаропіцца. Вачэй не звядзе з Язуковых жылістых рук, прушчыновых габлюшак, што віда-віда лезуць ад жаляска, уюцца чарвякамі ў скруткі, у маністкі. Як што робіцца, чым і з чаго пачынаецца, заўважыць. А дамоў прыйдзе — бацьку праходу не дае. Просіць-моліць:

— Татачка, купі мне гэблік! Я слухаць вас буду. Пабегчы куды ці зрабіць што — адразачку!..— ды гэтак харашо, жаласліва ў вочы глядзіць, бы ратунку просіць у грознага крыўдзіцеля. Увесь да таго бедненькі, лісліва зробіцца, што каменнага за сэрца кране й спагадаць прымусіць маўклівым выглядам сваім.

— Нашто табе? — усміхнецца той, калі пад лад. А бывае, скажа ў такую часіну, калі бацькава галава па гаспадарскім чым баліць ці сумнымі надаядлымі думкамі занята, дык так гукне, скляне ці аблае, што холад у пяты пойдзе малому. Блізка стаяць будзе, дык і куксака заробіць.

— Гарнец хачу зрабіць мамцы на промешку,— нясмела прызнаецца Ігналя.

— Во ён што задумаў!! Гарцы рабіць!.. Мал ты

шчэ. Падрасцеш крыху, тады й куплю, й рабіць будзеш.

— Што мал? Я бачыў вунь у Язука,— падвяселюецца Ігналя.— І як габляваць клёпку, каб жалабатая была, ведаю. І як састаўляць... Гэта ж — глупства! Няўжо не зраблю?!

— А йдзі ты!.. Як будзе пара, куплю.

Тады Ігналя на хітрыкі кідаецца. Пабяжыць к Язуковым. Няма яму часу з малым — сябруком сваім гешэфтаў весці. К старым падыходзіць. І «дзендобры» нават скажа, чаго ніколі не рабіў. Адразу пачынае, як сталы.

— Ведаеце, чаго я прыйшоў?

Сур'ёзнасць старыць малады твар. Відаць, што не так сабе, а за патрэбаю прыйшоў.

— А хто цябе ведае, чаго ты прыйшоў.

— Можа б вы пазычылі гэбліка? Я не надоўга.

— Што ж ты будзеш рабіць ім? — пакеплюе з яго Язучыха.

— Татка прасіў... Вароты ў хляве паламала цялушка. Каб яе воўк!

Нягодны Язук, калі хто яго ад працы адрывае. Ссуне бровы над пераносіцаю. Блядыя вочы ўглыб убярэ. Шукае гэбліка ў скрыні з начыннем. Сам сабе пад нос бубніць. Доўга шчэ што не адкажацца, не прапсюрыць з хаты.

— Панства!.. Вароты трэба габляваць... і ад сякеры б чорт не ўзяў, пазнала б цялушка, дзе сцяна, а дзе вароты.

Каецца Ігналя. Сылгаць не сумадаў як следня. Ды надзея ёсць. Другім разам паправіцца. Лепшую прычыну прыставіць. Гэты выпадак — навука яму.

Язук рыміць. Нешта ў скрыні перакідае. Звоніць зялезам. Знойдзе ламаш які, у каторым жаляска год пяць як не точана. Пазычыць Ігналю.

— На! Глядзі ж, каб не вышчарбіў толькі.

— Не!.. дзе вы бачылі!..— ад радасці сіпка чуваць у голасе малога.

Не ведае Ігналя, дзе дзецца ад радасці. Кулём дамоў ляціць. Толькі снег храбусціць пад лапцямі лыкавымі. Гэблік пад крысо схаваў, каб не застыў, як што жывое.

А дома дрэва цішком дабярэ, якое трэба. Адвернецца дзе з хаты бацька — ён за майстэрства бярэцца.

У хату прыйдзе — гэблік пад падушку схавае, габлюшкі пад ложак змяце. Не знаць нічога, не ведаць. Маці маўчаць згоду дала. Бацька й бачыць калі — прыстаўляецца, што не ведае.

Змайстраваў гарнец. Адважыўся. Бацьку паказаў. Смяецца той.

— От, і горам напал... Але як гэта бы скраўся, злодзей? — жартуючы лае сына.

— Сумодаў, бачыце.

Маці гарнец забрала сабе.

— Добра будзе курам ячменю прынесці.

Ад тых дат стаў на яго просьбы й бацька ўвагу браць. Пакрысе прыдабыў сабе Ігналя начыння. За паўцаны трапілася ў ваднэй удавы вярстат стары купіць. Меў да сталярства хэнць і здатнасць. Сам праз сябе зрабіў святочную драбінку (з гора й брычкаю льга назваць), у малатарню пад коні выладзіў станок... Гэтак і да ўсяго налажыўся.

Цяпер габлюе Ігналя. Гоніць гэблік тонкую габлюшку-лісцінку. Многа іх назбіралася на вярстаце, й пад ім на зямлі рассыпаліся мяккім натрусам на буйныя трэскі-аскабалкі.

Заходзіць туды Хвядос папытацца нейкай патрэбнай на гэты час дробязі.

— Тата, дзе гэта?..

Суняўся Ігналя габляваць. Падняў з зямлі тонкі ашчабак. Выкалуплюе ім з жалязка фуз. Калупаць калупае, з сына кплівых не спусціць ачэй. Углядаецца. І не першы раз бачыць. Гэта зразу заўважыў Хвядос. Не скончыў пытання свайго. Пытае пра другое:

— Чаго вы, татка, глядзіцё?

— Хіба ж я сляпы, каб не глядзець?

— Я ж і не кажу, што сляпыя.

— Так сабе гляджу.

— Дзе гэта наш жалязняк? — пытаецца Хвядос таго, чаго прыйшоў.— Трэ было б з вуліцы спад вадзе даць у гумно, а то гразь надта вялікая.

— Паглядзі за гэтаю плашкаю,— паказаў бацька на куток.

Потым пытае:

— Чаго ты ў Хатнікі ходзіш?

Натапырыў Хвядос вушы. Бровы ўгору смаргануў. Благое што думаў пачуць. Ды раптам у вадзін момант

прыставіўся незацікаўленым да бацькавай мовы. Спакойна кажа:

— Хаджу, дый толькі таго.

Бачыць: у бацькі далей на шчокі пасунуліся.

— Ілжэш! Не так сабе ходзіш! Я чуў... Кажуць, спяктакаль з камсамольцамі робіш.

— Ну, раблю... А што?

— Нічога. Рабі сабе. Толькі глядзі проці бога нічога не датварай. Не будзь першым. Хай другі хто. Людзі — сабакі: зараз адкажуць. А бацюшка шчэ мяне за чалавека мае. Брыдка будзе, калі што... Чорт жа яго ведае!.. каб яно гэтак і заўсёды было, дык — дрэнь гэта. А часам што якое дык і згодзіцца. Нашто першым быць... Хай другія...

Цьмяна бацькава мова, ды сэнс яе Хвядосу вядом. Сваю жыццёвую практыку адказуе сыну. Праз гэта ўмеў Ігналя з малых дзён усім унаравіць, ува ўсіх быць у ласцы: і ў паноў, і ў жыдоў. Затым яшчэ і пацеры гаворыць, хоць значна скарочаныя, але старасвецкія. «Можа калі згодзяцца»,— думаецца старому. «Хто яго ведае, можа дзе што й ёсць»,— другая загвоздка ў яго. Шчэ з папом свае парафіі знаёмства не так даўно зайшло. Любіць час-часам бацюшка ў кілішак зірнуць. І калі з рукі толькі, дык Ігналя — яму кампанія. Не за тым гэта, каб:

— Колькі я, толькі й ты гані.

Але каб:

— Ты слова, а я — два.

Навогул жа:

— Ты,— кажа поп на Ігналю,— дарагі чалавек.

## IX

Хвядоса паслалі з поля, каб прынёс халоднай вады. Тую, што была ў жней, выпілі амаль не ўсю. А што на дне асталася, дык напал з крошкамі хлеба; і сагрэлася: усё роўна як з балота дзе ўзядзена.

Выцягнуў ён з студні вядро. Наліў паўнюсенькі збан.

Толькі цяпер яму ўзбегла на памяць... а быў траха не забыўся.

«Трэба к вечару чаго прыстарацца».

Як уздумаў, дык паставіў збан пад пограбам на калодцы, каб сабака не напіўся. Пад ганкам знайшоў

ключ ад сянец. Адапёр завалку. На кароткі час заскочыў у хату.

У раздум'і на ўзлакотках узапёрся на стол. Тупы зірк кінуў на вуліцу. Мікалая там убачыў. У адзін момант перамяніўся ў твары хлапец. Гэтакаму здарэнню рад.

— Гэй! — пастукаў ён у вакно.— Пачакай!

Выскачыў на двор:

— А братка! Падай нашым жнеям ваду — аднак ідзеш. Яны тут недалёчка, на навознай ніве.

— Давай! Не вялікі ценжар.

На руку гэта Хвядосу, што Мікалай нагадзіўся. Нечага жанкі маракаваць не будуць, калі забавіцца дома.

Вярнуўся ў хату.

Стаў на ложку. Расхінуў адзежу на шастку. Ці няма там патрэбнай рэчы? Перасунуў з месца на месца бацькавы шарачковыя штаны, пашытыя на гной і жыта калаціць, Ксеніну трацяголетнюю сукенку, другія латы. Стаў на прымурку. Паглядзеў на печы. Мацерына спадніца ў блізны, патыканая сукном, папалася ў рукі. Узяў. Памераў, ці добра прыйдзецца. Пашпарыў на ложак.

«Згодзіцца, калі лепшага не знайду».

З цвіка над ложкам зняў сястрын каптан. Адзяе на сябе. Вот каб хто падгледзеў! З смеху пэнкнуў бы альбо падумаў бы чортведама што.

«Шчэ прадражніць гатовы, прыкладку даць? Ат! Дрэнь. Я гэтага не баюся. Падбрэшуць дый сціхнуць».

Смел Хвядос.

Хоць доўга мадыгаваўся, але ўладзіўся добра завязаць на галаву хустку-манічанку: акурат як на дзяўчыне. Люстэрка на акне знайшоў. Сам на сябе ўгледзеўся. Аздобная дзяўчына б выйшла. Маці гэтакая, як ён, з твару некалі была ў маладзейшыя гады (людзі кажуць). Над ілбом крышку «полькі» выпусціў. Гэтаксама і каля вушэй... Аж палепшаў ад гэтага, калі люстэрка не лжэ.

«А каб стрыжкі гэтыя напячы?» — усміхнуўся Хвядос, што дзяцініцца стаў. І ўсмешка яго пяшчотная, прывабная: дзяўчына, дый годзе.

Сам сябе агледзеў з бакоў, ззаду, як толькі можна было гэта зрабіць, галаву павярнуўшы. Ці йдуць да яго строі — пераканацца хацеў. Не раўнуючы, як паненка

на фэст збіраючыся. Усяго толькі, што яны цёплыя, цяжкія, як на зіму пашытыя. Але ж гэтак і трэба старой бабе — Магрэце.

«Трасцу! Не пазнаюць»,— гэтым словам Хвядос скончыў сябе аглядаць.

«А што, каб ува ўсім гэтым прайсці вуліцу з канца ў канец? — бярэ спакуса — ці пазналі б?»

З акна відаць, як проці хаты на сядзібнай ніве жнеі гоняць свае пастаці з узгорка ў лагчынку. У той час, як Хвядос зірнуў на іх, прынёс Мікалай ваду. Паклалі жанкі сярпы на снапох. Адна за аднэю падыходзяць к збану смагу прагнаць. Іх трох там: маці, Ксеня й Ганька Анцішэўшчынка за віннае аджынае. Летась Ігналя з кабылаю ўсеяцца ім памог. Тады бяда была ў іх хаце: конь мінуўся.

Весела жнеі памагаюць рукамі сваёй гаворцы.

«Схаджу туды. Ото смеху будзе»,— няцерпіцца-такі Хвядосу.

Ізноў узяў з падаконніка люстэрку. Перш нерашуча зірнуў. Потым смялей глянуў. Выйшаў на двор у чым быў у хаце. Замкнуў сенцы. Схаваў ключ. На поле падаўся спаважнаю паходкаю. Няхай бачаць, што мае яна — гэта дзяўчына — тут нейкі інтарэс, калі й дома не жне і на шляхта не едзе.

Многа далі Хвядосу работы жнеі за гэты час. Шмат снапоў ляжыць нязношаных, у мэдлікі не пастаўленых. Трэба ж іх у парадак прывесці.

Ганька на пастаці разагнулася перавясла скруціць. Нажаты сноп за сабою палажыла. Азірнулася назад: дзе хто што робіць на полі — паглядзець захацелася. Ажно бачыць: незнаёмая дзяўчына выходзіць з Чвардоўскіх гумна. «Куды ж яна гэта?» — зацікавілася Ганька. Ага! узыходзіць на сценку. Ідзе пад іх. Не пазнае Ганька — хто яна. Не тутэйшая нейкая. А як цёпла адзета: усё роўна як картоплю капаць выбралася. І хустка як у Ксені: сівая з чорнымі фрэнзлямі.

Глядзела — не пазнала. Кажа на Ксеню:

— Ці не сваячка к вам якая прыйшла? Зірні ты! Вунь ідзе пад нас.

Кінула Ксеня жаць.

— Няма ў нас гэтакіх сваячак.

Хада ёй як бы знаёмая. «Няўжо ж? А можа». Да таго ні ■ толку падумала Ксеня, што й пабаялася ўслых сваёй згадкі сказаць. Смяяцца гатовы б былі.

Палажыла Ігналіха жменю на перавясла. У дзявок пытаецца:

— На каго вы ўгледзеліся?

Кажуць:

— Вунь ідзе нейкая сюська.

Пальцам на дзяўчыну паказалі.

— Далібог, усміхаецца! Ты бачыш, Ганька?

— Ну але ж — усміхаецца!

Тады няўздагад падумала, а зблізку паглядзела, дык — праўда Хвядос! Ён. Але ж рыхтычкі! Шапянула таварышцы:

— Гэта ж Хвядос наш.

Ганька прыглядаецца.

— Няўжо? — але ж праўда!

Дзеўкі ледзьві сутрымлююць смех.

Бліжэй тая дзяўчына падыходзіць. Пад жанск зварочуе. Кажа:

— Памажы божа!

Пырснулі дзеўкі со смеху: голас пазналі.

— Паляжым можа?! — гарэзліва адзываецца Ганька. Свецяць вочы яе прынадным агоньчыкам.

— А каб ты прапаў! Як прыстроіўся? — вось аж калі пазнала маці сына.

Тузаюць Хвядоса дзяўчаты. Штукуюць з яго.

— Каго вы там, сучкі, апанавалі? — цікавасць узяла жней з другой нівы.

— З гораду, бачыце, нейкая прадстаўніца прыехала.

Прыгледзеўшыся, здагадаліся і чужыя.

— А каб ты запаветрыўся! Вось штукар! — сярод дня хацеў баб напалохаць.

— Як ты хустку завязаў? як баба цяпленская,— знайшлі-такі ганьбу на хлопцу.

Зараз ім Хвядос і пахваліўся:

— Гэта ж сёння ўвечары ў Хатніках спяктакаль мае быць. Я там, гэтак прыбраўшыся, буду прыстаўляць.

— А нас пусціш паглядзець? — пытае Ганька. На Ксеню глядзіць. Тая галавою скіўнула — пойдзем.

— Чаму ж не? шчэ першае месца вам дам.

— Глядзі ж! ці ўбачым мы цябе там.

Гэтага дня з поля жнеі раней дамоў прыйшлі: шчэ пастух кароў не прыгнаў. Выпала так, што спялейшае жыта на навозах зжалі ўсё, а пра рэшту Ігналя сказаў:

— Хай шчэ пастаіць — зелена.

Узяў на зубы каліў колькі — мяккае.

Перайсці на дальшую ніву сэнсу не было: пакуль зойдзеш, дык і жаць не пара — змеркнецца.

Вячэраючы, з Хвядоса смяяліся, як ён, прыбраўшыся, на поле хадзіў. Ігналя слухаў-слухаў дый кажа:

— Гэта ж трэба так. Што ж тады за смех, калі выйдзе хто спяктакль прыстаўляць ды ўсе і ведаюць ад першага разу, што за ён. А вот калі хлопец перапранецца ў дзявочыя строі ці маломү — ростам аршын з шапкаю — ды бараду прычапіць. Вось тады бокі падарвеш. Чаму на вечарынцы ці на вяселлі, як стануць абрусы паласкаць, жанкі ў штаны прыбяруцца ды калі ўсходзяцца разыдаваць.

«І то праўда»,— падумалася тым, хто слухаў.

Ксеня з Ганькаю, вылезшы з-за стала, нечага пашапталіся. Хвядос толькі залавіў:

— Каб хто болей, [redacted] то ўдзвёх.

— Цудная ты!

Потым падзываюць яго.

— А пусці жа? дык прыйдзем, толькі больш дзеўкам акажамся.

— Я ж вам казаў.

— Ну глядзі! — угрозілася Ганька. Паказала кулак: вось чаго пападзеш, салжы толькі.

Неўзапаметку зірнуў Хвядос на мацяру. Тая кешкаецца нечага на печы, анучы перакідае з кутка ў куток, на хату не глядзіць. Запамеціў гэта Хвядос. Бліжэй к Ганьцы падступіўся.

— Дзеля цябе на ўсё гатоў.— Ды хвайт яе за грудзі ўсею пяцярнёю. (Ужо й дужаваты ён хлопец, а саромеецца з дзеўкамі дурэць на мацерыных вачох ці на бацькавых.)

Ганька зірк яму ў вочы.

— Не дурэй! — ціха, ласкава пасварылася на яго.

— А як добра пашарэла на дварэ, звязаў Хвядос свае строі ў клунак. Узяў пад паху. Па Бладзіка пайшоў. На аднэй прызбе сядзеў маладзеж. Там пераняли яго. Ганька з дзвюма таварышкамі ўрэпіліся за рукавы, уцягнулі ў гурт. І не пачуў, калі выхвацілі клунак з-пад пахі. Мацаюць, што ў ім.

— Далібожа, хустка!

Развязуюць.

— Войсь дзе спадніца.

— А во каптан.

— Ану вас к чорту! — траха не ляпнуў Хвядос мудрэйшага слова (ужо й на языку было). Хлапец залаваў. Сабраў свае строі, звязаў.

— Ты ж яшчэ Марылю з Агатаю ўпусціш. І яны з намі прыйдуць,— папрасіла Ганька.

Ужо й знаку няма Хвядосавай злосці. Давай штукаваць. Але за гэта папаў, шкадуючы выцятую, аплявуху.

— Ідзі, йдзі! — кажа.

— Нехаця трэба, калі так.

З гэтым словам ён далей падаўся.

Бладзік быў на вуліцы, чакаў.

— Хадзем,— кажа,— барждждэй.

— Ты ж глядзі, жыздрыцкіх дзяўчат так прапусціш, што з Ксеняю прыйдуць. Іх усяго чацвярых.

— Прапушчу,— сказаў Бладзік свае слова,— закон.

Гэта ж яму прыпаручана білеты прадаць. Вось як яно было на першай рапетыцыі. Сталі хлопцы ролі разбіраць. Гэта не дзяўчаты — прасіць не трэба, самі падахвоціліся. За Саўку Бладзік быў падрадзіўся. Тады давай пробаваць, як выходзіць будзе. Ажно ніштавата. Бладзік таксама стараецца. Рукамі гаворцы сваёй памагае. Бізунамі яны ў яго не вісяць. Падказчыка гэтаксама добра ловіць. Толькі той слова-два прачытае, дык Бладзік і ведае, што трэба далей казаць. Калі добра ўгадае, а калі і сваіх слоў колькі прыкіне — не спракудзіцца.

Бывае, што яму гэта на вока выкінуць хлопцы ці настаўнік. Раяць Бладзіку.

— Ты прыслухоўвайся лепш.

Ды мала ўвагі на гэтакія парады. Бладзік бярэ.

— Добра будзе. Такія то бо знакамітыя сюды збяруцца, што пазнаюць.

Спрачацца больш няма чаго. Усё адно яго ніхто не перапрэ. Пакуль Бладзік на сваім не паставіць, не ўнімецца.

— Няма чаго вучыць,— кажа.— Я быў... бачыў... ведаю...

Вось з голасам ужо не тое. Адным звагам дзяўбе, бы чытае па-славянску. Паслухаў быў дарадчыкаў: папрабаваў адзін раз здзіўленне выказаць. Выйшла з гэтага нешта такое, што з людзкім голасам ніякага падабенства не мае.

Пасаймікаваліся хлопцы з настаўнікам — добры ён чалавек — і парашылі другіх выпрабаваць у Саўкавай ролі.

— Можа, хто больш нарвецца за Саўку быць? — пытаюцца.

— Я буду за Саўку,— коратка й выразна адказаў Андрэй з кутка.

— Паглядзім. Хадзі бліжэй.

Не ў нос гэта Бладзіку, чаму змясцілі? Не такая б крыўда была, каб каго людзкага на яго месца паставілі, [redacted] то — Андрэя, самага непрыяцеля. Біцца не біліся, сварыцца не сварыліся, а здэцца б, прыкупіў чаго, каб толькі ведаў, што яно пашкодзіць яму. Адзін Андрэяў нос — палазок, штылем увагнаны ў лабаціну,— агідзен Бладзіку. А да гэтага й самаўпэўнена-зняважлівы голас, звераваты зірк з-пад броў упрыдачу. Бладзік жа дружны хлапец. Засябрыцца з кім, дык пад нож ідзе за таварыша. Ну калі запамеціць, што хто з ім нос пачне задзіраць ці глядзіць ягнём ручным, а сцішка пасмейваецца,— зарэз тады! усякая таварыскасць прэч ад першага разу. Бладзікаў вораг — такі чалавек. Хто б сабе ён ні быў, усё адно. Гэтак было і з Андрэем...

«А пайшлі яны...— у думках вылаяў Бладзік хлопцаў.— Што яны дурня знайшлі?» Услых кажа:

— Рабеце што хочаце. Я тут ні пры чым.

Адышоўся. Сеў на скамейку пазадзе ўсіх. Унурыўся. Не пазірае, што робіцца наперадзе. Не слухае, што гаворыцца там.

«Чорт яе бяры [redacted] рапярціцыяй. Дамоў бы барждзэй... Кіну зараз усё ды пайду. Пазаву Хвядоса. Трасцу! нічога і не зробяць без яго. Вось вазьму ды напеРакор...»

У гэты час яго сакратар запамеціў. Благі кірунак Бладзіковых думак адгадаў. Падыходзіць ласачкаю. Слоў колькі закінуў саўсім на пабочныя тэмы. Бладзік калі на тры пытанні адзін адказ дасць, дык і гэта добра. Патроху сяк-так развесяліўся хлапец. Тады сакратар і сваю мову змяніў.

— Ты,— кажа,— будзеш у дзвярох білеты продаць ды парадку глядзець.

Пасвятлеў Бладзік. Хмара цёмная сышла з твару яго.

— Я быў... ведаю...

Як сядзеў, дык устаў. Бліжэй да гурту падаўся.

— У мяне, брат ты мой, ніводзін мацыяш без білета не праскочыць. За каўнер і вон.

Не з рызыкі, а само па сабе, падцвердзіў ён свае словы, кулаком па скамейцы гасянуўшы.

Вот як тады было.

Цяперака ж у школе хлопцы засталі адных камсамольцаў. Так людзі шчэ не прыйшлі, бо рана. Дзе камсамольцы, там і настаўнік. Неабходны ён хлопцам чалавек, дарма што непартыйны. Чаго самі не расшалопаюць, дык:

— Сходзем па настаўніка,— кажуць.

Малечка што прыпрэцца, просяць:

— Парай, дзядзька Турчак, як гэта...

— Растлумач, што гэта...

Так за ўсякаю ўсячынаю. Ні разочку не адмовіўся. Што работы многа, перад хлопцамі не бедаваў.

Там тое лета пад восень прыехаў быў у Хатнікі інструктар з павятовага камсамольскага камітэта (тады шчэ акруг не было). Сабраў сход маладзяжу ў гэтай самай школе. Гаварыў — гаварыў... Дагаварыўся да таго, што ў Хатніках канечне патрэбна камсамольскую ячэйку згарнізаваць. Падахвоціў хлапцоў. Гэта ж трэба ведаць, былі хлопцы як усе: пелі, гулялі, ламалі платы, калі з кім біцца зграбуцца; а то ўсё гэта набок — партыйныя будуць. Што ж? Каторыя смялейшыя, дык тут жа і запісаліся. Не той цяпер свет, каб у бацькі пытацца, як лепш зрабіць. Цяпер і ў сваты йдуць без папытання, гаспадыню ў хату бяруць. Улада старых не моцная стала.

— Прыходзьце ж,— кажа інструктар,— яшчэ і ўвечары,— на тых, што пазапісваліся.

Лёгкі ногі на парозе ў невядомае. Жвавы хлопцы да новай работы, што (як казаў інструктар) цяпер на ўсём свеце йдзе. Апроч ад непартыйнага маладзяжу — зрабілі свой сход. Тыя на вуліцы горла дзяруць:

А я сваю харошую
Ды па плячах калошаю.
А я сваю бялявую
Ды па карку халяваю.

Камсамольцы ў школе сабе сакратара выбіраюць (ён і дагэтуль не зменены). Шчэ раз яны паслухалі інструктара. А назаўтрае толькі яго і бачылі: заехаў туды, адкуль і прысланы быў.

Ці колас на сенажаці, ці камсамольцы ў Хатніках — усё адно! Што далей рабіць — хлопцы не ведаюць. Яно так: раз партыйныя, дык трэба сякіх-такіх сваіх устаноў глядзець. Ды што за яны, гэныя ўстановы — туман для хлопцаў. Адно толькі зразумела. Пра гэта і інструктар найбольш гаварыў. Самагонка ў вёсках вялікую шкоду робіць. Праз яе і хуліганства разводзіцца, і пажары здараюцца... ды і шчэ шмат чаго. Загэтым і забаронена. Сказана, каб не толькі самому гэтага трунку і ў зуб не браць, але шчэ партыйнаму чалавеку высвятляць патрэбна такіх аляментаў, што гоняць.

Пачаць вось гэта валаводства собіла-такі сакратару.

У Змітрука, сакратаровага бацькі, заваялася саладушнай мукі ў торбачцы ад вялікага посту так хунтаў з пятнаццаць. Папалася яна яму зусім выпадкова: збіраўся ў млын ехаць і не было ў што хлеба ўзяць у дарогу. Стаў торбы шукаць. Знайшоў, ды толькі з мукою. Развязаў. На руку ўзяў, паглядзеў...

«Саладушная мука»,— прызнаў.

«На што ж бы яе спатрэбіць?» — сам у сябе папытаўся.

Памеркаваўшыся, парашыў ён, што:

«К піліпаўцы другую зросцім, а з гэтай трэба выгнаць, а то сапсавацца гатова».

Пайшоў з гэтакімі думкамі ў хату. Жанатаму сваймy сыну сказаў. Той падахвоціўся:

— Дык чаго ж вы? Зарабеце.

«Яно,— думае стары,— нам і баяцца не трэба — у сваёй хаце камсамольца маем: хто гэта падумае на нас?!»

Загадаў жонцы, каб заўтра, у печы палячы, уставіла лішні гаршчок вады.

Як таго дня сказана, дык так назаўтрае досветкам і зроблена было. Таей раніцы і расчынілі, і выстудзілі, дрожджы ўкінулі. Пакуль сакратар з пасцелі ўстаў, дык і ў камору вынеслі, паставілі. Устаў ён і нічога не ведае, што ў хаце было.

Аж на трэці дзень — зараз бы й гнаць пара — зайшоў ён у камору. Дастаў з кубельца кавалак сала, сабе дужаватую скварку адрэзаў. Ажно дзе — нешта драждзыла чуваць, брагаю трохі аддае. Пах знаёмы! Зірк у куток.

— Эгэ-э!

Стаіць цэбар, коўдраю накрыты, а зверху шчэ й кажухом. Сакратару й глядзець больш не трэба — ведае што за яно.

Кінуў ён скварку на кубельцы. Ні да яе цяпер партыйнаму чалавеку. Нікуды не заходзячы, барджджэй папёрся ў сельсавет.

«Ну,— думае йдучы,— хоць ты й бацька, але чорт цябе бяры».

Узяў з сельсавета старшыню й двух панятых.

— Ты гэта чым займаешся? — кажа на бацьку ў іх прысутнасці.

З кутка цабэрак пад парог выцягнуў. Уцягнуў у вушкі кол.

— Бяры, татка, панясём. Бачым яго! — самагоншчык знайшоўся.

Так і пайшла ўся працэсія цераз вуліцу ў савет. Збоку глядзець — любата! Бацька з сынам паперадзе цэбар нясуць. Куртаты Змітрук ды шчэ прыгінаецца; сын і высшы крыху, але роўна йдзе, барада аж залішне паднята. Панятыя ўслед за імі йсці паспяваюць. Людзі на двары павыходзілі — сцішка пасмейваюцца.

Пайшлі дзейкі на ўсёй акалічнасці. Суседзям і знаёмым гэткаю чуткаю хваляцца людзі.

Трохі пачакаўшы, у суседні саўгас быў прыехаў на пабыўку курсант вайсковай школы. Праз людзей дачуўся, што ў Хатніках камсамольская ячэйка ёсць. Разам з гэтым паведамілі яму, што сакратар бацьку з цэбрам на плячах гнаў у савет. Яшчэ да гэтага далгалі, што, кожныя пяць хат мінуўшы, сунімаўся й повуху старому шлеіў. Курсант усё гэта ўважна выслухаў. Чаго трэ было, дык яшчэ распытаўся ў доўгіх на язык баб саўгаскіх. Ва ўчынку сакратара курсант, як камсамолец з дабраватым стажам, знайшоў знявагу арганізацыі. Не доўга чакаючы, прыскочыў у Хатнікі. Забег к сакратару. Загадаў сабраць сакрэтны нечародні сход. Як прыйшлі ўсе камсамольцы, узяўся ён іх навучаць камсамольскім паводзінам. Трэба сказаць, што курсанта ўтрапёны поп хрысціў. Вёртак яго язык, а словы шчэ шпарчэй к губе налятуюць. Захліпуецца хлопец. За адзін раз хоча ўсё, што на розум набяжыць, слухачом расказаць. Разумейце толькі! Гэтаксама сабака зацірку хлебча. Аж шум стаў у хлапцоўскіх вушах. Зразумець і пятага цераз дваццатае не ўправіліся. Толькі й карысць зрабіў, што «Праграму і статут

ЛКСМБ» на ячэйку пакінуў, аднак у кішэні заваляласся.

Абзадачыў ён хлапцоў, аглушыў. Нешта накшае патрэбна,— ведалі ўсе, а што патрэбна — ніхто не здагадаваўся.

Тым часам з павету ўсё паперкі шлюць. Адну за аднэю... Прачытае перш сакратар. Тады хлапцом-камсамольцам пакажа. Пагамоняць. Патарокаюцца. І выходзіць што:

— Нічога не будзе.

Альбо:

— Хто яго ведае.

На гэтыя самыя паперы сакратар, нават [redacted] Явангілі, што падхваціў, як з школы старыя кнігі разбіралі, асадкі прыладзіў. Лісты гэтай кнігі даўно з дымам да боскай хвалы пайшлі. Асадкі й да гэтай пары за абразікам заваляліся. Ёмкія яны й пакаўныя. Ды за тры месяцы да таго растапырыліся, што давялося ніткаю іх звязаваць, каб не згубіць чаго.

Збіліся хлопцы [redacted] тропу.

На начлег едуць ці на вуліцу выйдуць — у іх свой гурток. Непартыйныя пасмейваюцца, трохі й баяцца к таму. Хто ж іх ведае, якія камсамольцам правы даюцца. Вось аднаго разу й дадумаліся гуртам:

А каб к настаўніку схадзіць? Можа, ён памог што?

— Чорта!

— А можа?

— Дык гэта ж недалёка. Але — наўрад. Захоча ён на сваю галаву чужы клопат браць.

Так увечары гаварылі. А назаўтрае, толькі развіднела, сакратар зайшоў па хлапцоў. Утрох рушылі к настаўніку. Меліся дома застаць, пакуль таму йсці на заняткі.

І праўда. Адчынілі хлопцы дзверы... У пярэднім пакоі настаўнічыха з апалонікам каля дзежкі завіхаецца. Вёрткая яна кабета й да простай работы. Спірта бліноў усё расце на табарэціку ля прыпечка. Спраўна ходзіць у руках чапяла. Хлапцом на «дзіндобры» адказала. Пытаецца, чаго прыйшлі. Як яны сказалі, павярнула блін, на заршку паставіла, а сама ў дальшы пакой выйшла. Кажа:

— Пачакайце крыху.

З-за дзвярэй хлопцы пачулі толькі:

— Уставай, Віктар!

Далей шэпты пайшлі.

Вярнулася настаўнічыха назад.

— Ідзеце далей,— просіць.

Там, у другім пакоі, куды хлопцы трапілі, у рагу вялікага гаспадарскага стола сядзеў трохі паднядзеліўшыся неабуты настаўнік. Нізенькі, шчупленькі ён чалавек — на пагляд.

Так і так, скардзяцца хлопцы. Памагай, значыцца, ім біду бядаваць. Просяць рады якой. А нарэшце развязуюць асадкі.

— Вось гляньце.

Узяўся настаўнік іх канцыляру перакідаць. Каторую карталюшку з канца ў канец прачытае. Другую толькі збольшага вачыма прабяжыць. Бывае, што сустрэне «сакрэтна» ўверсе напісанае. Весела брывамі зварухне знізу ўгору і зноў уніз: ён жа — непартыйны чалавек.

— Чаму ж вы мне раней не аказаліся? — бэсціць хлапцоў.

— Каб жа ж мы ведалі!

— На што ж бы што.

Так памалу й разгаварыліся. Здэцца, й сустракацца ім не першыня. Ужо настаўнік іх увечары прыйсці к сабе просіць і тых, што гэты раз дома асталіся, прывесці кажа.

Зірнуў ён на вялікі насценны гадзіннік. Зараз пара будзе ў школу йсці, пад дзевяць падбіраецца.

— Трэба збірацца,— кажа сваю думку ўслых.

Хлопцы бачаць — дарма час чалавеку нашто займаць. К парогу памалу адыходзяцца, як згаварыўшыся. Сакратар ужо й на слясак палец палажыў. Заўважыў гэта настаўнік і пераняў:

— Пачакайце крыху.

Сам папароўся на маленькім століку перад акном. З сцірты кніжак адлажыў сабе патрэбнейшыя. Знайшоў адну з сіняю вокладкаю. Дае хлапцом.

— Вось гэту палітграмату вам трэба прайсці. Яраслаўскага. Сама лепшая.

Ішлі хлопцы дамоў на лёгкіх нагах. Гаманілі. Смяяліся. Шастаў асенні вецер іх непадпяразаныя кашулі. Цёпла, добра... Чорт яго бяры з надвор'ем, якое яно ні ёсць!

Добры чалавек настаўнік. Турчак, няма чаго казаць, прыветлівы.

Толькі ўбачыў, што жыздрыцкія хлопцы дзверы ў клас адчынілі, жартуе:

— Вось вам і Магрэта.

Узяў Бладзік ад сакратара самаробны квітаруснік, увесь злеплены сельсавецкаю пячаткаю, дзе трэба й дзе не трэба.

— Цяпер я тут глаўны камандатар,— смяецца ён.

Гэты вечар класа стала многа адменнаю, чым усе тыя разы. Лаўкі перадам пастаўлены не к дзвярам, а на кут. Ля сцяны ў глыбі пакоя на крыжох пасланы памост з аполкаў. Пасцілкамі адвешан ад цікавага вока гэты прыблізны мадэлек сцэны. Камсамольцы знеслі іх з дому, якую хто меў: хто арцабовую, хто ў кругі тканую, палосістую, ператыканую анучамі... Як што зрабіць, чаго прыстарацца к спектаклю іх дакладаў Турчак. Жыздрыцкія прыйшлі на ўсё гатовае.

Хвядоса, Андрэя й Міхася з Пагулянкі настаўнік на сцэну павёў. Паказуе. Хваліць нікчэмнае сцэнічае абсталяванне.

Тым часам сталі збірацца людзі. Паперадзе — як вядома — малыя прыбеглі. Тыц у дзверы. А Бладзік на сваём месцы стаіць і свае абавязкі ведае.

— Куды гэта?!

— На спяктакль,— тым самым голасам, якім бы вымаўлялася «На вяселле»,— жвава адказалі. Такі век дзяціны: усюды пасовуюць сталейшыя. Малы й на вечарыну не патыкайся, малы сваркі не слухай, на бойку не глядзі... Дзе цесна — малых прэч! Дамоў спаць усё іх выпраўляюць. Але, памеркаваўшыся, й з гэтым гора мала. Выганяюць, а ты пад рукі і ўскочыў. Толькі ў гурт дапасці, а там — трасцу! Не знойдуць.

— Гані па пяць капеек! — Бладзік загадуе сярдзітым голасам. Ён добра ведае — што карысць з малых.

— Пяць капеек?! Які ты разумны? Дам яму пяць капеек,— дражніцца смялейшы, што спрыцен ўцячы.

— На печ, малыя, спаць, вунь маці кліча.— За каўнер і адкідае за дзверы самага ўпраўнейшага. Другія не чакаюць просьбы.

Ад вуліцы да школы пыліць дарога. Ідуць болей. Там ужо хлопцы самі ў сабе, белыя хісткі відаць здалёк. Малыя бягуць у вуліцу. Каго знаюць, каго не — усім перdesignказуюць, каб дзесятку нарыхтавалі.

— Так не пусціць,— у адзін зваг пішчаць.

Бладзік агітацыю вядзе:

— Купляйце білеты танна. Па пяць капеек.

Надоечы быў ён у мястэчку. Там пажарная на месца латарэю вывозіла. Дай дзве залатоўкі, дык выцягнеш шпільку і цукерку... калі насоўка пападзецца, дык вялікае шчасце! Дурацць людзей!

— Наваліся, у каго грошы завяліся! — на манер песні мацней гукае ён. Гэтак і той латарэйшчык у мястэчку горла драў.

Папярэднія на задніх азіраюцца. Штораз больш людзей прыбывае. Чуваць грубыя галасы старых мужчын. А яны, паважаючы сваю сталасць, заўжды глядзяць, каб пярэднімі не выскакваць. Паддае гэта надзеі, што нешта мае быць. З карталюшкаю ў руках уваходзяць па адном у клас.

А за палосістымі посцілкамі хлопцы вусы з кажурыны ніткамі за вушы прычэплююць. У лапці паабуваліся. Чэрняць бровы й бароды сажаю. Хвядос жаночыя строі надзеў, нацёр шчокі ружоваю папераю, што дома ад ручніка над абразікам адарваў. Пакуль яны тое ды сёе, дык у клясу мнагавата людзей найшло. Розныя гамонкі... А з усіх галасоў такая каша, што хоць ты вушы затыкай. Бразгаюць вечкі скамеек ім у помач.

— Гатова ў вас? — памаўчыць-памаўчыць ды запытаецца настаўнік. Ужо й пастараўся двух камсамольцаў, каб заслону расхінулі, як пачнецца.

Калі ж артыстыя далі згоду пачынаць, з кніжкаю сышоў настаўнік з сцэны. Камсамольцы ў бакі посцілкі расхінулі. Самі ўкруціліся ў іх стаяць.

— Вунь, вунь!

— Пазірай!

Шчэ мацнейшы гоман стаў у людзях. Не маўчаў і Саўка: хадзіў па сцэне, бедаваў, што жонка многа работ загадала. У натоўпе ўбачылі, што й на сцэне нешта гаворыцца. Патроху, памалу, дый сціхлі. Толькі калі слова смешнае ці рух зловяць — раптоўна рогат справяць. Адзавуцца ды змоўкнуць.

Хлапцоў хатніцкіх адразачку пазналі па голасе, як тыя ні псцілі язык у нос, як ні зацягвалі.

— Во гэны, што з рэшатам бегае,— кажуць,— Андрэй.

— А той, што з торбаю,— Міхась.

Магрэты ж ніяк ім не пазнаць.

— Чыя ж гэта?
— Вот смелая і вытлук...
— Не тутэйшая, мусіць.
— З гораду. Дзе табе тутэйшая! Тамака многа ўсякіх валанцеяў. Што ж будзе рабіць каторая, ніякага занятку ў руках не маючы.

Стаяць у людзях жыздрацкія дзяўчата. Спазніліся яны, каб сесці. Чуюць гэтакія гамонкі. Смех ім.

— Бачыш, як ваш Хвядос? — Ганька кажа Ксені.

Які там Хвядос? Гэта ж адзін Андрэй, другі Міхась — нашы хлопцы.

— Аздобная дзяўчынка,— не перасціхае Ганька.

Апрыч Хвядоса, усе хлопцы прадстаўляюць, што першы раз. Ні па сабе ім гэтакі збор народу. Ды ўсе, колькі ёсць, пазіраюць, што ты рабіць будзеш і што скажаш — слухаюць. Дурны смех бярэ называных артыстых. Ні з таго, што робіш, ні [redacted] таго, што гаворыш, а ад таго, што ва ўсім гэтым сам удзел бярэш.

К Хвядосу хлопцы лезуць, абы ён выйшаў з сцэны.

— Хадзі сюды, паненачка!

Сакратар як напраўду давай абнімацца. Хвядос перш усё гэта за жарты прымаў. Потым абрыдала. Паслаў далей аднаго-другога... Пэўне яго лаянку ў людзях пачулі. Настаўнік і той не ўмоўчыў:

— Брыдка, таварышы! Публіцы чуваць.
— Ганарыстая, падла! — выскіляюцца хлопцы.
— А што ж бо! Калі ж азыралі [redacted] сваімі жартамі.

Тут хвайт — канец. Моцна гэта слова прачытаў Турчак. Збегліся разам камсамольцы, ссунулі пасцілкі. Сакратар наперад заслоны выйшаў.

— Сягоння,— кажа,— скончана. Прыходзьце другі раз.

Шугнулі людзі і к дзвярам. Толькі й гаворка што пра спектакль. Не сходзіць гэта слова з языка.

Артыстыя свае клункі звязуюць. Абмываюць твар хто ад сажы, Хвядос ад паперы. Камсамольцы пасцілкі разбіраюць кожан сваю. Узлез на сцэну старшыня сельсавета. На яго вачах дзеўка ў хлопца перадзяецца. Гэтым зацікавіўся ён. Падыходзіць к Хвядосу. Хваліць.

— Сапраўдная паненка. І ўхваткі ўсе дзявочыя, й голас. Ну — рыхтычкі! — Чуваць аўтарытэтнасць ў яго словах. Старшыня знакаміты па гэтай часці чалавек.

## X

Зарыпелі колы вагонаў на пераездзе, расціскаючы дробныя каменчыкі. Пакаціліся яны штораз цішэй-цішэй... Ужо будынкі відаць вакзальныя нізкія, бляхаю крытыя. Будачнікава хатка, невялічкая знадворку на погляд, але памяркоўная на адну сям'ю, памаленьку пайшла назад к пераезду.

Прыехалі на станцыю. Пасажыраў нямнога ў вагонах. Яшчэ менш злазіць іх.

Сышоў на цымянтовую пляцоўку й Яська Корабач, дутаваты з вуграмі на мардатых шчоках хлапец. Памалу ідзе. Па бакох раззірае. Некуды спяшацца яму.

«Лепш,— думае,— у вакзале пачакаць, чым у райкоме на ганку гнуцца».

Нясе яўрэйка два каранёвыя кашалі ў руках, нечага поўна напакаваныя. За ёю мяшчанка ў старасвецкім доўгім палітоне вядзе за руку маленькага хлапчука ў шапцы-матросцы. Не паспяе малы за сваім павадыром. Раззірае на бакі. Маль не поцягам цягне мяшчанка цікаўнага хлапчука.

— Ідзі барждзжэй! Вунь тата чакае.

Усе ў адны дзверы ўходзяць, праз другія выходзяць.

Следам за імі выйшаў і Корабач на брукованы вакзальны пляц. Там бачыў, як села мяшчанка з дзіцем на вузенькую доўгую каламашку. Не стары шчэ мужчына, хурман яе, сеў на лаўцы ўперадзе, сморгнуў лейцамі каня, й паехалі. Павезлі гандляроў з кашалямі, вандзэлкамі ў мястэчка дзве хурманкі балаголаў. Стук-грук ад кол па бруку. Што яны гаргэчуць, Корабач не разабраў.

Ён паглядзеў ім услед. Запамеціў дарогу ў мястэчка. Недалёка яно адгэтуль. Вярсты са тры будзе, калі не менш. З вакзалу відаць дамы, сады. Белая цэркаў з сіняю вежаю й тычкі радзіва (як у нас гавораць) вышай над усім.

Пастаяў Корабач, паглядзеў. Потым завярнуўся й спацырам пайшоў на вакзал.

Высока жаваранкі ўзлятаюць у ранішнім чыстым, звонкім паветры, адтуль нырца даюць траха ні да самай зямлі. Цурыкаюць свае нескончоныя песні. Цёпла. Парнасць. Хараство на дварэ ў гэту пару.

Службовыя людзі ходзяць каля машыны. Далёка

чуваць стук іх цяжкіх ботаў на цыменце. Рыхтуюць у ход цягнік. Раптам, бы хочучы перамагчы птушыныя галасы, напудзіць іх, даў свісток перш станцыначальнік. Яшчэ мацней яму дапамог машыністы. Званіць не было дзеля каго. Абышліся і без гэтай фармальнасці.

Выскачыў у гэты час з вакзалу Корабач, каб апошні раз паглядзець на цягнік. Памалу пакаціліся ўдаль перш зялёныя пасажырскія вагоны, за імі таварныя пусціліся даганяць. Корабач усё стаяў і глядзеў. На паваротцы доўгі чырвоны хвост таварных вагонаў выкруціўся ў паўкруг. Скрутнуўся й прапаў за высокім насыпам ■ левага боку.

Згледзеў Корабач лаўку каля шчакет. Сеў.

Сонца нядаўна толькі што ўзышло. Поверх нізкіх кустоў елак відаць быў усяго акраец яго чырванейшага за першамайскі сцяг. Водалей збоку зіхацеў свежым зяленівам невялічкі лясок. Праз яго рэдкі частакол відаць мноства пней — гэта на памяць людзям ад васемнадцатага году. За пасекаю стаіць засценак — хат шэсць — увесь відаць, як на роўным дзе полі.

Пасядзеў Корабач. Паглядзеў. Але не сядзіцца таму чалавеку, каторы мае які-небудзь інтарэс ды шчэ не справіў яго. Памалу ў вакзал пасунуўся.

Сеў на канапе з гардзістым сядзеннем. Пазяхнуў разоў колькі. З кішэні дастаў блакнот. У ім знайшоў службовую запіску ад Цэка Камсамолу Беларусі. Прачытаў усю з канца ў канец. Апошнія словы:

«...прапануецца паслаць Я. Корабача на нізавую працу ў вёску вашага раёну. З камсамольскага боку ён актыўны працаўнік».

Гэтыя словы прачытаў яшчэ разоў два. Падумаў: «Чорт яго бяры — папрацуем».

Зложыў дакумент у чатыры пагібелі. На ранейшае месца ў блакнот палажыў. Пасядзеў хвілін колькі сагнуўшыся, бараду кулакамі падапёршы.

Нічога цікавага ў вакзале няма. Сцены старыя, чорныя. Палякаў адгэтуль так добра паштыралі, што не ўправіліся іх спаліць, як гэта ў другіх месцах зрабілі. На сценах зрэдзь вісяць розныя абвесткі закураныя, ад старасці парыжэлыя. Самай свяжэйшай сышоў тэрмін летась перад першым маем. Захаваўся тут яшчэ плакат к «дзізярцірам», каб ішлі ў Чырвоную армію добраахвотна, каб грудзьмі баранілі маладую савецкую краіну. Даўно музей рэвалюцыі ў Мінску чакае яго, а пла-

кат наперакор правом даўнасці вісіць на гэтай сцяне. Мала значыць усё гэта таму вандроўцу, што параніцца прыйсці [redacted] цягніку. Хай сабе ён тут на тыдзень два разы ці й больш вяртаецца па гэтым вакзале,— усё роўна прачытае ўсё на сценах, што толькі льга. На дзвярах вісіць абвестка, каб рабочыя 11 сакавіка прыйшлі на перавыбары мясцкому — і яе не праміне. Усё як трэба зрабіў і Корабач. Абрыдала — пахадзіў з кута ў кут.

Хацеў быў зноў пачынаць сцены абглядаць, ды як падумаў, так і сказаў моцна (апрыч яго на вакзале ні адной душы не было).

— Пайду. Хто яго тут будзе марнець.

На двары вецер лёгкі й цёплы. Насыхаюць на нівах крыжыкі аўса. Травы многа на іржышчы. Будзе паядак быдлу, як звозяць снапы ды пастух сюды статак прыгоніць. Не цікава гэта Корабачу — ідзе ўнурыўшыся. Вёска ўжо ўправілася аддаліцца ад яго. Цэлых шэсць год у горадзе вучыўся. Улетку прыедзе дамоў, дык спіць у пасцелі да паўдня. Прачнецца. Маці есці наліе. Пасёрбае чаго збольшага. Возьме кніжку. Зойдзе пад яблыну й чытае. Збрыдае, чытаючы,— кіне кніжку, на рэчку ідзе. Большым хлапцом, яго аднагадкам, няма калі будным днём купацца йсці, дык Яська сабе малых чараду падгаворыць, каб ахвотней было. Ад купання йзноў за кніжку бярэцца. Стане горача — зноў на рэчку. Так на дзень разоў пяць сама меней пакупаецца. А вечар настане — ухваціў стравы якой лыжкі дзве, ды на вуліцу да дзявок. Пявуны запяюць — дамоў тады прыходзіць.

Зімою і ўдзень хоць работу робячы, але ў хаце застанеш сваіх сябрукоў. Увесь дзень Яська на сяле сядзіць. Увечара скудзельніцы па хатах збіраюцца. Без яго там не абыдуцца. Шнур скінуць ці кудзелю ў прасніцы падпаліць — самы мэт Яська.

Айчымага зямля — рабі айчым. Айчыцаў набытак — ты й даглядай яго. Яська вучань. Яму толькі адзежу спраў, харчы ў Мінск завязі, кватэру наймі і кніжак купі, якіх скажа. За ўсё за гэта, як выйдзе за нейкага начальніка пасынак, табе астанецца яго часць зямлі.

За айчымам астаноўкі б не было, выйшаў бы Яська за начальніка. Але вось бяда — мае ён зямлі дужавата: цэлую паўвалоку. Колькі падзялілі, як паншчыну скасавалі, толькі й цяпер у іх ёсць. І ў айчымавага

бацькі, і ў айчыма самога не было братоў. Ні разу не было падзелу на іх грунце ад самай паншчыны.

Дачуваецца Корабач праз сваіх старшых сяброў, што кепска з такім «сацыяльным становішчам» убіцца дзе. Неабходна ж яму ўбіцца, трэба апошні год агульнаадукацыйныя курсы хлапцу праходзіць.

А ён — камсамолец. Даўно спадабалася Яську праца ў арганізацыі, яшчэ як у сямігодцы быў. Шчыра ўзяўся за яе. Перш у вучком, а потым і ў бюро ячэйкі правялі былі яго. Мае стаж...

Умеў змалку цвёрда на сваём стаяць, дабівацца сабе выгады. Бяда прыперла — навучыўся пішчаць, прасіцца. У апошні год стаў парогі адбіваць у Цэка. Бедаваў, што кепска жыць з айчымам. Там не жалезныя людзі, чужому гору ўмеюць спагадаць. Спярша трохі ўпіраліся, не хацелі... Потым уважыліся, напісалі яму тую карталюшку, што ў вакзале сам сабе чытаў. На раён паслалі.

Дрэннае адзенне на Яську. Колькі раз пытаўся айчым:

— Табе можа паўсукна набраць на жакетку. Чорт цябе ведае. Ходзіць абарваны, як бабак. Людзі падумаюць шчэ, што шкадую на цябе грошай.

— А можа я не хачу.

— Што за не хачу?! Дзе быў дурань!

— Цяпер не строяцца надта.

Агідны былі Яську строі, спраўленыя за айчымаў кошт. Тады й на курсах сябры скажуць.

— Чорт яго не бярэ — багата жыве.

Няма горшага пудзіла за гэтыя словы ў наш час. Вялікая ганьба — багацце. Тым болей таму, хто дома сядзець не думае, хоча чалавекам быць, як кажуць.

Паглядзелі ў Цэка на яго зрыжэлую жакетку, на штаны з фрэнзлямі ўнізе. Шкода хлопца стала. Узялі дый выпатрабавалі дарэмны білет на дарогу.

Дома айчыму Яська лішняга слова не прамовіў, куды едзе й чаго. Нават грошай ні рубельчыка ў дарогу не папрасіў. Як стаіць, так і паехаў.

«Астануся дзе, дык за свае грошы, што будзе трэба, куплю. Паперадзе зарабіць трэба».

«Пабуду,— думае,— да таей восені, а там ў Віцебскі ветэрынарны інстытут камандзіроўку дастану. У анкеце грамадскую працу ўпісаць ільга будзе. І гэта многа значыць. А самае галоўнае — пралятар тады бу-

ду, без уласнасці чалавек. І самому лёгка ад гэтага, й другім прыемна, ды к таму — усюды першае месца тваё».

Сёння не кірмашны дзень. На гасцінцы хурманку згледзець — рэдкасць. Ніхто не грукае, Корабачу думак не перабівае.

Пакуль ён райком апытаў, дык той ужо адчынены быў. У першай камары з прыходу нікога няма. Там толькі два крэслы й стол стаіць. На стале чарнільніца пасярэдзіне й пяты том твораў Леніна проці крэсла ляжыць, расхінёны на 45-й старонцы. Відаць па ўсём, што нехта быў тут сёння ды недзе выйшаў.

Зайшоў у другі камар. Там не то хлопец, не то мужчына ўзлёг грудзьмі на стол. «Чырвоную змену» чытае на трэцяй старонцы. Спадцішка зірнуў, хто там увайшоў, ды йзноў чытае, быццам ні на што і ўвагі не бярэ. Доўгія валасы ўніз звіслі, захінаюць твар. Відаць толькі ніжняя палавіна яго густа ўросшай шчаціннем барады — галіўся даўно.

— Ці не ты будзеш сакратар райкому?

— Я. Сакратар камсамольскага райкому. Чаго трэба?

Адлажыў набок «Чырвоную змену». Распытуецца ў Корабача, хто ён такі, адкуль, дзе дагэтуль быў. Далей-болей гаворка ў іх пайшла. Паглядзеў камандзіроўкі. Дзе б хлопцу работу даць заклапаціўся. У райкоме свой тэлефон на сцяне вісіць. Пазваніў у Рык.

Давай пра Хатнікі перагаварвацца. Не адзін пратакол адтуль хлопцы прыперлі, каб хату-чытальню сваю мець. Вот і цяпер успомнілася гэта сакратару райкома.

— Я згодзен, і хай будзе па-твойму,— апошні раз сказаў ён у тэлефон і павесіў трубку на цвік.

Да Корабача звярнуўся з гэтакаю моваю:

— Гатова. Усё наладжана. Паедзеш у Хатнікі, дваццаць вёрст адгэтуль. Там за хатніка астанешся. Працы будзе. Хатніцкая ячэйка — самая горшая ў раёне, так што — на цябе надзея. Далёка ад цэнтру... Бядовыя хлопцы там ёсць, асабліва Мотуз. Ад першага разу з ім пасварышся, я табе кажу.

— Дык чаму ж у вас гэтакія склочнікі сядзяць у ячэйках? Выключыць бы Мотуза, вам што значыла?

— Так то так! Але не трэба, брат, раскідацца людзьмі. Што — Мотуз? Над яго баявейшага камсамольца няма. Толькі ўсяго, што закону нейкага свайго

даходзіць. Па-мойму, ён палітычна мала разбітны хлапец. Праслаўскага шчэ трэба прайці з гэткімі таварышамі. Твая гэта работа.

За сваё сакратарства ў райкоме ўсяго разоў тры давялося яму быць у Хатніках, але Бладзік даўся ў знакі. Шчэ помніць гэтаксама, як за мост, што думала ячэйка паправіць, прыходзіў Бладзік у райком званіць. Раззлаваўся быў на сваіх камсамольцаў. Агусту Салібовіча дамагаўся, каб выключыць і Андрэя з Хатнікаў, сябра бюра.

Узяў сакратар райкома з стала паперку. У рукі асадку ўплёў. Стаў перш пяром пісаць. Потым палажыў асадку. Прачытаў. Пакамячыў. Падраў.

— Трэба друкаваныя табе дакументы даць. Пісаным не паверацъ. Мотуз, брат...— хацеў шчэ нешта пра Бладзіка сказаць, ды заспяшаўся выйсці ў другі камар, дзе партыйны райком. Толькі ўзяўся за клямку, дык і сціх. Чуе Корабач — заляскала машынка за сцяною.

Як пан, рассеўся Яська за райкомскім сталом, «Чырвоную Змену» к сабе падцягнуў — чытае. Лезуць неслушны валасы, што пад шапку не ўвабраны, прама ў вочы яму. Закінуў іх за адно вуха, за другое, канцы пасмы пад кепку падаткнуў.

Сакратар неўзабаве вярнуўся назад з гатоваю карталюшкаю ў руках.

— Маеш,— падае карталюшку Корабачу.— Цябе сакратаром Хатніцкай ячэйкі прапануе райком. Глядзі... там добра!.. Адным словам, выкінь чалавек колькі, калі трэба будзе. Мотуза пакінь: з яго камсамолец будзе на яць.

Таго самага дня борзда справіў Корабач што трэба было ў культаддзеле ў Рыку. Шчэ перад паўднём гатоў быў к ад'езду.

Загадчык культаддзелу начальнікам выглядае. Носіць ён акуляры на носе. Ці затым, каб не пабіць шкла ў іх, як скопяцца з пляскатай пераносіцы, ці затым, каб, хто гаворыць з загадчыкам, мог назіраць багатую расліннасць яго носа,— заўсёды служыць загадчыкава галава ўгару. Гаворыць трохі ў нос — ціснуць акуляры. Да гэтага году настаўнікам ён быў. Ну й яго баяліся дзеці! Шчэ й за царом не меў загадчык моды даваць «лапы» вучням, каторыя ўроку не вывучаць. Нават і крычаць не крычыць, а толькі зірне старчма

ўніз. Трапее ад гэтакага погляду дураўное дзіця. Вось гэты самы загадчык спрыяў Корабачу. Дармо што ён пазірае поверх людзей, але ўсё патом добра бачыць.

Таго самага дня нагадзіўся ў Рык старшыня Хатніцкага сельсавета. Скончыў у падатковай часці свае рахункі, ідзе к дзвярам. А ў гэты час загадчык культчасці нёс папер цэлую «Справу № 17». Узяўся быў за клямку ў дзвярах кабінета старшыні выканаўчага камітэту, як убачыў хатніцкага старшыню.

— Таварыш Закапіцкі!

Той заўняўся. Зірнуў, хто яго кліча, ды чакае, што далей будзе.

— Я маю справу да вас.

— Кажыце.

— Вы з хурманкаю?

— Пад'ехаў з адным чалавекам. Яму ў крэдытнае таварыства трэ было. Сячкарню на выплат хоча ўзяць.

— А назад як? пяхотам?

— Паеду.

— З кім?

— З тым самым чалавекам.

— Вазьмеце падарожніка з сабою. Ён у Хатнікі. За ізбача ў вас астаецца.

З сяброўскай гаворкі загадчык борзда перайшоў на начальніцкую:

— Вы там дапамажэце. Ну, кватэру, абсталяванне... усё, адным словам.

— Да ўжо ж! — не любіць таго Закапіцкі слухаць, што й сам добра ведае. Пытаецца: — А дзе ён? Хай ідзе, дык паедзем.

— Пачакайце крыху. Я яму зараз скажу.

Не пайшоў загадчык у старшынёў кабінет, а з усімі паперамі ў свой камар вярнуўся. Выходзіць адтуль і хлопца за сабою вядзе ўслед.

— Вот з гэтым дзядзькам паедзеш,— загадчык Корабачу паказаў Хатніцкага старшыню.

Краткам ды збольшага абгледзелі яны адзін аднаго.

«Дзядзька» шчэ цёткі не меў. Увалгаўся загадчык, Закапіцкага гэтак назваўшы. За гэтыя гады беларусізацыі ў нас такая мода пайшла. Член сельсавета ў Жыздрыцы ёсць адзін, дык каб сыну свайму падалікаціць і піянерскага звання яго не зняважыць — вучыца хлопец у мястэчку — дык «дзядзькам Міколікам»

заве перад чужымі людзьмі. Гэтак у першыя гады рэвалюцыі слова «таварыш» было ўведзена. Навогул жа Закапіцкі не стары хлопец — сама што наглядае добрую дзеўку, каб у прымы прыстаць. А на пагляд дык ён і рызыкоўным кавалерам выдае: зграбны з цела, прыгожы з скуры, пагляд ачэй патаемны нейкі — заўсёды ўніз ці дзе на бакі яны накіраваны, а твар з самым вясёлым выразам.

Корабач ізноў... Высокі хлопец. На курсах па фізкультуры мудрэй усіх умеў штукі даказваць. Каб не вугры на мардатых шчоках, дык і ■ твару аздабнейшага не трэ было б. Усяго што гарнітур не пазорны: у адным чаравіку кашы просіць насок, у другім знадворку бок распароўся. Старая жакетка суконная ад сонца й доўгага веку парыжэла, локці папраціраліся. Штаны-клёш з фрэнзлямі ўнізу.

Прыйшлі яны на места. Стаіць драбінка. Хрумкае сівы конь у торбе аброк. Хурмана няма пры возе. Пацягнуўся ён каля вазоў пахадзіць. А іх не так і многа на месце — ільга ўсе пералічыць. Не кірмашны гэты дзень. У крамах таксама трэба ж сяго-таго патрабнейшага патаргаваць — можа калі й купіць прыйдзецца. Як дорага купіць — трэба ўвазнаць. Якая цана прадаць — трэба ведаць. Дамоў прыехаўшы, сусед прыйдзе. Трэба ж яму, што чуў-бачыў, расказаць.

Не так далёка адышоўся быў хурман. Зглядзеў, што Закапіцкі з некім незнаёмым ля воза стаіць. Вярнуўся назад. І так жонка кожны раз крычыць, што дамоў ён у пору не прыедзе, як добрыя людзі. Дзе яны ёсць тыя добрыя людзі? А сама на сваім вяку ўсяго разоў з пяць ездзіла ў мястэчка да торгу. У горадзе й саўсім не была, толькі чула-чула, што гарады на свеце ёсць. П'яніца вялікі яе бацька быў. Прадаўшы што мае, перш з падсябрычамі — дзе іх няма! — зложыцца на кварту. Павесялее, чарак колькі перакуліўшы. Тады бяда! Усю дарогу пяе:

— Гальяшу йдзе на душу,
А Гальяшысе хоць задушыся!..

З боку на бок перакочваецца пад тахт песні. Убачыць на гасцінцы карчму. Так з ёю не развітаецца, каб не зайсці. Гадкі быў да гэтага чалавек! Дзе з ім ездзіць па кірмашах. А зайшла замуж. Зараз дзеці малыя з'явіліся — зноў няма як.

Падыходзіць хурман к возу. Гэта ж Мотуз Жыздрыцкі, бацька Бладзікаў. Зірнуў у твар ізбачу. Паглядзеў на жакетку, на чаравікі. Нават «дзіндобры» не даў. Моўчкі ўзапёрся на білу. Пытаецца ў Закапіцкага:

— Можа, запрагаць?

— Па мне можна. Як сам уважаеш.

— Да й мне няма чаго тут вісець.

Бярэ Мотуз лугі ў рукі. Кабылу ад перадка адвязаў. Зняў недаедзены аброк. Заводзіць у аглоблі.

Закапіцкі кажа:

— Вот гэтага хлопца хатнікам у наш сельсавет прыслалі. Можа б, і ён з намі пад'ехаў?

Мотуз з аднаго боку залажыў лугі ў гуж. Заходзячы на другі бок, украдкам шчэ раз зірнуў на Корабача.

— Хай садзіцца.

Што за шышка гэткая — хатнік, не ведае Мотуз і дапытвацца не стаў. Не цікавіць старога. Запрог, і паехалі. Сам з Закапіцкім узадзе селі. Корабач сагнуўся ў перадку: Мотузаў конь худы. Бладзік, як быў меншым ды часу больш меў, лепш яго прыпасаваў, на саўгаскую цімахвейку ўночы ездзіў на начлег. Дый старасць многа значыць. А ўдругае: які там наедак на жыздрыцкім мокрым балоце. На грудох жа выгарала трава ад гарачыні. Рэбры на кані палічыш. А і ўбоіна ж ён к таму! На пугу й увагі не думае браць: хвастом не скіўне ніто, каб пабегчы. На яго хварасціна ў Мотуза прызапашана, каб паганяць. Цераз Корабача пацягнуў ён разоў тры, толькі скіраваў ён на сваю вуліцу. Патрухаўся каняка... Брук — паскудства: трасе, падкідае, грукаціць.

Яшчэ й за мястэчкам з вярсту выбрукавана дарога, аж покуль не будзе паваротка на вакзал. Але ніхто смышлёны не ездзіць па ём. З аднаго й другога боку па голай зямлі два сляды знаць. Выбірай, каторы любы, дзе сушэй ехаць ды калдабаноў менш.

— А як жа з сячкарняю? — пытаецца Закапіцкі ў Мотуза. Той хуць гаваркі чалавек, але маўчыць усю дарогу.

— Узяў. Толькі прыехаць па нядзелі й забраць. З сіндыкату ім прышлюць на гэтым тыдні.

— На многа?

— На паўтара года выплачаваць.

Так падарожнікі й развесяліліся! Закапіцкі расказаў смешнае здарэнне на адным падзеле. Дзялілі бабы гаршкі ды калі возьмуцца іх малаціць. Ніводнага нікому не прыйшлося. Зайшла мова пра цяперашні закон аб падзеле й даўнейшы. Тут рука падышла й Корабачу сваё слова ўмяшаць. Не прапусціў ён дарма гэтага здарэння. Вельмі ж Корабачу падабаецца, як відаць па яго гаворцы, што цяпер сын без бацькавай згоды можа падаць у суд і ўзяць сабе часць.

— Які чорт хто сам, дык за такіх і бярэцца,— перапыніў яго Мотуз цмяным недаказам. Потым ні з таго ні з сяго пытае: — Самога, мусіць, з дому праштырылі?

— Чаму так? Па чым вы пазналі?

— А так... па ўсім.

Не любіць Корабач казаць, адкуль ён і хто. Тут ілгаць крыху прыходзіцца. Блутаныя выходзяць адказы. А цяпер яму й пагатоў няма чаго спавядацца, тым болей што ніхто й не дапытуецца надта.

Звесіў Мотуз уніз галаву. Перад самым яго носам вышчарыўся Корабачаў чалавек. З дзіркі відаць павытаркаўшыя дзераўянныя цвікі, як іклы ў малага шчаняці, толькі што многа іх.

Старога Мотуза згáдзіла такая карціна. Адвярнуўся ўбок. На пасялкоўскім полі пажылая кабета сама ўціскае воз аўса. Накладзен ён то добра — няма чаго казаць. Толькі не йдзе кабеце гэта мужчынская работа. Гадка глядзець, як яна падпаражыцца па грудзях вужышчам, упрэцца нагамі ў снапы, джэгаючыся спушчаецца аж да зямлі плячыма.

Корабач гэтым часам сказаў слоў колькі, але да толку, аб тым, што даўней закон быў у панскую ды багатырскую руку, а цяпер у бядняцкую.

Мотуз нехаця заслухаўся. Падняў галаву.

«Дык ты, патом, панімаесся трохі»,— падумаў.

Ніхто Корабачавай мовы не перапыняў. А ён — карыстаючыся людскою ўвагаю — траха ні дайшоў у гаворцы аж у прынадную даль сацыялізму. Туды ад забароны драбніць гаспадаркі — прамы гасцінец. Але, у гэтакую дарогу выбраўшыся, без камсамольцаў не абыдзіся. Толькі ж ён гэта слова ўспамянуў, аказуецца зноў Мотуз.

— Гультай каторы ўдасца, дык і камсамолец.

Ні да спрэчкі Мотузава слова ўходзіць: гэта —

перакананне. Абрыдала Корабачу гаварыць аднаму. Рад ён у гутарцы старонняму чалавеку. Усё лепш як свае погляды бароніш, чым як на вецер балабосціш. Давай даводзіць, што камсамольцы ў вёсцы — перадавыя, культурныя гаспадары. У яго руку [redacted] Закапіцкі памагае.

— Вядома што! Гэта вы, дзядзька, так кажаце, што нідзе не былі, нічога на свеце цяперашняга не бачылі,— угаварue Мотуза.

Таго не так лёгка пераканаць. Прывык змалку на сваём поглядзе стаяць, хоць сабе ён і глупства.

«Чорт за д'ябла, патом! Не быў бы то начальнік, хоць і Закапіцкі».

Свая ў яго галава на карку. Свае і думкі ў ёй.

— Чорта! — кажа.

Угадзіў сівому каню па каленцах хварасцінаю. Паехалі мацней.

Збольшага пераказаў Корабач свой даклад «Праца камсамолу ў вёсцы», што не так даўно рабіў у сваёй ячэйцы на курсах.

— Праца? — трэ было гэта слова нейкаму дурню прылажыць чортведама да чаго. Напрацуешся, бацькоў душачы.

Спусціў уніз Мотуз сваю галаву. Паглядзеў на колы, як яны расхінаюць сабе дарогу ад гразі аж да цвярдога. Шчэ дадаў да раней сказанага.

— Як напрацуешся, але ўтомішся: спацець гатоў.

Корбача тут нешта ціўкнула.

— Ну! Тады я не ведаю. Хіба ў вас такія камсамольцы,— з прыціскам сказаў ёй словы «ў вас».

— А няўжо ж якія? У сваёй хаце нават маю гада аднаго: жыць не дае.

Давай Корабач распытвацца, як і што. Мотуз пачынае расказваць з дробязі, маль не ад самай раніцы таго дня, як Бладзік ў ячэйку заяву падаў, каб прынялі.

— А як вашага сына завуць і прозвішча скажыце? Гэта трэба запісаць. Я пагляджу, прыехаўшы.

Мотуз сказаў, якое прозвішча.

— Мотуз, кажаце? Добра. Я і так помніць буду. Падсмакуе Корабач.

— Гэта чорт яго ведае што такое. Трэба будзе націснуць на хлапцоў.

«Эгэ! — думае Мотуз.— Дык ты не з простай мукі

спечан, калі націснуць можаш». З'яўляецца ў яго некаторая павага да хлапца.

— Нізаводня трэба націснуць. Вы там паглядзеце ды ў людзей распытайцеся.

Што тут скажаш. Гаворыць «вы» ўдвая ці й таго больш малодшаму за сябе. Дый кепска без гэтага абысціся. Вочы ў хлапца, калі стане гаварыць: чыстыя, гараць... У кожным слове чуваць захапленне ці рашучае абурэнне.

Тымчасам пад'ехалі к крыжавым дарогам.

— Тпр-у-у! Вот вам і дарога ў Хатнікі,— паказуе хурман хварасцінаю.

Саскочыў Закапіцкі. Злез далоў Корабач. Падзякавалі хурману.

— Няма за што,— адказаў Мотуз, смаргануў сівога лейцамі, пераваловк па кумпяку хварасцінаю.

Ідуць Корабач з Закапіцкім. Ідуць і маўчаць. Кожан сваю думу думае.

Страшная праца стаіць перад маладым ізбачом. Напалохаў яго стары дарогаю як мае быць. А пачуваецца шчэ хлапец на свае сілы. Здаецца яму — усё пасвойму перайначыць, усё добра зробіць.

«А дрэнна райком зрабіў, што дагэтуль Мотуза ў ячэйцы трымае. Які з яго чорта баявы камсамолец? Мусіць, у іх шчэ мала матар'ялу аб ім ёсць. Хіба я дам... Тады паглядзеце, якую мае хлапец характарыстыку».

У самыя Хатнікі баявейшыя думкі прынёс:

«Узяцца за ячэйку. Не менш паловы пад мятлу! Нізаводня!»

Першую ноч начаваць астаўся ў Закапіцкіх. У іх старая хата нядаўна ашалёвана. Пароблены к вокнам цёмна-чорныя аканіцы. Усярэдзіне плойма сям'і: маці, два браты жанатыя, тры сястры незамужнія й чацвёртая зусім малая — пастушка на свінні, ды шчэ трое братніх дзяцей (двое ў калысцы). Меншы Закапіцкі — старшыня сельсавета — жыве дома на асобных правах. Трэба сказаць, што ў савет яго выбралі сёлета на другі год. Бярэ сабе за гэта дваццаць дзевяць рублёў пенсіі. Справіў палатняны партфель. Без бараніны альбо ялавічыны ніколі не садзіцца есці. Без яечні ні разу не снедаў перад адыходам на службу. Колькі ні блішчыць вачыма малая, старшынёва сястра,— усё роўна не скажа абабраць лёстачку ці пазбіраць блінам крошкі яй-

ца на скаварадзе. У гэтай справе Закапіцкі шчыры прыхільнік чыстаты й парадку. Праўда, заўсёды ён адчувае гуляшчае месца ў жываце пасля сваёй панскай яды. Тады пытаецца:

— Мамка, што вы сёння варылі?

Маці пералічыць, што ў яе ў печы ёсць.

Старшыня выбера сабе страву па свайму густу, а таксама не забываючыся й пра сваю апетыту. Добра хочацца шчэ есці, дык скажа, каб маці ўліла юшкі або капусты; таго, што ■ хлебам ядуць. Трошкі, але потым хочацца, дык закажа ўліць крупніку альбо куцці; таго, што без хлеба ядуць.

Маці падыдзе к печы. Выцягне гаршчок на ўсю сям'ю вараны. Проста з гаршка й наліе ў міску, чаго было папрошана, толькі попел з бакоў абадзьме.

Першая — панская яда не гэтак даецца. Там робіцца з цырымонямі. Калі старшыні пара есці, дык ён спярша зірне, ці дома маці. Калі дома, дык падыходзіць к лыжачніку, вымае сваю лыжку. Маці, вядома, заўважыць яго турбацыю: гэта ж яе павіннасць, можна сказаць. Выме з печы гарнушак, абатрэ анучкаю й паставіць на стале, гнушку пад дно падлажыўшы. Калі трэба старшыні снедаць, дык пакуль ён знайдзе свой відэлец у століку, ужо яго чакае на гнушчы скаварада з яечняю. Бывае, што мацяры ў хаце няма, а старшыні есці трэба, тады ён пытае:

— Дзе гэта мамка?

Нехта выйдзе з хаты і нізаводня пакліча:

— Мамка, ідзеце ў хату. Пётру есці даць.

Маці прыйдзе. Зробіць усё па ад леташняга ўведзенаму трафарэту.

Корабач, толькі заявіўся к Закапіцкім, адразу папаў у панскі стан. Тут прызвычаіліся бачыць людзей пралетарскага паходжання й на дзіравыя локці апранахі ці скалазубыя чаравікі не бралі жаднай увагі. Першы дзень Закапіцкі — старшыня — падзяліўся сваею «панскаю» вячэраю ■ Корабачам. Вячэры выйшла мала — далілі простай яды. Назаўтра ж маці паставіла ў печ яды на двух.

На другі дзень, пакуль ісці ў савет, Закапіцкі завёў Корабача к сакратару ячэйкі. Дома сакратара не засталі. Павёз ён на рэчку маніцы мачыць.

Дома быў сакратараў бацька — надзьмуты, нялюдскі чалавек. Не мог ён цярпець у сваёй хаце лішніх не-

пазываных людзей. Хто зойдзе выпадкам, дык стараўся знайсці які-колечы прыклеп, каб уцячы барджджэй, чужога ў хаце пакінуўшы. Сам ні к кому не хадзіў. Так страшан быў гаспадар сваею маўклівасцю, калі сам-насам з кім у сваёй хаце аставаўся, што чужы чалавек стараўся зрабіць сам тое, чаго не ўдалося гаспадару: уцячы з хаты. Дык не дзіва, што Закапіцкі толькі хату паказаў, а сам мацней прыціснуў партфель пад пахаю ды прыбавіў кроку, у савет спяшаючыся.

Сам-насам астаўся Корабач з пакрыўджаным дзедам (так выглядаў сакратароў бацька). Колькі ні пяўся Корабач, каб што сказаць яму, каб пачаць пра што гаворку, й не знаходзіў такоўскай тэмы. Пра пагоду стаць што плявузгаць — лічыў, што дрэнна ўжываць самы танны спосаб пачатку гутаркі. Па яго: альбо гаварыць, альбо часу не траціць. Сялянскія інтарэсы былі даўно чужыя Корабачу. Сама б што рабіць работу хлопцу пара была, у гады ўходзіў — аддалі ў навуку да Мінска. На вакацыі прыехаўшы, брацца ні за што не хацеў. Можа хто падумаў, што рук сваіх белых Яська парабіць баяўся? Не. Не гэтакая была ў яго прычына. Яно добра б было й работу рабіць, каб адразачку ўзяўся за яе ўмеючы, нічога на людскі смех не зглуміўшы. А што, як не ўдасца? Дык сораму цярпець Яська не хацеў. Гэта ж смех: хлопец сам у сябе, а работу горш за малога робіць. Так што з гэтай часці ў яго тэмаў не знаходзілася, дзе б можна было што-небудзь да толку сказаць. А абы-што размандыкаваць Корабач не любіў.

Сядзіць ён сабе, локцем на стол узапёршыся. Чакае, покуль стары што-небудзь пачне. Дзіва Корабачу. Чалавек першы раз яго бачыць, ды шчэ ў сваёй хаце, мае часу даволі й не папытаецца, хто ён такі.

Скруціў сакратароў бацька папяросу. Паставіў на падаконніку манерку з тытуном. Бляшанаю лыжкаю дастаў з ямкі агню. Прыкурыў. Вугольчык ізноў у ямку кінуў. Жар попелам загроб, каб было назаўтрае, чым у печы падпаліць, запалкі не глумячы. Сеў на ложку — курыць. А ўсё гэта так памаленьку, так старанна, як бы хочучы больш мець асалоды ад курэння.

...Курыць і маўчыць.

Добра што не доўга забавіўся сакратар каля рэчкі.

— Прыехаў ужо,— паведаміў Корабача пакрыўджаны дзед, толькі той на двор уз'ехаў.

— Сакратар прыехаў?

Зірнуў Корабач на двор — праўда! Зарадаваўся гэткаму шчасліваму здарэнню.

— Гэта сакратар?

— Ён,— праз вусы прапусціў толькі адно слова пакрыўджаны дзед.

Не па бацьку пайшоў сакратар — хлопец жвавы, да гаворкі ахвотнік.

Корабач пра ячэйку распытуецца. Ён адказы дае. Думае, што інструктар прыехаў. Паказуе свае асадкі.

Корабач перакідае, перачытуе... Дастаў з кішэні блакнот. Што патрабнейшае там запамячае. Не спомніш жа ўсяго, што згадзіцца можа. У блакноце лісты невялічкія, спісваюцца борзда... Гісторыя хатніцкай ячэйкі складаецца на іх.

Сакратар жа думае:

«Равізія».

Таго дня была якраз серада. Пасяджэнне бюро на гэты дзень прыпадала. Сакратар і гэта Корабачу сказаў. А таму й наруку.

— Прыйду,— кажа.— Пад вечар па цябе зайду ды разам і пойдзем.

Распытаўся, дзе будуць яны збірацца, у якім месцы.

— У школе,— кажа сакратар.— Мне настаўнік да самых Пакроў яе прыпаручыў,— хваліцца.

Гаварыць яны многа ўдвух гаварылі. А пра тое, хто ён такі, адкуль прысланы, у каго цяпер жыве, й забыўся сакратар у Корабача папытацца. Сышло й таму гэта з памяці. Трэ было б самому прызнацца перад сакратаром, што ў Хатнікі за ізбача быць прыслалі. Успомніў сакратар пра гэткае ўпушчэнне, але дагэтуль чаму было не паглядзець яму хаця ў каторы бок, да каго пойдзе «інструктар», выйшаўшы ад іх. Як апомніўся, было ўжо позна тропу шукаць. Толькі й засталося чакаць на вечар.

Сваё слова Корабач спраўдзіў: прыйшоў да сакратара, толькі пашарэла на дварэ. Услед за ім пачалі збірацца да сакратара й хатніцкія камсамольцы, каторым ісці на бюро трэ было. Ціханька пытаюцца яны ў сакратара.

— Хто гэта ў вас?

— Інструктар з акруткома прыехаў.

Тым і досць такога адказу.

Сакратар павячэраў. Тады, гамонячы, пайшлі ў школу.

— Які гэта вы мост думалі паправіць? — дапытуецца Корабач у хлапцоў, што сам у пратаколах вычытаў.

— А вот зараз пакажам.

Дайшлі да таго мосціка цераз невялічкую канаўку (ён каля самай школы), кажуць:

— Во гэты.

Кепскі мосцік. Скіданы з паўздзіранага пакату абыяк, да часу. Жэрдкі не папрыбіваны — качаюцца пад колмі падарожнікаў.

У школе запалілі газніцу. Хваляцца хлопцы чым маюць. Кніжкі свае паказваюць. Не ў парадку іх бібліятэка. За катораю хто лаўкаю сядзеў ды чытаў, там і кніжку пасля сябе кінуў. Каб сабраць іх у адно месца, трэба ўсе лаўкі ператрэсці.

Корабач пераглядзеў загалоўкі й прозвішчы аўтараў.

— Трэба іх будзе ў чытальню забраць,— парашыў.

Зірнуў кандыдат на сакратара. Сакратар — на кандыдата. У абодвух думка адна:

«Забярэ. Трэ было хваліцца. Падшахнуў жы чорт».

Што б сабе ні думалі, але маўчаць: «Ён з цэнтру, яму сказана гэтак рабіць».

Андрэй сядзіць пазадзе ўсіх. Маўчыць як палена. Толькі, каб ніхто не бачыў, пасмейваецца ў нос. Жартаваць цяпер не месца тут, перад прыезжым таварышам. Сам сабе толькі гэтым нашкодзіш. Каб к толку гаварыць, таксама не варта: актыўным тады палічаць. Можа выкруціцца куды трэба будзе з хатнікаў, дык не спадзяваўся тады, каб памог камсамол. Пакінуць у вёсцы папрацаваць, раз ты актыўны работнік. Былі такія здарэнні ў Каранёве. Расказвалі знаёмыя хлопцы адтуль.

«Будзьце вы ўпраўнейшыя»,— зычыць у думках ён сакратару з кандыдатам.

Прыходзіць зараз і Бладзік. Разгледзеўся, хто ёсць у класе. Новых усяго два чалавекі: Корабач і яшчэ адзін хлопец з Хатнікаў, што толькі што заяву падаў у ячэйку, каб прынялі.

— Алевіч, хадзі сюды! — Бладзік адазваў к сабе сакратара.

Сакратар паслухаў. Падыходзіць.

— Што за ён? — сцяляпнуў галавою ў Корабачаў бок.

Толькі цяпер і ўспомніў сакратар, што йзноў забыўся папытацца.

— Інструктар здаецца. А ўрэшце, чорт яго ведае!

— Ты не пытаўся?

— Думаў папытацца.

— Пачакай, зараз мы ў яго дакументаў папытаем.

З гэтым словам ён бліжэй к Корабачу падышоў.

Карціць Бладзіку папытацца, што за хлопец такі ў іх ячэйку заявіўся. У акругкоме быў, як на курсы ездзіў. Не бачыў там такога. Сама лепш — хай скажа.

— Хлопцы, калі ж пачнецца ў вас? Ужо ўсе сабраліся? — няцерпіцца Корабачу.

— Да ўжо можна й пачынаць. Бюро ўсё тут.

У «абвестцы дню» паставілі былі ўсяго адзін Корабачаў даклад. Бо ён [illegible] цэнтру толькі што прыехаў, дык была ў хлапцоў надзея, што й аднаго дакладу на ноч хопіць.

Далі яму слова.

Выняў з кішэні свой блакнот. Адкрыў на тым самым месцы, дзе ў сакратара запісваў. Хлопцам давай пераказваць, калі й што ў іх было. Чым болей гаворыць, тым мудрэй іх прабірае. Там і мост успомніўся, і сакратароў арышт свайго бацькі з самагонкаю. Закапіцкі расказаў яму гэта здарэнне. Восцер хлапец на язык. Так дацінае, што аж Бладзіку аднаму на ўсіх брыдка зрабілася.

— Ат! — махнуў ён рукою.

— Не перабівай, таварыш! Потым сабе слова возьмеш.

— І вазьму! А ты думаеш, так пройдзе? Я быў, брат!.. Мяне ў лапці не абуеш!

«Мотуз! Пэўне ён»,— угадваў дакладчык.

— Потым, таварыш, потым! Дай скончыць.

На гэтым і канец быў пакуль што іх спрэчцы.

Далей стаў Корабач гаварыць пра тое, што чуў у дарозе, сюды едучы. Хоць і не выказваў, хто і што, але да таго ўсё было ясна, што й здагадвацца не трэ было: бэсціў у адкрытую. Нельга ж бацькі заганяць, брату йсці наперакор, не рабіць работы толькі затым, што ты камсамолец. Па яго мове відаць было, што многа прылгаў стары Мотуз у сваю руку, абы сына горшым, як мага, выхваліць ды сваею крыўдаю перад

людзьмі пахваліцца. Корабач жа паверыў бацькаўскаму слову і надумаў сам сабе немаведама які страх. А вынік з усяго гэтага: аздаравіць ячэйку, не месца такім (разумелася — як Мотуз) у камсамоле; з новымі свежымі сіламі прызываў хлапцоў рушыць на заваёвы моладзі.

— Вось тут нам будзе шырокі ў працы разгон! — так і сказаў Корабач. Многа яшчэ чаго ён гаварыў, усяго не ўспомніш. Потым хлопцы не памыліліся, што на гэты вечар усяго адзін даклад паставілі.

Бладзік разоў колькі паскураўся гаварыць, ды сам сябе трохі сутрымліваў. Толькі тады, як стаў Корабач пажаданні розныя зычыць, не ўтрымаўся ён у межах парадку. Ні ў кога не пытаючыся — сабе слова. Узяўся пытлю даваць.

— Таіцца няма чаго,— было яго першае слова.— Нейкі чорт прыезджаму таварышу наплёў кашалёў пра мяне, а ён і веры даў. Толькі гэта ўсё глупства, бабіны «казалы». Я не баюся!

Ведае Корабач парадак на сходах. Заўсёды прытрымліваецца яго, але бываюць гарачыя моманты, калі дысцыпліна нікчэмна.

— Памыляешся, таварыш! Не бабіных «казалаў» я наслухаўся, а мне сам твой бацька скардзіўся. Здаецца, сам — Мотуз?

— Дзе? калі? А пайшоў ты к чорту!

— А я, можа, ехаў на яго возе.

— Эгэ-э! Вот чорт стары! Дома: каб слова, каб рэкнуў... Ні пахваліўся.

У іх спрэчку й сакратар улез. Ён за Бладзіка, за свайго хлопца. Трэба ж ад напасці абараніць.

— Ты, таварыш, веры не давай розным аляментам!

Рука была тут Андрэю жарт прыкінуць ■ сакратароваму слову. Але яго сёння як і няма на пасяджэнні.

Сакратар тымчасам гаварыў болей:

— У нас розныя людзі ёсць. Некаторы дык зусім проці ўсяго йдзе.

— Як гэта: ідуць проці ўсяго? проці чаго? хто? як тваё слова разабраць?

Сакратар дапамог Бладзіку. А той цяпер дапамог сакратару. Вось як вытлумачыў.

— Ты, скажам, у камсамоле, а дома ўсе да аднаго проці цябе. Расшалопаў?

— Ага-а!..

У «бягучых справах» паказуе Корабач паперку з райкома, што яго сюды ў ячэйку сакратаром назначаюць.

— Дык скажы ты мне, што ты за шышка гэтакая? — пытае Бладзік з здзіўленнем.

— Мяне ізбачом сюды прыслалі.

— Ага-а!.. А што, хлопцы? я ж казаў: толькі націснуць на райком, дык і чытальня будзе.

— Таварыш сакратар, я заўтра ад цябе прыму ўсе справы.

— Прымай,— адказаў сакратар безудзельна і нават трошкі са злосцю. Прыкідаецца ён, што як бы й не мае інтарэсу да гэтых спраў.

Бладзік ужо з Корабачам гаворыць:

— А нашы думалі, што ты інструктар які ці ад Цэка прадстаўнік.

## XI

Апошнюю ніву аўса зжалі на жмені. Спяшаліся вельмі. Вот як учора быў дождж, а як сёння жаць пайшлі. І каласы, й салома — усё адсыраўшы. Была тады пятніца. У суботу жменькі павярнулі. А ў нядзелю дык вязаць ды вазіць пара была, трохі зраніцы пачакаўшы.

Загэтым Ксеня гэты раз і гуляць нікуды не пайшла. Гэта не работа. Выйдзі куды, завярніся з гадзіну дый дамоў збірайся, а — не, то пасланца прышлюць. Пераходкі толькі шкода на гэтакую гульню.

Зраніцы, агледзеўшыся, заслала яна ложкі і паклала падушкі, падбіўшы іх, каб большыя былі, на тым ложку, што ля акна, дзе сама спіць. Няма болей дзяўчыне занятку. Прылягла задрамаць, пакуль ісці на поле.

Усе сышлі з дому, як згаварыўшыся, хто куды. Адну Ксеню пакінулі дому вартаваць.

Толькі яна вокам звяла, дзяўчаты-таварышкі прыходзяць да Чвардоўскіх.

Далі «дзіндобры». Ніхто не адказвае.

— Мусіць нікога дома няма,— знарок моцна гавораць.

Ніхто не аказуецца.

Хацелі ўжо заварочвацца ды дамоў ісці, ажно згледзела Волька, дзе соня ляжыць.

— А бадай цябе!..— хацела тая склясці нарокам. А Ганька яе хвайт за руку.

— Ціха! Пачакай!

— Моцна спіць, не чуе,— Волька ўжо шэпча: — Давайце, дзяўчаты, мы ёй падстроім што.

— Давайце.

— Што ж бы лепей?

— Вусы давайце зробім.

Згода ў дзяўчат: вусы зрабіць, вось што падстроіць. Ганька пайшла к печы, адкінула фіранку над прыпякам, пальцам у коміне павяла. Ідзе к дзяўчатам. Захлынаецца ад рогату — каб хаця б не пабудзіць! Таварышкі круга ложка сталі, як над дзівам якім. Расхінула іх Ганька. Над Ксеняю нагнулася. Далікатнечька павяла з-пад носа маль не да самага вуха на аднэй шчацэ. На другой Ксеня спала, нельга было гэтак размазаць, дык Ганька толькі пад носам вус пачапіла, як гэта некаторыя шляхта носяць.

Ксеня пачула. Луп вачыма.

«Дзеўкі прыйшлі».

Прачнулася. Борздзенька села на ложку. Абцірае сліну з шчакі, на каторай спала. Дзяўчаты ў рогат.

— Чаго вы? Чаго вы зарзалі, жаробкі?

— Казак прачнуўся.

— Ху-ху-ху-у-у! — паехалі сосмеху. На нагах ні астояцца.

— Ужо гадаўкі нешта падстроілі.

Ксеня як бы й здагадуецца. Злазіць з ложка. Ідзе ў століку люстэрка шукаць.

Бачаць дзеўкі праз акно, што хлопцы ідуць па вуліцы. Пэўне смех пачулі — зойдуць. Іх трох там ідзе: Мікалай, Платон і Пётра Хвалісін.

Няма часу дзеўкам кепікі з сваёй таварышкі строіць. Трэба ад насмешышча хлапцоўскага дзяўчыну выратаваць.

— Бяры, Ксеня, брытву ды галіся барждзжэй. Хлопцы шчэ зойдуць — смяяцца будуць.

Ксені цяпер і люстэрка не трэба.

— Ах вы — гадаўкі! А я й не чула.

Ідзе пад парог. Там збоку вядро з чыстаю вадою на калодцы стаіць. Чэрпае кварту. Абмывае твар. Зняла з цвіка ручнік — уціраецца.

Адчыняюць хлопцы дзверы. Тут яны ўсе ўтрох.

— Вось дзе гультай быў! Да каторай пары не мылася!

— Мы прыйшлі, дык спадніцы пашукаць прасіла,— аказалася Волька.

— Чаму ж вы мяне не клікнулі, я б надзець памог,— дадаў Платон.

— Ці ўмееш? Гэта каб Хвядос, дык веры льга б было даць, а ты — наўрад!

— Ого! шчэ й як добра.

Гэтым часам у Жыздрыцу прыйшоў Корабач. У канцы вёскі стрэўся ён з Хвядосам. Удвух зайшлі к Бладзіку.

Не так даўно прыехаў Корабач сюды, а ўжо з Бладзікам не толькі камсамольскія, але й наладзіў сяброўскія адносіны. Калі б Бладзік не быў у Хатніках, дык даведаецца чытальні. Там людзей заўсёды мала, а бывае, што й саўсім нікога няма. Ніхто ім не замінае, каб пра свае ячэйкавыя інтарэсы пагаварыць.

Бладзік аднаго разу кажа:

— Ведаеш што, таварыш Корабач? Прыйдзі ты да нас у Жыздрыцу. Сход правядзём. Там, брат, многа добрых хлапцоў ёсць: угаворым — камсамольцы будуць.

— Трэба будзе. Не толькі ў Жыздрыцы, і ў другіх вёсках...

— Нізаводня!

Даўнейшаму сакратару цяпер хэнць да камсамолу адпала. На сход рэдка калі пакажацца. Калі й прыйдзе, дык не вельмі язык трудзіць, як гэта было раней. Урэдкаю сам ад сябе слова якое скажа. Найбольш хлопцы самі ў яго пытаюцца, як бы лепш што зрабіць. А ён калі скажа:

— Не ведаю.

А калі:

— Як сабе хочаце.

Абы адкасніцца.

Раней быў «сакратар», а цяпер — проста Змітра Алевіч. Праз яго даўнейшае сакратарства, хлапцы былі траха яго імя й прозвішча не забыліся.

— Ты як сам прыйдзеш, дык і Алевіча прывядзі ў Жыздрыцу. Ён разбітны хлапец — нешта скажа,— так Бладзік Корабачу загадзе наказваў.

— Ну яго Алевічам! Кіслы ён нейкі.

— Гэта што ты не ўвазнаў яго добра. Ого, што за

хлопец Алевіч быў! Цяпер толькі асеў нешта. Разгарнення ў ячэйцы яму няма.

— Ось дадзім нагрузку — раскурстаецца.

Гэту нядзелю Корабач сам прыйшоў, а Бладзікавай просьбы не ўважыў — Алевіча не прывёў.

Бладзікава першае слова было, толькі Корабач уступіў у хату:

— Дзе ж Алевіч.

— Не захацеў. Кажа: «Чаго я пацягнуся за блізкі свет».

Стары Мотуз адразачку пазнаў Корабача. Той, каторага з мястэчка падвозіў. Толькі ўсяго адказаў на «дзіндобры». У большую гаворку не палез.

«Чорт чорта пазнаў і па піва пазваў»,— ёсць у старога прыказка пра запас на такі выпадак.

Бачыць: ізбач гаворыць з Бладзікам па-добрасці. Некуды йсці збіраюцца. Стары, іх не чакаючы, знайшоў сваю шапку на лаве й выйшаў з хаты.

Нядоўга й хлопцы ў Мотузавых завярнуліся.

Корабач усё дапытваўся, у каго б тут лепш моладзь сабраць, каб і дзяўчат, і хлопцаў — усіх разам. Бладзік вось як прапанаваў зрабіць:

— Пойдзем па вёсцы. Убачым, дзе дзеўкі гуляюць. Зойдзем туды й сход зробім. Скажам малым, каб яны хлапцом аказаліся. Дзяўчата прыйсці на сход усё роўна не паслухаюць, пасаромеюцца. Ім і загадваць няма чаго.

Выйшлі на вуліцу. Там убачылі гурт малых. Падзываюць к сабе. Бладзік у іх пытаецца:

— У каго дзеўкі гуляюць?

Ужо калі гэтыя падшывальцы не ведаюць, дык і ніхто не ведае.

— У вас,— кажуць тыя на Хвядоса,— паўнюсенька хата. І хлопцы там.

— Няўжо?

— Папраўдзе.

— Пойдзем,— не церпіцца Бладзіку.— Малыя!

— Чаго?

— А хто там з дзявок?

— Волька там.

Ведаюць падшывальцы (каб на іх упадак!), хто Бладзіку трэба каб быў.

— Хадзем, хлопцы.

Пайшлі.

У Чвардоўскіх Мікалай ушыўся паміж дзвёх дзявок. Ён ілжэ, якія на фэсце з ім прыгоды здараліся. Так там Мікалай разгасціўся, што аж на трэці дзень па свяце дамоў прыехаў. Дык мала што можа здарыцца, гэтак доўга ў чужой вёсцы пабыўшы. Дзіва бярэ слухачоў: гэтакі Мікалай дужы, смелы, адважны.

Ігралі там увечары музыкі. Сабралася была поўна хата моладзі. Прыйшоў туды й Мікалай. (Ён дык каб астаўся!) Пайшоў з аднэю дзяўчынаю польку. Скруталіся разоў колькі ды й селі на ложку. Не дачакаліся, й пакуль музыка кіне йграць. Сядзяць. З дрэні на глупства пераходзіць гаворка іх. Тут зараз падыходзіць хлопец з таей самай вёскі п'яны як гразь, на нагах не астоіцца. Стаў у Мікалая перад носам. Дрыгае нагамі й зубамі скрыгіча.

Раптам калі раўне: «Ты чаго каля яго трэсся?» — на тую дзеўку, што з Мікалаем сядзела. Кулакі камечыць. Мікалай думае: «Толькі папрабуй ашлеіць! Я ж тады табе...»

Тут не пярэліўкі. Чакаць Мікалаю няма чаго. Ён раптоўна калі ўсхваціцца [redacted] свайго месца. Таго хлопца калі хопіць за грудзі:

— Сядзь, дрыгун!

Толькі ўсяго й страсянуў адзін раз, але па крайняй меры: аж пашчэнкі заляскалі й з каўняра два гузікі пакаціліся па падлозе. Страсянуў і пусціў. Сам ізноў каля дзяўчыны сеў. Гаворыць спакойна, як бы нічога й не было. Дзяўчына дзівіцца.

— Гэта ж наш самы першы задзірака. Як то вы так разышліся.

Той хлопец перш быў адышоўся. Мікалай думае, будзе яму: пайшоў таварыства збіраць. Ажно ж — не. Толькі ўсяго схадзіў к вядру — вады напіўся. Ды прыходзіць назад. Каля Мікалая гуляшчае месца было — ён садзіцца, маўчыць. Ні той Мікалаю, ні Мікалай яму. Слова не прагавораць. Толькі таго вечара, як сталі дамоў разыходзіцца (пад раніцу гэта было), адазваў ён убок Мікалая.

Ідзе Мікалай і думае: «Дасць». Але не баіцца. Раз ён Мікалаю, дык і Мікалай сумодае яму. Ажно ж — не. Адазваў ён ды кажа:

— Выбачай на гэты раз. Я тады не помніў, што рабіў.

Можа, што трохі падобнае й было ў іх, але многа

потым Мікалай ілжэ. А дзеўкі слухаюць,— абы гаварыў не мыляючыся.

Платон сабе месца не знойдзе, дзе б прытарнавацца. Стаіць перад гуртам. То ў адзін бок кінецца, то ў другі. Усім ён у помачы. Толькі ўкіне ў чыю мову сваіх слоў, дык тым і гаварыць няма чаго, калі сорам маюць, а калі не, дык шчэ больш гаворкі, Платонавы словы раскусіўшы. Што хто ні скажа, дык у яго асвятленні мае брыдкі сэнс. На гэтакія неспадзяванасці — мэт ён. Быў і к Мікалаю прысляпіўся з сваею адваротнаю моваю. Нешта быў прыкінуў, каб уславіць Мікалаеву сілу. Але той добра не прычуў і, толькі здагадуючыся пра гэна, заўгадзей асыкнуўся.

— А пайшоў ты! не перабівай, дай мне расказаць да канца.

Платон не перасціхаў.

— А ты таго краю адрас ведаеш, куды мяне выпраўляеш?

— Ідучы, у людзей папытаешся.

Аднаго Пётры як бы і ў хаце няма. Не аказуецца ён. За дзеўкамі дык сябры й забыліся, ці ёсць ён на свеце. Толькі Пётра ўвайшоў у хату, дык падняў угару вочы, на траму зірнуў. Бачыць: таўставатая кніжка там ляжыць. Падышоў бліжэй. Зняў. Чытае загаловак: «Жыццё й праца Леніна».

«Добрая»,— сабе думае. За яе... падышоў к акну, сеў на лаву й чытае з першай старонкі. Не любіць Пётра ў кніжках нечага лепшага шукаць, як гэта робяць другія — ён гоніць усё спачатку. Так, покуль прыйшлі камсамольцы, пятнаццаць картаў Пётра перакінуў. Засталі на 31-й старонцы.

Бладзік у хату ўвайшоў самым пярэднім. Першнаперш Вольцы Хвалісінай належную ўвагу аддаў. Яна меншая сястра Пётрава: тая самая, каторай толькі адной Пётра і не баіцца. На погляд нізенькая, але ў целе дзяўчына. Вочкі хоць маленькія, але жвавыя — яны падміргнуць і ўгрозяцца, за адзін раз на двух чалавек і ўсё з какшым выразам пазіраць могуць. Злосцю бывае Волька зарыміць, а зараз і ўсміхнецца, як бы нічога й не было.

Бладзік да яе зразу.

— Як маешся, мая жоначка?

Такую моду ён паняў, да дзеўкі зварачацца не йначай, як «жонка», хто б сабе яна ні была. Папаўся быў

Бладзік аднаго разу на вакзале з гэтым сваім словам, як ехаў на курсы камсамольскага актыву. Рап'ём кінулася яму ў вочы нейкая гарадская ў палітоне. Сварыцца да таго тоненькім галаском, што Бладзік не вытрываў — зарагатаў. Потым так мудра адказ даў, што аж людзі, якія былі пры тым, зачырваненіся, а дзяўчына ў палітоне й пагатоў. Вот ты,— кажа,— хто, калі не жонка.

Бладзік Корабачу Вольку захацеў паказаць. Крыху падняў далонню ўверх яе бараду. Пытае:

— Ну, як табе мая жонка? рэкні!

— Потым ты троха знаешся на дзяўчатах.

Бладзік усміхнуўся. Гэтак і трэба зрабіць, калі хваляць у вочы.

Вольцы не спадабалася агляднае. Тропнула кулаком па Бладзікавай руцэ: не давай, значыць, лішняй волі. Сама намружылася. Бладзіку ўнянчыць яе не было калі. Нават і Вольчынай злосці гэты раз не запамеціў.

Увечары гэтага дня падышоў ён да дзявочага гурту. Давай каля паненкі круціцца. Дык спярша надзімалася. Нечага злосць была Вольцы. Пазнаў гэта Бладзік па твары. Тут зараз рассунуў моладзь. Сеў пры боку.

— Ты чаго зморшчылася, як ападак з'еўшы?

Прыхінуў к сабе.

— Што табе падалося? — вясёлая ўжо Волька. Хутка ў яе робіцца такая перамена.

Але гэта было потым — увечары. А за гэты час, як прыйшлі камсамольцы к Чвардоўскім, малыя абегалі па падоканню ўсе хаты, паіменна зазываючы на сход к Ігналю. Зрабілі ўсё, як ім казаў Бладзік. Прыйшоў усяго Арсей Анцішэўчык. З меншых хлапцоў гэтаксама чатырох прыйшло. Арсей зараз да камсамольскага гурту далучыўся. Меншыя далі «дзіндобры» ды селі на лаве каля стала, чакаюць, што далей будзе. Камсамольцы сваім гуртком пашапталіся нешта й парашылі, што больш не збярэцца — вёска малая. Льга было й сход адкрываць.

Бладзік без ніякага выбару ўзяў на сябе старшынскія абавязкі.

— Слухайце! — гукнуў ён так моцна, што ўсе (хто хацеў, хто — не) паднялі вышэй галовы й сціхлі. Пётра і той сваю кніжку на калені спусціў. Праўда, уся-

рэдзіне ён трымаў патом палец, каб барздзей расхінуць на таей старонцы, дзе кінуў чытаць. Заслухаўся.

— Вось гэты,— паказвае Бладзік на Корабача,— таварыш нам нешта скажа пра камсамол. Плятуць людзі: камсамол — тое, камсамол — гэта. А што гэта значыць — камсамол! што за слова такое, дык трасцу ведаюць, а плявузгаюць нешта. Вы вот паслухайце лепш! Гэты таварыш вам як мае быць раскажа. Пачынай, Корабач!

— Пачакай. Што пачынаць? Трэ было б прэзідыум перш-наперш выбраць, каб усё па форме...

— А праўда! — я й забыўся.— Хвядос, хадзі сюды!

Хвядос Бладзіка слухае.

— Садзіся. Бяры карандаш, паперу — пішы пратакол. Яго сакратаром выберам?

Ніхто не аказуецца. Адзін аднаго чакае, каб хто першы аказаўся...

— Дзеўкі! Што вам, як жабам у Пятроўку, раты пазарасталі? Чаго маўчыцё?

— Хай сабе й ён будзе,— адна за ўсіх аказалася Ганька.

Хвядос зірнуў на смелую дзяўчыну. Размахнуўся па аркушы.

ПРАТАКОЛ № 1
агульнага сходу моладзі вёскі Жыздрыца...

— Каго за старшыню сёння асадзім? — пытае Бладзік.

— Будзь сабе й ты,— аказаўся Мікалай. Ніхто не пярэчыў, дык яго слова й пастановаю стала.

Корабач як сядзеў, дык устаў, падышоў к сталу бліжэй. Стаў у рагу. Узапёрся на стол леваю рукою. Кажа:

— Падыходзьце бліжэй; пагаворым крыху.

Ганька першая ўстала — яна смялейшая над усіх жыздрыцкіх дзяўчат — азіраецца на таварышак, тыя з месца й не думалі кратацца.

— Што ж, дзевачкі, мне аднэй трэба? — папыталася яна ў іх. Маўчаць тыя. Ганька ўзяла ды й села на сваё месца зноў.— Ведайце мяне! Вы саромеецеся, а я перадкаваць толькі не хачу.

Тут адкуль ні зарваўся Бладзік. Прыскочыў у гурт. Ухапіў Ганьку з Волькаю пад пахі (яны разам сядзелі), бягом цераз усю хату перамчаў на другі бок, селі на

лаве ўтраіх. Абапал Бладзіка дзеўкі. Дурыць ён ім галаву.

— Натапыруйце вушы, жонкі! Што будзе гаварыцца, каб чулі. Вот возьмеце ды запішэцеся ў камсамолкі. Хай яны тады аблізуюцца,— пальцам паказуе на другіх дзяўчат.

Тыя пакрыўдзіліся.

— Бладзік! Гэта ні ўгадана: можа, мы раней шчэ за тваіх «жонак» запішамся. Ты не смейся.

— Чуеш, Корабач, што ў нас робіцца? Во дзе — культура! Гэта табе не Хатнікі.

Да дзявок звяртаецца з кпліваёю ласкавасцю:

— Падыходзьце ж бліжэй, камсамолкі, у гурток збірайцеся, вушы натапыруйце. Вам праз хустку не добра чуваць.

— Пачуем, што трэба будзе.

— Падыдзем, дзяўчата,— смяюцца яны,— гэтак хорашанька нас сягоння Бладзік заве — трэба паслухаць.

І праўда — паслухалі, падступіліся к сталу.

Корабач паправіў каўнер у жакетцы, каб гладзей ляжаў, у нос дзьмухнуў — гаварыць нарыхтаваўся. Даклад перш суха йшоў. А чым далей, тым болей развясельваўся сам дакладчык, забаўляў слухачоў смешнымі здарэннямі, каторыя ці на свае вочы бачыў, ці ад другіх давялося пачуць. Успамянуў і пра ранейшага сакратара Хатніцкай ячэйкі, як той з бацькам сваім абышоўся, з самагонкаю яго злавіўшы. Зазначыў, што кепска рабіць так. Ды хто за гэта пахваліць?!

Як Корабач скончыў, Бладзік і пытае:

— А пастанову якую зробім! Я б казаў запісацца ўсім у камсамол, і квіта.

— Ну цябе, таварыш Мотуз! Не абыдзешся ты без жартаў,— упікнуў дакладчык.— Можа, пытанні якія будуць? Пытайцеся, хто што мае.

Разышоўся быў з пытаннямі Арсей Анцішэўчык. Ён увесь даклад выслухаў з патаемнаю ўсмешкаю. Спадабалася хлапцу. І дакладчык, відаць, добры таварыш, і гаворыць да толку. Перш Корабач адказваў на Арсеевы пытанні так, каб усе чулі. Потым бачыць, што моладзь даўно кінула яго слухаць, заняліся сваімі інтарэсамі. Тады ён падсеў к Анцішэўчыку й сталі гаварыць па-сяброўску ўдвух. Ад тэмы дакладу даўно за

сем міль адышлі маль не да самай кітайскай рэвалюцыі.

Бладзік тым часам падышоў к Хвядосу. Схіліўся над яго вухам. Шэпчуць адзін аднаму. На Пётру зірнуў Бладзік. І Хвядос зрабіў гэта самае.

— Давай,— кажуць яны мацней,— о то смех будзе.

— Пішы, Хвядос, заяву,— пад рэшту загадаў Бладзік.

Хвядос паглядзеў, ці многа прынёс Корабач з сабою паперы на пратакол. Не перадасць — дзе гэта відана! — усяго адзін аркуш, ды й той знізу ўрэзаны. Тады выцягнуў Хвядос з-пад лавы куфэрак з сваімі вучнёўскімі прычандаламі. Знайшоў у ём няспісаны сшытак. Выдраў сабе на заяву. Сеў за стол і піша.

Марыля Андрукова цікавая вельмі: схілілася цераз стол, каб паглядзець, што ён крэмзае, выцягнула наперад галаву. Ды ўбачыў гэта Хвядос. Рукою захінуў напісанае. Пагразіў на Марылю алоўкам.

— Гатова,— кажа ён Бладзіку, падпісаўшы ўнізе, каторага чысла пісана.

Бладзік падыходзіць к Пётру.

— Ну, што вычытаў, скажы мне? Ты каб слухаў, дык больш бы чаго ў галаву ўзяў.

Пётра скончыў абзац. Злажыў кніжку. А палец трымае ў тым месцы, дзе трэба будзе расхінуць.

— Я й чытаў, і слухаў — усё зараз.

— Пайшоў ты!

— Уг-гу!

Бладзік памаўчаў трохі ды зноў пачынае. Збоку каля Пётры прысеў.

— Пётра!

— Што?

— Запішыся ты ў камсамол. Чорт цябе ведае, што за чалавек. Пень ты асінавы. Што ні гавары табе — маўчыш. Хоць сказаў бы, што «не хачу», дык нечага не чапіўся б ніхто к табе, а то маўчыць... Ты ж такі кніжкі палітычныя чытаеш. Разбітны хлапец па гэтай часці, калі з табою пагаварыць.

Не так хутка ад Пётры адказ пападзеш. Усміхаецца толькі сцішка сам сабе. Ізноў расхінае сваю кнігу.

Бладзіку здаецца, што Пётра дражніць яго. Думае, што таму хочацца, каб болей прасілі.

«Пачакай жа,— сабе думае,— я з табою доўга цацкацца не буду».

— Хадзі сюды! — паказвае Бладзік «к сталу».

Пётра яго паслухаў, але не надта спяшаецца. Бладзік жа марудзтва не любіць. Хватае яго пад паху і сілаю валачэ бліжэй, хоць той і не ўпіраецца, а толькі за Бладзікам ніяк не ўправіцца йсці.

— Распісвайся!

— Дзе распісвацца?

Нагінаецца Пётра над заяваю, чытае. Потым падымае ўверх галаву. Перш зірнуў Бладзіку ў вочы, а тады — Хвядосу. Нечага здзівіўся. Хацеў нешта сказаць у сваё апраўданне, ды выйшла вяла. Загадзе ён ведае, што не пераканае нікога.

— Я ж казаў...— вось і ўся апраўдальная яго мова тут.

— Дрэнь! Глупства ты тады казаў і цяпер кажаш. Ось толькі распішыся, дык і камсамольцам будзеш. А там неўзабаве й білет з райкому прышлюць.

Пётра шчэ раз сваю заяву прачытаў. Дае Бладзік яму аловак — узяў.

— Што распісвацца? — паціснуў ён плячыма. Зноў падняў на хлапцоў свае здзіўленыя вочы. Да таго яны невінавата глядзяць, што пашкадаваць хлапца хочацца.

— А! Што з бараном пацяры гаварыць! — аж залаваў Бладзік. Быў нават памкнуўся заяву ўзяць ад Пётры. Але той больш не спіраецца. Слініць канец у карандашы і пытае:

— Дзе ж гэта чаркануць?

Хвядос паказвае:

— А войдзе во!

«Пётра Рудзька» стаў на тым месцы радок буйных літараў, дзе Хвядос паказаў. Распісаўся Пётра й усміхаецца сваею доўгаю, цялячаю ўсмешкаю — мусіць, рад.

Дзе была Волька — дзеўка з доўгім языком і кемным вокам,— пачула, што Пётра на нечым распісаўся. Трэба ж было й ёй сюды свой язык уваткнуць. Добра пшчэ, што ўсяей мовы хлапцоў не пачула, а толькі пятае цераз трыццатае, ды й то ці залавіла. Затое давай на брата шурмаваць:

— Што ты там крэмзаеш? Нашто табе. Чаго там надта лезці першаму. Хай хто накшы. А табе чаго? Дому вот лепш глядзі.

Па кім як па кім, а па ёй Пётра не шманае.

— Хто з табою гаворыць? Разлякаталася лякотка. Доўгі нос маеш, усюды яго ўваткнеш: дзе трэба й не трэба.

— А што ж бо! Каб каму вешацца прыступіла, дык і ты адвяжаш ад рэзьгін павадок ды ўслед за ім пабяжыш. Жыві сваім розумам.

Можа, й далей-болей іх сварка б пайшла, каб Бладзік не нагадзіўся. Наперадзе ён у дзявочым гурце апыніўся. Вольку сморг за рог хусткі, развязаў.

— Ану цябе, Бладзік, з тваімі жартамі! — асыкнулася Волька. Сама і ў той бок, дзе ён, не глядзіць. Завязала хустку на галаве. З бакоў па закладцы зрабіла, як мае быць. Ззаду абцягнула, каб харашэй было. Тым часам і гарт у дзяўчыны адсеў. Паспакойнела.

— Ну й злосная ты, жонка! — вужака ты, й годзе.

Ловіць Бладзік яе правую руку, а яна прымае к сабе, не даецца. На стол глядзіць. Ёй цікава, што там робіцца.

— З вамі нельга,— кажа,— накшай быць, як толькі злоснай.

— Што ты кажаш?

Корабач з Анцішэўчыкам загаварыўся. Сядзяць удвох пораўне й гамоняць. Блізка іх дзявочы гурт. Бывае, што й туды Корабач сваё слова закіне. Там Ганька самая ўпраўнейшая. Трохі Ксеня ёй памагае. Урэдкаю прыкіне сваё слова й Волька. А рэшта маўчаць перад чужым хлопцам.

Пачуў Корабач, што Волька сварыцца — у Анцішэўшчыка пытае:

— За што яны?

— З братам за неваштa.

Зараз Хвядос падклікае:

— Таварыш Корабач, хадзі сюды.

Паказвае яму Пётраву заяву. Тут і Бладзік. Корабач зірнуў на верхні радок і на подпіс, ды кладзе яе сабе ў кішэню.

— Чаго ж? — добра! Во што значыць агітацыя. Малайцы ў вас хлопцы. Пакажэце хаця каторы ён.

— А вунь той, што каля акна сядзіць — чытае.

— Гэта добра. Будзе ў сераду бюро — разгледзім. Ты,— кажа Бладзіку,— як будзеш ісці, дык і яго з сабою вядзі. Трэба будзе трохі чаго папытацца.

Далей Корабач гаворыць... Голас яго глухім становіцца. Як ні захліпуецца хлапец ад захаплення. Любая

тэма яго: што далей ячэйцы рабіць трэба. Карціна вялізная выходзіць з яго словаў.

— Цяпер, браце, у нас трэба, каб былі што серады пасяджэнні бюро. Сходы штонядзелі, і кожны раз у другой вёсцы ці пасёлку. Спяктаклі, кажуць, вы ставілі?

— Рабілі.

— Дык цяпер трэба, каб уладзіцца ставіць іх штосуботы ўвечара. Больш моладзі ўцягнем. Грошы на чытальню пусцім.

— Далёкі разгон у цябе вельмі,— кажа Бладзік. Сам ён верыць у тое, што спраўдзяцца сакратаровы словы. Толькі хочацца шчэ, каб Корабач падмацаваў яго перакананне.

— І трэба здалёк разганяцца. Тут так: ці паслізнесся, ці пераскочыш, куды наважыў. Ды ці адно гэта ў вёсцы можна зрабіць. Ужо восень. Зараз самая тая пара прыйдзе, што будуць сельсавет, каперацыў перабіраць. Вось куды трэба будзе сваіх хлапцоў уперці.

Бладзік ужо верыць. З дружным хлопцам усё магчыма зрабіць. Што ў думках, тое ў яго й на языку:

— Хіба мы возьмемся!

Хвядос пацвярджае:

— Раз наважым, дык і зробім.

А за гэтым вэрхалам забыліся й пратаколу падпісаць. Корабач хацеў ужо яго класці ў кішэню. Быў нават злажыў у восем столак. Потым нечага паглядзець яму заманулася. Распасцёр. Угледзеў недагляд і кажа:

— Трэ было б у пратаколе распісацца, а вы й забыліся.

Хоць гэтыя словы былі сказаны толькі спаміж Бладзіка з Хвядосам, але іх і дзяўчаты пачулі. Страх ім дурны здаўся. Гэта ж толькі распішыся, дык тады ўжо ў камсамолкі самі ўвядуць, хоць сабе б і не хацела. А хітрыя жыздрыцкія дзяўчаты — з чорта! Зараз адна аднэй шапянулі. Кінуліся ў вакно глядзець.

— Хто гэна гэнакі ў Трахімавых на вуліцы стаіць?

Спаздрыў Платон дзявочыя хітрыкі. Кінуўся й ён у вакно.

— Што там за ён?

Няма нікога на Трахімавай вуліцы.

— Дзе ж ён? Няма нікога.

— За браму толькі што схаваўся.

— Пойдзем, дзевачкі, на вуліцу, паглядзім.

Усім гуртам рушылі к дзвярам.

— Куды вы? — аказалася Ганька.

Тыя — няма дуру... Дык і яна хоць па задзе, але ад гурту не асталася. Ксеня правяла з хаты дзяўчат. Выйшла на вуліцу. Паглядзела ў адзін канец вёскі, у другі ды вярнулася ў хату.

Тым часам Мікалай дастаў з кішэні шчэ не распячатаны пачак карашкоў. Паперы тонкай Хвядос расстараўся. Ведае ён, дзе бацька кладзе. Скруцілі хлопцы кожын па папяросе. На дарэмшчыну ўсякі лас. Яшчэ схадзіў Хвядос узяў з паліцы карабок запалак. Прыкурылі. Нарабілі дыму — сівюсенька ў хаце. Прыкурыў і Корабач сабе на дарогу. Запрашае хлапцоў:

— Прыходзьце [redacted] нам у Хатнікі. Цяўлоўскага ж можа ведаеце? У яго хаце й чытальня знаходзіцца, і я тамака кватарую. Калі будзеце йсці, дык у другія дзверы заходзьце ад гумна. Ад вуліцы самі гаспадары жывуць.

Адыходзячы, й Хвядосу наказ даў:

— Ты — аднак харашо пішаш — будзеш тэхнічным сакратаром. Прыходзь ў чытальню ў сераду ўвечары. Я табе ячэйковыя паперы дам. Ты іх у парадак прывесці павінен. У Алевіча, чорт яго ведае, як яны зложаны былі. Толку я ледзьве дайшоў.

Хвядос падрадзіўся. Не вялікі яму цяжар сакратарскія абавязкі.

Павёў Бладзік Корабача паказваць карацейшую сцежку, кудэю ў Хатнікі ходзяць. У хаце [redacted] чужых асталіся толькі Платон з Мікалаем. Пётра ў гэты лік не ўходзіць. Яго як і няма ў хаце: сядзіць сабе ціхенька, як святы, ды толькі губамі мыляе.

Ксеня прысела ў вакне проці вуліцы. Падыходзіць да яе Платон. Дзе людзей не многа, там ён забываецца на жарты свае. Можа хлопец і сур'ёзна пагаварыць. Пытаецца ў Ксені:

— Па кім задумалася?

— Так сабе.

— Чаго гэта дзеўкі гэтак рана дамоў уцяклі?

— А дай рады! Сказалі, што распісацца трэба, дык пабаяліся, каб нехаця ў камсамолкі не ўпісалі.

— Дзе былі дурні!

— Праўда што!..

## XII

Корабач у Закапіцкіх пажыў нядоўга: усяго два дні. Старшыня, седзячы ў сельсавеце, апытаў праз людзей, што ў Цяўлоўскага ёсць слабодная хата. Так што на трэці дзень пайшлі яны ўдвох к гаспадару цаны пытацца. Прызналі, што лепшага месца на чытальню й не знайсці. Жыве Цяўлоўскі на самай сярэдзіне вёскі. Хата прасторная. Адно толькі кепска, што вокны ў сад і на двор, а не на вуліцу: вывескі не будзе як пачапіць, што тут чытальня.

Сам Цяўлоўскі — нізенькі і рассечанаю ісподняю губою й без двух зубоў наперадзе чалавек. Перш быў задаражыўся. Прасіў у месяц:

— Дзесяць рублёў, няйначай.

Сталі тарокацца. Стаў гаспадар спушчаць па рублю, па саракоўцы, па залатоўцы. Сышліся за шэсць рублёў з паловаю ў месяц і восем метраў дроў сельсавет дарэмных каб запісаў на апал сваёй хаты і чытальні. Толькі гаспадару высеч і перавезці. Даглядаць чытальні падрадзіўся таксама гаспадар. Пасля гэтага кантракту шчэ Корабач сам ад сябе згадзіўся з гаспадаром, каб быць на яго сталаванні. Умовіўся колькі плаціць і калі. Закапіцкі за сведку быў пры гэтым.

Ад таго разу ізбач і астаўся ў нанятай чытальні. Там і стары ложак у кутку стаяў нават. Цяўлоўскі прынёс у яго паўкуля саломы. Закапіцкая посцелкаю заслала, дала коўдру падшываную й падушку. Зрабілі ўсё як мае быць. Пераносіць на новую кватэру ў Корабача не было чаго. Прыехаў ён сюды як стаіць.

Гаспадар папаўся гаваркі чалавек. Першы ўвесь дзень да самага вечара сядзеў у сваёй хаце ад садка, ладэдзіў з Корабачам. (Якраз тады работы ў полі не было.) Ён быў у нямецкую вайну ў войску. Стаяў у Ельні. Аўстрыякаў палонных пілнаваў, каб не паўцякалі. На фронт яго не адаслалі — стар быў. Прывёз адтуль, як за Керанскім пусцілі дамоў, цэлы тузін лімінявых пярсцёнкаў. Аўстрыякі мэты іх выліваць. Імянныя літары з старога дзявочага грэбеня прыставіць умелі. Калі хочаш, дык і сэрца вырабяць пасярэдзіне іх.

— У Ельні аднаго разу...

— У нас тутака — дрэнь. А вот калі дзе зганяць людзей з усіх бакоў...

— Вой! чаго там у Ельні ні датваралі...

Такі пачатак у яго апавяданнях.

Але аднэю Ельняю не абмяжоўвалася Цяўлоўскага знаёмства з светам і людзьмі. Трэба сказаць, што ён страхар, і нават добры. Чым хочаш накрые: саломаю, гонтамі, дахоўкамі... Шляхта на засценках маюць яго за пярвушчага майстра, ■ сабе бяруць на работу. Як паны былі, дык і ў тых ён крыў аборы, стайні, такі скарбовыя, пакоі аконаму. Многа людзей бачыў на свае вочы. Як хто з іх дома жыве, запамячаў.

Наслухаўся Корабач ад свайго гаспадара ўсякіх-розных прыгод з старымі шляхтамі, рызыкоўнымі шляхцюкамі, залёцістымі шляхцянкамі. Пра івянецкіх муляроў яму многа чаго дзіўнага стала вядома.

Чаго ні ўбачыш, чаго ні наслухаешся, ні дадумаешся салгаць з стрыхоўкаю круга свету абыходзячы, назіраючы жыццё розных станаў з вышыні стрэх?

Расказаў Цяўлоўскі й сваю прыгоду з рассечанаю іспадняю губаю. Гэта ж аднаго разу прыехаў ён з работы. Ад'язджаючы, добра-такі падчубэрыўся ў таго гаспадара, дзе крыў: аж язык за зубы чапляўся. Ды шчэ, як на тое ліха, на дарозе каля самага дому заліў дождж. Рубца сухога на ём не асталося й на том чалавеку, што падвозіў. Хоць і дарога не вялікая аставалася, але добра-такі прабудзеў. Шчэ й захаладала пасля дажджу. Прыйшоў у хату, дык зуб зуба кліча. Зараз жонка змяніцца дала. Адправіў дамоў чалавека. Тым часам пастух ужо з поля й каровы пусціў. Не пайшоў жа Цяўлоўскі бычка-пярэзімка пераймаць — здэцца, й жаба, а за кароваю ў дзесятае сяло збяжыць, дамоў ніколі сам не зойдзе — здаўся на нявестку, а сам палез на печ крыху плечы пагрэць. Падаіўшы каровы, працадзіўшы малако, звала жонка вячэраць — не пайшоў. Узяў і заснуў на печы. Ніхто яго не будзіў. Павячэраўшы, усе спаць паляглі. Позна ўночы прахапіўся Цяўлоўскі. Добра не раскурстаўся шчэ — не знойдзе, кудэю злезці далоў. Заблудзіў на печы — што ты скажаш! Поўзаў-поўзаў... Мацаў-мацаў... Дзе ні памацае — сцяна альбо комін. Злосць чалавека ўзяла.

— Што за насланнё? Каб ты згарэла! Каб ты...

Храпуць на ложках, і не знайся. Хацеў крычаць ратунку, ды покуль змаліўся, дык і не пара... Калі кіне яго вопрамяць ■ печы на прымурак плячыма. Супэнду ўсхапіўся ды ў кант печы добра-такі барадою памацаваўся. Тут і губа расхінулася на дзве палавінкі.

У роце двух зубоў недалічыўся. Завойкаў, заенчыў Цяўлоўскі ад болю. Хатнія паўсхватваліся. Кінуліся ратаваць. Набраліся яны пуду, пакуль разгледзеліся, што здарылася. Запалілі агонь. Пабеглі к хвэльчару. Ёсць такі ў Хатніках чалавек, што за сваю бытнасць у маскалёх санітарам служыў, [redacted] цяпер парашкі дае людзям і ў аптэку рэцэпты піша.

Ну й смяяліся ж потым з Цяўлоўскага дома й на вёсцы.

Успамінае ён і цяпер гэту прыгоду. Гаворыць і смяецца. Ды патом Корабача перасцерагае:

— Ты не смейся. І на печы можа блуд узяць.

Так было першы дзень.

Другія дні людзі сухія крыжыкі вазілі ў такі. Дармо, што абвесткі выклееены на дзвярах у сельсавеце, у капяраціве й паштовым агенцтве, што чытальня ў Хатніках ёсць, у Цяўлоўскага хаце знаходзіцца — ніхто к Корабачу не йдзе: часу людзям няма. Чаму яны ў Корабача яго не пазычаць? У таго часу — залішняе.

З раніцы схадзіў у сельсавет. Праседзіў там да паўдня. Ды збрыдала. Закапіцкі толькі з сакратаром там савінымі вачыма на паперы пазіраюць. Нешта пішуць на ўдоўж і ўпоперак разлінееных аркушох. Што за цікавасць [redacted] імі сядзець у гэтакую гарачыню? Дармо, што вокны паадчыняны ў канцылярыі, у кашулях каўняры [redacted] каўнерчыкі парасхрыставаны — парнасць, як перад навальніцаю. Няма людзям ахвоты навін пачуць і самым, што ведаюць, расказаць. Хіне к сну, у халадок хочацца дзе каб зайсці. Памаленьку, спацырам пацягнуўся Корабач адтуль на сваю кватэру. Тут гэтаксама... Сядзі адзін, як той воўк. Хацеў зайсці ў хату ад вуліцы з гаспадаром пагаварыць. Ужо і ў сенцы выйшаў. Там убачыў, што на дзвярах гаспадаровай хаты зашчапка замком замкнена. Уздумаў, што добра б было пакупацца схадзіць, як гэта дома бывала. Тутака ж недзе поблізу рэчка павінна быць. А сёння й дзень пагодны, парнасць страшэнная — вада цёплая, мусіць. Ды так і асталося яго намярэнне. Бяда, што таварыства Яську няма. Ісці аднаму, уходаў не ведаючы ў чужым баку,— баязно: гатоў дзе галавою ў вір папасці.

Месца сабе Корабач недабярэ.

Выйшаў на двор з чытальні. Мутнымі вачыма стаў мясцовасць разглядаць. У Цяўлоўскага трапіна зямлі, але забудаваўся на адным баку на ўсёй чвэртцы, а бра-

ту ўзамен з другога боку свой пастаўнік аддаў. Так што на дварэ слабодна размінуцца льга. Нават сякі-такі й садок у іх ёсць. Пнёў з восем ігруш і яблынь у ём расце, а паміж іх грады зроблены. Тут вішань за садовае дрэва не лічаць, бо іх ніхто не садзіць: самі растуць, шчэ каб не выкатавалі, дык ступіць бы за імі не было дзе. Старыя вішні-гаротніцы стаяць пры самым частаколе ад аднэй мяжы й да другой. Пазірае Корабач на ўсё гэта, як бы першы раз бачыць. Запамеціў, што ў таку ражкі фортак відаць у прагаліне паміж страхою і стрэшкаю над перадточчам.

«Нехта ж там ёсць. Зайду пагляджу».

Мінуў садок, у ток пайшоў. Тамака воз аўса на адзін бок абернен. З другога боку на старане Цяўлоўскі складае авёс у адведзенай яму меншай чвэртцы. Другая чвэртка ў гэтай старане заложана жытам і зімкаю-пшаніцаю аж пад самы шчыт. У другой старане гэтаксама поўна рознай збор-дружыны. Там і сена, і ячмень, канюшына, віка. Адзін гарох-самотнік чакае цэпа ў калашні апрыч зложаны. Няма гуляшчага месца ў гэтым таку: ведама, адзін ён і ёсць на гаспадарцы, трэба ж стоўпіць усё, што на полі ўрадзіла.

У таку Корабач усяго дваіх застаў — гаспадара з гаспадыняю. Цяўлоўская гадоў на пяць старэйшая за свайго мужыка. Тэўсць тая, тэўсцы! Што калода асінавая, збуцвеўшая ў пні. Толькі па адным усяго й пара мужыку, што гэткая самая прысадзістая, як і ён. Кепска старой цягаць снапы. Калі тры, а калі дык і чатыры валачэ. Сапе — не здышыцца. Потная, усё роўна як толькі што з рэчкі вылезла. Не так цяжка Цяўлоўскай, як горача.

Корабач гэта бачыць. Бярэ па два снапы пад пахі й па два ў рукі. Нясе к застаронку. Ён і прынясе болей, і дакіне далей, чым старая.

— Памажы. Памажы нам старым,— ласкавая стала гаспадыня.

Ёй на добры лад і рабіць не было ўжо чаго. Корабач і адзін даў чорт які вялікі запас. Цяўлоўскаму толькі ўпраўляцца складаць астаецца.

— Пасядзеце, цётка. Я й адзін,— кажа йзбач на Цяўлоўскую.

Дзе там сядзець! Рупасці гаспадыні не бярэ ніякая ўтома. Хоць не так спяшаючыся, але потым шырляе й яна, колькі паўздужае.

— Дзе ты бачыў! Хоць троха ды памагу.

Запамеціў Корабач, што блізка снапы кладуцца ад старой, у куток Цяўлоўскаму пад рукі яна не дакіне. Корабачу здэцца, што сам на даўжкі шчэ адну гэтакую старану перакінуў бы — гэтакія лёгкія аўсяныя снапы.

— Давайце, цётка, я за вас буду падкідаць. Вы толькі падцягуйце к застаронку.

— Падкідай сабе. Дзе мне старой. Ужо лыжка гоцкаецца ў руках, як сядзеш есці, а не то каб сноп дакінуць.

Так віда-віда воз на старане апыніўся. Прыбралі з току. Цяўлоўская села адсапнуць на застаронку, прыперлася плячыма к пахучаму мурагу. Усё шчэ ніяк не здышыцца. Ходзяць яе поўныя грудзі пад клецістым паркалёвым капотам то ўверх, то ўніз... Корабач гэтаксама прысеў трохі водалей. Загледзеўся на свае дзіравыя чаравікі. Канечна, трэба яму шаўца апытаць ды занесці, каб паправіў.

Цяўлоўскі доўга на старане кешкаецца, шчэ снапоў не злажыў усіх.

— А што маладому,— кажа Цяўлоўскі,— надаесць гульма гуляючы. Вот каб мне гэтак хто пэнсію даваў, о то б выгада была. Спала б найбольш. Смачна б з'ела. Выйшла б на прызбу пад сонца пасядзець.

Тым часам Цяўлоўскі злажыў увесь воз. Сеў на снапох пад балькаю. Сына з поля чакае.

...Забарабанілі даўно падмазаныя колы па калдобінах на сценцы з навозаў. Стала чуваць, як конь ступае капытамі па сцаглянелай сцежцы штораз мацней — бліжэй.

— Едзе ўжо,— аказаўся Цяўлоўскі на старане. Спусціўся далоў на ток па прыгалавічы. Усе ўтраіх выйшлі на гумно воз сустракаць.

На возе едзе жанаты сын Цяўлоўскіх. Гадоў пад трыццаць бярэцца мужыку. Гэтакі самы куртач, як і бацькі.

У рад малады вішэннік ад мяжы ля сценкі пусцілі расці. Шаруецца яго галлё аб воз. Самымі кончыкамі ловіць хурманка па твары сцебануць. Адсовуе ён іх — задзіраў: не лезце, назолы! Калі няма небяспекі выпараць вочы, тады асмаргне рукою спелых вішань — «жучкоў». Костачкамі на бакі плёваецца. Раджайны на іх гэты год. Шаснастак пяць вазіў з старым у мястэчка аднаго разу. Толькі там гэтага дабра, што гразі.

Даюць, як на смех, па дванаццаць злотых пуд. Хацеў адразачку варочацца дамоў з усім таварам, але ўважыўся... Пастаяў да вечара. Сяк-так паўтары шасьцікі свяжэйшых размераў гарцам амаль не задарам. Рэшту дамоў прывёз. З раніцы купілі, каму трэ было, а пад вечар каб хто хаця на смех папытаў! Дома пасыпалі на пасцелцы па таку, каб не так борзда грэліся. Елі ўволю, хто толькі хацеў. Малыя па прыпалу цягалі, кармілі людскіх дзяцей. Ды потым не скончылі ўсіх. Завяліся белыя чэрві. Давялося высыпаць у завулак.

— Хто іх будзе больш абіраць,— тады сказалі Цяўлоўскія.— Лепш хай на пні высыхаюць ці птушкі пажывяцца.

Пацягнуў Сальвэсь (гэтак малады Цяўлоўскі завецца) за ляйчыну, пакіраваў проста ў ток у вароты. Застукалі па выбітай гліне мацней кабыліны капыты. Сам як можна ніжай прыгнуўся — на перадточа ўз'ехаў, а тады і ў ток. Цямней у будыніне стала. Жвава Сальвэсь саскочыў з воза. Гаспадарны бацька, каб барджэй было, распусціў вужышча, сабраў. Сальвэсь зняў пярэдню, сцягнуў жэрдку, сам зайшоў набок.

— Уцякайце там,— не моцна гукнуў, хоць на тым баку, куды воз куляць думалі, і не было нікога.

Палез Сальвэсь задам к возу. За йсподнюю білу рукамі ўпыліўся. Заўчасне бацька падскочыў — збоку папхнуў.

Гопнуў воз набок. Потарч снапы паляцелі. Кабыле крыху аглаблёю па кумпяку залавіла. Дрыгнула яна скураю й асталася стаяць, як была.

Адкідалі снапы з-пад кол. Закінулі на воз вужышча, пярэдню, палажылі жэрдку. Стары Цяўлоўскі зайшоў наперад, узяў кабылу за вобраць.

— Назад, коська!.. назад!..

Спрытная кабыла, каб зарваць чым пажывіцца, схапіла з кучы сноп у зубы. Цяўлоўскі адабраў. Толькі пасма аўса ў зубах асталася. Пасунулася памаленьку назад, джоргаючы капытамі, жуючы, захватам узядзены авёс.

Сын зад у драбінцы адкідае, кіруе, каб не ўчапіцца нідзе.

Выехалі з току. Выкіраваўся Сальвэсь на сценку. Ускочыў у драбінку. Сеў на біле. Смаргануў лейцамі кабылу. Паехаў па другі воз.

Гэты раз ужо абое Цяўлоўскія палезлі на старану. Корабач ім падкідае снапы — адзін упраўляецца.

Так прайшоў другі дзень, як ён стаўся ў Цяўлоўскіх на кватэры.

Потым рабочая пара прайшла. Стала больш часу ў людзей. Няма-няма дый забяжыць хто з блізкіх у чытальню ўзядзеную кніжку адмяніць, газет паглядзець ці так сабе пасядзець у ізбача — аднак ён хлапец не ганарысты й работаю не заняты. Бывае, што й з далёкіх прыйдзе каторы хлопец у капэратыў узяць цукру з паўкіла якога ці бацьку пачкаў са тры тытуну расстарацца й тонкай паперы. Бывае, што мае сваю залатоўку ў кішэні, дык і сабе «Пушку» альбо «Бокс» к святу прызапасіць. Калі ж яшчэ трохі багацейшы на грошы — у канавы хадзіў ці з Лесбелам узімку меў сякія-такія гішэфты ды папалася квіткі адмяніць,— дык і пачак «Сафо», не туды, купіць гатоў. Дзверы адчыняючы, як будзе дадому адыходзіць, нізаводня прачытае абвестку: «Усім грамадзянам Хатніцкага сельсавету можна кніжкі з хаты-чытальні браць. Чытальня знаходзіцца ў Тараса Цяўлоўскага». Падумае:

«Схаджу туды. Сягоння, аднак, жыта не калоцім».

Цяўлоўскага хаты ў людзей папытаецца.

— Гэта табе чытальня трэба?

— Але.

Дык раскажуць і пакажуць — адразу патрапіш.

Сходзіць хлопец і возьме, што знойдзе пад свой густ або што Корабач нараіць.

---

У Жыздрыцы за гэты час камсамольцаў прыбыло. Шчэ запісаўся Арсей Анцішэўчык.

Колькі раз да гэтага Бладзік яму дзёўб, каб падаваў заяву. Ды Арсей усё адказваўся. Такі дзівак! То тое ў яго не выпадае. То гэта не выходзіць. Ды ці мала можна прычын знайсці, пашукаўшы. Так і так усё было. Тут Арсей гонар свой нейкі паказаваў. Вяршэнства не даваў зняць над сабою. Бладзік перш упіша, а потым будзе хваліцца, што ўгаварыў яго.

Таго разу, як быў сход моладзі ў Жыздрыцы, па душы нагаварыўся з Корабачам Арсей. Ранейшая хэнць, паднятая Бладзікавымі апавяданнямі пра мноства выгад ад камсамолу, з'явілася зноў. Таго разу й сказаў сам сабе:

«Нізаводня трэба будзе заяву накрэмзаць. Цяпер хоць хлопцы ў ячэйцы сталі разбітныя. Паслухаць ёсць каго».

Ды можа б і забыўся пра сваю дакларацыю, каб не трэ было ў каператыве быць. А то зайшоў, купіў чаго хацеў ды да дому йсці завярнуўся. Вось тут абвестка на дзвярах і напамянула Корабачава запрашэнне ў хату-чытальню прыйсці.

Дома работа не ўцячэ. На полі нічога не мокне. Тэрміну назначыць яму таксама не мае ніхто права — сам сабе гаспадар. Бацька не дуж не то каб рабіць, але й загадаваць нават. Калі з кіем на двор высунецца, дык і то дыхавіцу нагоніць. Дзе яму за кім наглядаць.

Цяўлоўскага хату Арсей ведаў. Патрапіў к яму, не пытаючыся. Корабач ужо ўправіўся сякіх-такіх плакатаў у раёне расстарацца. Трохі чаго з сельсавету прыдабыў, каб сцены ўбраць. Арсей усё гэта абгледзеў. Пахваліў, што добра. Потым у кніжках папароўся. Запісаў на сябе «Маладняк» 2—3 за 1925 год. З ізбачом разгаварыўся. Ужо яны зналі адзін аднаго. Пра хатнікую ячэйку ў іх мова зайшла. Зганіў яе Корабач наўнэт. Перад Арсеем не тоіцца, не хваліцца, быццам і камсамолец ён.

— З самага пачатку,— кажа,— трэба за ўсё брацца. Працу толькі што наладжваць даводзіцца.

Арсей гэтаксама думае. Хлопец ён асцярожны. Не ўсё, што сліна к губе прынясе, ад яго пачуеш. А цяпер собіла-такі прагаварыцца.

— А й сам думаў заяву падаць, як бачу: працы няма, не камсамол, а немаведама што.

Так-то бо ён нешта знаецца ў камсамоле. А гэтакі неміласэрны суддзя. Што Бладзік утлумачыў, толькі тое й ведае пра ячэйку й розныя партыйныя справы. Мусіць, не падумаўшы, спусціў з языка гэту ацэнку тутэйшага камсамолу.

Арсеева слова Корабачу прычапка. Не зразу ўгаваруе ён, каб пісаць заяву. Перш-наперш у тое, што будзе, вядзе Анцішэўчыка самаю прыгажэйшаю сцежкаю.

— Толькі б хлапцоў добрых,— бядуе ізбач.— Эх! І пайшла б праца. Толькі дзяржыся. Райком бы тады дзівіўся.

Цяпер у Арсея круты паварот. Яно, калі добра раз-

гледзецца, дык толькі за гэтым, а ні за чым другім і прыйшоў ён у чытальню. Прыйшоў і дагэтуль не ведаў, што яму цяпер сама патрэбней. Што ў галаве, тое гэты раз і на языку:

— Але. Я даўно думаю, каб гэта заяву падаць.

Корабачу наруку гэты паспех Арсеяў.

— Пішы, браце. Чаго там пазіраць?

Зараз выцягнуў у стале шуфляду. Даў паперы, каранлаш. Асадкі з Евангеллі цяпер адменены «справаю». Яе Корабач у Закапіцкага выменціў. Там знайшлася запасная чыстая анкета.

Той дзень добра йшлося. І ў чытальні апрыч іх двух толькі сцены маўклівыя былі. Хоць у камсамол запісацца й не тое, што згаварыцца красці пайсці, але ж прыкра, калі сочаць за табою ды, выйшаўшы на вуліцы, пахваляюцца:

— Анцішэўчык з Жыздрыцы ў камсамол запісаўся.

Хай сабе й ведаюць, але не ад першага ж дня.

Так што цяпер пайшло, як падмазанае...

У сераду было бюро. Там пастанавілі «членам прыняць». Сход у нядзелю пацвердзіў. Назаўтрае, у панядзелак, Корабач схадзіў к паштару. Усе паперы, якія трэба, адаслаў у райком. Не сягоння — заўтра Арсею прышлюць камсамольскі білет.

Ён цяпер — уся надзея хатніцкай ячэйкі. Хлопец сам сабе гаспадар. Чаго болей хацець?

Бацька ў лік не йдзе. Крукам соваецца Цыпрук па хаце з кійком сваім арэхавым. Ног не падыме: джоргае па падлозе вялізнымі ботамі, шытымі, мусіць, не на капыл, а на цэгліну, каб прастарнейшыя былі, каб лягчэй было абувацца.

Усяго й сям'і ў Анцішэўскіх: Цыпрук, Арсей і Ганька.

Стары больш усяго глядзіць запечка. Туды яго гоніць холад і ў пятроўку. Часта бывае, што Ганька або й Арсей паказуюць яму сваё заслужонае месца. Што там трэба нядэшламу чалавеку: пад'еў, калі даюць, ды ў запечак тэпай. Толькі Цыпрук не з тае мукі спечан, каб так рабіць, як маладым думаецца. Лас ён у чужую мову сваё слова прыкінуць. Паправіць мае адвагу, калі хто ўвалжэцца. Дзе што робіцца, хоча пачуць. Ці вайна сяголетка будзе — на дзень па два разы дапытуец-

ца ў чужых людзей. Ад сваіх ніяк гэтага не дойдзе стары.

Толькі пачуе Цыпрук чужы голас у хаце, натапырыцца. Далей — болей пойдзе гамонка ў хаце — не датрывае. Злазіць з прымурка, за ложак беручыся. Абмацае сваю арэшыну. Выйдзе на хату к маладзейшым.

— ...вось як, дзеці, трэба,— навучыць іх толкам на свеце жыць.

Спання з яго хватае. У Анцішэўскіх у хаце ад печы да сцяны ад вуліцы ложкі посцелкамі палосістымі завешаны, шчэ й прагалак як аднаму прайсці пушчан. За гэтымі павілёнамі старога кватэра. Ніхто тутака не замінае. Чужым цікавым вачам не зручно наглядаць, дзе ён павapaчаецца. Ляжыць сабе Цыпрук на баку і дрэмле, як нікога ў хаце няма. Забаліць адзін бок — на другі перавернецца. Забаліць другі — на спіну ляжа, ногі выпрастае. Збрыдае, лежачы — устане, сядзе пасядзіць, на печ узлезе. З падаконніка возьме мяшэчак з тытуном. Хоць і скачуць пальцы, але папяросу скруціць яшчэ гладкую. Дымам адгоніць драмоту ад ачэй. Балазе й тытун у запасе вядзецца. Калі б не быў Арсей у Хатніках,— зойдзе ў капeратыў і купіць пачкаў пяць.

У канцы лета цёпла бывае на дварэ, хораша. Хінецца сонца к вечару. Не грэюцца хмары каля яго, неназаляюць, не нахмуруюць яго вясёлага твару, ціхай злосці яму не паддаюць. Ластаўка — працавітая птушка — высока ўгары за мошкамі гойсае. Шчабеча шпак на клёне цераз вуліцу. Ветру або саўсім няма, або чуць-чуць вее ў кляновых лістох. Возьме тады Цыпрук сваю арэшыну — служку верную — высунецца на двор, сядзе на прызбе пад сонца. Выходзіў вочы прахаладаць, быў спакой на сэрцы.

А тут сядзе, войкне... Вокам рупнага гаспадара агледзіць усё, што толькі льга, з месца не сыходзячы. Непарадкі ўсюды відаць. На дрывотні валяюцца параскіданыя дровы. Дзе калолі, там і кінулі. Так і мокнуць на дажджы. Забаўка там вялікая была ў касцёл іх зладжыць?! Ля хлява тое самае... саломы леташняй натрэсена на дварэ, а ў старане недастача. Рыкае цялё ў загародзе. Нікога дома няма. Сышлі недзе, пакруціліся...

— Гаспадары! — з горыччу ўпікае бацька свае дзеці.

Соліць яго вочы сляза скупая, буйная. Сонца ласкавае сушыць іх. Хай бы каціліся, падла, дык не, не хоча слухаць.

Цыпрук варочаецца ў хату ўстрывожаны.

Прыйдуць увечары маладыя з работы.

Сядуць вячэраць. Зойме стары сваё адвечнае месца старэйшага гаспадара каля булкі хлеба. Лае дзяцей:

— Гаспадары! Ці было за мною так? Дровы мокнуць. Салому вецер разносіць па двары.

Многа-многа б ён нагаварыў, ды горла ссыхаецца, лішняе слова гразне ў камлі языка. Каб гэта на маладзейшага Цыпрука! О то б даў дыхту! о то б злаяўзбэсціў!

Мінулася тая пара, калі ў Цыпрука вісеў бізун над дзвярыма.

— Ах ты, сукін кот! — скажа, бывала. Сярдзіты бацька быў. Доўга з ім не апраўдайся, а то пападзеш... яшчэ й як пападзеш!

Арсею збрыдала бацькава навука. Натура ў хлапца паганая: другі бацечка, бы ў адзін модэлак выліваны абудва. Дзе трэ было б змоўчаць старэйшаму, а ў яго тады злосць — перакорная — з'яўляецца. Ніхто не возьме над ім вяршэнства ні сілаю, ні ласачкаю.

— А пайшоў ты, стары! Узяў бы сам ды паскладаў, калі рупасць узяла,— гэта Арсей кажа на бацьку гэтак.

— Ой, гад! Дзе гад быў! Каб я мог...— доўга ён цягне гэта слова, успаміны пішчом ціснуцца ў галаву.— Адрабіў я сваё.

Больш пагубляў Цыпрук свае словы. Голас хрыпне. Вочы моргаюць. Хаця б яму цяпер на гады чатыры памаладзець. З кулакамі б яшчэ мог парывацца. Што трымаў, дык і папусціў бы ў пракляць. А цяпер... Джоргае вялікімі ботамі, беручыся бліжэй к паласістым посцелкам.

Не ў вялікай пашаноце бацька і ў Ганькі. Бывае, што заманецца яму памуштраваць дзяўчыну. Даўнейшае ўсё Цыпрук паганяе.

Тая мяшае свінням. Выйдзе стары з-за посцелак. Бачыць: не так робіцца ў дачкі, як маці рабіла.

— Ты б рукамі крошкі ў цесце падушыла, а не мешалкаю. Жаба ты! Не ўмееш на свеце жыць.

Ого! Цыпрук умеў жыць з толкам на свеце. Да вайны шчэ меў трыста рублёў. Дочкам пасаг збіраў. А ў

вайну дык і тры тысячы прайшлі праз яго рукі ў паклаж. За палякамі выменяў усе свае тысячы на новыя кацярынкі ды на пяцісоткі, схаваў у вобразік, на каторым богава маці ■ бажанём малым намалёвана, а кругa яе анёлы. У тым самым абразіку «касяя» Анцішэўскіх знаходзіцца, з каторым у пажар круга вёскі абыходзяць. Кажуць, як абыдзеш ды ў каторы бок сам пойдзеш, туды й пажар кінецца (мяркуй, значыць, у чыстае поле). Каб гэта калі спраўдзіла — не ведаю. Быў аднаго разу пажар у Жыздрыцы. Восець занялася гарэць. Толькі не здагадаўся ніхто абразікам яе абнесці. Прыскочыла з Хатнікаў пажарня. Скінулі страху (пакуль яны змаліліся прыехаць, дык адны латы ды крукі асталіся). Расцягнулі ўсю як ёсць будыніну жалезнымі крукамі па бервяну. Наводшыбе стаяла дык і пагасла хутка. Дый мусіла пагаснуць, бо ваду пампавалі не шкадуючы.

Спрактыкаваўся Цыпрук за свае восемдзесят год, як жыць на свеце. Нават багатыром бы вялікім стаў, каб цяпер думскія ды царскія грошы йзноў сталі хадзіць. Толькі дачка не бярэ ўвагі на бацькаў стаж.

— Ідзі, йдзі,— кажа,— не першы раз чую гэту навуку.

Папярадзе адчыніць Ганька сабе дзверы з хаты й з сянец. Тады ўткне мешалку ў цеста, возьме ў вадну руку гэта вядро, з памыямі — у другую й панесла. Толькі возьмецца яна за зашчапку, каб дзверцы ў хлеўчык адчыніць, як усярэдзіне зарохкаюць, завухкаюць, на вароты лезуць.

Свіння патом свіннёю. Не ўгаворыш ёй, хоць будзе сабе й самы лепшы вяцінар-агітатар. Гігіены не глядзіць. З чаго есць, у том і ногі ставіць. Нацягаюць яны гною ў карыта.

— Ух, ваўч'ё! — пакрычыць на іх Ганька за гэтакую работу. Возьме мешалку. Выкапае гной. Каб стары бачыў, і за гэта б сварыўся: маці рукамі выбірала. Ганьцы ўсё каб барждждэй, каб рук не застраміць.

Выскрабе, выкіне гразь з карыт. Кормным цеста ўкіне. Уліе надворным памый з прамешкаю або цестам абмешаных.

Любіць яна пазіраць, як рабая даўгалычая свіння цеста апетуе. Толькі шкода дзяўчыне, што гэту зіму перад Калядамі калоць яе думаюць. А сыць тая, сыць! Увесь дзень сядзіць, як добрая пані. Укіне ёй Ганька

цеста. Яна не спяшаецца, як другія, што з-пад рук ірвуць — мешалкаю не абаронісся. Рабая памалу на ногі ўстае. Спаважна, спацырам падыходзіць к карыту.

— Цап, цап, цап! — як бы смакуючы, тры разы запар хваціць яна цеста ў ляпу. Пачакае, пакуль не глыне. Тады зноў:

— Цап, цап, цап!

Узапрэцца Ганька на чорныя гразкія варотца. Стане й пазірае. Пацешная свіння!

Некалі й Цыпрук Анцішэўскі быў нечага варт. Гэта толькі за нашаю памяццю гэтак ён асунуўся. Братчыкам быў даўней у Хатніцкай пакліцы, дзе імша правіцца ўсяго тры разы ў год. Поп меў яго за самага лепшага чалавека ў прыходзе (яго — Ігналю). Калі збіраецца па калядзе ці павалагонкаму хаты абысці, дык перш-наперш заедзе к Анцішэўскім. Жонка старога была дбалая кабета. (Толькі ўсяго што доўгага веку не мела, бедная.) Любіла яна госця добра пачаставаць. І наварыць, і пасмажыць, а чаго не стане, дык на трыножцы на прыпяку спячэ, [redacted] лучыны агонь пад ёю разлажыўшы. За сталом госця прымусіць не было над яе здатнейшай кабеты ва ўсёй акалічнасці. Каб не гаркала, дык не было б з кім прыямней пагаварыць, як з ёю. Так што поп падкрапіцца ў Анцішэўскіх, прапусцяць па чарцы. Тады з братчыкам ідуць па хатах.

Цяпер не так даўно пацякла гонтавая страха ў паповай хаце над самым сталом. Няма як жыць. Абы дождж — у хаце лужы. Думаў-думаў поп, які [redacted] паратунак даць, людзям скардзіўся сваею бядою. Людзі параілі па гонтах саломаю пакрыць. Памеркаваўся ён. Добрая людзкая рада. Гонтаў хто іх дакупіцца. А кулёў за «дзякуй» сабраць можна з прыходу.

Пазычыў ён у царкоўнага старасты каня з калясьмі й жэрдкаю. Сеў і паехаў у аб'езд. Пакуль да Жыздрыцы даехаў, мнагавата сабраў. Не заехаў жа перш-наперш к Анцішэўскім. Кепска яны жывуць гэтыя гады. Двух сынкоў часць узялі. Прыйшла гаспадарка к заняпаду. Перад падзелам расцягалі сыны што толькі льга было. У добрых суседзяў знайшлі перахоўку сабе. Потым, як падзелы прайшлі, хто аддаў, да часу схаваныя, а хто й капыткамі накрыўся, адказаўся, што:

— Я нічога не ведаю, не бачыў... Ну цябе...

Праз людзей дачуўся поп, што нядуж стары Анці-

шэўскі, у сваёй гаспадарцы не волен, сынскае права над ім. Перайшоў па хатах адзін. Далей ехаць гэты дзень ён нікуды не думаў. Вечарэла ўжо, ды й воз быў ніштаваты, як маладому каню павезці. Захацелася папу свайго старога дружаку паглядзець. Прама на двор к Анцішэўскім закіраваўся.

Арсей на той час быў у хаце. Пачуў, як высокая брама з вузенькіх доўгіх шчакет заскрыпела. Зірнуў у вакно. Поп уз'язджае на двор з акалотам. Не спадабалася гэта Арсею. Каб прымеў, парваў бы ён цяпер яго на кавалкі.

Сустрэцца не хацелася. Каб хаця быў не камсамолец, дык хоць ні сця любя, але слова якое прагаварыў бы да яго. А так свае хлопцы смяяцца будуць. Пойдуць на сход у Хатнікі і там разбрэшуць, што з папом Арсей гішэфты мае. Не ў гэта ён пусціўся. Ды, мала таго, гатовы на від паставіць, у пратакол яго віну запісаць. Тады хоць ты сам з ячэйкі выпісуйся. Гэта раз... Другое: поп жа нізаводня скардзіцца будзе, вот і бяда, што Арсей ніяк не ўмее бедаваць памагчы другому чалавеку.

Не знайшоў ён лепшага выхаду, як з хаты ўцячы куды, схавацца. Пакуль поп на дварэ з канём кешкаўся, Арсей ціхенька прабег на дыбачках цераз сенцы ў камору. Дзверы за сабою зачыніў памаленьку, каб не скрыпелі. Сцішыўся й слухае. Чуваць толькі, што б'ецца сэрца ў грудзях моцна, як у неспрактыкаванага злодзея.

Потым скрыпнулі дзверы з двара ў сенцы. Ім памаглі дзверы ў хату з сянец, гэтыя чуваць, што поп зачыніў за сабою.

Арсей думае: «Пайшоў ужо». Ды патом вушам сваім не верыць. А можа, так хто. Можа, Ганьцы чаго ў хату трэ было. На дыбачках падыходзіць ён к маленечкаму акенцу. Туляючыся, пацікаваў на двор. Не відаць нікога каля воза. Цяпер толькі ўпэўніўся, што поп у хаце.

Зноў, баючыся, адчыніў дзверы з каморы ў сенцы. Падкраўся, стаў пад дзвярыма. Паслухаў.

— «Тут»,— яшчэ раз пераканаўся.

Добра, што поп пакінуў сенцы адчыненыя. Усё не трэба скрыпу лішні раз асцерагацца. Выйшаў на ганак. Пад капяжом хаты пайшоў у агарод. «Каб хаця не выйшаў гэны чорт зяркаты каня глядзець»,— аднаго

толькі і боязна. Пасмялеў тады, як схаваўся за ток. Пайшоў па загароддзі на вёску гуляць. Дармо, што будны дзень... Знайдзі сабе дома якую работу — гатовы зглядзець, у хату пазваць.

— Кепска, бацюшка! Кепска,— скардзіцца папу Цыпрук. Сам сядзіць у рагу стала з аднаго боку. Поп на гэтакім самым месцы прысеў з другога канца.

Поп Пацякін сярэдняга росту прысадзісты чалавек. Нехта пусціў дзейкі аб ём, што вельмі дужы. Калі пад п'яную руку,— і гэта ў яго не наўда,— дык і праўда, што барукацца на мужчын нарываецца. Толькі ахвотнікаў сабе ніяк не падбярэ. Кавалём бы яму быць. А то марнее чалавек у папоўстве. На яго месцы й нядэшламу добра б было.

Многа чаго скардзіцца Цыпрук. Пацякіну аж слухаць збрыдала. Разважае старога, як малога, ласкавым слоўцам.

— Смерці ў госпада бога трэба прасіць.

Папаў поп якраз на тое перакананне, якім старыя людзі перад другімі хваляцца.

— Толькі ж гэта, бацюшка!

Такія словы ёсць заўсёды ў запасе на языку. Наўме тым часам саўсім другое круціцца:

«Каб хаця гадок пабыць».

Хворы бывае чалавек. Ляжыць пры смерці. Трэба ўжо яму й свечкі старацца. Тады стогне чалавек і ўслых у свайго бога енчыць:

— Каб хаця з месячык! Каб хаця з тыднік на свеце пабыць.

Вось калі язык праўду гаворыць, калі лгаць забываюцца — тады, калі ім цяжка ўжо зварухнуць.

А так — маняць старыя!

Жаданне ведаць, што далей будзе, чым скончыцца ўсё — моцны магнэс. Яму ў помачы надзея, што, можа, лепей жыцца будзе.

Збіліся яны з гаворкі, поп з Цыпруком.

Пацякін бачыць: не рана, сонца нізка ўжо. Трэба яму бліжэй к дому брацца. Памаўчаў-памаўчаў дый пытаецца:

— А дзе ж сыны?

Цыпрук кажа, што на пасёлак адзін выбраўся, сабе частку судом узяўшы. Другога хату паказуе цераз вуліцу. А трэці, меншы,— кажа,— недзе зябліць пайшоў. Толькі з незамужняю дачкою й жыве Цыпрук пры ём.

— Гады!.. недаваркі! — не ўмее ён без лаянкі паскардзіцца.

Скардзіцца й Пацякін.

— Хата цячэ. Жабрую... Хто куль дасць, хто два, хто сноп акалоту, а дзе й нічога не пападзеш. Ашчадныя людзі сталі. Сяк-так сабраў паўвоза пакрысе.

Цыпрук бярэцца за сваю арэшыну.

— Пайдзем, бацюшка. Можа і ў мяне што знойдзем.

Памалу тэпкаецца стары. Мацае кіем сцежку, дармо, што не сляпы. Поп ззаду за ім стрымлюе свае борздыя ногі.

Колюць вочы старому параскіданыя па дрывотні дровы. Гаспадарская рупасць бярэ.

«Параскрадаюць суседзі. Трасцу, гэтак робячы, будзеш мець».

Пад страхою зложана каля току коп дзве сяголетняга акалоту.

Патом сабе Цыпрук прыяе, а не папу. Не хоча так адмыкаць. Бядуе, што сын знёс на поле ключ з сабою, хоць і ведае, дзе ён спрадвечку хаваецца, хоць і бачыць, што з-пад паплецціны канчур вяроўкі тарчыць, за якую ён прывязаны. У ток Пацякіна ўпусціўшы, гатоў убачыць у старане сяголета вытрасеныя кулі. Шчэ прычэпіцца, каб даў. Хто яго тады адкажацца. Хай бярэ лепш акалот. Кулі й сабе патрэбны. На іх і работы больш — вытрасці трэба.

— Бярыце, бацюшка, снапкоў пяць. Колькі маю. Тут усё, як бачыце.

Пацякін адлічуе, колькі яму ахвяравана. З Анцішэўскага беднасці толькі галавою ківае.

«Сышоў на пшык чалавек».

Выязджаючы з двара, згледзеў поп Ігналю. Дагэтуль і не бачыў яго. Жонка толькі дома ў іх была. Дала куль Пацякіну.

— Здрастуйця! — той кажа здалёк, толькі згледзеў, што поп на яго пазірае. Падымае шапку над галавою — гэтакі гонар аднаму папу цяпер робіцца, і то не ад усякага.

— Тпррру! Хадзі, Чвардоўскі, сюды.

— Чаго, бацюшка?

Чуе Ігналя нейкую непрыемнасць.

Пацякін пачынае хваліць радню.

— І бацька твой быў добры чалавек. І ты не кепскі.

Ужо відаць і гэтага, што — бацькоў пахваліўшы — дзяцьмі будзе ўпікаць. І праўда: ганіць поп цяперашні свет і людзей.

— О то свет пайшоў, о то людзі... Ідзе твой сын па вуліцы. Еду я. У другі бок і галаву нават адвярнуў, на двары пазірае.

Сярдзіта зварухнуліся Ігналевы ноздры. Будзе, ой будзе Хвядосу горача ў вочы, як вернецца бацька дамоў. Не хочаш быць як чалавек, дык сышоў бы хоць з дарогі, не сунуўся б, як свіння.

Перад папом Ігналя ціхі, добры. Патакуе:

— Праўда, бацюшка,— распуста ў людзях.

— Вучыўся твой сын і навучыўся.

— А маўчэце вы! Мне вочы гарацць ад людзей гэта слухаць.

---

На сяле Арсею кажуць:

— К вам поп прыехаў.

— Чорт яго бяры з папом. Мне што за інтарэс?

## XIII

Жыздрыцкія камсамольцы высока сябе несці пачалі. Яны ні абы-што — актыў ячэйкі. Хвядос — тэхнічны сакратар. Бладзіка прадстаўніком у сельсавет Корабач параіў выбраць, а сход узяў дый паслухаў свайго новага сакратара. Арсей гэтаксама «чына» зарабіў: экнамічна-прававы працаўнік ён цяпер. Як сёння яго выбралі, а назаўтра ўжо й работу сваю паказаў. Аднак прысвятак надарыўся, што з коньмі людзі не рабілі. Тры вёскі абышоў да палудня. Сем працоўных умоў гаспадароў з дзеўкамі ды парабкамі зрабіў.

Корабач быў не палуднаваўшы, калі перад ім Арсей сваею работаю хваліўся. Каўтануў лішнюю сліну з рота. Пахваліў:

— Гэта добра. Ты, брат, прабеглы хлапец.

Далей-болей гаворачы, Корабач і ў вялікае зайшоў.

— Трэба будзе з партячэйкаю сувязь зрабіць. Не так далёка яна — у Каранёве. Хлапцоў сваіх некаторых у кандыдаты перададзім. Я думаю, цябе першага трэба.

Арсей, гэта пачуўшы, усміхнуўся здаволена, нібы пасля святочнага снедання губы аблізаў. Вядома, што,

гэтакія словы пачуўшы, хлопец намнога ўгару падрос.

«Ого! Што за санагога — Я».

Але ж ёсць і перашкоды ў Арсея. Корабач кажа:

— Кепска толькі, што стаж твой саўсім малы. Але ўладзімся. Гады твае вялікія (вось што добра), камсамол перарастаеш. У партыю трэба нізаводня заяву падаваць.

У бюро на перавыбарах выбралі за членаў адных жыздрыцкіх і Корабача. Потым пры размеркаванні абавязкаў не пусціў Бладзік Петра ў паблуд. Хвядос гэтаксама за свайго хлопца ўзяўся. У Пётраву руку пацягнуў і Арсей. Усе ўтрох адстоілі сваё: за палітасветчыка яго асадзілі. Хоць Корабач і казаў:

— Я ж палітасветчык і ёсць, у хаце-чытальні працую. Трэ было б мне гэты абавязак узяць.

Але Бладзік яму й злажыцца з сваімі пратэнзіямі не даў.

— Ты ў нас адпаведны сакратар. Так?

— Сакратар.

— Чаго табе больш трэба? Глядзі свайго сакратарства й кніжак у чытальні. Пра таварыша Рудзьку я толькі тое скажу, што ён хлопец палітычна разбітны, у газетах знае, што пра што, кніжак можа шчэ больш праз яго рукі прайшло, як праз Корабачавы.

Ізбач, сваё імя пачуўшы, толькі носам мацней нюхнуў. Сказаць — нічога не сказаў.

— Прышлюць адносіну з райкома — будзе ведаць, што рабіць. Так што выбраць Рудзьку і ўсё з усім.

Хлопцы ўсе да аднаго рукі ўгору паказалі. Не стаў і Корабач працівіць.

— Я нічога не маю проці таварыша Рудзькі. Толькі як будзе ў райкоме.— Гэтак вызначыўшы свае паводзіны, Корабач і свой голас у «за» ўлічыў.

— Не твая бяда, як будзе,— асыкнуўся Бладзік.

Так што, Жыздрыца — не абы-якая вёска. Перадавая, можна сказаць, моладзь тут, актыў камсамолу. Хлопцы сваю перамогу маюць за гонар.

Збяруцца ўвечары ў каго... найчасцей у Анцішэўскіх. Там — як дома. Хлопца з дзяўчынаю, гаспадара з гаспадыняю ані не баяцца. Што ж за шышка стары Цыпрук у іх хаце? — соня запячкоўскі, і ўсё. Бывае, што хлопцы гарэзаваць усходзяцца, звалакуць стол, дурэючы, з кута на сярэдзіну хаты. Не ўтрывае тады

Цыпрук. Ён за ўсімі глядзіць, усё бачыць, да ўсяго прыслухоўваецца.

— Джорг! джорг! джорг! — з-за посцелак з арэхавым кіем высунецца. Валасы на галаве пакудлачаныя, ад Вялікадня нячэсаныя. Страшны, худы ад старасці. Камызэлек цяпер ніхто не носіць, а на ём надзета цёплая, робленая (не з крамніны), рудаватага колеру. Прабуе сваё слова старэчае сказаць, паказаць бацькоўскую моц сваю.

— Куды гэта сабраліся? У чыстае поле вешацца, а не ў маёй свянцонай хаце.

За абразу стала Цыпрук крыўдуе за хлапцоў.

— У хаце стол — гэта што ў царкве прастол,— успамінае даўнейшую прыказку.

Доўгая гаворка не для старога. Кашляць стаў. Уперад як бы йсці памкнуўся. Два разы ступіў перад сабою і заўняўся.

— На печ бы лез. Не клікалі сюды, дык і не ўтыкай носа, куды не трэба.— Злосныя сынавы словы. Нядужага бацьку ражнамі поруць яны. Сыну ж стары назаляе горш смалы ліпучай, усё запамеціць, дзе ні павярніся, усё пачуе, што ні скажы.

— Сыграешся! Ой, сыграешся!

Загневаўся Цыпрук на Арсея за яго перакор. Шамуль-шамуль — пайшоў за посцелкі.

— Вот на каго лопаніны няма,— ціханька Арсей скардзіцца хлапцам.

І Ганька гэтаксама ў хлапцоўскую руку.

— Заўсёды,— кажа,— такі ён у нас. А зараз кашляць пачне. Стаў яму ў печ ліпавы цвет. Цёплым нанач укрывай. Мэнка з бацькам.

За агнём сыдуцца камсамольцы к Анцішэўскім.

— Вось,— хваляцца,— да чаго Жыздрыца дайшла! Усё бюро — актыў з нашых хлапцоў. Давайце шчэ к сабе, у нашу вёску й Корабача з чытальняю перацягнем. Хай тады хатніцкія к нам на сход ходзяць.

— Далібог, давайце! — забудзецца каторы дый пабожыцца старэчым словам.

Арсей самы сур'ёзны. Дармо, што ў яго вочы паўнюсенькі смеху.

— Трэба будзе, хлопцы. Хай знаюць нас. Толькі дружныя будзьце.

Пагаворыць. Адзін перад адным сваё таварыства пахваляць. Зірнуць у вакно. Ні ў кога на вёсцы няма

ўжо агню. Ганька даўно ўжо кінула картоплю назаўтра скрэбці, даўно памыла пасудак. Прылягла на печы да часу. Сабе думае: пачакаю, пакуль хлопцы разыдуцца, пагрэюся, а тады буду слацца спаць. Чакалачакала дый сон змарыў. Цяпер ляжыць без памяці. Некалі быў у Анцішэўскіх насценны гадзіннік, ключам заводзіўся нават, ды ўжо два гады — трэці, як стаў... Няма гэтай выгады. Гэты год на куры Арсей хлеўчык зрабіў. Выселілі іх туды, спаражнілі падпечак. Ці поўнач, ці з поўначы — невядома. Каб хаця вокна не падвойныя, чужога б певуна пачуў. Але патом відаць, што позна, хоць бы й па тым, што за посцелкамі Цыпрук сярдзіта мармоча. Нехаця трэба хлопцам разыходзіцца.

Аднаго такога вечара шчаслівая думка Бладзіку ў галаву прыйшла. Зараз жа ён яе й хлопцам паведаміў:

— Што нам да Хатнікаў. Давайце мы ў Жыздрыцы сваю чытальню зробім. Ды не абы-якую, а каб лепшую, як у іх. Хай тады аблізуюцца.

Усім спадабалася Бладзікава слова. Арсею дык яшчэ й як па душы.

— Тады мы й ячэйку сваю тутака зробім. І ў іх будзе, і ў нас. А мы так зробім, каб наша лепш работу павяла. Утром нос. У нас жа ўвесь актыў, бюро.

Не помніць Арсей, што яму Корабач перавод у партыю даць дакляраваў. Не напамкі яму, што ў маладой ячэйцы гэтага не могуць зрабіць. Хай бы нават і далі яму на выбар: альбо ў партыю, альбо ў Хатніках ячэйку камсамольскую зарганізаваць. Адразу б Арсей выбраў, што лепш ячэйка ў Хатніках, як перавод у партыю. Трэба ж паказаць сваім людзям, што яны, камсамольцы, не сядзяць вушы паспускаўшы, а нешта робяць. Хай жыздрыўцы дзівяцца.

Камсамольцы ў Жыздрыцы не апрыч ад непартыйных хаўрусуюць. Усе разам ходзяць к Анцішэўскім. Было іх чалавек трох і пры гэтай мове. Слухалі-слухалі дый не верацъ, каб камсамольскія словы праўдаю сталі.

— Не вам гэта зрабіць. Зелены, хлопцы!

— А вось жа й зробім! Паглядзішся...

Зараз яны ўсім гуртам практычна памеркаваліся, ці выйдзе што. Бладзіку нельга не верыць. У яго такая ўпэўненасць, што каго хочаш пераканае.

— Кніжак у нас хопіць. Прынясу я, што маю.

— Што ў ячэйцы сцібіў,— падказаў Хвядос.

Бладзік ані не пакрыўдзіўся.

— Праўда, сцібіў штук пяць. Вось і будзе нам на пачатак. А шчэ Хвядос свае куфэркі ператрасе — нешта знойдзе. Калі й гэтага мала будзе, я схаджу ў райком. «Дайце»,— скажу. Ды не то што скажу, а патрэбую. «Давай, душа з цябе вон, а давай. Мы з маладзяжом работу праводзіць думаем».

— І ў мяне возьмеце крыху кніжак,— ціха аказаўся Пётра. Не то што ён баяўся дагэтуль высказацца, але не набіваўся толькі з сваім дабром.

— А што! Чаго ж вам болей хацець? Вот і не зелены,— пераконваў Бладзік непартыйных хлапцоў.— Будзе патом чытальня ў нас.

Адзін Арсей з сваею доўгаю гаворкаю не ўнімецца на малым. Люба хлопцу ўглядацца ў далёкую даль, дзе можна ўбачыць усё, што толькі хочацца. Ого! што ў іх, у Жыздрыцы, будзе толькі.

— Давайце. Чаго там марудзіць? Знясеце, хто што мае, у адно месца. Шчэ й я дома на гары папаруся. Хуць даўнейшых, але, можа, й дабры будуць,— дам штукі тры. Мой бацька некалі любіў чытаць,— зірнуў Арсей на печ.

Цыпрук, у запечку кашляючы, заслухаўся ў хлапцоўскую гаворку. Хоць не ўсё разумее ў ёй, але сам сэнс добра ловіць. Пачуўшы сынавы словы, не ўмоўчаў:

— Паразгайдамашуй!.. параспасоруй!.. Я век зжыў — збіраў, а ў цябе ўсё на вецер пойдзе.

Не ў нос Арсею бацькава лаянка. Што ён разумее, стары? Утлумачыць бы трэ было. Толькі часу шкода ды шчэ й невядома, ці будзе карысць з гэтага. Арсей ужо не малы. Яго не трэба вучыць. Сам ён ведае, што рабіць. Яму не перакор. Раз Арсей што сказаў — быць так павінна, хоць мо й глупства зляцела з языка.

Як сабе ні было, а з жыздрыцкаю чытальняю лады пайшлі. Прынёс Бладзік «Класавую барацьбу ў Францыі» ды шчэ штук колькі драбнейшых. Хвядос «Новую зямлю» й тыя, што ў Каранёве ўзядзены. Хлопцы так разважалі: усё роўна, чытальня ці тут, ці ў Каранёве, хоць дзе — абы здаць, абы не прысвоіў казённых кніжак; а калі ўжо стануць так даходзіць, дык мага будзе з свае чытальні й забраць ды даць каранёўцам адчэпнага — карона з галавы не спадзе ад гэтага. Потым

і Пётра сваю, патаемна ад мацеры хаваную, бібліятэку здаў на чужыя рукі. Мікалай — і не камсамолец ён — дый той прынёс дзве штукі: адну пра сельскагаспадарчы падатак леташняга году, а другую пра дзевяты партыйны з'езд.

— Тут цэлы нардом можна завесці, а не то што чытальню,— смяюцца хлопцы, як аднаго вечара знеслі, хто што меў, на агляднае [redacted] Анцішэўскім.

Пажартавалі, пасмяяліся дый толкам давай гаварыць. У чыёй жа хаце чытальню зрабіць — важнае пытанне. Арсей другім патакуе:

— Гэта, браце, нельга абы-дзе пакінуць, абы-каму прыпаручыць. Трэба й нагляд, каб не параскрадалі, й каб запісы былі — каму што дадзена.

Мікалай, дармо што не камсамолец, а можа падчас трапнае слова сказаць. Яго не перапрáвіш, калі што надумаецца рэкнуць. Цяпер параіў хлапцам выбраць Арсея за жыздрыцкага ізбача.

— Каму ж,— кажа,— прыпаручыць, калі не табе. Ты ў нас спец па гэтай часці.

Наруку Арсею Мікалаева слова. Толькі прызнавацца ў гэтым хлапцам не варта. Гатовы падумаць, што сам напрашуецца. Такія думкі ў Арсея. Аднак пробуе адказвацца:

— Так каму прыпаручыць? Мне абавязак дадзен: [redacted] парабкамі работу весці.— У левым кутку Арсеевых губ гэтым часам бегае вясёлая ўсмешка.

— Няма чаго тут крывіцца. Ты будзеш,— прыгаварам хлопцы прыгаварылі, каб Арсей за ізбача астаўся.

— Хай на вашым карку скула сядзе,— прыказкаю згаджаецца ён.

Дайшлося й Корабачу, што ў Жыздрыцы сваю чытальню хлопцы маюць. А хто сказаў? — Арсей. Хадзіў ён аднаго разу ў сельсавет, насіў заяву, каб зрабілі скідку [redacted] падатку за насенны лубін. Адны гоні пакіне ён спяліць. У заяве ж напісаў, што паўдзесяціны засеена. Можа, не пойдуць глядзець, дык так і будзе. А прыйдуць — запішуць колькі ёсць, і ад гэтага няма ўрону. Убачыў Корабача на вуліцы. Той некуды бег. Сустрэліся. Прывітаўся ізбач, механічна папытаўся, куды Арсей ідзе й чаго, ды хацеў зноў у сваю дарогу пусціцца. Тут Арсей, нядоўга прастарэкуючы, давай хваліцца барждж:

— Мы сабе чытальню зрабілі. Вечарамі збіраюцца...

— Ну?

— Праўда.

— Ведаю я цябе, таварыш Анцішэўскі: ты — лгун, хвалько.

— Чала-авек! Прыйдзі калі — паглядзіш.

— Прыйду. Нізаводня пагляджу. А цяпер, братка, няма калі.

Гэтак сказаў і памчаўся, куды яму трэба было.

Арсей пастаяў трохі на тым месцы, дзе сустрэліся. Хацелася ведаць, к каму гэта ізбач спяшаецца. Хатніцкая вуліца з трыма ўзгоркамі. Схаваўся Корабач ад Арсея за самым блізшым. Тады Арсей кінуў за ім сачыць. Завярнуўся й пайшоў у сельсавет памаленьку.

Корабач і нядзелі не дачакаўся, калі хлопцы на сход прыйдуць ды каб у іх толкам распытацца. У чацвер удзень гаварыў з Арсеем у Хатніках, а назаўтра ўвечары сам прыйшоў у Жыздрыцу. Распытаўся, як што было, з чаго пачалося ў іх да самай малай макуліначкі. Пераглядзеў кніжкі. Запісы ўсякія загадаў паказаць.

— Ці не «крымінальнік» ты з міліцыі? Ці не хочаш ты нас арыштаваць? — смяюцца Бладзік з Арсеем. Паказуюць свае ўдоўж і ўпоперак палінееныя сшыткі, дзе пазапісваны, якія ёсць у чытальні кніжкі й хто іх якія браў.

Корабач усё прагледзеў. Дагэтуль толькі распытваўся. Цяпер навучаць пачаў.

— Гэта, хлопцы, добрая ваша думка. Толькі нашто вам зваць яе гэтакім вялікім імем: «хата-чытальня». Як мне здаецца, дык у вас тутака «чырвоны куток». «Чырвоным кутком» ён і астанецца. Я і сам думаў гэтае самае ў вас зрабіць. А вы самі раней за мяне пастараліся, дык і малайцы, хлопцы, за гэта. Хваліць вас трэба. Я ўвяду ваш куток у сетку палітасветных установаў пры нашай чытальні. Вам будуць газеты дарэмна выпісвацца. Грошай на газу дадзім, дроў казённых выпатрабуем на апал. Зробім усё на «яць».

Бладзік у ласкавых словах Корабача пачуў патаемную зняважу, жаданне падабраць пад сябе іх — жыздрыцкую чытальню, каб потым камандаваць што хаця. Не! На гэта то ён не папусціцца. Перад самым Чарвяковым гатоў апраўдацца.

— А скажы ты мне, чаго табе трэба ад нас?

— Нічога мне ад вас не трэба.

— Як нічога? Мы чытальню зарганізавалі. Ты прыйшоў (ні знай ні ведай) ды давай нам нейкія куткі патыкаць. Думаеш, на газу, на казённыя дровы пагонімся? — Не чакай, хацецца не будзе. Да пайшоў ты з сваімі куткамі! Захацелі чытальню зрабіць — ёсць. Што захочам — зробім. Зложымся па саракоўцы ўсе хлопцы, колькі ў Жыздрыцы ёсць, дык і газет купім, і газы. А дровы дарэмныя й самі суладаем выпатрабаваць (балазей напавуміў). У нас не тое, што ў Хатніках. У нас і непартыйныя ў адну дудку з намі йграюць.

— У тваю, мусіць? Гэта відаць...

— У чыю б там ні было. Але ў нас сіла. Захочам, дык і ячэйку з Хатнікаў сюды перацягнем. Не мы к табе, а ты к нам будзеш хадзіць. А шчэ нейкія куткі патыкае,— апрацівела Бладзіку гэта слова «куток» горш горкага дзічкі-яблыка.— Чаму та шчэ праз закануркі забыўся?

Корабач не ануча-старынка, што яго куды хочаш сагнеш, якою хочаш гаворкаю пераканаеш. Яму толькі скажы наперакор добрае слоўца, дык баржджэй за запалку хваціцца полымем злоснага апраўдання.

«Трэба. Трэба-такі Мотуза выкінуць. Толькі ў ячэйцы няма злагады праз яго. Кепска, што дагэтуль ніхто не здагадаўся гэтага зрабіць»,— вунь якія думкі цяпер у Корабача. Хто іх ведае, як яны ладзяць удвух. Корабач на што ўжо патаемны, як не любіць, каб ведалі падрабязкі яго жыцця, а злашча: якім ён дома быў. А Бладзіку сам-насам усё расказаў. Умеў жа хлопец падсябрыцца. Цікава шчэ й тое, што нізаводзін Корабачаў паступак Бладзік не ўпікнуў у вочы, а за вочы й не ўказываўся нават, што ведае нешта пра ізбача, што ў іх была такая гаворка.

— Мы, браце, цябе вучыцца ўсё роўна выправім. Ужо й пастанову гэтакую зрабілі. Толькі трэба будзе пабольш добрых хлапцоў у ячэйку сабраць, каб было тут каго кінуць,— вось як Бладзік па ём спагадаў, як стаў усё ведаць.

Гэты раз Корабач не мог уцерпець. Зардзеўся ў твары, як не капае з яго кроў. Рукі затрэсліся.

«Што за перакорац гэты Мотуз! — Жыздрыцкі шавіністы. Хоць ты яму з гарматы над вухам бі — кажа: пстрычкамі мухі ганяеш».

— Таварыш Мотуз! Ты шкодны элемент у арганізацыі. У цябе даўно білет пара адабраць. Я толькі прыехаў, а многа ўжо чаго пра цябе пачуў. Гэта — раз! Самазахапленне тваё, гордасць — два! Мацюгаешся ты, што аж слухаць вусцішна, а тым болей ад камсамольца чуючы — тры! — давай Корабач вылічваць Бладзікавы грахі. Многа іх знайшлося: цэлых пяць, ды ўсе цяжкія, к выключэнню з камсамола кожны ўходзіць.

— Таварыш Корабач сакратар у нас — шэсць! — невядома, дзеля чаго зрабіў Бладзік працяг ізбачовым вылічэнням.

Той шчэ горш закіпеў. Бладзік памаўчыць-памаўчыць дый асыкнецца, ды ўсё Корабачу напроціў. Спрэчка ў іх далей-болей заходзіць. Другія хлопцы жыздрыцкія маўчаць. На гэта ў кожнага з іх ёсць свая асобая прычына.

Пётра не аказуецца, бо яму ўсё роўна. Не па Пётравай натуры жыздрыцкі гонар перад хатніцкімі. Яму абы было дзе кніжку падхваціць. Ад каго — усё роўна.

Арсей бы ў Пётраву руку пацягнуў, але нельга. У іх хаце чытальня. Так сваю трэба будзе газу паліць, а то казённая будзе давацца. Свежую газету, выпісаную за чужыя грошы, ды калі сам паштар у хату занясе — і ад гэтага Арсей не адказен. Не так ён сам лас на ўсе гэтыя выгады, як мусіць не супярэчыць строні бацькі. Тады не будзе Цыпрук яго ўпікаць, што дарма газа гарыць — казённая. Дроў дарэмна з сельсавета як дадуць, тады скажа:

— А што, бацька, не дарам патом табе штовечары галаву дураць. Дроў за гэта далі. А ты ўсё мармочыш.

Вось што Арсею замінае, каб быць Бладзіку ў помачы. Каб не гэта, не гнаўся б ён ні на дровы, ні на газу.

Хвядоса пры том у Анцішэўскіх не было. Хто яго ведае, у чыю б ён руку быў.

Сварыліся яны, сварыліся... Раптам Бладзік адмяніўся ва ўсём. Добра яго Корабач даняў. Калі закрычыць:

— Не хачу! Не хачу з такою заразаю быць! Выпісуюся,— з гэтым словам і кінуўся бягом к дзвярам.

— Даўно пара! — удагон пашпарыў Корабач слова пераможцы.

Мусіў Арсей выходзіць за Бладзікам дзверы зачыняць адны й другія: абое насцеж пакінуў. Як маланка, да дому папёр.

У сваю хату ўскочыў засопшыся. Перапалохаў усіх, хто там быў. Пра сваю трывогу ні аднаго слова нікому не сказаў, пагрозы не вымавіў. Прама ад парога кінуўся к цвіку, на каторым ключы Мотузы вешаюць. Зняў той, што ад свірна. Карабок запалак з комінкі схапіў сабе ў руку. Дома крыху пацішэў. Дзвярэй за ім не трэ было зачыняць.

Зірнуў стары Мотуз на большага сына. Большы сын на бацьку зірнуў. Адзін аднаго, слова не прылажыўшы, зразумелі. Хаця б вісус якой бяды не нарабіў! Нашто яму запалкі? Страх... Абодва знайшлі свае шапкі. Пайшлі назір за Бладзікам.

— Татка, а што рабіць, калі падпаліць?

— Вязаць ды ў канцыляру завезці.

Так надумаліся з Бладзікам зрабіць, каб яго на што дурное павяло.

Тым часам Бладзік быў у свірне. Вобмацкам знайшоў кубел з адзежаю. На памяць выцягнуў адтуль свае святочныя штаны. Памацаў у кішэнях. Выняў з аднае маленечкую кніжачку. Тры запалкі зглуміў — усё не браліся агнём. Чацвертая ад борздага паспеху напал пераляцела. Пятую запаліў. Пасвяціў. Прачытаў.

— Сяброўскі білет.

Растаптаў агонь з запалкі нагою. Бягом з сваею знаходкаю пусціўся йзноў на сяло. Хацеў заўняцца на пярэкляці, замкнуць свіран. Цяпер толькі ўбачыў, што бацька з братам яго цікуюць.

«Яны замкнуць»,— сабе думае.

— Замкнеце! — гукнуў, каб быць пэўным.

Пусціўся на вёску.

Вечары сталі цяпер доўгія. Людзі агні не ўслед па вячэры гасяць. Каторыя што робяць, а каторыя йдуць на сяло гуляць або дома з чужымі людзьмі гамоняць. Ігналя не такі чалавек, каб буднага дня па сяле цягацца ці спаць ад заходу да ўсходу сонца. І к Чвардоўскім гуляшчыя людзі не йдуць у будныя вечары — ведаюць Ігналяву натуру. Што ты з ім будзеш сядзець, калі ён у работу ўлягае, а не ў непатрэбную гаворку. Адзін вечар пасядзіш у іх дрэмлючы, другі, а на трэці, каб і прасілі, не пойдзеш.

Задумаў сабе Ігналя лёгкія развалачкі к Калядам

зрабіць. Удзень уцягнулі вярстат у хату. Увечара пасылае бацька Хвядоса к Юзіку сходзіць гэблік-шаршублік сыскаць. Ужо другі тыдзень, як ён пазычыў і дагэтуль не аднёс.

Хвядос борзда апрануў свой кароценькі кажушок і выйшаў з хаты. На дварэ відно, хораша.

Якраз собіла яму ўбачыць Бладзіка на вуліцы, як той бег з дому з Анцішэўскім.

Бяжыць Бладзік, рукамі навотліў махае. Хвядос думаў, што яго кліча. Бягом пусціўся ўслед. Ледзьві дагнаў. Пытае:

— Што?

— Зараза!.. яго маць!

— Хто?

— Там, у Анцішэўскіх.

Хвядоса цікнула. Захацелася ведаць, што там, у Анцішэўскіх. Улёг і ён за Бладзікам.

Прылятаюць у хату ўдвух.

— Забірай к чорту! — шчэ з-за парога крычыць Бладзік,— з'еш яго. А я не хачу з заразаю быць. Або — ты, або — я!

Корабач узяў білет з усмешкаю. Усё роўна, што ён намерыўся казаць: «Будзеш каяцца»,— і толькі ўправіўся выгаварыць першы склад першага слова дый змоўк. Білет у кішэню забраў.

Тут нарваўся Арсей. Папрасіў у Корабача:

— Пакаж паглядзець, з каторага ён году камсамолец.

Той, нічога не цямячы, дае білет у Арсеневы рукі.

Арсей і стажу не ўзяўся глядзець. Прама ў кішэню сабе й палажыў.

— Чаму ты забраў білет?

— Хай паляжыць да часу.

Што ў Корабача наўме, тым Арсей Бладзіку ўпікае.

— Дрэнна ты зрабіў. Будзеш каяцца.

— Чорт яго бяры! Буду каяцца ці не, а з заразаю быць не буду.

Корабач рыміць са злосці, але маўчыць... Каб слова сказаў пасля гэтага. Бладзікава вяршэнства. Яго цяпер воля. Мацёгаецца, як толькі здумае. З такім мастацтвам, што несвядомы галодны чырвонаармеец дзевятнаццатага году (майстар, можна сказаць, па гэтай часці) дый той бы Бладзіку пазайздросціць гатоў.

У Бладзіка вось які рахунак: калі мацёгацца загана, дык паглядзі хаця, як я ўмею, хай табе шчэ лепш каты сэрца дзяруць капцюрамі.

— Н-ну-у! — скрыгае Бладзік зубамі, скончыўшы літанію, адышоўшыся ў парог вады зачэрпаць.

Разоў пяць парываўся Цыпрук вылезці з свайго запечка, паказаць, што й ён нешта дома значыць. Выштырыць Бладзіка за дзверы, каб не брахаў у свянцонай хаце.

— Што гэта тут вам? — пытаўся з-за посцелак.

— Вон! Пайшлі, сабакі, вон! — гукаў адтуль.

Толькі чуць хлопцы не чулі. Свайго ўтрапення даволі было. Што з таго, што нехта недзе ў загародцы скрыпіць, голас ледзьве адцягне?

Не хоча Корабач па зубах зарабіць — маўчыць сціхатою. Боем браць свайго вяршэнства не думае. Лепш ён гэта зробіць дакладам, пратаколамі. Тым часам злосць без лаянкі траціць сваё полымя і чуць-чуць тлее, а пад рэшту й саўсім гасне. Толькі ўпартасць астаецца.

Гэта самае і ў Бладзіка. Ён сябе за пакрыўджанага мае. Маўчыць на самым канцы лавы, сеўшы пад акном ад вуліцы. У парог на лыжачнік загледзеўся: вокам не маргне. Потым думаецца яму, як бы гэта пацешна было, каб адышоўся ды сам на сябе паглядзеў збоку, як пакрыўджанага гарапашніка прыстаўляеш. Смешна!

Зарагатаў моцазна. Траха хлопцы не папалохаліся. Глядзяць здзіўленыя на Бладзіка.

Нічога такоўскага на том. Вясёлы стаў. Падыходзіць бліжэй у гурт.

Арсей Хвядосу ўсё, як тут было з самага пачатку, расказаў. Тады сваю мову да ўсіх абарачае, памацніўшы голас. Гаворыць лагодна, спакойна з неабвяржымаю пераканальнасцю ў абліччы й голасе. На яго глядзя, здаецца, і рад нават, што першаму давялося пазнаёміць сваё таварыства з цікаваю навінаю.

— Пра ячэйку таварыш Мотуз, па-мойму, добра сказаў. Дарма ты, таварыш Корабач, закіпеў без пары. Трэба перабавіць як-небудзь к нам. У нас, браце ты мой, камсамольцаў чатыры чалавекі, ды шчэ двух падало заявы. Каб сюды перавесці ячэйку, дык увесь маладзеж быў бы ў ячэйцы. У Хатніках — такая-то вёска! гэтая дэўж! — усяго пяцёх камсамольцаў з табою разам. Было перша больш, але куды ж яны варты,

мы ж павыкідалі іх, добра разгледзеўшыся. А што з другіх вёсак ходзяць хлопцы, дык ім у Жыздрыцу шчэ бліжэй будзе, як у Хатнікі.

Корабач, пасля гэтага, шторaз назад-назад. Прапаў задзёр. У многім з Арсеем згаджаецца. Пра Бладзіка маўчыць. Не кажа, што з ячэйкі трэба выпісаць, і зноў прыняць не дакляруе.

Таго вечара й пайшлі дамоў, а Бладзік [redacted] Корабачам не гаварылі ўсё. Корабач не даходзіў у Арсея, каб аддаў яму Бладзікаў білет, а той сам не зрабіў гэткага глупства.

Потым цераз Анцішэўчыка Корабач паведаміў Бладзіку, каб хадзіў на бюро, быў камсамолец як трэба, й каб больш не дзяцініўся, як той раз. Так ўсё і ўладзілася.

З месяц пачакаўшы, Арсею далі зрабіць на сходзе ячэйкі даклад «Аб працы хатніцкага чырвонага кутка». Пастанову зрабілі, што добрая праца. Бладзіку прыпаручылі сабраць падпіску на газеты, хто хоча выпісаць, [redacted] хто ніколі не выпісваў — угаварыць. Корабач сказаў, што «Беларуская вёска» шчэ й прэміі сваім збіральнікам дае. На гэта Бладзік і ўзяў увагу. Прайшоў з Хвядосам Жыздрыцу па хатах [redacted] канца ў канец. Расхваліў «Беларускую вёску», як толькі ўмеў, і дадумацца сумодаў: танная, вясковая, усе законы ў ёй знойдзеш. Узяў па залатоўцы з васьмёх гаспадароў на пробу. У другія вёскі пайсці паленаваўся. І прэміі не захацеў.

Анцішэўскіх хата так і асталася звацца: у Хатніках — куток, а ў Жыздрыцы — чытальня. Далася ў знакі яна й мужчынам. Каторыя нядаўна пажаніліся час-часом заходзяць к Арсею, каб даў чаго пачытаць. Вуліцу прайшоўшы, можна было такую гаворку пачуць:

— Куды ты з «ксёнжкамі»? Ці не да касцёла? — жартуюць, бывае.

— У чытальні браў. Аднесці трэба.

— Куды ты панясеш? Каб ты згарэў! Дома папера згадзілася б што ўвярцець.

— Дзе ты бачыў! Запісуе, як бярэш. А паперы, табе сказаўшы, стае скварку, у дарогу збіраючыся, увярцець. У панядзелак дзве, а ў пятніцу адну «Беларускую вёску» паштар заносіць. Прыйдзе пад акно. У шыбу пальцам пастукае — выходзь забіраць. Я колькі раз

казаў, каб у хату заходзіў,— лянуецца, пад акно барж-джэй.

Не толькі ўвечары, але ў свята і ў прысвяткі ўдзень унадзіліся хадзіць хлопцы к Анцішэўскім, нават і не таварышы Арсеявы, а многа меншыя за яго пабраталіся з жыздрыцкім ізбачом. Ну й штукі выкусуюць, як сталейшых няма з імі.

Быў аднаго разу нейкі прысвятак. Арсей схадзіў к дзеўкам на сяло. Пад вечар вярнуўся. Ганькі ж яшчэ не было дома. Хочацца яму падвячоркаваць сесці. Няма каму яды ўліць. Перш хацеў чакаць сястры. Потым адумаўся. Адчыніў засланку. Выняў маленькі гаршчок. Паглядзеў, што ў ім — мачанне. Больш Арсею й не трэба нічога. За гаршчэчак ды на стол. Узяў блін. Сеў і мачае.

Зараз трох хлапцоў прыйшло.

Арсей борзда пад'еў. Устаў з-за стала. Хацеў гаршчэчак у печ уставіць, ды нечага загледзеўся ў вакно. Памаленечку «дык хай чырвоная» высвістуе.

— Перахрысціся,— падказалі яму хлопцы.

Арсей падняў вочы на абразікі. Дзеля старога вісіць іх восем штук, ад кута к аднаму акну й к другому па ліштве займаюць. Даўно ён іх збіраўся ў камору вынесці. Хай бы там ляжалі сціхатою. З дзевятым абразікам дык і праўда што паступіў рашуча. Пасля навальніцы сышлі былі ўсе з хаты. Нават і Цыпрук з арэшынаю пасунуўся глядзець, ці не нарабіла псотаў якіх у стрэхах, ці не зламала чаго. Хваціў Арсей апалонік, як забег адзін у хату, дый мэцнуў па шкле. Дзве пабітыя гэтага дня шыбы ў вокнах настрэнчылі яго на думку зрабіць хоць адзін абразік калекам і злажыць адказ на навальніцу. Так і выйшла. Потым Ганька вынесла яго ў камору.

— Хай не курае папера ў хаце. Можа, калі й нашклім.

Каля другіх абразікаў узяцца гэтакім спосабам знайшоў, што будзе не практычна: усё роўна ўсіх зараз не вынесеш — трэба дзеля старога пакінуць будзе хаця са два, а ў другае — шкло й згадзіцца можа. Каб ведаў, што Цыпрук не дацікуе, дык і цяпер нашкліў бы гэныя, у навальніцу пабітыя, шыбы. Шкляры нешта ў Жыздрыцы ездзіць забыліся. Трэба ўсё самому рабіць.

Па-свойму б узяўся гаспадарыць Арсей, ды звягі старога не хочацца слухаць яму.

Глядзіць Арсей на абразік. Езус з абразіка вытрашчыў вочы на яго. Багамаз, як сумыслу, злоснага вымаляваў бога. Нос у таго доўгі, чатырохкантовы. Вочы намружаныя, пазіраюць поверх усяго, што ёсць перад імі. Адна рука пальцамі пастрах дае. Другая кнігу трымае расхінёную. «Прыідзіце ка мне ўсе страждушчыя й абрамянённыя й аз успокою вас»,— напісана на таей кнізе па-славянску.

— Фі-ў-у-у!..— свіснуў Езусу Арсей. Галавою сцяляпнуў, як бы чарку да яго абяцаючы.

— Што ён, недавярак, на цябе пальцам трасе? Дай яму, Арсей, хвігу. Чаго яму трэба ад цябе?

— Фі-ў-у-у!..

Збоку гледзячы, выходзіць, як бы знарок Езус вачэй не спушчае: такі задзіра смелы.

— Пачакай жа,— кажа Арсей ад раптоўнай думкі. Адкалупіў [redacted] булкі нажом крышку мякішу. Выкамячыў файнацкі нос, таўсты. Нос на нос пачапіў Езусу. На акне падхапіў стары нумар «Беларускай вёскі». Выкраіў вялізныя, рызыкоўныя акуляры. Ашчарэпіў імі хлебны нос.

Цяпер плаксівы й сярдзіты зрабіўся бог на абразіку: мусіць, зазлаваў. Каб не на куце вісеў, дык можна б было падумаць, што не абразік гэта, а партрэт даўнейшага ўрадніка. Не «ўспакоіць вы» збіраецца, а здумае — не дадумаецца, як бы мудрэй пакараць. Здаецца, й пальцы, каторымі хрысціў дагэтуль, цяпер у хвігу згортуюцца. Хоць гэтак ды злосць сваю спагоніць, калі слаб на сілу.

— Ага! Цяпер я ведаю, чаго ты крывішся,— адламаў бліна, памачыў у мачанне.— Ты хоць і святым духам жывеш, але вымярхаўся, патом. Разаніна жывата ў цябе ад галаду. На! аблізуў,— ды калі мэцне блінам яму па зубах.

Што ўжо хлопцы папараготвалі з гэтай камедыі! Траха жыватоў не пападрывалі. Цыпрук не бачыў, праспаў усё цудэнне, на печ узлезшы.

Потым хлопцы аб нечым другім загаварыліся. Зараз стала цямнець. Разышліся дамоў. Так і астаўся Езус з акулярамі, з наклееным носам, з мачаннем на губах. Нінапамкі Арсею гэта.

Згледзела Ганька, за агнём вячэру наліваючы, што непарадкі на абразіку.

— Што гэта шчэ за навіна?

Узяла з коміна чысцейшую анучу. Сцерла абразік, і знаку не асталося.

— Дзе гэта відана, каб абразікі на год усяго два разы абціраць — к Калядам і к Вялікадню. Тут не толькі што павукі павуцінне аплятуць, але й немаведама што можа завесціся,— так бэсціць свае дзеці стары Цыпрук.

## XIV

Доўгая вячэра ў Чвардоўскіх. Не прычакаць канца. Пакуль усе ў хату збяруцца. Маці пакуль з печы гаршкі падастае. Пакуль пазаве за стол.

Бывае, што Хвядос не дачакаецца просьбы. Выме сабе лыжку з століка, залезе за стол, на сваём месцы на куце сядзе. Маці ўбачыць яго — пасварыцца:

— Чаму ж ты й другім лыжак не даставаў, а толькі сабе. Усё роўна ж было за адным заходам.

Хвядос вылезе з-за стала. Выцягне шупляду. Кожнаму проці яго месца лыжку паложыць. А сам ізноў лезе на кут.

Сядзе на столках лаў. Сядзіць. Глядзіць. Усё маці, убачыўшы, што не церпіцца хлопцу, барздзжэй маладой капусты міску наліе, з параю на стол паставіць. Бацька лепш за ўсіх знаецца на смаку. Першую лыжку зачэрпае — пакаштуе. Калі недасаль, загадае Хвядосу:

— Падай салянку.

Яна спрадвеку ў Чвардоўскіх стаіць на куце ў Хвядоса пры боку.

Хвядосу некалі прыслухоўвацца смаку. Падасць бацьку салянку, а сам недасаль хваціць лыжак колькі. Бацьку, як той соллю пацярушыць, паможа памяшаць. Не раз Ігналя лаяў яго за гэтакую моду.

— Звык плюхацца, як качка пад мостам.

Кіслага Хвядосу не многа трэба. Не вельмі палюблюе ён яго. Сербане разоў колькі дый лыжку паложыць.

— Мамка, куццю зараз дасцё?

— Пачакай ты крыху. Трэба ж міску з капустаю спаражніць.

Нічога не зробіш. Трэба чакаць. Хто ж яго накуп-

ляецца місак, каб зараз па дзве стравы ставіць на стол. Усяго міска й чарошка й ёсць на гаспадарцы. І то чарошка — куды яна варта! — цякучая, шчарбатая, ледзьві ў кучы трымаецца. Хоцькі не хоцькі, а трэба чакаць. Ізноў Хвядос бярэ лыжку. Нехаця памагае барждж́эй дно ўбачыць.

От куццю дык ён лепш густуе. Цяпер жвавей сюды-туды ходзіць лыжка ў яго руках, каб барждж́эй «го-дзе» сказаць.

Трэ было б вылезці з застолля, а тут замінка: бацька з краю на лаве сядзіць, а Хвядос за ім на куце. Не хочацца старога турбаваць. Ведае, што, каб сказаў, пусціў бы Ігналя. Але лепш круга стала праціснуцца. Там з другога боку Ксеніна месца. З ёю смялейшы Хвядос, кажа:

— Пусці.

Сястра жартамі:

— Што за гэта? За кума не возьмуць. Не можна з-за стала вылазіць не з таго боку, ■ каторага сеў.

Даўней думалі, што гэта й праўда, цяпер — жарты. Хвядосу не церпіцца. І да жартаў ахвоты няма.

— І чорт іх бяры, калі не возьмуць. Пусці!

Нічога з ім не зробіш. Ксеня слухае-такі братняга павялення. Устае ■ месца. Вылазіць з застолля. Лыжкі нават забылася палажыць. Як трымала ў руцэ, так і панесла з сабою.

У Чвардоўскіх во гэтак цяпер маль не штовечара.

Павячэрае Хвядос дый дропне на сяло. Толькі курт-таты свой зашмальцованы кажушок апране ў рукавы. Зашпіляецца на хаду, у сенцах дзверы зачыніўшы.

Восень раздажджылася. Няма таго дня, каб імга не йшла. Хоць дробная, але спорная. Па жыздрыцкай вуліцы льга з чоўнам плысці. Гразь. Балота. Урэдкую кладкі ляжаць: дзе жэрдка, дзе таўставаты аполак. Проці некаторых хат дык і патанулі яны. Нагою трэба мацаць, дзе ступіць. На самай сярэдзіне калдабаны па-выбіваны. З калясьмі хто едзе — калодкі хаваюцца.

Чужому чалавеку тут кепска хадзіць, а хаджаламу не вялікі клопат. Кладка — дык па кладцы ідзе. Няма кладкі, а калі шчакетамі каля сцежкі загароджана,— бярэцца за вярхі шчакецін, сам па йсподняй жэрдцы йдзе. Хоць марудна, але ж за тое добра, суха. Вось там бяда, дзе частаколам ад вуліцы ўгароджана й кладкі ніякай людзям пад ногі не падкінена.

— Каб цябе ў дамавіну палажылі, як ты нічога не паложыш,— бывае, клянуць старыя людзі (а яны ўмеюць клясці) такіх гаспадароў за нядогляд.

Рупасць таго гаспадара возьме. Пойдзе паходзіць каля будынку, паглядзіць па падстрэшшу. Знайдзе-такі, калі захоча, нявартую якую паляняку, што ніякога матэр'ялу з яе не будзе, толькі дровы. Занясе й кіне на сцежцы, каб людзі не звягалі. Толькі цяпер у Жыздрыцы даўнейшае паганяюць лічаныя гаспадары: частакол зводзіцца.

Хвядос сваю дарогу добра ведае, дзе глыбей, дзе мялчэй. Вышай як па костачкі ніколі не ўлезе ў гразь. Удзень не так хадзіць злаўчыўся — от увечара! Ці поўна, ці перад маладзіком — яму ўсё адно.

Толькі кепска, што гады ў рады ў Анцішэўскіх бываюць такія вечары, што ніхто к ім не прыйдзе. Золата такія вечары! Хвядос то вядома што там. Без яго не абыдзецца. І чамусьці яму падабаюцца такія часіны. Тады адзін ён ува ўсіх навідавоку.

Добра пакапаўшыся ў сваёй даўгавечнай памяці, старыя жыздрыцкія кабеты могуць сякое-такое сваяўство знайсці ў Чвардоўскіх з Анцішэўскімі. Дзесятая вада на кісялі, як кажуць, іх гэта сваяўства. Шчэ як жыў быў дзед Чвардоўскі (Ігналеў бацька), дык і ў госці хадзілі адны к адным. Гэта ж дзедава цётка ды была замужам за Цыпруковым бацькам, але Цыпрук не яе сын, а ад другой бацькавай жонкі (ад першай племя змерла).

Спярша добра ў іх ішлося. Ды аднаго разу ў некага на бяседзе павяло на бяду. Дзеда Чвардоўскага, бы тое ліха ведаючы, пасадзілі напроці Цыпрука цераз стол. Трохі пасядзеўшы, госці развесяліліся. Перш злагодна гаманілі. Ды далей-болей... Саўсім за глупства зрэпіўся дзед з Цыпруком перш спірацца, давай штораз мацней гаманіць, а пад рэшту й да сваркі дайшло — троха ў чубкі цераз стол не спляліся на людскі смех.

І каб хто папытаў: за што? Саўсім за глупства. Ані ж не было патрэбы ў такі сур'ёз уходзіць. Гэта ж ніяк не дайшлі, ці Хвалісёнкаў большы сын на пошту астаўся ды борзда за начальніка выйшаў, ці то ў ахвіцэрах да камандзіра даслужыўся. Што там за інтарэс чужому чалавеку да Хвалісёнкавых сыноў. Дзіва тут няма, ці яго сыны начальнікамі, ці камандзірамі. На

тое ён пакупшчык. Яшчэ перад вайною меў свае тры валокі зямлі, два параконныя плугі з колцамі, сваю жняярку і трымаў двух парабкоў, дзеўку й пастушка.

І дзед і Цыпрук былі тады п'яныя, што тузы. Роўны гонар у іх абодвух і задзёр гэтаксама: на адну галінку павесь іх, дык ніводзін не перацягне. Чорт на д'ябла нарваўся, як кажуць.

Цыпрук прыстаўляецца — што то я! Братчык жа ён у Хатніцкай капліцы. Каму, як каму, а самому Цыпруку й вунь які высокі свой чын здаваўся.

Дзед гэтаксама. Тады шчэ сыноў не дзяліў. Былі ўсе ў аднэй хаце: сам ды іх двух здараўцоў. Усе не з гаспадаркі цягнуць, а ў гаспадарку валакуць хто што дзе зарваў. Мелі ў бацькі ў пакладжы паўтары сотні грашымі, дый зямля [illegible] таму была ўся, так як з надзелу прыйшлася,— цэлая паўвалока. Дзедава кабыла — дэрашка, у Міры купленая, была тады над усю акалічнасць. К плоту не падвёўшы, ні за што конна не сядзеш. Ніхто лепшай не меў. Шчэ к таму стаяў у хляве над яслямі сівы, гладкі ў рублі жарабец ад дэрашкі. Так што над сваімі вясковымі чвартковымі, трацінні-камі ды чацвярціннікамі й ён — багатыр. А к таму й на сілу пачуваўся, каб што якое.

Добра-такі, што ўсюды здагадлівыя людзі ёсць. Даўно прапаў бы свет, каб не яны. Без іх парэзаліся б, пакалоліся [illegible] злосныя, задзірлівыя людзі. Дык вось гэтыя самыя «здагадлівыя» й развялі дзеда [illegible] Цыпруком па сабе, каб не бачылі яны адзін аднаго. Вывелі з-за стала ды давай па добрасці нагавараваць. Гэтакія то яны (дзед асобна і Цыпрук асобна) добрыя людзі. Ого! А суседзі як іх паважаюць. А баяцца ж як (самае першае — баяцца). Дык ці ж варт за ўсякім жукам паўзці немаведама куды?

Ледзьве-не-ледзьве ўтаймавалі. Аж утаміліся здагадлівыя людзі, добрыя ўчынкі іх прыпамінаючы.

Тады за сталом, п'яных галоў не баючыся, упраўныя іх языкі набрахалі чортведама чаго. Ведама, самы сябе не помнячы, адпіўшы дарэшты розум, які быў. Былі яны ад таго здарэння добрыя дружакі. Многае, што рабілася ці гаварылася,— сакрэт. А цяпер (няма дуру) пра ўсякія сакрэты забыліся. Многа чаго такоўскага ўнеслі ў чужыя вушы, што толькі ім двум і ведаць трэ было ды маўчаць сціхатою. Нават сам-

насам няварта было таго ўспамінаць, каб не знаць сораму.

Працверазіўшыся, абодва апомніліся. Апомніліся й самі сябе саромецца давай. Кожан сваю віну пачуў. Але раздумаліся й крыўдаваць сталі: дзед на Цыпрука, Цыпрук на дзеда.

— *Я-то — я! Але ж ты чаму?..*

Тры гады ўсяго давялося дзеду пажыць, пасля тае прыгоды. Апошні год, можна сказаць, не жыў, а мучыўся. З вясны як падпала трасца, дык трэсла, курчыла, ратунку прасіць прымушала. Так усё лета — дзень ходзіць, а тры ці [redacted] больш ляжыць, зуб зуба кліча... Ну й памэнчыўся чалавек! А ўвосень, так перад Пакровамі, й даўся.

Аж пакуль свечкі не сталі даваць, накшага слова строні Цыпрука дзед не прамовіў, як «халерая насатая». Праўду сказаўшы, дык Цыпрукоў нос гэтакі самы, як і ва ўсіх людзей: і не шырок, не довяг, і не тоўст ля пераносіцы. Чаму так дзеду собіла прадражніць Цыпрука — толькі ў яго аднаго й дапытацца ільга было, ды ніхто не здаўмеўся гэтага зрабіць.

Ужо сталі дзедавы вочы ў лоб ісці. Война перасціх. Так быў халодны, а цяпер саўсім зрабіўся як лёд. Ігналіха першая гэта згледзела, і хоць не родная дачка — нявестка, але з галасамі кінулася за градку свечкі шукаць. А старому крыху палепшала не надоўга. Быў нават памкнуўся, каб устаць, сесці. Ды дзе там — з месца не крануўся, толькі закрактаў мацней. Тут усе падбеглі к дзеду.

— Можа, вас пасадзіць.

Рукою толькі махнуў — не трэба. Памаленьку прагаварыў:

— Паклічце Ігналю.

Паклікалі.

Дзед паглядзеў на сына. Навярцеліся слёзы на ўпалых вачах. Яшчэ ўспомніў і другога, аддзеленага сына.

— Паклічце,— кажа,— і Базыля.

Праўда, ускорасці прыйшоў і Базыль.

— Што вам, татка, цяжка? — пытаецца, нізка над дзедам нахінуўшыся, каб пазнаў, хто гаворыць.

— Што ж вы гэта надумалі ляжаць? Папраўляйцеся.

Махнуў дзед рукою — ат, усё адно дзяўбуць — папраўляйцеся. Сам бы рад быў гэта зрабіць, але ж абня-

дужаў саўсім. Скрывіўся, як плачучы. Глынуў колькі кропель горкіх, цяжка выціснутых слёз. Памаўчаў. Потым дух адцягнуў ды давай навучаць, як на свеце жыць без яго: каб не біліся, не сварыліся, каб злагадна, добра жылі і адзін на аднаго чужых людзей не падводзілі; дзе што сеяць, картоплю садзіць, дзе папар пушчаць абодвум год на пяць наперад вымеркаваў.

Дзед наказуе, а хто слухае — ад плачу не судзержацца. У каго слёзы па бабовым каліву з вачэй коцяцца, у каго драбней, а ў каго толькі вочы мокрыя парабіліся: усякія людзі ёсць. Ігналіха дык цераз лад жаласлівая кабета. Яна не то што па сваім сем'яніне, але й па чужом мерцвіцу не ўтрымаецца, каб не наплакацца да таго, што ўвесь дзень будзе галава балець. Яна, каб хворага не ўразіць, апошніх часін яго не пасаліць, уцякла хліпаць у куток.

Паглядзеў дзед мужчынам у вочы. У самога нос востры, вочы — лёд.

— Гэ-эк! — а,— захлынуўся ад сухога плачу.

Раптам нешта ўспомніў. А быў траха не забыўся.

— Скажэце ж таей халеры насатай...— і не скончыў, што сказаць «халеры насатай». Борздзенька паспяшыўся залапатаць:

— Даруй божа цяжкі грэх!

Апошні раз пайшлі ў лоб вочы. Моцазна дыхнуў разы два, й гатоў чалавек. Зямля ўжо, а не ганарысты Чвардоўскі дзед.

Хто дзе быў — усе к ложку тады кінуліся. Скрывіўся Ігналеў твар. Здавалася, збоку гледзячы, што Ігналя толькі што памкнуўся пакаштаваць нейкую дзічку, а ўжо аскома на зубах стала.

— Бяжы,— кажа ён на малога Хвядоса,— скажы Юзічысе.

Тая, толькі ўгледзела ўмурзанага, заплаканага Хвядоса:

— Памёр? — пытаецца.

— Памёр.

У чом стаяла, так бягом і пабегла па загароддзі. Забылася нават каравага хвартуха, што гаршкі браць, дома пакінуць. А прыбегшы, усіх разапхнула. Сама дзеду к грудзям прыпала. Галосіць і прыказуе:

А мой бацечка,
А мой татачка!
Ты ж у мяне быў

За ўсіх лепшанькі...
Ты ж у мяне быў...
Мой ты татачка!

От ад тых дат і не ў злосці Чвардоўскія з Анцішэўскімі. Што Ігналю? Ён ні з кім ні біўся, ні сварыўся. На Цыпрука й за бацькам ані ніякага закальцу не меў, гаварыў з ім, нават калі трэ было. А па бацькавай смерці й пагатоў на ўсякую злосць забыўся — хадзіць к Анцішэўскім стаў. Толькі ўсяго што ўжо сваяўства забыліся й адны і другія. А так у злагадзе жылі.

Гэту восень надта ж стаў Хвядос учашчаць к Анцішэўскім. Паладзіў з ім іх стары дый хваліць яго за гэта.

— З яго чалавек будзе, вы таго не думайце! Пагаварыць ільга. Не то што свістун каторы.

А ўсё гэта затым, што Хвядос яму па шэрсці слова сказаць кожан раз дабірае. Што б стары не сказаў, усё Хвядос падцвердзіць, што добра. Другі раз бывае так уладзіцца, што й яго старэчую думку наперад падкажа. І нічым лепш Цыпруку не ўгодзіш, як гэтым. Старым такія людзі — угаднікі й падабаюцца. За гэту спрытнасць яны й хваляць іх.

Цыпрук Хвядоса па голасе пазнае. Абы толькі сказаў «дабрывечар», дык ужо й ведае, хто прыйшоў. Кліча:

— Хадзі сюды!

Хоць імя й не сказана, але каму йсці — вядома. Хвядосу — няўжо ж каму! А ён і слухае. Расхінае павілёны, у цёмны трапляе куток.

— Што вы скажаце?

— Ты гэта чуў?

Чаго сам за дзень наслухаўся, увечара ўсё Хвядосу раскажа. Той слухае, нібы й цікавае што. Возьме дый папытаецца якой падрабязнасці, чаго, на добры лад, і пытацца не трэ было, сам і не думаючы здагадаўся б.

Ці то байку, ці то праўдзівае здарэнне, як на засценку аднаго пакупшчыка ■ самагонкаю злавілі, дык аж праз два вечары плёў, як немаведама якую навіну. Дый на трэці вечар пачынаў тое самае. Ужо памяці няма таей у Цыпрука, што некалі была. Гэта й сам ён часта праводзіць — не да хвальбы цяпер у яго век. Аж мусіў за трэйцім разам Хвядос успамянуць, што:

— Вы ж пра гэтага пакупшчыка ўжо ўчора гаварылі.

— От бачыш! А я й забыўся... Ногі вот паболююць усё. І галава не на меры: увушшу то маленечкі званочак звініць, то конікі сакочуць. Надта ўночы... Вялікая яна. Раніцы не дачакаешся.

Ды вось як там было на засценку:

Прыходзіць гэта міліцыянер к гаспадару. Як мае быць — з партфелем, з панятымі. Гэтаксама й члена з сабою прывёў.

— У вас,— кажа,— самагонка ёсць. Вы гналі ў той чацвер.

Ці міліцыянер надаўгад біў, ці напэўнае ведаў, але ўгадаць угадаў. А гаспадар патом і ні блізка, не прызнаецца. Смел — бо на добры спрат ёсць надзея.

— Трасеце,— кажа,— калі хочаце.

— А як жа? — пашукаем.

— Ну й шукай,— ужо аж злосен гаспадар.

Міліцыянер у хаце й не глядзіць па заканурках. Адразачку йдзе ў сенцы й людзей заве з сабою. З сянец адчыняе дзверы ў камору.

— Раз, два, тры...— адлічыў ад парога пяць падложын. Кажа на панятога:

— Падымай шостую. Калі тут няма, дык і нідзе няма.

Паняты марудзіць. Яму не хочацца свайму суседу напрыкрацца. Міліцыянера аж злосць узяла, што так ні сця-любя шукаецца забароненая штука. Сам падскочыў дый узадраў падложыну. Ажно там яма ў калена высокаму чалавеку.

Адмяніўся гаспадар, ускочыўшы ў бяду. Сціх. Стаў збоку ды толькі безуважна паглядае, што з таго болей будзе. А жонка ў голас, у плач. Давай прасіцца. Давай енчыць. Як на колінкі кабета не становіцца.

— Хаця ж не вылівайце! Пішэце, што ваша ласка будзе, а не вылівайце. Штрафам накладайце, колькі самі ўздумаеце, а яе нам пакіньце. Чорт жа яе той «рускагоркай» дакупіцца. А цяпер жа такія людзі пражорныя. Кварты ім мала на дзень на аднаго чалавека — сама менш, па гарцу трэба. Хаця ж не вылівайце! Хаця ж кабеціна і разбедавалася.

Гэта ж ў іх дачкі вяселле мелася быць, дык кабеціна і разбедавалася.

Гэты раз Цыпрук яшчэ раз пераканаўся, што добра-

такі жыць на засценку. Там саўсім накшыя людзі, як у вёсцы. Панятыя і ў таго гаспадара толькі дзеля прыклепу стаяць у парозе. Нідзе свайго носа надта не ўтыкаюць. Кабета просіць, як у рукі не цалуе, а міліцыянер і не блізка, слухаць не хоча, а не то каб што. Ён свайго глядзіць, на што пастаўлен: выбраў пляшкі ў крысо дый усе чысценька й пабіў аб вугал. А што дзве дужаватыя бочачкі ды гарцовы буталь бачыў, дык і віду не ўдаў.

— Ведама, у добрых людзей,— навучаючы, кажа Цыпрук.— А ў нас хай якая бяда станецца, дык ад чужой плоймы не абараніцца. Паўнюсенька хата нойдзе, дзвярэй за імі не зачыніш. І чаго? Каб хто папытаў. От тут бы й не ўчыніў ласкі добры чалавек. Пабаяўся б, каб і самому не ўляцець.

— Але й чорт яго бяры,— аж злосен Цыпрук на таго самагоншчыка.

Гэта ж дачуўся ён, што той самагоншчык бацьку з дому ўпрочкі праштырыў, пасварыўшыся. Бацька жыць у замужняй сястры да часу астаўся, а сыну вунь як спасцігнуў — удаў, дзе спрат у яго знаходзіцца. Гэтак людзі кажуць. Гэтак і Цыпрук пераказуе Хвядосу. І ўрэшце выходзіць у яго:

— Ну й свет паўстаў! Ну і людзі! Я ўсё адно кажу...

Ды Цыпрук і не ўвалгаўся: усё адно,— ён кажа,— няма ў старога накшай мовы, як пра бяду якую ці пра напасць.

— Чаму? І даўней усяго было,— прабуе Хвядос апраўдацца.

— Не! Даўней...— шмат чаго стары можа нагаварыць, што чуў-бачыў даўней. І ў памяці гэта ёсць.

Хвядос не хоча старому працівіць, непаслушэнствам уводзіць яго ў жаль.

А шчэ ў Анцішэўскіх газет надта шмат. Повен стол, дый на куце зложана сціртa старых. Абы зглєдзеў Цыпрук, што Хвядос перабіраў іх — падзывае к сабе.

— Што там піша? Мне свой нічога не хоча казаць. Такі гад! Ну як там? Будзе-такі вайна?

— Не. Нічога гэтага не пішуць.

Цыпрук ад першага разу і Хвядосу не верыць.

— І ты,— кажа,— лжэш мне старому.

— Ды патом і рад, каб яго слова і праўдаю было.

— Хаця ж каб гэтай погані — вайны — не было,— клапаты старому. Не раз, як пра вайну ўспамянуць,

Цыпрук благім словам палякаў успамінае. Смутныя ў яго гэтыя ўспаміны. Лепш і не знаць. Забыцца б барж-джэй ды не чуць ні ад кога.

Арсею ж (сыну Цыпруковаму) надарылася «наган» за дзесяць рублёў у аднаго знаёмага хлопца выменяць. Дык цяпер у яго й накшай гаворкі няма, як пра гэту штуку. Яно не кепска, калі пра запас ёсць свой «карчун». Кішані не абарве, а згодзіцца часам. З ім і ў чужую вёску смялей пайсці, і ў дарозе добра. Толькі аднаго міліцыянера й бойся тады, яго меўшы пры сабе.

Перш не думаў нават Арсей і рэгістраваць сваёй цацкі. Толькі бяда, што лёгак ён на язык. Сам сабе з-за гэтага непрыяцель. І ў гэту папаўся праз гэта самае. Так што цяпер начай і не выкруцішся, як зарэгістраваўшы.

Крыху знаёмы Арсею хлопец служыць у пагранічніках. Некалі гэты пагранічнік часаў шпалы ў дачы і кватараваў у стражніка. І таго году Анцішэўскія былі ўзялі падборку збіраць, дык праз тры тыдні хадзіў Арсей з Ганькаю ў лес,— збіралі сучкі, каторыя большыя — у кучы складалі, а каторыя драбнейшыя — сцягвалі ў адно месца й палілі. Падборка была далекавата ад дому. Дык яны ўсяго раз на тыдзень прыходзілі хлеба ўзяць ды дома прагуляць нядзелю, а рэшту дзён начавалі ў стражніка. Вось там у Арсея і знаёмства зайшло з часаком, што цяпер у пагранічніках. Разам у суседнюю вёску да дзяўчат хадзілі. Ганька дык шчэ зусім малая тады была, але (жаба) смелая была — адна ў адрыне на сене не баялася спаць. Гэта яна за гэтыя тры гады пасталела.

Гэнага хлапца недзе й гнала аднаго разу конна цераз Жыздрыцу. Шчэ ў канцы папытаў, якая вёска.

— Жыздрыца,— кажуць.

Тут яму Анцішэўчык і ўзбег на памяць. А вымерхаўшыся быў пагранічнік — дарогу не малую праехаў. Каб дамоў закіраваць — убок далёка, куды з часці паслалі, гатоў спазніцца. Папытаў, дзе жыве Анцішэўскі, дык яму расказалі й паказалі — адразу папатрапіў. Каня прывязаў сабе за шула ў варотах, а сам ідзе ў хату.

«Ану, можа, й пасуляць чаго».

Арсей быў дома. Пазнаць яны адзін аднаго не пазналі, але, разгаварыўшыся, здагадаліся, дзе былі разам і калі бачыліся. Арсей усё як мае быць у паграніч-

ніка распытаўся, адкуль едзе, куды паслалі й якая служба ў яго. Потым Ганьцы шапянуў, каб салодкага млека ды шчэ чаго да яго прыстаралася пасілкавацца чалавеку. Пытаецца ў пагранічніка, ці не ахвотнік ён, каб перакусіць. Таму голад не цётка, сорамам жыць не будзеш — ласку прыняў.

Селі сабе яны ўдвух за стол ды гамоняць. А Ганька спадцішка зірнула на чужога хлопца ды пайшла за работаю. Дзе быў дурань Арсей! — пра ляворверы гаворку пачаў. Так-то бо канечне яму трэ было ведаць, якія яны бываюць, каторы з іх лепшы й якога пораху лепш сыпаць: салдацкага ці паляўнічага, як сам патроны дарабляеш і па колькі яго сыпаць. Ды так не ўмеючы, даходзіць пачаў, што пагранічнік адразачку здагадаўся, нашто яму гэта патрэбна, й папытаў:

— А ты, можа, што маеш?

Арсей зразу адказу не падабраў,— змоўчаў крыху. Потым бачыць, што маўчаць не добра, трэба зразу моцна сказаць: «Недзе ты бачыў!» Але збаяўся, каб гэта не выйшла ў яго так, як бы спалохаўшыся сказаў. Падышоў ён к свайму ложку, выняў з-пад галоў, раскруціў анучы, што быў уверчан,— паказуе.

— От паглядзі, ці спраўны.

Ажно дзе ён чорта — спраўны! Памазаць у Арсея няма чым — іржа нападае. Крыху газаю цухмоліў, дык толькі смурод ад гэтага, а карысці ні на ґарэлы шэлег. Пагранічнік толькі глядзіць ды галавою круціць. Шкода яму казённага начыння.

— А ты разбіраць умееш?

— А як жа?! Складаць цяжэй, ды й то — дрэнь. Трэба толькі на цэлым добра разгледзецца, што да чаго прыпадае, дык і зложыш. Усяго, першы раз як складаў, з спружынаю доўга цацкаўся, не ведаў, дзе яе падаткнуць. А цяпер дык у мамент — толькі давай.

— А ты дазвол дастаў?

— А як жа?!

— А вот я й не бачыў, якія яны цяпер даюцца: гэткія, як уперад, ці накшыя. Пакаж, калі дзе блізка ляжыць.

Тут Арсей перш пык-мык, а далей гладка салгаў:

— Яго ў мяне на руках няма. Гэта ж вот як было: на Траецкую гару былі мы з вішнямі прыехалі аднаго разу. Мне тады пашанцавала: на дарозе нейкая хлюндра як прысляпілася — рады не было. Прадай ды пра-

дай. Нарэшце сышліся на цану. І хоць кружно было к ёй на двор везці, але завёз. А адтуль каню па хвасцe ды па хвасце — борзда прыскочыў на Траецкую. Знайшоў сваіх людзей. Свой воз пры іх паставіў. Пасадзіў дзяўчыну. «Глядзі,— кажу,— ды надта не разяўляй рота, бо менскія басякі й не ўгледзеш, калі з-пад рук браварку сцібяць». Яна кажа: «Добра».— «Глядзі ж,— кажу,— каб было добра»,— а сам пайшоў дазвол даставаць. Думаў, што толькі туды зайшоў, дык і дадуць. Ажно ж — не. Забавіўся. Трымалі яны мяне, трымалі ды потым і кажуць: «Прыйдзі ў тры гадзіны з палудня».— «Каб жа вас халерая»,— сабе думаю. Ды бягом пабег на Траецкую. Там нашы ўжо ўсё папрадалі і купілі што трэба — збіраюцца дамоў. Лаюць мяне, што забавіўся. А я — няма дуру — кажу на дзяўчыну: «Ты едзь сабе за хурманкамі, а я свае справы спраўлю ды на машыне прыеду». Дык дзе ж там! Тая — ні блізка. «Масты,— кажа,— дзіравыя, дарога не спраўная. Чорт яго паедзе, адна, папацёмку, шчэ дзе галаву падвярну». Так я й не дачакаўся дазволу — сеў ды паехаў дамоў. А ўсяго заставалася на ём нейкаму старшому распісацца ды пячатку падбіць. Сам нават бачыў, як маё імя й прозвішча пісалі: пыталіся — адкуль. І за такім глупствам скруцілі мне дзень. І дазволу не дастаў, і не ўправіўся нічога купіць. А цяпер от усё часу не дабяру. Ды потым каторага дня трэ будзе ўвесь час кінуць ды хуць на машыне паехаць сыскаць.

Гладка сышло Арсеева лганства. Усё роўна як яно й было гэтак. І заметна па пагранічніку, што веры даў. Арсей шчэ, каб болей паверкі было, паказаў білет, і каторага ён году камсамолец, пахваліўся, што ўжо другі месяц пайшоў, як яго ў бюро выбралі. Ды патом уляцеў не ў сваё. Цяпер не выкруцішся ціха. Вот ад тых дат усё й папытуецца ў Хвядоса, як лепш зрабіць: браць дазвол ці — не.

— Бяры, браце,— раіць Хвядос.— Гэтак смялей будзе.

— Да ўжо ж — трэба.

Хвядос з Арсеем лепш, як з яго бацькам, таварышкуе. Гэта крыху й праўда, але не зусім. Толькі прыклёп, што Хвядос ходзіць к яму. Ганька, больш як хто, прынадзіла хлопца сюды, у іх хату. К ёй ён і ходзіць.

Нешта нейкае зрабілася дзяўчыне. Гэту восень саў-

сім урэдкую ходзіць яна з кудзеляю. Многа здагадак у Хвядоса, чаму гэта так. У сваю руку хіне ён прычыны. Ганька найбольш дома смычыць сабе нітку з барады. Жвавыя зубы ў вілачках падхопяць, скруцяць як ні ў сукараткі, узаўюць на шпулю. Гудзе і гудзе калаўрот. За ім і ў хаце гаварыць моцна трэба, усё роўна як на брук уз'ехаўшы, да торгу едучы. У коле здаецца й спіц няма, [redacted] тоненькая дошчачка замест іх устаўлена.

Рука, наложаная да работы, спрытна доіць кудзелю. Час-часом Ганька нагнецца, каб нітку наслініць ці камячок не добра выпачасованага кужалю каб расцягнуць. Паглядзіць з-пад нізу — хто на хаце ёсць. І аздобна гэта ў яе выходзіць.

Хвядос з Арсеем гаворыць, а ў той бок, дзе калаўрот гудзе, адным вокам заглядае. Часам і абудвымі да таго заглядзіцца, што Арсеевага пытання не ўчуе. А той усё даходзіць:

— Ну, як па-твойму?

Хвядос прачнецца толькі тады, як разоў пяць Арсей пытаецца. Бо так у яго ўсё добра выходзіла, што проста — бяда. Каб жа тое ды праўдаю стала! Аж надта б было.

— Што? — супэнду пытаецца Хвядос.

Тады Арсей давай ізноў расказваць з пачатку.

Хвядос мусіць слухаць, мусіць не заглядацца ў другі бок. Арсею памагае яго бяду бедаваць.

Гэта самае й з Цыпруком. Не так дзеля цікавасці, як з павіннасці ходзіць Хвядос за палосістыя посцілкі. Дзіўна і незразумела, чаму ў гэтай хаце такога ацярплівага характару робіцца Чвардоўчык. Заўсім адменюецца паводле дому. Дома ён накшы. Стаў бы хто такое глупства плявузгаць яму дзень у дзень, як часам Цыпрук, ды шчэ слухаць прымушаў — ускіпеў бы Хвядос. Што ні слова, то ўсё наперакор казаў бы й рабіў гэтакаму чалавеку. Плюнуў бы супэнду, як згадзіць. З хаты б уцёк і дзвярэй не зачыніў за сабою.

Ого! Часам і Чвардоўчык бывае чортам падшыт.

Гэта тут толькі ён лепшы, спакайнейшы, паслушнейшы. Сам з старым у гаворку заходзіць. Але як сабе не было, а стараецца, каб барждджэй з-за посцілак у чытальню драпянуць.

Многа весялейшым Хвядос у іх хаце робіцца. Больш слоў усякіх розных знаходзіцца ў яго на язы-

ку. Да гаворкі спрытнейшы і сам паваратнейшы. На жарты яго ў такія часіны здало. Гатоў штуку якую на людзкі вясёлы смех урэзаць.

Смешна з ім было ў Анцішэўскіх аднаго разу.

Усе жыздрыцкія камсамольцы прыстаўляць любяць. Адзін Пётра — цюхцяй. Ніякай паваротнасці ў ёй няма. Адзін раз на ўсе дванаццаць гэндрыкаў выпрабавалі яго. Было цікава дазнацца, на што ён здолен, якія штукі найлепш сумодае даказаваць, дык выйшла, што толькі — няспрытныя і не тады, калі трэба, а пастаянна.

Дык так і прыкладку яму далі таго вечара:

— Цяльпук (і квіта!).

Дадуць яму кніжку ў рукі:

— Падказуй.

Гэта ў яго добра выходзіць. Чытае не надта моцна й не зусім памалу — толькі слухай ды ўслед перагаварываць упраўляйся. А не дачуеш — прапаў, не спадзявайся, каб Пётра ўчас памог. Вечар пройдзе, пакуль ён патрэбнае месца знойдзе, адкуль памагаць пачынаць.

Адно дрэнна жыздрыцкім хлопцам, што цягайся за блізкі свет аж у Хатнікі на рэпетыцыі. Вось яны аднаго разу пагаварылі з беспартыйнымі таварышамі сваімі ды й наважылі, каб адным у сваёй вёсцы рэпетыцыі рабіць і спяктаклі ставіць. І нікога з чужых вёсак у свой гурток не прымаць — зрабілі пастанову.

Знайшлі старыя «сцэнічныя творы» ды й сабраліся к Анцішэўскім. Тут ніхто замінаць не будзе, кплівымі ачыма збоку глядзець.

Да таго гаворкі тады Хвядос зрабіўся, што ўсе дзівіліся, адкуль у яго й бралася мова. Лаганіў-шалахтаў без перасціханку. Прачытае радкоў пяць ды давай растлумачваць. Крадкам зірне на Ганьку ды шчэ лепей направіцца.

Трохі пачакаўшы, заўнялася яна прасці. У нітцы тальку дала, дык на зубох парвалася ды шчэ зарвалася на шпулі — ледзьві шпылькаю выдлубала, усю пражу пакасмаціла. Знайшоўшы, зацягнула ў вілачкі, на зуб палажыла. Прасці ні прадзе. Узаперлася аберуч на пярэдні пляскаты дзядок. Бараду на руках пачапіла. Заслухалася. На хлапцоўскае прыстаўленне загледзелася. Вельмі ж яна дагэтуль завіхалася, каб спаць не легчы, шпулі не напраўшы ці то й больш таго. Не ві-

даць па ёй, каб утамілася — толькі разгарэлася, у твары паружавела.

Калі выйшлі хлопцы на хату, каб зрабіць усё тое, што прачыталі, дык Хвядос ніводнага слова не даў нікому па-свойму сказаць — кожнае паправіў. Сам чытаў, сам рукамі што трэба паказваў, вылупляваўся, калі трэ было дзівіцца чаго, плячыма паказваў, што нічога не ведае. Здавалася, збоку гледзячы, што начай і здумаць нельга, каб лепш выйшла іх п'еса.

Хлопцам гаварыць няма чаго. Пазіраюць толькі. Шырокія вочы ў іх парабіліся. Нічога не напамкі ім.

Аж упацеў Хвядос, пакуль скончылі.

Тады яго Бладзік сморг за рукаў.

— Чаго ты?

Той узяўся за штрыфлі ў яго куртатым, зашмальцованым кажушку, напіхаў к сабе бліжай.

— Што табе сёння? Ці цвярозы ты з дому прыйшоў?

— Чаму?

Балазе й блізка хлапцоў не было, Хвядоса не бачылі. Сам па сабе пачуваецца ён, што прыкрае цяпло пацякло па твары, хлынула к ачам. І што далей, то горай... Немаведама чаго стала брыдка Хвядосу. Аж уцячы куды тады падумалася.

— Першы раз,— кажа Бладзік,— я цябе гэтакага бачу.

— Ат! Што табе здалося?!

Так нехаця Бладзік абсек яму вушы.

## XV

Не раз сварыўся Цыпрук на сваю дачку, каб масла перад чужымі не біла: колькі яго ні бі — не саб'ецца, калі благія вочы паглядзяць. А гэты раз Ганька ўзяла ды й паслухала. Ад самага паўдня села за бойку. Біла яна, біла... І ноч яе агарнула над тым нягодным маслам. Шумою яно ўзялося, усё прыбывае ў бойцы, аж у вечку з дзіркі выступае. Тры разы апалоннікам надбірала яго з бойкі ў цёрла. І ніхто таго дня к ім і следу не палажыў, як сумыслу.

Увечары ўжо не тая работа. Тады за чытачамі ў Анцішэўскіх павярнуцца цесна, а не то каб рабіць што. Толькі ў Ганькі няма дуру. Наважыла масла збіць за гэты дзень, хоць сабе да поўначы плюхаць да-

вядзецца. Сказала чытачом, каб не заставалі, каб адхінуліся ад агню. Сама ўзяла ад Цыпрука нізенькі зэдлік, што, як кашаль усходзіцца, яго сабе пад ногі падстаўляе і сам садзіцца на ложку. Прымасцілася сёрад хаты — б'е. І такое наравістае масла: увесь дзень не білася, а ўвечары й не доўга Ганька з ім забавілася. Усё роўна як і яно хацела Цыпруку спрацівіць. А цяпер Ганька збіла тое, што ў бойцы было, ды падліла, што ў цёрла надбірала — і гэта паўздужала.

Хоць і не такое добрае, на погляд не харошае: ні жоўтае, але белае, дык затое — многа. Маслёнка, хто яе ведае, дзе яна й дзелася — саўсім крышку Ганька нацадзіла. На раз яе не стане, каб тоўчаную кашу прагнаць. Ат! Гэта на продаж не панясецца. Сабе чым болей, дык лепш. Арсею ды шчэ й як гэта да густу: надта ж ён любіць такім маслам бліны мазаць. На гарачым бліне ад яго толькі шума белая становіцца й дзе-нідзе жаўтаватыя скалкі. Трошкі гарэніць, але гэта як хто любіць.

Перамыла Ганька яго, пасаліла, выбрала на два йсподкі. Апляскала хорашанька. Лыжкаю зверху цацак нарабіла. Схавала ў пасценны шкапчык, што пры парозе. Бойку ў сенцы вынесла. Сама на хвілінку ўзлезла пагрэцца на печ. Ажнак бацька выйшаў на хату. Любіць і ён час-часам з кійком пасядзець у канцы лавы, паглядзець. Ану, можа й пачуе што.

Хвядос дацікаваў, дзе Ганька дзелася. Назір за ёю, крыху пачакаўшы, пайшоў і ён туды.

— Гэта ты тут? — пытаецца.

— А ты думаў — хто?

— Я й ведаў, што ты.

Чвардоўчык — лапцяваты хлапец. Ніяк сам-насам цікавай гаворкі пачаць не ўмее. Хоць ты памагачага за сабою вадзі. Сам ён ніяк патрэбнага слова не дабярэ. Хоча, бывае, нешта рэкнуць ды рота расчыніць не адважыцца — маўчыць, злуе на сваю няспрытнасць. А ўсё затым, што ніяк не адважыцца языку даць такой волі, каб чым найболей шалахціў на вецер рознай-рознасці, ні складу ні ладу не гледзячы, што толькі сліна к губе прынясе. Ужо ён прабаваў разоў колькі гэтакім чалавекам зрабіцца, ды ў самым гарце свайго красамоўства раздумаецца, бывае, што дрэнь сказаў, і язык больш на такое глупства не паварушыцца. Добра шчэ як памагачыя ёсць (як Платон з ім), а як няма — тады

зарэз. Уцячы толькі хіба. Дый уцячы не можа Хвядос без дай прычыны, от так сабе — тут быў, а зараз завярнуўся ды пайшоў, з рызыкаю нават. Яму, дзе ні ступіў, трэба, усё каб нейкае апраўданне было.

От і цяпер гэтаксама. Каб у чытальню адгэтуль уцячы, трэ было б нешта сказаць, чаго заходзіў, альбо там з хлопцамі сябе вельмі патрэбным чалавекам паказаць. І ніяк не надумаецца Хвядос, каб гэтак зрабіць і каб гладка, добра сышло. Нехаця падыходзіць к Ганьцы.

Пачынае з таго, чаму яны (дзяўчаты) пазаўчора, як Ганька была ў скудзельніцах і ён (Хвядос) там быў, чаму яны тады рана разышліся. Ну саўсім жа глупства! Лепш бы ён памаўчаў, як з такою моваю разніцца. Бо й разышліся тады не рана. Можа б, і даўжэй сядзелі, каб не гарлатыя певуны сталі крычаць іх таварыству, што ўжо — поўнач, ды мо й на той бок начы звярнула, [redacted] спаць ужо даўно з пары сышло. Добрыя людзі ўстаюць ад певуноў, а яны да певуноў заседзеліся.

Лапцявата й той раз Хвядос зрабіў — горш як цяпер.

Толькі згледзеў ён, што дзяўчата заварушыліся браць прасніцы ды калаўроты, іці дамоў сталі збірацца,— маланкаю шмыгнуў за дзверы. Забег ім наперад. Стаў на вуліцы і чакае. Сабе думае: «І так іці кепска, гразка, а з кудзеляю ды [redacted] калаўротам — пагатоў. Хоць да іх двара паднясу я Ганьцы калаўрот. Усё роўна ж у адну дарогу йсці».

З хаты, дзе была зборня, адчыніліся дзверы. Загаманілі скудзельніцы. Дробны пасыпаўся смех. Пярэднія ўжо й на вуліцу выходзяць.

Тут Хвядосу і вусціўшна зрабілася. Ну як ён падыдзе, як без дай прычыны скажа:

— Дай мне калаўрот. Я паднясу табе.

Смех толькі [redacted] яго справяць. Заўгадзей ён ведае, што лапцявата ў яго выйдзе гэта прапанова. У другога б і добра выйшла, а ў Хвядоса будзе людзям на смех.

А каб так папрабаваць. Падысці ды гаркнуць:

— Табе, мусіць, цяжка? Дай я паднясу.

Добра, каб ад першага слова:

— Паднясі,— сказала.

Тады ўзяў бы пад паху таго лопатня дый пасунуў-

ся б сціхатою. Хто б яго тады сцежкі глядзеў. На гразь ані б не браў увагі. Ды ці выйдзе ж так?

Нічога Хвядос не мог здумаць, як бы абысціся пры такім здарэнні. Заўгадзей сышоў ён дзяўчатам з дарогі. Паўсаджаваў у гразь халявы ў ботах. Перайшоў на другі бок вуліцы. Не знай, не ведай, чаго заглядзеўся ў Адасяў рэдкі сад. Неяк не так, як усе людзі, сабе плячукі паставіў: адзін уперад, а другі назад, галаву на бок завярнуў. Варта смех было з яго справіць, каб ноч была віднейшая ды хто туды ўглядаўся, дзе Хвядос стаяў.

Так прастояў, аж пакуль скудзельніцы ганей са трое не адышліся ўперад. Тады й ён нага за нагу пасунуўся ўслед за імі. Толькі сам сябе злаяў:

— Раскепа!

Ззаду йшлі хлопцы яго таварыства й гукалі:

Выпраўляла мяне маці
Зялёнае жыта жаці...

Хвядос і ўчора ўвечары быў у Анцішэўскіх, але з Ганькаю сам-насам быць не давялося, і пра заўчарашняе ён нічога не ўспамінаў.

Але сяк-так яны разгаварыліся. Хвядос больш слухае, а Ганька сваё сірочае жыццё без мацеры прыпамінае. Няма ценю на печы ад посцелак. Там відно-віднюсенька. Ганька на бок прылегла, узаперлася на правы локаць ды дуду-дуду... Дзе Хвядос на прымурку, там чорны цень, як сажа. І ані не відаць, што Хвядос углядаецца вельмі на Ганьку — вокам не міргне. Дый не надта чуе, што там Ганька кажа. Яму ўспамінаецца адзін сход у Хатніках. Болей жартаў было на тым сходзе, як сур'ёзнасці. Фацэтны быў сход.

Жыздрыцкія камсамольцы дармо што сваю маюць, а ў хатніцкай чытальні штотыдня тры разы павінны быць. У ячэйцы план гэтакі зроблен: у панядзелак — палітычны гурток, у сераду — бюро, і ў пятніцу — драматычны гурток. Хоць урэдкаю, але бывае так, што чакаюць-чакаюць, ды ніхто з непартыйных і не прыйдзе — адны толькі камсамольцы збяруцца. Тады Корабач памаўчыць — падумае дый скажа:

— Хлопцы, давай сёння свой зачынены сход зробім.

Актыў згодзен.

— Давай!

— Рабі!

— Як сабе хочаш.

Што ж у іх за арганізацыя будзе, калі сваіх, ад усіх апрычных інтарэсаў не мецъ. Патрэбен патаемны сход. Без яго не абысціся.

— Прымкні толькі дзверы,— кажуць.

Корабачу гэтага й загадаваць не трэ было — сам ведае. Ідзе к дзвярам і крук у прабой закладае.

Аднаго такога панядзелка ўвесь вечар праседзелі саймікуючыся пра дзяўчат. Трэ было дадумацца, як бы іх хоць на завод у ячэйку ўпісаць са дзвёх. Тады хоць перад райкомам было б чым пахваліцца. Корабач гэжываты хлопцам пападрываў сваею прапановаю. Гэта ж трэ было да чаго дадумацца:

— Даць кожнаму камсамольцу заданне, каб за месяц сумодаў падкаціцца хоць к аднэй каторай. Ды не абы толькі каб падкаціцца, а [redacted] мэтаю: у камсамол хінуць.

Смеху варт яго мова! І так гэта сур'ёзна гаворыць, што проста бяда.

— А сам, мусіць, к дзвём думаеш? — на смех, але сур'ёзна пытаецца ў дакладчыка Андрэй.

— Хто здолен, хай сабе і к дзесяцём, а к аднэй, дык павінен. Лопні, а падкаціся.

Дзе тая сур'ёзнасць будзе на гэтакім сходзе!

— Дык ты так і ў пратакол запішы, што сяголета — падкаціцца, а налета — ячайковыя яслі адкрыць,— усё не перасціхаў Андрэй.— Толькі ж каго мы калыхаць прыставім. Ось гэта трэба сёння вырашыць дый абабраць такога чалавека — хай загадзе ад баб «ката» пець завучаецца.

Бладзік не датрываў. Пераняў Андрэю мову.

— Па чарзе,— кажа,— будзем хадзіць калыхаць, а цябе загадчыкам тых ясляў прыставім.

Арсей слухаў-слухаў дый кажа:

— Смяяцца тутака няма [redacted] чаго. Таварыш Корабач нам не трэба лепш сказаў. Давай папробуем. Ану, можа, й выйдзе што. Будзем бачыць. Толькі начорта ты, Хвядос, пратакол пішаш. Смяяцца будуць у райкоме, прачытаўшы.

Гэта й Бладзік пацвердзіў:

— Да й праўда! Начорта той пратакол.

Тады Корабач узяў ад Хвядоса паўаркуша спісанай паперы й падраў яго на дробныя цуры.

Шчэ помніць Хвядос, што таго вечара, разыходзячыся, некаторым садавіны зажадалася. Толькі ўспомнілі пра гэта, Бладзік адчыніў акно над Корабачавым ложкам:

— За мною хто хоча!

А сам на Корабача глядзіць — што ён скажа. Бачыць, што той не проці гэтакай штукі, ды баіцца, каб гаспадар іх не ўвабраў, каб сараму не надаў усяму хатніцкаму камсамолу ды шчэ й з сваёй хаты каб чытальні гэтаксама не выкінуў.

Тады Бладзік цішэй загаварыў:

— От,— кажа,— сядзі сціхатою й маўчы. Усё добра будзе.

Сам тымчасам з двума хатніцкімі палез праз акно. Ужо лісця многа насыпалася дало. Мокрае яно, прыстае да хлапцоўскіх ног. Даўнейшае, што сушэйшае, шастае, як ідзеш. Асенняя ноч таго разу была відная й шапятлівая — ветрык веяў. Белыя антоны, чарнабокія цыганы відаць пад месячны бляск. Няма цяпер толькі галля, каб схаваць іх ад дасціпнага вока, што шукае поначы.

Хлопцы ў чытальню па прыпалу прывалаклі антонаў.

Корабач паразае ножыкам ды чучарыць, моршчыцца — крывіцца ад кісі, хваліць хлапцоў, што выйшла за ўдачу, і сварыцца на іх:

— Вы ж агрызкаў на падлогу не пакідайце, а кладзеце ў кучу ды з сабою забярыцё, каб заўтра, хату метучы, гаспадыня чаго не спаздрыла.

Тады Хвядос гэны сход за жарты меў. Пасмяяліся, сабе думаў, дый толькі таго. Ужо быў забыўся пра яго, а вось гэты раз ізноў ён прыйшоў на памяць.

«А што, каб папробаваць?» — падумаў сабе.

Ганька сама больш і ахвотней гаворыць пра сваю нябожчыцу мацеру. Яе Хвядос знаў саўсім мала. Помніць толькі, што высокая была кабета, хустку не пад барадою завязавала, але абкручвала наўкола шыі ды ззаду рабіла вузельчык. Даўно ўжо, як яна — нябожчыца. Пакінула Ганьку саўсім малою. Двух сыноў тады стала сіротамі і яна адна. Крута тады прыперлася дзяўчыне. Мусіла гаспадыняю быць, пакуль большы брат не ўзяў жонкі. А тады Ганька ні курчаці, ні свінчаці не ўмела дагледзець. Ні разу каровы шчэ не даіла. У печы толькі і ўмела засланку адчыніць ды сабе

скварку ўзяць з скаварады. Як з гаршкамі парадкавацца, ніхто не далажыў. Ды шчэ й не сіла была. Цяпер пра сваё гаспадынства так кажа:

— Ведама — малая: адны гулі тады былі ў мяне наўме.

Пакуль у хаце дамавіна стаяла, Ганька па волі хадзіла, ні за якую работу не бралася. Ціхенька, схаваўшыся ад людзей, плакала. Вочы чырвоныя парабіліся, панапухалі — панацірала яна іх. Хто ні зірне на малую, жаль яго возьме — пашкадуе. Хто спагадным слоўцам адзавецца. Другі так сабе без ніякай зайздрасці паглядзіць, памаўчыць. Усе Ганьку сіратою завуць, аж ёй слухаць абрыдала.

Разэлі шкода стала малой дзяўчыны. Такі ж яна Ганьцы сякая-такая цётка прыходзіцца. Дома ў іх сям'і стае. Хатнюю работу й без Разэлі ўпыняць. А ў Анцішэўскіх работы многа, а рабіць няма каму. Вось Разэля ўзяла раздабрылася. Прыйшла к ім на гаспадарку. Цыпрук з гора й дзякаваць не ведае як.

— Глядзі ж ты яе, дакладай,— кажа строні Ганькі. Разэлі гэта й пад нораў. Дакладаць, як рабіць, яна добра ўмее. Рухавая шчэ баба. Усяго й кепска, што ходзіць яна ў дзве пагібелі сагнуўшыся — старыя гады цяжкаю вагою ўспалі на плечы, гнуць к зямлі. Але гэта — дармо. Ніколі Разэля не йдзе ступою, а ўсё подбегам, усё трухаецца. Так яна змалку налажылася. Гаворыць борздзенька з задышкаю.

Шчэ паншчыну помніць яна. Тады й ладная цыцоха была, а ўсё ў аднэй кашулі хадзіла. Спадніц тады маладыя дзяўчата як чорта баяліся. Пан такі звычай быў увёў: як толькі дзяўчына спадніцу адзене — каб назаўтрае ж ішла паншчыну рабіць. Дык спадніцы толькі тады надзявалі, калі назаўтрае меліся сваты быць. Хто ж яго ведае, ці праўда гэта ці не, але Разэля кажа, што так за паншчынаю было — а яна паншчыну помніць.

Цяпер Разэля саўсім апусцілася, нязграбная стала.

Барада ад самай губы і ўніз як рубанкам спушчаная — роўная. Вочы за лішнюю, мяккую скуру схаваліся й ані не бліщчаць. Дый на ўсём твары скура так паморшчаная, як рукаў у тонкай кашулі на самым гібяжы, як руку сагнеш. А з натуры Разэля хоць трохі злосная, але добрая і рупаслівая: чужога й то шкадуе ў паблуд пусціць.

Як асталася на гаспадарцы, дык усё ходзіць, глядзіць, дзе што паложана, дзе пастаўлена, і ўсё бубніць сама сабе пад нос. На ўнэт зганіла Ганьчыну мацеру з усяго: [redacted] работы й з розуму. Дзе ні павернецца — непарадкі знойдзе. Усё не прыбрана, усё не на сваём месцы: Усё гіне, гніе, псуецца.

— Як тут жылі? Як тут хлеб мелі?

Дзіва Разэлі!

Кажуць людзі: не можна нябожчыка благім словам успамінаць — грэх будзе. Гэта некаму грэх будзе, [redacted] Разэлі не будзе граху. Яна ведае, што трэба зрабіць, каб яго не было,— за кожным словам прыгаворыць:

— Даруй, божа, цяжкі грэх!

Нябось! Не можа быць, каб на гэтыя словы ніякай увагі не было.

Разэля на Ганьку па добрасці сварыцца. Шкадуе дзяўчыны, бо не яе віна, а мацерына: гадавалася, як дубец у лесе. У вочы Ганьцы кажа, што ні да чога яна не варта: ні каля печы павярнуцца, ні ў агародзе каб спрытнасць была; ні ў хаце чыста зрабіць.

— Ой, будзе цяжка-цяжка, пакуль уцягнешся, налажышся.

І Ганькі шкода. І сапсаванай работы шкода. Не ведае Разэля, каго больш трэба шкадаваць.

— Ой,— кажа,— напсуе работы, пакуль злаўчыцца. Наглуміць...

Ганька ўсё чысценька чуе. Малая была, але хітрая. Думае:

«Хай сабе. Некалі нечага накшага прычакаем».

Кажа, вось як яна тады рабіла:

— Каб ты так, бабка, удушылася, сабе думаю, ды маўчу. Усё сабе пару тую дабіраю, калі б пытлю маей «мачасе» даць. Ужо так унадзілася к нам хадзіць, за мною праследжваць — рады няма. Што ні зраблю — усё не добра. Дзе ні ступлю — усё не так. Нарэшце адважылася. «Пайшла ты,— кажу,— баба, к чорту. І які цябе чорт надта просіць цягацца да нас?!» От тады яна й адсела крыху.

Разэля на Ганьку й не вельмі пакрыўдзілася. Ведама:

— Малая, дурная шчэ. Хай адна пабудзе, хай паглядзіць, як смачна без сталейшага чалавека быць.

Яшчэ ні дзе дзенецца — прыйдзе сама папросіцца, каб што як рабіць паказала.

Выйдзе Разэля на прызбу з кабетамі пасядзець — бядуе:

— Прападзе Анцішэўчынка за суку. За гардасць сваю прападзе. Нічога яе не будзе. Гультай — гультаём.

Шкода Разэлі й грунту іх:

— Дзе гэта відана! Размахлёрыць гаспадарку. Праўду такі кажуць, плача печ без гаспадыні.

Цяпер смяецца Ганька:

— І жывём патом аж вось да каторага часу. І кадук нас не ўзяў. Дый не размахлёрылі б нічога, каб не гэты падзел.

Тым часам суняла Ганька сваю мову. Зірнула на Хвядоса ды пытаецца:

— Чаму твае так вочы блішчаць?

— Так сабе.

Зараз і ў чытальні на нешта хлапцом стаў патрэбаю Хвядос. Думалі, што дзе ў іх гурце ён. Клічуць з-за стала:

— Хадзі сюды!

Ён ужо й памкнуўся быў, каб аказацца, але Ганька раіць:

— Маўчы.

Яе і паслухаў.

Хлопцы кажуць:

— Дамоў уцёк.

— Ну й чорт яго бяры. Тады другім разам...

Якраз у гэты момант Мікалаю цікнула: чаму гэта доўга Ганькі на хаце няма. Адхінуў посцелку. Яе на печы добра ўгледзеў і нешта шчэ чорнае падалося яму, што заварушылася на прымурку.

— Ганька!

— Чаго?

— Ці не прыспала ты вячорніка?

— А дрэмле крыху.

Не выпадае Хвядосу больш хавацца. Злазіць з прымурка і йдзе к хлопцам у чытальню.

— Хай вас чорт! За вамі не заснеш.

*Канец першай часткі*

# НЯДОЛЯ ЗАБЛОЦКІХ

*(Прыгоды і летуценні)*

## *Частка І*

— Такі ж нешта робім?
— Каб мы не ведалі, што мы робім, дык мо б не рабілі.

*З даўнейшых «казалаў»*

### I

Край свету чулі пра Заблоцкага. Ведаюць, што з мылам быў заняўся гэты чалавек. Ведаюць, што не заработак, а ўтрата ў яго на гэтым тавары выйшла.

Усюды Заблоцкі вядомо.

Усюды Заблоцкага за свайго чалавека маюць.

Што край, то новую яму асядласць даюць, начай пра тое няшчасце байкі баюць. А таго не ведаюць, што наш гэта чалавек — з Баркаўцоў, і ўсе тыя прыгоды не немаведама дзе, а поблізу гэтай вёскі рабіліся. Таго не ведаюць, што славуты гандлёўшчык не валацуга які з усяго свету, што забыўся пра сваю радзіму [1], але з спрадвечнага даматурскага ён роду: яго бацька не абы-як, а Юстап зваўся, ды акрамя бацькі меў яшчэ гандлёўшчык і дзядзьку Вінцэнтага, меншага бацькавага — аднаго бацькі ды не адной мацеры — брата, і свайго ўласнага меў ён меншага роднага брата Савосту. Таго не ведаюць, што ўсе яны былі такія самыя, як і гандлёўшчык, славутыя Заблоцкія. А яшчэ ж былі ў іх сваякі, суседзі... яны хоць з мылам і не зналіся, але не менш за Заблоцкіх усяго-ўсякага бачылі за свой век. Ды, урэшце, самага патрэбнага не ведаюць тыя, што Заблоцкаму бліжэйшую да сябе асядласць даюць, што пра яго няшчасце байкі баюць: як жа зваўся ён? І прыходзіцца падказаць, што зваўся — Пархім.

---

[1] Радзіма — сваяўства (так гэта слова і ў песнях ужываецца).

Самае першае — як зваўся чалавек. Дрэнь тое мыла, што ён прадаў. Прадавалі мыла да Заблоцкага, прадаюць і цяпер, пасля яго.

Другое: што ён быў за чалавек? Чаму так прыспела Заблоцкаму на мыле, а не на чым іншым сабе заработкі знайсці? Што яго ў гандлёўства пусціцца прымусіла? І гэта ведаць трэба канечне. Але адложым яго на далей. Скажам толькі:

Кожнаму Заблоцкаму прыйшлася адменная доля. Усякі [illegible] іх свой талент і сваю ганьбу меў. Толькі не карысць з гэтага была ім, а згуба. Стары Заблоцкі — Юстапаў і Вінцэнтаў бацька, а Пархімаў дзед — быў спрадвечны гаспадар. Сам ён быў чалавек старасвецкі, ды імя сабе меў старасвецкае. Зваўся дзед Заблоцкі так, як мала хто цяпер завецца — Савэрын. Ні цяслярства, ні бандарства — ані нічога, акрамя зямлі, не ўмеў рабіць ён. Ніякага начыння, акрамя сахі з цэпам, не ўмеў Савэрын трымаць у руках. Так даўно ён жыў на свеце, што тады яшчэ плугоў і не зналі людзі. А з Савэрынавых сыноў адзін Юстап трымаўся бацькавага таленту. Вінцэнты ж меншы, ад другой жонкі Савэрынаў сын, музыкам удаўся. З Савэрынавымі ж унукамі было яшчэ горш: Савоста ў пісары пайшоў, а Пархіма ў гандаль павяло. Так здаўна шчапаліся Заблоцкія на дзве палавіны. Вілаватая ім у жыцці траплялася дарога.

Пакуль жыў Савэрын, пакуль Заблоцкія ў кучы жылі ў аднэй хаце, было і хлеба даволі, і скорам ніколі не зводзіўся ў іх. Тады ў іх хаце быў стары бацька і было яшчэ без бацькі двух роўных, здаровых мужчын. Нявесткі — Юстапава Прузына і Вінцэнтава Разэля — з дзяцьмі тут не ў лік, хоць, праўда, у аднэй Прузыны толькі было два хлапчукі, а Разэлю, як Вінцэнты казаў:

— Крыў бог ад гэтага няшчасця, ад іх крыку, ляманту.

Было работнікаў у Заблоцкіх, але не было ў іх хаце такога здарэння, каб спрэчка за што ўзнялася. Савэрын, не то што даўнейшы, але саўсім старасвецкі быў чалавек: гэта яго сыны, унукі — даўнейшыя людзі. І ўсё ў Савэрына рабілася па-старасвецку. Усякі ў яго меў сваё месца і сваю работу. Гэтай работы ды Савэрынавага слова пільнаваўся кажан, і ўсё ў пару зроблена было: у пару з поля збіралі, у пару і ў меру бралі

з свірна што трэба на свой абыходак. Ніводзін колас дарма не загінуў. Бывала, вяжуць у снапы на жменькі жаты, ячмень ці авёс, а потым Савэрын загадае ўзяць кашэлікі ды перайсці ячнішча, аўсянішча — каласы пазбіраць, каб, як казаў па-старасвецку той дзед Заблоцкі:

— ...Божы дар дарма на полі не прападаў.

Пырніку, бывала, і на лякарства не знойдзеш на Заблоцкіх полі.

На ўсё парадак пры Савэрыне быў. Як прыйдзецца за стол садзіцца, дык галоў, як качаноў на капуснайградзе, збярэцца. Тады і нявесткі і ўнукі — усе ў лік. А як пойдуць за работаю, дык нікога лішняга і не відаць. Усякі мае свой занятак. А па Савэрынавай смерці пачалі муляць думкі пра дзяльбу ў Вінцэнтага, пачаў Юстап ціхенька з мяшэчкам у Воркаву карчму ўчашчаць — насіў ён туды тапіць сваю нядолю. І сышла тады недзе злагада ад Заблоцкіх, уцёк спакой з іх хаты. Перш-наперш кінулі Заблоцкія, усёю сваёю сям'ёю застолле заняўшы, гаварыць самі з сабою, з смешных здарэнняў разам выскаляцца.

Пачалі ад тых дат круціць светам Заблоцкія. І рассыпаліся яны, як гарох на сто дарог,— хто куды віда. Што была адна сям'я, адна хата, адны Заблоцкія — аж з тэй аднэй ды пакрысе тры хаты зрабілася, з аднэй сям'і — цэлая фамілія. Крутам-мутам... усяк Заблоцкія жыць прабавалі.

Не было на іх росту: усе да аднаго аршын з шапкаю ўдаліся на вышкі. А ўсё цягнуліся ўгору, каб над усімі вышэй быць, каб адусюль іх бачылі.

## II

Немаведама, што даўней было.

Засталучылі байкі праўду, калі заходзіць мова пра даўніну. І што далей ад нас, што глыбей у гады, то ўсё большы, гусцейшы ад іх туман, а з таго туману часам такія прывабныя вытыкаюцца здані, што набок тады ўсякая праўда.

Туманам даўнасці заслалася: як дзяліліся Заблоцкіх браты — Вінцэнты з Юстапам: як Юстап падгадзіў сырам, маслам, шаснасткаю белага смачнага заводнага гароху баркаўскога валаснога суддзю ды як той, судзячы, назбіраў памёршых і выдуманых душ: бацьь-

каву, матчыну і яшчэ нейчую — немаведама чыю — часць прысудзіў Юстапу, а Вінцэнтаму ўсяго ў падзеле даў пад абрэз.

Так даўно гэта было... Такім забыццём заслалася... Ані не відаць праз яго, як сагнаў суддзя Вінцэнтнага з усім яго невялікім будынкам з вышэйшай, сушэйшай часткі Заблоцкіх сядзібы на другі бок вуліцы ў западзь, на дрыгву. Не відаць ад нас, што так далёка ўжо ад таго часу адышліся, як пакутаваў Вінцэнты ў падсуседзях, як не прыйшлося яму з падзелу сваёй хаты. Але сяк-так, у пазыкі ўлезшы, узбіўся ён на грошы. Апытаў праз людзі сабе варывеньку на хатку ды купіў яе за дванаццаць рублёў.

Не толькі на сядзібе, але і на полі накпіў з Вінцэнтага той валасны, загоджаны братам, суддзя. Не ніву, але істужку адаткнуў ён калкамі. Палажыў яе, гэта йстужку, на ўсіх Заблоцкіх нівах правага, самага неўрадлівага, як меркаваў Юстап, боку. Да таго скупа быў валасны суддзя тую йстужку адрэзаў, што ўсяго чатыры градкі бульбы можна было выштукаваць на ёй,— за раз самую шыршую Вінцэтаву ніву пераступіць і не цяжка было.

Усё сышло людзям з памяці. Адна «Вінцэнтава йстужка» ў прыказках, у параўнаннях асталася. Пакуль быў Вінцэнты ў Баркаўцох, хварбаваў ён сваю істужку вострым плугам на гразкі чорны колер, карабаціў яе на скібы. Любіў Вінцэнты на чорным гразкім полі жоўтыя кропелькі, падобныя на жытнія, ячныя, аўсяныя і ўсякія розныя зерні, густа імі сваю йстужку ўсыпаў. Толькі як пойдуць дажджы на Вінцэнтава краплястае фарбаванне, зялёнае яно зробіцца — аж мяняецца ад сонца. Але і гэта зеляніна не любіла сонца — ліняла ад яго: зялёнага на жоўты, спелы колер.

Толькі не праз валаснога суддзю, што адрэзаў гэту йстужку Вінцэнтаму, не праз самога Вінцэнтага, што так стараўся — як вясна, як восень — фарбаваць яе, а праз гаваркую Кацярыну, што першая дабрала Вінцэнтавай ніве такое імя, не забыліся пра яе нашы, сквапныя на трапнае слова, людзі.

Асталіся ад таей даўніны ўсяго «йстужка» пра Вінцэнтага, а пра Юстапава багацце цэлае паданне, з імі разам злучыліся дзейкі і пра дзіўнае пахаджэнне гары пасярод Баркаўцоў.

Перш упыну не было на Юстапа з яго скаргамі. Потым, пасля надзелу, пашыкавала крыху і годзе маракавацы, што чорт дабро ■ свірна выносіць. Годзе ў Воркавай карчме лезці да людзей са сваёю бядою. Ды і ў самую карчму менш стаў учашчаць. А тым і цікнула: чаму такая перамена? Хто час меў ды цікавы быў, давай прыглядацца.

І заўважылі баркаўскія даходныя людзі, што ўсё то сіняваты, то чырвоны агоньчыкі ■ неба сыплюцца за шчыт у Юстапавым таку. Надта ж іх, гэтых агоньчыкаў шмат увосень, як людзі з поля дабро ў такі пазвозяць. Як мак тады сыплюцца. З усходу стануць нашы цікавыя людзі глядзець — усе ў Юстапаў ток збягаюцца, а зойдуць ■ захаду, зірнуць — не відаць нічога, толькі дзе-нідзе далёка-далёка час-часом саслізнецца зорка з неба ды пакоціцца ўніз. І сказалі тады баркаўчане:

— Тут нешта небагавое. Няйначай Юстап да нейкага ведзьмака дапяў. Прадаў чорту душу, дык от ён ужо ў нейкага другога з засекаў выбірае, а яму носіць ссыпаць усякае дабро.

Кажуць, і гара на крыжавых дарогах пасярод Баркаўцоў тады стала, як сыпаліся агоньчыкі ў Юстапаў ток. Так што цяпер, адкуль ні зірні на іх, перш-наперш карчму ўбачыш, а потым ужо вішэннік унізу пад ёю, дзе-нідзе стрэхі ў ім. А даўней — не за нашым, а за даўнейшым-«даўней», кажуць, у самай западзіне, вечна пасярод гразі стаяла карчма, нідзе ніякай гары і заваду не было. Лёталі тады ўсё агоньчыкі за Юстапаў шчыт: то сіні, то чырвоны. А людзі ўжо дазналіся, што як сіні агоньчык, дык дабро нясе, а як чырвоны, дык грошы. Каму час быў ды не ленаваўся, можна было злічыць, колькі раз ■ чым прылятаў. Можна было ведаць — чым найболей Юстап апамогся.

Усе на гэта глядзелі: от, ліха яго бяры! Усё адно нам не панясе, а Юстапу. Аднэй Тахвілі (яго швагерцы) шваграва багацце было, як у сэрца нож. Яна не толькі, што калі нясе, ведала, але ведала і як зрабіць, каб чортавым дабром ліхі чалавек не запамогся. Зглядзела была раз увечары, проці карчмы стоячы, над самаю галавою ў сябе сіні агоньчык, ды так ён проста туды. дзе Юстапаў ток, і коціцца. Зайздрасць борзда Тахвілю напавуміла, што трэба зрабіць. Зрабіла яна



Канстанцін Пятровіч Вашына —
Лукаш Калюга.



Вёска Скварцы. Хата,
у якой нарадзіўся Лукаш Калюга.



Пётр Мікалаевіч Вашына —
бацька пісьменніка.



Марыя Мікалаеўна Вашына — сястра маці Кастуся, якая гадавала асірацелага хлапчука.



Магіла маці.



Кастусь Вашына (стаіць)
са школьным сябрам, 1923 г.
Студэнт Белпедтэхнікума.



Разам з сябрамі па вучобе
Францам Гінтаўтам (у цэнтры)
і Сяргеем Астрэйкам (справа).



Сяброўкі-аднакурсніцы
(першая злева ў ніжнім радзе Ніна Казлоўская),
удзельніцы мастацкай самадзейнасці.

спадніцу так, каб даступней руцэ было, ды па мяккім месцы сама сябе калі лясне разоў тройчы.

— Гола,— кажа,— маё цела. Хай жа гэтак гола ў таго будзе, каму ты нясеш.

Хоць сабе чорт і невялікая шышка, але не любіць, калі ўсякі начне з яго вяршэнства здымаць. І ў чорта злосці не купіць... Калі сыпнуў ён прыскам на зайздросную Тахвілю, дык аж траха Баркаўцы не заняліся гарэць. Добра, што Тахвіля ўправілася роўна стаць і спадніцу з рук у пару пусціла, а то б яе ссек чорт горш, як шротам, а так — усяго крыху рукі прыпёк. Яшчэ натое Тахвілі ў помачы было, што гарэлую спадніцу насіла. Хоць і залавіў чорт крыху, але толькі яно застукала, як па блясе, ды скацілася далоў. Як нёс ён асмін з дванаццаць грэчкі, дык так і сыпнуў пасярод Баркаўцоў. І не абы-якая грэчка была: буйная, ядраная. А чыстая ж! Як вока. Але на ліхое дабро не пагналіся нашы баркаўчане. І на завод ніхто жменьку не ўкраў. Так і асталася ляжаць пасярод вёскі ў капцы, як і пасыпана была. Да таго ж нейкая праціўная, што коні пудзіліся, як блізка вязлі. Ужо вароны — нашто не пераборлівыя птушкі, і тыя не хацелі дзяўбці. Будзе ляцець над самым капцом і ў той бок нават не зірне, пераляціць ды на сметніку дзе сядзе, там сабе чаго пашукае. Каровы тады нельга было вуліцаю гнаць: як толькі да карчмы дойдуць, паўстануць наўкола капца і равуць — бі-забі не адгоніш. А ўночы сабакі з усёй вёскі збягуцца, галовы ў гору пазадзіраюць ды давай галасіць, зямлю драць.

Чыстае згубенне было баркаўчанам, пакуль не ўсхадзіліся вятры. Ну і шалёныя ж былі яны! З хаты выйсці нельга было — чалавека валялі. Дзень пры дні з аўторка да пятніцы дзьмулі. Яшчэ людзям як людзям — от набытак за той час намучыўся. Тры дні ў хляве галодны стаяў — нельга было ні ў поле на пасту выгнаць, ні з току харчы прынесці яму ў хлеў. Замялі тыя вятры чортава насенне пяском — чвырам з дарог, чорнаю тарпавінаю агародаў. За тыя кручаныя дні так спрытна юцуха перамяшала ўсё, што зрабілася зямля такая, як бы і спрадвеку яна на гэтым месцы ляжала. І ад тых дат стала ў Баркаўцох гара проці карчмы на крыжавых дарогах над усе нашы невялічкія ўзгоркі. Суха таго часу зрабілася ў самым патрэбным месцы, дзе чужыя падарожныя людзі заўнімаюцца, як ідуць

у карчму пагрэцца. Часам пад вечар, як з кірмашу едуць, бывае, вялікі завоз хурманак збіраецца тут. Гэта месца на месца тады робіцца падобна. Таму і далі нашы людзі яму прыкладку — «Траецкаю гарою» завуць, на Менск глядзя. А тая грэчка і цяпер на гэтай гары знаць. Дзіва што нешта муляе ў ногі, як босы тудэю йдзеш?! — гэта ж тое чортава насенне. Бывае, што дажджы зверху пясочак прамыюць, дык яно і відаць. Нагнешся, паглядзіш — здаецца, і няма яго нідзе, а ступі, дык і чуваць, што нешта востранькае, маленькае колецца, як грэчка ўсё роўна.

І не адлучыць тут ніяк праўды ад казкі.

От лепей выберам калі вальнейшы час ды адыдземся назад у даўнейшае гадоў на трыццаць, самі таго дзіва паглядзім. Толькі выбірайма так, каб і ў нас вольны час быў, каб выхадны дзень прыпадаў, ды каб і ў людзей была вольная часіна: так выбірайма, каб наш выхадны дзень, ■ іх даўнейшае свята ці які прысвятак у адзін дзень сышліся. Гэта ж тое ведайце, мы на той бок вайны, у старую бытнасць адыходзімся. Людское свята ці прысвятак нам трэба, каб не хадзіць за патрэбнымі людзьмі па полі дый ля дому па ўсякіх закапурках, каб іх не шукаць, замінаць працавітым у рабоце, пытаючы ды шукаючы сабе добрай прыгоды, цікавага слова. Без прыгод працуюць людзі, а здараюцца прыгоды пры рабоце ўсяго ў гультая.

Дабірайма не толькі свята з выхадным днём, але яшчэ і сам дзень каб быў ясны, пагодны. Хмурны дзень, дождж, пацяруха людзей сном спакушае, цяжарам успадае на іх павекі, што позна плюшчыцца і рана расплюшчвацца звыклі. Дабірайма так, каб людзі на прызбах пад лагоднае летняе сонейка ў гурце сабраўшыся былі. Тады і пачуць і ўбачыць можна будзе шмат чаго.

Дык от калі пачуваецеся моцнымі ў нагах, калі не палохае такая далёкая дарога: трыццаць гадоў — не трыццаць вёрст вам! — дык тады давайце пачнём свой абход.

## III

Кажны Заблоцкі, як Юстап, так і Вінцэнты, не толькі сваю долю, але і сваю хату меў. Пра іхныя долі далей яшчэ шмат будзе мовы, а хаты ў абодвух нядэшлыя былі — чуць у духу.

Гразкая вуліца ў Баркаўцох — толькі ўчора прайшоў дождж. Усяго з аднаго вышэйшага, сушэйшага боку на вуліцы дзе-нідзе памошчаны кладкі: дзе за гоні, дзе за двое ляжаць адна ад аднэй. Невялікая з іх дапамога, але часам у самым патрэбным месцы, у самай глыбшай гразі надарыцца каторая і, што чалавек з халявы б вычэрпаў, толькі па костачкі пасаджае ў гразь боты. Абутаму гэтакі ратунак нішто сабе, а босаму і саўсім добра.

Дык от мы сталі проці Заблоцкіх і не ведаем, што тут рабіць. Сталі перад Юстапавымі варотамі і пазіраем на Вінцэнтаў двор. Ён бяднейшы, да яго да першага трэ было б зайсці. Але як перайсці гразкую баркаўскую вуліцу на другі, ніжэйшы, гразчэйшы бок?

І што ж мы зробім? Маючы на Вінцэнтага за яго беднасць лепшую ўвагу, зойдзем перш да большага, шчаслівейшага яго брата, да баркаўскага багатыра Юстапа Заблоцкага. Хай за гэта будзе вінен той даўнейшы баркаўскі валасны суддзя, што пасяліў Вінцэнтага ў такім невыгодным месцы.

«...здаўна шчапаліся Заблоцкія на дзве палавінкі...»

Двух сыноў меў Юстап. Пакінем надалей Пархіма, большага Юстапчыка. Што ты пра яго скажаш, калі ён ніколі дома не стыкаецца. Ужо год пад васемнаццаць бралася хлопцу. Увазнаў дзявочы хвартух, дык — абы вольная часіна — ён на сяло, абы вечар — ён на вячоркі. Толькі тады Пархім дома, як работа ёсць. А што ты скажаш пра чалавека, занятага працаю?! Калі ён не гультай, калі спрыцен да работы, дык без жадных прыгодаў гарыць яна ў яго ў руках. От як ужо ўпыніць яе, або як надарыцца свята!.. Ёсць тады што сказаць пра чалавека: і праўды стае, і прылгаць можна, бо чаго не выкусіць, чаго не прытворыць вольны ад работы чалавек.

Пакінем надалей Пархіма... Мала таго, што ніколі яго няма дома.

Як толькі свята, і ў Баркаўцох Пархіма цяжка злавіць — як звалачэцца дзе ў дзесятае сяло, дык з раніцы да вечара будзе там круціць галаву.

Меншы Юстапаў сын Савоста многа спакайнейшы, можна сказаць, удаўся хлопец. Тады, як сыпаліся агеньчыкі за Юстапаў шчыт, як завялася гара пасярэдзіне вёскі ды шмат усякіх іншых датваралася штук,

Савоста пільнаваўся дому. Не выжвараў ён лішняе з адзежаю. Толькі ў пялёнкі адзяваўся, і добра, хораша яму было. Калі яшчэ маці, Прузына Юстапіха, умітуські спаўе — вунь якая рызыка была малому Заблоччыку. Бо не абы-які той пояс быў: зялёнымі завушніцамі па белым полі вытканы ён.

Пра Савосту ў такіх гадох, на добры лад, і казаць няма чаго: ніякіх здарэнняў не было ў яго, без жадных прыгодаў ляжаў у калысцы. (А любіў Заблоччык здарэнні, не адкінуў бы ён і прыгодаў). Надта ж цікава было малому носам памацаць зямлі, дазнацца, ці цвёрдая яна. (А даўней жа ў хатах падлогі нават і ў такіх багатыроў, як Юстап Заблоцкі, не было). Усё з калыскі Савоста парываўся, каб галавою ўніз цераз край перавесіцца. Ні хадзіць, ні поўзаць не ўмеў яшчэ, а ўжо прабаваў, каб як лятаць паспрабаваць, каб першнаперш гэту хітрасць рабіць налажыцца. Мелася ў яго быць калі-небудзь такое здарэнне, але не праз каго чужога, праз сваю мацеру, ліхадзейку Прузыну, не здарылася яно. Быў ёй дурны страх, што ссадзіць нос малое.

— А-а, люлі!..— бывала, цягне яна над калыскаю сваім нядэшлым голасам.— Люлі, люлі-люліша! Каток дзеткі калыша...— Калі ж ні Прузына, ні каток — ніводнае з іх не дасць плаксіваму дзіцяці рады, тады яна яму забаўку падсуне: сваёю абвіслаю торбаю плаксівы рот закаркуе. Калі ж і гэта не помач — «вováю» пастрашыць, дакляруе старцу аддаць за непаслушэнства. Скажа:

— Ціха, Савостачка!.. Ціха, дзіцятка!.. Спі...

Не было і ў тым ніякага здарэння, што калі надыдзе Ян, дык перад Янам увечары купалле ўсякі раз бывае. Пра гэта нават з песні людзі ведаюць, што «сягоння купалле», заўтра Ян». Год у год так бывае.

І песні на купалле не здараюцца, а павінны быць. На купалле не толькі з песень, але і многа з чаго няма ніякага здарэння. Калі назаўтра, на Яна, пойдзе каторы чалавек поля паглядзець ды ўбачыць у пшаніцы лагво. Не будзе ён дадумляцца, што тут рабілася, як гэта здарылася. Трэба ж дзяўчатам у пшаніцы пакупацца ў купальскую вясёлую ноч. Трэба ж змыць з сябе чарнату, загару свае працы, прыдабыць сабе харашэйшай, бялейшай пшанічнай красы. І не будзе на іх маракаваць змыслы чалавек.

Але пакуль варагі, пакуль купацца ў пшаніцу ціхенька ад хлопцаў уцячы, мелі моду дзяўчаты збірацца на Андруковай прызбе, па-суседству з Заблоцкім.

Да сядзела купалле
на плоце.
Да яго галоўка
ў злоце.

Хоць і любіў прыгоды Заблоцкіх малы, хоць і спадзяваўся на неспадзяванае здарэнне, але баяўся ён гэтай песні. Заплюшчыць вочы, каб тае «вовы» не бачыць, што сядзіць на плоце проці Заблоцкіх акна, і ў хату пазірае. Мелася, на дзяціны Савостаў розум, тут здарэнне быць. От зараз, здавалася малому, здарыцца яно. Зараз «вова» з доўгаю белаю торбаю адчыніць дзверы ў хату, старэчага скажа «пахвалёнага». Дармо, што ў «вовы» галоўка ў злоце, страшная яна, як і гэты доўгі плаксівы голас у песні.

Марная Савостава надзея была: здарэння не здарылася. Уцяклі з вуліцы дзяўчаты сабе пшаніцы шукаць. І немаведама дзе дзелася «вова» з-пад Заблоцкіх акна. Не здарэнне, а чыстая бяда была Заблоцкім з гэтаю пеўчаю прызбаю. Каб гэта было здарэнне, каб урэдкаю: у два, у дзесяць год дый то як пападзецца толькі можна было тут песню сустрэць, тады б адчыніла Прузына акно, на ўзлакотках узаперлася б на падаконнік ды людской весялосці паслухала. Неяк бы ўняньчыла малога, неяк гаварыла б, што нічога тут страшнага няма. Тады і малы прыгледзеўся, прыслухаўся б, сказаў бы:

— Мама, от цаца...

А то прыслухаліся Заблоцкім дзявочыя песні. І не залюбіў малы купалля, [redacted] яго маці «курч» ненавідзела. Бывала, як пачуе ўвечары з вуліцы: «Акончыў курс свае навукі...» — усякі раз не датрывае Прузына:

— Ізноў гэты ненавідны «курч» зяваюць. Ад'еў ён мне вантробы!

Няма на Прузыну сну праз гэты ненавідны «курч».

— Пайдзі ты, бацька,— скажа яна на Юстапа, да багатыра Заблоцкага,— праштыр іх там [redacted] вуліцы: яшчэ дзіця пабудзяць.

І гэта не здарэнне — не раз так было,— што ўстане з ложка Юстап. Ва ўсім белым, ускінуўшы на плечы доўгі кажух, выйдзе ён на двор. Стане ў варотах ад вуліцы.

— Каб вы на жывот зявалі! Каб вам пазачыняла, пазаклададала!

Аднаго «курчу» Прузына цярпець не магла, а Юстап і ўсіх песень не надта ўважаў. Толькі як калі ўвечары з карчмы дадому вяртаўся, любіў з песняю ў сваю хату дзверы адчыняць.

Рада баба, рада баба,
Што дзед утапіўся...
Ліха яму, ліха яму —
За корч ухапіўся!..

Самая вясёлая песня, якую любіў ён.

Не за Юстапаваю бытнасцю, а ў яшчэ даўнейшыя, даўней надта ж шанцавала п'яным на розныя дзіўныя прыгоды. Няма цяпер ім гэтае выгады. Прыстане ідучы каторы: як ужо добра ўлукаткі пойдзе яго дарога. Самлеюць хаджалыя ногі. Абсунецца чалавек на зямлю.

— І ляжы. Чорт цябе бяры! — скажуць на яго людзі, гэта гора ўбачыўшы, даўнейшым словам.

Цяпер на ўзві-вецер ідзе людское слова. А даўней і праўда было, браў чорт п'яных, меў на іх ласку — к сабе ў госці заклікаў. Утоміцца каторы ідучы, дык чорт такога добрага стаеннага каня дасць, што толькі глядзець. А не можаш сам сесці на яго, залішне гарэлкі перадаў, цяжка з сабою падымаць яе — чорт ласку зробіць: падсадзіць. Цалюткую ноч на тым стаенным кані будзе па сваіх маёнтках, па балоце, па куп'і вадзіць. А пад раніцу разгледзіцца, вочы пратрэ чалавек. Сядзіць ён на яловым карчы ці так на якой ламачыне. Плюне, працверазіўшыся, ды пойдзе памаленьку дадому.

— От,— скажа, дадому прыйшоўшы,— са мною прыгода была.

Ого, даўней! Было тады чым п'янаму пахваліцца. Але чакайце, можа, яшчэ што і ў Заблоцкіх будзе. Вы чуеце! Вунь Прузына.

— Ужо сыскаўся, п'яніца,— з свайго запеку сварыцца на Юстапа.

— Тут, сучка! На-цю-на!..

— А што? От зараз...— Вы не глядзеце, што Юстап на ложак кладзецца, як бы ўжо ён знябыўся. Гэта так... Тут нейкая хітрасць.

— Савоста! Савоста!..— кліча бацька к сабе сына.

Савосту ўжо быў шосты год пайшоў. Ужо і ногі, і

язык добрыя ён справіў сабе. Толькі нешта не слухае сын Юстапа.

— Савостачка!.. сынок!.. падыдзі ж, каб ты па свеце не хадзіў!

Не пусціць у паблуд Юстапіха свайго малога.

— От, каб табе язык не служыў! — аказалася яна з запечка.— Гэтак дзіця выклінаць?! Дзе ж: адап'е розум — каб ён смалы напіўся! — ды плявузгае немаведама што.

— Савоста!.. Савоста!..— не перасціхае п'яны багатыр Заблоцкі.

— Чаго, тата? — падыдзе малы.

Ну, зараз нешта будзе! Зараз павінна здарыцца нейкае здарэнне.

— Падыдзі ў гэнай здыхлы папытайся: можа, ёй падаць трэба чаго. Можа, смалу, дзёгаць, можа, газу піць будзе...

Адыдзецца малы, памаўчыць, пачакае крыху, а потым:

— Мама!

— Чаго ж ты, сынок?

— Можа, вам дзёгцю, можа, газы хочацца? Можа, смалы падаць?

— Ах ты, лайдачына!.. Пайдзі ў гэнага п'яніцы папытай,— пакажа на ложак.

А таго п'яніцы, як і ў хаце няма — спіць. Надта ж падкі ён да сну. І праз гэта без жадных здарэнняў зжывае свой век.

Няма чаго нам больш бавіцца ў гэтай хаце. Ведаем ужо Савостава маленства, Юстапава п'янства і Прузынінага непрыяцеля: ненавідны «курч» — і даволі з нас.

— Аставайцеся здаровы,— скажам Юстапу Заблоцкаму, Прузыне Заблоцкай і іх сыну Савосту Заблоччыку. (Не было Пархіма дома, не віталіся з ім і развітацца з намі не прыйшоў ён). Трохі вуліца падсохла: каторы ўжо год, як той успамінаны дождж прайшоў. Перайдзём цяпер на другі бок да Вінцэнтага Заблоцкага.

## IV

Вы чуеце: нешта трумкае ў яго хаце. Гэта Вінцэнты струны нацягвае, робіць з імі лад. Добрая прымета: у чалавека час ёсць — разгледзецца, распытацца будзе калі.

Не спяшаймася ў хату. Заўнімемся крыху на Вінцэнтавым гразкім двары. Пастаім тут ды на меншага, бяднейшага Заблоцкага пакоі паглядзім. Дрэнь, па праўдзе сказаўшы, яго пакоі: не толькі пакояў, але хаты не варты яны — з зямлі шчыт рукамі дастанеш. Некалі гэта Вінцэнтава будыніна не хата, а варывенька звалася. Складаў у ёй той чалавек ад каго Вінцэнты яе адкупіў, па крысе буракоў, бручкі, рэдзькі, капусных качаноў на высадкі, ставіў у ёй кадзь сечанай капусты і кадзь галовак сабе на зіму, цэбар пасоленых агурок гэтаксама меў сваё месца. А перавёз сабе Вінцэнты тую варывеньку, і лепшы яна ў яго знайшла толк: два акны, як далонню закрыць, прарэзаў новы гаспадар, каб крыху блішчала ў хаце, каб ведаць, калі развіднее і калі змяркаецца на двары. Наняў муляра, зрабіў печ і пачаў ад тых дат у варывеньцы жыць Вінцэнты Заблоцкі, пачаў хатаю сваю будку зваць.

Нагінайцеся, нагінайцеся, таварыш чытач! Не надта хаджаламу чалавеку ссадзіць сабе лабэціну ў Вінцэнтавых нізкіх дзвярах. У тры-чатыры пагібелі згінайцеся тут, бо з паклонам:

— Дзіндобры! — Вінцэнту Заблоцкаму і Разэлі Заблоцкай трэба даць.

І ў хату зайшоўшы, не рассядайцеся надта, не раскідайце на бакі шырока, не выцягуйце наперад далёка сваіх цыбатых — калі яны ў вас такія — ног, бо цесна будзе. Вы ж не захочаце, можа, у столь галавою ўпёршыся стаяць, прастарнейшае сабе ў гэтай цеснай хаце выбраўшы месца, бо, калі крыху завысокі, і тут нагнуцца давядзецца.

Можа б, крыху і лепей, прастарней у Вінцэнтага было, каб не печ. Вялікая з яе замінка ў гэтай шчыгульнай, у абляжку збудаванай хаце. Але няма на гэта ніякае рады — не можа без печы абысціся гаспадарскі чалавек.

Меншы Юстапаў брат, гаспадар гэтай хаты, па праўдзе сказаўшы, і не Вінцэнты зваўся, а Вінцэсь. Не малому яму далі такое імя, а дарасламу. З Вінцэся на

Вінцэнтага перахрысцілі, што не абы-які чалавек быў ён у нас, што за сваё гранне і ў Баркаўцох і за Баркаўцамі далёка на свеце славен быў. Дзе толькі людзі чулі што пра нашы Баркаўцы, там і Вінцэнтага зналі. Здалёк ездзілі па яго, каб на веселлі ці на іншай якой вясёлай бяседзе пайграў. Не было над Вінцэся ні здатнейшага музыкі, ні лепшага чалавека. І дзіва тут няма, што далікатнейшае яму здумалі людзі імя.

За вяселлямі ды за ігрышчамі не было калі Вінцэнтаму ні сваёй слімазарнай гаспадаркі глядзець, ні вольна дыхнуць у сваёй хаце. Адно яму ў руку было, што ў пост не толькі на скорам, але і на людскую весялосць пост быў. А даўней шмат пастоў людзі зналі і вялікіх шэсць тыдняў пасцілі ды дробных пастоў усякіх розных яшчэ была чортава гібель: пятроўка, іспасаўка, піліпаўка ды штотыдня серада і пятніцаю. Толькі і жыў у пасты Вінцэнты — ніхто да яго тады не сляпіўся.

Надта ж мяккі Вінцэнты на далікатнае слова. Не можа ён нічога чалавеку наперакор сказаць. Гатоў кінуць сенажаць някошаную, сена нягрэбенае, кінуць жыта нязвезенае, а ўкруціць цымбалы ў абрус, сесці чалавеку на воз, калі здалёк той па яго прыехаў, ды й махнуць з Баркаўцоў. Толькі яго тут і бачылі! Адно пыл закурыць.

Гіне Вінцэнты.

Гіне праз свой дур.

Не любіў ён рыбы ні лавіць, ні есці. Не любіў, але мусіў.

— Хто яго ведае, недзе як звалокся, дык от ужо другі дзень як дома няма,— маніла Вінцэсіха прыезджаму чалавеку, што распытваўся ў яе:

— Дзе ж ваш чалавек! Можа б, ён паехаў пайграць нам.

А Вінцэнты гэтым часам, каб ад абрыджонага чалавека адкасніцца, браў дзве вуды ды, туляючыся, па загароддзі ўцякаў на рэчку.

Закіне Заблоцкі сваё рыбацкае начынне ў ваду. Падапрэ плячыма старую збуцвелую алешыну, сядзе конна на яе карэннях, што павымывала ў паводку вада. Сядзіць і думае цяжкія думы пра свой марны лёс. І ні разу ён на паплавок не зірне: схаваўся той ці наверсе на вадзе ляжыць. Каб завялася ў баркаўской рацэ дурная рыба, каб дарэшты высахлі яе невялікія

мазгі, каб наважыла яна сябе са свету збаёдаць, дык от — як мела вешацца — магла б зачапіцца на Вінцэнтаў зазубень [1], тут сабе смерці пашукаць. Цяжкі быў бы канец таей рыбе. Давялося б ёй згнісці на Вінцэнтавым зазубні, пакуль бы той агледзеўся, што нешта злавілася ў яго. Толькі не вядзецца дурной рыбы ў нашай рацэ. І не ловіцца нічога ў нашага музыкі. Ды дзе там будзе брацца што на яго зазубень, калі Вінцэнты часта не толькі пра рыбу, але і пра чарвяка забываўся. Нічога не зачапіўшы — без ніякай прынады закідаў ён у ваду рыбіну смерць.

Не ўлову, а пераказу чакаў ухвалёны музыка. Чакаў, калі прыйдуць з дому весткі, што паехаў далей сабе патрэбнага чалавека старацца той музыкаў страх. Не лавіць, а каб самога не ўлавілі, рупіла яму. Гэтага баючыся, гатоў быў Вінцэнты праседзець на альховых каранёх суткі-двое...

Гэтак аднаго разу нешта Вінцэнты на гумне рабіў. Бачыць ён, што нейкі чалавек у варотах прывязвае сівога каня. Да гумна плячыма адвярнуўшыся стаяў той чалавек. Не пазнаў яго Вінцэнты: знаёмы, ці блізкі, ці далёкі там быў. Не было калі Заблоцкаму разглядацца, пазнаваць — барзджэй на перадточча ўцёк, за калашнёю схаваўся, пачакаў, пакуль той у хату зойдзе. Не было ў прыезджага чалавека вачэй у патыліцы, а сядзелі яны ў яго, як і ва ўсіх добрых людзей, у лбе, і не згледзеў ён на гумне Вінцэнта Заблоцкага.

От Вінцэнты, не заходзячы ў хату, нічога нікому не кажучы, каля пограба расстараўся сабе кашаля ды махнуў па загароддзі ў графшчыну ў грыбы. Аднак у яго там ляснік быў знаёмы: калі дзе і стрэнецца, не будзе білета пытацца, не здзярэ жакеткі, не адбярэ кашаля, што не мае Вінцэнты ад графа карталюшкі, дзе б адзначана было, што за грыбы, за ягады рубель заплачан у двор гэтага года; не будзе з Вінцэнтам ляснік сваёй службы глядзець, а дружбу ён успомніць: стане ды лагодна, як добры чалавек, пагаворыць; пойдзе, куды ішоў, пагаварыўшы.

Як пайшоў тады ў графшчыну Вінцэнты, дык там, у грыбох, і траха японскае вайны не прахадзіў. Так прыпазніўся ў лесе. Грыбы збіраць — не рыбу лавіць. Любіў наш музыка гэту работу. Да самага змроку па-

[1] Зазубень — кручок.

даў ён па гушчарох, абыходзіў аднаму яму вядомыя грыбныя мясціны, дзе баравікі, як рэшатам накрыць, і каралю сваіх шапак зняць не хочуць: смела і горда трымаюць іх, з густога моху наверх на віднейшае месца павылазіўшы. З аднымі толькі баравікамі нізкімі паклонамі вітаўся Вінцэнты. З моху, з спрадвечнай глушы памагаў ён ім, крамачом, крыху знізу падважыўшы, вылезці, убачыць большы, далыпы свет. Даваў ім Вінцэнты лепшае: адборнае, не чарвівае, маладое таварыства ў сваім кашалі, памаленьку, як добрых паноў шануючы, саджаў іх туды. Усякімі варыстымі грыбамі: суравежкамі, зялёнкамі, лісіцамі, апенькамі не паганіў ён свайго кашаля і баравіковага таварыства. Не браў і казлякоў, махавікоў, бабак, падасінавікаў. Будзе ісці і, калі трапіў яму такі грыб пад нагу, не абміне, растопча.

Да самага змроку забавіўся ў лесе музыка. Шараю гадзінаю выйшаў ён у шчыры бор з маладняку. І не шум баравы яму ў гэтым бары па японскай вайне. Знаёмымі сцежкамі папацёмку пасунуўся ён дадому.

На ўпартага чалавека нарваўся гэтага дня Вінцэнты Заблоцкі. Не ўцёк-такі ад яго просьбы. На сваё гумно прыйшоўшы, бачыць ён: адчынена адна фортка варот у таку. Ідзе ён бліжэй і чуе: нешта ці нехта паконску хрумкае там, у будынку. Калі ж Вінцэнты, гаспадаром быўшы, абедзве форткі адчыніў, лепш тады і больш пачуў і ўбачыў ён тут. Стаіць у яго таку тая самая, што перша, як адыходзіў у лес у грыбы, бачыў каля сваіх варот, сівая кабыла. Да чужой, здэцца, крыху знаёмай каламажкі прывязана яна, цягае папоўніцы зялёную, толькі што скошаную канюшынную атаву з перадка. Уцякаў Вінцэнты, ажно — на гумне жончын і нечы другі, крыху знаёмы, голас,— сам ён у рукі прыйшоў.

Ды ці мала ў музыкі крыху знаёмых каламажак? Прыгледзеліся яны Вінцэнтаму. Ды ці мала ў музыкі крыху знаёмых галасоў?! Прыслухаліся яны Заблоцкаму.

— Ну й толькі бяды. І паеду, і пайграю...— сам сябе цешыць ён.— Што гэта мне, цяжка?

Ажно, як зайшла Разэля з незнаёмым чалавекам у ток, бачыць Вінцэнты, што і туляцца, уцякаць яму няма ад каго. Той незнаёмы і надта знаёмым зрабіўся. Быў ён не хто чужы: Разэлін брат, Вінцэнтаў швагер

Алесь з Копанаўшчыны. Прасіў ён Заблоцкага, каб швагерцы вяселле пайграў, а Разэлю прасіў за сваціянку на сястрыно вяселле прыехаць. Прасіў перш Алесь Разэлі, каб яго просьбу пераказала Вінцэнтаму. А потым Разэля Алеся папрасіла яе Вінцэнтага заўтра рана на вакзал падвезці.

— Няма як яму, Алеська, на вяселлі быць. Сягоння казалі: у войска ісці трэба.

Падрадзіўся Алесь зрабіць сястры гэту ласку. Астаўся ён начаваць у Заблоцкіх, каб заўтра рана, з певунамі разам, устаць ды, пакуль развіднее, на вакзале быць. Даўней рэдка калі ездзілі на машыне нашы баркаўчане,— пары не зналі. А наш чалавек надта ж баіцца, каб хаця на тэрмін не спазніцца.

Гэта ж таго дня, як сышоў Вінцэнты ў лес у грыбы, быў надвечар сход у Баркаўцох. Ужо даўно недзе далёка, недзе на свеце было некаму горача ад вайны, як ад добрай, цяжкой работы. А ў Баркаўцох і мала знаку ад таей далёкай калатні. Даняло людзям толькі, як у воласці загад прыйшоў, што адзін год — той, з якога Вінцэнты — бралі ў войска японцаў біць. Прачытаў на сходзе валасны старшыня той загад. Так ён тады яго начытаўся, што аж галава круціцца пачала і ў вачах кругі пасталі. Адны вялікія літары, і то добра падумаўшы, разбіраў даўнейшы баркаўскі валасны старшыня, а такія, як у тым загадзе, у яго ўсе былі падобныя адна на адну. Дрэнныя, не памятушчыя меў ён вочы, нясклaдны, клышаногі язык, але затое прабеглы быў пісар у старшыні. Як толькі большае начальства скончыла чытаць, тады меншае — пісар — чытаную, але не разабраную мову падхваціла: пераказала яно нанава ўвесь загад, сказала па імені, каму з баркаўчан ісці трэба і што заўтра ўсім «памянёным» трэба рана на вакзале быць. Потым яшчэ нагаварыў пісар шмат чаго ад сябе. Самае ж галоўнае — пра шапкі.

Канечне, тады рускаму цару,— як пісар казаў,— захацелася японцаў шапкамі закідаць, а то яму тады перад другімі царамі будзе не гонар. Гэта слова добра забавілі баркаўчане, а далей пісаравай мовы яны добра не разабралі — надта ж хуценька гаварыў: ці тыя шапкі будуць казённыя ў войску даваць, ці свае з дому браць трэба — не ведалі.

Вячэраючы, расказала Разэля Вінцэнтаму, што чула на сходзе. А калі яна дзе на якім цераз лад хітрым

слове ўвапрэцца, там брат ёй мала чаго лепей паможа.

— Можа, гэтак? — папытае.

Паглядзеў з-за стала Вінцэнты на сваю шапку, што ў парозе вісела на круку. Сам Заблоцкі — мужык, а шапку шляхечую насіў. Малая яна была ў яго. Верху чуць завад. Дзе ты гэтакімі шапкамі японцаў закідаеш?!

На аднаго японца іх трэба незлічоны лік, а дзе тых шапак на цэлае войска набярэшся?!

От каб такія шапкі патрэбны былі, што імі можна б было ад японскае кулі сябе засталучыць! Такой бы шапкі сабе наш чалавек і ў войску б выстараўся і з дому б узяў, каб меў. А то — японцаў закідаць?! Некаму надта галава баліць, што цару не гонар будзе?! Што нашаму чалавеку цар — сват, брат ці за адным сталом гарэлку піў з кім у Воркавай карчме?

V

Невялікая сям'я ў Вінцэнта Заблоцкага. Назаўтра, як прыйшлося развітацца, дык і няма з кім. Адна Разэля. От ужо чацвёрты год па вяселлі пайшоў, чацвёрты год, як Разэля з Ткачышкі на Заблоцкую перабіжмавалася, з Конапаўшчыны асталася сюды, у Баркаўцы. Не было ў іх хаце ні разу смерці за гэтыя гады і ані сям'я не пабольшала. На адны грыбы ды на сваё абрыджонае гранне быў майстар Вінцэнты.

— Аставайся здарова ды не журыся надта,— сказаў ён Разэлі на ад'ездзе.

Селі яны ўдвох з Алесем на воз ды паехалі.

Адна Разэля доўга стаяла ў варотах, уцірала ражком хусткі вільготныя вочы.

А быў якраз ветах. Пад раніцу была відная ноч. Ехалі яны і маўчалі. Вінцэнты пазіраў у адзін бок, Алесь у другі. Першы, унурыўшы ўніз галаву, заўважаў, іншай, лепшай работы не маючы, як вобмацкам пад граззю шукае сабе кола цвярдой дарогі — расхінае грязь на бакі, каб другому, хто потым па гэтым месцы будзе ехаць, спрытней было. Другі на бакі глядзеў, дзе што ў каго пасеяна было: дзе якое ржышча, дзе якая — мяльчэйшая, глыбейшая — ралля.

— Што гэта ў вас за чалавек ёсць, што яго поле аблогам ляжыць? — пытае Алесь, Вінцэнтаву ніву ўбачыўшы.— Хто ён — кравец, шавец ці стэльмах які?

— Ды гэта не хто далёкі — сусед мой. Не шавец, не кравец ён, а закройшчык: кроіць хлеб на лусты, калі ёсць на стале. Праз паганы свой талент ды праз дурную натуру ўрабіць зямлю не паўздужае. У арэнду яе выпусціў. І добры гаспадарок яму ў пасэсары трапіў. Дзірванок. Можа, чулі калі такое прозвішча?

Шмат баек мае Вінцэнты пра свайго пасэсара. Любіць іх час-часом людзям у вясёлай бяседзе расказаць. Згадзіліся яны яму і цяпер, у ранняй дарозе. Хваліць Дзірванка, аж падсмакуе.

— Ого! Што за гаспадарок — Дзірванок! Нізенькі ён такі, шэранькі, як верас, што на дзірванох расце. А працавіты, стаpанны чалавек. Ніколі не хоча, каб маё перайшло, а мне кожан раз свайго перапусціць.

— Змыліўся Вінцэнты ды чужога, суседава Дзірванка сабе прысвоіў. Ён мне і авечкі на сваёй арэндзе папасе, і хвоек на будыніну загадуе. Згніе хата, дык я ў яго дачы дарам бярвення вазьму. А што дровы секчы, дык хоць сягоння едзь. Казаў: «Ні білета, ні платы — нічога не трэба. І аб'езчыка не будзеш чакаць, пакуль адбіць змоліцца. Без ніякага адбою вязі, і ніхто табе слова не скажа».

На баркаўскім чвыраватым полі Дзірван лёгка ў арэнду бярэ. Гадоў на два запусці ніву, дык ён чабарам, верасам яе засее, хвоек панатыкае, а дзе-нідзе і маладзенькіх бярозак к сёмусе на май панасаджае. Гадоў за колькі свой лес загадуе.

Не ў аднаго Вінцэнта хвойнік на нівах, не адзін ён знаецца з Дзірваном. Шмат абложных ніў траплялася ім па дарозе. Але такі Вінцэнтава адмянілася ад усіх. Дзе толькі ёсць яго нівы, адразу кожную пазнаеш. На іх пасэсар такія хвоі пагадаваў, што з гора і на хату дабры, а ў Вінцэнтавых суседзяў усяго на калатоўку.

— ...не журыся надта,— казаў Вінцэнты сваёй Вінцэсісе, Разэлі Заблоцкай. Тады, у варотах стоячы, як уцерла яна ражком хусткі вочы, дык ад тых дат ніколі болей росныя не былі яны ў яе. Нешта не відаць было на Разэлі, каб яна не то што надта, але і хоць крыху журылася.

Адна была паехала на сястрына вяселле. Не было ёй болей з кім ехаць. Там, за сваццянку ў бяседзе пасядзеўшы, нагледзелася яна на маладзёж, на старых, даходных людзей. Наглядзеў жа і Разэлю на тым вяселлі адзін пажылы шляхцюк з блізкага засценка, з Ігнатоў.

Неяк жа загнала яго сюды ў вёску, у мужыкі?! Хоць з Копанаўшчыны ў Ігнаты і тры вярсты не будзе, але засцянковыя з вясковымі не надта зналіся, і мусіла Разэля, даўнейшая копанаўская дзяўчына, у таго шляхцюка, як першы раз ён загаварыў да яе, папытаць:

— Адкуль самі, пане?

— З Ігнатоў.

— А хто ж вы?

— Пан Ігнась.

Далей разгаварыўшыся, болей разазнаўшыся, яшчэ Разэлі цікава было:

— Як жа ж ваша, пане, прозвішча будзе?

— Пан Стусінскі.

Не толькі імя, прозвішча і асядласць, але і яшчэ шмат чаго ведала Разэля, з шляхціцам пагаварыўшы. Як у сватох усё роўна, пахваліўся ён, Ігнась Стусінскі, што пяцёх парабкоў, тры наймічкі і сваёй сям'і два чалавекі: старога бацьку і малога, год пад дванаццаць, сына мае ён, што пазалетась, крыху раней гэтай пары, пахаваў ён жонку, што не шанцуе яму з жонкамі; надта ж не даўгавечныя траплялі шляхцянкі: адна і году не выбыла, другая крыху крапілася, ды й тая от далася.

— А папрабавалі б вы, пане Ігнась, з простага стану сабе жонкі пашукаць?!

За гэта Разэліна слова надта ж ахвотна хапіўся Стусінскі.

— Тут, проша бачыць...

Далей дазналася Вінцэсіха, што былі ў Ігнася найміты, але не было з іх ды над імі старшага, не было паверонага чалавека, не было каму даследзіць, дзе хто ступіў, як што зрабіў, пaглядзець, каб не падседзеў каторы гаспадарскага дабра.

— От, як вы казалі, з простага стану...— у далёкае пачаў залазіць Ігнась Стусінскі.

— О, не! Дзе вы бачылі!..— пра людскія языкі нешта ўспамянула Разэля.

— Дык можна як бы адвод даць... Можна згадзіцца: колькі рублёў на год. А як што калі наўзвыш, дык гэта — гасцінец.

Вінцэнты і ў сваты прыехаўшы гэтулькі не пратрымаў сам-насам Разэлі, у сенцы ўдваіх выйшаўшы, колькі цяпер шляхціц тут, на сястрыном вяселлі, у сенцах з ёю забавіўся.

Добра Разэлі гулялася гэты раз. Вясёлая па вяселлі прыехала яна дадому ў Баркаўцы. Новыя парадкі тут пачала ўстанаўляць. Пайшла да свайго дзевера, да Юстапа Заблоцкага, ды й кажа:

— Бярэце, што вам трэба... Рабеце, як вам будзе лепш...

На гадоў сем старэйшы Юстап за свайго брата Вінцэнтага. І ніяк на яго па гэтай старасці не можа Вінцэсіха «ты» сказаць. Гэтак было, як разам яны ў аднэй хаце жылі. Не змяніліся і потым, падзяліўшыся. Толькі не любіла Разэля большага Заблоцкага лішня павелічаць, і мала калі яна гаварыла з ім, але цяпер пагаварыць нехаця давялося.

Зямлю і ўвесь чыста будынак прыпаручыла дзеверу Разэля Заблоцкая, а сама сабрала ўсё патрабнейшае: што ў куфар зложыла, а што ў клункі пазвязвала. І ўсё паглядала ў канец вёскі, цераз плот на вуліцу перагнуўшыся... Усё некага чакала адтуль.

І не марнае Разэліна чаканне было. Неяк неўзабаве прыехаў на пары коней у вялікіх багатырскіх карах Ігнась Стусінскі. Паклікала Разэля Юстапа з большым сынам, з Пархімам. Паставілі ўчацвярых цяжкі, пад самае века напакаваны, куфар на воз. А клункі, вандзэлкі ўжо яны і ўдваіх — Разэля са Стусінскім — зложылі на кары. Пустую хату насцеж кінулі яны — палenaваліся зачыніць. Сеў Стусінскі ў передку коні кіраваць, села ззаду на тых карах Разэля. Смеючыся, паехала яна на засценак.

Там, на засценку, Разэля не то за малодшую пані, не то за старэйшую наймічку асталася. Не было ніякага над ёю прымусу.

У новых вастраносых, на скрыпох, чаравіках пахаджвала ў Стусінскіх каля дому. А збрыдае прыглядзіцца ёй каля дому ходзячы, пойдзе на поле па межах паспацыраваць, паглядзець на шырокія пакупшчыцкія [1], паўпанскія нівы.

Не мужычаму раўня шляхечы, паўпанскі хлеб. Добры, смачны, на сіта сеяны ён. Спадабаўся гэты хлеб Разэлі Вінцэсісе, і не знала яна ў ядзе меры, а гэта не дзе дзелася — сыцець пачала Заблоцкая. Што далей жыла яна на засценку, то ўсё меней бачыла, стоя-

---

[1] Пакупшчыкі — багатыры, што адкуплялі ў паноў поле, як тыя прапіваліся ці у карты прагульваліся.

чы, свае дзябёлыя ногі. Нарэшце і саўсім яны недзе прапалі, схаваліся з яе вачэй. Не скупы быў Ігнась Стусінскі. Не толькі сыць, але і шыршыя, прастарнейшыя справіў Разэлі строі. І з выгляду і з адзежы пасля гэтых падарункаў чыстая пані з Заблоцкай была. Цуралася яна ўжо знаёмых людзей, ні мужыком, ні мужычкам не находзіла на вочы. Калі ж не ўсцеражэцца ды дзе стрэнецца з кім, дык ніякага далікацтва не зналі баркаўчанскія лапцявозы,— як Разэля на засценку навучылася іх зваць,— так і распачынаюць пра Вінцэнтага абрыджоную мову.

— Налажыў недзе галавою, бедны, на японскай вайне,— казала Разэля, спадзеючыся на такое здарэнне, радуючыся яму.

Не вёўся бусел на Заблоцкіх грунце[1]. І не было ніякага прыросту ў Вінцэнтавай хаце. А ў Стусінскіх на засценку было гэта шчасце: высока ■ бярозы за адрынаю бусел на хату пазіраў. Мала бусла, дык яшчэ сава яму ў помачы была. Падлятала яна сюды на засценак, садзілася ў Стусінскіх на вішні ці на клёне перад хатаю ды й распачынала свае жаласныя песні дзікім голасам пець.

Баркаўскія брахлівыя людзі пра гэта як у звон білі б, каб пачулі савіныя песні на чыім грунце, але і гжэчныя засцянковыя шляхта хоць цішэй, далікатней, але, пагаварвалі, што:

— Гэта, вашэці, не так...

— Дзе бачылі, панства?! Гэта на нешта варожыць.

І праўда: неяк з панядзелка на аўторак, пад дзень:

— Куга-а!..— у Стусінскіх у хаце аказалася.

— А што! А мы не казалі?! — смялей, мацней загаварыла тады гжэчная шляхта.

Ажно тут і па вайне было. Не сабраў рускі цар шапак, колькі яму трэба было. Паглядзеў на японцаў — шмат падлаў сабралася. Нічога ім не зробіш. Не памаглі краўцы шапачнікам і не нашылі тыя шапак, колькі на вайну трэба было.

— Бярэце,— кажа тады рускі цар на японцаў,— што вам трэба, сядзеце там на сваіх выспах сціхатою. Смела закідайце сабе ў мора свае вуды. Я і слова не скажу. Калі дзе й мой шчупак на ваш зазубень возьмецца — толькі таго! Ці я гадаваў яго?! Гэта от, каб

---

[1] Грунт — надзел зямлі.

час выпадаў... Але няма калі мне з вамі капацца. Унь ужо дома ў мяне самаго папараваць пачалі.

Везлі Вінцэнтага на Амур-раку. Мелася быць з ім такое здарэнне. Але заспяшыліся з мірам. З паўдарогі вярнулі Вінцэнтага назад. Так і не давялося яму на Амуры пабыць, паглядзець далёкай незнаёмай ракі. Не здарылася з ім гэтага здарэння.

Не толькі не меў Вінцэнты здарэння ў дарозе, але і сама дарога мала ў памяці яму: праз Сібір ехаў і — ці дасцё веры? — Сібіры не бачыў ён. Зімою гэта было. Вокны ў вагонах тады парабіліся, як медзвядзі, на корх, калі не лепей, панамярзала лёду на іх. Дык Вінцэнты ад першай станцыі, дзе загналі іх у цялятнікі, як лёг спаць — толькі пад'есці ўставаў са свайго кутка. Мала было нашаму Заблоцкаму гэтага шчасця, сну — у Баркаўцох: за вяселлямі ды за йгрышчамі ніяк не мог ён сагнаць з яго ахвоту. А ў цялятніку добра было гэтаю работаю заняцца. Тузала сабе на станцыях, пакалыхвала ў дарозе — як дзіця ў калысцы, толькі радасна праз сон расхінаў Вінцэнты ў шчаслівую ўсмешку свае лепяшыстыя таўстыя губы. І не чуў ён нават, калі зрабілася замарачэнне мазгоў яго дарозе, калі закруцілася ды пайшла яна тым самым следам назад. Так і не спраўдзілася Разэліна надзея. Уратаваўся сном Вінцэнты ад усякіх благіх здарэнняў: не чуў і не бачыў нічога ў дарозе.

— Ну, тэ-э!.. Уставай! — капянуў яго ўзводны, як Маскву міналі. І пачуў Вінцэнты ізноў над сабою вайсковую дысцыпліну. Борзда прахапіўся, на ногі стаў.

— Га? Што? — добра шчэ не раскурстаўшыся, збіўшыся з тропу, па-вясковаму пытаўся ваяка Заблоцкі.

Пратрымалі яго яшчэ крыху ў кашарах недзе ў Расіі ды пусцілі дадому.

Прынёс Вінцэнты з тае праспанай вайны шынель, цяжкую салдацкую зімовую шапку і новыя, моцныя боты. Не з пустымі рукамі вярнулася тады і Разэля з засценка. Прынесла яна ў лубку сына, на нагах вастраносыя чаравікі на скрыпох і далікатнае з засценку прынесла сабе імя — Рузя. Тры рэчы прынёс кажан сем'янін дадому.

Потым, як сын крыху падкачаўся ды пачаў распытвацца, што тады было, як яго не было, і як ён у Заблоцкіх завёўся, усякі па-свойму тлумачыў малому яго паходжанне. Адны ў гэтым мацеры давалі боль-

шую заслугу, казалі, Разэля, агарод полючы, у градзе пад капусным лістом яго знайшла. Другія бацькавай трымаліся рукі, што ён тут большы прычынец: казалі, бог Вінцэнтаму, як ён жыта рассяваў, гатовага хлопца ў сяўню з неба скінуў. А пра бусла, пра засценак ніхто і слова не сказаў малому. Не любілі ў Вінцэнтавай хаце гэтакай гаворкі.

З дваіма віталіся, першы раз адчыніўшы ў гэту хату нізкія дзверы. З траіма цяпер развітвацца давялося: з Вінцэсем, з Вінцэсіхаю ды з малым Юлікам-самасейкам.

— Бывайце здаровы, жывеце вясёлыя! Пабылі б болей. Не ганьбуем вашай нізкай, цеснай хаты. Але няма часу. І так доўга забавіліся... За гэтыя гады, што мы з вамі ганьдзюрылі, падгадаваў меншага свайго сына Юстап Заблоцкі. Ужо гэты год мае ён выправіць яго ў школу. Дык от зойдзем да іх паглядзець: ці не здарыцца там, часам, якога здарэння.

Калі дзе гадоў колькі забавімся, няма чаго гэтага шкадаваць. Не далей ад дому, а бліжэй пад дом, пад свой час, усё бяромся мы.

## VI

Каму вайна, каму далёкі Амур, а Савосту гулі. Занаравіліся тады былі нешта людзі — не пайшлі ў двор да графа на работу. Ні за якія грошы не хацелі на нескарбовым полі класці сваю працу. Дзейкалі, што недзе — не то па лясох, не то па вёсках ходзяць нейкія сацыялістыя. Цікава і боязна людзям было. А малому Савосту ўсё гэта не ў галаве, а як крыху пабольшаў — не ў памяць. Не ў людскія гаворкі ўслухацца, углядацца ў завaруху, а на печы грэцца ён малы любіў. Такое запячкоўскае ў Юстапа ўдалося дзіця. Любіў Савоста ў доўгі зімовы вечар прыскіліўшыся з печы з-за коміну на агонь пазіраць. Цікава яму было, як ад лямпы ідуць вострыя пасмы аж у самае вока. Ды яшчэ, як днее ці вечарэе і няма ў хаце агню, гэтаксама прыскіліўшыся, любіў ён на вазоны ў вокнах пазіраць. Цікава было, як там з лісцяў насатыя ды гарбатыя людзі складаюцца. Сам сабе, адзін знаходзіў забаўку Заблоцкіх малы.

А ўлетку, як ударожыўся на сяло хадзіць, як увазнаў «коні», не то што каб у старэчыя гаворкі, у шэп-

ты пра забастоўкі ды пра сацыялістых услухоўвацца, але і есці кінуў Савоста дадому хадзіць. Прыбяжыць, як выгаладаецца, аддзярэ скарынку ад хлеба — у руку схапіў ды кулём ляціць на вуліцу, на сяло. Няшчасная тады булка хлеба была ў Юстапавых на стале — з абодвух бакоў абадраная.

На другое лета ўжо завялік быў Савоста на «коні». Ужо адгуляў у іх. Рэзаў ён цяпер у «пікара» з ранку да вечара. «Пікар» быў на выгане, свінні пасучы, «пікар» не змяняўся і дадому прыгнаўшы. Гульня не змянялася, а лета на восень змянілася хутка — і не агледзеўся Савоста, калі гэта здарылася. Ды не толькі ён, але і бацькі не агледзеліся, калі надышлі пакровы. Гэта ж свята людзям, у каго малыя ёсць, пра школу рупясць давала.

— Трэба і нам свайго малога выправіць. Як ты думаеш, старая? — папытаўся Юстап у Прузыны, на пакровы снедаць за стол сеўшы. Ён, як не быў п'яны, заўсёды пытаўся ў жонкі парады: як лепей зрабіць. Як сам хоча, так, бывала, зробіць Юстап, але папытае:

— Што ты на гэта скажаш? Як параіш?

— Як сам знаеш. Па мне — выпраўляй сабе,— дала Прузына свой спрадвечны адказ.

Юстапа некалі дарэктары вучылі. Рускія і польскія вялікія літары ён знаў. Так і гэтак, калі дзе надта пільна прыйдзецца, распісацца мог. Некалі, як Юстапа вучылі, дарэктар, як пастух, па чарзе з хаты ў хату, хто гадзіў яго свае дзеці вучыць, пераходзіў. Тыдзень за дзіця дарэктара карміць трэба было. Тыдзень у таго чалавека ў хаце збіралася школа. А тады далей школа і дарэктар ішлі па чарзе. Цяпер жа многа начай было. Паставілі цеслі проці паповага дому школу. Туды штораніцы беглі дзеці з Баркаўцоў і з блізкіх вёсак. Не па хатах ад'ядаць за малых хадзіў настаўнік, а быў яму ў школе зроблены асобны комар, і там ён сабе на казённай пэнсіі быў.

— Ну, Савоста? Як ты на гэта? Пойдзеш вучыцца? — зрабіў прыклёп, папытаўся Юстап у малога.

— Чорт яго! Хто ж тады нам каровы адпасе?! Ды вунь і авечая чарга блізка. Пакуль адбудзеш сваю рату за пятнаццацера штук, дык і ў школу хадзіць будзе не пара.

Добрыя, моцныя прычыны былі ў Савосты, каб у школу не хадзіць. А самую большую, самую мацней-

шую прычыну такі ўтаіў малы Юстапчык. Не прызнаўся, што — па праўдзе сказаўшы — ён ужо чытаць-пісаць і ўмеў крыху. Цэлыя тры літары на памяць вывучыў свінні пасучы і так добра ўмеў з іх слова зла жыць, што і настаўніку б не было чаго ў Савосты паправіць. А пісаць гэта слова быў так шчыра ўзяўся, што як папаў сцізорык, ніводнай прысады цэлай не асталося. На кожным клёне, на кожным ясені Савосты пісьменнасць была знаць. Толькі не пахваліўся ён бацьку гэтым сваім умельствам. Пабаяўся, каб Юстап не адлупіў папругай за такую навуку.

— Чорт яго пойдзе! — толькі Савоста сказаў.

Але заўтра, на другі дзень па пакровах, як узяліся маці за скарач, бацька за папругу — бачыць Савоста, што большага, лепшага праваду чакаць яму боязно. Абуўся ў патапцы ды пацісnуў ціхенька за дзверы.

Школа стаяла на выгане, пры рэчцы. Рабілася гэта, каб настаўнік надта з мужыкамі не братаўся, каб менш яны яму на вочы находзілі, каб надта не загаварыўся з імі, ■ больш, каб дармовыя дадаткі да «Нивы» чытаў ды на рэчку, на хараство прыроды ўглядаўся. Напроці школы і папоўскі дом быў — акно ў акно. Гэта ізноў з розумам зроблена было: каб часцей пападзянкі ў настаўніка на воку былі, каб — як прачытае адзін дармовы дадатак ды пакуль за другі возьмецца — было яму сякое-такое разгарненне. Трэба ж вымеркаваць так, каб не саўсім здзічэў чалавек у адзіноце, над дармовымі дадаткамі крукам гнучыся.

Як зімою, дык перш вуліцаю, а потым гасцінцам дарога ў школу. А ўвосень, пакуль няма снегу, па загароддзі ў школу многа прасцей і бліжэй.

Выбачайце, таварыш чытач. Можа, вам і нязручна цягацца за маімі абрыджонымі героямі ўслед. Куды яны толькі не звалакуцца?! От як цяпер Савосце: у такую гразкую мясціну ён нас завёў! На загароддзі на заручычах — як у нас завуць,— кудою ён у школу пайшоў, нязвыкламу чалавеку надта ж дрэнна: росна, гразка, абы ступіў — зараз жа рыжая вада з рудою набягае ў твой след. Дрэнна вам, таварыш чытач, ісці за маімі героямі следам — сам гэта ведаю, але нічога іншага парадзіць не магу,— дрэнна, калі вы, часамі, у чаравіках. Сапсуяце дарэшты свой абутак. Не залюбіць ваш хром баркаўскіх заручычаў — гэта

добра ведаю — назаўтра ж паколецца, патрэскаецца і на сметнік папросіцца ён у вас. Не толькі хрому, але і панчохам будзе дыхту. Я пэўны, што цераз халяўкі наберацe вады поўныя чаравікі.

Выбачайце мне, таварыш чытач! Ну што я зраблю?! Ну чым я тут папраўлю?! Зямлі ж у закаладку не зложыш, каб гразкія, мокрыя мясціны схаваць, каб толькі пасуху хадзіць. Не памыкайцеся пра меліярацыю распачынаць гаворку! Я гэта ведаю. Але вы, мусіць, забыліся, як далёка адышліся мы. Забыліся, што яшчэ перад вайною ходзім мы па гэтых заручычах. Дзе тады, скажыце, тая меліярацыя была?!

А ведаеце, праз каго псуецца ваш хром? Хто тут вінен, калі самакрытычна да гэтага пытання пічыльна — лоб у лоб, як цеслі кажуць — падысці? Мае героі. Цераз лад яны ўпартыя ўдаліся. Не павядзеш іх па навозах, дзе лепшая, сушэйшая дарога, калі яны ведаюць, што тудою далей, кружней.

Ды ўрэшце, гэта як хто хадзіць умее. Вы папсавалі сабе хром, а Савоста ў патапцах — такіх лапцях з сукачоў — перайшоў, як чэрці яго перанеслі: ані ног не папрамочваў. Бо ён дарогу ведае, ведае, дзе ступіць, каб на кладку, што зверху мохам зарасла, трапіць. Ані не знаць кладак на заручычах нам з вамі, а Савоста ведае, дзе каторая ляжыць.

Толькі выйшаў [redacted] западзі на ўзгорак Савоста, ажно там пад Заблоцкіх бярозаю стаіць Язукоў Клемка з лемантаром. Прыйшло на Клемку безгалоўе — ненавідная восень. Выганяе бацька з хаты. Нешта ж надумаўся Язук Філончык. З сына чалавека зрабіць захацеў. Ды дзе там з Клемкі чалавек будзе, калі ён, малым быўшы, запыў сабе розум. Бывала, абы вырваўся гузік, не меў ён моды даць мацеры ўшыць, а сам возьме нітку, сам завалачэ ў іголку і на сабе, нічога ў зубы не ўзяўшы, верне гузік на яго даўнейшае месца. Ушые ды яшчэ і памацуе: ці моцна сядзіць.

Абы прыйшлі пакровы.

— Пайшоў у школу,— чуе Клемка назаўтра ранічкаю.

Далася добра Філончыку школа ў знакі. Кажан год чакаў яго там злосны баркаўскі настаўнік Зубрыцкі, трымаў напагатове лінейку ў руцэ. Не было над яго лепшага майстра лапы даваць.

Штогоду зношвалася ў Зубрыцкага на гэтай рабо-

це моцная дубовая лінейка. Штовосені перад пакровамі рабіў яму сталяр новае гэта начынне.

Толькі адчыніць, бывала, Клемка Філончык у клас дзверы.

— Ну што, бальшун? — пытае Зубрыцкі, не дасць ён і разгледзецца яму.— Ізноў у першазімцы?

Баяўся Клемка надта ў рукі холаду. Пакуль па пакровах назаўтра пяройдзе ў школу, паробяцца яны ў яго, як карчы. Добра, што Зубрыцкі не толькі настаўнік, але і доктар крыху быў. Умеў ён даць раду мярзлявым рукам. Яшчэ не змоліцца Клемка адказаць, куды ён: у першазімцы ці ў першае гэты год сесці думае, а ўжо настаўнік вітацца ў яго просіць:

— Дай сюды правую!

Толькі неяк не па-людску вітаецца Зубрыцкі. Бярэ Клемкаву руку за самыя пальцы, моцна — каб не вырваў — трымае. Пераверне далонню ўверх, як мага больш выпучыць яе. Тады возьме лінейку ■ стала. Памаленьку, не спяшаючыся, урэжа Філончыку пару лапаў. Зачырванеецца, гарыць рука, а Зубрыцкаму гэтага мала.

— Левую дай!

І ў тую ўкіне гэтулькі сама лап, каб ў крыўдзе не асталася.

Такую ўжо быў моду паняў баркаўскі настаўнік: перш зрабіць рукі як пампушкі, а тады дасць лемантар у іх патрымаць.

— Ну, чытай! Ма... А як далей?

— Мы-а, ма...— добра пачне Клемка, але да канца гэтай мудрасці ўсё роўна не чытаецца: не знясе гэтага яго зашыты розум.

— Мама мыла раму,— падкажа Зубрыцкі, як збрыдае яму ад Клемкі гэтага хітрага адказу чакаючы.— А што, надаўбень?! Я такі не памыліўся, наперад даўшы гасцінца. От ты цяпер і зарабіў яго.

Паглядзіць настаўнік на Клемкавы рукі: як вараныя ракі яны ў яго.

— У першазімцы.

Кажан год быў Філончыкаў першы дзень у школе падобен на леташні такі самы дзень: тая гаворка, тое чытанне, тыя самыя чатыры лапы. І кажны год садзіўся Клемка на тую самую лаўку — на самую апошнюю, што стаяла ў самым кутку пры сцяне. Яна самая выс-

шая была ў школе. І было на ёй ад Зубрыцкага многа зацішней.

Гэтага ж году меўся быць цуд. Ужо, калі шыў што Клемка на сабе, дык браў істужку ці палатна кусок у зубы. Трымаў яго так аж датуль, пакуль не ўся ў яго работа была. Сцярогся, каб хаця як незнарок ізноў розуму не зашыць. Пасталеў, паразумнеў Клемка, восем год у школу пахадзіўшы, і наважыў ён гэту восень з першазімцаў у першае перайсці.

Ды і пара была, тым часам: ці дасцё веры?! Васемнаццаты год ад першай прачыстай пайшоў хлопцу. Цяпер з гэтага дзіва.

А даўней гэта не першыня была. Па дванаццаць, па чатырнаццаць год некаторыя цягаліся ў пачатковую школу. Усё скончыць яе не маглі ніяк.

Дык от: стаіць Клемка Філончык — сам у сабе хлапец — на заручычах пад Заблоцкіх бярозаю і на ўсё поле спявае. (От бачыце, таварыш чытач, мы загаварыліся пра сёе, пра тое: пра чаравікі, пра немагчымую закладку на зямлі, пра патаемныя кладкі ў гэтым гразкім месцы і пра іншую дробязь, і не чулі Клемкі за паўганей ад яго стоячы. І гэтак ён моцна і даўно тут чытаў! Можна ж было вам многа раней яго пачуць).

— Мы-а, ма, мы-а, мама. Мы-ы, мы-лы-а, ла: мыла. Ры-а, ра; мы-у-му; раму. Мама мыла раму,— такі паўздужаў сяк-так. Аж палягчэла Клемку, як пачуў, што на волі цяпер яго розум, не зашыты ўжо ён у яго. Весялей зірнуў на свет Філончык. Але ненадоўга вясёлы быў яго пагляд. Убачыў Клемка малога Юстапчыка на заручычах.

— І ты ў школу? — пытае ў яго Савоста проста, па-сяброўску.

От тут і па ўсёй Філончыкавай радасці было. Ізноў найшла хмара над яго яснымі, віднымі вачыма.

— У школу,— неяк не падумаўшы сарвалася ў яго слова з языка. Напусціўся Клемка ды, як роўнаму, Савосту адказаў. І сам ён гэтаму быў не рад.

— І я ж у школу йду!

— Смаркач! Пайдзі шчэ свінні папасі. Які цябе дурань прыме?

— Той самы, што і цябе прымае.

Быў Клемка дужаваты хлопец. Ужо ціхенька ад бацькі на вячоркі хадзіў. І росту не вобмаль было ў яго. А Савоста Юстапчык проці яго саўсім дзіця. Не

выпадае Філончыку з ім разам у школу йсці. І папрабаваў Клемка перш крыху шырэй распусціць свае доўгія галы. Але няма рады — Заблоцкіх малы бягом услед бяжыць. Тады Клемка нага за нагу папрабаваў ісці. Ідзе ■ ім пораўне і Савоста, як там і што ў школе, распытуецца. Тады стаў Філончык. І Заблоччык стаіць, не йдзе.

— Адыдзі, жаба, а то як плюну зараз — згарыш!

О! Гэта памагло!

Савоста, як меншы, паперадзе, пабег, а Клемка — многа за яго сталейшы — адзін, сам сабе, памаленьку ззаду за ім пасунуўся.

Не саўсім так, як летась, пачаўся сяголетні Клемкаў першы дзень у школе. Тымі самымі словамі яго Зубрыцкі стрэў, толькі выткнулася ў клас з-за дзвярэй добра знаёмая настаўніку шапка, тымі самымі чатырма лапамі — у адну руку дзве і ў другую дзве — ён з ім прывітаўся. Ды не тое, што летась, на першы дзень было ў Клемкі чытанне. І далей перайначылася крыху настаўнікава мова:

— Памыліўся ж я, наперад табе даўшы гасцінца. Не зарабіў ты яго ў мяне сягоння,— сказаў справядлівы Зубрыцкі.— Але: дармо! Некалі змяркуемся. Некалі тое за тое адыдзе,— памеркаваўся ён.— Некалі яго заробіш. Быць жа не можа, каб ты на гэтым набат тыдні ў мяне лапы не зарабіў!

І не такая крыўда Клемку была, як пасадзіў яго Зубрыцкі ў першае, а Савосту прыняў у першазімны. Але меў потым крыху ён на малога закалец: не раз перападала Юстапчыку кухталёў, як нарвецца ён калі пад злосць.

Не святы быў Савоста Юстапчык; не мінала, але частавата нават, нарывалася на яго настаўніка дубовая лінейка — то за дур, то за няздадзеную лекцыю, то за задачы. Свянціў Зубрыцкі і яго рукі. Аднаго разу быў такіх гарачых лап яму ў абедзве жмені палажыў настаўнік, што аж рукі ў рот хапіў з непрывычкі, як бы і не разагрэліся, а саўсім зледзянелі яны. Так быў таго разу даўся яму Зубрыцкі ў знакі, што не было сну на Савосту ўсю ноч пасля таго: дадумляўся ўсё Юстапчык — дзе б яму лепшую, не такую балючую навуку знайсці.

Дадумляўся і дадумаўся. Не ў школу, а на рэчку назаўтра ж ён пайшоў з кніжкамі. Тут было многа

мудрэй, як у школе. У кніжцы стольні, у першазімцах седзячы, і за тыдзень не пройдзеш, колькі тут за адзін раз па лёдзе праедзеш. Хоць лапці драліся ад гэтай новай навукі, але затое рукі цэлыя былі.

Разам з дзецьмі Савоста ■ дому ішоў, разам з імі і вяртаўся са школы. Але такі неяк дайшлося бацьку пра сынаву навуку. Калі выдаў Юстап яму дома баль! А ў школу як прыйшоў, там Зубрыцкі яшчэ паправіў...

І ад тых дат пачаў ладзіць Клемка Язучок з Савостам Юстапчыкам, як пачуў сваё вяршэнства над ім.

## VII

Была восень. Быў вецер. Рос ясень над адзінокаю школаю. Восень гразкая. Вецер — дзікі, сярдзіты. Ясень — высокі, гучысты. Восень дрэва паабскубала. Вецер далёка іх лісты ад школы адмёў, растрос па выгане, па чыстым полі, нагнаў у высокае ад жняяркі скарбовае іржышча. І стаяў адзін-адным ясень над школаю, голымі цыбінкамі сварыўся з абрыджонымі дажджамі, што праз частае маруднае сіта ліліся яму на абскубеную галаву. Нэндза яго заядала ад такой пацярухі. І прасіў сабе ясень весялейшых, жвавейшых летніх навальніц, прасіў звонкага грому, шытых бліскавіцаю цяжкіх, цёплых хмар. Але ўсё гэта на дварэ, усё за акном. А ў акне, калі мы з вамі, таварыш чытач, станем пад ясенем ды знадворку зірнем у школу, там — лямпа, настаўнік, кніжка...

Сам дзяціны страх Зубрыцкі — пажылы ўжо хлапец — памалу гартаў кнігу. З балонкі на балонку перабіраўся. Лямпа ў яго была — восьмы нумар, а кніга — дармовы дадатак да «Нивы». Цярушыліся з таго дадатку на Зубрыцкага словы, як праз перша ўспамінанае, маруднае частае сіта на ясень дождж. Спацыравалі настаўнікавы вочы па дробных радкох, а было ў яго крозах нешта лепшае, весялейшае, чаго й заваду няма ў дармовых дадатках.

Верныя каханкі, здрадлівыя жонкі, смешныя ашуканыя мужыкі, упартыя бацькі, сквапныя на багацце і гонар... Усе яны ў кнігах мелі на сваім вяку гора, роспач і радасць, а на 315-й якой балонцы ці жаніліся, ці, пакаяўшыся, ціха і прыгожа паміралі, ці пачыналі жыць з усім светам у злагадзе, сабе і сваім блізкім на радасць і ўцеху. Усе яны, гэтыя кніжныя людзі, таго

вечара з сваіх пярэстых, даўно чытаных балонак сышліся былі ў настаўнікаў цесны пакой. Утаміліся на шпацыры Зубрыцкага вочы. І рад быў ён, перагарнуўшы, што ўбачыў новы раздзел.

— А я сам? — папытаў Зубрыцкі ў самога Зубрыцкага, спыніўшыся перад новым раздзелам.— Я сам на якой цяпер балонцы, у якім раздзеле жыву?

Палажыў у сярэдзіну кніжкі палец, каб не закінуць; дзе чытаў, ды захінуў Зубрыцкі свой дармовы дадатак. І калі мы з вамі, таварыш чытач, не будзем трымацца ясеня, як сляпы плота, ды калі падыдзем бліжэй пад акно, прыгнёмся ды знізу паглядзім, што за дадатак у настаўніка ў руках, дык на вокладцы круцялі заўважым, а крышку пад верх у чорных чатырохкантовых асадках, калі добра прыгледзімся, можна разабраць: «Куприн. Сочинения». Зубрыцкі не завешуе фіранкамі сваіх акон і, крыху каля іх забавіўшыся, можна ўсё чыста, што ў школе робіцца, даследзіць.

Так, трымаючы кніжку, разгледзеўся, раздумаўся настаўнік над сваім адзінокім жыццём. І заўважыў Зубрыцкі, што жыве толькі ў нуднай, нецікавай прадмове. Дзе быў, што рабіў і адкуль паходзіць, толькі пісалася і пакуль што пішацца ў настаўнікавым жыцці. Усяго адно вясёлае, гумарыстычнае месца, вытрымка — хто яго ведае з якога раздзела — ёсць у гэтай прадмове: яго ўлюбёныя лапы.

Але такі верыў настаўнік. Верыў і спадзяваўся, што такі будзе некалі і ў яго жыцці першы раздзел. Усёю сваёю тэўсцю будзе ляжаць новы, дагэтуль нязнаны раман за тым раздзелам. Нічога меншага не хоча мець Зубрыцкі — ніякага дармовага дадатку.

Схілецеся за вушак, таварыш чытач! Бачыце: Зубрыцкі зірнуў у акно.

Якраз напроці блішчэлі вокны папоўскага дома. «Нива» казала, што адтуль павінен у настаўнікаў пачынацца першы раздзел: з нуднага рассасульвання з папом, з нясмелага заглядвання пападзянак. Далейболей пажыўшы — пачытаўшы, зложыцца якраз праўдзівая аповесць настаўнікавага жыцця. Так казала «Нива», і «Нивина» праўда была. Але нешта не блішчэлі так у настаўніка вочы, як блішчэлі ў паповым доме вокны, калі ён глядзеў на іх. Нешта не відаць было ў тым поглядзе надзеі, што адтуль пачнецца настаўнікаў першы раздзел. Не так, як у дармовых да-

датках, павінен пачацца ён: не з далёкай сенажаці, не з пазалеташняга дажджу, не ■ трацяголетняй мяцеліцы. Не, настаўнікаў пачатак будзе просты і звычайны.

«Настаўнік Баркаўское пачатковае народнае школы»...

Застане ён Зубрыцкага ■ раніцы, апоўдні ці ўвечары, ■ то і ў самую ноч — усё роўна, хоць калі; зловіць неўспадзеўкі ў школе, дыктоўку даючы, дому за полудзень сеўшы, а то і ў дарозе дзе. А далей і пойдзе балонка за балонкаю.

Надоўга быў Зубрыцкі на адным месцы дармовага дадатку перад новым раздзелам застыў. Аж тут грукнулі ў сенячках дзверы. Прахапіўся настаўнік. Сеў раўней. Пусціў большы ў лямпе агонь. Падрыхтаваўся стрэць вялікія падзеі.

— Ці не першы раздзел?!

От з гэтага месца так і пачнецца: «Настаўнік Баркаўское пачатковае народнае школы позна ўвечары (хоць цяпер і не позна: гадзіны не будзе, як агонь запаліў ды за дадатак узяўся — але ў рамане, калі ўвечары, дык трэба, каб і позна было) пры лямпе № 8 чытаў дармовы дадатак да «Нивы», як адчыніліся дзверы і...»

Пачнецца першы раздзел проста і трафарэтна, але потым, можа, адбудуцца падзеі, вартыя таго, каб здзівіць свет. Просты і трафарэтны пачатак, каб большыя былі неўспадзеўкі. Не так, як «Нива» ўгадвае, пачнецца, і не так, як у «Ниве», разгорнуцца падзеі. «Нива» будзе ўспамянёна толькі, як просты і малавыдатны эпізод, як дробны матыў у вялікай рэчы.

Таварыш чытач! Відаць, збрыдла вам па падваконню стоячы. Мне хоць работа ёсць — от гэта, што перад сабою бачыце. А вы што будзеце дарма мерзнуць на восеньскім халодным ветры?! Аднак — вам час — пайдзеце... памажэце (не скажу каму, трэ было вам самім глядзець, як ён сюдою ішоў паўз нас)... памажэце яму ў сенцах клямку знайсці. Нешта доўга ён там забавіўся. Трэба, каб хутчэй у хату ішоў, а то Зубрыцкаму аднаму няма чаго там рабіць. Ужо як мае быць, пачаў у думках свой першы раздзел, падрыхтаваўся і цяпер сядзіць, на дзверы пазірае, вялікіх чакае падзей.

Не заўважыў, не ведаю, як яно там было — памаглі вы ці яму самому трапіла клямка пад руку. Толькі добра гэта бачыў, што адчыніліся тугія дзверы проста

ў настаўнікаў пакой і Юстап, баркоўскі багатыр Заблоцкі, з торбачкаю за плячыма яшчэ з-за парогу:

— Добры вечар, паночку! — настаўніку дае.

Аднак Юстап нагадзіўся. Каб не забыцца, раскажам адно здарэнне, што гэтымі днямі было яму.

Гэта ж пашанцавала старшаму Заблоцкаму ў бульбяніку на соннага зайца найсці. Дармо, што той і сплючы пазіраў — не ўгледзеў, як Юстап яго за вушы згроб. Як ужо ўцякаць не пара было, хутка тады заяц прачнуўся. Само шчасце багатыру ў рукі прыйшло. Толькі не ведаў ён, што гэтаму шчасцю рабіць: печанае, смажанае ці абгатаванае есці яго? З панскаю ядою ніякага толку не можа зрабіць нават баркоўскі багатыр. І давай тады Юстап блізкіх паноў перабіраць, каб прадаць занесці. Пачаў іх лічыць знізу. Самага першага адлічыў пастуха. Адлічыў і добра над гэтым «панам» падумаў: пан ён ці не? І выйшла ў Юстапа, што не толькі пан, але і над сваім рагатым войскам ён палкоўнік. Толькі як ты гэтаму пану прадасі, калі на зайца яго пэнсія малая: па капейцы збярэ з гаспадароў ад кожнага свайго салдата ды чакае восені, калі будуць ссыпшчыку ссыпаць, як адпасецца. Дзе такі пан зайца купіць?! Давай лічыць далей. Другі за пастухом па ліку настаўнік прыпадаў. На гэтым пану Юстап і спыніўся.

— Хлопец ходзіць. Трэ была б занесці... Як ты думаеш, старая?

— Па мне: занясі сабе. Усё роўна тымі грашыма не запаможашся,— сказала багатырка Прузына.— Колькі там за яго будзе?!

Дык от якое здарэнне было Юстапу Заблоцкаму. Расказана яно ў гэтым месцы, толькі каб не забыцца. Адложым яго надалей: можа, калі і згодзіцца. Цяпер паглядзім, што ў настаўнікавым пакоі дзеецца.

Дык от:

— Добры вечар,— не ўслед адказаў настаўнік. Першы раз ён бачыць Юстапа ў сваім адзінокім пакоі. Падумалася Зубрыцкаму, што з далёкай дарогі гэты чалавек. Нешта цяжкое, пэўне, нясе ён у сваім мяшэчку за плячыма. Утаміўся, прыстаў. І падумалася яму на школу, што карчма — сюды пераначаваць зайшоў. Хто ён: тутэйшы, блізкі ці далёкі,— прышлы — не ведаў Зубрыцкі. І рад быў настаўнік, што першы раз-

дзел пачынаецца з загалоўка «Герой і таемны незнаёмы».

Зірнуў Зубрыцкі ў акно. Няма бляску ад паповых акон. Пагас агонь у іх. Дагэтуль яшчэ крадком тулялася ў Зубрыцкага надзея: хто яго ведае, а ну, можа, «Нива» спраўдзіць. Можа, і адтуль пачнецца праўдзівая аповесць настаўнікавага жыцця. Гэта як пападзецца. А цяпер пагас агонь і пагасла настаўнікава патаемная баязлівасць. І рад быў гэтаму Зубрыцкі. Каб не незнаёмы чалавек у хаце, выставіў бы ён «Ниве» хвігу і ўсім яе дармовым дадаткам.

— Трасцу! Не табе мяне ўзяць у свае героі. Іншае, лепшае пачынаецца от,— каб сам сабе, каб нікога болей у хаце не было,— сказаў бы так Зубрыцкі: нас з вамі, таварыш чытач, ён пасаромеўся б.

І праўда: іншае, лепшае пачалося... далей з няспрытнай гаворкі было відаць, што спрадвечны баркаўчанін гэтага вечара прыйшоў даведацца настаўніка і сказаць, што яго сын ужо чацвёрты год як ходзіць у школу да Зубрыцкага. Так незнаёмы ў самым пачатку раскрыў сваю таямніцу. Але яшчэ не ўсё вядома было Зубрыцкаму. Яшчэ была загадана яму загадка ў форме торбачкі, што Юстап Заблоцкі, па Зубрыцкага просьбе сеўшы на табарэцік, палажыў збоку каля сваіх ног. Не ведаў добра настаўнік, ці яму толькі так здавалася, ці і праўда нейкая адгадка варушылася там. Нечага таемнага і неспадзяванага чакаў ён ад гэтай рэчы. Але далей сяк-так расказаў Юстап сваё здарэнне з зайцам ды й саўсім сапсаваў сваёю паспешнаю мовою цікавасць гэтае мясціны. А тады дастае зайца, як дармовы дадатак да свае блытанае гаворкі.

— Вазьмеце,— кажа на настаўніка.— Можа, у вас згодзіцца на што, ■ то мы здумаць не маглі, якую яму даць раду. Можа, ён у вас лепшы сабе знойдзе прытон.

— Колькі ж вам за яго?

— Ат! Яшчэ што здумаеце?! Што я гадаваў яго, ці што? От ешце на здароўе.

Собіла ж Юстапу ж на такі благі час ды з такім смачным мясам і з такою добраю моваю якраз трапіць. Гола ў Зубрыцкага ў кішэні было. Дабёр быў яму дарэмны заяц. Вялікая запамога. Але шкода страты. Шкода Зубрыцкаму, што Юстап блізкі, знаёмы пасля гэтага вечара, звычайны вясковы чалавек.

Так і не пачаўся ў Зубрыцкага першы раздзел.

Крыху скрыва пазіраў ён на Юстапа, што той падашукаў, што не спраўдзіў такой упартай надзеі. Але не сяк-так было выправіць чалавека з хаты, што яму зрабіў ласку.

(Па-даўнейшаму Зубрыцкі думаў — ласка, а па-нашаму — проста хабар ад кулака. Таварыш чытач, я думаю, што не памыліўся ў гэтым вызначэнні).

Даўно трымаў Юстап «аставайцеся здаровы» на языку, але ўсё неяк не адважваўся так хутка пасля «дабрывечара» іх казаць. Так адзін на аднаго чакаючы, адзін аднаму ўважаючы, нехаця разгаварыліся яны.

«Вучэнне — відната, а невучэнне — цемрадзь»,— неяк гэтак пісалася ў аднэй чытанцы з самага пачатку. От пра гэту віднату і зайшла была гаворка ў баркаўскага настаўніка Зубрыцкага ды з баркаўскім багатыром Заблоцкім. Як яна, тая гаворка, у іх ішла, доўга ўспамінаць.

Варта толькі сказаць, што аж да Савоставага почырку дайшла.

Толькі першую зіму пахадзіў у школу Юстапчык, а ўжо перад вербніцаю пахваліў яго Зубрыцкі ў класе перад усімі дзецьмі.

— З гэтага малога людзі будуць.

Таго ж самага дня выклікаў настаўнік Клемку Філончыка з першага. Не лапу даваць збіраўся яму, а так ціхенька пастаяць сказаў. І выклікаў першазімца Савосту Заблоччыка, каб пачытаў.

Дараваў Зубрыцкі Юстапчыку рачную навуку ды пахваліў яго за чытанне, а Клемку Язучка высарамаціў з астатніх слоў.

— От глядзі — надаўбень ты!..

Добра Савосту ў памяць той дзень. Заляпіў яму Філончык, дадому ідучы, ледзяка ў плечы, што аж дух заняло. Усю дарогу, да самай хаты з песнямі йшоў ён.

Паўтарыў цяпер Зубрыцкі Юстапу Заблоцкаму тое сваё слова пра яго сына.

— Вам хлопца, канечне, трэба, як акзамент здасць, у гарадское да Хлюпску ці ў сэмінарыю да Несвіжу аддаць. Ён за свае рукі, за галаву чалавекам будзе. А то што яму тут з вамі ў гэтым гнаі капацца?!

— Гэта шчэ будзем бачыць. У яго ўсё шчэ наперадзе.— Такая была гаворка ў настаўніка з багатыром.

Гладка і добра быў збыты заяц з няўмелых рук.

## VIII

Разгледзеўся Зубрыцкі, што не хутка тое свята будзе, як за галоўнага героя свой першы раздзел ён пачне. Не з яго носам, не з яго прозвішчам. Зубрыцкі. Дзе ёсць з такім прозвішчам галоўны герой?

Раздумаўся: ці не лепш будзе пры Савосце Заблоцкім пачаць дыялогам ды ўдвух прайсціся па топкай дрыгве кніжных балон аж у самы канец. Тады і прозвішча не пашкодзіць. Зубрыцкі! Тут і пытаць не трэба. Адразу відаць, без ніякага тлумачэння, што настаўнік, што аўтар прыпаручыў яму нейкую дробную, мізэрную ролю. І не будзе чытач чакаць ад яго вялікіх падзей, не будзе спадзявацца разам з Зубрыцкім трапіць у цікавыя прыгоды. Але баркаўскі настаўнік такі пастараецца намуляць чытачу сваім прозвішчам вочы. Большага, лепшага чакаў ён, але — калі на тое пайшло — і на гэта згодзен.

— Абы хутчэй! Абы з прадмовы ў першы раздзел.

З заўтрашняга дня няшчасны зрабіўся Савоста Юстапчык. Пачалася малому пакута. Узяўся каля яго Зубрыцкі, каб месяцаў за колькі, што асталіся да акзаменту, як мае быць падрыхтаваць малога ў героі, каб гатовага выпусціць з сваіх рук. Назаўтрае ў Савосты ў першага папытаўся вершу, што даваў дадому на памяць вучыць. Дзень у дзень з усім-усякім: і з чытаннем, і з пісаннем, і з задачамі ўзяўся Зубрыцкі яго ганяць. Упыну не было на баркаўскога настаўніка.

Па весняй Міколе меўся быць экзамант. Не так Савоста, як Зубрыцкі баяўся яго. Хаця каб не сышла на пшык яго надзея, каб не сеў макам перад начальствам Юстапчык. Ніякага тады з яго не выйдзе героя: пойдзе тады на бацькавым месцы за плугам, ды й звякуе тут, у Баркаўцох. Але перабылі той гарт [1], і рад астаўся Зубрыцкі. Савоста на «добра» дыктоўку напісаў, а чытаннем, адказамі яшчэ лепш паправіў.

Ні ў кога ў Баркаўцох агню не было, а ў Заблоцкіх позна гарэў. Чакалі яны ўсёю сям'ёю Савосты з школы.

— Ну як жа ты, Савостачка? — першая папыталася ў яго Прузына, толькі прыйшоў дадому.

---

[1] Не будзем апісваць, як збіраліся, з'язджаліся на той экзамант. Каму цікава, можа пра гэта ў Коласавай «У палескай глушы» прачытаць. Нічога ці паправіць, ці дадаць не збіраюся. Было ў Баркаўцох якраз, як там, у Палессі.

— Што як?
— Як жа твой экзамінт?
— Так, як трэба.
— Здаў?
— Здаў. А вы як думалі?

Усе былі рады ў Заблоцкіх. Юстап, Пархім, Прузына. Рад быў і сам Савоста. Толькі не аднакія яны рабілі з сваёй радасці высновы. Пархім бачыць, што больш навінаў не будзе. Чаго яму, скажэце, дома тырчаць? Яму ўвечар на сяло ўлетку штодзень схадзіць трэба. Узяў ён шапку з цвіка, жакетку з шастка ды, надзеўшы, напрануўшы, машэр на вуліцу. (От удаўся валанцай! Ніколі лішняй хвіліны не забавіцца дома. Не дасць прыгледзецца, што ён за хлапец).

— Ну і добра,— па Пархімавым адыходзе казала Прузына.— От грошы злічыць уважнаў і будзе з цябе. А ты цяпер, бацька, пакрысе дакладай да работы. Пакажы, як баранаваць, каб не пушчаў узрэхаў. Пакажы, каб з канём завярнуцца, закіравацца ўмеў. Пакажы, як плуг у руках трымаць, каб роўная скрозь скіба выходзіла.

Але нешта накшае думаў Юстап Заблоцкі.

— Яшчэ паглядзім,— цьмяна і невыразна ён сказаў.— От пасцялі ды кладземся спаць: ужо не цеперся.

Назаўтра з раніцы быў вецер з туманом у Баркаўцох. Людзі ў печах палілі. Слаўся дым па вуліцы, а праз яго, чуць запаметны, ішоў Зубрыцкі па вёсцы. І пытаўся тае раніцы ў людзей настаўнік:

— Дзе тут Заблоцкі жыве?
— Тут два Заблоцкія ёсць. Каторага вам трэба?
— Таго, што сын у школу хадзіў.
— Гэта — Юстапа. То заходзьце онь у гэну хату з прычолкам,— праз дым паказалі Зубрыцкаму аседласць баркаўскога багатыра.

Была таго дня не то нядзеля, не то так нейкае вялікаватае свята. А чаму свята? Бо пякліся бліны — першая прыкмета, бо спаў яшчэ ў ложку Пархім — большы Юстапчык. Не будзіў яго гэтага дня стары Заблоцкі. Спагадаў, што позна ўчора гуляў хлопец, ды сам двое сваіх багатырскіх коней на балота завёў.

На гарачыя скаварады налівала Прузына з дзежкі апалонікам цеста, стоячы пры печы.

— Папяку, папяку!..— гразілі цесту скаварады.

Шмат Прузыне работы было: глядзець у печы бліна трэба, каб не прыгарэў, ды й паслухаць, што настаўнік кажа, хацелася. Пакуль Зубрыцкі Савосту за акзамент хваліў, добрыя, жаўтаватыя бліны скідала Юстапіха.

— Трэба яму даць яек дзесяткі са два гасцінца,— думала багатырка.

Перш па адным бліне раскладала яна на скарачы, што на зэдліку засланы быў, а як крыху прастынуць, тады ў касцёр іх клала. А пачаў Зубрыцкі малёгаць, каб аддалі яны свайго хлопца да Хлюпску ў гарадское, забылася Прузына ладу ды парадку ў блінах глядзець. З чапялою ў руках распачала яна перакорную гаворку.

— Дзе вы бачылі! Ці гэта нашага брата работа над кніжкаю марнець, сухотаў на сваю галаву старацца?! Хай паны вучацца. Яны ўжо да гэтага звыклі. Дзяды, прадзеды іх на навуцы зубы паз'ядалі.

І падгарэў за гэтым разам у Прузыны блін на скарарадзе, ды так, што мусіла яна яго ў ражку выкінуць.

Пабудзіў Савосту гоман, што быў у хаце. Зірнуў ён, прачнуўшыся,— сядзіць у іх на лаве настаўнік. Прыслухаўся Савоста — пра яго гаворка. Прапаў позны, смачны сон. Не давялося яму ўкрасці сабе ў дня раніцы. Удвух яны з Пархімам спалі, але не аднакі быў у іх сон. Пархім ні паху ад свежага бліна, ні гоману ў хаце — нічога не чуў. За ўчарашні прагуляны вечар хацелася яму нагнаць. Толькі раз за ўсю раніцу на другі бок перавярнуўся, каб вачыма да сцяны, у цямнейшы куток, быць. І спаў. Так другія і пшаніцу прадаўшы не спяць. Пшаніцу прадаўшы баязно, каб хто грошай не падседзеў. А Пархіму што? Ён яшчэ ні сваіх грошай, ні гаспадарскага клопату не меў.

І не блізка была Прузына аддаваць малога ў навуку. Зубрыцкі што ні што, нічога не помач. Не ўгаварыў кабеты. Ужо і адыходзіў ён, а Юстапіха казала:

— От хай жыве, як дзед, бацька жыў. Хай глядзіць гаспадаркі, і добра будзе. А то — дзе гэта відана...

Мелася Прузына даць гасцінца настаўніку. Але зненавідзела цяпер яна Зубрыцкага за яго мову. І толькі сама сабе падумала:

— За што даваць?! А трасцу! Скулу! Не знала б дзіця яго акзаменту, шчаслівейшае б было.

Юстап жа найболей маўчаў гэтай раніцы. Калі і

скажа ўрэдкую слова-два, дык ні сюды ні туды выходзіла ў яго. Цяжка было разабраць Юстапаву думку.

— Яшчэ будзем бачыць. Савостава ўсё шчэ наперадзе.

Сядзеў ён на ложку ў запеку. Курыў ды плёваў у гаршчэчак з пілавінамі. Толькі летась палажылі падлогу ў сваёй старой хаце багатыры Заблоцкія. І шанавалі яны яе лепш, як вока ў ілбе.

Учора толькі перад вечарам перацягнула крыху Юстапіха падлогу мокраю анучаю, а каб сягоння за раніцу гразка не стала на ёй, пастаралася яна Юстапу гаршчэчка.

Так было, пакуль быў настаўнік у хаце, а як пайшоў?

— А што ты думаеш, старая? — папытаўся Юстап у Прузыны.— Можа, й праўда! Хай бы Савоста ў людзі йшоў, а нас з табою і Пархім да смерці дахавае.

Прузына ціхая кабета. Але дала яна Юстапу пытлю, як пачула, што не толькі на вуліцы, але і ў іх хату ўваб'ецца ненавідны «курч».

— Ой, згубіш, бацька!.. згубіш хлапца!.. Век з яго чалавека не будзе. Ты слухаеш, што там які шалахвост чаго нагаворыць. Плюнь на гэта і нагою затры. Прыходзіў, каб далі што. Думаеш чаго? Але не папаў. От ты паглядзіш цяпер.

Ніякага гарадскога ён табе болей не ўспамяне. Абмінаць будзе, калі дзе ўбачыць. Ты таго не думай! Усякі чорт толькі глядзіць, каб пацягнуць з нашага чалавека,— так прабірала свайго мужыка багатырка Заблоцкая.

І на Савосту насварылася яна, як той начэрпаў у конаўку вады, як падсунуў бліжэй да лавы свіное вядро, каб памыцца над ім.

— Не слухай, Савоста! От пільнуйся гаспадаркі — будзе лепш. Я на благое цябе не вучу.

І не дала яна яму памыцца ў хаце.

— Гэта ж і на двары цёпла. Пайшоў бы да студні ў карыта, што коні паіць. А то будзе тут мне ў хаце на чыстую падлогу навіваць.

Ад таго разу не пайшоў болей Зубрыцкі да Заблоцкіх. Але і не спраўдзілася Прузыніна слова. Не абыходзіў настаўнік Юстапа. Разоў з два за ўсё лета стрэліся былі яны. І абодва разы пра Савосту ўспамінаў Зубрыцкі.

— Ну, як жа ваш малы?

Усякі раз не забываўся сказаць:

— Вам яго, канечне, трэба аддаць у навуку. Проста грэх будзе, калі вы яго пры сабе будзеце трымаць.

Хлюпскае гарадское лепш, як Несвіжскую семінарыю, раіў ён.

Казаў:

— Скончыўшы гарадское, многа прастарнейшы яму будзе свет.

Усё лета было ціха ў Заблоцкіх, а як прыйшла восень, дык і сварка знайшлася ў іх хаце. Толькі як ні бралася Прузына, а Юстапа яна не пераставіла. Як наважыў, свайго такі дамогся ён. Калі прыйшоў верасень, аддаў Юстап Заблоцкі свайго Савосту ў гарадское да Хлюпска. Хоць і не любіла Прузына слухаць яго мовы пра Саваставу навуку, але была ў Юстапа прывычка хваліцца ёй, што ён калі надумаўся рабіць, і чаму сама лепш зрабіць так, як ён хоча. От што казаў гэтага разу багатыр Заблоцкі.

— Яно, можа, і праўду казаў настаўнік, што прастарнейшы яму ў гарадскім будзе свет. Ды тут і нам спрытней. Праўда, старая? Усё бліжэй, як у Несвіжы на настаўніка вучыць. Тут і яду, і адзежу зручней падаць, а там — у Несвіжы — усё з капейкі жыць трэба.

Ды не так з ядою, як з адзежаю цяжкавата было баркаўскому багатыру. Даўней значылі вучняў, як тых авец: баяліся — каб хаця дзе яны не адбіліся ды да другога, няшкольнага, статку не прысталі, каб, калі гэта і здарыцца, спрытней было іх вылучыць адтуль. Авечкам вушы рэжуць, знакі чапляюць, а вучняў значылі адменнаю шапкаю, аднастайным палітонам. І ўсё гэта бацьку за свае грошы справіць трэ было. Прыйшлося небалазе Юстапавай багатырскай кішэні.

Доўгі падаўся Прузыне першы тыдзень без Савосты. Як дзень міне, то — год, адлічвала яна. І на пястым годзе, што па-даўнейшаму так і зваўся — пятніца, пачала яна ганяць Юстапа.

— З'ездзі ты, прывязі яго. Хаця я пагляджу, які ён цяпер.

Але без пары не паехаў Юстап. Пачакаў ён заўтрашняга дня. А заўтра як раз была субота. От тады, як ужо з паўдня звярнула сонца, запрог каня Заблоцкі. З'ездзіў ён да Хлюпску, прывёз на нядзелю Савосту дадому.

Згледзеў Зубрыцкі з школы праз вакно Савосту дадому едучы, ды зараз прыйшоў і ён да Заблоцкіх. Цікава было настаўніку, у малога распытаўшыся, успамянуць свае семінарскія, дураўныя гады.

— Ну што? Як табе паводзіцца?

— А што мне?! Прыйдзе настаўнік — кніжку расхінеш або сшытак наверх дастанеш. А званок зазвоніць — выйдзеш у калідор. Крычаць, бегаць там у нас няможна.

Куды больш пачуў Зубрыцкі, як Савоста сказаў. І пачуў, і ўбачыў сваю семінарыю ён. Там было гэтаксама: і расхінёная кніжка, і сшытак, і настаўнік, і званок, і калідор. Не аднакая кніжка, не адзін сшытак, шмат усякіх настаўнікаў было. Не аднакі званок з лекцыі і на лекцыю званіў. Святлеў, прастарнеў, намружысты, вузкі калідор у суботу па апошняй лекцыі.

— Ну, а як жа табе? Не цяжка?

— Не. Які там цяжар?! Гадзіны са дзве, дык у мяне і гатова ўсё,— любіў пахваліцца Савоста Юстапчык.

— А тады што?

— Тады нічога. Ніхто ка мне не ходзіць, і я ні да каго не ведаю дарогі. Сяджу на кватэры.

— То падыдзі ка мне заўтра пад вечар — я табе добры занятак дам.

Яшчэ не выкамячыў добра Савосту гарадскі «курч» на панскі кволы капыл. У нядзелю з раніцы як пайшоў на вёску, дык да вечара ўсё сваё таварыства, што разам у «пікара» гулялі, абышоў. Пахваліўся, як яму там, у гарадскім, паводзілася. Не мінуў ён і Зубрыцкага. Не гуляў са сваім настаўнікам Савоста ў «пікара», дык да яго да апошняга перад самым змярканнем зайшоў.

— Дык дзе ж ваш той занятак?

— Пачакай. Зараз дабяру.

Доўга капаўся ў кніжках Зубрыцкі — з месца на месца дармовыя дадаткі перакідаў. І нічога не знайшоў-такі пад імі. Мусіў тых дадаткаў адабраць цэлы стос.

— От вазьмі хоць гэтыя. Няма лепшых... Якія ёсць.

Курчыў Савосту курч у гарадскім, а цяпер яшчэ і дома па сваёй ахвоце пачаў гнуцца ў крук над тымі, ад настаўніка ўзятымі дармовымі дадаткамі. Так шмат ён іх тады прывалок ад Зубрыцкага, так надоўга было

яму іх чытаць, што аж нехаця ехаў ужо Савоста ў Баркаўцы. Як калі прыедзе па яго Юстап у суботу, дык:

— Дарма вы, тата, толькі коні ганяеце,— скажа на бацьку крыху падвучаны сын. Шкода яму пераездкі — усё б прачытаў балонак колькі. Але, каб не саўсім марна сцерліся святочныя дні, ён возьме з сабою дадаткаў.

Бывае, мала іх возьме. Прачытае, ды і выб'ецца з работы Юстапчык.

— Можа б, ты, Савоста, дзе на вёску схадзіў,— параіць яму Прузына, як убачыць, што ные малы.— А то табе збрыдае дома аднаму.

— Нешта не хочацца,— адкажа Савоста. І, калі няма ў запасе ніводнага дармовага дадатку, сядзе пад акном, будзе ціхенька сядзець, глядзець недзе далёка на пазебленыя навозы, шукаючы там у ветраную туманную восень хараства прыроды ў гразкай чорнай раллі. І дождж пасыпле — не ўцячэ ён з акна: будзе сядзець і лічыць буйныя, зборныя кроплі, што спадаюць з капяжа.

— Можа, ты нездароў? — папытаецца Прузына.

— Ат. Што вы здумляеце, мамка?!

— Дык што ж ты маўчыш, нічога не гаворыш?

— А што я з вамі гаварыць буду?!

— Хоць што.

Забылася пра «курч» Прузына і ніяк не разбярэ: што яму, гэтаму хлопцу, далягае? Якая журба ў яго на сэрцы ёсць? І раіць яна апошні самы лепшы сродак:

— Можа б, ты лёг паспаў? Ці не палепшала б тады, ці не павесялеў бы.

— А йдзеце вы! Мне й тут добра.

Усяго баркоўскага, у гарадскім пабыўшы, забывацца пачаў Савоста Заблоччык. Сваіх людзей, на месце стрэўшы, не пазнаваў ён; ціхенька, слова ні да каго не прагаварыўшы, сунуўся Юстапчык, куды яму трэ было. Ды й само месца пачаў абыходзіць. Хоць крыху кружней было па загуменню, далей ад гарадскога на кватэру, як мястэчкам цераз места, але любіў Савоста гэтую адзінокую дарогу і тудэю хадзіў, пакуль снегам сцежкі не завее.

Не то каб каго — Клемку Філончыка не пазнаваў Савоста. Два разы яму трапілася Клемку ў Хлюпску стрэць. І абодва разы Заблоччык не адзін — з другімі

вучнямі з гарадскога йшоў. Дык мала таго, што не пазнаў, але яшчэ ў другі бок адвярнуўся, каб хаця той не ўлічыў Савосту ў свае людзі ды не загаварыў — не асарамаціў перад таварыствам. Баяўся Юстапчык, каб не падумалі сябры, што з простых мужыкоў ён і ніякага хвальварку няма ў яго бацькі.

Хоць урэдкую ездзіў Савоста нядзелеваць у Баркаўцы, але нарваўся быў аднаго разу на гаворку пра Клемку Філончыка. Гаварылася тады нешта ў Заблоцкіх хаце і пра пошту, і пра нейкага Махоўскага. Але набраў таго разу Савоста дадому даволі дармовых дадаткаў, каб не ўслухацца ва ўсякія гаворкі. Так і праляцела гэта паўз вушы ў яго.

Бывала, у панядзелак не ўпыніцца Юстапчык, каб хаця ў гарадское з дому не спазніцца. Ад поўначы ўспорацца ды ўсё ганяе бацьку, каб каня запрагаў. Але аднаго панядзелка выйшаў быў раніцаю Юстап надвор'я паглядзець. Пацярушваў сняжок.

— Як сабе хочаш, а сягоння я цябе не павязу,— сказаў Заблоцкі, прыйшоўшы ў хату.— Вунь мяцеліца на дварэ — ані вон. Паедзем пад вечар, а не — то заўтра раніцаю,— так сказаў ды пайшоў ён аглядацца.

Скончыў воглядку Юстап — перасціхла й мяцеліца.

— То збірайся,— ужо інакшая была ў Юстапа мова, другі раз прыйшоўшы ў хату,— адвязу: нечага рупіць не будзе.

Дарога была замецена. Пагнаць каня нельга было. Ехалі памалу. Як прыехалі ў мястэчка ды параўняліся з гарадскім, там быў першы перапынак. Мала было вучням калідора — павыбягалі яны на вуліцу. Убачылі Савосту. Пасталі і пазіраюць: такія нягеглыя сані, такі стары чалавек... І разам вучань з іх школы — Савоста Заблоцкі, што ў яго бацькі цэлы хвальварак.

Любіў багатыр Заблоцкі ў лапці белыя, чыстыя анучы абуваць. І так ён любіў белую адзежу. У адной іспадняй, як зіма, як лета, хадзіў. Верхніх шарачковых штаноў у яго і на грунце не было. Страх як не любіў Юстап Заблоцкі крамнай адзежы. Але была раз набрала яму Прузына ў анучніка за старызну крамніны на штаны й на кашулю. Белага Юстапу набрала — іншага ён не любіў. А як пачала яму тыя строі шыць, дык выштукавала так, што яшчэ й сабе шнуроўка з астачы выйшла. Выдабіла Прузына, што рукаўцы й ка-

лошкі, як дудачкі павыходзілі. Раскалоў быў Юстап, тыя крамныя строі надзеўшы, палена дроў, дык ад першага дня й даліся па цэлым яны на ём. А тая самая Прузына, калі пашые што са свайго палатна, дык — прасторнае, і напускамі.

Як дзе ў людзі Юстап ішоў, дык — ці ў мароз, ці ў гарачыню — адзяваў ён новы, доўгі, па пяты, кажух наверх, ушпіляўся ўсімі гузікамі. І добра, хораша, і нічога не відаць было. А гэтага панядзелка на Юстапу, поверх кажуха, яшчэ і латаная бравэрка была. Але ў мястэчку расхінуліся былі і бравэрка і кажух, і гарадскія вучні дзівіліся з яго белых строяў.

На дзве лекцыі таго панядзелка спазніўся Савоста. А як прыйшоў, абступілі яго вучні, пытаюцца:

— З кім гэта ты пад'язджаў? Што гэта за ён?

— Бацькаў парабак,— кажа Савоста.

*5 травеня 1931 г., в. Ляхавічы*

## IX

Усё даўнейшае нам цяпер толькі цень. Але зірнеце наперад, таварыш чытач,— вунь другі — большы, цямнейшы — цень на баркаўскай вуліцы відаць. Ціхенька высунуўся ён з некаторага двара ды йдзе сюды, пад нас. Спусціў галаву, унурыўся, але тым часам спадылба на нас — яму незнаёмых — пільна ўзіраецца: адкуль і хто мы, хоча пазнаць, успомніць, дзе гэтакіх бачыў.

У добрую пару трапілі мы, таварыш чытач, у Баркаўцы: на дварэ вясна і ў даўнейшых людзей свята — чацвёрты дзень Вялікадня, градавая серада. Не адны мы ды той цень на вуліцы. Збрыдала гараваму Змітру сплючы, і выйшаў ён з хаты, каб схадзіць дзе да мужчын вочы крыху прахаладаць. З дому не надумаўся, куды пойдзе і да каго, і от цяпер стаў Змітра ў сваіх варотах пры вуліцы — мяркуе: дзе яму быць патрабней. Заўняўся і цень каля Змітры. За тры грунты мы ад гаравога баркаўчаніна варот. Не чуваць нам іх ціхае гаворкі. Але цень, не іначай, гэта пытаецца ў Змітры:

— Хто гана? — відаць, як ківае галавою ў гэты бок, дзе мы.

Змітра не чуе: маўчыць. Свеціць сонца. Цёпла, хо-

раша на дварэ. Змітра жмурыць вочы, пазірае прыскіліўшыся, як пры самым плоце на яго вузкім, убітым двары, падахвочаная вяснсю і цёплым пазаўчарашнім дажджом, пачынае зелянець мурава.

— Адкуль яны? Каго ім трэба, што ўсё на двары зазіраюць?

Змітра толькі паціскае плячыма.

— Ды зірні ты, Змітра, што гэта там чырвонае ў аднаго на грудзях?

Гэта ж таго году, куды трапілі мы, прыпала наша Першае Травеня якраз на старасвецкую градавую сераду. І вы, таварыш чытач, як мала хаджалы ў гэтым баку, каб тут, у старой бытнасці не згубіцца, каб праставаць роўную, правільную дарогу, каб што найболей ад тае бытнасці адменнаму быць, нашай рэвалюцыяй зазначылі сябе. І праз гэта:

— Што гэта там у яго? — не даваў упыну гараваму Змітру старасвецкі цень.

Недзе валяюцца такія дні! Пашукаць такога надвор'я, як сягоння. Сядзьма, таварыш чытач, на чыю прызбу ў даўнейшых Баркаўцох, пагрэймася пад сонца ды ўспамянём што збольшага пра гаваркую Кацярыну.

Няма ўжо — памерла, а некалі была такая жанка ў Баркаўцох. У аднаго купіць, а другому прадаць любіла: слоў з два праўды калі дзе пачуе, дык яна — тая праўда — у Кацярыны на языку так прырасце, што на цэлае паўдня будзе жанцэ гаворкі. От за гэта самае і звалі гаваркою нашу Кацярыну.

Дык от: гэны цень, што каля Змітры, і ёсць гэта самая гаваркая Кацярына.

Але нашто нам гаравы Змітра?! Ні далёкія, новыя адзежы і звычаяў, людзі, ні нязвыклая чырвань — нішто не цікава яму. Адно сам сабе і сягонняшні дзень — градавую сераду — любіць ён. І гэтага з Змітры даволі. Уся яго цікавасць тут. Градавая серада Змітру таму па душы прыйшлася, што гэта і ні свята, і ні будні дзень: і вялікая ўрачыстасць тут не патрэбна, і людзі работы — варуючыся граду — не робяць. Можна ў такі дзень спакойнага, лагоднага сабе таварыства пашукаць: прыйсці да каго, пасядзець, паслухаць, ды так, свайго слова ў чужую гаворку не прыкінуўшы, і дадому вярнуцца. Сам Змітра — у сярэднім пер'і чалавек і ўсяго сабе шукае сярэдняга, памяркоўнага; як святочнага дня, так добрага суседа.

Самога сябе любіць Змітра за тое, што добра пад'еў, што кішцы даў спакой, утаймаваў ненаядную. На сняданне былі ў іх сягоння кашныя бліны. Масла, што за вялікі пост была з добрую клёцку крышан жонка зrарнула, за Вялікдзень — за першыя тры дні — усё разышлося. Адно што здор крыху дзярэ мяккія, таўстыя, як пампушкі, кашныя бліны, ■ так і ім добра мазаць. А што са здору крыху дух цяжкі — не бяда баркаўчанскаму чалавеку: звык ён змалку да ўсяго цяжкага. Ды не так маслам, не так здорам, як сваім языком бліны мазаць быў спрыцен гаравы Змітра. Ім ён як мазне, дык і няма: віда-віда блін у пастцы прападзе.

Выбачайце мне, таварыш чытач, за такога героя. Сам бачу — не ўнаравіў.

Спажывец! — кажаце?

А што ж яшчэ будзе, калі па шчырасці прызнацца, што так быў Змітра, снедаючы раніцаю на градавую сераду, за сваёю работаю завінуўся, што ніяк яму жонка ■ дзвёх скаварод не магла даць запасу. Праўда, крыху дровы былі вінаваты: не гарэлі, а курэлі яны — ведама, падборка, дубчыкі... Не пёкся, а варыўся на іх полымі таўсты кашны блін.

Ды што нам Змітра?! Малы ён прычынец тут. Гэта толькі, што вясна, што сонца, што трава пры самым плоце... А каб нахмурэла, каб пацерушыў дождж, дык і не было б Змітры. Не будзем яго трымаць непатрэбнага — хай ідзе сабе, куды выбраўся, а мы проці яго двара крыху прыпынімся ды ў гаваркой Кацярыны папытаем:

— Ну, як, кабетка, што тут за вашаю бытнасцю робіцца?

Прыпазніліся мы з вамі, таварыш чытач, гэты раз прыйсці ў Баркаўцы. Добра яшчэ, што гаваркая Кацярына нарвалася. А каб не яна, так бы і прайшоў гэты Вялікдзень паўз нашу ўвагу. Ад гаваркой Кацярыны дазналіся мы што:

Некалі казалі — гадавыя святы праўдзяць. Які ты ў гэты дзень будзеш, такім застанешся і на ўвесь год: благое што зробіш — благі, а добрае — добры будзеш без канца-краю. І от баркаўчане, каб ні благімі, ні добрымі не быць (бо ёсць прыказка: не будзь салодкі — а то праглынуць, не будзь горкі — а то праплююць), спяць кажнае гадавое свята з ранку да вечара цалюткі дзень. Усе да аднаго, як пабітыя, спяць на Вялікдзень.

Разгавеюцца ды й залягуць у ложак на ўвесь дзень. Дайшлі баркаўчане, што так толькі й можна ад благога й ад добрага ўсцерагчыся. Доўяг быў бы ім без работы вялікі дзень. А так, за сном, і не агледзецца, калі тройдзе ён: тут была раніца, а тут і вечар на двары.

Праз гэты сон баркаўчане і прачнуўшыся, сонныя, хмурныя, нерухавыя ходзяць. Шчасце й доля іх — усё ў сне затанула. Хіба як выспяюцца ў запас, як на шмат год наперад сабе сну прызапасяць... Хіба тады накшае будзе што.

Усмак і ў ахвоту спіцца на печы. Шырокая, прасторная ў багатыроў Заблоцкіх гэта рэч. Атабарыліся яны на ёй усёю сям'ёю Вялікаднем на першы дзень.

— Печка — наша матачка! — казала Прузына, кладучыся з краёчку, каля прымурку.

Закаціўся Юстап пад шасток з цыбуляю.

— А мне там месца пакінулі? — жартаваў Пархім, услед за бацькам лезучы на печ. Сабраў ён анучы, што натрус ляжалі ў кутку, падаслаў, каб у бок горача не было, ды лёг пасярэдзіне на самай гарэні. І такога яны ўтраіх храпунца далі, што ходарам захадзіла Заблоцкіх багатырская хата.

Аднаго Савосту сон не браў. Сеў ён на лаве ў акне ды ўсё на камлістыя кляны перад хатаю, на пустую вуліцу, на стары гучысты вішэннік за Вінцэнтавым токам пазіраў. Але паў-такі туман і на яго вочы. Парабіліся яны ў яго вялікія, савіныя. Было таго дня і надвор'е на Савосту Заблоччыка падобнае: хмурае, ціхае. І заманулася Заблоцкіх вучню нуду разагнаць — пачытаць што. Зірнуў на траму. Адтуль дармовыя дадаткі «Нивы» сваімі жоўтымі, сінімі, зеленкаватымі рубцамі вокладак свецяць. Толькі памкнуўся ён, каб узяць каторы зверху, як зірнула Прузына на хату, пераварачваючыся на другі бок, убачыла кніжку ў Савосты ў руках.

— Палажы назад: сягоння няможна. Вазьмі, калі так рупіць, святое што пачытай.

Паслухаў маткі Савоста — палажыў назад дармовы дадатак. Але святога не ўзяў чытаць: не хацелася. Так Савоста ў журбе і праседзеў да вечара той дзень, а тыя на печы яго праспалі. Далей надышоў вечар ды не абы-які, а той, што з нядзелі ды на панядзелак бывае. Зацягнулася з вячэраю ў Заблоцкіх. Ча-

каў яе Пархім, большы Савостаў брат, дый не дачакаўся.

— Уліце,— кажа,— мамка, мне чаго паесці.

Пасёрбаў ён крыху локшыны ды пайшоў на вёску, дзе ўжо збіраўся, рахаваўся баркаўчанскі маладзеж. Пакінуў дома меншага брата Савосту. Той на сон пагнаўся і пакінуў хлапцоўскую валачобную весялосць. Савоста не пайшоў.

Ды, іграючы і спяваючы, тыя самі прыйшлі да Заблоцкіх пад акно, як гэта ў іх песні пяецца.

— Да ляцела пава да павістая.
Вясна-красна на дварэ.
Пагубляла пер'я залацістыя.
Вясна-красна на дварэ,—

■ гэтага пачалі валачобнікі. Дармо, што тая пава ніколі не лятала тут, што толькі ў гэтай песні і чулі пра яе. А можа, й ляцела калі праз Баркаўцы, але за сном бачыць яе не давялося. Ды, такі, пяюць, так смела пяюць — аж цяжка даць веры, што нязнаная птушка пава ў нас. Чуваць у голасе надзея : а ну, можа!.. Можа, калі і на наш гразкі, скапытаваны двор згубіць пава залацістае пяро.

Прачнуўся Савоста. Падняў галаву, на ўзлакоткі ўзапёрся.

Усё сваё, усё вядомае.

Гразь. Разводдзе. Па калені боты захлюпаны. А ходзяць... Ходзяць ды гуртам, дружна па падвоканню вясну-красну хваляць. Не век жа разводдзе і ў гразі ж не векаваць. Будзе:

— Вясна-красна на дварэ.

Таму і песні жвавыя, галасістыя трэба. Трэба, каб звінеў яркі, сіберны прастор. І праўда: таго вечара толькі яна ў бары разлягалася.

— Што нам праўда? Калом яна хай пойдзе! — сказаў тады сам сабе Савоста Заблоцкі.— Песень, казак, прывабнага лганства трэба больш,— зусім ва ўпадніцтва падаўся багатырскі сын.

І пасля гэтай яркай, песеннай ночы, напаў рух на людзей. Назаўтра з самай раніцы перайшоў вёску дзесятнік — загадаў на сход, пад карчму: пастуха гадзіць. Паснедалі ды пайшлі мужчыны на сход, а Савоста сабраў усе дармовыя дадаткі, колькі іх у яго было,— аднёс Зубрыцкаму.

— Паглядзі: можа, больш што возьмеш,— набіваўся Савосту настаўнік.

Пакапаўся Заблоччык у яго кніжках. Адны дармовыя дадаткі там.

— Не,— кажа,— цяпер браць нічога не буду. Можа, потым калі...

Паполудні, сход адбыўшы, сабраліся мужчыны ў Шамрука на гумне. Там на ўзгорку ўжо была крыху стужала зямля. Зрабілі котву. Па чарзе кленчылі яны каля лубка, паводле старога звычаю. І былі некаторыя ў гэтым такой практыкі дайшлі, што не толькі самі яе на сваю карысць скарыстаць умелі, але, і на другіх гледзячы, утрываць не маглі, каб добрай парады не даць, куды дзьмуць трэба.

— У пол!

— У насок!

— У пучку!

Як каму: усяк раілі.

Самы апошні прыйшоў на котву Савоста Заблоччык. Пастаяў ён збоку. Паглядзеў на мужчынскую забаўку. Сам сабе ў левы вус — хоць таго вуса і заваду не было — усміхнуўся. «Хто гуляе — той гуляка, а хто стаіць — той разявака»,— часта казала Прузына. У памяць гэта прыказка Савосту. І от, каб у такое нізкае званне, у разявакі, не трапіць, уважыўся ён на простым звычаі, на гэты раз свайго панства забыўшыся, да гурту далучыцца надумаўся. Пазычыў Савоста яйцо. Самым апошнім укленчыў каля лубка — пусціў яго «ў поле».

Шанцавала Савосту ці не, многа ён выкачаў ці й тое, пазычонае, яйцо пракаціў — не вялікая з гэтага цікавасць. Варта толькі сказаць, што была пры тым на котве Шамручыха, бачыла, як Савоста кленчыў на веснюю, не зусім яшчэ стужалую зямлю. І другі раз, як прыйшла яму чарга, знарок з хаты вынесла Шамручыха чыстую анучу пад калені падаслаць, каб не пакуцаў Савоста сваіх вучнёўскіх адменных штаноў.

— А то ў нас, простых людзей,— казала яна,— усё абы-як.

Шанавалі ў Баркаўцох Савосту Юстапчыка за яго маўклівасць, за адзіноцтва. Быў ён вялікі пан у сваіх людзях, што ўсім адмяніўся ад іх.

## X

— Ціха, мужчыны! Паслухаем, што тут за рада,— супыніў крыху чаляднік свайго муляра, што разладэдзіўся быў са школьным вартаўнікам, сеўшы на століках пярэдніх школьных лавак. Яны ўдвух — муляр з чаляднікам — правілі ў Хлюпскім «гарадском» старыя даўно куравыя печы.

Вартаўніку не цікавы былі настаўніцкія рады. Прыслухаліся яны яму. Пайшоў ён за сваёю работаю, адных муляроў у класе пакінуў. А тыя абодвы сталі пад сцяною. Утаілі дух. І чуюць яны з настаўніцкай інспектараў, добра ім знаёмы голас:

— Панове настаўнікі!..

Далей з яго гаворкі відаць было, што скончыліся ўжо ў гарадскім экзамены. Усе здалі — адзін толькі прыстава сын крыху мыляўся. З прыціскам гэта «крыху» інспектар гаварыў.

— Ды і добра мыляўся,— аднекуль здалёк, з нейкага кутка, аказаўся настаўнік па геаграфіі і гісторыі.

За месяц, што прабылі тут, не толькі ў твар, але і па голасу ведалі муляры настаўнікаў з гарадскога, а чаляднік дык і вучняў апошняе класы знаў усіх пятнаццаць. Любіў ён пакепліваць з іх, як дзе было з рукі.

— Панове настаўнікі!..

На добры лад, казаў інспектар, усіх трэба было б выпусціць. І прыставага сына гэтаксама, каб начальства са школаю ў злагадзе было, каб не задзіралася. Але, казаў, казна гэтага не дазваляе. Ей не набрацца месца на пятнаццаць чалавек, а дзесяцём месца будзе, і дзесяцёх трэба выпусціць.

— Дык, уважаючы на гэта, нам давядзецца выбраць лепшых, вартнейшых,— скончыў інспектар.

— Усім месца будзе,— зноў чуваць было аднекуль здалёк, з кутка.— На пастухоў ёсць вакансіі.

Далей інспектар чытаў са спіса вучнева прозвішча і па адным перабіраў настаўнікаў:

— Слова мае...— па імя-бацьку называў іх.

На рэдкае рэшата прасявалі настаўнікі сваіх вучняў. Былі яны ў іх: адзін ціхі, другі паслухмяны; у аднаго бацька добры чалавек, у другога — прыемны... Толькі настаўнік па геаграфіі і гісторыі ў адно слова быў уляпіў на гэтым пасяджэнні:

— Я згодзен з папярэднімі думкамі,— чувацъ было з кутка.

Так дайшлі і да Савосты Заблоцкага. Пра яго было першае слова настаўніка па расійскай мове.

— Кавалак мужыка,— сказаў ён.

Другому гаварыць давялося настаўніку па геаграфіі і гісторыі.

— На вакантнае месца — пастуху за падпасавіча? Так? Калі я вас зразумеў, Аляксандр Пятровіч,— папытаўся ён у настаўніка на расійскай мове ягонай папярэдняй думкі.

— Панове настаўнікі! Мы добрыя цераз лад. Вы ж таго не забывайцеся, што нам з пятнаццаці дзесяць выбраць трэба,— напамянуў інспектар.

Усе па слову скінуліся настаўнікі пра Юстапчыка. І запісалі пра яго ў пратаколе, што з гарадскога — вон! Савосту першаму на тым пасяджэнні такі прыпаў лёс. Дый іншых, што за ім у спісу былі, ужо на частае сіта пусцілі: агледзеліся, што надта мяккія былі спачатку.

Тым часам змяркалася. Школьны вартаўнік запаліў вялікую, панскую лямпу. Панёс настаўнікам. З калідору, як ён праходзіў паўз адчыненыя дзверы, забег быў бляск у класу, дзе падслухоўвалі муляры, скінуўся па падлозе, марскануў па сцяне.

— А ну іх! Трэба да Еські ў мястэчка схадзіць,— сказаў муляр, агледзеўшыся, што не рана.

— Ідзеце. А я паслухаю... Цікава — чым скончыцца.

І чаляднік застаўся. Дастоеў ён таго, што інспектар сказаў:

— Пасяджэнне ўважаю за зачыненае,— ды настаўнікі пачалі разыходзіцца.

Пад поўнач ужо бралася. Увесну гэта хутка: гадзіны дзве, тры па змярканні, дык і поўнач. Спаў, пэўне, ужо Савоста. Спаў і не спадзяваўся, што задасць яму жалю і клопатных думак заўтрашні дзень. Не паглядзелі, не ўважыліся на настаўніцкай радзе, што багатырскі ён сын. Дрэнь яшчэ яго бацька проці большых, мудрэйшых багатыроў, атопак з іх нагі. Гэта толькі ў Баркаўцох, у бедных людзях багатыром ён чыніцца. А пастаў Юстапа з графамі, з князямі плеч-поплеч — які з яго тады багатыр будзе?! Не вучыліся ў Хлюпскім гарадскім ні графскія, ні княжацкія дзеці. Але

вучыўся ў ім прыстава сын. І перавысіў-такі чын усё Юстапава багацце.

Назаўтра — на дзіва яму! — муляраў чаляднік устаў зараней. Яны з мулярам людзі прыезджыя. Дзе была работа, там і самі жылі.

Босы, без шапкі, з ручніком на левым плечуку, з'явіўся чаляднік на школьным ганку. Нёс конаўку ва-ды, каб памыцца на дварэ. Невялічкі маразок кратаў чаляднікавы плечы. Пацiскаў ён імі. Была пагодная, халаднаватая раніца. Недзе далёка ў полі за мястэч-кам чырванела цяпер неба. Недзе — яшчэ далей — бы-ло сонца напагатове, каб не спазніцца на тэрмін, каб якраз тады ўзысці, калі па каляндарох зрабіць гэта трэба. Быў кірмашны дзень. Мялі вуліцы. Узадралі ■ бруку дробны пясок. Сівым, цяжкім пылам круціў-ся ён.

Раннія і запыленыя збіраліся вучні.

— Што гэта на вас сну няма? — пытаецца ў іх ча-ляднік.

— Як наш акзамен, цікава ведаць.

— Ёсць чаго ўставаць ад поўначы?! Папыталіся б у мяне — я б вам і ўчора гэта сказаў.

— Адкуль жа самі ведаеце?

— Адкуль ведаю?! Выварaжыў бы.

— Мы варагом не верым.

— Як сабе знаеце. А я, каму ні варажыў, усім праўду казаў.

Быў пры гэтым прыстава сын.

— А ну, паваражэце мне. Паглядзім,— кажа,— якая ваша праўда.

Азірнуўся на таварышаў: што яны на гэта ска-жуць? Маргануў, што гэта ён так, адчэпнага, толькі прыклёп робіць, а не напраўду. Каб тыя скрывіліся ці як іначай паказалі, што ім не ў нос такія жарты, ён на смех звёў усё гэта. Зірнуў яшчэ прыстава сын і на вокны інспектаравага дома: хаця б адтуль не ўбачылі гэтай варажбы. Ды па інспектару смелы быў прыстава сын: ніколі ад гэтай пары не ўставаў той.

Паставіў чаляднік конаўку на шульца, на плот ускінуў ручнік.

Узяў прыставага сына руку. Буйныя, глыбокія і дробненькія — ледзь знаць, уезджаныя і ўтоптаныя дарогі, сцежкі і ростані ўбачыў чаляднік на яе дало-ні. Заблудзіў, не іначай пайшоўшы па іх патрэбнага

яму акзамену шукаць. Доўга прыглядаўся, а нарэшце й кажа:

— Смелы будзь: усё добра будзе.

Другому варажыў Савосту Заблоччыку. У гэтага лепшыя, выразнейшыя дарогі. Хутчэй на іх дайшоў праўды муляраў чалядзнік.

— Толькі не крыўдуй. Я кажу, як праўда. І не чакай нават інспектара — едзь дадому ды, калі сам не ўмееш, папрасі бацькі, каб добрую, спусную дрытавіну звіў. Гэта будзе хлеб. А на гарадское — плюнь і нагою затры.

Спахмурнеў ад такой варажбы Юстапчык. Абвяла яго разгледжаная рука. Паморшчыліся, збегліся бліжэй адна да адной усе нешчаслівыя дарожкі на ёй.

— Я, братка, не вінен,— цешыў Савосту муляраў чалядзнік.— Калі ж так паказвае...

Роўна дзесяцёх дакляраваў шчасце знакаміты варажбіт, а пяцёх ■ пугаю на «вакантныя месцы» паслаў. І праўда.

— Ну як вы маглі ўгадаць? — пыталіся потым у чалядніка вучні.

— А што! А я не казаў: назавяце мяне сабакам, калі я сваё слова на вецер пушчу?

Таго ж самага дня надвечар прыязджае Юстап па Савосту.

— Ну як? Не здаў? — лепшага спадзяецца, але горшае на языку: такі наш, баркаўскі, чалавек.

— Не здаў,— спакойна бацьку адказвае Савоста.

— Як-то — не здаў?! Ты мне праўду кажы.

— А так, што не здаў.

Накрычаць, насварыцца на сына, спагнаць сваю бацькоўскую злосць хацеў Юстап Заблоцкі, але збіў яго з трыбу Савоста сваім пагардлівым, змоўклівым такім абыходжаннем.

— Ну збірайся ж! — толькі сказаў, а на большае не адважыўся ён.

Хмурны, намружаны прывёз сына Юстап з навукі, але рада была Прузына.

— А я не казала?! От яно і спраўдзілася. Дармо, Савостачка! Не здаў — і чорт яго бяры! Дзяды, прадзеды твае экзаментаў не зналі і здаровы, вясёлы былі.

Маўчаў, гатовага слухаў Юстап Заблоцкі. Але:

— Шчэ паглядзім. Можа, што й здумаем,— нарэшце сказаў.

Таварыш чытач!

Давядзецца нам прыпыніцца хвілін на колькі. У нашым баку — не ведаю, як дзе, а ў Баркаўцох так — прыйдзе чалавек у хату, цікавую навіну прынясе расказаць, але загаворыцца ды і забудзецца пра яе.

— Ах, няма часу! — скажа.— Трэба йсці.

— Пабудзь, пагуляй,— ёсць такі звычай прасіць чалавека — патрэбен ён тут ці не.

— О, не! Дзе вы бачылі?! Трэба йсці.

Стане ў парозе чалавек, возьмецца за клямку. Дагаваруе сваю распачатую мову.

— А вы чулі, што...— то й тое: успомніць ён сваю забытую навіну, як возьмецца за клямку.

Загаворыцца дый пра дом забудзецца чалавек. Пусціць клямку з рук, з парога далей на хату адыдзецца. Так і так яно было... Аж пакуль не ўся навіна, аж пакуль не нойдзе на памяць:

— Трэба йсці.

— Пагуляй. Паспешышся з домам...

— Не. Трэба йсці. І так доўга забавіўся.

Ды бывае, што і на гэтым не канец. Бывае, разоў тройчы будзе за клямку брацца багаты на навіны чалавек.

Возьмемся і мы з вамі за клямку, таварыш чытач, каб прыклёп быў пачаць мову пра забытага намі Клемку Філончыка, што амаль не да прызыву ў Баркаўскую пачатковую школу хадзіў, але сяк-так скончыў (паўздужаў) яе.

Наважыў Язук са свайго Клемкі чалавека зрабіць. Проста бяда была з ім: хоць ты кол на галаве чашы ўпартаму. А яшчэ пашанцавала: хлопца ў войска не ўзялі, што адзін сын быў ён у бацькі. Перабыў Клемка прызыў дый вярнуўся дадому.

Крыўда была Язуку. Ставіўся ён багатыром у Баркаўцох не меншым за Заблоцкага. У таго толькі нівы шырокія ды сядзіба заможны выгляд мае. Язукоў жа і двор вузкі, і зямлі ў Баркаўцох у яго не лішняе, але за тры вярсты на засценку ён мае прыкупленай чатыры дзесяціны.

Завялік Язукоў Клемка на навуку. Па гадох яго ў гарадское ўжо не прымуць. І Філончык свайму сыну службы праз людзей прапытваўся: абы дома не быў, абы трохі каля паноў цёрся. Усіх пісароў, усё дробнае — прыступнае простаму чалавеку — начальства

ападаў ён, стараючыся сыну лёгкага, панскага хлеба.

Потым аднаго разу ў жніво па сняданні кажа Язук:

— Збірайся, Клемка. Паедзем.

Запрэглі яны свайго дэраша ў каламажку на жалезным хаду. Падыспад у сядзенне ўкінулі пшэннай пытляванай мукі паўтраця пуда. Наверх кучак чатыры ўскінулі канюшыны дэрашу, даць, калі дзе забавяцца.

— Садзіся, Клемка.

Не меў Юстап каламажкі на жалезным хаду. Знарок прысмаліў дэраша Язук, як пад'язджалі пад Заблоцкіх, каб ляскаталі колы.

А за вёскаю жалі жанкі жыта пры дарозе.

— Памажы божа,— даў ім Язук.

— Дзінькуе. Куды гэта вы? Сягоння ж не кірмашны дзень.

— Дармо.

Далей праехалі. Ізноў блізка жнеі. Ізноў давялося: «памажы божа!» даваць.

— Куды вы гэтак зараней? — зноў пытаюць.

— Далёка,— кажа Язук.

— Ты ж глядзі: чалавекам будзь,— едучы, навучаў ён сына.— Не чакай, каб табе хто перапусціў — хай лепш тваё пяройдзе.

— Ць-сь-ся!..— сутрымаў Язук дэраша перад поштаю, пры самай скрынцы за шчакеты яго прывязаў, адпусціў пасак, падкінуў кучку канюшыны. Доўга ён меўся забавіцца тут.

— Дзень добры панству,— на кухню з мяшэчкам зайшоўшы, наймічцы кажа Язук. Скінуў шапку і на Клемку крывіцца, каб той гэтаксама зрабіў.

— Сядайце. А я пайду пану скажу,— сцерла анучаю ім зэдлік наймічка.

— Дармо... Пастаім... Сядзелі ўсю дарогу.

Адны, бацька з сынам, у кухні засталіся.

— Толькі будзь чалавекам: каб мне за цябе брыдка не было,— Клемка Філончык — сам у сабе хлопец — чуе ад бацькі.

З Махоўскім, начальнікам пошты, што з сваіх пакояў прыйшоў сюды, на кухню, мала было гаворкі. Ужо быў у яго Язук, гаварыў пра Клемку, і ён казаў: «Прывозь — будзем бачыць».

— От можа б, пане, ім,— на мяшок і на Клемку наказвае Філончык,— далі які прытон.

Развязаў мяшок начальнік пошты. У пальцах пацёр муку — мяккая. На руку ўзяў, паглядзеў — белая, добрая.

— Высып у балейку,— наймічцы загадаў.

— А куды яго? — пра Клемку пытаецца Язук.

— Хай астаецца. Толькі на сваім хлебе. Пакуль наложыцца... А там — будзем бачыць.

— А як, пане, з кватэраю будзе?

— Кухня прасторная...

— От, дай божа вам здароўя!

— Пашыўся ў паны Язучок,— сказалі ў Баркаўцох, як убачылі старога Філончыка, аднаго едучы дадому.

І з твару і з натуры адмяніўся Язучок, у Хлюпску пабыўшы. На другое лета, як прыехаў вялікадневаць да бацькі, па веніку вусы прывёз,— такія доўгія і пушныя яны ў яго.

Калі пра што распытваліся, гаварыў мала — больш слухаў ды «ну ізвесна» казаў.

За навіну яму былі яшчэ тыя вусы, і Клемка ўсё губы аддзімаў, нашатырваў іх.

Цяпер няма такога звычаю, а даўней запасвалі каровы. Даўней людзі адны адных баяліся: каб не ўраклі жывёлу, каб благія ёй вочы не пашкодзілі, каб не збягалася млека, услед не кісла, як толькі падоіш карову. Першы дзень кажан сам свой набытак у поле гнаў. І варагоў, і каб жывёла адна адну не папрасаджвала, глядзелі: разбароньвалі, калі тыя возьмуцца бароцца.

Пакуль гнаць у поле, зрабіла Язучыха так, як даўней усе людзі рабілі: наліла ў дайніцу свянцонай вады, звязала мяцёлку з акалотных каласоў, каб пакрапіць набытак. На двары ўжо!

— Сю-поле... Сю-поле...— як песню, голасам цягнуў Язук.

Выгнаў ён «чарну» і «рыжу», а «рабы» не чапаў.

— Хай яшчэ тыдзень які ў хляве пастаіць. Будзем у поле пушчаць, як цялё адсадзім,— пра «рабу» яшчэ ў хаце казаў ён Язучысе.

Быў дзень людзям на дзіва.

Выйшаў Клемка на ганак. Стаў, пастаяў, паглядзеў, а тады дастае з кішэні футарал. З таго футарала сінія,

нязнаныя ў Баркаўцох, акуляры дастае. Чапляе іх на нос, закладае драты за вушы.

Несла Язучыха сваю дайніцу з крапідлам. Заўнялася. Пазірае на сына, а сын праз свае сінія куплёныя вочы глядзіць на бацькаў набытак.

— Эта что за звяры такія? — пытаецца сын у мацеры.

Пастаўляла тая на яго вочы.

— Што табе?.. Ці не прыступіла што? Году няма, як з дому, і ўжо свая карова зверам падалася. Да там жа, у тваім Хлюпску, рана-вечар пастушкі гэтага «звера», як ты кажаш, на паваднох з пашы на пашу водзяць.

Дастаў Клемка драты з-за вушэй. Прыняў ад вачэй сіняе шкло. Кажа:

— Чорт яго ўсё ў галаве дзяржаць будзет. За гэта ўрэмя мы окала мудрэйшых вяшчэй аціраліся.

Злажыў і назад у футарал палажыў свае куплёныя вочы. І ад тых дат скрозь зямель пайшлі яны. Першы і апошні раз людскаваліся на Клемкавым носе.

## XI

Калі вы, таварыш чытач, нікуды ні на які сход не спяшаецеся, ніякага дакладу, справаздачы, спрэчак не маеце на гэты час, давайце ад Заблоцкіх, ад Філончыкавых пойдзем далей у канец, Баркаўцы паглядзім.

Вы бачыце тую трэцюю ад канца хату. Старэнькая — ледзь у духу, ліпіць от, пакуль ветрам не знясе. Па-даўнейшаму з прычолкамі, без закотаў крыта. На погляд, добрага хлява не варта гэта хата, а жыве ў ёй пан Змышлевіч — не абы-хто. Ён, Юстап і Язук — от і ўся варожая нам у сучасны момант класа: баркаўчанскія багатыры.

Таварыш чытач!

Не глядзіце, што ў аднаго толькі Язука новая, чыстая, як звон, хата і каламажка на жалезным ходу, а рэшта баркаўчанскіх багатыроў у гнілой парахні жывуць і ў панарадах, што гной возяць, на кірмашы ды на фэсты ездзяць. Не ў хатах, не ў каламажках рэч, а ў эксплуататарскай чыннасці. ...У наеды,— гэтак, надта ж брыдка, даўней звалі такіх багатыроў.

Гіляры Змышлевіч — на ўсю вёску адзіны шляхціц. Пакінуў жа чорт такога насення ў Баркаўцох на

завод. Толькі дрэннае яно трапіла ў нашы людзі — не флянцуецца, новых атожылкаў з зямлі не пушчае. Гіляры ў свайго бацькі быў адзіны сын, а ў яго самога і зусім сыны не ўдаюцца — адны дочкі. На пшык сыходзіць фамілія. Сам Гіляры кажа:

— Чортава насенне,— на свае дзеці.— Толькі круціць хвастом, пакуль ушчэпіцца за каторага. Хаця б хутчэй з дому выкруціцца — аднаго глядзяць. Гэта табе не сын, што да смерці бацьку дахавае, памяць пра яго ў дальшы, прышлы свет панясе.

Жыў Гіляры і надалей моцную надзею меў: некалі нешта павінна быць. Але не было сыноў, не было каму бацькаву славу і сорам па ягонай смерці ў людской памяці кратаць. На прымакі павінна была сысці гаспадарка.

— Ды што прымакі?! — не раз сам сабе казаў Змышлевіч.

Прагнуў ён, каб хоць які мала-веле пакінуць знак, каб і па яго смерці ведалі, што жыў, нешта рабіў гэтакі чалавек, Гілярава імя і прозвішча каб прыбрыдала, слухаючы, людзям. І ніякага ўрачыстага здарэння, апрача смерці, не дабраў Змышлевіч. Не так, як іншыя — ён з рызыкаю наважыў у зямлю пайсці: добры і даўгавечны там даць сабе прытон. І гэтым пра сябе памяць пакінуць думаў.

Так, на прымакоў не спадзеючыся, гэтай вясны пан Змышлевіч быў за сталярку ўзяўся. Яшчэ падлеткам быўшы, давялося яму ў дваровага стальмаха за памагатага быць. От ён тады ў стальмашні і налажыўся гэблік у руках трымаць, з пілкаю ды з долатам як абыходзіцца, сёе-тое ў паяздзе паправіць мог. А потым ужо дома сталярку, бандарку Гіляры сам праз сябе дайшоў, як рабіць: кемкае ён меў вока. От яму цяпер гэта ўмельства і згадзілася.

Нацягаў Гіляры ў падпаветку дубовых дошак — добрую, панскую з іх узяўся труну майстраваць. І нагадзіўся якраз Юстап Заблоцкі на гэту работу. Прыйшоў ён да Змышлевічаў пазычыць жалезняка здохлае свінчо закапаць. Пачуў стук у падпаветцы. Зайшоў туды. Ажно ў Гіляра ўжо, можна сказаць, і па рабоце. Асталося толькі шкляною папераю пацерці, каб гладзей было. Ужо века збіваў ён.

— Памажы, божа,— Юстап майстру дае.

— На векі вякоф аман, — той адказаў.

Недачуў Гіляры. Падалося яму, што Заблоцкі, шляхечы яго гонар шануючы, далікатнага «пахвалёнага» яму даў.

— Каму ты такую добрую дамавіну робіш?

— Сабе. А каму я рабіць буду?!

Добра, доўга паглядзеў Юстап на Гіляра: пры сваім розуме чалавек ці ўжо крыху блытацца пачынае? Не ўпадабаў Заблоцкі шляхціцаву работу.

— На ліха яна табе,— кажа на труну.— Хіба жывы туды ўлезеш ды будзеш смерці чакаць?

— Не твая бяда,— крыху зазлаваў Гіляры.— Дык табе жалезняка трэба? — не заходзіў шляхціц з мужыком у доўгую гаворку.— Ён недзе ў сенцах стаіць. Хадзем. Там возьмеш,— вывеў Заблоцкага з падпаветкі, каб барздзжэй адбратацца ад яго.— Ну, як твой сын? — у сенцах, даючы жалязняк, папытаў Гіляры.

— А гэта будзем бачыць,— нічога пэўнага не сказаў Юстап.— У яго яшчэ ўсё наперадзе.

Не любіў Заблоцкі гаворкі пра сына, як пахваліцца не было чым.

— Трэба ісці,— кажа.— У нядзелю пагаворым, як будзе час.

На гэтым і разышліся баркаўскія багатыры. Панёс Заблоцкі жалязняк дадому, а Змышлевіч зайшоў у хату. Там узяў паркаль, што на гэтым тыдні набраў у Хлюпску, ды вярнуўся з ім назад у падпаветку.

Сваім розумам Гіляры на свеце жыве. Ведае ён, што і нашто робіць. Чужое звягі яму не канечне слухаць. Не патрэбна яму ні нядзеля, ні мужыцкія зборні на прызбах. Жыў ён будзе, калі і пра Юстапчыка не дазнаецца. Не надта патрэбен Савостаў акзамент. Ці ён здаў яго, ці не — Гіляру ўсё роўна.

Прынёс Змышлевіч паркаль у падпаветку. Развярцеў, зірнуў — харошы, квяцісты. Памацаваў — моцны, не дзярэцца.

«Гэтакага тавару пашкадаваў бы прымак на труну набраць»,— тое думаў Гіляры.

Абабіў ён тым квяцістым, моцным паркалем усярэдзіне дамавіну, папушчаў знадворку брыжы. Не паглядзеў шляхціц на Юстапавы кпіны. Аздобную і даўгавечную змайстраваў сабе хату. Палажыў у галавах маленькую падушачку з мяккага, дробнага, знарок укошанага і высушанага мурожнага сена. Чуваць быў моцны пахучы чабор. Цяжкі і доўгі сон быў бы жыво-

му чалавеку на такой падушцы. Ніколі б прымакі па Гіляравай смерці такой яму выгады не пастараліся.

Сваю ўласную дамавіну зверху пагладзіў, усярэдзіне памацаў Змышлевіч. І здаволен ён быў.

— ...Ніколі б... І матарыялу, і работы пашкадавалі б прымакі,— сам сабе пад нос прабубніў Гіляры.

Ды і на свае памінкі мала ён меў надзеі. Боязна яму было, што так непамінаны і астанецца, будзе прэць у зямлі. На прымакоў не чакаючы, і пра гэту жалобную бяседу паклапаціўся баркаўскі шляхціц. Схаваў чырванец у труне пад падушкаю. Палажыў туды і свае строі на смерць: штаны, кашулю, крамныя шкарпэткі, новую, ні разу не надзяваную жакетку з сукна сваёй работы. А на гэту адзежу, каб мякка было, каб не пабіўся, калі як незнарок зварухне хто, гарнец даўнейшай царскай гарэлкі палажыў.

— От нечага,— казаў,— будзе што выпіць на хаўтурах.

Тым часам ужо па ўсіх выборах на той свет было. Цяпер толькі прыставіў Гіляры века да свайго месца, моцна яго цвікамі прыбіў. І каб хто ў яго: «Маеш хату на смерць?» — папытаў, «У свірне на гары яна смерці чакае»,— не доўга думаючы, адказаў бы Гіляры. Там у шляхціца дамавіна стаяла да спасёнага дня, калі трэба будзе.

Даў Гіляры сваёй рабоце прытон і ў хату пасілкавацца пайшоў. Там сукала нема крычыць, тарарахкае. Пішчыць, што шляхта яму подмазкі шкадуе. Гасяць набіліцы ў дужых Альжыных руках. За ўсякім разам іхні стук незакітаваныя шыбы адлічваюць ды лямпа пад сталом скіўнецца — той лік пацвердзіць. Не ўправіліся Змышлевічанкі за зіму з абрусамі ў елачку: на вясну іх пакінулі датыкаць. От гэтыя кросны сама больш і труцілі Гіляру свет. Забываўся ён на прымакоў, як толькі пачуе іх стук.

— Каб на вас заўшыца з вашаю работаю! — бубніў ён, у хату прыйшоўшы.— Не ўпыняцца! Як зіма, як лета... Хоць ты свае дамоўкі выракайся.

Так было таго дня. А на другі дзень прыйшло недалёкае заўтра, за заўтрам — паслязаўтра ды так многа іншых, не названых дзён следам. І от аднаго разу, як спаражнілі, за стол сеўшы, міску капусты ўсёю сям'ёю ды пакуль яе месца жоўтая, тлустая смажанка змяніла, пайшла ў Заблоцкіх пра шляхтаў гаворка.

— Недзе сягоння зараней Гіляры паехаў: яшчэ пастух авечкі не гнаў,— казала Прузына, адкалупляючы ад гаршка, кідаючы ў шырокую гліняную міску-чарапку смачныя цвярдыя прыгаркі. З прэлай, варушанай смажанкі каціўся водар з парога ад прыпечка аж на самы кут за стол.

— Аднясі ты ім, Савоста, жалязняк,— толькі цяпер пра гэта ўспомніў Юстап, ды пад'ехала смажанка на гуляшчы стол, і на ўсё забыліся Заблоцкія.

На загароддзі паабапал сцежкі трава ў калена Савосту. Густая, купчастая, чакала яна касьбы. Ішоў па полудні Заблоччык ды жалезняком ссякаў белыя кветкі ў высокага кмену. Была адчынена фортка варот у Змышлевічавым таку, стукалі ў ім усярэдзіне набіліцы. Там у халадку Альжа датыкала ў елачку абрусы. І здалося Савосту, што ён недзе бачыў падобную. А лепш прыгледзеўся — успомніў, што яе сястру на ўсіх скрынках з цукеркамі малююць: у целе дзяўчына, белая такая — пшэнная і на шчоках па ружовай лапінцы. Альжын толькі нос хібіў — крыху не фасоністы мела: у пераносіцы, як долата, а самы канец у цвік сыходзіўся, а так яны з сястрою, як дзве кроплі вады.

— От вам ваш жалязняк,— кажа Савоста.— Дзякуй, што пазычылі.

Халаднавата, змрочна і вільготна было ў Змышлевічавым таку. Чуваць была сырая гліна. І не меў Савоста што болей дзяўчыне сказаць. Разглядаў шляхціцаў багатырскі ток. Шматавата засталося ў іх саломы ад зімы. Палавіна чвэрткі было занята ёю. Мякка, прасторна было таму спаць, чыя на старане ляжала пасцель.

— Гэта ты там спіш? — папытаўся Савоста, іншага нічога не меўшы сказаць.

— Я,— засмяялася Альжа.

Зноў збіўся з гаворкі Заблоччык.

— Адна? — пытаецца.

— Ці не збіраешся ты на вячоркі, часам, прыйсці?

Многа бялейшыя ёсць чырвоныя буракі, як тады зрабіўся Савоста.

— А што ты думала? — кажа.

— Гэта цябе там, у гарадскім, вучылі на вячоркі хадзіць? — пацвельвалася з яго Змышлевічанка.— Нядоўна прыехаў? — пыталася яна.

Было б прыцемна ў Змышлевічавым таку, халаднавата стаяць босымі нагамі на вільготнай сцаглянелай гліне, каб не прабіваліся праменьчыкі з ласкава прымружаных, кплівых дзяўчыніных вачэй. Новае, нязнанае сагрэла Савостаў чатырнаццаты год. Ды ні адсюль, ні адтуль хмару нагнала. Усё далей, вышай сунуўся змрок, а там і зусім зайшло сонца ў Змышлевічавым таку. Азірнуўся на двор Савоста: ажно з таей хмары ды баркаўскі шляхціц стаіць у варотах. Раней сягоння вярнуўся з Хлюпска.

— Ну як у самога акзамент? — пытае ў Савосты.

— Дрэнь... Зрэзаўся па праўдзе вам сказаць.

Ды гэта Гіляру і не надта цікава. Даўно ён ведаў, што так будзе. Дзе гэта відана, каб мужык...

— Годзе зубы выскаляць,— кажа на дачку.— Хадзем у свіран — работу дам.

Прывёз Гіляры свой помнік з мястэчка. Чорны, бліскучы, ляжаў ён на пярэклаці. Імя, прозвішча, па бацьку і калі радзіўся польскімі літарамі на ім выраблена было. Толькі калі памёр, майстар Гіляру не прыставіў, гладкае месца пакінуў на гэту рэч.

Зашыла Альжа бацькаў помнік у палатно. Тады паклікаў шляхціц яшчэ двух мужчын памагчы. І ўчацвярых яны ўзнеслі камень па ўсходцах на гару. Палажылі на дамавіну. Там ён і застаўся ляжаць, чакаць Гіляравай смерці. Мелася неўзабаве агарнуць яго цёмная ноч.

Ды ўсякія ночы бываюць, таварыш чытач. Мы з вамі маем іх чортаву моц. У гадох, куды пусціліся ў вандроўку, многа іх — горшых і лепшых — ёсць нам на выбор. Выберам лепшую з усіх. Возьмем ціхую месячную да гэтых падзей. Выштукуем, каб не які-небудзь ашчапак — маладзік ці ветах, а поўны, ясны месяц на сваім высокім месцы быў. І прымяркуем гэта ўсё на тое лета, як сыскаўся з гарадскога дадому Савоста Заблоччык. І от будзе мець месяц ад нас абавязак — свяціць як мага лепей, высвятляць тыя незабытыя вечары.

Прыпазнілася таго года Пятра прыйсці ў Баркаўцы. Ужо густая, высокая трава хісталася на паплаве, чакала касы. Але за касу не браліся даўнейшыя баркаўчане — чакалі Пятра, што недзе забавілася ў дарозе. Так і жылося за даўнейшаю бытнасцю — чакалі...

Але, але, таварыш чытач,— гэта ж на той бок нямецкае вайны.

Чакае — не счакаецца густы мурог, калі яго палажаць адпачываць у пракосы, ломіцца ад знямогі і з роспачы прыпадае да зямлі. Гэта ўдзень, прыгледзеўшыся... А як толькі вечар — цёмна, чорны змрок кладзецца на паплавы. Зірнеш угору — там, дзе разбітае, дзе ў пракосах сушыцца сена хмар на шырокай, як водзе, а ў ... скінуць, блакітнай сенажаці. Там вышай, да сонца бліжай, там многа харашэй. І Пятра туды перш-наперш заходзіла. А калі яго тут, у Баркаўцох, дачакаюць? Пачаць жа сваім одумам касьбу, адмысловага свята не дачакаўшыся,— няможна: на тое даўнейшая бытнасць. А мы гэта забабонамі завём. На Пятра мы не глядзім. Ды чаго там, урэшце, яму было б цягацца ў наш рэканструкцыйны час? Яшчэ б кулацкую агітацыю шырыў у момант абвостранай класавай барацьбы гэты рэлігійны атрыбут.

П'яны, хісткі месяц выйшаў быў на неба за сваёю работаю ў той вечар, у тую ноч. Ды і дзіва няма! Корчмаў, гарэлкі за даўнейшую бытнасцю было чортава гібель. Ручаямі цякла яна ўнізе. А яму, там угары ходзячы, магла галава закруціцца толькі нанюхаўшыся. Дзіва няма, што, хістаючыся, паўзе ён уверх, чапляецца за пракосы, топчацца, дзе разбіта. Нам, цвярозым, смешна. Калі гэта даўней, яшчэ за капіталізмам — то хай саб⌐! Але ў наш гарачы будаўнічы час мы б іначай глянулі на гэта: ён не таптаў бы наш сацыялістычны мурог — узялі б мы пад суровую самакрытыку такія шкодніцкія праявы! Мы цяпер паглядзелі б, што там: сапраўды круглы, вясёлы, радасны твар ці, можа, гэта ў яго толькі адна маска? А з старое, капіталістычнае бытнасці мы і пасмяяцца, пакпіць можам. Што больш там на глум ішло, то нам з гэтага лепшая ўцеха.

І чуваць было таго вечара з баркаўскае вуліцы:

> — Летня ночка маленька:
> Я не выспалася...

Дзе там выспішся ў такую відную вясёлую ноч?!

Таго вечара, работы ў руках і розуму ў галаве не меўшы, можна было ўнурыўшыся вуліцу прайсці ды ўсе да адной іголкі пазбіраць, калі дзе рассыпаны былі. Можна было такую людзям ласку зрабіць, каб бо-

сых ног сабе не пакалечылі. Такая была відная, месячная ноч. І каб хто таго разу падрадзіўся іголак шукаць, два цені падняў бы [redacted] чвыру на вуліцы процi Змышлевічавага двара.

З самага вечара было ціха, а цяпер павеяў вецер. І беглі, некуды спяшаліся, чэсаныя аб зялёную шчэтку бору, кужэльныя далёкія хмары, доўгія, валакністыя. А за імі ўслед цягнулася зрэб'е, камякамі накіданае кастравае пачассе. Пад яго цяжкую, цёплую хмару праваліўся і астаўся там, як вокам звесці, халодны месяц. І тады папацёмку:

— А дзе ты бачыў?!

— Ты ж казала: адна...— гаварылася ў Змышлевічавых варотах.

Добра тады месяц свяціў, але заленаваўся пад рэшту і ўсяго такі не высветліў. Папацёмку скрыпнулі вароты ў шляхечым таку... Ды не ў памяць Савосту ні гэныя звяглівыя вароты, ні прасторная на аўсянай, мяккай саломе пасцель, дзе ягоныя маладыя леці не давалі маладому Заблоччыку разгарэння. Толькі відныя, месячныя вечары ды два дні з двара цераз усю нашу нешырокую вуліцу і цяпер недзе носіць Савоста ў сваіх успамінах.

## XII

Мінуліся тыя месячныя вечары.

— Яшчэ, можа, што здумаем. Яго ўсё шчэ наперадзе,— усім, хто што пра Савосту ні пытаўся, казаў Юстап.

І здумаў. Язукову думку нанава перадумаў ён. Па Клемкавай дарожцы пусціў Заблоцкі свайго сына: не мінуў ён хлюпскае пошты. Там і стрэліся неўспадзеўкі Клемка з Савостам.

— А ты што? На сваім хлебе? — папытаў Філончык.

— На сваім...

— Кажаш, гарадское [redacted] чортавай матары?!

Нічога не адказаў, змоўчаў Савоста. А далей-болей, штораз лепей ды нарэшце і зусім добра схаўрусавалі яны.

Кінулі Хлюпск дый з'ехалі ўдваіх недзе ў свет.

Пабываў Савоста на далёкай чужой старане, і абрыдзела там яму ўсё чыста. Па сваім баку, па наскіх

людзях ён зажурыўся. Свайго роднага пачаў там шукаць.

І ў тым далёкім павятовым горадзе, дзе ён цяпер апынуўся, разам з сонцам, як некалі ў Баркаўцох, прачнецца Савоста. Выйдзе босы са свае кватэры на мурожны двор. Ціха, яркавата і адзінока тады. Тая самая буйная, краплястая баркаўская раса стаіць на мураве. Ды зараз дзевятая гадзіна, зараз канцылярскі, зліты атрамантам стол.

— От дзе, маці, праўдзівы «курч»,— сказаў бы ён цяпер Прузыне Заблоцкай.

Яшчэ адзін надвячорак успамінаў Савоста. Перад Калядамі ў адлігу бывае часам ціха, змрочна на двары, як у вымытай перад вялікім святам хаце — прасторнай і пустой здаецца яна: раз ступіш, а тры разы твой стук адгукнецца. У такія надвячоркі ў Баркаўцох скрыпяць вілы ў старой Базылёвай студні, дзе на два грунты ваду бяруць. Алесь Стрэмскі — нізенькі вясёлы чалавек — нясе вязку трушанкі з тока цераз вуліцу. А Савоста памаленьку валачэцца дадому [redacted] сяла.

Зажурыліся тыя надвячоркі, адны ў Баркаўцох заставаўшыся, ды й яны прыехалі да Савосты ў гэты далёкі павятовы гарадок. Неяк неўспадзеўкі, ідучы са службы, на сваёй вузкай ціхай вуліцы стрэўся з імі Заблоччык. І хоць не чуваць было скрыпу вілаў, не відаць Алеся [redacted] вязкаю, але было нешта сваё роднае ў гэтай надвячорнай шарай гадзіне.

Збілі з тропу Савосту росныя раніцы, змрочныя вечары. Туга апанавала яго. Усяму свайму мінуламу ліхі вораг зрабіўся ён. Захацелася Заблоччыку ўсё нанава пачаць. Новым у Баркаўцы з'явіцца чалавекам. Прыгадалася мяккая, падаўкая зямля пад босымі нагамі ў аратага. Нажадаў Савоста расстарацца сабе на цэлы век такое долі.

Заманулася яму, каб як прывініцца: не ціхенька, а з грукам, тэртусам з'явіцца ў Баркаўцы. Так зрабіць, каб да «курчу» ўжо век не было звароту. З самага малку любіў Савоста дзвярыма бразнуць — злосць сваю паказаць. І тугія сабе дзверы, каб далёка чуваць было, дабіраў. Ды яшчэ наперад паглядзіць, каб ганак нізкі быў, возьме крыссе ў рукі, каб не прышчаміць як незнарок, ды не разганяецца лішне, каб носам не зарыць. Ён перш стукне, дасць адвод, што пайшоў, ды

стане пад дзвярыма, пастаіць, што пра яго гаварыць будуць, паслухае.

І ў людской памяці, як у паслушнай кнізе, хацелася Савосту свае парадкі навесці: пазногцем тыя мясціны зазначыць, што такія, як яму трэба, а на ўсю рэшту не пашкадаваў бы Заблоччык часу і сеў бы на дзён колькі ды так бы густога атраманту даў, каб ніводнага ўспаміну, ніводнай літары там нельга было разабраць, каб і знаку ад таго, што яму не асталося. Выкасаваў бы Савоста бацькавага парабка, Шамрукову котву, паштовую службу, а пакінуў бы — «летнюю ночку маленьку» ды «вясну-красну».

Яно добра б было, каб так было, як Савосту трэба. Але спрадвеку вядома, што сама лепш так, як яно само ёсць. Што ж бы тады было, каб, як у гарадскім Заблоччык быў, над людскою памяццю меў ён волю? Такіх бы ў той кнізе парадкаў нарабіў, што пазней сам бы за вушы хапіўся. Зусім бы без ніякага мінулага давялося яму аставацца.

І знайшлося было раз Савосту здарэнне дзвярыма бразнуць. У п'янай бяседзе яму гэта шчасце ў рукі прыйшло. Нарваўся быў таго разу каталіцкі раскрыжованы Язус на іхняе вясёлае пісарскае таварыства. Ціхенька на куце, да сцяны прытуліўшыся, стаяў ён на сваіх прымастках. Дастаў яго адтуль Клемка Філончык. Абгледзеў сваімі гарачымі, гарэлкаю залітымі вачыма.

— Годзе табе,— кажа,— пане Язусе, пакутаваць! — і давай яго сілаю з крыжа вызваляць.

Таварыш чытач! Мы з вамі — бязбожнікі, дык нам што?! Калі ён бог, паводле свайго сацыяльнага становішча — варожы элемент у нашым грамадстве, то мы скрыва на яго павінны глядзець. Што нам пакуты асуджаных гісторыяй сацыяльных груп?! Хіба каб справіць смех, маючы час. А як надта некалі, дык і спакойна пройдзем паўз іх, у другі бок на той час адвернемся, каб не бачыць агіды пакут.

Новы нам дазволен да гэтых рэчаў падыход: можам кпіць з іх, колькі ўлезе: гэтым начыннем прабачаць новы, некалі шанаваны матэрыял.

Але не забывайма, таварыш чытач, што ў старой бытнасці, што на той бок вайны ў гадах ходзім. Што тады пра сацыяльныя становішчы Клемка мог ведаць? Проста і несвядома сказаў:

— Шкода, потым, і бога, як ён пакутуе.

Ды так шчыра быў за Язусава вызваленне ўзяўся, што аж у таго, варожага нам пакутніка, як з крыжа звёў, адной нагі не далічыўся. Да таго ёй люба няволя была, што адна адною засталася, па самае калена адламаўшыся, у сваім спрадвечным горкім стане на крыжы.

— Ага, мяцежнік! — закрычаў п'яны Філончык на каталіцкага, «польскага» бога, убачыўшы такія пададэсці.— Як гэта ты адважыўся не ў поўным складзе з'явіцца на агляд?!

Маўчыць сціхатою гаротны, бязногі Язус.

— Га? — пытаецца ў яго Клемка Філончык.

І на гэта нічога не кажа.

— Заняло табе?

Расперазаў Клемка папругу. Палажыў пакутніка ніц.

— Я ж табе! — кажа.

— Двадзесце пеньць! — польскаму богу па-польску сказаў Філончык, каб той лепш разумеў і болей баяўся, ды давай яго, як дураслівае дзіця, папружкаю да розуму і пакоры даводзіць.

З рогату заходзіліся тыя, што разам пілі, елі, за адным з ім сядзелі сталом. Не маглі яны дачакацца тае часіны, калі можна будзе ўвесь гэты вечар жандарам за крамольны матэрыял аддаць. Адзін толькі Савоста ціхі і сур'ёзны на таей бяседзе быў. Сядзеў ён, маўчаў, а потым наліў кілішак гарэлкі ды кажа:

— Вып'ем, панове, за здароўе пана Язуса і найсвеншай маткі.

От за гэтае самае слова і трапіў ён з Клемкам у адзін гурт. Удваіх яны на сваім хлебе ў хлюпскай пошце былі — і цяпер удваіх на казённы хлеб, на казённую ваду трапілі. Ніякімі дзвярыма мацней не грукнуў бы, як цяпер. Савоста ляпнуў сваім п'яным, як ануча, няспрытным языком. Але потым казалі:

— Гэта добра, што на польскага бога нарваўся ты. А, крый божа, каб ты рускага ўкволіў — турмаў бы на цябе не набраліся, у вастрозе згніў бы праз свой дур, век бы табе адтуль не вылезці.

І праўда: за чужога бога хто там надта ўходзіць — папаў і маўчы сціхатою: не трэба было ўпраўным быць, нарывацца на ўтрапёнага чалавека.

Не слабкія трапіліся Савосту дзверы. Ды не так та-

го стуку было, як прышчаміўся ён імі. Цэлага паўгода праз аконца з кратамі на свет пазіраў. А як выпусцілі, то зрабілі яму на дакументах такую запаметку, што век яго ніхто ў войска патрабаваць не будзе і ні за старасту, ні за валаснога старшыню ўжо яго выбраць няможна. Хацелі гэтым пакараць Заблоцкага. Думалі, прасіцца будзе, прашэнні на царскае імя падаваць. Але не на таго нарваліся.

— Толькі тае бяды! — усяго сказаў Савоста.

Не ў жалі, а ў радасці ехаў дадому. Рад быў, што ніякі чорт яго цяпер турбаваць не будзе: ціхі і лагодны будзе ён у Баркаўцох гаспадар.

З Клемкам ужо іначай было. У таго без цуда не абышлося. Неяк ён, у астрозе седзячы, навучыўся фармазонскага птаха маляваць. Не пашкадаваў крыві, бо толькі кроўю малёваны, кажуць, ён мае чараўнічую моц. А як вымаляваў, сеў на яго конна, за шыю з усяе сілы ашчарэпіў ды й паехаў на волю праз тоўстую астрожную сцяну.

— Звякаваў бы там,— казалі,— каб не той фармазонскі птах.

## XIII

Мала ж Савоста ў чужым баку палюдскаваўся. І туды, следам за ім, даняла ягоная нядоля. Стрэла там Савосту цёмная ноч.

Усё тое немаведама дзе, у чортавых зубох, было. Ніхто з тутэйшых там не быў, з людзьмі з таго боку не сустракаўся, ні ад каго пра Савосту распытацца не маглі. Як там што было.

— Хто яго ведае,— пацiскаюць плячыма нашы баркаўчане.

Ажно, год цераз колькі, зноў Савоста «дзяндобры» Баркаўцом дае.

Як ішоў з вакзала, трапілася яму відная, месячная ноч. Далёкага лесу цёмная істужка, дробныя шляхечыя засценкі, пакупшчыцкія хвальваркі выйшлі былі на відно, Савосту напаказ. Шмат чаго знаёмага, пра што ўжо крыху забывацца пачаў, убачыў бы ён, каб толькі глядзець меў час. Не ганьбаваў Савоста тутэйшых краявідаў, толькі думкі таго разу заступілі б яму свет, прыгаства віднай весняй ночы засталучылі.

Ажно і чыстае поле мінуў. І не заўважыў, калі ў

гушчарыні скарбовых кляновых прысад апынуўся. Так спляліся яны тут сваім голлем над дарогаю, што неба ўгары за імі знаць не было.

— Добры вечар,— яму сваім сакавітым лісцем прысады прашапацелі.

Хоць ціхенька, хоць крадком — варуючыся панна,— але скажуць яны свайму чалавеку ветлае, лагоднае слова, дармо, што скарбовыя парабкі, а іхны пан з баркаўчанамі за сервітут правуецца.

Цяжкае іх парабоўскае жыццё: як дзень, як ноч вартуй гразкія грэблі, чвыр на ўзгорку, мокні на дажджы, стынь на марозе, на сіверы, слухай, як вар'юецца мяцеліца ў полі. І гэта дзень у дзень, год у год. Тады выхадных дзён не было. І на курорты пасылаць тады не мелі моды. Прастынеш лішняе, нападзе на цябе трасца — і трасіся: чорт цябе бяры! Некаму гэта ў галаве?! Ды што б там памаглі выхадныя дні?! Што курорты?! Калі няволя, калі ты скарбовае, графскае дрэва, калі ўсё гэта на той бок вайны, за капіталістычную бытнасцю робіцца?

І маўчаць сціхатою густыя кляновыя прысады. Але часам, калі расшумяцца, калі раскалышуцца, калі разбядуюцца...

Свае зяблыя косці, што злосцю набрынялі, хочацца ім разагрэць. Ды ўсё не выпадае. Пашурмуюць ды ўтаймуюцца. Утаймуюцца і маўчаць сціхатою: на тое — служба, на тое яны — парабкі.

І от ім, гэтым прысадам, цяпер:

— Дабры вечар, сваё роднае,— сказаў Савоста Заблоцкі.

А тым часам з прысадаў крышку ўбаку і кудзерка лесу відаць бы тутэйшаму, прызвычаенаму воку. Гэта Савостава бацькаўшчына, дзедаўшчына, незабытныя ягоныя Баркаўцы ў такія строі прыбраліся, выйшлі пад месяц палюдскавацца ў вясеннюю ноч.

Некалі, яшчэ не за Савоставаю бытнасцю, даўнодаўно, як яшчэ паншчыну людзі рабілі, і праўда — тут быў лес. Вялікая пушча, Радзівілаў неабсяжны лес сваім рогам Баркаўцоў кранаўся.

Рос тут вялікі, светлы хваёвы бор. І з самага берага тры хаткі забудаваны былі. З гэтых хатак і вёска вырасла, а праз бор сабе такое імя папала — Баркаўцы.

І што далей ад таго часу, то ўсё болей бор на захад

ад вёскі адступаў, а тут, дома, у іх свой заводзіўся лес. Штогоду болей урасталі Баркаўцы вішэннікам, гаспадарскімі садамі на сваю і дзяцінную патрэбу ды ўсякім іншым патрэбным і непатрэбным дрэвам. Лагчыну, западзь на поплаве, кудэю некалі быстры ручай з бору цёк,— алешнік апанаваў.

А ў яго падсуседзі асталася вярба, ракітнік дзе-нідзе. Бярэзніку спадабаўся ўзгорак на заручычах (за ручаём). А ў гаравога Змітры рос нават дуб процi ганка. А што на кляны, каштаны, ясяніны — ліку няма.

Такі тут гушчар стаў, што, здалёк зірнуўшы, здаецца: такі, хлявы, хаты скрозь зямель пайшлі.

Было не цеперся, як Савоста пад дом падыходзіў. Крактала жабы ля мастка ў завоіне, што зрабілі малыя, загаціўшы баркаўскі нядэшлы ручай. Матушыўся, чувацъ было, бусел над крыніцамі на сваім гняздзе. А так каб дзе хто шапнуў.

І от гэтаму спакою, сваім баркаўцам гэтаксама:

— Дабры вечар, сваё роднае,— сказаў Савоста Заблоччык.

*1929 г.*

# ВЯСНА

Як маленечкія люстэрачкі, мяняюцца ад прамення вясенняга сонца растрэсеныя па полі сняжынкі. Весела міргае шыр палявая, як вокам скінуць, ад вуглоў трох новых хат з прыбудоўкамі хлеўчукоў ды такоў, што, як дзіця старчыхі ў цёплай хаце, туляцца ля іх, да бярэзнічку шляхечага хутара. Заве шыр на свае загоны.

Як тычкі, тырчаць гэтыя тры хаткі ў чыстым полі. Не пяюць ім ціхіх калыханак кучарастыя дрэўцы, схіліўшы над іх стрэхамі свае зялёныя галовы ў шарую гадзіну. Толькі вецер-падвей высвіствае песні, снуючы каля іх вуглоў. Ні плоту, ні замёту ніхто не ставіць упоперак яго сцежак.

У аднэй хатцы сядзіць ля акна Тодар Сітнюк і ўглядаецца ў белую шыр, снуе думкамі па дзірванах сваіх палеткаў. Думка радасная, што самахцом цягнула яго сюды, у гэты пустыр, часамі з'явіцца цяпер, і тады пад павіслым вусам прабяжыць лагодная ўсмешка.

Роўным звагам гудзе каля другога акна жончын калаўрот, і з-пад яе пальцаў тоненькая, як валасок, нітка жвава бяжыць у вілачкі.

* * *

І пачалося яно з ціхіх гаспадарчых меркаванняў, з практычных развагаў. Але тэмп яго штораз павялічваўся і штораз вышэй узнімаўся Алімпін, Тодаравай жонкі, звонкі голас.

І як толькі ўпраўляўся яе бабскі язык. Сакатала:

— Ужо каторы дзень, каторы тыдзень я дзяўбу гэ-

таму надаўбню,— дабірала яна больш ядранае, буйное слоўца,— пайдзі да Вінцэся, каб ты па свеце не хадзіў,— пазыч жыта. А ён і вухам не вядзе. Па сваіх камітэтах валочыцца.

— Ціха!.. ціха!..— не то крычучы, не то просячы ратунку, пісклівым голасам наперабой жонцы залямантаваў Тодар. Яму гэтыя песні прыслухаліся за паўтары гады пасялкоўскага жыцця. І так яны вечна, дзе б ні быў, куды б ні пайшоў, як звон стаяць увушшу. Як бобам, сыпле імі Алімпа кожан дзень.

А яна раскудахкалася на ўсе за́стаўкі, як пусты млын. Жалілася на сваю горкую долю, на недахват куска хлеба, а да хлеба — і казаць няма чаго.

— Быў парабкам, і трэба было трымацца ў цёплым кутку чвырака, калі не выкідалі. Зазвоняць — бяры работу ў рукі. І ні табе клапот, ні думак. Воляю свет. Рукі ў кішэні — пасвіствай. А яму нядобра — трэба свой шнур мець, свае клопаты. Кажа, зямлю ўраджайнаю зробіць, будзе сітніцаю пазы затыкаць... Хвалько! Дурань!..

— Сціхні! — начальніцкім голасам загадвае Тодар і адначасна кулак спускае з-за пляча на рог стала.

— А вось не сціхну! — зазначае Алімпа.— Вось, Тодарка! Хоць голы, ды востры. Але помні: не дагоніш яго, Вінцэся, у пяту пацалаваць. Ты — скула пад яго вокам, і яшчэ пакланіцца яму не хочаш. У яго дабра поўны засекі, а ў цябе зубы на паліцы ляжаць.

* * *

А тым часам неўзаметку падкралася га́дзіна злосці, штораз мацней сціскала Тодарава ўстрывожанае сэрца.

Не змагла яна ўтрымацца ў вузкіх берагах сумлення і шырокаю паводкаю хлынула цераз іх, змываючы па дарозе ўсё. Была ў яго на той час адна думка, адна мэта — даць. І засланіла яна сабою ўсе астатнія думкі, імкненні, развагі. Рвануўся Тодар, акамянелы кулак разоў колькі заехаў у каршэль Алімпе.

Загаласілі на ўсю печ дзеці.

— Людцы, ратуйце! — енчыла Алімпа, буйныя слёзы цуркам ліліся з вачэй.

Апамятаўся Тодар, апрануў кажух і ціханька выйшаў з хаты. Сам на сябе і на ўвесь свет злосны быў ён.

Сёння пабіўся. Жарты гэта? П'яны быў, век пражыў — не біўся. А цяперака давялося. Злаваць... Во гэта другая справа. Злаваць ён умее, ды яшчэ як умее, заесца да таго, што год гаварыць не будзе, нават вачэй на таго не падыме. Другі б за тую віну крыві нарабіў — сабакам не папіць, ■ ён на гэта не здолен. Ён ціхай і ўпартай натуры.

Яркі свет рассыпаных па полі зорак сляпіў Тодару вочы. Праціраючы іх кулаком, пайшоў ён у вёску.

Вясна ідзе. Гудзе і пераліваецца маленькая ручаінка, перабягаючы пад невялічкім мастком дарогу. Па сцежках чарнеюць лужы. Снег — слюза, якую рассоўвае ў бакі Тодар, ідучы сваёю дарогаю. Насунуўшы сваю аблавушку на самыя вочы, унурыўшыся, пёрся ён па напрамку на Вінцэсеў бярэзнік.

Сваё жыццё і ўдоўж і ўпоперак перадумаў.

«Добра таму, у каго работнікаў поўна хата. А ў мяне — дзятва ды мы ўдваіх,— снаваў свае думкі Тодар.— Рвеш свае вантробы, ■ скуры пнешся, а ўсё недахваткі. Хоць бы на сваё насенне ўзбіцца. Чужое зерне — воўк. Аддасі яго, а ў засеку адны пазадкі астаюцца. Канцы з канцамі не сходзяцца... Ну, але налета інакш будзе. Перакідаемся сяк-так гэты год. Вось крапівы прыжджом. А там і на цыбулі пер'е адскочыць, будзе боршч, халаднік. Перахарчуемся лета. А жонка хваліць долю парабацкую. Ну яе...»

Вясною рунее жытцо і ярына, зялёнымі хвалямі к зямлі хінецца. Улетку спелыя калоссі гнуць свае пажоўклыя галовы на твае грудзі, як пройдзеш мяжою, і шастаюць казку пра жыццё.

А каб да шчырай працы ды навуку дадаць, агранома часцей пазываць на парады... Тады з сітніцаю можна будзе не толькі мары злучыць, але і справу на грунт сапраўднасці перавесці.

І хлюпаюць па макраце яго боты. Пырскі ў бакі за гоні разлятаюцца. А ён задумёнка звесіў галаву і не пашле ласкавага погляду на сонца, што радасна ўсміхаецца з сіняй высі. І не падыме вачэй на бярэзнік, дзе з-за яго гэтакая калатня ўзнялася.

* * *

У бярэзнічку за будынкамі, што, як стада авечак, рассыпаліся па шырокай сядзібе шляхціца Вінцэся,

ішоў апарат поўным ходам. Франак, сын, толькі ўпраўляўся пляшкі падстаўляць. Як з кранта, дзюрчалі шалёныя кроплі, ды яшчэ якія! Ужо разоў колькі ўпэўніўся ў гэтым Франак. Не больш напарстка пацягне ён, як толькі нойдзе поўная пляшка, а за горла як агнём хопіць. Кварта першаку, ганарыста растапырыўшы свае бакі, стаяла каля самага апарата. І другі гатунак мала чаго адставаў.

Спакусліва моргае агеньчык пад трыножкаю.

А Тодар гэтак і прэцца сцежкаю каля гумён.

— Бачыць. Каб яму вочы на лоб павыперла,— ціхенька кажа Вінцэсь.

Залілі агонь і спаважна пайшлі адзін за другім да будынка, як бы нічога і не ведаюць і ні ў чым не грэшныя. Франак пайшоў у хату, а Вінцэсь астаўся каля сцежкі, каб стрэцца з Тодарам.

Марнуючы час, з мінаю добрага знаўцы абглядаў вуглы пузатага будынка, што больш за сто коп глытае восенню ў свае зявы; барабаніў шчыкалаткамі аб сцяну, як бы гэтакім манерам умеў знайсці нейкі таемны, а разам з тым і практычна неабходны сакрэт.

І толькі параўняўся Тодар, ён кінуў свой занятак і абярнуўся да яго тварам.

— Дзень добры! — прывітаўся Тодар.

— Пачакай! Куды спяшаеш? — спыніў яго Вінцэсь, каб слова-другое закінуць і дазнацца, ці бачыў той яго каля агоньчыку.

— Трэба ў вёску даведацца,— неахвотна здаволіў Тодар Вінцэсеву цікавасць.

— Вясна ідзе,— падтрымліваў гаворку Вінцэсь.

— Але. У нас і ў таку і ў хаце чуваць яна. Сена на рэзгіны адразу забярэш. У хляве авечкі бляюць, карова рыкае. На печы дзеці ў кулак трубяць, есці просяць...

— Яно-то гэтак,— не то ў бядзе параду даючы, не то холадна заўважаючы факт, пацвердзіў Вінцэсь. У яго дык сена да Міколы хваціць, а хлеб яшчэ й засекі Еселевага шпікнэру папоўніць. Толькі й клапот, што пра сягоняшнюю бяду ды пра абрэзкі, дзе тры скулы як з-пад зямлі выраслі і колюць яго зрэнкі.

— А можа б, пане-дзядзьку, які б пудок пазычылі? — на спробу закінуў слова Тодар і з пытлівым поглядам заўняўся на яго абліччы.

— Яно то можна было б,— па слову выціскаў Він-

цэсь. Тут яму і бровар на памяць усплыў, непакой быў у гэтым пункце ў яго сумленні. Каб не гэтая бяда, ён бы іначай загаварыў!..— Вось хіба, нябога, прыйдзі там па таей нядзелі. Тады па-суседску памяркуемся. Яшчэ [illegible] сваяўствам як мае быць не разлічыўся. Анупрэй касіў, Дзянісіха жала. Трэба і іх не мінаць. Ат! Памяркуемся...

Гэтага толькі і чакаў Тодар.

Разышліся.

Смех бегаў па губах Вінцэся, расплываўся ў прыветную ўсмешку. Здаволены быў. Думкі ўзварушыліся, як сняжок пасля мяцеліцы.

«Лес не ровен, трава ўсякая, і чалавек — гэтае самае,— кажу я і ўсе разумныя людзі...— Падохнеш, галытра акаянная... І ангельцы, французы, палякі не даюць храпунца. Яны на нас углядаюцца, ды яшчэ як...»

Здавалася Вінцэсю, што Польшча, Ангельшчына, Францыя, вытрашчыўшы вочы па яблыку, пільна ўзіраюцца ў Савецкую краіну і бачаць у ёй аднаго яго ды яшчэ, можа, Анісіма Стажэвіча. І цякуць, коцяцца на шырокае чэрава іх буржуйскія слёзы, бо бачаць, як абрэзка гняце Вінцэся Анбражыцкага і Анісіма Стажэвіча.

«Ой, пагоняць! Аж пыл закурыць»,— цешыць сябе Вінцэсь і памаленьку, калышучыся, йдзе ў хату, каб загадаць сыну барждж эй брацца за спыненую справу. Хто ж яго ведае? Гатоў падкусіць. Можа, ён з тым толькі й пайшоў.

Па дарозе глянуў у ток. Рыжаю лысінаю свяцілася старана саломы. З другога боку зелянела сена, як бы толькі што прывезенае з лук.

Радасна стала.

Але следам за гэтым горкасць салоным квачам лезла ў душу: успомніў абрэзкі...

* * *

Пад вечар Вінцэсь выйшаў з рэзгінамі на гумно ўзяць сена з току каровам. Бачыць — ідзе па дарозе ля гумён нехта з мехам за плячыма.

Пазнаў Тодара.

— Адкуль гэта? — здалёк папытаўся Вінцэсь.

— З бядняцкага камітэта,— адказаў той і мінуў Вінцэся, не сказаўшы больш ні слова.

«Бачыш вужаку! Ужо ён і шапкі не мерыцца зняць! Ліха іх хай возьме! Сабака сабаку знюхае!» — праводзіў яго думкамі Вінцэсь.

Пазіраючы на бакі, Тодар мерае гаспадарскім вокам шырыню Вінцэсевага поля. Імчацца думкі стройнымі чародамі.

«Вось мы ўкаранімся тут, тады падзівіцца свет. З гэтым абшарам нам саўладаць — плёвая справа».

## КРАЎЦЫ І ЧАЛЯДНІКІ

У гэтым баку людзі добра знаюць заўжды напружанага, прыгорбленага, з густым шчаціннем на барадзе і ба́ках краўца Аляксандру. Добра шые — моцна, і да чалавека адзежа прыстае. Па цэлым барждэжэй дасца, [redacted] па шве не пусціць у яго. Усяго толькі, што марэда, капарнік: самую драбязу мэдзіць, выразае, дамярае, каб добра прыйшлося. Не ў нос гэта тым людзям, што скваркі зайздруюць, баяцца, каб кравец лішняга дня не пабыў. Га́няць яны Аляксандру, што саўсім няўмека — не шые, а вучыцца. Га́няць, ды патом яго к сабе шыць пазываюць, калі ёсць якая добрая работа: кажух, жакетка, бравэрка ці бурка. За драбнейшую работу Аляксандра і брацца не хоча. Няма калі яму носа ўцерці і ад буйнейшай. Каб уважыўся ды скідаў галіфэ альбо таўстоўку на сорак складак, трэба добра, доўга папрасіць. І то толькі добраму чалавеку гэтакую ласку ён можа ўчыніць. З якім дык і гаварыць не дасца.

Шчэ трэба ўмець як зарабіць годнасць добрага чалавека. Трэба не вельмі распушчаць язык. Горш паранай цыбулі не любіць Аляксандра, калі дзе абярэцца разумнік гаспадар ды стане над каркам і дакладае: от гэтта так трэба, а гэна вунь як — папра́віць трэба. Тады звар'яціцца кравец. Лепш не гавары болей, калі здагадаўся. Закіпіць, зарыміць, зачмыхае... Бяда! Гатоў усё падраць, парэзаць і сам з машынаю [redacted] другому пераехаць. А грошы за сапсаваны матар'ял не прападуць: цераз людзей перашле. Больш знаць такога чалавека не захоча. Ды і крыўда! Як сабе ні было, такі ён — майстар, на гэта вучаны чалавек. Папусціся толькі ўсякаму, дык не кравец, а пэцкаль зробішся, стань толькі

кожнага слухаць. Вось якой Аляксандра натуры. Яму спярша раскажы, што за моду ты прыставіць думаеш, і папрасі: «Глядзі ж, Аляксандрачка (ці дзядзечка, гэта гледзячы па ўзросту), каб добра было». А больш ані шэпні.

Усе добрыя краўцы ў вёсках спрадвеку хадзілі шыць па хатах. Чыё шыецца, дык у таго і машына стаіць, і сам кравец жыве, яго чаляднікі, калі ад дому далёка. На гаспадарскіх харчах без ніякага ўгавору становяцца. Двум ад гэтага выгада — гаспадару і краўцу. Гаспадару наглядаць, каб тавару пад крысо кравец не падапхнуў, дамоў адыходзячы, вельмі зручна. Краўцу лішняя капейка на харчы нідзе не валяецца, а ў гаспадара гэта не ў знак. Каторы чалавек не хоча свайго траціць, каб лішні кавалак матар'ялу прападаў, дык увесь дзень і вечар, як час ёсць, сядзіць у краўца над каркам. Распытваецца таго-сяго, розныя дробязі свайго жыцця прыпамінае, цікавымі прыгодамі хваліцца. І ўсё вочы сочаць, дзе ў таго рукі паварочваюцца, што робяць. А няма самога гаспадара, дык ма гаспадыня альбо малое на яго месцы сядзіць. Як малое — лепш: хоць маўчыць.

Не любіць Аляксандра гаваркіх гаспадароў, глядзець на іх не можа. Горш за ўсё агідна яму іх ласкавае абыходжанне. Далікаціць, а за злодзея мае. Паскуда! Не то каб Аляксандру што сцібіць хацелася — не, не такі чалавек. Падазронасць цяжка краўцу.

Сам Аляксандра, як шые, негаваркі чалавек. Ды і за сняданнем ці так за якою ядою — год з ім жыві, слова лішняга не пачуеш. Што б у хаце ні датваралася, што б ні гаварылі — ён будзе ціханька сядзець, сагнуўшыся над сваёю работаю: і ў той бок, здэцца, не глядзіць, не ўсміхнецца ні разочку. Калі лішняе хто пачне перад ім з берагоў выліваць, дык яшчэ горш напружыцца, прамармыча:

— Толькі работы рабіць не даюць...

А здэцца, што не глядзіць ні на вошта.

Калі ў гадзіну раз, сам больш — два, укіне сваё слова ў хатнюю мову, дык яно не так нешта значыць. Усміхаецца неўзаметку, сам сабе, а не дзеля другіх.

Чаму? І жарты любіць. Толькі не дае гэтага перад людзьмі, каб не забаўлялі, ад работы не адрывалі. Ніколі болей расказваць не папросіць. І дапытвацца не будзе, чужой мовы не пераб'е.

Як ён дома — хто яго ведае! От гэтакага я знаў на рабоце.

Быў у мястэчку ўхвалёны кравец Вінцэнты. Меў невялічкую хатку на Загуменнай вуліцы. Было ў яго ўсяе гаспадаркі: пнёў пятнаццаць саду, а паміж яблын градкі паўскопваны — гуркі жонка садзіла. Мір нараду ведаў яе, нізенькую, шчупленькую, скарачом падпяразаную. Абы кірмаш, дык і яна на месца з каламажкаю тупае каля свайго століка з салодкімі яблыкамі, дулямі-грушамі. Зазывае людзей, каб куплялі. Толькі суніміся напроці Вінцэнціхі, куды ідучы, дык яна калі расхваліць свой тавар — мусіш купіць. Не паспяшышся сам падысці, дык не палянуецца за рукаў альбо за крысо падцягнуць, каб часу ёй не сціраў, доўга не валаводзіўся, бо другім жа трэба купіць. Пад восень гуркі з возам вывозіла, на копы продала й на дзесяткі.

Сам Вінцэнты на Каляды й на Вялікдзень толькі дома быў. Урэдкаю калі неяк заскочыць, каб грошы жонцы пакінуць, што зарабіў.

Чалавек быў высокі, плячысты, вусы хоць за вушы закладай, меў рукі мажнейшыя як у каваля каторага. Да гаспадароў быў ласкавы, стараўся, каб дагадзіць. Надта ж любіў збіраць грыбы ўвосень. Абы прыйшла нядзеля, дык паснедае, у каго шые, папросіць сабе кашаля ці каробкі, што сеюць, і машэр у лес да самага змроку. Адных баравікоў прынясе. За глупствам усякім — казлякамі, махавікамі ці варыстым грыбам — нагінацца лянуецца. Месца ў сваім пасудку не хоча займаць. Абходзіць за дзень увесь маладнёг, пасекі, стары лес. Пад кожнаю елкаю паглядзіць. Баравіку не жыццё ад яго, ніяк не схаваецца. Абы шапачку з моху высадзіць, дык і ў Вінцэнтавай каробцы спыніцца. На кватэру прыйдзе — пацярэбіць, просіць, каб на печы спаражнілі, ды высушыць. Так, пакуль дамоў сходзіць збярэцца, поўну аброчную торбу іх насушыць. Узімку жонка на маністы наніжа ды ў кірмашныя дні носіць па месце [1], продае.

Надта ж любіў Вінцэнты парадак і спраўнасць. Хай крышку што зблышыць чаляднік — не чакай дабра. Ох, вымерае аршынам па галаве, па руках, па чым заловіць. Б'е і прыгаворвае:

---

[1] **Места** — так называлі рынычную плошчу.

— А не псуй!.. А дзе твае вочы былі!..

Калі хочаш, каб малым абышлося, дык не аказвайся, цярпі і маўчы сціхатою, бо больш заробіш. Не перакор Вінцэнтаму.

У памяць Аляксандру Вінцэнтаў аршын. І цяпер бы, здаецца, пазнаў яго. Слізкі, гладкі, цяжкі, з нарэзамі, з крыжыкамі — усе вяршкі, чвэрткі зазначаны. Не раз Аляксандра яго пападаў. Ой, не раз! І каб аказаўся на гэта. Проста не здзівіцца Вінцэнты, што за трывалага чалядніка папаў. Прабаваў калі за нішто добра-такі прыскабліць — ану, можа, сваю натуру пакажа. Дык ці то па ім, ці па сцяне — каб вокам маргануў.

Паслушэнства й маўклівасць... Яно, калі ў меру, дык і добра нават. Але Вінцэнты праз гэта аж стаў дадумляцца, ці не злуе чаго чаляднік, ці не думае ён чым спасцігнуць.

От на якія хітрыкі кінуўся стары чалавек, а так быў добры, гаваркі.

Чатыры гады Аляксандра хадзіў з ім па хатах. Чатыры гады спадцішка прыглядаўся да работы свайго старшага майстра.

— Пакажэце вы мне, як гэта плечы ў жакетцы выкраіць, каб гладка прысталі,— нясмела, бывае, акажацца Аляксандра.

— Састарэеш хутка, калі замалада ўсё ўвазнаеш, брат ты мой,— жартам той адкаснецца.— Мала ты вучыўся,— кажа,— каб гэта знаць. Налета,— дакляруе,— гэтаю парою будзеш ведаць...

Аляксандра чакае налета гэтай пары. І тая пара прыходзіць. Аніяк нічога не кеміць — хоць ты кол на галаве чашы.

Сам праз сябе спаздрыць кравецтва не можа. Вінцэнты зноў налета на гэту пару адкладае...

— Нічога, татачка, не будзе,— Аляксандра бядуе дома. І на вуліцу брыдка ісці яму, на вочы сорам таму паказвацца, хто бачыў, што гэтакі сам у сабе хлопец трэйці год выбывае і ўсяго старое, што будзе пераліцоўвацца, пора ды ірху на кажух выскрабае.

— Кіну... чорт яго будзе...

Тут маці давай угаворваць, прасіць:

— Аляксандрачка, а можа, як і спанатрыш, а можа, што і возьмеш у галаву. Слухай яго, будзь...

Колькі там тае зямлі дома: тры дзесяціны на ўсю

сям'ю. Дзед Аляксандраў, як давалі зямлю пасля паншчыны, у маскалёх быў. З войска пусцілі, дык не хапіла паўвалокі, далі дзесяціны за вёскаю тром чалавекам. Там і яго надзялілі. Ды хацелася б, каб хоць адзін сем'янін меў сякі-такі талент у руках, сам сабе хлеб зарабляў.

Баіцца Вінцэнты, каб чалядлнік у яго куска хлеба не адабраў, як сам шыць стане,— сцірае яму ўгоджаныя гады. Выбыў тры гады ён і невукам дамоў вярнуўся.

— Навучыў, ёсць за што падзякаваць,— лае Аляксандраў бацька Вінцэнтага, сыскваючы сына.

— Што ж ты яму зробіш, калі абух удаўся, сваіх мазгоў не ўставіш...

Вялікі ўжо быў хлопец Аляксандра, а слёзы на вачах накаціліся, гэта пачуўшы.

Тут зараз вайна пачалася. Узялі перш на прызыў, ▪ ўслед і ў войска Аляксандру. У воінскага начальніка пытаюць, што ўмееш рабіць. Перш хацеў ён стаіцца, а потым кажа — кравец. Так і запісалі. Другіх у маршавыя роты гоняць, а яму пашанцавала, у швальню бяруць. Усю вайну там праваяваў. Фронту таго праклятага здалёк не бачыў. Пярвушчым майстрам дамоў прыйшоў у семнаццатым годзе.

Таму-сяму скідаў рукамі якую адзежыну. Носяць людзі і майстра хваляць. Дачуваецца праз людзей Вінцэнты, што яго даўнейшы чаляднік добрым краўцом з войска вярнуўся. Блізка жылі, дык неяк, як свята зайшло, шараю гадзінаю прыходзіць ён к Аляксандру. Застаў таго дома ў хаце. Давай сёе-тое распытвацца — дзе быў, што чуў за гэтыя гады. На адыходзе і кажа:

— Што ты будзеш рабіць без машыны? Хто табе шыць панясе? Аставайся, калі хочаш, ка мне памесячна. Будзем разам свой абход абшываць.

Аляксандру і нáруку — пакуль тая свая машына будзе ды пакуль начынне кравецкае хоць невялікае справіш. А так і грошы завядуцца, і падвучышся лепш. Ён усё думаў, што Вінцэнты немаведама які добры кравец. А як цяпер паглядзеў, дык ён лепш за свайго старога ўмее.

Угадзіўся сабе некалькі мільёнаў у месяц на тыя савецкія грошы, што тады хадзілі. Толькі заплаціць Вінцэнты, дык ён услед жыта купіць пудоў колькі і ссыпле ў бацькі. Усё на машыну спаранджаўся.

Так гадоў са тры яны разам шылі. А потым неяк

хадзіла крываўка. Многа паклала людзей. Даўся і Він-цэнты. Пахавала жонка, паплакала. Бяздзетныя яны. Не патрэбна ні сынам ні дочкам бацькава машына. Старгаваўся Аляксандра з кабетаю і адкупіў машыну ■ усім дакладам да яе. Крыху заплаціў адразу, а большую палавіну, як знаёмаму чалавеку, паверыла на пачакай, пакуль грошай зашчые.

Ад тых дат стаў ён пярвушчым краўцом на ўсю акулічнасць. Ходзіць па хатах зіму-лета. Людзі як хваліць не ведаюць:

— Добра.

— Моцна.

— Зграбна...

Язук Бліннік поможня з Аляксандравым братам на Пагулянцы жыве. Зайздросціць суседавым заработкам. І ў яго зямлі толькі маскальская частка, як і ў Аляксандравага брата, але таго чорт не бярэ, каня добрага мае, у заработкі ездзіць — калоды на вакзал турыць. А ў Язука і конь — дэрба, а жыць трэба. Штозіму купляй хлеб ад Каляд: свайго на далей не стане. Патрэба не глядзіць, ці ёсць за што.

Хваляць людзі Аляксандраву работу. Ведае і сам Язук, што добрая, няма чаго казаць. Надумаўся: «Аддам свайго сына за чалядніка, хай падвучыцца». Таго самага дня чорт падшахнуў жонцы пахваліцца, што добра б гэтак было. Таей толькі ў вушы ўнёс — ходу не дае, сварыцца, каб ішоў папытацца, ці возьме.

Язук бы і сам схадзіў і папытаўся б што трэба. Нашто над каркам у чалавека сядзець, сгліць дарэмна. Ці ж ён не бацька свайму Міхалюку, дабра не жадае. Горш палыну паранага яму жончын доўгі язык.

Наперакор ёй кажа, што йці нікуды не трэба, начорта Міхалюку тое кравецтва, і так хлеб будзе мець, калі работы рабіць не залянуецца. А ўдругае — плату вялікую, пэўне, гэны мармыч (Аляксандра, значыць) загародзіць, дык чорт яго і выпранчыць, з торбамі нядоўга пайсці.

— Да схадзіў бы ты, распытаўся б, а тады б чухаўся,— не саступіць жонка, покуль яе верх не будзе. Такая ўпэўненасць ёсць у кабеты, што, каб не яна, даўно б размахлёрыў Язук гаспадарку; за яго гультайствам ды недаглядам што само б не прапала, не згніло, суседзі б расцягалі. Усё баіцца, каб смерць рана не прыйшла, пакуль дзецям які спосаб дасць. Не сароме-

ецца казаць перад мужыком свае смутныя думкі, сваю трывогу.

Гэта вѐдаючы, Язук і патрапляе ўсё рабіць не так, як жонцы думаецца. Калі што і трэба зрабіць, сам гэта ўжо ведаў, але ўсё часу не было, на другі раз адкладаў. А хай жонка тое загадае, дык кажа:

— Пайшла ты! Многа ты ў мяне ведаеш!..

Возьме ды, як на злосць, ляжа на ложку, паляжыць крыху. Той думаецца: «Гультай: ну — ні да чога... Прапала я за ўбоінаю навек...»

Давай на бацьку, на мацеру наракаць, што замуж самагцом выправілі. Чаму было ёй не за парабка з двара пайсці. Хадзіў жа адзін, пытаўся, каб пасватацца.

Дадзене, бывала, Язуку слухаць жончыны казані, дык ускіне кажух на плечы, калі на дварэ халаднавата, і шапку на галаву:

— Сціхні ты, балбацень! Разлякаталася! Пайду... зраблю... Хай табе ў жываце робіць!

«Гультай! Ну, ні да чога...» — зноў упэўніцца кабета, што яе нараканне справядлівае.

Каб Міхалюка за чалядніка к Аляксандру аддаць, гаварылася ў іх хаце даўно. Тады краўца поблізу нідзе не было, на шляхта шыць яго забралі былі. Доўга там забавіўся, покуль адшыўся. Тады адразачку ў хатнікі к Мікодыму бурку шыць ды япчэ што з драбнейшага перабраўся з усёю сваею снасцю. Язучыха ўжо і забылася пра Міхалюкову благую долю, каб не забылася — сама б пабегла папытацца к Аляксандру, добра-такі яго папрасіць.

А Язук успомніў аднаго дня свае ранейшыя намеры. Вечарком, дома пасілкаваўшыся гарачай скрэбенай бульбай з маслёнкаю, пайшоў да Мікодыма.

Там бліжэй к краўцу падсеў. Увесь вечар прагаманіў з гаспадарамі. Аляксандра не мог дачакацца, калі ён пойдзе за дзверы, гэтак абрыдаў, пытаючыся рознай рознасці. Кравец што збольшага адкажа, а найбольш злоўчыць, прытвараючыся, што пільнуецца работы, недачуў.

Доўга-доўга ладэдзіў Язук, пакуль выбраў час пабедаваць па Аляксандры, што кепска яму аднаму без чалядніка:

— Усякую дробязь усё сам ды сам рабі, а то б памагаты быў...

— Не так паможа, як сапсуе. Толькі каб людзі маракавалі...

— Яно й гэта праўда. Але ж не трэба ад першага разу даваць таго рабіць, дзе ад псотаў вялікі ўрон. Трэба патрошку прывучаць, каб і на чысцейшай рабоце не капыціўся.

Пасядзеў Язук яшчэ крыху, пагаварыў ды й нарэшце:

— Аставайцеся здаровы!

Што так скупы на словы Аляксандра, а то адказаў:

— Пайдзі здароў! — абы лопатня збыць з сваёй галавы.

Ужо ва ўсіх хатах агні пагасілі. Дома чакалі-чакалі ды ўкруцілі лямпу, а самі спацьляглі. Траха сянец не завалілі. Вось бы тады Язук папабразгаў, пакуль бы дабудзіўся...

Прыйшоўшы ў хату, ён перш-наперш падкруціў агонь, а тады стаў распратвацца, разувацца, крактаць, гнучыся.

Міхалюк чуткі на сон — пачуў.

— Татка, дзе вы гэтак позна сядзелі?

— У Мікодыма.

— Кравец у іх яшчэ не адшыўся?

— Шчэ.

Гаворка ў хаце пабудзіла Язучыху. Шчэ добра не раскурстаўшыся, пытаецца:

— Ну як? Згадзіўся?

— Дзе ты бачыла!.. Табе цану калі загародзіць, і сок пацячэ...

— Колькі ж ён просіць?

— А табе не канечне ведаць.

— Каб ты не ведаў, які заўтра дзень! — зазлавала кабета. На хату спіною абярнулася. Маўчыць.

Язук разаслаў анучы па чарэні. Кінуў у куток пад цыбулю штаны, кашулю, ■ сябе зняўшы. У белым схадзіў задзьмуў лямпу. Падыходзіць к ложку.

— Тэ-э! Каціся к сцяне. Разляглася, як карова...

Цераз дзень пасля таго ўжо з паўдня пайшоў Язук к Мікодыму. Кравец у таго шчэ не адшыўся. Зноў уладзіўся бліжэй сесці каля Аляксандры. Гэты раз так папалася, што не доўга бавячыся сказаў, чаго прыйшоў.

Аляксандра перш недачуў. Ціханька абкідае сабе дзіркі на гузікі. Язук другі раз папытаўся:

— Ну, як будзе?

— Не ведаю,— коратка адчапіўся ад назолы.

Не дайшоў Язук у той дзень ніякага скутку. Дома нават і не прызнаўся, што быў у краўца.

Толькі Аляксандра, седшы вячэраць, вось што пра яго Мікодымавым сказаў:

— Хваліць: і ціхі, паслушны... А той Міхалючок самы першы падколак на вуліцы. І мне раз вочы пяском знячэўку засыпаў. Мусіць, думаў, што сябар які... Няхай мае шчасце, што ўцёк. Даўся б я яму ў знакі!

Хто яго ведае, як бы Аляксандра даўся ў знакі. Ніхто ад яго гэтага не бачыў.

Але прайшоў месяц, можа, і болей, сустрэліся зноў Аляксандра з Язуком.

— Ну, як жа будзе?

— Паглядзім.

Крыху памякчэў кравец. Казаў пасля гэтага, у каго шыў: «От смала! Прысляпіўся Язук, каб сына ўзяў вучыць, праходу не дае».

Падумаў, памеркаваўся і дае пераказ цераз людзей, каб прыходзіў Язук гадзіць сына. Той толькі гэтага і чакаў. Не доўга адкладаючы, схадзіў у тую вёску, дзе шыў Аляксандра. Угадзіліся за першы год Язуку прыплаціць, другі — дарэмна шыць, а на трэці год, калі Міхалюк захоча, дык ужо астанецца пры Аляксандры за плату, колькі варт будзе.

Аляксандра ціхенька шапянуў гаспадару, каб дзе барышу расстарацца. Той зараз клікнуў большага свайго хлапчука. Загадаў к адной удаве збегаць.

— Вазьмі,— кажа,— кварту.

Так усё і ўладзілі. А з панядзелка стаў Міхалюк хадзіць у навуку.

Толькі за ёю не вельмі ён і ўлягаўся. Не вялікая навука на кажуху старыя латкі даць альбо жаляска разадзьмуць. І работа не цяжкая — адна за́баўка. З наперсткам без дна ад першага дня схапіў як абыходзіцца, іголку завалакаць гэтаксама спецыялен.

Міхалюку і так добра. Гэта і найлепш, што занятку мала. Бывае, што шыюць у каторай хаце, дзе адна, а то і дзве ці болей дзяўчат ёсць. Саўсім тады выгада, работы ў руках не меўшы. Перавернецца сабе к рабоце

плячыма, на хату вачыма ды выскаляецца, падражніваецца.

— Выскрабі ірху,— мармане Аляксандра, убачыўшы, што Міхалюк гуляе, адкіне яму шматок аўчынкі.

Той ад гэтага не адказен. Умее дзве работы зараз рабіць. Рукі заняты сваім, а язык сваім. Толькі вочы не ведаюць, каму ў помачы быць, дзе патрэбней — туды-сюды толькі зірк-зірк...

Калі ў каго шыюць, дзе хата з кухняю, ды ў кухні дзяўчына ніштаватая мые адзежу ці так якою работаю занята, ды калі загадае Аляксандра ў жаляска вуголля набраць — тады лепшай выгады і хацець не трэба. Нібыта Міхалюк ля ямкі кешкаецца з жаляскам... Ушчыкне спадцішка, як абернецца тварам — падміргне, губамі смаргане, бы ўсміхнуўся. Калі дзяўчына не вельмі порсткая, не надта асыкаецца, дык і цяпнуць гатоў, дзе змалку звык.

Уважаючы па Аляксандравай рабоце: калі не надта скора жаляска патрэбна, дык і ў «абнімахар» (Міхалюкова слоўца) гатоў пагуляць, дзверы незнарок нагою прычыніўшы.

— Дзе ты там прапаў? — злосна Аляксандра аказваецца з хаты.

Чаляднік у кухні заняты, не чуе.

— Пусці,— просіцца дзяўчына,— няма часу. Бачыш ты які?

Міхалюк усё свае песні пяе, не перасціхае:

— Чаму ты такая ды гэтакая? І грудзістая, і плячыстая, і так, на цябе зірнуўшы, мажная дзяўчына. Чаму ў цябе шчокі адвіслі?

— А пайшоў ты! Ну і язычок, каб ён табе адсох да нядзелі.

Словы то сярдзітыя, але ласкава сказаны.

Прабуе і Міхалюк нарокам злаваць:

— Ховай божа цябе гэтак клясці, а што, каб тваё слова збылося?

— Палепшаў бы...

Тым часам Аляксандра гукае мацней і гучней:

— Дзе ты там утапіўся?

Жаляска нагрэта. І Аляксандра прачакаўся. Даўно трэ было прасаваць. Подбегам імчыць у хату спознены Міхалюк.

Дзверы адчыняюцца. Краўцу гаспадарская дачка відаць у кухні праз шчыліну. І ў той бок Аляксандра

не пазірае, і не яго гады, здэцца, гэтак блазнаваць і прызіраць за маладымі. Не верце яму — усё бачыць, усяго даследзіць яго цікавае крыху косае правае вока, хоць крадкам, хоць спадылба. Нізка спусціўшы над швівам галаву, хавае толькі свой смех на губах. Пытае ў Міхалюка:

— Ці не к Атрахіму ты хадзіў па вуголле?
(А той Атрахім, нядэшлы чалавечак, саўсім у другім канцы жыве. Пасмешышча людзям з яго.)

Міхалюк не маўчыць. Ён апраўдваецца:

— Гэта ж усё не разгарвалася, дык раздзьмухваў.

Умее Міхалюк салгаць. Яшчэ і як умее!

Памаўчаў кравец ды і падцмаквае:

— Не! Табе трэба жаніцца — нічога так не будзе.

Хацеў нешта чаляднік аказацца, ужо і рот быў расчыніў, але не пасмеў перапыніць ціхай і перакакальнай мовы краўца.

— Я пагавару з бацькам. Ён хутка...

Стане зіма. Толькі пашарэе на дварэ, калі без агню цёмна шыць і паліць яшчэ няма нашто, — на гадзінку, не болей, збяжыць Міхалюк на сяло. Пагуляў бы і даўжэй, але ўсё на свайго краўца ашчаджаецца: боязна, каб не прагнаў. І так ужо разы два падпускаў шпількі, раскусваў як мае быць, толькі пажаваць Міхалюку аставалася. З ім не шуткуй! Калі што скажа, дык і зрабіць гатоў. Смяяцца таварыства будзе, як, тэрміну не дабыўшы, вернецца дамоў. Вось чаго боязна!

Паўтара сельсавета знаюць Міхалюка. У кожнай вёсцы, дзе шыў Аляксандра, маладзеж таварышкуе з ім. Дзяўчаты, дзе збяруцца з кудзеляю, дык, Міхалюка ўгледзеўшы, песню пяюць:

— Міхалюк, Міхалюк!
Пойдзем у апенькі!
— Не хачу, не люблю!
Я шчэ маладзенькі.

Ну як не падражніцца з такою яшчарыцаю, якую добра знаючы, дык і пагатоў мусіш.

Круга свету знаюць Міхалюка. Чаму не знаць? Ужо другі год пайшоў, як з Аляксандрам па людзях ходзіць. А шыць ані не бярэцца. Толькі нядаўна на машыне пачаў крыху ўлукаткі страчыць.

Ат! Што бедаваць. Пакуль ісці абучацца, неяк навучыцца на штодзень шарачковую куртку скідаць. А пажыве далей — наложыцца болей.

# ЛУК'ЯН — КАПЕРАЦІЎСКІ САБАКА

Перш-наперш Лук'ян не прыбытковы чалавек для каперацыі. Бо што найбольш патрэбна дарасламу людскаму чалавеку? Тытун. Некалі ў заварушныя гады кожны гаспадар сеяў сам сабе гэтага шчасця градку, а хто й дзве ў агародчыку за хатаю. Куплёнага, пачковага тытуну тады й на лякарства не было. Каб, скажам, пры смерці ляжаў чалавек, і так заманулася яму гэтага зелля, што абы пацягнуў разы два, дык і паправіўся б,— і то б не далі ратунку. Кончыўся б чалавек, пачковага старараржымскага тытуну не папрабаваўшы. Але ж няма такіх дурных людзей на свеце — зажадаць таго, чаго нідзе не расстараешся, можна хіба толькі пры смерці. А так людзі да таго ў самарослы ўцягнуліся, што й смак да яго знайшоўся і на гатункі сталі дзяліць. А ў каго добра рос, хто ўмеў яго дагледзець, у пару паліваць патрапляў, дык той упэўнена казаў, што ніякі «станболь» не паправіць, калі ўмеючы скрышыць. Быў самарослік паводле ўсякага густу. Хто вельмі моцны ўважае, той сабе «бесарабскага» насення пытаўся ў людзей, каб расстарацца. Каму слабейшы па душы, той сеяў «мультан». А хто зусім на смаку з тытуну не знаецца, дык у таго рос абы-які, якога ад людзей папаў насення.

Потым — на́ табе! З'явіўся куплёны тытун на століках у мястэчку. Трохі пачакаўшы, Даўнарэвіч (крамнік наш даўнейшы) прывозіць пачкаў дваццаць гэтай навіны.

Аж людзям дзіва было. Купляць спярша ўсё не адважваліся. Казалі, што тухлы, заплеснеў, усю вайну недзе праляжаўшы. Не верылася, бачыце, што і цяперашнім светам умеюць рабіць пачковыя карашкі. Калі хто й купляў іх, дык толькі каб пераканацца па смаку, папрабаваць самому й суседу пахваліцца.

Ды й пераканаліся людзі, што:

— Патом, як сабе ні было, а не свайму таварыш...

— Куплёны! Што й казаць...

Уляглі людзі ў карашкі. Найбольшы з іх прыбытак каперацыву. Дык вось загэтым не прыбытковы чалавек наш Лук'ян для каперацыі. І даведваецца туды больш за каго другога. І карашкоў ніколі не купляе, а толькі паперу.

Бывае, што прывязуць у краму свежага тавару.

Людзям — як хто накажа тады. Чорт іх ведае! І з вёсак, і з пасёлкаў, і з засценкаў бягуць — хто дарогаю, а хто нацянькі па сцежках, па межах, а калі рог нівы дарогу заслоніць, дык чорт яе абыходзіў!..

Бяда тады, калі ўсе сыдуцца. У краму не ўціснешся за людзьмі, стаць няма дзе.

Трэба сказаць, што не ў пашане грошы цяперашнім светам. Бывала, зарве хто рубля якога — у самую бліжэйшую кішэню да цела паложыць, каб пачуць, калі хто руку туды паспрабуе засадзіць. Дадому прынясе, жонцы пакажа. Паглядзяць на яго, пасаймікуюцца дый у паклаж паложаць.

На горкую часіну хай ляжыць.

Цяпер не тое. Другі свет пайшоў. Падкачае, бывае, другі чалавек на пойле, на аўсе й канюшынавай сечцы гладзенькага жарэбчыка, зімою павучыць у санях хадзіць, ды так да Пятра, пакуль падатку не пісалі, і махне яго на месце за рублёў паўтараста. Пасля гэтага толькі й глядзіць, каб на што грошы ўперці, каб яны не мулялі ў кішэні, бо:

— Каб жа ведаў, што не прападуць. А калі што купіш, дык будзеш мець...

Чорт яго гэтакім людзям тавару набярэцца! Фабрыкі рабіць не спраўляюцца. Гэта ж у капераціве...

Мужчын там і не вельмі шмат. Найбольш відаць галовы ў хустках. Пэўна, з хаты па дзве, калі не больш. Яны тамака, дзе карты́, паркаль на паліцах. А сама лепш хусткі хапаюць — адна перад аднэю. Усякіх навезлі. Ёсць ліпскія, турэцкія, скрозь у кветках, спрэс белыя, белыя з берагамі ў гарошак.

Толькі капераціўшчык здыме з паліцы пастаў, дык і загамоняць. Крычаць:

— Мне дзве мэтры!

— А мне паўтраці!

— А мне паўшасты!

Цераз галовы тавар бяруць. Гэтаксама і грошы плацяць. Так што калі голас няспраўны ці горла завузка, дык звесіўшы нос за буфет увесь дзень прастоіш і не возьмеш нічога. Ад упраўнейшых спаражняюцца паліцы.

Далей, у кутку, дзе тавар на боты ляжыць, падковы, саганы, галёшы, а ўнізе, на зямлі, скрынкі з тытуном стаяць,— там крыху менш мужчынскі гурт трэцца, чакаюць капераціўшчыка. З гэтага боку па-

маўчаць-памаўчаць дый гукаюць, каб ім даў чаго трэба. Каторыя блізкія, па імені яго падклікаюць:

— Сцёпка! Што ты ўсё з гэтымі бабамі? Ніяк ад іх не адбратаешся. Ішоў бы нам адважыў чаго.

Далёкім абрыдзела стаяць. Скардзяцца:

— Калі ж да нас чарга дойдзе?! Ужо ад самай раніцы тут тырчым...

За мужчынскім гуртам на бочцы ад селядцоў, што адзін з паўкіло цягне, сядзіць Лук'ян, і наўкола яго гэтакіх самых чалавекі тры рассусольваюць. Пачуўшы, што чалавеку абрыдзела стаяць, яны спагадаць гатовы:

— Хадзі сюды! — падклікаюць.

Зараз знойдзецца паблізу недзе такоўская скрынка, што, на бок паставіўшы, і сесці льга. Таму далёкаму чалавеку й гэта добра. Толькі ўсяго скардзіцца, што:

— З голымі рукамі давядзецца дамоў ісці.

— Рукавіцы адзень, калі ў рукі холаду баішся,— параіць Лук'ян.

Вось за гэтае самае, што не спусціць нікому слова, Лук'яна завуць капераціўскім сабакам. А яму ад гэтага й не шум бáравы. Кпі з яго колькі хочаш, а ён толькі адно слова дабярэ, ды калі рэкне, то табе й гаварыць не будзе чаго.

Пасадзіць сабе Лук'ян далёкага чалавека дый забудзецца пра яго. Курыць захацеў. Ніколі ён залатоўкі ці грыўні на тытун не прапусціць. Зараз убачыць чалавека, што пачкаў колькі купіў. Адыходзіцца сабе той чалавек ад буфета. Прыглядаецца: «Хаця б не шаснаццаты нумар! Кажуць, смярдзючыя гэта карашкі, адно цыб'ё, ані лісту не пакрышана...»

Цяпер Лук'ян устае з бочкі. Паперка на папяросу ў яго загадзя прырыхтавана — даўгая і шырокая. Падыходзіць з ёю к таму чалавеку:

— А братка! Пасып крыху, а то папера ёсць, а тытун вышаў. Пакуль даступішся, а курыць трэба...

Калі ж на пачку не рыба намалёвана, тады Лук'яну лягчэй зманіць і гладзей ілжэцца:

— Дай, братка, папрабаваць! Гэта ж першы раз такі тытун бачу. Трэба купіць, дык ці добры...

Не на скупога пападзе, то адпячатуе пачак і насыпле, покуль Лук'ян — «Будзе!» — або — «Годзе!» — не скажа.

Добрую суслу скруціць Лук'ян. Адным словам, ёсць што ў зубы ўзяць. Пакурыць, колькі трэба чалавеку, а рэшту папяросы ссыпле сабе ў мяшэчак пра запас: сёння на вечар і заўтра на раніцу каб стала.

Вось чаму Лук'ян не прыбытковы для каперацыі чалавек. Замінае надта ў такія кірмашовыя дні. Ды характар — абрыдзоны. Толькі й глядзіць, каб каго на якім слове спаймаць. Каб з каго рогат справіць. Ідзі чаго купіць і асцерагайся, каб не папасціся.

Але ж не дзень у дзень такі завоз у каперацыве. Тавары з горада прывозяць усяго раз у тыдзень, а то й менш таго. Дык пасля гэтага здарэння дзень, хай два, ну — тры, не болей, у краме завоз. Тады калі хто часам і нарвецца мазі на колы набраць у стары шчарбаты гаршчок ці купіць гэтага самага тытуну, дык з ім гаворка кароткая: тавар даў, грошы ўзяў — і йдзі сабе, чалавеча, куды табе, адкуль ты прыйшоў.

От у такія часіны й патрэбен Лук'ян. Прыйдзе сабе, раскажа, дзе быў, што рабіў ці дзе чуў што ці бачыў. А заскочыць хто, каб купіць якую дробязь, дык і выбраць патрэбную рэч яму Лук'ян дапамагчы суладае.

Дзяўчына ў хустцы пад целяпень, бывае, забяжыць. Сюды-туды вачыма прабягае. Ішла сюды — добра не ведала чаго, а прыйшла — дарэшты забылася, разглядае, што ёсць. Што сабе патрабней, прыпамінае.

Тады кажа Лук'ян такім голасам, як бы перапыненую чужым чалавекам мову зноў пачынае:

— Патом, добрых тавараў гэты раз навезлі.

— Што ж там гэткае добрае? — не ўцерпіць, каб не папытацца, дзяўчына.

— Ці ж сама не бачыш? Вунь мыла пахучае, «барскае» што завуць, на паліцы ляжыць. Сама што маладой паненцы патрэбна.

— Хто яго! Я й сінім мылам ні разу не прабавала мыцца, а не то што «барскім»,— так спярша адкажа вёрткая дзяўчына.

Купіць што сваім адумам. Зірне ў вузельчык з грашыма, завязаны ў ражку насоўкі. Расплацілася, шчэ й засталося капеек колькі. На мыла грошай стане.

— Дайце,— кажа,— тое, што ў ружовенькім пачку.

От загэтым Лук'ян і патрэбны для каперацыі чалавек. Дзіву няма, што, як людзей мала, выме каперацыўшчык пачак карашкоў з скрынкі. Распячатуе.

— Куры,— кажа,— Лук'ян!

# ТРАХІМ З ПАГУЛЯНКІ

Трахім толькі дзеля прыклёпу, бывае, што пытае, зайшоўшы ў хату:

— А дзе ж вашы болей? Дзе ж мужчыны?

Яму ўсё роўна, хто б там ні быў у хаце: мужчыны ці жанкі. Абы было з кім забавіцца. Не хоча слухаць Трахім жаночага адказу. Прыслухаўся ўжо ён. Аднакія словы — як бы заўчылі ў кожнай хаце:

— Хто іх ведае! Недзе сышлі з дому.

Трахім дастане з-за пазухі капшук з тытуном. Начэрпае карашкоў паўнюсеньку люльку ды, нікому нічога не кажучы, пойдзе к ямцы прыкурыць. Там лучынкаю, ці так трэскаю якою, разгорне жар, набок адкоціць адзін, каторы спрытнейшы, вугольчык. Голымі рукамі возьме яго і паложыць у люльку. Пэхкае і маўчыць. Калі ж у каторай гаспадыні жар у ямку не выграбены, тады Трахім хваліць даўнейшы свет. Такая то-бо тады выгада была: ніколі свой агонь дома не зводзіўся, і на запалкі не трэ было траціцца. Выпаліць сабе гаспадыня печ. Выгарне жар у ямку. Зверху яго попелам засыпле, каб не разгараўся. Так ён і тлее памаленьку, пакуль назаўтрае не раздзьмухае, лучынак не запаліць, каб дровы імі падпаліць. Толькі й помніць Трахім, што даўней у іх хаце ўсяго адзін раз з гасцей ўначы прыехалі ды заспалі траха не да паўдня — усяго тады й давялося бегчы са збаночкам к суседзям жару пазычыць.

Запалкі Трахім нашчэнт зганіў.

— Прыцісні,— кажа,— яе добра каторую, дык і паляціць на дзве палавінкі. Церплівосці трэба, пакуль ёю што падпаліш. От вугольчык! Ад таго ўраз полам'ем хваціць. Хоць пападзьмухаеш, калі не спрыцен, але ж потым затое цацкацца не трэба.

Гэта ў некага ломяцца запалкі, а не ў Трахіма. Яму дадуць карабок, дык спаважне дастане, шмаргане, ціханька прыкурыць. Ён заўважыў, адкуль бралі — цяпер сам на сваё месца паложыць карабок.

А тое Трахімава пытанне было толькі прычапка, каб гаворку пачаць, у хату зайшоўшы.

Няма чаго яму дома рабіць. Ужо ўсеяўся. Картоплю пакапаў. Зазябліў на зіму свой нешырокі шнурок. З малацьбою ён не надта хоча другіх людзей вырадзіць. Абабіў цэпам капы са тры сяго-таго, каб

на месяц стала на свой абыходак. А болей куды там спяшацца? Не ўцячэ работа. Пакуль тая вясна прыйдзе ды старану трэ будзе спаражніць. Прачакаешся шчэ. Толькі й клопату ў старога каб дзе забавіцца.

Надоечы з раніцы лёг зазімак. Змяшаўся з гразёю. Яе крыху пабяліў і сам укуцаўся. Пад вечар шчэ больш падкінула снегу. Сцежка стала цяпер белая, мяккая. Не нацякае вады ў Трахімавы лапці. (У яго ёсць боты толькі на кірмаш хадзіць.) І ад гразі цяпер — асвяціся.

Узыдзе сабе Трахім к каму на ганак. Стукне адною ды другою нагою разы два — і ад снегу мала чаго знаку астаецца. Выгада! Усё не так людзі крывяцца, як у хату зойдзе.

З канца ў канец ходзіць ён па хатах, як саб'ецца з пільнай работы. Ад адных што пачуе. У другой хаце сам раскажа навіны. Як доўга ні гаворыць, але другі раз таго самага ад яго не пачуеш у адзін дзень.

Уночы праспіцца, шмат чаго забудзецца. Назаўтра зноў гатоў з таго самага канца сваю мову пачаць. Слухаеш і не здагадаешся, што ўчарашняя навіна магла гэтакаю быць. Што праўда, а што далажана, і не падумаецца шукаць. У Трахіма ўсякае здарэнне штораз блутаецца, больш хітрым робіцца, харашэ. Яго паслухаць — лепш як самому на тое дзіва паглядзець.

Валачашчай натуры гэты чалавек. Некалі шаўцом быў. Па людзях [redacted] калейкі хадзіў. А цяперашняму свету нешта не ўпадабаўся. Кажуць — ніякай хормы ў яго боце няма: на цэгліну роблены. Выйдзі ў людзі ў такім абутку, дык засмяюць, усе будуць на тваё ногі ўглядацца. А што мацунак умеў Трахім даць сваёй рабоце, дык за гэта й цяпер яго старыя хваляць і маладыя не смяюцца.

Як не сталі яму людзі работы даваць, дык ад тых дат прыстанішча дома не мае. Усё на сяло валачэцца. Бывае, абыдзе ў вёсцы ўсе хаты, з кім у злагадзе жыве, дый вернецца на сваю Пагулянку [1], дзе адны дзесяцціннікі жывуць. Стане на сцежцы проці свае хаты, што ад хаты на дарогу выходзіць, зірне ў адзін канец Па-

---

[1] Пагулянкаю ў нас завуць невялічкі засценачак каля вёскі, калі ўсе будынкі ў ім пастаўлены з аднаго боку вуліцы, а не абапал.

гулянкі, зірне ў другі. На свой двор і на сваё гумно гляне. От так пастаіць, паглядзіць. Задзярэ ўверх галаву — сонца пад поўдня ўжо бярэцца. Шчэ раз на вёску азірнецца ды памаленьку й пойдзе к каму на Пагулянку. Тут суседская справа. Так і паміне свой дом.

Другі, як саб'ецца з пільнай работы, будзе ток падмятаць, раўнаваць гной у загарадках. Ды ці мала можна работы знайсці няробленай, калі добра пашукаць. Некаторыя жыць без яе не могуць. Самі робяць і другім раяць. Кажуць: ратунак ад шкодных думак людзям работа дае. Гэты самы Трахім гаворыць, што знаў на засценку аднаго смешнага шляхціца.

Перад вайною гэта было. Тады ніхто шчэ не знаў прафсаюзаў і абрэзкі. Меў сабе шляхціц тады пяць валок зямлі. Трымаў парабкоў і дзве наймічкі. Ды надта ж ён баяўся, каб служобныя лішне не думалі. Усё так меркаваў, каб у іх часу не было на гэты занятак.

«Што ж? — сабе думаў.— Будзе час — пачнуць думаць, надумаюцца красці. Тады сцеражыся. Прымай з-пад іх рук усё, што валяецца напашэве, альбо вартаўніка наймай на іх. Наймі вартаўніка — яны красці пабаяцца. Як не памкнецца ніводзін, каб украсці, дык вартаўніку ўжо не будзе чаго рабіць. Сам ён стане думаць і да таго самага пераканання гатоў дайсці. Шчэ лепей!»

Усё хадзіў шляхціц за наймітамі ды загадваў:

— Пабяжы тое зрабі!

— Чаго рассеўся, як капуста ў гародзе? Вазьмі онь гэта сюды паднясі!

А бывае й так, што ніяк не дадумаецца, каб у кожнага з іх была свая работа ў руках. Тады адвернецца на хвілінку. Сходзіць на дрывотню абурыць касцёр дроў. От аднаму ўжо й занятак на ўвесь дзень.

— Ды глядзі ж,— кажа,— каб на сонцы другі канец быў, а не той, што ўжо добра парудзеў і дагэтуль. Тады гараць лепш, як роўна з усіх канцоў усыхаюць.

Гэтага шляхціца любіць Трахім успамінаць, калі хто перад ім бедаваць вельмі стане, што работы многа, ці выхваляцца пачне, які сам дасужы. Плюне тады Трахім. Люльку ў зубах паправіць.

— Гэта,— кажа,— дрэнь! От дзе быў чалавек працавіты, любіў работу!

Калі ж сам па сабе ўпляцецца ў гаворку гэны

шляхціц ды ў гуморы будзе наш стары — смяецца тады, расказваючы:

— Вар'яцеўся чалавек!

Сам ён блізка ля шляхціца не стаяў. У яго работа трэба каб кіпела ў руках. Сюды-туды павярнуўся — дзе граблямі сцягнуў, а дзе вілкамі закінуў, рукамі падаткнуў — гатова! Калі месці, дык з усяго пляча. Калі падграбаць, дык збольшага. Не любіць Трахім надта кешкацца з работаю, цацкацца з усякаю драбязою, калі й без яе ўрон у гаспадарцы не вялікі. Калі ж гэтак трэба што рабіць, дык — зарэз! Яму абы барджджэй ■ рук работу, а ■ галавы клопат збыць. Тады волен свет чалавеку. Зняў сабе на сцяне ■ крука свой зашмальцованы ў падоле палатаны кажух. Апрануўся ў рукавы, крыссе закінуў, прыпёрся жыватом дзе да ложка ці да стала — падперазаўся ды й на любы свет ідзе вочы прахаладаць.

У памяць тутэйшым людзям Трахімаў кажух. Зіму-лета не сыходзіць ён у яго ■ плячэй. Ад трох метраў у год не надта напаліш хату. Не так ужо ў ёй, каб зубы ляскалі, але пара відаць, як хукнеш. Людзі, бывае, і падборкі прыстараюцца, ды й то ў хаце ваўкоў ганяць ільга, дык што гаварыць пра Трахіма — ён з падборкаю не знаецца. Затое ў іх хаце ніводзін селянін не распратваецца. Бывае, як залянуецца Трахім на сяло йсці, дык на ложак, падпяразаны сырамятнаю папружкаю, што некалі паскам звалася й каня ёю падпінапі,— у чым стаяў, у тым і кладзецца. Задрамаць яму захацелася ці то так на баку паляжаць, заплюшчыўшы вочы,— пацешыць старыя косці.

Якому чалавеку дык Трахімаў кажух быў бы толькі па калені, а то й вышай, а яму самому — шчупленькаму, нізенькаму, крыху сівенькаму чалавечку — па самыя костачкі займае. Цераз гразь ідзе — крыссе ўгору падымае, каб не замачыць.

Яшчэ вось па чом Трахіма пазнаць ільга: ніколі ён верхніх штаноў і кашулі не носіць, як цёпла. Толькі сыдзе снег і аж покуль мароз зямлю не пачне сціскаць — ён у ісподнім ходзіць. Дый чаго там надта строіцца — усё адно з-пад кажуха не відаць. Скідае ж ён яго толькі як косіць ці завіхаецца сена ў копы ставіць перад дажджом. Тады ў белым лепш як так у якім — халадок. І не надта цяжка Трахіму гэтакая зі-

мовая апранаха. Ужо выцерлася (каторы год носіцца!), дык як пярцо ляжыць на плячах.

Зімы толькі Трахім баіцца. Тады не абы-якія шарачковыя штаны, а порткі суконныя адзяе, а на плечы куртку на кудзелі ўздзябурыць. Цёпла й добра! Шчэ кажух наверх апране, дык зусім як на печы.

За адно толькі дрэнны ён чалавек, што кожан дзень у яго новае на языку. Памяць курыная: забываецца, што й як учора гаварыў. Але хай сабе й з цэбар будзе галава, ды й то ўсяго не спомніць, што ён за адзін толькі вечар намеле языком. Баржджэй збрыдае слухаць каму, хто не паспаў, можа, ночы са дзве, як Трахіму дадзене гаварыць.

Аж злосею я на яго за такую няспраўную памяць. Разоў са тры прабаваў угаварыць, што брыдка рабіць гэтак, што людзі ўсё роўна запамецяць ды смяяцца будуць.

— А вы ж у суботу зусім іначай гэта самае казалі,— выкіну, бывае, яму на вока.

Думаецца, што паправіцца чалавек ад гэтага, будзе ў адно слова патрапляць гаварыць. Але дзе там! І слухаць не хоча маіх парадаў. Крыўдуе. Раптам суніме сваю мову, насупіцца:

— Дык раскажы сам, калі лгуна знайшоў!

От я ўжо й папаўся ў бэту. Маўчу сціхатою. Добра шчэ, што ўсяго на адну хвілінку спракудзіцца Трахім, а далей не бярэ ўвагі на мае глупасныя словы.

А сама лепш яго ўлавіць, калі распачне гаворку пра сала й млека — што з іх лепей нашаму вясковаму чалавеку. Тут ужо ўсякі дурань розніцу запамеціць, калі толькі два разы чуў гэту мову — узімку і ўлетку. Можа, загэтым і кажуць у нас:

— Ілгун ты! Трахім з Пагулянкі!

Гэта ж пад весну стануць у людзей каровы цяліцца. А «чарна» Трахімава ўсё значыць. Не помніць ён добра, калі жонка яе к бугаю вадзіла, дык і тэрміну не можа сказаць.

Нагледзіцца ён, па сяле ходзячы, як малодзіва міску каторыя дастануць з печы, пастаўяць на стол. Пара з яе аж да столі слупам верне. А яны ўспадуць на міску ўсёю сям'ёю. Хваліць не хваляць, моўча, але па тым, як іх раты ходзяць, здагадваецца Трахім, што смачная гэта ежа. Ды ці толькі адно малодзіва й ядуць людзі? Гэтаксама добра, калі к сняданню й юшка за-

беленая гатова. Ды й так, кварту млека заліўшы, добра з хлебам з'есці.

Нагледзіцца Трахім на людзей ды давай іх выгаду га́ніць. Млека й на сабаку не варт у яго.

— Ніякага,— кажа — наядку няма. Усё адно што вада. Напіўся — троху пачакаўшы, выбегла яно з цябе, ды йзноў далівай. Ані не трывалае: не тое, што сала. Нябось, касы па млеку не пацягнеш.

Хто першы раз чуе, дык і падумае — праўда.

З месяц пачакаўшы, ацеліцца Трахімава «чарна». А зараз згоніць снег, пачне падсыхаць зямля. Выйдуць людзі на поле. І Трахім услед за імі. Ад ранку да змроку калі папаходзіць за бараною — вымерхаецца добра. Другі б цяпер скварку як мага тлусцейшую, у кулак згробшы, апетаваў бы, а ён — не, яму й не хочацца. Гуляшчы кубелец цяпер у Трахіма ў каморы стаіць — і толькі бяды! Зусім малую цану Трахім салу ў сяўбу дае.

— Я яго,— кажа,— не ўважаю. Каб хаця любовае, а то тлустасць адна. Ясі яго, а назад з цябе верне, як здыхліна якая. Капусту ці картоплю-смажанку ім затаўчы шчэ як-ось-як, а каб адно яго з хлебам перці, дык я, дальбог, гатоў казлы падраць.

І гэтак у яго мова змяняецца штогоду ў адну пару. Дык дзіва, што лгуном завуць?!

А так варта Трахіма паслухаць. Усякіх людзей ведае ён: і паноў, і цыганоў, і шляхтаў, і так сабе майстроў усякіх, усіх гаспадароў на паўмілі кругом у сваёй ваколіцы. Мабыць, як шаўцом яго звалі ды ездзіў шыць з калейкі, тады многа чаго нагледзеўся дый дагэтуль яшчэ не забыўся ўсяго. Усякім спосабам яго знаёмыя цяпер на звяглівым языку выкручваюцца. Дзіўнымі выходзяць — людзям напаказ.

А гора якое на Трахіма ўспадзе ці засмуціцца па чым дужа, тады ўсё ў яго кепска. Увесь свет у яго, выходзіць, на глупстве стаіць. Паслухаеш Трахіма, падумаеш: «Такі ж праўда».

Тады Трахім ані люлькі з зубоў не пушчае. Сваёй работы яна ў яго, з крывога вішнёвага сука выкручана. І цыбук суцэльны з люлькаю, у кузні жыгалам прапечаны. Папяросаў Трахім не ўважае. Часу, кажа, многа на іх ідзе — пакуль ты яе скруціш. Дый папера дорага, каб купіць. Газеты і так бы расстараўся, але смярдзіць у ёй. А з люлькаю хутка: выгарала ўсё, дык

попел аб ногаць выбіў, новага падсыпаў тытуну ды зноў пэхкай сабе. Шчэ наш стары як у горы, дык на адным месцы не ўстоіць, гаворачы. Усё бліжэй да таго, хто слухае, падыходзіць. Маль не за кожным словам вымае люльку з зубоў і плёвае на падлогу, як няўмелы курэц. Так што пасля яго бяры венік ды расцірай па хаце харкачы, каб не гразка было. А яму самому ад такой гаворкі лягчэй на сэрцы робіцца.

Весел сам — тады ўсё хваліць. Паслухаеш яго, і здаецца, добрыя, толькі што крыху смешныя людзі на свеце жывуць. Пасмяешся з іх з Трахімам разам. «Праўду кажа»,— сабе падумаеш.

Ці то бяду, ці вясёласць — усё Трахім на людзі нясе. К усякаму з сваім горам чэпіцца, хоча той слухаць ці не.

А самая большая прычына яго смутку і радасці — печ, што добра не напальваецца. Многа ў ёй гаршкоў ды яшчэ калі ў іх гусцей скалкі плаваюць — спакайней на душы. Мала — тады й галава ад засмучоных думак свярбіць, і кашуля кусаецца, дый язык гатоў ляпнуць чортведама што, добра не падумаўшы.

Вось чаму бывае неразбяры-бяры з гэтым чалавекам.

Я й сам люблю паслухаць гаваркіх людзей, а з Трахімам сварыўся б, здэцца. Злосны я на яго. Як гэта можна ў адно слова два разы сказаць не патрапіць? Шчэ й жыць на свеце Трахім ані не ўмее. Не так, як другія сквапныя людзі.

У нямецкую вайну ўзялі былі й яго ў запас. Стаяў перш у Уладзімірскай губерні. А як цара скінулі — у Віцебск пераганалі. Дасціпныя людзі шынялі тады цягалі, гунькі, гімнасцёркі, таўстыя чаравікі. Трахім ж як стаіць дамоў вярнуўся. Смяюцца, накпіваюць з яго людзі — пакпіла й машына: на дзве станцыі не давезла. Нешта ёй зрабілася — стала, й ні з месца. Мусіў Трахім злазіць ды пяхотам джгаць больш як пяцьдзесят вёрст. Гэта добра, што дадому, а каб з дому — хто б яго зайшоў так далёка. Пасля таго толькі аднаго разу ў абоз з'ездзіў аж пад самую Буг-раку, а больш нідзе не быў, апроч свае Пагулянкі ды нашай вёскі, што памежня з ёю. Ну, бывае, у мястэчка да торгу з'ездзіць альбо ў млын ці зімою ў лес. А з таго часу, як на свеце пабыў, ён яшчэ больш ілгаць, ці то многа праўды гладзей казаць, налажыўся.

Але патом боязна Трахіма ілгуном абзываць. Шчэ вочы чалавек захаркае за такую знявагу, як дачуецца.

## БАРКАЎЦЫ — ДОБРАЯ ВЁСКА, І БАРКАЎЧАНЕ — ВЯСЁЛЫЯ ЛЮДЗІ

Над нашы Баркаўцы — няма лепшай вёскі. Тут і жыць весела і ні па што далёка ісці не трэба. Усё пад бокам: сельсавет, капераціў. Нават пошта — і тая ў нас ёсць. Ды шчэ два гасцінцы сярод Баркаўцоў крыжуюцца. Адзін ідзе ўдоўж праз усю вёску, а другі — каля Пагулянкі, што трохі наводшыбе стаіць, ды ўпоперак праз Баркаўцы праходзіць. Па тым, што цераз усю вёску з канца ў канец ідзе, калі паехаць,— у наша мястэчка, у гразкі Хлюпск заедзеш. А з другога на шчэ большы гасцінец выедзеш ды тады проста, нават вочы завязаўшы, у наш даўней акруговы, а цяпер раённы гарадок трапіш.

За нашу бытнасць адна лішняя зборня была ў Баркаўцах. Ад графа Сроль карчму трымаў. Стаяла яна тамсама, дзе і цяпер стаіць: на самых крыжавых дарогах.

Усякім манерам Сроль кідаўся: напавер гарэлку даваў, на збожжа прадаў... Хочаш — садзіся ў карчме пі, а не хочаш — дадому нясі. Свята зойдзе — тады Сроль нойме музыкаў. Яны сабе барабаняць усю ноч, а ён сам за буфетам стаіць. Вочы маленькія ў Сроля паробяцца — меншыя за кратовы. Цісне іх сон, а ён патом чапурыцца, весялей пазіраць прабуе. Сярод карчмы ігрышча. Круцяцца, прытопваюць, а Сролю і не наўме гэта. Не так ад старасці, як ад прывычкі яго музыкі ані не трывожаць, як бы ні стараліся лепш уладзіць. Не тое што другі каторы: і ногі дрыгаюць, і плечукі то ўзад, то ўперад пахаджаюць. А што Сроль!.. Яму трэба напагатове быць — а ну, можа, каму выпіць кватэрку якую заманецца. Гэтакаму чалавеку Сроль дасць-падасць: абы грошы ці добрая застава.

У нашых Баркаўцах яшчэ і цяпер жывуць два музыкі. Толькі што за гэтыя гады сапселі, састарэлі. З лыжкаю ўжо добра не саўладаюць, а не то каб з смыкам ці з кручкамі. От перад вайною, дык яны са-

мыя аматары былі. Адзін з іх пілаваў на скрыпцы, а другі на цымбалах барабаніў. І вяселлі ездзілі ўдвух іграць і разам у карчму хадзілі. Так таварышкавалі, што проста дзіва. Да таго ўжо былі ўдвух разам іграць уладзіліся, што ніякія месточковыя, бывала, не паправяць. Самі ногі, здэцца, пад тахту ідуць, як іх пачуеш.

Гэтых нашых музык Сроль перш хадзіў прасіць, кожан раз з імі гадзіўся, колькі возьмуць за вечар. Потым яны і самі, без ніякага папытання, прыходзілі. Нарэшце да таго ўнадзіліся, што Сроль ім і плаціць кінуў, а яны, як толькі вечар перад святам ці ў свята,— ідуць ды ідуць. Іграюць аж да певуноў, а калі разахвоцяцца, дык і да белай раніцы ў карчме заседзяцца. На вечар разы тры марша граюць. А раз марша граюць, дык, хто гуляў, дзесятку ці грыўню ў цымбалы праз адмысловую шчылінку ўкінуць павінен. Такі ўжо звычай. От з гэтага музыкам і заработак.

Стала вайна — звялі карчмы, прыкрылі Сролю гандаль. Але ён і на гэтым не траціў. Перакупствам стаў займацца. Шчэ выйграў нават. Граф з карчмы Сроля прапсюрыць перш не меў часу, а потым і волі не стаў мець. Дармовая хата яму прыйшлася, ды не то што хата, а цэлыя пакоі. Непрызвычаены чалавек заблудзіў бы, каб пайшоў па ўсіх каморах. Сролю і то добра. Кепска адным баркаўчанам ад гэтага стала. Ужо ж не будзеш так вісець у Сроля над сталом, як даўней у карчме над буфетам. Ды і чужыя людзі не сталі цяпер сюды даведвацца, як няма гарэлкі, так што і навін ніхто з стараны не паднясе. Цяпер ані баркаўчанам няма ніякага інтэрасу да карчмы.

Саўсім другі інтэрас у людзей у вайну. Тады адступленні, наступленні ўсплылі на гаваркі язык. Да гэтага часу толькі чуць чулі, што недзе нейкія газеты ёсць. Дамоў іх толькі тады прывозілі, калі ў краме што куплёнае ў яе ўверцяць А цяпер паедзе хто да торгу ды і купіць там газету.

Выбіраюць як каму да густу: хто большую, а хто таншую. Калі сам чытаць не ўмее ды дадому прывёзшы некаму дасць, каб пачытаў, а сам паслухае. Так што карчма і не надта патрэбна стала.

З адным кепска было, што гарэлкі тады не прадалі. Ото б людзі папапівалі! Ото людзі з гора горкага

чэмеру гэтага выжлукцілі б! Ото б казне заработак быў!

А зміpыліся раз. Потым яшчэ разоў дзесяць з усякім чортам як зміpыліся, а каго прапсюрылі — пацішэла тады. Трохі пачакаўшы «рускагоркая» з'явілася. Толькі яе сталі на пробу з Хлюпска дамоў нашы баркаўчане прывозіць, як зараз к нам бы чорт з неба Цэнтраспіртаву крамку скінуў з усім чысценька: гарэлкаю, вывескаю і нумарам 72-м. Так усё скора рабілася.

Яшчэ да гэтага ў Баркаўцах людзі сабе капepацію былі зрабілі. Ды нідзе яму добрай хаты не падабралі. Успомнілі тады, што Сроль дармовыя пакоі мае. Законным правам узялі паціснулі былі яго крыху. Самы лепшы ганак і два камары ад вуліцы, што [redacted] градамі ў вокнах, занялі. Потым з'явіўся Цэнтраспірт — і той к Сролю прысукаўся. Другі ганак ад вуліцы і яшчэ два камары заняў, каб з сваімі поўнымі і гуляшчымі пляшкамі было дзе распасцерціся. Пакрыўдзілі Сроля. Ніводнага акна ў яго не асталося, што з хаты на вуліцу, а ўсе на гразкі, нізкі двор. Сролю крыўда. Давай ён заявы пісаць, суды ды справы заводзіць, але нічога не памагло. На яго, як на прыватніка, ніхто ўвагі не ўзяў. Так і астаўся сядзець там, адкуль яшчэ не выгналі, ды глядзець на гразкі, ад патопу не мецены двор, [redacted] не на шырокую чвыраватую баркаўскую вуліцу. Сролеў сын яшчэ на бацьку й сварыўся:

— Начорта табе, старому, суды ды цяганіна. Сядзі сабе ў сваім кутку ды маўчы. Дзе ж ім дзецца? Трэба ж дзе атабарыцца.

Сроль на баркаўчанаў за ўсе гэтыя падэсці, што нехаця яны нарабілі, і не злуе надта. Апранецца, бывае, у свой чорны рускі кажух з фалдамі ці ў ватовую куртку — выйдзе на вуліцу з людзьмі пагаварыць. А гэта ўсё таму, што баркаўчане людзі разумныя і змыслыя. Калі што гуртам робяць, дык падумаўшы — таму яно ў іх добра й выходзіць. А якія людзі — такая вёска.

Ды што многа гаварыць! Можна не хвалячыся сказаць, што свет схадзі — лепшай вёскі за нашу не знойдзеш. А вот Трахім з нашай Пагулянкі кажа, што Баркаўцы й блізка ля добрай вёскі не стаялі, бо гарэць ні разу не гарэлі. Урaслі садамі ды дрэвам усякім, што здалёк і праўда на вёску не падобны, а на

нейкі сад, як у паноў каторых перад палацамі. Мне здэцца — гэта й добра. Баркаўчанскаму воку ёсць з чаго парадавацца. Прышламу чалавеку ёсць чаму пазайздросціць. Калі ўжо Баркаўцы за гэта ганіць, дык смеху варт такая мова. Толькі бяда, што Трахіма гэтага не ўгаворыш, калі на сваё папрэ. Ён адно дзяўбе:

— Тут,— кажа,— не людзі, а нелюдзі. Ніколі яны з торбамі не хадзілі. Гору чалавечаму не ўмеюць спагадаць, бо самі ў ім не былі. Ты хоць трэсні, у бяду папаўшыся, а ратунку не чакай ні ад кога. Будуць стаяць, рукі ў закарвашы ці ў кішэні паўкладаўшы, глядзець ды толькі насміхацца сцішка.

Можна смела Трахіму не паверыць, бо гэтыя словы я ад яго ўзлаванага чуў. А яго ў злосць як увядуць, дык чухаецца тады, на адной хвіліне па пяць раз вымае люльку з зубоў, каб плюнуць, ды такія штукі пра людзей расказвае, што хоць ты ўсіх вешаць вядзі пасля гэтага.

Няма людзей лепшых, як нашы баркаўчане. Дзе гэта відана! Усяго толькі, што крыху дзіўныя яны: не любяць, каб з свайго мазаля хлеб есці, а ўсё хітрыкамі, каб промыслам сваім як выкруціцца. Каб дзе дарма капейчыну абарваць стараюцца. Каб не сеяўшы, не малаціўшы ды прыбытак мець. Хочуць, каб і ў заработках не натрудзіць плечы і каб грошы хадзіць сыскаць. Баркаўчане да ўсяго прыглядаюцца, прыслухоўваюцца. Любяць гурт і вясёлую шумную гаворку.

Даўней было ім самае прыстанішча ўвечары ў карчме, а ўдзень у воласці на зборні. Як воласць скасавалі, дык гэтыя самыя парадкі і ў сельсавеце асталіся. Але гэты год кепскі ў нас старшыня. Саўсім не любіць гоману і гаваркіх людзей. Калі прыйдзеш да яго ў савет, не будзе распытвацца: што ў вас чуваць, а як там на дварэ — на дождж не выглядае? — зразу вызверыцца: «Што скажаце?»

От гэта яго слова і не баркаўское. Па-баркаўскому трэба ласкава з чалавекам гаварыць, кпінамі яго католоць спадцішка, смеючыся сам сабе пад нос. Ды, на добры лад, з нашага сяголетняга старшыні гэтага і даходзіць няма чаго — ён не баркаўчанін, а пасёлкавец. Пакуль пасёлка не ўзяў, у адным (далекавата ад нас) саўхозе быў паплаўнічым. Як дзень як ноч конна з адразанкаю ў кішэні саўхозскае поле і сена-

жаці аб'язджаў, каб хто жыта сваім адумам сабе не ўжаў снапоў колькі. Глядзеў, каб травы не нарвалі, каб з крыжыкаў ды мэдлікаў снапоў не парасцягвалі, каб копы на сенажаці цэлыя стаялі, каб хто каня ці цельную карову не прыпусціў у шкоду папасвіць. А ўзімку дзень спіць, а ноч з тою самаю адразанкаю ля будынкаў ходзіць. Вартаваў, каб саўхоз цэлы стаяў: каб нічога суседзі не парасцягвалі ці каб хто па злосці не ўпёк, ціхенька [redacted] запалкамі падкраўшыся. Так што тады яму, нашаму старшыні, мала й гаварыць трэ было — больш крычаць ды праганяць даводзілася. Можа, загэтым ён і не любіць язычлівых, гаваркіх.

Праз яго цяпер у нашым сельсавеце і на зборні зборні няма. Баркаўчане па злосці кажуць на нашых сельсаветчыкаў:

— Мармычы-людзі. Толькі й знаюць свае паперы пісаць ды ўсё сартуюць іх, куды каторую падшыць.

Капераціў цяпер усё прыстанішча баркаўчанаў і ў будны дзень, і ў свята. Там каператыўшчык Сцёпка нізенькі, круглы і ў твары і ў целе чалавек,— варушкі надта. Хоць не надта ён сам гаманіць любіць, але змыслы. Ніколі не прапусціць такога здарэння, дзе б ільга было навіну якую пачуць. Хай толькі хто пачне ў капераціве сакрэты якія гаварыць, дык і бровы падыме, і вушы натапырыць — хаця б даслухаць. Людзям тавар кіне падаваць на выбар, а што гаворыцца — пачуе. Толькі датуль, пакуль пра што гаворыцца, даслухае, у яго перапынак бывае, [redacted] так Сцёпка спрыцен да гандлю. Самы ўпраўны гандляр барджэй за яго грошай не злічыць і рэшты не дасць спрытней — роўна капейка ў капейку; калі грош трэба, дык і той знойдзецца. Лепшага за яго каператыўшчыка і з-за меж не выпішаш, а не то што з горада выпатрабуеш.

Адно толькі крыху кепска, што казённыя грошы, як капераціў замыкае, сабе ў кішэню забірае. Бывае, што забудзецца іх усе старшаму свайму каператыўшчыку здаць ды ўзяць замест іх распіску, а возьме дома да часу пакіне. Тут рэвізія наскочыць — давай у ўсякіх паперах капацца, давай лічыць, на рахаўніцы бразгаць костачкамі.

— У вас, Сцёпка,— кажуць,— недастача рублёў на 80.

Тады Сцёпка аж за галаву схопіцца, успомніўшы. Ён не тоіцца. Усё як ёсць ад шчырага сэрца прызнаецца:

— Гэта ж я дома грошы пакінуў ды забыўся з сабою ўзяць. Дык колькі, вы кажаце, не хапае? 80 рублёў? І 62 капейкі?

Сцёпка збегае дадому, возьме і прынясе роўна гэтыя самыя 80 рублёў і 62 капейкі.

— Вось,— кажа,— маеце. Тут яны ўсе.

Калі ж Сцёпкаў бацька, бывае, грамадскага інтэрасу не ведаючы, возьме ды ўпатрэбіць сынскія грошы на карову ці так на які вялікі гаспадарскі расход, тады Сцёпка, усё роўна як яго сэрца й чуе гэту бяду, не дадому бяжыць, а к суседу, каторы нядаўна што буйнаватае прадаў. Напрамілуй бог просіць:

— Пазыч рублёў 80. Паслязаўтра я табе іх аддам.

Няма чаго казаць! Наш Сцёпка-капераціўшчык чалавек як трэба. А што звягаюць на яго некаторыя баркаўчане, дык — хто сабе няпрыяцеляў не мае? Так яно спрадвеку было й будзе. Смеху варт, кажуць — кабеты аблічвае ды й так лішнія хаўрусныя грошы сабе заганяе. Плятуць:

— Такая зайздрасць, што меры не знае — кожан раз лішняе перабярэ.

Ды што там пра гэта многа гаварыць, калі ўжо недастачы штораз менш і менш у Сцёпкі знаходзяць. Гэта першы раз было 80 рублёў; ужо за другім разам усяго 43 рублі не ставала, а за трэцім — яшчэ меней.

Мала што людзі на добрага чалавека здумаюць. Нізашто я не паверу, каб Сцёпка сумыслу браў сабе хаўрусныя грошы: шчэ ў нашай радні не чуваць было, каб хоць з адзін круцель удаўся. Сцёпку крыўда будзе, калі яго гэтак абазваць. Ён і сабе, і казне, і людзям верны чалавек.

От я Лук'яна з каперацыва выганяў бы. Чорт жа яму адкажацца, калі прыслепіцца прасіць тытуну. Палічы тады, колькі пачкаў на аднаго яго ў месяц разойдзецца. Дасі Лук'яну, дык жа ж тады трэба і другім пасуліць. От чаму я й думаю, што Сцёпка сваіх у месяц сама менш рубля паўтара за адзін тытун прыкладае.

Харaство ў Баркаўцах, калі кірмашны дзень у мястэчку. Тады за людскімі фурманкамі цераз вуліцу ў нас не пяройдзеш. Едуць і едуць. Канца ім няма...

Ад цямна і траха не да паўдня з усякім пасудкам: з цэбрамі, вёдрамі, ражкамі, дайніцамі, з мяхамі на вазах усе ў Хлюпск сунуцца. Пад вечар гэтыя самыя людзі ўлегцы з Хлюпска дамоў трухаюцца. З раніцы людзі цішэйшыя, а пад вечар ужо й гамоняць, і рукамі, што трэба, паказваюць. Каторы каня змяняў ці прадаў што з большай жывёлы, дык і саўсім трапяткім робіцца. Раніцаю едуць без ніякай гарнізацыі, як хто ўправіўся з дому выбрацца — хто раней, хто пазней. Пад вечар жа дамоў ехаць гуртам збіраюцца. Усе з аднэй вёскі, што ў злагадзе самі з сабою жывуць, бяруць адну літру, каб пагрэцца.

Тады дамоў усім гуртам фурманка за фурманкаю едуць. Дзе коні пад гору цішэй ідуць, там яны з вазоў адны з аднымі моцна гамоняць. Калі ў мястэчку ім не папалася пагрэцца — завоз быў вялікі каля казёнкі ці так была якая прычына, дык праз Баркаўцы едучы вялізная табліца над Цэнтраспіртавым ганкам успамяне ім, што пагрэцца-такі варта. Хто ж тады пазнае, што на кірмаш да торгу ездзіў, калі з рота нічога не чуваць.

Убачаць мужчыны на табліцы нумар 72. Пагавораць. Пасаймікуюцца:

— А што, каб узяць ■ паўлітры? Як вы, мужчыны, думаеце?

— Па мне — можна.

— І па мне — бяры сабе.

Гукнуць на пярэдняга, каб каня сутрымаў, а заднія й самі пастануць. Пытаюцца: «Што там у вас?»

— А унь паслалі,— пакажуць тым, што не былі блізка, як згаворваліся. І заднім гэта наруку. Шчэ гукнуць на пасланца:

— Ты ж там болей бяры — цэлую літру!

Пасланец згодзен. На хаду адказвае: «Добра!»

Стануць сабе ўсёю вёскаю сярод вуліцы і стаяць. З другіх вёсак людзі, што едуць, мусяць набок скіроўваць коні ды абмінаць.

Тым часам пасланец у карчме з ганка сыходзіць і таўстую літру за горла трымае ў руцэ.

Далёкія яны людзі дый не запаслівыя. Не маюць з сабою такога пасудку, каб роўна, без крыўды ўсяму гурту літру размераць. Але суседская справа — злаваць ніхто не будзе, калі аднаму капля болей, друго-

му капля меней прыйдзецца. Нагном глыне, колькі яму хочацца, ды дае другому:

— Грэйся,— кажа.

Лук'ян жа наш, што капераціўскім сабакам прадражнілі, у такі час, бывае, стаіць ля ганка проці крамкі № 72. Пакурвае сабе чужы тытун ды смяецца разам з другімі. Убачыць, што так людзі з літраю мучацца, добрага прыступу да яе не маючы,— шкада іх Лук'яну стане. Падыдзе памаленьку к людскому возу, ля каторага гурт сабраўшыся, дый спагадае:

— Як вы, людзі, п'яце нагном! Гэта ж запырхацца можна. Наце вам лепш чарку.

І праўда! Дастае сабе [redacted] кішэні масенжную крыху пагібаную бляшанку, што шчэ [redacted] японскай вайны прынёс, як пусцілі з войска дамоў. Лук'ян цяпер гаворыць маладзейшым хлопцам (не ведаю, ці праўда, ці ілжэ), што тады ў войску не толькі чарку, але й гарэлку давалі, каб ахвотней на штыкі перліся. Дык ад тых дат гэта бляшанка ў вялікай пашаноце ў Лук'яна.

Дае сваю чарку мужчынам — тыя й рады. Пакуль дзякаваць, дык перш разы два наліюць яе поўную і дадуць Лук'яну пакаштаваць. Той ад гэтага не адказен, ласку ахвотна прымае. Толькі пасля, як вытра губы, салжэ, як у яго чарка ў кішэні апынулася. Доўга будзе ўсю гэту яго мову запісаць, дый ніхто веры не дасць, яе пісаную пачытаўшы. Каб паверыць, трэба самому ад Лук'яна чуць. Ён так не аднаму гурту ласку ўчыніць і аднэю гладка сказанаю моваю адбратаецца.

Лук'ян чалавек запаслівы. У яго заўсёды скібачка хлеба ў хустачку ўверчаная ў кішэні ляжыць. Пасля чаркі выме яе, разверціць, адломіць, колькі трэба закусіць, а рэшту зноў уверціць і ў кішэню схавае. Бляшанка гэтаксама ў яго ў пашаноце. Як людзям не трэба, возьме зверху аб крысо сваёй суконнай жакеткі вытра і ў кішэню схавае. Тады памаленьку зноў ідзе ў мужчынскі гурт зубы продаць.

Хто Лук'яна не знае, пры чужых вазах убачыўшы, гатоў падумаць, што падліза ён. Але хай лепш гэтага не думае. Дзе Лук'яну выпадае, ён там і накпіць з чужога чалавека і набрэша. Калі ж дзе гэта не з рукі, там ласачкаю неўзаметку пад'едзе, ці просьбаю, ці грозьбаю,— усё адно сабе не на ўтрату зро-

біць, а на прыбытак. Ці так, ці сяк, але Лук'ян і не ўгінаецца надта, і не крычыць моцна. Усё ў яго жартамі ■ рук сходзіць.

Гэтаксама і ўсе баркаўчане любяць весялосць. Здало іх накпіваць, смяяцца з людзей. Хай пападзецца ў Баркаўцы чужы чалавек, дык так абшыюць, абсмяюць, што толькі будзе рот разявіўшы слухаць ды блішчаць вачыма то на аднаго, то на другога. Свежы чалавек нізашто баркаўчанскай мовы не разбярэ. Каб яе разумець наважыцца, трэба сама менш месяцы два ў Баркаўцах пажыць ды пахадзіць на зборні і з старэйшымі і маладзейшымі. Тады толькі акзамінт на сабачую мову здасі.

Не шануюць і самі сябе баркаўчане. У нас нікога па імені не завуць. Кожны мае сваю прыкладку. І ў старога і ў малога яна ёсць.

Лук'яна капераціўскім сабакам завуць. Трахіма з Пагулянкі — млечнікам. Парасчынага свёкра «дэбаю» звалі. Ды што казаць, як каго завуць, калі вы болей нікога і не ведаеце ў нас. Але пачакайце! Абы толькі вам быў час, а мне ахвота, дык шчэ ці аднаго можна будзе баркаўчаніна ў газетах працягнуць. Абы здароўе!

Патом весела ў Баркаўцах жыць. Дармо, што і ў мяне самога прыкладка ёсць, а я патом іх ні на адну вёску, ні на адзін горад не прамяняў бы.

От у ваколічных вёсках каля нас дык дзікуны, а не людзі ёсць. Баяцца ў Баркаўцы ў капераціў хадзіць, каб хаця іх не прасмяялі. Толькі, праўда, не ўсе.

Шчэ не ведаю, чаму гэта нашы Баркаўцы ў другіх вёсках за нейкае пудзіла маюць. Пасварацца там, бывае, суседзі, а не то і паб'юцца, калі надта гарачыя. Потым давай адзін аднаго страшыць:

— Хіба ж ты праз Баркаўцы ісці ці ехаць не будзеш! Памесяць там табе плечы. Ой, уложаць! Аж не панясеш, як уложаць!

— Смаркач ты, калі не чуў добрага слова. Хіба ж ты там знаеш каго? От я калі папрашу, дык табе то ўложаць, мала не будзе.

— Хто цябе паслухае?

— А то й не?

— А то й паслухае?

Так: перш біліся, а потым сядуць водалека адзін

ад аднаго, калі ёсць на чым, ды давай сварыцца. Кожны выхваляецца, што лепш за другога баркаўчанаў ведае.

Саўсім жа гэта — брахня на нашу вёску. Ніколі баркаўчане ў такія справы не лезлі, каб спасцігаць немаведама каму і чортведама за каго. На гэта даўней у мястэчку былі два мешчанчукі, што за паўкварты гатовы былі да паўсмерці прыбіць не вінаватага ім чалавека. Баркаўчанам толькі каб падвесці каго, каб хто біўся, а ім самім збоку пастаяць ды на той бок паглядзець. От на што баркаўчане здатны.

А каб на мяне хто так сказаў, як на нашы Баркаўцы,— я адразачку заяву ў суд занёс бы.

Але хто што ні гаворыць, а я адно кажу: за нашы Баркаўцы ў свеце лепшай вёскі няма. Нізашто б я з яе не выбраўся, хоць бы мне й прыплачвалі.

*В. Скварцы,*
*май 1927 — снежань 1928 г.*

## ЦЕСНАВАТАЯ КУРТАЧКА

Нікуды не варта такая работа: пачынаць з надвор'я, з ветру, з дрэў, абсаджаных навакол дзеі. Але хто мне казаў, што я лепшы за іншых? І цвёрда трымаючыся гэтага перакананння — што не лепшы за іншых,— смела пачну яшчэ горш: з пазалеташняга снегу.

Яго помняць гразкога, мурзатага ад даўнасці, што летась пазавуголлю ад сонца, як прыйшоў на яго звод, як усім дадзеў, прыглядзеўся. А мне ў памяць не ён, а пазалеташні, 1930 года, снег, што тую восень на першы, на кароткі — і таму прыгожы — час быў за навіну.

З гэтага і пачну. Спынюся перад маладосцю, перад момантам — зменным, імклівым. Ступлю шырэй, абмінаючы акамянелую старасць, бо няма калі, бо далі вабяць. І адна ў мяне надзея на шырокі крок.

— Брыдка, дзядзька Адась,— казала Волька Лысаковічаўна.— А яшчэ — калгаснік...— з прыціскам выгаварыла яна гэта апошняе слова, бо з Банькоўскіх хаты адзін ён з сваёю кузняю ў калгас запісаўся.

— Можа, так калі, другім разам... Цяпер і грошы якраз разышліся.

Не такі ўжо і «дзядзька» быў Адась, як можна было падумаць з Вольчыных слоў, што так моцна школаю аддавалі. І меў ён яшчэ непазбытую сялянскую прывычку: бедніцца, гнуцца — малечка што. Ды і скупаваты быў крыху — чаго там таіцца!

— Усюды ўсё грошы,— бедаваў.— У саўгасе на сене крыху зарабіў, дык от ніяк не выберуся схадзіць сыскаць.

— Дык колькі запісаць, што даіцё, таварыш калгаснік? — не слухаючы ягоных жартаў, дапытвалася Волька.

— Ды не тарокайся ты,— аказалася з куткавога ложка, дзе густа сабраўся быў вячорны змрок, меншая Адасёва сястра.— От бо натура!

— А колькі даюць? — нарэшце палез ён па грошы ў кішэню.

Гэта ж з блізкае ШКМ хадзілі па хатах у Вязавіч траіх вучняў, збіралі на самалёт. Хадзіла дваіх далёкіх нейкіх хлапцоў і свая, вязаўская дзяўчына Волька Лысаковічаўна, што разам з імі вучылася.

— Ну, як ваш Яська? — папытаўся ў яе Адась пра большага брата, што цяпер апошні год быў у Чырвонай Арміі. Некалі, як Лысакоўчык яшчэ дома быў, сябраваў з ім Адась. Часта ён тады хадзіў да Лысаковічавых вечарамі гуляць.

Малая, шчупленькая, дзіця яшчэ была тады Волька. Ужо ў ШКМ пачынала хадзіць, ціхая была, сарамяжая: лішняга слова, бывала, да чужога чалавека не прагаворыць. А за гэтыя два гады, як пайшоў яе брат у войска, мала калі бачыў Вольку Адась. І цяпер неўспадзеўкі заўважыў ён, што вырасла, памажнела Лысаковічаўна. У школе, у чужых людзях пабыла і многа-многа пасмялела. Ужо без Волькі не абыходзіўся ніводзін сход: крыху па абавязку — што камсамолка, а болей па сваёй ахвоце. Асталося ў яе цяпер ад дзяцінага толькі гэта, у школе набытае «дзядзька» ды кароткая, цеснаватая ёй цяпер картовая куртачка.

— Гэту ж восень ён павінен дадому прыйсці,— братавых тэрмінаў у Волькі пытаўся Адась, хоць і сам іх добра ведаў.— Нічога не піша, калі пусцяць?

— Не піша. Нешта даўно ўжо ліста не было.

Тым часам ужо добра сцямнела на дварэ.

— Не баўся, Волька, хадзем далей,— клікалі Лысаковічаўну яе таварышы ад Банькоўскіх з хаты.

— Ужо не цеперся, а нам на сягоння яшчэ шмат хады,— казалі яны.

І не было калі Вольцы доўгую гаворку пра брата распачынаць.

— Аставайцеся здаровы,— хутчэй сказала яна.

Пайшоў Адась за вучнямі ў сенцах дзверы зачыніць. Правёў да варот пад самую вуліцу.

— Ты ж, Адась,— ужо проста, па-таварыску, без «дзядзькі» казала Волька,— заўтра да нас на сход прыходзь увечары.

— Куды да вас? У школу? Хто яго пойдзе за чатыры вярсты.

— Ды не: да бацькі ў хату. Глядзі ж, прыходзь,— наказвала.— З партячэйкі будуць. Ад нас з школы прыйдуць. Трэба... Сам павінен ведаць. У нас калектывізацыя ўсяго на трыццаць чатыры працэнты,— казала Лысаковічаўна, пераходзячы на другі бок вуліцы.

Нарвалася на гэту гаворку Тэкля Мятліцкая, хцівая кабеціна. Аднекуль з-за вугла раптам з'явілася яна тут. Хуценька акінула позіркам Вольку, як бы гэта рабіць ёй забаронена было.

— Пусці ж мяне,— сказала Адасю, што заняў быў сабою ў варотах увесь праход.

Шмат высшая, страйнейшая падалася Банькоўчыку Волька папацёмку. Як бы падрасла яна, з хаты, з відна выйшаўшы на вячорны змрок.

— Глядзі ж прыйдзі,— аж ■ другога двара гукнула Лысаковічаўна.

Яшчэ раз азірнулася на яе Тэкля ды схавалася ў сенцы, за дзверы.

Відаць было з Банькоўскіх двара далёкім агнём асвечанае неба над Мінскам. Абы змерклася на дварэ, там займалася зара. Ціха... Нікога не было ў Вязавічах на вуліцы. Адзін-адным узапёрся Адась на вароты. Пазіраў ён на той далёкі бляск. І думалася яму, як бы хутчэй са сваім кавальствам туды дапасці.

— Навернеш некалі галавою. Вобмегам табе вылезе гэтыя трыццаць чатыры працэнты,— пачуў Адась з сянец, як ішоў у хату. І толькі ён адчыніў дзверы, як і па гаворцы было, як бы яе нажом хто адсек.

— Трэба ісці. Не цяперся ўжо,— раптам узнепакоілася Тэкля.

— Гуляй. Куды табе спяшацца?

— О, не! Дзе ты бачыла? І так забавілася.

— Што гэта нешта Лысаковічаўна табе на шыю вешаецца? — пыталася маці ў Адася, як Тэкля пайшла з хаты.— Абы чуць,— казала,— жаба каторая паднялася, дык ужо яна... Ото свет настаў!

— А вы слухайце!..— злосна асыкнуў Адась.

— От не дадуць месца,— немаведама пра каго ён сказаў быў, кладучыся спаць.

Назаўтра ў Лысаковічавых на сходзе ззаду за людзьмі ў галавах, адсунуўшы крыху далей падушку, на ложку сядзеў. Адась з вусатым Антосем Драніцкім.

— Што ж ты слова не закінеш? — знайшла яго там Волька.— Калгаснік, а зашыўся за людзей ды маўчыць.

Тым часам сакратар партячэйкі блізкага саўгаса канчаў рабіць даклад.

— Што мне?! Я тут не даўгавечны,— казаў Адась Лысаковічаўне.

— А кашулю набраў на смерць? — не ў той зусім бок яна кінулася [redacted] жартам.

— Пры чом тут кашуля? Я дзе пайду — прайду. Магу з малатком працаваць, а нарвецца дзе сталярка — і [redacted] гэтым не слабо. Махну ў горад. З працы рук я ўсюды сабе хлеб знайду. Вольны мне шырокі свет.

Сакратароў даклад скончыўся.

— Хто мае што сказаць? — пыталіся.

— Кабеткі, вы нічога яшчэ не гаварылі,— прасіў іхняе думкі сакратар.

— Ат, што мы скажам?!

А тым часам ззаду ў гурце пачалі перш памалу, а потым што раз мацней-мацней дудукаць.

— Што вы там самі з сабою гаворыце? Вы ўсім скажэце. Каб усе чулі...

— І трэба сказаць,— аказаўся [redacted] ложка вусаты мужчына.

— Дык ты, Антось, не туляйся там, а выйдзі наперад ды і скажы, што маеш.

— Хадзі да стала бліжэй, таварыш Драніцкі,— па прозвішчы яго знаў сакратар.

Так і зрабіў вусаты. Устаў і пайшоў праз людзей, гаворачы.

Волька паправіла крыху падушку, што, седзячы, Антось падабраў быў пад сябе. Адсунула яе далей пад сцяну ды сама на тым месцы села. Яна была дома і глядзела парадку.

— А што?.. табе ў калгасе будзе дрэнна? — пачала ізноў Волька спыненую гаворку.— Выкуеш сабе за дзень якія два-тры працадні — і не знайся! У нас трох кавалёў на вёску.

— І ўсе калгаснікі,— падказаў Адась.

— Вельмі добра. Астанецца толькі большую, прастарнейшую кузню паставіць, сабраць у вадно месца начынне і людзей.

— Хто кажа, што дрэнна? Але большага, дальшага свету хацелася б паглядзець.

Вісела тая кароткая, цеснаватая, дзяцінная яшчэ Вольчына куртачка над ложкам на шастку. Як дома, распрануўшыся, у сінім каптане сядзела Волька на ложку. Што былі яны так паасобку — на ложку Волька, на шастку куртачка — не відаць было, як вырасла адна і як другая зрабілася малая. Не ў памяці было Адасю тут, на гэтым сходзе, якую ён стройную, высокую бачыў учора Вольку, як пераходзіла вуліцу ў вячорным змроку. Забыўся. Гаварылі пра калгасныя ды пра адыходніцкія справы. І не падумалася яму закінуць слова пра што іншае, драбнейшае: весела, кпліва спыніцца над дробяззю. Ён казаў:

— Каб мне не армія сяголета, не сядзеў бы я дома. Даўно драпнуў бы куды. А то — што ты будзеш вырывацца на месяцаў колькі. Але яшчэ і так надзею маю,— разважаў Адась.— Возьмуць. Два гады адбуду, а там будзе відаць куды... Там ужо прасторны адчыніцца свет.

Каля стала справілі рогат. Мусіць, нешта смешнае сказаў Антось Драніцкі. Ён палажыў асадку на стол.

— Ну, што ж,— кажа,— мужчыны?! Падыходзьце болей. Што я, адзін за вас усіх сацыялізм зраблю?

— Бярыце прыклад з таварыша Драніцкага,— казаў сакратар саўгаснае партячэйкі.

А далей «бягучыя справы» набеглі.

— Ідзі атрымай...— успамянула Волька Адасю, што ён быў разбедаваўся, як яны хадзілі збіраць на самалёт.

Пакінуў Банькоўчык сваё сціхлае незапамятнае

месца на ложку за людзьмі. Падаўся ён бліжэй да стала.

Там саўгас плаціў касцам за работу.

Новыя — у руках шапацяць, як бярэш,— чатыры чырвонцы прыйшліся Адасю. І да іх далі два старыя, як з ботаануча, рублі. Харашэнька ў чатыры столкі злажыў Адась чырвонцы. Параўнаваў, разгладзіў ды да іх у таварыства далучыў два буластыя пакамечаныя рублі. Палажыў усё разам у стары свой, у адным ражку белымі шыўнымі ніткамі зацыраваны палярэс.

Далей-болей...

І ўжо не казала Лысаковічаўна, што:

— У нас усяго на трыццаць чатыры працэнты...— а смела адрэзала, робячы на камсамольскім сходзе ў ШКМ даклад пра ўдзел іхняе школы ў калектывізацыі.

— У Вязавічах праведзена на восемдзесят пяць працэнтаў...— і была яна яшчэ больш рада, што сама адтуль, з тых Вязавіч.

Сорак дзве хаты было ў саўгасе з тае невялічкае вёскі. А ў гэтых сарака дзвюх і Банькоўскіх хата лічылася. Маці і дзве незамужнія сястры — уся іхняя сям'я — былі калгасніцы. Усяго было за гэты час. І паміж усім гэтым здарылася тое, што ў злосці сталі і Банькоўскіх жанкі з Мятліцкаю.

— І следу да гэных людаедаў не палажу цяпер,— казала аднаго разу на вуліцы Тэкля жанкам.

Зямлі сабралася як вокам акінуць: сваёй, вязаўскай прыбыло вунь на колькі працэнтаў, ды яшчэ кулацкай — вязаўскіх Мятліцкіх зямлю ды шляхечай [redacted] засценкаў, [redacted] хутароў далі іхняму калгасу. Надышло жніво, і агледзеліся вязаўчане, што работніка ў іх свайго не стае. Прыехалі на іх поле жняяркі. Шырока, шмат занялі яны поля на свой круг. Выйшлі на поле вязаўцы з сарачні хат і агледзеліся яны, што на такой шыры, на такім прасторы жменька іх. А была пагода, сонца — сама што жаць, сама што сушыць ды ў такі дабро звозіць.

Аказаліся вязаўчане ў другія калгасы. І чуў Адась у сваёй кузні на выгане, спаважна цягаючы мех, як:

Выпраўляла мяне маці,
Зялёнае жыта жаці,—

здалёк ды штораз усё бліжэй пад'язджала песня пад Вязавічы.

Кінуў Адась сваю работу. Выйшаў з кузні паглядзець, адкуль гэта і хто. Але нікога нідзе не відаць было. Песня была за вёскаю, [redacted] другога боку. І стаяў Адась, плячысты, прысадзісты. Слухаў. Шырокія, як апраннікі, ляжалі яго старыя, растоптаныя боты ў гарачым ад сонца пяску.

Песня сціхла, і Адась пайшоў у кузню.

Пачакаўшы, ізноў кавалю давялося кінуць работу. Не вялікае што, а рупіла. Выйшаў ён з кузні — ажно няма дзе дзецца: наперадзе вёска, а за кузняю, за невялічкім выганам чыстае поле [redacted] усіх бакоў. І ўсюды людзі. Чатыры жняяркі адна за адною ішлі наўкола палетка. Віда-віда сціскаўся бліжэй да сярэдзіны спелы жытні круг. І жанцы і жнеі адным гурткам ішлі ззаду. Круцілі перавяслы, вязалі цяжкія, на кулі падобныя снапы.

Ды рупіла Адасю, не было яму калі доўга ўглядацца. Мусіў ён хутчэй дадому пайсці — а гэта недалёка было,— каб там сярод будынка прызаняцца дзе.

Коратак пры дружнай рабоце самы вялікі летні дзень.

Увечары прыезжыя жнеі пайшлі ў прасторную раскулачаных Мятліцкіх адрынку, на калгаснае пахучае, мурожнае сена.

Адзін Банькоўчык [redacted] усяго свайго таварыства астаўся ў Вязавічах. Кавальства прытрымала яго тут. А так усе хлопцы — хто куды відна: каторыя ў войска пайшлі, каторыя канавы капаць пад Смалявічы паехалі, каторыя каменне білі, недзе далёка адгэтуль клалі шашу. Вязавічы за падлеткамі (за «падшывальцамі», як іх Адасёва таварыства звала) асталіся.

— Эх! Што вы за хлопцы? — не за вочы, а ў вочы казаў ім, увечары на вуліцу выйшаўшы, Адась.— Да наводных дзяўчат у адрынку ўлезці. Як плюнуць... От мы некалі! Дзе нас не было? Куды мы не дападзём? Каля нас як па брытве хадзілі. Бывала, калі адыдземся куды на вёскі... Яшчэ Антось Драніцкі нежанаты быў. Удвух, утрох пойдзем, а каб хто слова нам наперакор сказаў.

— А забыўся, як з Казюкоў уцякалі?

— Усяк было,— некуды дзецца Адасю.

— А ці раз было!

— А мы казюкоўцам аднаго разу...— пачаў быў Адась.

— Хадзем, хлопцы.

І не далі Адасю гонар свайго таварыства аднавіць. Пайшлі.

— От былі штуку падстроілі...— ідучы, намагаўся ён скончыць, але ніхто ўжо не слухаў.

Нізкага росту быў Адась, а «падшывальцаў» на лес гледзячы ўчора павыганяла. І прапаў, згубіўся ён у іх гурце. Забыліся яны пра Банькоўчыка.

З сярэдзіны былі зашчэплены жнеі ў адрынцы. Стузянулі хлопцы вароты.

— Адчыніце.

Ціха. Ніхто не пытаецца з сярэдзіны, хто там і чаго.

— Свае,— на нясказанае пытанне адказаў нехта [redacted] хлапцоўскага гурту.

У сярэдзіне ў адрынцы ціхенька, утаіўшыся, дзяўчаты смяяліся.

Пад самым шчытам быў з аднаго боку незаложан закот. Тудою ўлезлі ўдвух. Адчынілі з сярэдзіны дзверы.

— Заходзьце, хлопцы,— паклікалі ўвесь гурт.

Ізноў згубіўся, на самым задзе астаўся Адась. Не хацеў ён быць непрыкметным. Вярнуўся дадому ад самых шырока расчыненых варот.

Вуліцаю ідучы, убачыў адзінокі Банькоўчык Антося Драніцкага. Доўгія, пышныя вусы сабе загадаваў. І быў добры, рупны гаспадар. У гэту сяўбу выбралі яго вязаўскія калгаснікі сабе за палявода. А помніць Адась, як некалі, яшчэ хлопцам быўшы, яшчэ як не гадаваў Драніччык вусоў, яны разам блізкія вёскі, шукаючы весялосці, абыходзілі. Высока тады ляцеў ён, [redacted] цяпер сеў на ложку ля калыскі. Пакалыхваў дзіця.

Некалькі быў Антось яшчэ сваім сватаннем славен у Вязавічах. Абы свята ці прысвятак, пападзе сабе якога п'янчужку ды і паехаў. Усё далёкіх незнаёмых дзяўчат аб'язджалі, і кожны раз у новую вёску. Мір народу праз гэта ён увазнаў. А ўзяў замуж сабе з Вязавіч Гэльку, што «ступкаю» звалі — надта ж яна куртатая была. І цяпер пры лямпе крышыла Гэлька буракі.

— А-а, люліша,— цешыў Антось малое наравістае дзіця.

Даўгавата ў іх пад акном стаяў Адась, пазіраў. Ды пасунуўся ён, як стары, памаленьку дадому.

Падалося Адасю, што нешта белае матнулася ў Лы-

саковічавых у варотах... А пазалетась быў трывожны, неспакойны час. І набегла Банькоўчыку даўно, яшчэ вясною чутая пагроза: «навернеш галавою». Ціхенька падкраўся Адась да Лысаковічавых хаты, каб згледзець, хто там, ды зрабіць перапуд. Зірнуў з-за вугла. Ажно гэта была ў белай хустцы Волька. Стаяла яна пры самай хаце ўзапершыся на плот.

— Гэта ты? — здзіўлены быў Адась.

— Я.

— Што ж ты адна сягоння?

Была цёмная-цёмная ноч. Было хмурна: ні месяца, ні зоркі. Парнасць і цяпло было, як перад дажджом.

Узяў Адась Вольчыны рукі.

— Якія яны мяккія, кволыя ў цябе. Адвыкла ў школе ад работы, гультайка.

Хацела нешта Волька яму пра політэхнізацыю на гэта сказаць, але змоўчала. Цяжка было гаварыць у такую душную, цёплую ноч. Босая, у адным лёгкім паркалёвым кафтаніку, выйшла на хвілінку Лысаковічаўна паглядзець, дзе хто ёсць на вёсцы. Халаднавата ёй было ад адной летняй, парнай ночы. Бліжэй яна прыхінулася да Адася, а ён леваю рукою абняў яе гнуткі, малады стан. Ціхенька прастаялі хвілін колькі.

— І што далей? — папытаўся Адась.

— Не ведаю.

Тады ён памаленьку знайшоў вусны.

— Не трэба,— толькі пасля пацалунку ціха сказала Волька.

А там бліжэй пад восень было. Крадком, ціхенька насоўваўся верасень. Халаднейшыя па жніве пачаліся метафарычныя вечары. Як і той першы раз, увечары белую хустку на Лысаковічавых двары здалёк убачыў Адась. І ўжо ведаў ён, хто там ёсць і чаго.

Проста іх дваром дзьмуў халодны восеньскі вецер. Упіраўся ў Вольчыну кароценькую, цесноватую картовую куртачку. То падымаў, то назад клаў ёй на плечы тую белую, здалёк запаметную, завязаную пад бараду хустку. І надзьмуў вецер холаду, восені ў іхнюю мову. Маўчалася добра, гаварылася нехаця.

— Адась, а чаму б табе не падвучыцца трохі,— успомніла Волька, як у яе на іспытах пыталіся пра Коласавы «На прасторах жыцця».— Як гэта цяпер, у

наш час аб адной пачатковай школе быць? Я сабе ўявіць гэтага не магу.

Падалося Вольцы, што нешта супярэчыць хоча Адась.

— На работу будзе яшчэ час,— адказала яна яму на гэта.— Абы толькі хацеў, дык работу заўсёды знойдзеш.

— Дзе ты бачыла! Стар ужо,— напраўду сам сябе шкадаваў Адась. І зусім гэты адказ быў не той, што чакала Волька.

Яна была перш проста, як на сходзе, дзе на пытанне даючы адказ, казала:

— Гэта не бяда.

Потым прыслухалася да Адасёвых слоў, як бы лепш, адменна пачула іх. І падалося дзяўчыне, што пакепліваюць з яе, за малую маюць. Ёй яшчэ не трэ было маладзіць сябе, хацелася большаю, сталейшаю быць. Але няўдала, як уразіў Адась яе гэтым, незнарок сказаным, крыўдна зразуметым словам, жартавала:

— Не смяшыў бы ты людзей сваёй старасцю! — павяла рукою па ягонай, тры дні як паголенай, барадзе.

Пацiскала Волька плячыма. Такі халодны вецер наскрозь хадзіў праз Лысаковічавых двор.

— Хадзем на вуліцу — зацішней будзе,— убачыў Адась, што холадна Вольцы.

— Падавайся на рабфак,— сказала яна, сеўшы з Адасём на прызбе пад хатаю.— Тры гады, а там і далей табе насцеж дзверы.

Яшчэ ў тым вяку была Волька, што хацелася ёй без канца і без мэты далей у навуцы ісці. І падалося Вольцы, што яму, непрывычнаму, было замнога трох год.

— І мне ж тры гады ў тэхнікуме быць,— на сваю нядаўнюю крыўду забылася яна.

— А як ШКМ?

— Я ж скончыла. А ты і не ведаў?!

Тут за хатаю зацішней, цяплей было. Змоўкла, у задуменні прыхінулася Лысаковічаўна да Адасёвага плечука.

— Што гэта: ці не гарыць што? — паказала яна на паўночны ўсход.

— Гэта бляск ад Мінску. Кожны вечар, як крыху цямней, так.

— Пятнаццатага і я там буду.

Ізноў павяла яна рукою па яго шорсткай барадзе. Цяпер, на прызбе поравуне седзячы, ёй было гэта многа зручней.

— Добра? — як пра наперад умоўленае, папыталася.

Наклёўваўся ўжо і ў іх нейкі цікавы, працягам у горад перанесены сюжэт.

— От толькі з Чырвонай Арміяй...— казаў Адась.— Мой жа год сяголета на прызыў ідзе.

Гэтага года верасень з прызывам — удвух да Адася прыйшлі. Хмурны і радасны ішоў хлопец у суседні сельсавет, дзе быў пункт. Хмурыўся таму, што не так, як ён захоча, пакіруецца ягонае жыццё. І рад быў, што так яшчэ лепш будзе. Але забракавалі Банькоўчыка. Не варты ён быў у Чырвоную Армію. Стаптаўся Адась, над кавадлам стоячы, і ані — і заваду не было ў яго ўсходу на нагах: роўная і шырокая, як лапаць на васемнаццаць вушак, была ягоная ступа.

— Гэта й добра,— казала дома маці.— Адбыў войска... [illegible] цяпер трэба думаць, як на свеце жыць. Жаніся от, ды пляшчы сваё жалеза пакрысе.

І не чуў Адась матчыных слоў. Думалася яму, што на двары і гэты раз холадна, а колькі там цяпла з тае кароценькае, цеснай, трэці год ношанай куртачкі?! Хутчэй сёрбаў ён сваю, раніцаю звараную, прастылую вячэру.

За навіну быў гэтага вечара Адась на вуліцы. Нічога яшчэ не ведалі ў Вязавічах. Думалі: нядоўга яму асталося дома быць. Усе сваё перабудуць: хто пазней — хто раней. А Адасю ж [illegible] гэтае восені пачыналіся ягоныя чырвонаармейскія два гады. І за гэта была яму ад яго вязаўскіх сяброў вялікая ўвага.

Той самы — нізенькі, прысадзісты быў ён, а ўжо не губляўся болей у гурце. Усякаму ён сам, ягоная мова цікавы былі гэтага вечара:

— Ну як, Адась?

— Як? — пыталіся ў яго.

— Не ўзялі,— кожнаму і ўсім разам адказваў ён.

І куды дзелася тая цікавасць?! Ізноў кепікі пачаліся, як дазналіся хлопцы, што свой ён — навек вязаўскі астаецца.

— Маўчаў бы лепш, не прызнаваўся. Гэта ж дзяўчатам у вушы як унясуць...

Ізноў здрабнеў, згубіўся паміж гурту Адась Банькоўчык. І гаворка з ім толькі нагадвала хлопцам Яську, Вольчынага брата.

— Чулі, што Лысакоўчык звыш тэрміну ў Чырвонай Арміі астаецца?

— Праўда?

— Учора ліст паштар прынёс.

І нікому не ў галаве было, калі кінуў гурт збракаваны Адась Банькоўчык.

Волька чакала, узапершыся на нізенькі, з тонкіх жэрдак плот каля вугла бацькавае хаты.

— Як у цябе ■ Чырвонай Арміяй? — перш-наперш папыталася.

— Хібіла, што ані ўсходу на нагах няма,— нехаця прызнаўся ёй Адась.

У гэтым годзе скончыла Волька ШКМ. Не трэ было ёй казаць, што патрэбна абарона краіны, але такі — сама яна не ведала чаму — рада была, што Адася дома пакінулі, што нехта іншы ягонае ганаровае і адказнае месца заступіў. Але прыкрая Банькоўчыку была пра гэта мова.

— Ну, а як ваш Яська? — пытаўся ён.— Звыш тэрміну астаўся?

— Прыслаў ліст. Пытаецца: як лепш — аставацца ці дадому ісці.

— Ну і што?

— Напісала, каб аставаўся.

І не такі ўжо халодны, ветраны быў той вечар, як, вячэраючы, думалася Адасю.

Светлы, цёплы, пагодны ўдасца часам увосень дзень. Бабіна лета завуць. Ды не толькі дні — і вечары часам адменныя ўвосень, у верасень месяц трапляюцца. І невядома, як зваць іх: аж да гэтага часу імя не добрана. От табе і тэрміналагічныя камісіі!..

Мелі б мы толькі што згадануто выгаду і карацей, прыгажэй можна было б сказаць пра той вечар. Штораз болей тады праясніваласся над Мінскам. Было нешта асаблівае там.

— Старайся цяпер камандзіроўкі,— казала Волька.

Толькі не відаць было пацёмку, што ёй на гэта адказаў Адась.

Даўжэй і шпарчэй назаўтра раздзімаў ён свой го-

ран. Ахвотней і лепш кавалася яму. І так і гэтак меркаваў. І ўсё выходзіла добра. Даўней са сваёй гаспадаркі нельга было: гаспадара б дома не асталося, а цяпер ■ калгаса можна і адлучыцца: маці ■ сёстрамі самі заробяць сабе хлеба.

Прыцягнуў палявод Антось Драніцкі пад кузню жоўтую калгасную каламажку на жалезным ходу. Лекаталі непадмазаныя колы. І ўсё-такі незаўважаны ўвайшоў ён у поўную дыму Банькоўскага кузню.

— Паглядзі,— кажа,— што ёй недалягае.

— А што? — прахапіўся каваль.

— А нешта на задняй восі ■ правага боку лютэрка не трымаецца: трэба анучу падкручваць, як едзеш дзе. І тут крыху акуцце папраў,— паказаў Антось, на двор да каламажкі вывеўшы каваля.

— Трэба,— кажа,— каб усё спраўна было.

— Што табе гэтак прыспела з каламажкаю?

— Заўтра ў мястэчка паеду. Трэба з крэдытамі як уладзіць, што некалі, аднаасобнікамі яшчэ быўшы, нашы калгаснікі бралі.

— Хто болей з табою паедзе?

— Я адзін.

Хутка спаздрыў Адась, якое яму шчасце само ў рукі прыйшло.

— Мяне,— пытае,— возьмеш?

— Добра. Едзьма.

Новага, нядаўна купленага ў калгас белага каня назаўтра запрог Антось у тую жоўтую каламажку. Бедаваў дарогаю:

— Хаця каб ён аўтамабіляў не баяўся, а то чыстая бяда будзе з такім канём у мястэчку.

— А які ў цябе там інтарэс? — папытаўся ў Адася.

— А дай рады! Аж няспрытна прызнацца. Як малы ўсё роўна,— на курсы думаю паступіць.

— Ну і што? Час цяпер такі. Усе то вучацца, то перавучваюцца.

Хутка ў мястэчку справіў свае справы Антось. Адась з камандзіроўкаю таксама не забавіўся, але належала яму яшчэ прэміроўка.

Меўся Банькоўчык справіць сабе на зіму новыя боты. Зайшоў ён у кааператыў. Ажно там, як на тое ліха, не было на ягоныя апранніке сорак шостага нумару.

Не даў веры Банькоўчык каапeратыўшчыкам. Наважыў спрактыкавацца сам: дзве большыя пары паправаў мерадзь, ды дзе там — у халяву чуць лезуць яго шырокія растаптаныя ногі, а не тое каб абуцца.

Зайшоў па дарозе ў другія кааператывы, пагля-дзець, што там ёсць. Але нічога не спадабалася. Так і прынёс да воза тыя чатыры новыя чырвонцы. Адлажыў купліва на другі раз.

— Ну як, далі? — папытаўся яго Антось, як да воза сышліся.

Дастаў Адась з штаноў з глыбокай кішэні свой белымі шыўнымі ніткамі ў ражку зацыраваны палярэс, а з палярэса ў чатыры столкі зложаную паперку.

— Зірні,— кажа.

— О, гэта я скажу, што з розумам хлопец робіць. Я сам, каб не жонка, не дзеці, здэцца б, на якія курсы пайшоў. Сям'я мне адно свет завязала.

Ізноў харашэнька злажыў Адась камандзіроўку і на старое месца, у тую самую кішэню палажыў яе. Можна было і дадому ехаць. Але тут умяшаўся дзень. Быў ён хмурны, ветраны.

— Можа б, пагрэцца трэ было. Як ты думаеш? — папытаў Антось.

— А не пашкодзіла б.

І зрабілі яны лад. Дастаў Адась тыя два, як ануча з бота, рублі. Прыкінуў да іх Антось свае два, крыху навейшыя, ды і кажа:

— Папільнуй ты, Адась, воза. Я схаджу вазьму... Тут недалёчка.

Вялікаватая чарга там сабралася. І ўсю яе сваёю штукаванаю моваю здзівіў Антось.

— Дай мне,— кажа,— кавалак гарэлкі.

— Кажы як чалавек, колькі табе трэба, ды людзей не затрымлівай,— як каса, на такога ядавітага чалавека трапіў Антось.

— Я ж кажу: дай з паўметра,— як камень, цвярды быў вязаўскі палявод.

— Плаці тры рублі пяцьдзесят капеек,— давялося таму зразумець Драніцкага.

— Цябе толькі па смерць пасылаць,— лаяў яго пры возе Адась Банькоўчык.

— А дай рады! Забавіўся.

Ужо з места раз'язджаліся людзі. Што раз відней яны мястэчку з пляшкаю на сваім возе былі.

— А што, калі нас хто з раёна за гэтаю работаю ўбачыць? — цікава было Адасю. — Я, дык ужо — дармо. А ты ж сякі-такі начальнік. Палявод.

Пакуль шклянога бога добра не ўбачыў, Антось казаў:

— Ну што ж! Трэба ж пагрэцца. На гэта людзі ўвагу маюць.

А як перапусцілі разоў колькі, другі сюды з'явіўся Антось. І адкуль ён нарваўся — той самы, даўнейшы, што некалі з Адасём у чужыя вёскі на вечарынкі хадзіў.

— Што? — адразу крыкам у іх ціхую, памяркоўную гаворку ўмяшаўся гэты прыблудны задзіра.— Калі мяне за палявода асадзілі, дык ужо і горла завязалі? Ужо з добрым чалавекам мне і хэўры паганяць нельга?! Дык бярэце з мяне к чортавай галаве свайго палявода — от што я скажу.

Выехаўшы за мястэчка, пайшоў калгасны палявод нацянькі ўспамінамі да таго, яшчэ хлопца, нежанатага Антося.

— Эх, як маладзейшы быў,— падцмакваў дарогаю.— Сам ведаеш. У тваіх гадох, а то і маладзей. Што я па сватох папаезджаваў! Гэта мне як плюнуць было. І ўсё маладых, бывала, мы [redacted] сватам дабіралі дзяўчат. Сам ведаеш. Першых сватоў не пачаставаўшы не адпраўляюць... А гэта многа значыць, калі хочаш абы толькі...

Аўтамабіляў не баяўся, але не ведаў сам з мястэчка да Вязавіч дарогі белы, нядаўна куплены конь. І не было каму паказаць гэта каню. Адзін расказваў, а друг слухаў — абодва вязаўскія калгаснікі былі заняты. Надаўгад яны ехалі, пакуль не спыніліся.

— Но, каб ты выдах! — гукнуў Антось на каня.

Былі яны ў вёсцы проці нейчых незнаёмых варот. А на двары стаяла жонка [redacted] вядром.

— Янук, зірні ты: наш белы дому не забыўся,— каму яна казала — невядома: ніякага Янука, прахапіўшыся, разгледзеўшыся, дзе яны, нідзе не бачылі вязаўчане.

— Дзе гэта мы?

— У Анекдотах [1],— кажа Антось.— Гэты конь з

---

[1] Анекдоты — вёска такая пад Здарэннем ёсць. Дайце рады.

Анекдотаў і завёз нас на сваё старое месца, траха не на самы двор.

— Скажэце: кудэю тут...— ужо дарогі пачынаў пытацца Адась.

— Эт! Было — не было!..— на нешта смелае адважыўся Антось.— Аднак,— кажа,— тут Здарэнне блізка,— сцебануў ён каня і адвёз далёка ад тае жонкі Адасёва запытанне.— Раз блудзіць!

— А гэта ў якую вёску едзем мы? — папытаўся Банькоўчык Антося.

— У Вялікія Анекдоты.

— Добра. А там, што праехалі?..

— Гэта Малыя Анекдоты былі.

— Можа б, мы другою якою дарогаю?..

Быў непаваротны, цельпукаваты Адась Банькоўчык — акурат традыцыйны герой беларускае літаратуры. Абы абмінуць сціслы, трапны — такі нязвыклы ў нас — анекдот, ён гатоў быў даць вярсты тры апісаўчага, матывавальнага кругу.

Але быў з традыцыйным Адасём Антось Драніцкі — утрапёны чалавек.

— Ізначай няма дарогі ў Здарэнне. Толькі праз Анекдоты ехаць трэба,— а ён добра знаўся ў гэтым баку.

Ды пакуль што ані не разумеў Банькоўчык Антося. І на што яму — утрапёнаму — тое Здарэнне?

— Паедзем у сваты: аднак вечарэе.— Пазней той растлумачыў.— Толькі выбачай: не першыя будзем. Па сваім даўнейшым следзе цябе павяду.

— А мешалкі мы не заробім, як добра да свата прыгледзяцца?

— А во,— узяўся Антось за доўгія, пушныя свае старэчыя вусы.— І не падумаюць пра падабенства.

— Чорт яго...— не мог адважыцца Адась.— А потым...

— А потым: другі раз не прыедзем... Вып'ем сабе, закусім, а там — першы і апошні раз яны нас бачылі.

— Ну, калі так, то — давай,— пасмялеў Адась.

Добра дарогу знаў Антось у гэтым баку. Зрабілі яны за Анекдотамі дзве павароткі і ўехалі ў самае Здарэнне — у новую, Адасю незнаёмую вёску. І што яшчэ цікавей: якраз перад тэю хатаю сутрымаў Антось свайго белага калгаснага каня, дзе дзяўчына была напагатове, каб замуж пайсці.

Сватоў прынялі ветла. Частавалі добра. Доўга зацягнулася сватанне. Пад паўдня назаўтра ўехаў палявод з кавалём у Вязавічы.

З калгаснае аборы вазілі гной. Якраз з поўным возам давялося размінуцца запозненым сватам.

— Гэта вы яшчэ ад учарашняга? — пераязджаючы вуліцу, папытаўся калгаснік.

— А дай рады!

У аборы дзяўчаты накідалі гной. Пачулі паляводаў голас. Ужо ўсякіх жартаў і меркаванняў было ў Вязавічах — чаго б гэта заначавалі Антось з Адасём у мястэчку. І цяпер цікава было дзяўчатам падхапіць ад іх саміх самую праўдзівую навіну пра гэта здарэнне.

Павыходзілі на вуліцу накідальніцы. Заступілі дарогу. Як на рабоце былі, так і выйшлі — з сахарамі.

— Дзе гэта так забавіліся?

— У сватах,— сутрымаў Антось свайго белага, блуднага каня.— Што вы на гэта скажаце?! — смяецца ён бесклапотна.

— Праўда? — гуртам прыступілі дзяўчаты да Адася. І Волька Лысаковічаўна стаяла сярод іх, узапершыся на сахор, чакала, што Адась скажа. А той маўчаў. Што яму казаць? Ды і нашто? Першы і апошні раз яго там бачылі. Што ён другі раз туды паедзе, заручыны будзе рабіць?.. Маўчаў Адась, бо не даў бы яму салгаць сват.

Тым часам наўкола фурманкі ўсё прыбываў гурт.

— Чулі...— падышла сюды з другою навінаю Адасёва меншая сястра.— Чулі, якую Мятліцкага шылахвост на вас лухту вярзе? «Што гэта,— кажа,— калгаснікі, як аблудныя ходзяць?» — ды паказвае сюды. От толькі што, вуліцаю ідучы, чула.

— От, скажы, не дадуць сучцы прытону.

Ніякай навіны ад мужчын не папаўшы (таму, аб чым Антось прагаварыўся, не паверылі), на зусім іншае пераскочыла ў дзяўчат гаворка.

— Дадуць. Не бядуй. Далі Мятліцкаму — дадуць і Мятліцкай.

— А дай рады!.. ужо другі месяц на казённым хлебе пане Мятліцкі...

Умяшаўся ў іх гаворку і Антось. Быў ён гаспадарны чалавек ды і палявод к таму.

— Ідзіце,— кажа,— дзяўчаткі, накідаць, а то зараз прыедуць па воз, а вы тут гульма гуляеце.— Вя-

зі,— кажа да Адася,— каламажку,— а сам ён злез з воза і пайшоў парадкавацца на калгасны двор.

— Адась! — гукнуў палявод з двара.

Той ужо далекавата ад'ехаўся быў.

— Што? — лейцамі сутрымаў ён крыху каня.

— Ты ж яе ў Януковым таку пастаў. Каня на пашу завядзі. Глядзі не напаі толькі з дарогі.

Не залюбіў Банькоўчык апошняга загаду.

— Што я, малы?.. Не ведаю, ці што? Но! — таркануў ляйчынаю белага.

Восень, што далей, то ўсё болей уваходзіла ў сілу. Халаднелі вечары. І тая самая, як і раней, была куртачка на Вольцы.

— Ну як? Далі камандзіроўку?

— Далі.

Свяціў белы, халодны месяц. Відно ды бескарысна было.

— Пакаж. Я пагляджу, як яны табе напісалі.

Палез Адась у кішэню. У адной памацаў, у другой — няма. Усё перашукаў — нідзе не знайшлося.

— Ляснула,— казаў,— грошай сорак рублей.

— І ты не помніш дзе?

— Дзе ж? У сватох. Каб яны скрозь зямель пайшлі!

Холадна было Вольцы ў сваёй кароткай, цеснай куртачцы. Успомніла яна пра сваю дарогу.

— Трэба ісці спаць ужо. Заўтра мне ж зараней уставаць. Каб хаця на ранні цягнік не спазніцца,— памалу, як бы гэта ёй немаведама як цяжка было, расказала Волька свае новыя турботы.

— Дык чаго там надта спяшацца. Паспешышся. Далёка там тая станцыя — тры вярсты.

— О, дзе ты бачыў! Трэба ісці.

— Заўтра пятнаццатага?

— Не. Але мне трэба раней.

Памкнулася ісці ў хату.

— Што ж ты?.. І развітацца не хочаш?

— Я й забылася,— яна вярнулася, падала руку.

І пайшла.

На вялікі жаль, у жыцці здараюцца сюжэты рэдка, а ў беларускай літаратуры ўдаюцца яшчэ радзей. Калі на жыццё разы два чалавеку выпадзе такая ўдача, дык і то ён не ведае, што з ёю рабіць — да таго доўга ўсё гэта зацягне, што аж збрыдае ўсім і самому

яму. Не ўдалося гэта і маім героям: не зацягнулі, дык спынілі яны яго заўчасна. Зусім не выйшаў, мабыць, самы цікавы, у Мінск перанесены працяг. Ды дзе там Мінск? І знаку ад яго не было ў гэту халодную, відную ноч.

Ублыталіся ў справу сорак рублёў, і мусіў Адась другі раз туды ў сваты ехаць.

Палярэс знайшоўся.

І зноў забавіліся яны там цэлую ноч. Гаварылі сваты ды і ўгаварыліся: сказалі, розум адпіўшы, што цераз тыдзень зробяць заручаны.

Скупаваты крыху быў Адась. Ужо, каб вяселле раскідаць, трэ было ўтратнае вярнуць. Пашкадаваў ён, што дарага абыдзецца. Так, нехаця, і склеілася ў яго. Папоў паблізу нідзе не было — звёўся, «няўрокам кажучы», як жартавалі ў Вязавічах, іх народ. Ды і так усё добра абышлося. Шлюбу не бралі. Але былі і далёкія з шамкамі, з званкамі вясельныя пераезды, было ўсё, што яшчэ не звялося: і вянкі дзяўчаты вілі, і на дзяжу маладую садзілі, і песні пяўчыцы пелі, адбіралі ў свацці пірог. Плакала і маладая над куфрам скупымі традыцыйнымі слязьмі.

Шырэй ступім у гэтым месцы. Тут старое, спрадвечнае, акамянелае...

Было весялосці, музыкі ў Банькоўскіх — аж разлягаліся Вязавічы. Аднаго не было там — Волькі Лысаковічаўны. Відаць быў і гэтага разу, як заўсёды, далёкі бляск над Мінскам. Там цяпер была Волька ў нейкім тэхнікуме.

Можа, і не ў галаве ёй цяпер былі Вязавічы, гэта вяселле. А тут яшчэ пра яе не забываліся.

Ішло на рэчку ў халоднай восеньскай вадзе абрусы мыць Банькоўскіх вяселле. І везлі на калгасным кані таго дня Тэклю Мятліцкую на вакзал. Назусім яна з дзецьмі ехала адгэтуль. Зірнула на Банькоўскіх усыпаны людзьмі двор.

— Такі не ўшчапіўся Лысаковічавых вытлук,— успомніла яна яшчэ Вольку.— А трасцу! — асыкнулася Тэкля са злосці і здавальнення.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А зіма надыходзіла...

Лятаў той самы, у пачатку спамінаны, рэдкі снег. Далей — болей... ды пачаліся мяцеліцы, пачало сы-

пацъ «па бабіным куску». І замяло Вязавічы, гурбамі вёску паабстаўляла.

У самыя кручаныя нядзелі пусцілі былі Яську Лысакоўчыка на два тыдні дадому. На другі дзень выйшаў быў ён, як сціхла мяцеліца, прайсціся па вёсцы, паглядзець, дзе-што ў ёй адменнае стала. У вёсцы паміж будынкаў было ціха. Мяцеліца сунялася. Але яшчэ не працерлі саньмі дарогі — замецена была вуліца ў Вязавічах. Не прайсці было. Калматыя ад снегу парабіліся Яськавы новыя, шчыгульна да нагі дабраныя боты.

З канца ў канец прайшоў Лысакоўчык сваю невялічкую вёску. Выйшаў на выган. Ажно там, за Банькоўскаю кузняю, у чыстым полі свету не відаць. Зверху снегу не было, але вецер драў з поля і гнаў перад сабою цэлыя хмары.

Нідзе на цэлай вёсцы нікога не было. Толькі тут, у канцы, каля кузні, заўважыў Яська чалавека. Па старым зношаным кажуху быў ён падпяразан шырокаю абшмулянаю старарэжымнаю яшчэ дзяжкаю. У шырокіх надалончаных рукавіцах ягоныя рукі здаваліся мядзвежымі лапамі. Каб не пры кузні стаяў, дык бадай што не пазнаў бы Лысакоўчык свайго даўнейшага сябра Адася — так ён адмяніўся.

— Чаму ты дома? — здзівіўся Яська. — Мне ж Волька неяк увосень пісала, што ты на рабфак думаў падацца.

Не было чаго казаць Адасю. І зацёр ён гэтую гаворку, як бы забыўся на Яськава пытанне.

— Хадзем у хату: чаго дубець на гэтым скавышы,— зазваў Лысакоўчыка.

За адным скрыпам за імі ўвайшла да Банькоўскіх цёпла апранутая — відаць у гадах ужо дзяўчына. Насекла яе мяцеліца, разагрэла варушкая, ахвотная работа, і цяпер, зірнуўшы на дзяўчыну, здавалася — во зараз капне кроў з поўных, здаровых шчок.

— Дзе гэта наш шуфель дзеўся? — папыталася яна ў старой Банькоўскай, у Адасёвай мацеры.— Трэ было б,— кажа,— сцежку да склепа пракідаць... Замяло, дык цяпер ні прыступу.

— А ты ў сенцах у кутку зірні,— параіла тая з печы, са сваёй высокай старэчай гары.

Варушкая была незнаёмая Яську дзяўчына. Не за-

бавілася яна ў хаце. За работаю, як вада ў рацэ, пайшла.

— Сваячка? — папытаўся Яська ў Адася, як толькі тая схавалася за дзвярыма.

— Дзе ты бачыў!.. Мая жонка,— як бы нехаця прызнаўся Адась.

І трэба сказаць, каб больш дакладнае апісанне было, што ўзяў Банькоўчык «тую Славу, што сядзела на ўсю лаву», пра якую ў прыпеўцы сын мацеры адпявае: «А мамачка, не хачу, бо на ложак не ўскачу». Мажная Міхаліна, ягоная жонка, была.

Сядзела Банькоўская на сваёй старэчай гары. Шырока — на ўсе тры акны — відаць ёй свет.

— Зірні, Адась, у акно: што гэта за яна? — Нешта згледзела на вуліцы цікавае маці.

Высокая, стройная, завеянай снегам вуліцаю ішла з клумкам дзяўчына. Не мог пазнаць яе Адась, а маці непакоілася на сваёй цёплай гары:

— А што? Хто гэна?

— Хто яе ведае! Новую настаўніцу, можа, прыслалі, ці што...

— Гэна ж наша Волька,— адразу пазнаў Яська,— са станцыі... Нябось хапіла і яе... Такая завея!

— Эт, што гэта значыць маладой тры вярсты са станцыі перабегчы,— і не шум баравы Банькоўскай на печы па мяцеліцы быў.

Якраз Вольчыны вакацыі з братнім водпускам разам прыпалі. І яна спяшалася дадому.

У гарадскім паліце ішла цяпер Лысаковічаўна. Пазіраў Адась ёй услед. І шкода зрабілася Банькоўчыку тае цесنаватае куртачкі, шкода ўсяго, што было ды мінулася. Ішла Волька гладкаю, мяккаю вуліцаю. Глыбокія ад яе аставаліся сляды. Ды ведаў Адась, што пройдуць людзі, пройдзе мяцеліца гэтаю дарогаю і не астанецца знаку: даўнасць іх затрэ, зацярушыць.

Відаць было Адасю, як ішла з шуфлем гладкаю, толькі што пракіданаю сцежкаю Міхаліна. Спынілася, на вуліцу выйшаўшы, пачакала, каб спачатку першая прайшла Лысаковічаўна.

— Трэба ісці,— убачыўшы сястру, неўзабаве ўстаў Яська з лавы.

— Пабудзь. Яшчэ нагаворышся... будзе час.

— О, дзе вы бачылі! Прыйду калі другім разам надаўжэй.

— Дзве штукі маеш,— толькі цяпер заўважыў Банькоўчык сябраў каўнер.

— Хутка тры будзе,— сказаў той, развітваючыся.

Пайшоў Адась за ім дзверы зачыніць: ёсць такі стары звычай. І цяжкія яму былі ягоныя пляскатыя, без усходу — бракоўныя ногі...

Каб не холадна было ад пазалеташняга снегу, што так скупа, па каліўцу лятае ў канцы навелы, каб свету не засталучыла тая мяцеліца, што далей — у кручаныя нядзелі — пачалася, пасвецім сонцам леташняй, 1931 года, вясны.

І хвала паводцы... як другой, так і ўсякай наступнай бальшавіцкай вясны! Усё пазалеташняе, невялічнае — тады толькі бурбалка на шумлівай хвалі. Находзіцца дзе ўцішку: пры беразе, ля залітых кустоў: з'явіцца крохкая, выштукаваная тысячамі нечым абумоўленых выпадковасцей, форма. І толькі — момант! А далей — шугане высшая, дужэйшая хваля. І знаку на тым месцы не знайсці — змяшалася, зблыталася і далей пайшло.

Але можа-такі не растаць, сцаглянець і астацца крохкі пазалеташні снег. Скупа, па каліўцу на кадр будзе цярушыць ён, дробнымі белымі кропкамі абсыпаць цэлулоід кінематаграфічнае стужкі. І так да самага канца няма канца на яго. А ў канцы прычыннік нарavісты, свавольны рэжысёраў мантаж. Але спыніся, пусці нанава — і пачнецца табе спачатку пазалеташняя мяцеліца. І не ў галаве ёй, цэлулоіднай, што дораг час, што новая паводка блізка.

*1932 г*

## ТРАХІМ — ШТУЧНЫ ЧАЛАВЕК

Гэта й праўда, што штучны чалавек. Ці добра ён гаворыць, ці на глум, а ўсё здаецца, што штукуе. Людзям раіць, што як рабіць, а таго не толькі рабіць, але і слухаць няма чаго. Толькі ніхто з нашых людзей не бачыў, каб ён сам сабе добрую параду даў ды каб сам сябе й паслухаў — зрабіў так лёгка, як лёгка языком брахануць.

Усяго раз і было такое здарэнне, што Трахім паквапіўся на сабе практыку зняць, ці добра будзе тое, што людзям раіў.

Усё лаганіў, па сяле ходзячы, што як работа робіцца ў чалавека, дык і яда тады есца. Ці ты яму смачнага дай, ці не смачнага — не разбіраецца чалавек, калі добра напрацуецца. Яму тады абы міску вялікую пад нос паставіў, абы ў місцы было многа, каб было на што расчыняцца. Хоць камень дай працавітаму чалавеку. Калі, не агледзеўшыся, глынуў яго замест скваркі, дык і толькі таго. Страваць і жывата не прыпсуе. Ён з'есць тое, што сабак трое. А адзін сабака паўздохлага цяляці можа асіліць.

Але ж у гэтай Трахімавай мове нічога новага. І без яго гэта ўсякі ведаў.

Ды не аднаго працавітага чалавека ведае Трахім. Гультай, што толькі каля вуглоў ціцюляе, ці не дзядзькам яго прыходзіцца. Ведае ён, як і таму жывецца. Гэты, кажа, чалавек не жыве, а сохне. Ён, і за стол сеўшы, пераборлівы і не варушкі надта, з'есць тое, што адзін абскубены верабей. Гэтакія людзі й шукаюць сабе лёгкага хлеба. Тут і дзіва [redacted] іх няма. Хоць дарагі лёгкі хлеб, але колькі ім трэба. Гэта каб працавіты чалавек выстараўся сабе лёгкага смачнага хлеба, дык на адну кішку мала было й вунь якой пенсіі: гэта — не тое, што гаршчок картоплі ўвавіць аднаму.

Чортведама што б з'еў працавіты вясковы чалавек, каб не была капейка патрэбна.

Трахім, як чалавек разумнейшы за іх абодвух, паглядзеў і на працавітага чалавека і на гультайскага. Падумаў, як ім жыць даводзіцца. Падумаў і дадумаўся, што работу рабіць няма ніякага сходу. Трахім так усё людзям напроціў гаварыў, а гэты раз сказаў, што іх прыказка да праўды ўходзіць. Людзі кажуць: работа дурня любіць, [redacted] дурань работу. Так яно й ёсць.

Ды не толькі да гэтага Трахім дадумаўся, што ўжо даўно ўсе людзі ведалі. Ён толькі сам праз сябе дазнаўся, як чалавеку на свеце жыць. Трэба работу ад першага дня кідаць рабіць і памаленьку патроху адвыкаць есці. Што ж чалавеку інакшае трэба, калі не яда й адзежа? Дзеля чаго чалавек працуе так цяжка, калі не для таго, каб кішку напхаць і сякую-такую рызу налажыць на сябе ад холаду і ад людзей? Есці, Трахім дазнаўся, што льга адвыкнуць. А калі работы не

рабіць, нідзе не хадзіць, а толькі ў цёплым месцы ляжаць не варушачыся, калі ў два месяцы раз перакаціцца з аднаго боку на другі ды, гаворачы калі хто нагодзіцца, рукамі нічога не паказваць, дык і адзенне не будзе насіцца.

Раіў Трахім людзям гэта сваё перакананне ад шчырага сэрца, а яны ўсё думалі, што штукуе. Што ж ты зробіш, калі такі штучны ён чалавек удаўся — няма ніякай паверкі. Дармо, што мядзведзя ўсе за разумнага звера прымаюць (соннага ды мёртвага не кране чалавека), дармо, што й ён так робіць, ■ потым баркаўчане Трахіму не паверылі, што чалавеку так жыць добра б было.

Немавернікі нашы людзі.

Ды Трахім не раіць якраз гэтак рабіць, як мядзведзь. Мядзведзь на зіму кладзецца ў логава ды бярэ лапу ссаць. Трахім жа раіць, як толькі згоніць з поля снег і аж да вялікіх марозаў, класціся людзям у ложак. Тады самая работа, сама што адзежа носіцца. Ды тады не толькі ў ложку ляжаць льга будзе. Можна дзе ў халодную будыніну зайсці і там сабе добрае ціхае месца выбраць. Зімою ж мусіш устаць, як мароз прыцісне. Якое там чорта лежава, калі трэба коўдраю накрывацца, а па коўдры кажухом, ды шчэ папраўляць яго на сабе, як дзе крыху з'едзе. Ужо работа хоць невялікая робіцца, адзежа хоць непрыкметна, але дзярэцца — а зараз і есці гатова захацецца — от тады прапаў за адзін раз увесь шчыры пост. [...]

...Дзіва, што Трахім зіму пралежваць не раіць. Няма дзіва, і што ён дома ніколі не распратваецца.

Усё штукуе Трахім. А раз вымкнуўся ды і ўляцеў са сваімі жартамі. Якраз яго на тое і павяло, каб, што ■ таго выйдзе, паспрабаваць.

Быў раз надта з жонкаю пасварыўся.

Усё яна ўпікала, што людзі адной картопляй усю зіму абыходзяцца, а хлеб на вясну пакідаюць — як пойдуць на поле, дык трэба ж што смачнейшае, лепшае з'есці. А ў іх гэтай ашчаднасці няма: адзін хлеб цяпер жаруць, а на вясну нічога не застанецца — ні хлеба, ні картоплі: хлеб самі ўпатрэбяць, а картоплю свінням скормяць.

У такую вялікую спрэчку зайшлі былі, што траха ўзалабкі не спляліся.

Трахім ніколі ж нічога сваёй жонцы не хваліўся.

Гадкі жаночы звычай яна мае. Калі верыць, што праўда будзе што-небудзь, дык знарок будзе гаварыць наперакор, каб яшчэ больш пачуць, што так яно й мае быць, каб самой яшчэ лепш паверыць. Трахіму, мужыку свайму, яна бывае што й верыць, а наперакор гаворыць.

— Ат! Што ты задумаў, стары?! Дзе гэта відана, каб так і было, як ты кажаш?!

Калі ж бывае і ўвалжэцца Трахім, дык і тады яму жонка злажыцца не дасць.

— А ідзі ты! — кажа.

Толькі ўсяго, што гэты раз не так ласкава ганіць яго мову, як той раз, калі міла слухаць было.

Ужо Трахім і пераканаўся, што нямаверніца жонка. Дабра яна яму не мысліць. Ніводнага слова не перапусціць. Сам-насам яны ўдваіх ніколі ад шчырага сэрца не пагавораць. Ужо як бывае Трахіму драчыць язык, а слова да яе не прагаворыць, бо яму абы пачаць, а тады ўжо ўсё роўна ўгаворыцца — усё што ведае раскажа. Трахім адваротны чалавек: ён што далей жыве, дык таго не забываецца, што ўмеў, а што больш жыве, дык усё да лепшых (ці то горшых — хто яго разбярэ) баек дадумляецца.

Яму як прыпрэ ахвота з добрымі людзьмі пагаварыць, дык апранецца й пойдзе з хаты. От чаму ён і звык па сяле валачыцца; як з аднаго канца ў другі ідзе — дадому не заходзіць. Бяда чалавека прымусіла свае хаты цурацца. Нядоля навучыла па людзях хадзіць.

Цярпеў бывала. Лішняга слова баяўся да жонкі прагаварыць. А гэты раз пад злосць узяў і вымкнуўся:

— Чорт жа цябе й бяры, калі гэтак, калі табе шкада, што я час-часом скібачку хлеба зжую. Чорт твой хлеб будзе есці! Але ж — трасцу я табе буду і работу рабіць!

— Калі ж можна б было й прыдзержыцца. А калі ты на задзёр,— і не еш. Чорт ад цябе будзе й работы даходзіць.

— І на чорта мне твая яда. Пражыву й так.

— І жыві. Я табе, як добраму... А калі ты на задзёр — трасцу: не пападзеш жа ты ў мяне нічога.

Трахіміха ў сваёй хаце моцная пані. Яна дома ўсю работу робіць, яна й парадкуецца, яе й слухаюць. А Трахім — чалавек валачашчы. Яго й дзеці, як ма-

лыя былі, мала ведалі. Хто яго ведае, ці гэта тата іх, ці так які чужы чалавек ходзіць да мамы, як толькі есці пара, а як пад'есць, зноў за парог уцякае. Спаць, яны ні разу не бачылі, калі прыходзіў, і ні разу яго на ложку сплючы не засталі.

Трахіміхі лепей дзеці слухаюць, бо пры ёй гадаваліся. Яна, што сказала, тое й зрабіла. Усё са стала прыняла: і лыжкі, і міскі, й хлеб. У насценны шкапчык схавала, замкнула, а ключ сабе ў кішэню ў хвартух палажыла.

— Паглядзім: хто каму сагрозіць.

І Трахім гэтаксама ўпарты:

— Будзем бачыць.

Добра ўзлаваўся ён.

Лёг на свой ложак і на хату плячыма адвярнуўся. Так пад паўдня сонца бралася, як ён лёг. Зараз жонка паклікала дачок (у іх сыноў няма). Селі за стол. Уліла ім Трахіміха аднае стравы міску (капусты, здэцца, ці то буракоў) — з'елі. Другую поўную паставіла на стол (не то куцця там была, не то крупнік — нешта забеленае) — і гэту спаражнілі. На гэтым і годзе — пад'елі. Трахім усё ляжыць. Хочацца і яму. Сліны повен рот нацякло. Глытае ён яе ціхенька і цярпіць. Гэта ўсё што не прывычан, што першы раз. А далей:

«Ацярплюся,— сабе думае,— і хацецца не будзе».

Меншая дачка, што ў хаце не была, сваркі не чула, хацела была спагадаць бацьку.

— Ідзеце ж і вы, татка! — пазвала.

Трахім нічога на яе словы не адказаў, а Трахіміха насварылася:

— Даміцэля! Нашто ён табе? Надта ты ўпраўная — усюды язык уткнеш. Спагадаеш. Хай от ляжыць — хоць ён не ўстане!

— І не ўстану,— аказаўся Трахім.

— І прасіць не будзем. Будзем бачыць, да чаго далежышся.

Так і не пайшоў Трахім палуднаваць.

А зараз сон яго змарыў. Прачнуўся аж тады, як сядзелі за сталом, вячэралі. Спаў на хату вачыма абярнуўшыся, дык толькі пралупіў вочы, паглядзеў ды зноў заплюшчыў. І духу не ўказаў, пакуль не павячэралі. Дочкі не раз цікавалі на яго, і бацькі не заўважылі, што не спіць, а слухае, стаіўшыся, што на хаце будзе рабіцца, што будзе гаварыцца пра яго. Вельмі ж хаце-

лася Трахіму гэта на свае вушы пачуць. Ужо як яму добра б было сербануць цёплай толькі што зваранай заціркі, а потым сцярпеў і носам ні разу не чмыхнуў, каб хоць пах яе залавіць. Хацелася было ведаць, хваліць ці ганіць будуць яго пакуту.

Тады, як быў паўабуўшыся і апрануўшыся, сырамятнаю папругаю падпяразаны, дык першы дзень Трахім і праспаў. А ўвечары так, без сну, лежачы пачалі бакі пабольваць. Надумаўся, што калі ўсёй зімы пралежаць нельга, дык месяц яшчэ можна сяк-так пракачацца, калі чым найболей спаць. Паляжаў трохі — новае надумаў: што гэта ад таго, што шмат адзежы надзета, і ў бакі муляе, і неймаверныя думкі просяцца ў галаву.

Узяў падлягчыўся: сеў на ложку — сцягнуў боты, раскруціў анучы, распеперазаўся, распрануўся ды зноў лёг. Ужо лёг не на смех — коўдраю накрыўся. Дармо, што коўдра падшываная, а холадна пад адною ёю. Кажухом яшчэ ўвярцеўся паверсе.

Ужо й сон ад Трахіма ўцёк. Як не мэдзіўся ён, каб і лепей легчы і мацней вочы заплюшчыць, не бярэ.

Адумаўся, што гэта затым, што нераздзеты лёг — лішняя вопратка муляе, а сон не прыстае. Скінуў з сябе верхнюю вопратку, пад галовы сабе палажыў. У адным ісподнім пад коўдру палез. Паправіў кажух наверсе.

Аж палягчэла чалавеку, як сцішыўся. Усяго бяда, што мала помачы ад усяе яго турбацыі: сну як не было, так і няма. Аж пакуль на дзень не стала займацца, пракачаўся Трахім. А тады так моцна прыкархнуў, што й сняданне праспаў.

Есці хочацца. Не еўшы не вытрываць. І ратунку брыдка прасіць.

Адумаўся, што і месяца не пралежыш, а пралежаў бы з тыдзень, каб ціхенька сабе хіба прыкрадаў штобы дзень хоць па такой лусце, як пастуху ў торбу даць у поле.

Ляжыць Трахім.

У роце высахла, а ён і не зварухнецца.

Ляжыць і думу думае здрадніцкую:

«От каб крошачку... Каб хоць з лыжачку... Каб хоць кропельку — у роце прамачыць. Больш бы нічога не хацелася. Пакаштаваў бы й годзе сказаў».

Якраз і з хаты ўсе выйшлі. Ніхто не ўбачыць, каб і ўзяў чаго.

Памаленьку адхінуў Трахім коўдру. Ціхенька на дыбачках, прыслухоўваючыся, каб хто не найшоў, падышоў ён к пасценнаму шкапчыку паглядзець, ці не льга будзе як дастаць чаго.

Ды — дудкі. Замкнёна, і нідзе такоўскай шчыліны не відаць, каб праз яе скібку хлеба выцягнуць. Нічога не зробіш, ключа не меўшы.

Гэтаксама падышоў Трахім і к печы. Адчыніў засланку, паглядзеў, што там ёсць. А што ў печы будзе — адны гаршкі стаяць там. Жалезнікаў і гліняніқаў паўнюсенька.

Далікатненька паставіў Трахім засланку пры качарэжніку, каб не стукнула, каб хто з двара не пачуў. Узяў вілкі. Выцягнуў самы большы гліняны гаршчок. Зняў з яго гнушку. Паглядзеў, дык там капуста. А тлустая ж яна, з баранінай. Скалкі плаваюць паверсе. Такая смачная, харошая — хоць ты яе нагбом напіся. Так Трахіму хочацца напіцца — проста не вытрываць.

Няма лыжкі. Нідзе міскі не знайсці. Усё пазамыкана. Але калі чалавек у горы, дык ён без усякай выгады абыдзецца і без лыжкі прымайструецца пад'есці, калі голад прыскічыць. І Трахім узяў кварту ля вядра з чыстай вадою. Поўну начэрпаў капусты. Хоць ад кварты й горача ў рукі, але з рук яе не пушчае Трахім. Кепская іх кварта, гарачая. З медзі яна, салдаты ў вайну з снараду неяк вылілі ды Трахіму на памяць пакінулі.

Толькі калі стане з раніцы не шанцаваць чалавеку, дык не пашанцуе і пад вечар. Пакуль Трахім у кварце капусту студзіў, нехта ў сенцах скрыпнуў дзвярыма. Не давялося яму, беднаму, і разу глынуць. А такая была на погляд капуста смачная, харошая, з бліскучымі скалкамі. Аж шкода...

Спалохаўся Трахім. Супэнду ўпусціў кварту з капустаю вобземлю. Хапіў гнушку, каб накрыць гаршчок, ды й тае ў руках не ўтрымаў. Упусціў. Разбіў аб прыпек.

Старасць — не радасць. Возьмецца пажылы чалавек якую далікатную работу рабіць — рукі ў яго трасуцца. А як перапуд які, дык і саўсім тады ходырам заходзяць — ведама цапу-лапу... Гэтае самае сталася й з Трахімам.

Добра толькі тое, што ён скора здагадацца можа. Прыйшло ў памяць яму, спалоханаму чалавеку, што льга і на ката віну зляжыць. Не было калі Трахіму меркаваць, добра гэта будзе ці блага. Хутчэй на свой ложак пабег, коўдраю ўкрыўся. Усяго бяда, што кажух вобземлю зваліўся, але не пара было падымаць. Нехта ў хату прыйшоў.

Сцішыўся Трахім. Прыплюшчыў вочы. Дыхнуць моцна баіцца. Толькі вушы натапыраў, каб па голасу пазнаць, хто зайшоў у хату.

— Што гэта за рабункі?

Толькі пачуў Трахім голас, дык і смел стаў. Дачка Даміцэля яму не вялікі страх.

— Што тут было? — пытаецца яна другі раз.

Пасмялеў Трахім. Даміцэля — дачка добрая. Яна бацьку спагадае. Просіць ён яе:

— Хадзі сюды, Даміцэлька!

— Гэта вы тут былі, татка?

— Я, Даміцэлька...

Больш Трахім не можа гаварыць. Солана ў роце стала. Сляза слязу пабіваючы, пацяклі раўчукі з вачэй.

Зблізку як паглядзела Даміцэля на Трахіма — шкода ёй бацькі стала. Давай яго цешыць:

— Дармо! Што ж там такое, калі й вы.

— Даміцэлька! Ты ж прымі там усё, скажы, што — кот.

— Добра. Я прыму. Скажу, што — кот.

— Ну, глядзі ж.

Не таго Трахім плача, чаго думала Даміцэля. Яна папрымала ўсё — і гаршчок на сваё даўнейшае месца паставіла, і печ засланіла, і хату ў тым месцы змяла, дзе наліта было, і кварту выпаласкала, выцерла скарачом — а ён усё не перасціхае. Усхліпвае і ўсхліпвае. Надта ж ужаліўся ён.

Ізноў падышла Даміцэля да бацькі.

— Чаго ж вы, татка? Што вам баліць?

Дзе ён скажа, што баліць. Нічога ў яго не баліць. Гора ў чалавека, дык і плача. З тае прычыны йдуць слёзы з вачэй, што над сваім дабром волі не мае, сваё дабро замыкаюць ад гаспадара. Дзе ж ён гэта скажа?! Дачка цешыць, а Трахім і не скардзіцца.

— Я так сабе. Што мне будзе балець?

— Дык не плачце ж! Чаго ж вы?

Трохі разважыла бацьку ды пайшла Даміцэля за парог. Яна з мацераю й ■ меншаю сястрою цэпам малацілі гарох у таку. Не было калі доўга ў хаце забаўляцца. Трэба было глядзець работы.

Адумаўся Трахім. Адным плачам сам сабе ў горы не паможаш.

— Даміцэля! — паклікаў дачку.

Аж ■ двара мусіла яна вярнуцца ў хату.

— Што вам, татка?

— Дай ты мне, дачушка, хлеба скібачку.

Даміцэля ведае дома ўсе ўходы. Выняла ключ з пячуркі. Адамкнула насценны шкапчык. Не скібку, але дужаватую лусту ўкавяліла й дала Трахіму. А сама і нож на тым месцы, дзе брала, палажыла, шкапчык замкнула і ключ у пячурку зноў схавала.

Напрамілуй бог яе Трахім просіць:

— Глядзі ж, не кажы нікому нічога.

— Добра. Не скажу.

Пайшла Даміцэля работу рабіць, а Трахім стаў хлеб есці. Такі яму просты, нясеяны хлеб смачны здаўся, што ніколі такога пірага на Вялікдзень не каштаваў. І ў касьбу не еў ■ такою ахвотай. Цяпер Трахім і пераканаўся, што не ад адной работы есці хочацца, а можа хацецца і ад лежні. Гэты раз яму ад лежні так захацелася, што не вытрываць. Але Трахім на галодны. Не душыцца ён хлебам, а толькі каштуе, толькі лепшую форму лусце дае. Жуе і прыслухоўваецца, каб хаця смак быў у памяць, каб да смерці ведаць, які ён.

Як ні мэдзіўся ён з хлебам, але такі, пакуль жонка ў хату, з'еў усю лусту. З'есці-то чыста з'еў, але крошак не ў галаве было пазбіраць, не здаўмеўся іх далоў з падушкі стрэсці. Па іх Трахіміха й пазнала, што не шчырым пастом посціць ён, а загадзя прызапашаны хлеб ціхенька жвакуе, на ложку лежачы.

— От ты які галадамір! Работы рабіць не хачу, а есці — есць.

Калі ўспала яна на яго, калі раскрычалася, разлякаталася. Не так ёй таго хлеба шкода, але нашто ж бо быў задзёр.

Не вытрымаў-такі Трахім жаночай звягі. Мусіў адзявацца, абувацца, апратвацца ды йсці на сяло. Каб дома быць, трэ было вушы затыкаць. Немаведама, як сцерпіцца трэба чалавеку, ка бжаночую звягу ціхенька

слухаць. Спрыцен Трахім да гаворкі, а да сваркі не варт. Ад першага слова спудлуе яго Трахіміха.

А ўсе кажуць на Трахіма, што валачашчы ён чалавек. Нехаця звалачэшся, калі дома ў сваёй хаце неспакой. Няма чаго ганіць Трахіма — благое яго жыццё. Здаўна звык свайго дому не пільнавацца. Цяпер дык, каб і хацеў, цяжка яму было б пакінуць сваю благую (ці то добрую — я не ведаю) моду. Абы толькі паснедаў, дык і цягне схадзіць даведацца людзей, як яны жывуць, пачуць.

А таго самага дня, як кінуў жыць аб шчырым пасце, пайшоў Трахім у Баркаўцы ды й давай расказваць, як цыган сівую кабылу хацеў ад яды адвучыць.

— Ваду,— казаў,— і сама, бэцю, кіне піць.

Яго й праўда была: не даў есці — кінула ваду піць. Але ад першага тыдня ў трэску высахла, як у хваробе якой паляжаўшы. Потым не ўстала на ногі, а ўрэшце й саўсім іх выпрастала.

Было б гэта самае й Трахіму. Толькі ён не такі дурны, як тая сівая цыганская кабыла,— як прыпёр голад, пайшоў каля гаршкоў шныпарыцца. Цяпер, пасля таго, ходзіць па сяле ды смяецца з дурной цыганскай работы, з яго практыкаў.

Штукар наш Трахім. Змалку яго на ўсякія штукі здало. Бывае, штукуючы, сам сябе да жалю давядзе, але свае натуры не пакідае.

*1929 г.*

## ІЛЛЮК-ДАСЛЕДЧЫК

*(Якой ён бяды сваім доследам адного разу нарабіў)*

Блага цяпер жыць Іллюку-прымаку, як сваю Альжу пахаваў. Ды і за яе бытнасць не вялікая роскаш была. Благая была жонка — сварлівая. Да чужых людзей не кідалася Альжа рап'ём, як гэта робяць іншыя ўпраўныя жонкі. Ну, не без таго — бывае наробіць звадаў. (На гэта кабет здало.) Перш наробіць, а потым будзе клясціся, бажыцца, што ўсё гэта няпраўда — не яна казала, а благія абрэхлівыя людзі выдумалі, каб ачарніць яе. Альжа гатова на прысягу стаць, што і мо-

ды такой не мае, каб на людзей за вочы напасць накладаць.

— Я,— кажа,— калі што на каго маю, у вочы выпалю. Перад людзьмі скажу, калі каму выгаварыць трэба,— ці ты цётка, ці ты Юста, ці ты чорт, ці ты д'ябал, ці як іначай цябе завуць: тое і тое ты брыдка робіш.

Ды не такі на зводы доўгі Альжын язык, як да сваркі ён спрытны. Яна слова не перапусціць свайму мужу, што б ён ні казаў. У адно слова дзяўбе:

— Ілжэш! Дзе ты быў? Што ты бачыў?

— Ды я свет схадзіў, мір народу знаю.

— Там ты, мусіць, і хлусіць навучыўся.

— От ты папробуй — салжы.

— Што мне лгаць?! На мой век і праўды стане. Толькі слухаць не люблю, што многа лагоніш і, што ні слова, дык салжэш.

І праўда: Іллюк, каб было [redacted] кім, любіў бы многа пагаварыць. Гэту прывычку ён яшчэ дома, да таго як у прымы ў Баркаўцы не заставаўся, папаў бы. Тады сталярку рабіў дома ў сваёй хаце ў доўгія зімовыя вечары. Хто папросіць вокны зрабіць у новую хату, таму вокны майструе. У каго стары стол збуцвеў, той у Іллюка рабіў сабе новы. Калі каторай дзяўчыне добрыя сваты пасватаюцца, а куфра яшчэ не справіла сабе, дык і тады Іллюк з бяды выкупіць — змайструе што трэба.

Не было таго вечара, каб Іллюк згуляў. Кожны раз над дошкамі [redacted] гэблікам крукам стаіць. З шурпатай на гладкую кожную пераробіць. Ён сабе габлюе, а мужчынскі гурт, да іх сабраўшыся, так сабе якую гаворку распачне. Адзін гладка салгаць умее, што і сок не пацячэ. Другі цікавую праўду раскажа, Іллюк жа ўсё гоніць істружку ды слухае.

Дадзеце яму гэблік цягаючы. Выкалупае з жалязка ўсякае балота, што туды набілася, выдзьме драбязу. Тады адпачыць сядзе на варштаце, папросіць у каго закурыць. Скруціць папяросу з чужога тытуню. Пусціць дымок паверх галоў ды сваё ўмелае слова ў гаворку прыкіне. Тады нікога яму наперакор не было.

Застаўся ў прымы, дык Альжа стала — ад'ядае сэрца. За кожным разам:

— Шалахвост ты! Як табе язык не забаліць?

Не такая б злосць Іллюку, каб яна гэта ў сваёй ха-

це сам-насам калі сказала, а то і пры людзях ані не сцеражэцца.

Альжа — баркаўчанская жанчына: тут яна радзілася, тут і гадавалася, гэтакая самая ўдалася, як і ўсе. Болей загадваць ды камандаваць любіць, як работу рабіць.

Іллюк жа па свеце цягаўся. Многа чаго бачыў, шмат чаго ад людзей чуў. От яму і цікнула аднаго разу: чаму гэта ў іх хаце сваркі многа, а ладу няма. Ці не мае сабе Альжа палюбоўніка? Можа, з тым лашчыцца, а Іллюка адзін здзек. Гэта ж ходзіць па людзях, не без таго, такая пошасць.

Як запала Іллюку благая думка ў галаву, дык і есці таго дня не ўзяў і работу рабіць заленаваўся. Людзі косы кляпаюць — стуку паўнюсенька вёска. Назаўтра ўсе збіраюцца ісці канюшыну касіць — пара падышла. Іллюк з раніцы меўся ў кааператыў схадзіць — мянташку купіць трэ было. Потым як пачаў думаць, дык дадумаўся, што не патрэбна яна яму, што не сам сабе працуе, а на чорта лысага.

Як напалі на Іллюка жаласныя думкі, узяў рэзгіны і па нешта пайшоў у ток. Ужо даўно стала чыста ў гэтай будыніне: каб жменька сена, каб пласток саломы. У каровы ўжо другі тыдзень як загарадка не падсцілана, а конь дык ад самай вясны на голым гнаі качаецца. Абодва яны жніва ды першага ўмалоту чакаюць. Запалі ток — нічога не трэсне там: так чыста. Гэта — не помнячыся пайшоў туды Іллюк з рэзгінамі.

Ідзе і дарогі не бачыць. Унурыўся, згорбіўся. У твары цёмны, як хмара.

Адчыніў ток. Распасцёр рэзгіны ля застаронка. Толькі тады агледзеўся, што класці на іх няма чаго.

Сеў на застаронку. Угледзеўся на рэзгіны. А ўваччу яго ні двоіцца, ні троіцца — ані нічога не бачна.

Так ад поўдня ледзь не да вечара, як пасядзеў, дык і надумаўся, якім манерам Альжу даследзіць, з кім яна займаецца. Надумаўся і павесялеў.

З застаронку ён устаў. Выцягнуў з току на двор драбінку. Знайшоў збанок з маззю. Падмазаў колы не шкадуючы. Трэба каб ціхенька пад'ехаць, каб колы ціхенька плюхцелі, а не тарахкалі, як будзе ехаць. Схадзіў яшчэ раз у ток. Узяў вупраж. Пайшоў у хату па вобраць, а адтуль проста на балота.

Альжы дзіва з усіх гэтых выбораў. Яшчэ пастух

кароў не прыгнаў, а ўжо Іллюк каня прывёў дадому.

Альжа загнала авечак у хлеў, зачыніла загароду, выйшла на двор ды і пытаецца.

— Куды гэта ты супраць ночы?

— Да Хлюпску.

— Ці пры сваім ты розуме, чалавек? Гэта ж заўтра субота: торгу не будзе.

— Ат! Многа ты ведаеш! У мяне знойдзецца торг. От убачыш!

Так Іллюк і не даслухаў разумнай Альжынай рады. Да самага цямна выбіраўся. А тады, як пашарэла на дварэ ды людзі пайшлі ў хаты, за сталы вячэраць паселі, ён з прызбы набраў у крысо дробненькага, мякенькага жоўтага чвыру. На ганку і ў варота ім пацярушыў. Сам пасля гэтага сеў на калёсы.

— Но-о-о! — моцна, каб аж у хаце чуваць было, гукнуў на каня. Свіснуў пугаю і труxкам патрухаўся з гумна ў той бок, куды ад нас едуць, як трэба ў Хлюпск. Да гэтага мястэчка ад нас рукою падаць. Ніхто туды нанач не едзе. Каторага дня кірмаш, таго дня ўстаў крыху раней, агледзеўся, паснедаў — і заедзеш яшчэ ў самую пару і там набудзешся. Але ж Іллюку па людзях малы клопат. Ён робіць сваім адумам.

Усё б добра было, каб не нашы падшывальцы былі на той час на вуліцы. А то ўсе Іллюковы штукі бачылі яны. Што гэта азначае, добра спрачаліся — думалі: варажба. Параіліся адзін з адным ды пабеглі да мужчын, што таго вечара на вуліцы сабраўшыся былі. Кажуць:

— Вядзьмак наш Іллюк.

Усе, што бачылі, як што было, адзін перад адным пахваліліся.

— Далібог,— божацца,— на свае вочы бачылі.

Сталейшыя людзі, не малымі быўшы,— разумнейшыя. Адразачку здагадаліся, што тут да чаго ўходзіць.

— Такі паехаў? — пытаюцца ў малых.

— Паехаў.

— Ну, вядома,— даў адвод.

Жыватоў той вечар ледзь не пападрывалі. З рогату аж заходзіліся. А малых навучылі, як што зрабіць, каб Іллюка ў зман увесці:

— Сходзі каторы ды след зрабі на тым пясочку. З хаты і ў хату, каб відаць было: што нехта ішоў.

Малыя — паслухмяныя: усім гуртам пабеглі. А на Іллюковай вуліцы сталі і баяцца на двор паткнуцца.

Міхалкоў Кастусь за ўсіх смялейшы быў. Ды ногі ў яго не на тандэт, а на заказ выштукаваныя — не ва ўсякага і сталага гэткія дабярэш: па добраму лапцю велічыні і пляскатыя, шырокія, як апранікі — ані ўсходу няма на іх. Панскім спацырам прайшоў Кастусь з вуліцы на ганак і назад з ганка на вуліцу. Яшчэ і на самым парозе след палажыў.

Толькі малыя вярнуліся пад мужчынскі гурт ды пахваліліся, што ўжо схадзілі слядоў нарабілі, дык і Іллюка бачылі, як цераз вуліцу пераходзіў. А месячна было, відно добра.

Прыгнуўся Іллюк у варотах. Паглядзеў — знаць сляды. І на ганку гэта самае запамеціў.

Грукае ў дзверы.

— Адчыняй!

Альжа спрасонку ў хаце яго слоў не дачула. Моцны стук яе пабудзіў. Бяжыць у сенцы і лае Іллюка за непаслушэнства.

— А што — от і схадзіў назад па розум: вярнуўся! Я табе не казала? Мая праўда: заўтра субота.

— Я ж табе пакажу суботу!

Толькі ў сенцы ўскочыў, дык адразачку за тое месца, адкуль каса пачынаецца, схапіў. Пакуль тая разгледзелася, разоў колькі аплявуху і ў плечы ўправіўся загрэць. Гэтым толькі і спагнаўся. Дзе яму, мізэрнаму такому з Альжаю сілай саўладаць. Калі хітрасці не ўжыў, дык і прытаўчэ да паўсмерці. Яна кабета, як ляпеш. Глянуць ёсць на што. На адзін фартух Альжы метра мала. Ды і Іллюк некалі быў нечага варт, але праз сваю дурную адвагу сарваўся.

Гэта ж быў п'яны залажыўся на гарнец гарэлкі, што воз бярвення, як каню павезці, пад узгорак гоней двое правязе. І праўда: хоць вочы на лоб лезлі, але воз прыцягнуў куды трэба было. Прыцягнуў ды і з ног зваліўся. Перш быў збялеў, а потым ссінеў. Ледзь адраталі. Ужо на валасочку вісеў перад смерцю. І гарнец яму быў не наўме. Тры месяцы хварэў пасля гэтага. Потым, як крыху ачуняў, ды і цяпер не можа сам сабе пуда збожжа з зямлі за плечы закінуць. От праз гэты свой сарваны жывот Іллюк і цяслярства кінуў ды пачаў са сталяркаю цацкацца. Цяпер праз гэту самую прычыну і не давялося з Альжаю саўладаць. Збіла яна

яго на горкі яблык. Самадурня папаўся чалавек у спрытныя рукі. Сам сабе на тыдзень хваробы — ламаніны касцей — выстараўся.

Аж да поўначы валтузіліся яны папацёмку. Забыліся і пра сорам, і пра нашых звяглівых людзей. Хто што зарваў, пушчалі адзін у аднаго. Калі ж на кулачкі зграбуцца, дык Іллюк усё Альжы цаляў, каб пад вокам папасці, сінякоў насаджаць. Хацелася яму, дурному, каб людзі, як убачаць, ведалі, што яна за цаца. Але ж калі ён гэтага толькі хацеў, дык не трэба было надта і турбавацца: і так усе баркаўчане — малыя і старыя — збегліся былі таго прадстаўлення глядзець. Аж да белай раніцы ніхто спаць не клаўся — гэткія цікаўныя.

А ў Альжы не такі спрытны кулак, як кіпцюры. Доўгія яны ў яе і вострыя, ды яшчэ і ўпраўныя да таго. Абшальмавала Альжа імі твар мужыку, што проша бачыць: і нос, і шчокі, і ўсё чысценька, што пры іх ёсць, паганяла на чырвоныя пасачкі.

Як біцца ды біцца, дык так яны ўдваіх пастараліся, што ніводнага акна ў хаце не засталося, каб шыбы былі цэлыя. Таму ж акну, што супраць печы, папала горай як усім: ■ рамкамі на двор выкінулася. Зрабілі сабе на лета халадок.

Баркаўчан з гэтага толькі ўцеха бярэ. Хоць, як шыбы звінелі, і боязна было, каб каму праз акно галавы не расшчапілі, але ж затое стала лепш пачуць, што ў хаце крычалася і гаварылася. А што больш баркаўчанам трэба, калі не паслухаць? Паглядзець не было як. Хоць на дварэ і відна, месячна, але ж у хаце, дзе бой ідзе, нічога не ўбачыш здалёк. Знайшліся б такія цікаўныя, што ў разбітую шыбу галаву высунулі б, каб паглядзець, што робіцца ўсярэдзіне — толькі боязна, каб там хто знянацку носа не збіў.

Сышлося сюды баркаўчан, як на сход, дзе маюць нешта дзяліць ці так што дарма даваць. Дома насцеж дзверы пакідалі. Так спяшаліся сюды бегчы, што зачыніць не мелі часу. Вось бы тады злодзей пажывіўся, каб ■ іншай якой вёскі падскочыў у Баркаўцы на такі гарачы час.

Гэта пачуўшы, можа, каму падумаецца, што ў Баркаўцах зладзейскі завод даўно звёўся — і на раду такіх людзей у нас няма. Дзе там звёўся! Хто гэта ка-

заў, што няма?! Стае з нас гэтага дабра на сваю патрэбу.

У нас такія парадкі: кінь толькі дзе ля сцежкі сякеру ці сахор, дык самы лепшы, павяроны чалавек прыбярэ, абы ўгледзеў. Дома такі прытулак узятай рэчы дасць, што спалі таго добрага чалавека, дык і на папялішчы свайго жалезца не знойдзеш, як ні капайся. А што каб усё цалкам назад вярнуць, дык і думаць не трэба — хацецца не будзе. Але ў тую ноч і зладзеі, і так сабе людзі — усе ля Іллюковай хаты сабраўшыся былі.

Толькі Іллюк з Альжаю на нашых цікаўных людзей не звярталі ўвагі. Свайго прадстаўлення яны за брыдкасць не лічаць. Яшчэ лепш папраўляюцца, каб мудрэй адзін аднаго наляскаць.

«Хай жа людзі ведаюць, што ты за цаца».

Як біцца стаміліся, сварыцца селі. Аж белая раніца іх агарнула за брэхнямі.

Тады Альжы і сварыцца надакучыла. Яна ўпраўнейшая, дык дагэтуль як мае быць наплакалася, накрычалася. З таго жалю, як упала на ложак, дык і дала зайздроснага храпунца.

Да Іллюка ж думкі прычапіліся. Узялі яго жаласныя думкі. Куды ні кіне — інакшага ратунку не знаходзіць, як толькі кінуць Баркаўцы ды пайсці ў свет шчасця-долі і добрых заработкаў шукаць. Калі ўжо інакшага ратунку няма, як шукаць сабе кавалка хлеба на старане, дык Іллюк і не прападзе. Ён мае талент у руках. Ён умее сталярку рабіць. З сякераю па зрубах лазіць ужо няма даўнейшай сілы, а сталярка не цяжкая.

Апошні раз Іллюк у гэтай хаце начуе. Толькі трэба людзям паказаць, як ён тут жыў, як мучыўся. Хай паглядзяць. Хай скажуць, ці можна было трываць чалавеку ці не (не жалезны ж ён!). А тады ўжо Іллюк возьме кій у рукі. Тады ў дарогу. Абы толькі людзі паглядзелі, а больш нічога яму не трэба.

Больш думаў Іллюк — лепш надумаўся. Хоць і будзе ён маўчаць, слова ні да кога не прагаворыць, а ўсякі, хто гляне, убачыць, які ён загнаны чалавек.

Палез сабе Іллюк на печ. Знайшоў свае лыкавыя лапці, што там ад зімы валяліся (іх ён меўся з сабою забраць). Палажыў пад лаваю лапаць на лапці, як падушку. А пры іх разаслаў сваю шарачковую капоту.

Падлез і сам туды. На капоце лёг, а на лапці галаву палажыў. Пакутуе чалавек, як падарожнік у заезжым доме, калі там лішне людзей збярэцца. Ляжыць і думае, чаго дабіўся-такі.

— От хай жа людзі бачаць, што мне за гора. Хай ведаюць, дзе яна мне на адыходзе пасцель дала.

Хацеў бы Іллюк заплакаць, ды цяжка не ўмеючы. Век жыў і ўсё плач за сорам меў. А цяпер у горы і згадзіўся б ён, але слёзы не прывыклі капаць з вачэй.

Думкі яго жаласныя, але нічога не выціскаецца. Прыйшло Іллюку на памяць, што як чхаецца, дык і слёзы на вачах знаходзяцца. Хацеў Іллюк знарок гэта зрабіць, ці добра выйдзе паспытаць, ды ў пору апамніўся, што куды гэта прыстала чхаць гаротнаму чалавеку.

Але дармо, што не бягуць крыніцы з Іллюковых вачэй. І так усякі скажа, глянуўшы на яго, што з гора, а не з роскашы ў гэткім цесным месцы сабе пасцель паслаў.

Адна надзея ў Іллюка, што людзі яго ўбачаць. Больш Іллюку нічога і не трэба.

Так аж датуль, пакуль сонца добра ў вокны не засвяціла, пралежаў пад лаваю Іллюк. І сон яго вачэй ні разу не паквапіўся сплюшчыць. Зараз і Альжа ўстала. Праспала яна быдлячага пастуха, а гарлаты авечы як загукаў:

— Выганя-а-ай! — прачнулася. Ускінула кажух на плечы і выйшла выгнаць авечак.

Іллюк дармо што чуў быдлячага пастуха, але і з месца не паварушыўся. Навошта яму гэтыя клопаты: ён чужы ўжо чалавек у гэтай хаце. Хай жывуць тут, як хочуць і хто хоча. Іллюк нікому тут не замінае. Ён здаўся на боскую волю.

Прыйшла Альжа ў хату, выгнаўшы авечак. Запаліла ў печы. Пайшла за сваёю гаспадыньскаю воглядкаю. Хоць і заўважыла, куды мужык дзеўся, але змоўчала.

Ды і Іллюку лепш на сто здохлых сабак глядзець, як на адну сваю жонку. Ён да сцяны вачыма, на хату плячыма лёг. Калі-нікалі спадцішка пацікуе, ці заўважыла яго Альжа, ці не, а так сцішыўся — ляжыць і не варушыцца, і не сапе моцна. Але Альжы і не ў галаве. Усё роўна, як ёй і не трэба Іллюка.

У таго сэрца не каменнае. Цярпеў, цярпеў, ды і не

вытрываў. Давай стагнаць спрабаваць. Перш памаленьку, а потым штораз мацней-мацней.

Агідна Іллюку жончына мова. Лепш бы, наўкола яго пастаўшы, гайня ваўкоў выла, а яна адна маўчала. Але ж як у горы чалавек, у вялікай пакуце, дык і ад ворага добра ласкавае, спагадлівае слова пачуць. Такі бывае дурань чалавек. Гэтакі самы цяпер Іллюк.

Хоць не ўмеючы, але гатоў быў заплакаць — так ужаліўся. Ды якраз на тую часіну нагадзіўся Трахім з Пагулянкі. Яму Іллюковы енкі — самая лепшая прычына зайсці ў хату паглядзець, як ім здаровіцца пасля ўчарашняга. Трахім учора пад акном аж лішняе прастояў, усяго дагледзеў. Ужо даўно баркаўчане паразыходзіліся, даўно ў хаце ўсё ціха стала, а ён на вуліцы стаяў, чакаў, ці не пачнецца ўсё зноў. Толькі як заружавеў вішняк у тым баку, дзе ў нас улетку сонца ўсходзіць, тады Трахім на сваю Пагулянку падаўся. Хоць не паспеў, але ж даслухаў затое. А цяпер зноў на самы пачатак да Іллюка заспяшаўся. Карціць яму ведаць, як сёння ў іх жывецца. Трахіму не тое, што нам. Яму многа чаго ведаць трэба, каб, па хатах пайшоўшы, людзям гаворкі паддаць. Многія баркаўчане, як самы гарт праслухалі, учора раней дадому пайшлі, не даследзелі, чым тады скончылася — спаць ім трэба было, каб сёння ў пару ўстаць. Сёння не свята і не прысвятак, а будны дзень — субота. Людзям трэба канюшыны ганей са двое з расой аблажыць, бо як раса спадзе — цяжэй каса ў руках ходзіць.

От ім і добра: Трахіма меўшы — усё будуць ведаць. Ён ім усім сёння за адным заходам і ўчарашняе раскажа, і сённяшняе даложыць. А Трахіма паслухаўшы, лепш у памяці ўсё, як было, застанецца.

Заходзіць сабе Трахім у хату. Кажа:

— Дзень добры!

— Дзень добры! — адказваюць яму двое: Іллюк з-пад лавы крыху раней і Альжа трохі пазней.

Трахім — кемлівы чалавек: адразачку здагадаўся, дзе дзеўся сусед. Ён падыходзіць да лавы бліжэй. Нагінаецца і пытае:

— Ты хворы, суседзе?

— Ой цяжка, Трахімка!

Цяпер і Альжа ўшчухарылася.

— Ах ты, такі-сякі. Я ж табе пакажу! Я ж цябе пастагну! Я цябе навучу, як хварэць не ўмеючы.

Ды за чапялу, ды да Іллюка.

Трахім бачыць — непярэліўкі, гатова і яму папасці, што надта сяброўскую мову быў пачаў. Каб не зарабіць чапялы, кулём шмыгнуў за дзверы. Услед за ім і Іллюк пасягаў за парог.

Дармо што Іллюк у шапцы клаўся на сваю пасцель, а як чапялы па галёнцы папаў, дык і шапкі ў хаце адрокся. З голаю галавой выскачыў ён на двор. Не толькі адной шапкі, але няма пры ім і тых лапцяў, што былі пад галавою, і шарачковай капоты, што слаў пад бок. Усё ў жонкі-ліхадзейкі ў хаце засталося. Няма з чым Іллюку і ў дарогу выбірацца. Як жа ісці так, як стаіць, на людскі смех?

Іллюк, як уцякаў, дзвярэй не зачыніў за сабой. Мусіла Альжа ўслед выходзіць зачыняць, каб у хату мух з двара не налятала. І нашто была гадаўка — моцна завалкаю ўслед бразнула: замкнула за сабой. Усё Альжа робіць Іллюку на злосць, каб больш жалю паддаць старому, каб ведаў, што не сышча цяпер ад яе сваіх строяў.

Ціхенька, спусціўшы галаву, адышоў ён ад хаты. Сеў пад хлявом, што сёлета перасыпаў, на новым дубовым запасным шуле. Цяпер яму, адзінокаму, і Трахіма нідзе паблізу няма. Збаяўся той — уцёк. Адрокся і ён беднага прымака. Ніхто Іллюковаму гору не хоча спагадаць. Няма такога чалавека. Адзін адным сядзіць Іллюк на дубовай абчэсанай калодзе. Сядзіць і нешта думае жаласнае-жаласнае. Карова за сцяною чалавека пачула, рыкае. Есці просіць. Не выгнала Альжа каровы — не было на такую работу ёй часу.

А Трахіма цяпер як чорт імчаў цераз вёску. Ды потым дамоў на Пагулянку дзве гадзіны ішоў. Хат, можа, у шэсць па дарозе навіну занёс. Мужчын ні ў адной не застаў. І бяды па іх мала. Жанкам, як ад чапялы ўцякаў і дзе Іллюка бачыў, Трахім пахваліўся.

Так тады ў суботу і не выбраўся Іллюк упрочкі сысці. Але ад тых дат і аж да самай Альжынай смерці не меў ён на яе добрага вока. Яшчэ як цвярозы, дык бывае што і забудзецца, якую яна яму крыўду зрабіла, а хай толькі вып'е крыху, дык і давай скардзіцца.

Смешны Іллюк робіцца. Тады нахінецца да таго чалавека, з кім за адным сталом сядзіць, ды і шэпча:

— Я б табе, братка, ласку ўчыніў — за свае грошы кварту паставіў, у госці да сябе пазваў — аднак мае

ўсё сваяцтва за мяжою засталося, аднак да мяне няма каму ездзіць. Толькі от, братка, бяда! От маё гора! Такая-сякая — мая. Яна мне свет завязала. Праз яе з добрымі людзьмі я не знаюся.

Баркаўчане — ужо на што ашчадныя (калі не скваліныя) людзі: ніколі свайго не перапусцяць, нічога сабе на ўтрату не зробяць,— а Іллюка любяць падпаіць.

Ім пасмяяцца лепш, як рубля знайсці.

Таго самага года пазней крыху шчэ адно здарэнне было ў Іллюковай хаце.

Надта ж таго года ў жніво дажджы ішлі. Хто з сенажаццю прыпазніўся, не заспяшаўся разам з усімі скасіць, а папаў пад благое надвор'е, дык пагнаілі сена ў копах. Таго лета дождж хоць борзда пройдзе, але ўжо калі секане — рубца сухога на чалавеку не пакіне, каго ў дарозе заловіць. Азёры пастануць у лагчынах за адну гадзіну — такія спорныя былі тады дажджы.

От таго самага года ў гэтую дрэнную пару, аўсянае жніво, аднаго разу ўвечары ехалі з Хлюпска балаголы ў наш гарадок па тавары. Едуць і бачаць, што хмурыцца ды хмурыцца не на смех — не на дождж, а на патоп паказвае. А вазы ў балаголаў былі не цяжкія. Дык яны па конях — давай пугаю ім ахвоты да бягі паддаваць. Спяшаліся — хаця б жывымі куды ў вёску заскочыць.

Нашы ж Баркаўцы з падарожнікам падражнівацца ўмеюць. Самі ў лагчынцы стаяць, а белая царква з сіняю вежаю на ўзгорку вымуравана. Ідзеш ці едзеш — з узгорка ў лагчынку куляешся, а царква ўсё на адной меры стаіць, рукой да яе падаць, здэцца,— гэтак блізка. Ідзеш-ідзеш, аж сіне ўваччу зробіцца, углядаючыся. Царква ж, як на злосць, выцягнула галаву паверх і высокіх і малых узгоркаў нашых ды і сцаглела так — і бліжэй не пасоўваецца, і далей нікуды не ўцякае. Аж злосць бярэ, калі хутка трэба куды.

А балаголам і вунь як хутка трэ было. Падашукала іх царква. Не дапусціў дождж сухімі ў Баркаўцы прыскочыць. Усяго паўвярсты не даязджаючы, застаў ён іх у дарозе. Змачыў як мае быць. А нанач захаладала. Здубець можна было ім, мокрым, як жабам.

Закіравалі балаголы свае коні ў Баркаўцы. Занялі іх сярод вуліцы, а самі пад страху ад дажджу схаваліся. Потым, як пераціхла навальніца ды падрабнеў дождж, пайшлі па хатах прасіцца, каб у каго пераначаваць.

Іллюк у нас амаль не ля самай карчмы жыве. Зайшоў да яго адзін. Просіцца:

— Пусці, чалавеча, перасушыцца дарожнага чалавека. А ўжо што трэба — заплаціцца.

— Начуй сабе,— кажа.— А платы мне твае не патрэбна. Усё роўна не забагацееш. От сцяліся ды лажыся. Толькі што каня ў мяне няма дзе паставіць. А сам начуй сабе — хата вялікая.

За гэта, што падарожніка пусціць у сваю хату не адказен, Іллюк лепшы над усіх баркаўчанаў. У нас старац бывае просіцца, нанач каб пусцілі, дык усе хаты пройдзе і, калі Іллюка дома не застане, мусіць процi ночы ў дарогу ісці, клянучы Баркаўцы і баркаўчанаў. Чаго ўжо ён не зычыць: каб і згарэлі, і спапялелі, каб ніякага знаку на тым месцы не засталося, дзе мы цяпер жывём. Але ці пажар старца паслухае? Ніколі. Баркаўцоў і чорт не бярэ.

Іллюк у нас — прымак. Альжа — баркаўская кабета. Гадаўка яна за гэтым, як і ўсе ў нас. Калі Іллюка дома няма, усё роўна старца адправіць.

— Што ў мяне карчма, ці што? — такі ў яе адказ.— Хат многа ў Баркаўцоў — хай хто другі пусціць.

І праўда: капы дзве ў нас хат будзе, але карысці з іх чужому чалавеку і на гарэлы шэлег няма. Усе іх з канца ў канец старац абыдзе і далей пойдзе.

«Каб за гэту ноч адны вугольчыкі на іх месцы засталіся. Можа б, тады ніхто падарожнага чалавека ад таго жару не адагнаў. Можна было б хоць рукі пагрэць».

Толькі што Баркаўцы вёска ўпартая: ёй пажар зычаць, а яна шчэ больш садамі ды вішняком урастае — і не знайся.

Балаголы ў нас ані не лепшыя за старца. Удвух абышлі ўсю вёску і назад да свайго хаўрусніка, да Іллюка, прыйшлі скардзіцца.

Іллюк усім добры — і на гэтых кажа:

— Начуйце!

Заехалі ўсе тры фурманкі на яго двор. На гумне свае вазы паставілі. Спуталі коні жалезнымі путамі,

за вазы папрывязалі. Дождж перш быў суняўся крыху, а потым зноў лінуў. Няма на яго перасціханку. З капяжа як хто з вядра ваду лье.

Унеслі ў хату балаголы, што ў іх лепшае было на вазах, а рэшту на дажджы пакінулі. Іллюк ім прынёс два снапы акалоту на трох. Разаслаў на падлозе.

— Лажыцеся,— кажа.— Адпачывайце.

Балаголы яго і паслухалі. Павешалі свае мокрыя лахманы на сцяне, каб сцяклі, а самі спаць ляглі. Крыху пакачаліся, пачухаліся ды і паснулі.

Толькі аднаго маладзейшага сон не браў. Даўгавата яны ўдвух з Іллюком гаварылі. Потым Іллюк такі першы здаўся — сцішыўся ды і захроп. Адзін той балагол застаўся перакочвацца з аднаго бока на другі. Усё нешта мармытаў па-свойму сам сабе пад нос. Вялікая яму ноч зрабілася. Чуў, калі дождж сціх, палічыў, колькі разоў у вёсцы сабакі пачыналі і перасціхалі брахаць. Потым надта ж коні пачалі путамі званіць. Балагола клопаты ўзялі. Ці ўсё там з вазоў пазбіралі? Хаця б там чаго хто не сцягнуў або каб колаў не паздзіраў.

От ён і ўстаў. Мокрую бурку на плечы ўскінуў і хацеў было на двор выйсці, што там робіцца, паглядзець.

Ноч цёмная тады была. Не толькі дзвярэй не відаць было, але і шыбы ані не блішчэлі. Выставіўшы наперад рукі, пайшоў балагол памаленьку, вобмацкам у той бок, дзе думаў, што павінны былі быць дзверы. Але заблудзіў — замест дзвярэй, ложак намацаў. Ды зноў яму не пашанцавала: не да чаго добрага дамацаўся, а папаліся ў рукі пальцы на Альжыных нагах, а яму трэба было клямкі.

Альжа спіць, як заяц: абы дакрануўся — прачнецца. Гэта самае было і цяпер. Ды яшчэ як на тое ліха сама за ноч разбрыкалася, а цяпер агледзелася, што коўдра на ёй раскрыта. Здалося жанчыне, што балагол тут вінаваты. Немаведама што падумалася: пусціў на яе перад касьбою Іллюк благую славу, дык ужо, сабе думае, аж у Хлюпску ведаюць і от далазяцца. Калі закрычыць Альжа на балагола:

— Чаго тут, такі-сякі, мацаешся?! Ты думаеш і праўда, што такая памоўка пайшла? Я ж табе пакажу, як да брэхняў усякіх прыслухоўвацца! Я ж цябе перамацаю!

Балагол спалохаўся:

— Што вы? Што вы? Я нічога! Што вы?

Хто яе ведае, дзе Альжа папала качалку. Калі ўзялася мясіць! З усяго пляча, як па сцяне якой, пляжыць. Б'е і прыказвае:

— А не лезь! А не лезь!

Такі ціхі балагол нарваўся, што і не адбіваецца. Са страху акамянеў і ўцячы не здагадаецца. Енчыць з болю ды ратунку просіць. Альжы ад гэтага яшчэ большая злосць.

«Калі не праціўіцца, дык, мусіць, гэтага варт»,— яна здагадваецца ды яшчэ лепш папраўляецца.

Крык, енк у хаце пабудзіў Іллюка. Прахапіліся і балаголы. Усе пытаюцца:

— Што? За што?

Альжа так шчыра ўзялася ў чалавека здароўе адбіраць, што ні на каго і глядзець не хоча. Усё таго балагола, што нібыта правініўся, і рук не пушчае. Мусіць, уходаць яго была наважыла.

Хаўруснікі таго вінаватага па галасах разабралі, што ў хаце робіцца. Просяць яны, енчаць, каб Іллюк за іх хлапца заступіўся ды жывога з жаночых рук адабраў.

Іллюк гатоў паслухаць. Ён — добры. Памкнуўся абараняць. Ужо быў і нейкае слова Альжы напроціў сказаў. Тая ж і закіпела. Балагола пусціла ды на свайго мужыка з качалкаю рынулася.

— Гэта я праз цябе ад бога грэх і ад людзей смех зношу. Праз цябе мне выйсці няма куды! Пусціў пагалоску, дык пальцамі цяпер на мяне паказваюць. Праз цябе мяне ўжо і ў мястэчку ўсе ведаюць!

І каб не ўцёк Іллюк на тую часіну, каб хоць з хвіліну яшчэ пачакаў або даў Альжы за што на ім урэпіцца — да паўсмерці б прытаўкла і яго, як таго беднага маладога балагола. Мудрэй ваўчыцы зрабілася Альжа. Сапе — не ссапецца. На перапалоханых балаголаў як гукне:

— Вон! Каб і духу вашага тут не было.

Тых толькі яна і бачыла. І сваіх мокрых лахманоў у хаце пазабываліся. Добра, што Альжа, больш памятушчая за іх, услед за балаголамі мокрыя іх бравэркі на ганак выштарыла.

Тыя пазбіралі, што чыё было. Запрэглі коні ды наўцёкі з Баркаўцоў. Даліся ім яны ў знакі. У памяці будуць. І перасушыцца — не перасушыліся і пуду на-

браліся. Але ж лепш мокрымі быць, як душою ў жаночых руках раптам загавець.

Было гэта здарэнне ўночы з поўначы. Хоць і крык быў у Іллюковай хаце, але як агню не палілі, дык баркаўчанцы і праспалі ўсё. Нічога не даслухалі, не даследзілі. А што ўвесь дзень назаўтра Іллюк у сваю хату не заходзіў — і ў галаву не прыйшло нікому на той час.

Так от ціха было аж да сёлетняга года. Трэці год пайшоў ад тых дат, і ніхто нічога не ведаў. Але ж на тым тыдні ўсё выйшла наверх. Тады аднаго дня ехалі гасцінцам тыя самыя балаголы з бочкамі. Хлюпскі кааператыў выправіў іх газы прывезці з горада.

Нешта прыйшло ж ім у галаву коні ў Баркаўцах напаіць. Заняліся яны за гэтай патрэбаю супраць нашага кааператыву. Паслалі аднаго па вядро, каб дзе яго на вёсцы расстараўся. Ды дзе там! — у баркаўчанцаў не пападзеш вядра. У якую хату ні зойдзе пасланец — усюды:

— Няма,— кажуць.

Да каго ні паткнешся — усюды адзін адказ:

— Няма. Пазайманы ■ памыямі.

Добра, што ў нечай хаце адзін малы папаўся, а сталейшых ніводнага чалавека. Яшчэ дзіцячы розум не ведае, што дзе ступіў, то і салгаць трэба. Бацькі ці то за работай, ці то за гулямі не навучылі малога, як адмовіцца, гладка салгаць чужому чалавеку, калі просіць чаго, дык малы і даў вядра.

А тым часам, пакуль пасланец хадзіў, вядра шукаў, ля балагольскіх фурманак гурт людзей сабраўся. Выйшаў Лук'ян ■ кааператыву, ды іншыя яшчэ мужчыны падышлі.

Разгаварыліся і неяк дамовіліся да таго трацягадовага здарэння. Балаголы ўсё, як тады было, расказалі: што чулі, бачылі і да чаго дадумаліся. Расказалі ды пытаюцца ў нашых людзей:

— А як жа яна цяпер жыве?

— Дзе, чорта, жыве! Летась памерла,— ім кажуць.

— Ну, а наш жа хлопец таго самага году памёр.

Так ён быў невялікі здаравяк — усё па дактарах ездзіў ды хваёвыя шышкі парыў — піў, а як адбіла яму нешта ўсярэдзіне, дык яшчэ пагоршала. Паўтара года пасля таго крывёю харкаў. Кажуць яшчэ перапа-

лохі падскочылі. Яно так: як цягаецца чалавек, дык нічога да яго не прыстае, а як занядужыў крыху, дык тады ўсякае балота наровіць упасці. Ну і шанавалі ж таго хлопца бацькі. Ужо дзе ні вазілі, як ні лячылі — ні ад чаго помачы не было. Высах у шчэпку ды памёр бедны. А такі ціхі быў. Да сваіх дзяўчат баяўся прыступіцца пагаварыць, а не то каб палез немаведама да каго і чаго.

Так расказвалі балаголы. І хоць не чуваць было, каб дзе праз благую жанчыну хто ў дамавіну пайшоў, каб так уладзілася жаўткі адбіць, каб не то што да паўсмерці прыбіты, але як мае быць у магілу прырыхтаваны выйшаў з яе рук, хоць нідзе гэтага не чуваць было, але баркаўчане адразачку далі веры балаголам, што і гэтага можна было ад Альжы спадзявацца. Ды не так ім дзіва, што не выхадзіўся балагол, як тое, што вельмі ж позна дачуліся пра такое цікавае здарэнне. Пад носам людзі ночы не спалі, заваруха была, і ніхто з баркаўчанаў таго разу не дачуўся. Як свет паўстаў, ніколі гэтага ў Баркаўцах не чуваць было.

Ды яшчэ па баркаўчанах бяда малая. Сама ж горай Трахіму не пашанцавала. Яму не давялося нават і балаголаў паслухаць, што яны казалі. Аж падсмакаваў ён потым, што прапусціў такую важнецкую гаворку, што давялося ў людзей распытвацца, а не самому на свае вушы чуць. Але як усё да малой макулінкі дазнаўся, ён і рукою матнуў і галавой страсянуў:

— Я даўно гэта казаў,— пахваліўся Трахім.

Толькі ніколі ад яго не чулі, што ён гэткае казаў. Але ж усе ведалі, якая благая жонка была за Іллюком. Заганяла яго, нікчэмнага, сарванага, і сваёю сілай і языком. Але цярпеў чалавек і жыў ціхенька. Летась жа, як памерла, дык некаторыя хвалілі, што на свае вочы бачылі, што заплакаў, як у дол спушчалі.

*1929 г.*

# ТАХВІЛІН ШВАГЕР

**Паросныя каты**

На добры лад, дык кот зусім непатрэбная ў гаспадарцы жывёла. Трымаюць людзі катоў не так за іх турботу, як з ласкі: жывому ж недзе жыць трэба.

І, здаецца, ніякага ўрону на катах гаспадар не можа панесці. Але гэта ў людзей гэтак, а ў Заблоцкіх, бывала, і кот хібіць.

Бяруць яны кацянё гадаваць — выбіраюць, прыглядаюцца: хаця каб не кошка. А дадому прынясуць, дык колькі таму кацяняці пашаноты! Не раўнуючы, як клейкаму смеццю на веніку.

Сабе ўкарацяць, а яго малаком паіць будуць: хай хаця расце большы ды на мышы спрытнейшы. А каты Заблоцкім ручацца — віда-віда, здэцца, расце. Падкачаюць крыху, а там, як прыйдзе марац, сядзе іх кот на парозе і нема крычыць:

— Кур-ня-яў! — на двор просіцца.

Але і на гэта ніхто ў Заблоцкіх лішняе ўвагі не возьме. Толькі пасля, як возьме гэты кот ды апаросіцца, тады ледзь не сварацца Юстап [redacted] Прузынаю. Малыя, бывала, адно перад адным бягуць у хату навіну сказаць. Яшчэ [redacted] сянец крычаць пачынаюць:

— А мамачка, кот пяцёра кацянят прывёў!

— А каб ён здох з нашым катом! Ізноў кошка.

— А я табе не казаў: прыглядайся, як будзеш браць, каб не кошка была?!

— Глядзела.

— Панацягвала табе на той час.

— Чорт яго тады што ў малога пазнае! Чаму ж ты не паглядзеў?

— Інтэрас мне вялікі!

— А што мне аднэй каты трэба?! Здохні ты разам са сваімі катамі!

Не такі б быў Заблоцкім жаль, каб ціхія каты пападаліся, а то самыя крыклівыя ўсякі раз лучаць да іх. Пакуль гэта здыхата прывыкне [redacted] дому, к новым гаспадарам — ото ўжо патужыць, ото паенчыць, пакурняўкае! Так яго галасы прыслухаюцца, што ў полі будзеш вярсты за дзве ад дому, а яны ўсё ў вушах чуваць.

— Не еў, не еў! — як перадражняючы каго, усё крычыць, ды з такою злосцю, што Юстап будзе маўчаць, маўчаць, ды і не ўмоўчыць — на жонку абавязкова пасварыцца:

— Дала б ты гэтай здыхаце млека, а то за яго енкамі хоць ты сваёй хаты адракайся.

— Давала. Хаця ты не бядуй надта! Еў. Хай яго

боль есць! От удалося такое крыклівае. Усё па мацеры тужыць, ніяк забыцца не можа.

Адно добра, што кот невялікая жывёліна. У мяшок кошка з усім сваім племем улазіць. Завязуць сабе Заблоцкія іх дзе далёка, як едуць куды, развяжуць мех ды і пусцяць на волю ў лесе ці так дзе ў чыстым полі, далёка ад Баркаўцоў.

Турбацыя тут невялікая, але працы шкода: зноў выбірай, зноў гадуй — кармі малаком малое, зноў не ўгадана: а што, як кошка? Усё клопат чалавеку.

От каб гэтак, як каты, авечкі ручыліся. Азалаціўся б тады Юстап Заблоцкі. А то чаго толькі ён ім ні стараецца, каб большы прыплод быў, каб матыліцы на вантробах не заводзіліся. Што людзі ні раяць — усяго паспрабуе. Кажуць, што жытнія спарышы (каласы, што па два, па тры з адной саломіны растуць) надта ж памагаюць, калі котным авечкам даваць, надта ж тады вялікі прыплод будзе. Юстап са спарышамі не хібіць. Ён, снапы носячы, знойдзе іх шмат, у анучку ўвяжа і схавае на восень. А як прыйдзе тая пара, Юстап спарышы патрэ на далоні і авечкам аддасць з сечанаю бульбаю. Потым усё будзе да іх прыглядацца. А што добрае ўбачыць, жонцы і людзям пахваліцца:

— Надта ж сяголета нашы авечкі круглыя. Ці не блізнята толькі яны прывядуць гэты год?

Тым часам і чакаць не доўга. Ускорасці акоцяцца авечкі, і, як наперакор Юстапу, каб не хваліўся болей,— па адным ягняці будзе ў кожнай, ніводная блізнят не прывядзе.

— От, каб вы павыдыхалі ўсе да аднэй! Каб на вас немач з катамі разам! — узлуецца Юстап.

І праўда. Крыўда чалавеку. Кошцы ніхто спарышоў не дае, а калі раскідаецца, дык адным словам племя адвядзе: чацвёра, а то і пяцёра кацянят, як лялек. Усім бацьком па дзіцяці.

— От, каб ты выдахла! — скажа, бывала, Юстап.— Хай бы авечка лепш!

Ды толькі б тае бяды было, каб усяго авечкі блізнят не вадзілі. Было [redacted] з яго й тых, што па адным ягняці прывядуць.

Жыў бы на гэтым Юстап. Горай было, што маладога нічога Заблоцкія не маглі ўзгадаваць. І не праз каго чужога, не праз ліхадзея, што ўсяму свету дабра не думае, а праз Тахвілю швагерку, што да іх хадзіць

гуляць унадзілася, праз благія Тахвіліны вочы нядоля невінаватаму чалавеку.

Праўда ці не, але кажуць нашы баркаўчане: зірні Тахвіля на коні, як іх вядуць у малатарню запрагаць,— не пойдуць у дышлі, хоць ты іх бі-забі. У хату да каго зайшоўшы, бойку, што масла біць, яна згледзіць — год будзеш біць, а масла ад маслёнкі не адлучыш, добра шчэ, калі ў крупкі збяжыцца, а ў камяк усё роўна яго не згорнеш — дарэмная праца; лепш бяры частае рэшата ды працадзі. А хай у хляве на што маладое паглядзіць, або на карову, ці на свінню, ці на авечку перад часам, дык усё роўна — або здохне, або да пары не даносіць: звергне; калі ж свіння пападзецца ёй на вочы, дык, апарасіўшыся, свае дзеці паесць. Ужо кот, нашто трывалае стварэнне, а й то Тахвіліных вачэй збаяўся. Выпала было раз так, што не дзеці, а сам Юстап на пограбе ў кастрыцы кашэчыя радзіны агледзеў.

— А каб ты выдахла — зноў кошка,— ды пайшоў ён у хату навіною пахваліцца. Ажно там сядзіць Тахвіля, нейкія гішэфты з Прузынай вядзе. От Юстапа і цікнула, каб звадзіць яе туды на радзіны, каб спрактыкавацца, пашкодзяць катам благія вочы ці не.

— Але й шмат наша кошка кацянят прывяла,— дзівіцца ён, у хату прыйшоўшы.— Каб ты бачыла, Тахвілька!

Тахвілі дзіва з усяго. Усё ёй цікава, усё ведаць трэба.

— Што ты кажаш?!

— От паглядзі, калі не лянуешся.

— Ды ўжо ж! Трэба паглядзець, калі дзе блізка.

— На пограбе.

Пайшлі яны туды цэлаю табалою. Раскацілі кастрыцу. Паглядзелі, дык там і не лішняе тых кацянят — усяго тройка. Не было і чаго дзівіцца, але здзівіла-такі іх Тахвіля. Назаўтра нейкая заўшыца як убілася ў кацяняты, як узяло іх гнуць, курчыць — як на жывот, усе трое енчылі, і кошка чацвёртая з імі.

Апошнія дні два кашачае племя не жыло, а мучылася, пакуль па адным не адсыпаліся. Услед за радзінамі і пахарункі на пограбе былі.

Хоць Заблоцкія ніколі кашачаму заводу дабра не думалі, але як на іх мукі тады паглядзелі, дык заракліся Тахвілі паказваць кацянят... [...]

Нашы баркаўчане і ганяць, і шкадуюць Тахвілю.

— Можа,— кажуць,— і сама яна гэтаму не рада. Што ж, калі яе гэтакія вочы: на што гляне, дык пашкодзіць.

— Але, пане ты мой, пашкодзіць! Ды шчэ як пашкодзіць!

Хто чужы, таму па Тахвілі малы клопат: узгаворацца пра яе, бедаваць паможа, а кінулі гаварыць, дык і забудзецца. От ужо Юстапу — інакшая рэч: ён жа шваграм Тахвілі прыходзіцца — сякі-такі сваяк лічыцца. Не раз Юстап казаў сваёй Прузыне, каб пасварылася на сястру.

— Скажы ты ёй, хай гэтакая разумная не будзе, а то некалі людзі ўсё роўна прытаўкуць за благія вочы, хай перастaвіць сябе, пакуль ціха.

Прузына лепей за Юстапа ведае Тахвілю. Ён толькі тое пляце, што ад людзей чуць давялося, а яна ж гадавалася ў аднэй хаце. Прузыне от злосць за сваю нічога невінаватую сястру.

— А сціхні ты! — асыкнецца бывала яна на Юстапа.— Дурні здумалі, плятуць немаведама што; а ён ім і веры дае.

— Ды цябе сем сабак не перабрэша, а не то каб я адзін. Аднаго заводу з Тахвіляю. Чорт за д'ябла цягне.

— Ат! Гавары з п'яным пацеры. Ты сваё, а ён сваё.

Прузына да Тахвіліных вачэй прывыкла. Яны ёй і не страшныя былі, дарма што — цёмныя, троха не зусім чорныя. Ды і праўда! Ці мала на свеце ёсць людзей з цёмнымі вачыма? І ніхто ім па гэтым ганьбы не дае. Не было б па адных вачох і на Тахвілю такой напасці, каб яна хоць крыху сама сябе глядзела. А то, мусіць, у год раз ці й таго меней мылася, дык хадзіла чорная, як цыганка. (А можа, тут і не мыццё вінна? Можа, яна была твару такога? Хто яго ведае!) Ды сама як сама, але ўсё на ёй каравае было — як хустка на галаве, так і ніжэй усякая адзежына ламалася ад гразі. Ды, раздумаўшыся, не было Тахвілі дзеля чаго (ці то праўда,— дзеля каго) надта строіцца, вымывацца, вычэсвацца. Як я знаў, звекавала яна пры брату, сватоў ні адкуль не чакала, дык от — як дзень пражыў, так і добра.

Яшчэ ззамаладу пра Тахвілю благая слава па лю-

дзях пайшла. Але [redacted] гэнай славе надта не прыслухоўваліся, як Тахвілін бацька пахваліўся, што дасць ёй восемдзесят рублёў грашыма і каня, карову пасагу.

Было ў Тахвілі з гэтай прычыны на вяку трое сватоў.

Шчаслівы папаўся быў адзін год: за сватамі дзверы ў іх не зачыняліся — на адным тыдні ўсе трое прыязджалі. Але праз Тахвіліны пераборы ды праз тое, што людзям не магла яна слова перапусціць, раскідалася той год вяселле ў іх хаце. Дваім сватом Тахвіля адказала, што маладыя надта ж беднага звання былі: адзін парабак з двара, а другі шкляроў сын з мястэчка. Трэція сваты былі лепшыя: малады быў гаспадарскі хлопец. Можа б, [redacted] імі і лады былі, але праз свата, праз яго доўгі язык раскідалася ўсё.

Благі той сват, што, дзе трэба, спрытна пагаварыць не ўмее, але бяда, калі і залішне шалахтун. Будзе тады тое, што ў Тахвілі было.

З-за парога пачаў ён гаворку як трэба, што прыехалі яны тавару паглядзець, а потым, як селі за стол, сказаў, як і ўсе ўмелыя сваты кажуць,— калі вымярхаліся з вялікай дарогі ды не цярпіцца:

— Не на тое мы прысланы, каб быў стол засланы. Трэба, каб і на стале было.

Потым далей-болей... разгаварыўся сват з Тахвіліным бацькам і аж да такой мовы дагаварыўся:

— Можа, вы і не залюбіце, але што трэба, то трэба сказаць. Гэта ж, як той казаў, не на дзень, не на два, а да смерці пара будзе. Людзі ўсяк тут дзейкаюць, але ў нас свае вочы ў ілбе ёсць. Ці яно праўда, ці не — можам пераканацца. Можа, таго хваста ў вашай дачкі і завады няма, можа, пра ўсякае вядзьмацтва яна нічога і ў галаве ніколі не мела, але як яно не на дзень, не на два, а на век робіцца, дык чым надта і ўвярацца няма чаго. Усё на свеце можа быць.

Сват пачаў такую брыдзэную мову, а малады яму патаку:

— Але, але! Трэба пераканацца.

Тахвіля слухала, слухала, а нарэшце, як хапіла памяло з качарэжніку ды калі сунецца да стала.

— Вон! Каб вашага і шныру тут не было. Што вы зубы продаць тут, за гэтым сталом, паселі?! Вон, паскуды!

Па той раз — годзе сваты к Тахвілі ездзіць. Казалі,

хто бачыў гэта ўсё, што тады, хоць з пэнду без шапак выскачылі з хаты, але на вуліцы такі апомніўся сват, што за гэтакі сорам хоць склясці хату трэба. Калі, забыўшыся, як яно тады было, людзі чаго з сваёй галавы не прылгалі, дык кляў ён гэтакімі слоўмі:

— Каб гэты двор, гэта хата па вокны гразззю-балотам запылі; каб сюды добраму чалавеку ні падысці, ні пад'ехаць было.

Кажуць нашы баркаўчане, што той сват, няйначай, крыху вядзьмак быў, бо ўсё так і сталася, як ён скляў, калі праўда, што ён кляў гэнак. Сваты надалей крыжык у іх варотах палажылі. Болей ніхто не прыязджаў і не прыходзіў: баяліся, каб Тахвіля, як што не пад лад, конна з хаты на іх не выехала.

Тахвілі не шкодзіць!

Не была б яна такая абрыджоная, не цярпела б звягі ад людзей. Сама вінавата!

Трэба ёй ведаць усё, што дзе на свеце ёсць. Дзе людзі сабраўшыся, трэба ёй, ціхенька прыслухоўваючыся, сунуцца туды. На сход даўней з жанок адны ўдовы (ды й то ўсяго тыя, у каторых вялікіх сыноў няма) хадзілі. З хаты ўсяго па чалавеку даўней ішло на сход. А Тахвіля — няма дуру, што з іх хаты бацька на сходзе — шамуль-шамуль, ды зараз і яна там ёсць. Ды хоць бы, туды прыйшоўшы, як удовы, пастаяла дзе ззаду, паслухала. Дык — не: ёй трэба наперадзе быць.

Уціснецца ў самую сярэдзіну, стане, дзе гаваркіх людзей болей, ды стаіць. Каб лепш усяго даслухаць, каб перад ёю смела гаварылі ўсё, ззамоладу глухою прытварылася. Ніколі ад першага разу не адкажа чалавеку, калі той у яе чаго пытае.

— Што? Што ты кажаш? — яшчэ яна ў яго папытаецца.

Калі добра, дык за другім разам адкажа, а не — то шчэ болей памуштруе: трэці раз мацней папытаць прымусіць.

— Ну — хоць забі! — не чую! — скажа і рукі распастрэ. Хустку над вушамі падыме, каб лепей усё дазвання слухаць было.

На сход прыйдзе ды калі ў што лепш уверыцца хоча, хоць і чула яго, а папытаць трэба. Таўхане памаленьку каго пад бок.

— Як?.. Што ён казаў?!

Калі нарвецца на такога чалавека, што няцяжка яму слова сказаць, дык:

— Ага! Вунь яго як! — скажа, другі раз ад добрага чалавека тое самае пачуўшы.

Толькі што немавернікі нашы людзі, не далі яны Тахвілі веры, што так — без дай прычыны — можна глухім стаць. Прабавалі яны ў Тахвілі прасіць, каб пазычыла чаго. Тройчы пытацца прыйшлося, а яна ўсё ніяк пачуць не магла.

— Але ж — хоць забі — нічога не чуваць,— казала.

Тады другі раз, на спрактыкаванне, давай перад ёю жанкі гаварыць, што надта ж гэтага года ў двары заработкі добрыя: не два злоты, а паўрубля за дзень на сене даюць. На ўсё Тахвіля забылася, гэта пачуўшы. Падступілася яна бліжэй дый пытае:

— На якіх жа луках яго сушаць, гэта сена?

Тады баркаўчане і дазналіся, што толькі «дай» Тахвіля не чуе, а на «на» ў яе вуха востра. І от за гэта прытвaранне ды за тое, што ўсюды любіць уваткнуць свой нос, і зненавідзелі Тахвілю нашы людзі. Хаты замыкаюць і самі хаваюцца, як яна ідзе да каго на двор. А дзецям загадаюць, каб праз акно крычалі:

— У нас няма нікога дома — толькі мы адны.

Сама сябе Тахвіля не шануе.

Яшчэ маладою дзяўчынаю яна была, яшчэ сваты ездзілі, а ўжо цягнула яе людзям якую раду даць. Хоць ціхенька — каб ніхто не ведаў — хоць усяго сваяком, на каго спадзявалася, што нікому не скажуць, але прабавала вогнік адкідаць — над вугольчыкамі ўжо ўмела яна шаптаць. А па Цыпруянавай смерці і саўсім варажбіткаю стала. Ужо і ад людзей не хавалася. Край свету сталі знаць Тахвілю, сталі ездзіць у Баркаўцы лячыцца. Умее цяпер Тахвіля і ад вужакі хлеб даваць, і навязкі навязваць, і рожу, і ўсе дванаццаць трасцаў лячыць.

Цыпруяна даўней у Баркаўцах за ведзьмака мелі.

Як ён жыў, я не помню, а распытацца не было часу. Толькі чуў, казалі,— адступіўся ад яго перад смерцю і бог і людзі. Кінулі яго сыны аднаго ў старой хаце канаць. І да таго ж былі яны трывалага сэрца, што Баркаўцы разлягаліся ад Цыпруянавага стогну, а яны і не падступіліся к бацьку папытацца, чаго яму хвораму трэба: ці вады падаць, ці так чаго даць

з'есці. Другім баркаўчанам не вялікая бяда па Цыпруяну — ён ім ніякі свой, ад яго ж стогну толькі страх нападаў. Адна Тахвіля вядзьмацкай смерці не пабаялася — дарма што чужая, да самай смерці даглядала яго.

Калі праўда, што людзі кажуць, дык ведзьмакі не так, як усе, паміраюць. Іх душа не гладкая, а корані папускаўшы ў чалавеку сядзіць — сама скора выскачыць не можа; як смерць прыйдзе, чэрці [redacted] крукамі прыляцяць ды самахцом яе дзяруць. Ад гэтага і боль, ад гэтага і стогны... Каб лягчэй чарцям душу крукамі драць, а чалавеку канаць, разбіраюць людзі столь, расцягваюць страху над ложкам, дзе вядзьмак пры смерці ляжыць. Каторы не такі зайздросны вядзьмак, таму скарэй прыйдзе смерць. Не так доўга будзе ён на свеце пакутаваць, калі перад гэтым адкажа свае замовы падвяронаму якому чалавеку. Тады не так моцна ў ім душа сядзіць, барздзей яе чарты крукамі падчапіўшы наверх выцягнуць.

Баркаўчане, пакуль Тахвіля па Цыпруяну не спагадала, не стала яго даглядаць, блізка пад тую хату, дзе вядзьмак канаў, баяліся падступіцца, а цяпер іх цікавасць перамагла страх. Удзень нязручна па падвоканню стаяць, падглядаць. А як крыху змеркнецца, дык і абстануць нашы людзі тую хатку, усё роўна як там гарыць, ды шчэ агонь наверх не выбіўся. Як не б'юцца адзін з адным, каб даступіцца ў акно пагля-дзець.

І казалі — праўда ці не — што даследзілі, даслухалі, як Тахвіля прасіла ў Цыпруяна, каб ён ёй свае варагі перад смерцю адказаў.

— Вам жа,— казала,— самім лягчэй будзе.

— Не! Няможна, дзеткі. Я зарокся з сабою ўсё ў дамавіну забраць.

Як роднаму бацьку, гладзіла яна ласкаваю рукою яго пакудлачаныя валасы.

— Дзядзечка!..

А ён адхінаецца, прымае Тахвіліну руку з свае галавы.

— ...Няможна, дзеткі!

— ...Даражэнькі, залаценькі!.. Ну няўжо вас не ўпросіш?! Няўжо вы такія акаянныя?! Дзядзечка!..

І такі ўмалёгала Тахвіля старога ведзьмака. Казаў ён:

— Ты мне чужая-чужаніца, а лепш за родную дачку.

Адказаў Цыпруян ўсё, што сам ведаў. Навучыў, як, у якую пару рабіць што, дый прыйшоў на яго канец таго дня пад вечар.

Дзіва няма, што з таго часу саўсім за ведзьму нашы людзі Тахвілю мецы. Дзіва няма, што на Купалле, кажуць, робіцца яна чорным катом ды ходзіць па людскіх хлявох і дайніцаю даіць чужых кароў.

Пасля гэнага ўсё на Тахвілю можна сказаць, і дзіва не будзе.

### Вядзьмацкія начары

Не то праз Тахвілю, не то так праз каго гіне Юстап. Не ведае ён добра, як і праз што, але здагадваецца:

— Тут нешта не багавое. Нешта на гэтым грунце зроблена, што ніхто на ім не разжыўся. Тут без начараў не абышлося.

Як апануюць, бывае, Юстапа цёмныя думкі, дык проста бяда. Работу робячы трохі спакайней, а як у свята — ратунку няма. От ён, каб сам сябе развесяліць, па дарозе ўвесь неспакой свой ветрам развеяць, возьме ды пойдзе сабе ў святы дзень да Хлюпск. Там Ворка на рагу карчму трымае, а ў карчме людзей, як селядцоў у селядзёўцы, там сабе знойдзеш добрага чалавека, каб сваю бяду яму расказаць.

Грошы Юстапа не любілі, а ён іх і два разы — абы толькі дзе вылатаў якога рубля, дык той самы дзень не на тое, дык на тое, а ўсё роўна на нешта аддасць. Ён, як мае грошы браць, насыпле дабра якога аброчную торбу, закіне за плечы дый пойдзе сабе памаленьку.

Стрэне каго са сваіх людзей у Хлюпску — разбядуецца: хоць ты яму грош дай на беднасць. Нашы ж людзі трывалыя: што ім жаласнае ні гавары, будуць слухаць, падцмакваць, памогуць бяду бедаваць, а слязы з вока не ўпусцяць.

Ніяк Юстап тропу не дойдзе, што ў яго робіцца дома.

— От скажэце, мужчынкі, чаму ў мяне ў засеку ўпадае? Здэцца, і не бярэш ні на што і нідзе ніякага знаку, а бывае ў нядзелю ці так у які святы дзень адлучыш часу, пойдзеш паглядзець, дык многа менш у

засеку, як перад гэтым у нядзелю было. От чаму гэта, мужчынкі? Мая галава ніяк не знясе здагадацца.

Нашы баркаўчане такія людзі: паглядзяць на торбачку, паглядзяць на Юстапа, самі сабе ўсміхнуцца неўзапаметку ды бедаваць гаротнаму чалавеку памагаюць. І бачаць яны, што Юстап гэта самае даўно думаў, пра што яны цяпер здагадаліся. Кажа:

— Ці не чорт тут часам падлятвае? Я так і думаю, што — ніхто іншы — ён выносіць маё дабро! Гіну я праз людскія варагі. Згубіў мяне благі чалавек — наслаў чорта на невінаватую душу.

Успомніўшы чорта, у Юстапа бывала аж шорах па целе пойдзе, аж паправіць ён сваю торбачку на плячох, каб не так муляла. Гэта нам цяпер страху няма, а тады, перад вайною, баяліся. Каб самому з чортам саўладаць, толькі адважныя нарываліся. Юстап жа на гэта не квапіў. Ён пытаўся:

— Ці не ведаеце дзе, мужчынкі, добрага варажбіта? Можа б, ён адрабіў, а то прапасці прыходзіцца, так жывучы.

Дзе тыя мужчыны ведаюць варажбіта! Але ў Баркаўцах быў адзін чалавек, Нічыпар зваўся. Той дык усіх іх аб'ездзіў, як у хату смерць была ўбілася ды пяцёх сыноў, як дубоў, і дзве дачкі ў дамавіну палажыла. За дзвесце вёрст бываў, як бяда прыспічыла. Да Нічыпара Юстапа і выпраўляюць мужчыны.

— Ён ведае, скажа...

— Але ж праўда! Трэба будзе калі Нічыпара папрасіць, каб дарогу расказаў, а не — то каб сам завёў, калі час будзе мець.

Гаворыць з людзьмі Юстап, а на Тахвілю, швагерку сваю, добрага вока не мае. Ва ўсякім разе яна ў яго на памяці.

— Ну,— кажа— каб дазнаўся, хто ў маёй бядзе прычыннік. Не пашкадаваў бы такога чалавека. Даў бы ведзьмаку, наддаў — што б ён хацеў, а прасіў бы, каб тое, што мне было зроблена, ён таму чалавеку назад адрабіў бы ды шчэ к таму каб скрывіла, скурчыла, каб усе людзі зналі яго.

Памаўчыць, памаўчыць Юстап дый прызнаецца:

— Яно-то, як вам сказаць, крыху і вядома, праз каго свет гарыць. Але няма каму чаго гаварыць! Не чужая-чужаніца, а сваё роднае тое.

— Ды чаго ж там?! Дзіўны чалавек! Чорт яго бя-

ры, што свой. Зрабіў бы яму, каб больш зарокся і свайму і чужому шкоду рабіць.

— От, будзем жыць — будзем бачыць.

Пабядуе Юстап, а як да гэтага месца дойдзе, дык і канец яго мове. Яму няма часу — трэба йсці.

А баркаўчанскія мужчыны яшчэ доўга будуць усё на тым самым месцы стаяць, штукаваць, глядзець, як Юстапу цяжка з торбаю на высокі Воркаў ганак узысці.

Што Тахвіля чорта на Юстапава дабро наслала, яшчэ не ўгадана было, а што блох паднесла, дык гэта Юстап усё роўна як на свае вочы бачыў. Рабілася яно ўночы перад звеставаннем. Прынесла Тахвіля блохі ў смецці (толькі што перад гэтым вымела хату) і пасыпала недзе пад падрубу. Яе льга было злавіць, бо каб каму знесці блохі, трэба іх несці ў аднэй кашулі і нічога не гаварыць, з кім стрэнешся. І Юстап злавіў бы Тахвілю. Таго вечара ён не клаўся спаць, а як людзі пагасілі агні ў хатах, надзеў ён кажух, аблавухую шапку, падперазаўся і надумаўся пільнаваць, каб хто якіх варагаў яму не зрабіў. І прыпільнаваў бы, каб шляхціц Мамэрт перад гэтым не павесіўся; а то людзі гавораць, што ходзіць Мамэрт па смерці. Збаяўся Мамэрта Юстап — не пайшоў на двор, а сеў на лаве і думаў усю ноч у акно глядзець. Ды што ж — і ў акне можа здань здацца, да паўсмерці напалохаць чалавека. Але Юстап і ад гэтага ратунак знайшоў. Ён лёг на лаве пад акном і вочы заплюшчыў, каб не бачыць, а вушы, як заяц, падняў, каб чуць, як дзе які шорах будзе, каб тады борздзенька выскачыць і варажбітку злавіць. Але і шорах быў і вароты бразнулі былі, а Юстап толькі слухаў, што болей будзе, не даў яму Мамэрт нават вачэй расплюшчыць — усё ў памяці круціўся, аж мурашкі за скураю хадзілі ад страху. А каб нябожчыкаў, што па смерці ходзяць, не баяўся Юстап, злавіў бы ранічкаю перад звеставаннем Тахвілю і спаў бы сабе добра ўвесь год, не трэ было б чухацца, паліць агню, як ужо ўсе людзі паснуць, ды ганяць чорную слату з падолу, з паясніцы.

Яно-то добра, калі блохі ёсць на завод у гаспадарцы — нечага пагоду будзеш ведаць. Як усходзяцца кусаць каторай ночы, дык смела кажы, што заўтра дождж пойдзе — усякі раз угадаеш. Але ж добра, калі гэтага дабра ў меру. А ў Заблоцкіх было яго аж цераз

лад. Каб гэта праўдзіла (што на дождж блохі кусаюць), дык улетку больш бы стаяла вады, як зімою ляжыць снегу, з хаты б нельга было выйсці — дзень пры дні беспярасціханку цубіў бы дождж; зямля б вады не папіла, а да таго раскісла б, што на баркаўской вуліцы (дармо што чвыраватая) абы ступіў, дык па пахі і ўехаў бы ў твань. Хто яго ведае, як тады б людзі жылі.

Добра так, як яно цяпер ёсць. Добра, што блохі не праўдзяць.

Злавіў бы тады Юстап Тахвілю, каб сабаку меў. Тады б не так ён нябожчыка баяўся. Хоць заплюшчыўшы вочы выйшаў бы на ганак. Свіснуў бы на сабаку. Паклікаў:

— На-цю-на!..

Смялей бы было чалавеку, каб хоць сабака пры нагах цёрся — усё пачуваўся б, што не адзін. А так сам свае баязлівай натуры саромеўся ён, сцярогся, каб не прагаварыцца каму, каб людзі з яго кпіць не сталі.

Даўно думаў Юстап, каб дзе добрага шчанюка ўзяць сабе гадаваць. Сабака — не кот. Людзі не дурныя, калі кажуць, што як сабака хвастом віляе, ён — рад, а як кот віляе — кляне. І от яму раз трапіўся добры шчанюк. Позна ўвечары ехаў Юстап [redacted] млына, і от у адным засценку ішла дзяўчынка ў вуліцы і вяла за сабою сабачку. Маленькі, кругленькі... Так ён Юстапу спадабаўся, што той сталы, сам у сабе чалавек, а зрабіў, як які блазен: саскочыў з воза, за таго сабачку ды ў мяшок барздзей, ды на сані, ды па кані. Дзяўчынка ў плач:

— Я тату скажу!..

А Юстапа толькі там і бачылі. Воз быў лёгкі, дык шпарка даў лататы.

Дома каня кінуў на двары невыпраганага, а мяшок у хату панёс. Дзеці ўжо спалі, дык пабудзіў сабакі паглядзець.

— Савоста! Агата! Уставайце! Я вам цацку з млына прывёз.

Тыя кулём [redacted] ложкаў паскочваліся цацкі глядзець. Галасу нарабілі паўнюсенькую хату.

— А бо, татка сабачку прывёз!

— На, цюцька, на! На, Жучак, на! — толькі глянуў, імя яму Савоста даў.

Юстап глядзіць ды [redacted] дзіцячай радасці цешыцца:

— Сягоння сабе гуляйце з ім, а заўтра каб і не да-

кранулася ніводнае. Прывяжам, каб ліхі быў, каб на чужых брахаў.

Успомніў Юстап, што конь нераспрэжаны, што мяхі на возе — трэба паўносіць у сенцы, але адразу не пайшоў за работаю — яшчэ ўзяў шчанюка на рукі, к лямпе паднёс, расшчапіў яму шчэляпні і прызнаў:

— Чорна ў роце — ліхі будзе.

Зірнуў яшчэ ў вочы і сказаў:

— Разумны будзе некалі сабака.

Юстап свае слова спраўдзіў: назаўтрае ўзяў на прывязь шчанё, зрабіў яму будку з аполкаў пры курыным хлеўчыку. А тут як даў мароз, як схапіў ён малога сабаку за лапы, дык той давай з болю брахаць. Аж Юстапава душа радавалася з яго брахні.

— А што?! Я казаў, што сярдзіты сабака будзе.

Потым бачыць Юстап: на каго ж ён брэша, няма нідзе нікога. І калі здагадаўся, што гэта з марозу, ды спусціў яго з ланцуга, у крысе прынёс у хату, дык сабака ўжо хадзіць не мог, качаўся, а як увагрэўся крыху, дык — дармо што сухія лапы былі — дзе ступіць, след зробіць. Шкода Заблоцкім шчаняці стала. Пакінулі яны яго ў хаце зімаваць. Дзеці яго як узяліся адукаваць, дык да ўсяго налажылі: і на задніх лапах станавіцца, і бліны са стала красці, і на печ грэцца лазіць. Хадзіла да Заблоцкіх Тахвіля, хадзіла шмат усякіх людзей. Разазнаўся з людзьмі Жук, усяму свету за зіму сваяком зрабіўся, забыўся брахаць. Падыдзе да чужога чалавека, панюхае дый адыдзецца, хвастом віляючы.

Перабылі зіму, прыйшла вясна. Паспрабаваў Юстап прывязаць Жука — а ну, можа, брахаць будзе. Але дзе гэта відана! Дзень пры дні спаў Жук і каб аказаўся. Толькі есці як захоча, устане ды акажацца, але й то не брахаў, а выў. А сабака калі вые, дык гэта на пажар або на смерць. Зноў бяда Юстапу. Зноў рупныя думкі апанавалі яго. Бедаваў Юстап:

— Цягалася Тахвіля зімою. Яна яму недзе з'есці нечага такога дала, што мову заняло.

Мусіў Юстап сабаку да катоў дараўнаваць. Папрасіў Андрука. Злавілі яны Жука, укінулі ў мяшок. Ехаў Юстап у падборку і Жука за адным заходам звёз.

І не толькі з Тахвілі, а з птушкі — шэрай зязюлі, як потым Юстап разгледзеўся, гэтаксама свет гарыць. Праз яе не можа ён ніяк на капейку ўзбіцца. Зязюлька не абыякая птушка — варажбітка. Хай бы калі раней пачала кукаваць, дык — не, трэба Вялікадня чакаць, каб разам з валачобнікамі, разгавеўшыся. Пакукуе да Пятра, і годзе! Хоць ты яе распрасіся, дык ані не ўважыць. Каб чалавек канаў і захацеў ведаць, колькі яшчэ год пажыве (а перад смерцю немаведама чаго можа захацецца) — і то не паслухае. А гэта што? Нарав̣ы.

Хай бы была на адны гады варажбітка — умела вылічыць, і было б з яе, дык не, гэтага мала: навучылася яшчэ й багацце людзям на год угадваць. Першы раз, як пачуеш яе кукуючы, мацай у кішэнях. Хай сабе капейка, хай грош, хай пагнуты, хай шчарбаты, дзе заваляецца — увесь год цябе будзе чорт не браць, будуць любіць грошы такога чалавека. А ў каго няма нічога пры сабе — на ўвесь год прапашчы чалавек, ці згубіш, усё роўна не будуць любіць цябе грошы, ніколі свайго гнязда ў тваёй кішэні не звіюць.

Юстап схітраваць хацеў. Ён усяк прабаваў: і ў хустачцы ўвязаныя грошы насіў, і ў мяшэчку, і так у кішэню кідаў капеек колькі. Ды калі няма шчасця чалавеку, дык ніякім спосабам лёсу свайго не падашукаеш. Як не чуваць зязюлі, бразджаць грошы ў кішэні, аж гадка, як ідзеш, а яны аказваюцца, лічаць, колькі раз ступіў. А як калі трэба, як кукуе — каб грош дзе, чыста, як на скаварадзе пасля падмазкі. А ўсё праз жонку сваю гіне чалавек. Не раз казаў:

— Зашый ты, Прузына, кішэні.

— Добра,— кажа.

І гэтак усякі раз. Ніколі не скажа, што «не хачу» ці «не маю часу», а ўсё зашыць дакляруе. Ніколі яна не змоліцца ўзяць іголку ды Юстапавай просьбы паслухаць. Усё на потым адкладае.

А там пойдзе на сяло, загаворыцца і пра шніва, што яе дома чакае, забудзецца.

Любіла, бывала, Прузына на сяло сходзіць. Любіла з карчмы вясёлаю выйсці. У злагадзе яна з карчмаром нашым жыла. Бывала, як толькі свята якое, дык Юстап у Хлюпск, а Прузына ў карчму. Юстапу тор-

бачка ўсю дарогу плечы муляе, а Прузыне павадок ад рэзгін. Разоў тры яна прынясе ў стадолу па вязцы саломы, каб было чым карчмару каня, карову падаслаць, а тады заходзіць у карчму барыш піць. І добра рабіла яна. Бо нашто Заблоцкім салома? Нашто ім той гной? І так яны прапашчыя, бяздольныя людзі. У іх і ў хляве жывёла не вядзецца і на полі нічога не расце.

Сама лепш чалавеку, як весел ён: ніякай тады нуды няма, ніякага цяжару на сэрцы. Так Прузына не любіць быць адна, а пасля барышу і пагатоў — дзе жанкі сабраўшыся, знойдзе і зойдзе ў тую хату. Там хто пра неўмалот гаворыць, хто на свае недастачы скардзіцца, а Прузына папросіць у каторага мужчыны закурыць, пусціць дым ды і перапыніць нудную, гаспадарскую мову.

— Ат! Што там гаварыць?! Смачан хлеб з грэцкаю мякінаю.

Гэта Прузыніна слова добра ў памяць людзям. Некаторыя яшчэ помняць, што яна і Юстапам сваім хвалілася:

— Мой Юстап так хлеб з грэцкаю мякінай густуе, што, бывае, к Вялікадню машчуся пірагі рашчыняць, а ён, як убачыць, давай сварыцца на мяне: «Лепш зацірку б гэтаю пшэннаю мукою падкалаціла б, а хлеб і штодзённы, кастравы дабёр».

Аднаго шкода, што Прузыніна смерць рана прыйшла, што не давялося мне на свае вочы паглядзець, што з яе за кабета была. Кажуць, і сваю і Юстапаву долю — усё хваліла яна.

Калі праўда, дык за адно хваліць яе не варта, што кішэні не латала. На добры лад, можна было і на сяло схадзіць і дома зрабіць, што належыць. А то праз гэта зненавідзеў Юстап усё шэрае, зязюлястае, што проста глядзець на яго не мог.

А Прузына, наперакор, пусціць гадаваць адны зязюлястыя кураняты. Так якога другога пер'я прадасць, а зязюлістага на завод пакіне.

— Надта ж яны,— кажа,— нясушчыя.

— Ды чорт іх бяры, што яны ў цябе нясушчыя. Я табе кажу, каб не было ў мяне на гаспадарцы гэтага балота. І каб не было! Гіну я праз іх!

— Ты скажы: п'яны ты ці дурны? За каго цябе мець?

— За каго хочаш...

— От, пляце нешта: гіну, не паўстану. А што яно і да чаго, каб хто папытаў.

Юстапа не ціхі поп хрысціў. Ён часам як усшухарыцца... От як гэты раз: было якраз надвячоркам. Куры на дождж рана на куросадні селі. А ён як усхадзіўся — проста ў курыны хлеўчык і пабег і давай папацёмку зязюлястых курэй мацаць. Дзве нейкія скраўся за ногі ўхапіць ды да таго памаленьку ўзяўся, што на двары, як агледзеўся, што адна толькі зязюлястая ў руцэ, а другая чорная, то чорную, невінаватую пусціў, дык яна і разу нагамі не ступіла. Палопала крылямі, без ног ісці паткнулася дый давай ціхенька аддыхаць на тым самым месцы. Затое другой, зязюлястай, была скорая смерць. Папалася Юстапу сякера ў рукі, дык ён курыцу зараз на калодку ды — па шыі. Тулап сабе, а галава сабе — пакацілася. І на што была зязюлястая неслуш! Без галавы аж к суседу на двор уцякла ратунку прасіць, ды не пара было — там ля ганку як упала, дык нагамі разоў два дрэпнула і — фэртык.

Прузына чыста напалохалася. Аж не ведала, што рабіць: клікаць людзей ці без іх абыдзецца, утаймуецца. Юстап барзджэй на злоснага, як на вар'ята паказваў: і вочы былі як трэба, і ў гаворцы не блытаўся, але чалавекам нечага верыць. Засек і рад — смяецца:

— От табе і крупнік на заўтрае. Дзяды зробім.

— Каб табе пад грудзьмі рабіла за тваю работу!

— Ціха, Прузына, — усё добра будзе.

— Адну задушыў, дык душы ж другую, каб цябе ванцач душыў! Як жа яна будзе жыць без ног?!

— Хай жыве як знае.

— Каб ты свету не знаў! Шчэ зубы продае. Выкруціў ногі — круці й галаву. Хай табе самому на патыліцу гэту дурную мазгавешку заверне. Барзджэй жа! Хай не мучыцца.

Была тут і другой, чорнай, скорая смерць. Толькі гэта не пабегла да суседа, а адразу пад сякераю ўсвежылася.

— От табе і другі будзе крупнік.

Савоста тады яшчэ малы быў, не яму было ўлазіць у гаспадарскія інтарэсы, ды й той пастаяў, што робіцца, паглядзеў ды пайшоў з двара.

— Ой, бацька, бацька! — пакруціў ён толькі галавой.

Так сам сабе Юстап і нарабіў урону, на цяперашнюю цану, на цэлых паўтара рубля, калі не лепей. От ужо сусед яго, Андрук, куды курыца без галавы на скаргу прылятала, той бы гэтага не зрабіў. Ён бы гэтыя зязюлястыя куры павязаў сабе добранька, ды ў каранёвы пляцёны кашэлік ды да Хлюпску — усё б нешта ўтаргаваў, было б за пераходку. Юстап жа гэтак не ўмее. Яму, як пад злосць,— ух! — здэцца. Ён больш гарачага характару.

### «Незнашоныя» боты

Таго Андрука, кажуць, можна было па прымаўцы пазнаць. «Пане ты мой», апрыч яго, ніхто не казаў. А ён дык з прыцiскам, каб выразней было, патрапляў.

— Такі-то — пане ты мой! — чалавек і гэтакую штуку выкусіць? — дзівіўся ён бывала.

Поўны нашы Баркаўцы дзівакоў. Былі яны даўней дый цяпер не зводзяцца, а ўсё штогоду з маладых растуць. Дзівак сам Андрук, дзівак і сын яго Пракоп Андручок. Абодва яны любяць кірмашы. Андруку, бывала, дзевяць вёрст прайсці за забаўку, а Пракопу — нізаводня ехаць трэба. Яно-то, можа, тут не аб адной трываласці ход, а больш аб рызыцы. Любіць Пракоп сытага каня і добры паязд, каб і ехаць шпарка, і выкіравацца спрытна, калі дзе будуць павароткі ці варотцы па дарозе, каб свіснуць пужкаю, за вёску выехаўшы, цмокнуць.

— Но-о-о! — ярка на ўсю сілу сказаць ды слухаць, як вецер шапку прабуе сарваць, не сарве — з гуляшчымі рукамі ляціць, свішчучы, у сваю дарогу.

Любіць Пракоп, каб барзджэй у Хлюпску быць, каб толькі мігцела ўваччу, што з боку дарогі ёсць. Андрук жа толькі цяпер, як па старасці яму ногі не служаць, удвух з сынам на кірмашы ездзіць.

Сядуць удвух, як добрыя паны, на ўсё сядзенне. Возьме Пракоп лейцы ў рукі.

— Но-о-о! — гукне, хоць яно, на добры лад, і не патрэбна б было — іх конь і сам ведае, што з месца трэба хапіць, каб аж зубы, як у воўка ляснулі ў таго, хто на возе сядзіць.

Толькі іх і бачыў.

Аж малыя нейкую песню пяюць, як Андруковых драбінку на дарозе ўбачаць.

...ззаду падпылёны
ляціць, як шалёны.

Толькі старасць Андрука ездзіць прымусіла, а так ён любіў ціхую спаважную хаду, любіў разглядаць ідучы, што дзе на полі ёсць, якую людзі дзе работу робяць. Не было тае нядзелі, каб без яго ў Хлюпску абышліся. Такая адлегласць, як ад нас да мястэчка, Андруку нічога не вадзіла — пераходкі не шкадаваў. Бывала, возьме ў каранёвы беленькі кашэлік яец якіх дзесяткі з два, сырчык з аладку дый пайшоў сабе ў сваю прывычную дарогу памаленьку. Бывае, зімою няма яму чаго з сабою на продаж узяць: куры яец не нясуць ужо, а запасу ў іх няма (услед Андрук да Хлюпску адносіў, як былі), каровы таксама не дояцца — не толькі каб сыр зрабіць, але й самім як праз лякарства малака пакаштаваць няма; тады й так з голымі рукамі без каранёвага кашэліка, але трэба яму, як толькі нядзеля, у Хлюпску быць — хіба толькі мяцеліца ўсходзіцца ды не пусціць.

А чаму Андруку так пахне Хлюпск? Што ён з свае хады выйгранку вялікую мае? Яму не заробкі трэба, а каб паслухаць было чаго, каб у чужых разумных людзях пабыць. Была прагнасць у Андрука навіну пачуць, дзе разумнікі збяруцца, любіў ён пры іх збоку пастаяць, знакамітай гаворкі паслухаць і сваё час-часам, падумаўшы, туды трапнае слова далучыць. З сямі сёл, бывае, па чалавеку збярэцца, а ён, Андрук,— восьмы ад нас, з Баркаўцоў. Праз яго слава нашай вёскі ў людзі йшла, праз яго жарты нашых людзей ва ўсёй акалічнасці і ведалі.

Дзіві́ўся Юстап з Андрука — як гэта ў яго стае за ўсякім разам што ў кашэль узяць. І аж папытаўся ў яго аднаго разу.

Андруку толькі смех са свайго суседа, жарты наўме:

— Гэта мае куры такога заводу, што па два разы на дзень нясуцца. Яец за тыдзень дадуць, як гразі; каб услед прадаць не адносіў, дык карабоў бы не стала, не было [illegible] у што складаць.

Андрук на глум казаў, а Юстап падумаў, што напраўду. Зайздросціць ён Андруку, а на сваю нядолю маракуе:

— Дзіва што, у цябе дваццацера курэй. Нябось,

каб карысці не было, не хаваў бы гэтакую плойму. От у мяне васьмёра ёсць, і то я ад іх яйца ніколі не бачу. А ўсё праз людскія варагі век мне не паўстаць. Я ўжо гэты год на звеставанне добра прыпільнаваў, хто непрыяцель мой. Толькі от не хочацца якой дзе рады старацца, а то б напомніў ён мяне. Тут ніхто далёкі — блізкія, суседзі.

Гаворыць Юстап ды не дагаварвае, бо тут не ўгадана, хто яму варагі зрабіў: можа, Тахвіля, а можа, і гэты самы Андрук, што перад ім стаіць, добра гаворыць. Што праўда, то праўда: Юстапавы куры не любяць дому, не пільнуюцца яго, ходзяць несціся ці ў Андрукову крапіву, ці ў Тахвілін лопух — да некага з суседзяў.

Пільнаваў тады перад звеставаннем Юстап, не толькі блох каб хто не паднёс, слухаў ён, на лаве лежачы, вочы заплюшчыўшы, ці не будзе хто часам і вароты трэсці. І дапільнаваў бы, каб не Мамэрту собіла перад гэтым павесіцца, каб не хадзіў ён па смерці. А то неяк з поўначы чуў, як нехта тройчы памаленьку стукнуў варотамі, але галавы падняць не пасмеў, каб у акно зірнуць, пазнаць свайго непрыяцеля. Калі ён услухаўся добра, дык здэцца, што і пачуў нават, што там на дварэ гаварылася. Гаварылася тое, што даўно ўжо ўсім вядома:

— Чые вароты трасуцца,
Хай таго куры ў мяне нясуцца.

Каецца цяпер Юстап, што тады лепей да голасу не прыслухаўся: можа б, і Андрука пазнаў, бо не можа быць, каб так, без чараў, куры па два разы на дзень несліся. Андрук — хто яго ведае, які чалавек. «Незнашоныя» яго боты гэтаксама не можа быць каб без якога вядзьмацтва такія моцныя ўдаліся.

Дармо што ва ўсякі хлюпскі кірмаш быў Андрук у іх абуты, ніяк ён не мог тых ботаў знасіць, у руках носячы. У людзей, калі ботаў на год хапіла, дык і добра, а Андрук як пашыў сабе вяселлю, дык і ў дамавіну яго паложаць, у тыя боты абуўшы. От што значыць работа! Тады шчыгульна не рабілі, а моцна, не глядзелі, каб бот на назе ашчыкнуўся, а глядзелі, каб доўга насіўся. Тады капылоў і малатка шаўцы не зналі — на цагліну боты рабілі, пранікам, што палотны біць, гналі цвікі ў падэшву: гэтак барзджэй і спрытней — толькі

дзірак накалі ды цвікоў наўтыкай, за адзін мах яны на месцы будуць. Ого, даўнейшая работа!

Бывала ў Хлюпску ўсе ў лапцёх хадзілі — адзін Андрук у ботах. Вунь якая яму павага была за гэта! З самымі разумнікамі мог ён дуступіцца пагаварыць. Шанавалі Андрука боты, шанаваў жа і ён іх, як вока ў ілбе: усё пад ногі сабе глядзеў, каб дзе ў лужыну не ўступіць, каб абысці, калі што на непадмеценым бруку, на месце стрэнецца такое, што за ногі ўзяцца можа. Далікатна быў праз гэта чалавек. Ніколі, бывала, не ступіць на ўсю смелую, а ўсё асцярожна, памаленьку, каб падноскі раней пары не збіць. От чаму яму і прадаць скора было смела яйца, сыры куплялі ад яго, бо бачылі, што чысты, пашанотны чалавек.

Андруку боты былі толькі дзеля людзей, а ў дарозе йдучы яны толькі ціснулі, мулялі і было цяжка нагам. Ён рабіў па-бабску: у канцы мястэчка, на беразе канавы, пад вілаватаю бярозаю садзіўся разувацца, як дадому ішоў. Абатрэ сабе боты, каб пылу на іх не было, звяжа хораша анучкаю, за плечы закіне і пайшоў. Волен сабе, лёгак чалавек. А ў мястэчка ідучы, зноў ён вілаватай бярозы не мінаў: тут садзіўся абувацца. Потым была пара́ ў Андрука, калі ў боты абувацца. Пачыналася яна з вясны, як зямля стужае, падсохне пасля разводдзя, і канчалася, як пачнуцца асеннія дажджы, гразь. Дармо што боты вады не пушчаюць, а шкадаваў іх Андрук у гразь саджаць — лапцём у яго было небалазе. А зімою, дык якая там чорта рызыка ў ботах, калі набярэцца на іх па возу снегу, што аж нагі не пацягнеш — тады толькі настывае тавар ды горай у нагу холадна. Ні разу Андрук не аграшыўся, зімою ботаў не надзеў.

### Фармазонскія грошы

Баркаўчане веры не давалі, каб у Андрука фармазонскіх грошаў не было. Даўней, кажуць, і праўда: некаторыя мелі такія грошы, што за іх можна што хочаш купляць: і тавар у цябе будзе і грошы назад вернуцца — не згледзіш, калі ў кішэні апынуцца.

Тады зноў за іх купляй што трэба. Цяпер звяліся фармазонскія грошы, няма іх ужо. Калі й былі ў каго, дык прапалі разам са старымі грашыма, а з новых, каб

фармазонскія зрабіць, не ўмеюць цяперашнім светам, звяліся тыя майстры, што некалі былі.

Цяпер ніякаму дзіву людзі веры не даюць, а даўней аж былі раз, як бо смеючыся, але напраўду папыталіся баркаўчане ў Андрука.

— Ты гэта не так сабе што кірмаша да Хлюпска дапінаеш. Ці не маеш часам фармазонскіх грошай з рубля якога?

Андрук такі чалавек, што ці на глум што гаворыць, ці на праўду, аднак у яго гладка выходзіць: скажа і не ўсміхнецца. Што людзі гавораць, тое і ён пляце за імі ўслед.

— А дай рады! Ёсць саракоўка.

— А што! — азірнуўся на мужчын той, што пытаўся.

— Вы думаеце: дабро мець фармазонскія грошы — чорта! Не так з іх дапамогі, як клопату. Каб што добрае купіць, дык разоў пяць трэба да Хлюпска схадзіць. Купіш на капейку абаранак, а саракоўку даеш. Тады і рэшта твая будзе і саракоўка неўзабаве знойдзецца ў кішэні. Яна добра мяне знае: ніколі не заблудзіць — усякі раз ка мне вернецца.

— От, дзіва што людзі багатымі робяцца!

— Прызнайся, Андрук! Тут жа нікога чужога няма — усе свае людзі,— малёгаюць яго мужчыны.— Без чорта ў гэтай справе не абышлося?

— Як вам сказаць? Хто яго ведае!

— А такі ж? Як яны да цябе, гэтыя грошы, у рукі трапілі?

Давялося так, што Андрук і не ведаў, што ім на гэта сказаць. Пусціўся ў такую мову, што потым аж сам быў не рад. Чуў, што адзін чалавек быў гэтакую самую грыўню ў карчме на дне кварты знайшоў. І Андрук мужчынам, доўга не думаючы, сказаў, што і яму тамсама сваю саракоўку знайсці давялося.

— Шанцуе табе, Андрук! — зайздросцяць мужчыны.

— Чорта! Які там шэнц?! Хацеў бы збыць бяду з галавы, каб згубіць ці знарок кінуць дзе ў якую нетрубалота, дык ратунку няма — услед назад варочаецца.

Мужчыны чулі, што той чалавек, што ў карчме ў кварце фармазонскую грыўню знайшоў, на тым самым месцы, дзе знайшоў, як пакінуў, дык і не вярнулася

больш. Гэта самае яны і Андруку параілі зрабіць, а ён падрадзіўся:

— Трэба будзе паспрабаваць — а ну, можа, помач ад гэтага будзе, можа, не вернецца.

Быў тады ў гурце з мужчынамі і Юстап Заблоцкі. Слухаў ён, маўчаў ды сам сабе думаў, што шанцуе людзям (нехаця шчасце ў рукі просіцца), а к яго берагу нічога добрага не прыплывае.

От каб гэта яму такія фармазонскія грошы! Жыў бы сабе і гора-бяды не знаў. Баязно крыху спярша было, што чорт у такім шчасці ўдзельнік, а, падумаўшы, на ўсё адчаіўся чалавек.

«Што там з чорта за страх?! Абы жыць добра было, абы ён у тваю руку спрыяў, а не шкодзіў. Хай сабе насіў бы ў свіран — абы толькі не выносіў, як цяпер».

Тады, таго вечара, маўчаў Юстап. А пачакаўшы неяк, аднаго разу ўзяў ён быў кварту гарэлкі ды паклікаў Андрука да сябе. Як добрага суседа пасадзіў сабе на кут ды і кажа:

— У мяне да цябе невялічкі інтэрас ёсць — пагаварыць трэба.

Андрук на куце, а сам Юстап сеў на столку. Паставіў кварту, накроіў хлеба ды кажа на жонку:

— Дай нам закусіць чаго.

— Што ж я дам? Каб раней сказаў, дык хоць сала крыху прыпякла б, а то цяпер вазьмі, што хочаш.

— Усё кажы ёй за ўсякім разам. А так ты здагадацца не магла?!

— Ты ж здагадайся, што хто збіраецца рабіць!

— Ды ты б, як маеш тарокацца, пайшла б ды хоць сырога сала пакроіла на талерку.

— А ты б гэта даўно сказаў!

Прузына пайшла па сала, а Юстап тым часам пабедаваў, што от, каб яйца былі, добра б было: нечага разлажыў на прыпяку агоньчык, паставіў дзве цэгліны, на цэгліны скавараду, а ў скавараду разбіў штук колькі яец — скора і смачна б было.

Але што ж, калі куры не нясуцца!

Як было ўсё на стале: і выпіўка, і закуска, дагаварыўся Юстап, чаго яму ад Андрука трэба.

— Аддай,— кажа,— ці прадай ты мне тыя свае фармазонскія грошы, калі яны табе не патрэбны. Зробім так, каб яны не ўцяклі ад мяне. От, хоць і зараз, запражом каня да з'ездзім у тую карчму. Ты іх у квар-

ту на старое месца паложыш, а я вазьму, і будуць мае. Я табе і барышу пастаўлю, і адступнога дам. Бяру грэх на сваю душу, але нічога іначай не зробіш, калі не шанцуе ніяк — можа б, хоць гэтак разжыўся крыху.

Над Андрука няма ў свеце лепшага лгара. Ён і не думаўшы, калі скажа слова, дык у людзей яно ў такой веры, як прысяга.

— Ад дарагой душы,— кажа ён Юстапу,— рад бы быў прыяць свайму чалавеку. От каб ты на дзень раней мне аказаўся — усё б добра было, а то ўчора якраз быў надвечар у папа — імшу за тую саракоўку закупіў. Расказаў яму ўсю сваю бяду, дык ён мне і параіў гэта зрабіць. І — пане ты мой! — у моцныя рукі папала: от ужо суткі скора і назад не варочаецца, як учора аддаў: нідзе гэтак доўга не забаўлялася.

Пацмокаў Юстап — чаму яму не ўчора было гэтаю парою к сабе Андрука зазваць: былі б у яго фармазонскія грошы.

А сягоння — не ў пару. Поп не промах. Калі само шчасце ў рукі прыйшло, ведае ён, дзе яму месца даць. Поп фармазонскіх грошай не адкіне. Добра і яму трывалую капейчыну мець пра запас на цёмную ноч.

Юстап, аднак, таго дня ад Андрука так не адчапіўся. Спазніўся з фармазонскімі грашыма, дык прасіў, каб куранят штук са трое даў на завод.

— О! гэта можна будзе,— не адказен быў Андрук.— Гэтага б ты і раней дапамінаўся. Толькі што я без жонкі нічога табе пэўнага сказаць не магу. Лепш ты сам у яе калі папытайся.

— Да ўжо ж! Трэба будзе,— у адно слова сказалі і Юстап і Юстапіха.

Дзіва, што мінулася папам цяпер іх панства! — выкляў тады іх Юстап. Калі кляў, а калі спраўдзілася. Але такі не на вецер пусціў ён сваё моцнае слова. І не шкодзіць! Нашто было лезці не ў сваё. Калі ты поп, дык глядзі сваіх модлаў, дык — дзе ты бачыў! — яшчэ стараецца, каб як накпіць з нашага брата.

Нашто яму былі тыя фармазонскія грошы, калі і так даволі было ўсяго? Хай бы лепш імі Юстап, бедны чалавек, запамогся.

Юстап быў раз як пераканаўся, што яго слова спраўдзіцца можа, дык усё, што раз лепш, клясці папраўляў. Гэта ж неяк аднаго года надта ж шмат Андручыха курэй завяла, цэлую сарачню — абарону за імі

не было, пішчаліцаю, бывала, лезуць у ток, абы адчыніў. Як агарнула была Юстапа шатанская злосць, як скляў ён суседскія куры смяртэльнаю кляцьбою:

— Каб вы да заўтрага павыдыхалі ўсе да аднэй! — дык і спраўдзілася. Не да заўтрага, а ў скорасці — гады цераз два — як напала на куры нейкая заўшыца, дык у Андрука адсыпаліся ўсе да аднае. Здыхалі і ў другіх, але не так. А ў Андрука, як чамярыцы хто падсыпаў. У самага Юстапа з васемнаццаці шасцёра засталося, але гэта нічога не значыць. Рад быў Юстап.

— Маё,— казаў,— слова богу даходна.

* * *

Немаведама што даўней рабілася. Дзівішся, як старых наслухаешся. Амаль не ўсе старыя клясці і нешта крыху на праўду падобнае гаварыць здатны.

Бывае, слухаеш-слухаеш, як дзе іх чалавек колькі збярэцца ды самі з сабою гаворку распачнуць, ды й не ўтрываеш, скажаш:

— А йдзеце вы! Плятуць нейкія ракашэды. Дзе гэта відана, каб чэрці ў людзей у дарозе коні выменьвалі ды замест каня рагаціну якую сукаватую маглі чалавеку ў аглоблі ўперці?!

Ілгуць старыя.

Ого! шчэ і як ілгуць! У іх гаворцы ў дзесяць столак маны болей, як праўды. У адно слова, як згаварыўшыся, гавораць.

Чорт у іх ва ўсіх не абы-хто — не то на пана, не то на папа падобен: у капелюшы, у палітоне з струкаватым каўняром. Так рызыкоўна адзеты, што — проша бачыць! А каняжына чуе патом чорта: як воўка пудзіцца, азіраецца, фыркае. Чалавеку і не ў галаве тады, чаго так жывёла ў аглоблях вар'юецца.

Усякі раз чорт ні адтуль, ні адсюль стрэнецца сярод дарогі, далікатна папросіцца:

— Падвязі, чалавеча!

Чалавеку ўсё ненапамкі. Ён раздабрэе і пусціць.

— Садзіся сабе, падарожны чалавек,— скажа.

Ну, а як сядзе чорт, зразу стане цяжэй каню — па самыя вязы сані западаюць, калі гэта зімою робіцца. Чалавеку толькі потым гэта цікне, а тады — ненапамкі. Пачынаецца торг. Хоць маленькае, але не абыдзецца чорт без шальмоўства: калі коні не давядзецца змя-

няць, дык хоць люльку на корч чалавек змяняе (здэцца, такую харошую нямецкую, [redacted] даўгім цыбуком, чорт дае, што проста не нагледзецца, а дома як паглядзіць — гнілы карчук асінавы, а не люлька); а не — то хоць яблыкаў дасць дзецям гасцінца завезці (тады, як бярэ, чалавеку ненапамкі — дома разгледзіцца, што не тых чорт яблыкаў даў, што на яблыні выраслі, а тых, што на дарозе мерзлых назбіраў; спрытней бы іх было на сахор узяць ды па полі растрэсці, як у хату ў торбе несці ды ў рукі браць).

Ілгуць старыя. Хто гэта скажа, што праўда іх?

Але — хай сабе!

Некалі і мы нешта скажам, як жылі, дзе былі, пусцім казкі ў свет. А чартоў нам не трэба будзе ў свае казкі ўстаўляць. Знойдзем нешта мудрэйшае за іх. Хоць і не дажыў Юстап Заблоцкі, няма яго цяпер у Баркаўцох. Але быў у нас, круціў светам, пакуль сам не скруціўся, яго сын Савоста. Было шмат усякіх людзей. Маладзейшыя некалі зайздраваць нам будуць, як мы ім нагаворым, што за нашаю памяццю на свеце было. Цешыцца яны некалі будуць, слухаючы казкі пра вясёлы наш час.

Ого!..

Абы толькі здаровы былі.

*1929 г.*

## ВАМ ЗНАЁМАЕ

*Навела*

Не тое што ў аднаго пісьменніка...

Прыйшоў Адаму з вёскі ліст, і не было ў ім ніводнае сінтаксічнае памылкі. Але не ставала дзвюх косак і адно шматкроп'е было недарэчы. І ў краіне суцэльнае пісьменнасці ўжо нельга цытаваць такога лісту — давядзецца пераказваць.

Хваліўся Васіль — Адамаў найлепшы дружка,— што гэтымі днямі была вечарынка ў іх. Да белае раніцы гулялі. Развіднявала ўжо, як яны разыходзіліся.

Шкадаваў Васіль, што Адама не было пры гэтым. Была з таварышкаю, што недзе там у вас, у Мінску — пісаў — на цукерачнай фабрыцы працуе, і тая дзяўчы-

на з Журавіч. Ды якраз у гэтым месцы і было тое Васілёва непатрэбнае шматкроп'е. Выйшла ў яго, не раўнуючы, як у тых лірыкаў, якім правапіс не пісан. А ўсё, каб лепш даняць, каб крануць за жывое.

Аднаго разу — гады тры, як было гэта,— прыязджала тая жураўская дзяўчына да цёткі ў іх вёску з кудзеляю. Вечары са два пасядзеў тады Адам у яе каля прасніцы, нейкую старасвецкую польку стаптаў быў з ёю.

Ды што там значылі тыя два вечары! Марна ўсё гэта было. Не бавілася жураўская дзяўчына ў Паташні. Неўзабаве прыехаў бацька ды забраў яе з гасцей дадому. Так яно і сцерлася. А пачыналася ўжо...

Пазалетась — даўно ўсё гэта было. Нават імя тае дзяўчыны цяпер Адам не помніць, а ведаў жа. У твар не пазнаў бы, каб стрэць давялося. Пяты нумар лямпа была тады ў Януковых, дый тую яшчэ ўкручвалі — шкадавалі, што лішняе газы гарыць, дык нельга было прыгледзецца.

Ужо трэці месяц, як калгас пусціў Адама ў Мінск у заработкі. Рабіў ён сталярку ў клінічным гарадку. Там і жыў — у новым доме з зялёным дахам, на трэцім паверсе.

Лета, цяпло... І на трэцім паверсе, дзе іхняя брыгада зрабіла сабе інтэрнат, замест вокнаў свяцілі небам нашклёныя дзіркі. Гэта не шкодзіла. Яны яшчэ шыршыя, прастарнейшыя былі. Лепш, ясней былі водалей, цераз слімізарныя мястэчковыя хаткі ваколіцы, з іх відаць узнёслыя гарадскія муры.

Гэту даль у вакне любіў Адам. Каб шырэй і вышай яна сталіцаю выроствала, ён і сам быў прычыннік. Муляры з кельнямі снавалі ёй аснову. Адам жа з гэблікам, каб гладзей было, падганяў.

Не знаў тут Адам адзіноты. У іхнім інтэрнаце не то каб баек — праўды не было куды дзяваць. Адусюль з Беларусі па чалавеку сабралася, ды і з Украіны было трох. Адзін калі пачне, а другі як паможа... Весела было!

І гэтага дня тое самае. Пачалі з надзённае прыгоды з гарбатаю. А там далей-болей... Заляжалая праўда пайшла. А на змярканні і зусім байкі пачаліся — выштукаваныя, слова да слова дабраныя.

Адам не вельмі гаваркі быў. Мала ён яшчэ свету зазнаў: толькі трэці месяц, як з дому, з вёскі. Але

пільнаваўся гурту — слухаць любіў. А гэты раз, ліст прачытаўшы, зусім адбіўся. Лёг сабе на сваім палку ў куточку і ляжаў сціхатою, пазіраў на горад праз небам нашклёнае вакно.

З трэцяга паверха Адаму з палка не відаць было нізкае ваколіцы. Толькі адзінокія, дзе-нідзе панатыканыя, ліхтары ўгадваў ён унізе сярод трухлявых хатак. Было прыкра вачам ад іхняга купчастага, рэдка параскіданага, нахабнага святла. А далей, на гары, цэнтральныя вуліцы свяцілі мякка, ласкава...

І Адам устаў.

— Хадзем у горад, хто хоча,— ні з таго ні з сяго паклікаў ахвотнікаў дапамагчы яму рассеяць нуду.

— Хто яго! Перад выхадным сходзім.

— Што ты там будзеш рабіць у горадзе?

Не было кампаніі. Адзін пайшоў ён да трамвайнага прыпынку.

На нешта вясёлае, ■ пацалунку пачатае, трапіў Адам у кіно. Так рэжысёр перамагаў трафарэт — ■ прызвычаенага канца пачынаў камедыю. А далей усяго было... Быў і ясны, сонечны дзень на экране. Буйна, выразна прайшлі аблíччы. Такія запамінаюцца, такіх бы пазнаў, каб дзе стрэць давялося. Кончылася ж так, як звычайна пачынаецца: ішла дзяўчына і блытаўся вецер у яе пад нагамі.

Паўсеанса народу вёз трамвай у Адамаў бок на Камароўку. Цяжка было — ледзьве сунуўся. На першых прыпынках яшчэ крапіўся крыху, а там — што далей, то ўсё болей пачаў растрасаць дарогаю. Каля клінічнага гарадка, крыху раней за Адама, сышлі дзве дзяўчыны з невялічкімі клункамі. І пытаць не трэ было, што вясковыя. Ростам і з адзежы падобны былі яны адна на адну, толькі хусткі інакш завязвалі: адна пад целяпень, а другая пад бараду.

Адышліся яны крокаў колькі дый спыніліся каля слупу ■ ліхтаром.

— А цяпер куды? — пыталася бойкая дзяўчына ў хустцы, завязанай пад бараду.

— Дзе гэта мы? — збілася з тропу і другая — знакамітая, што насіла хустку пад целяпень.

— Спытаймася,— бойкая кінула на Адама, што ішоў паўз іх.

— А сціхні ты! Самі знойдзем...

— Чаго там?! Свой хлопец...

Бойкая не ўвалгалася: у горадзе кожны вясковы адзін аднаму нейкі далёкі сваяк. А тут якраз Адам з імі параўняўся. І бойкая, наперакор знакамітай:

— Як тут,— кажа,— на ...скую вуліцу трапіць?

Празрыста, нахабна свяціў ліхтар. Ясныя, як там, на экране, відаць былі Адаму дзявочыя аблічча. І падалося яму, што гэту ў хустцы пад бараду бойкую дзяўчыну ці то ён дзе бачыў, ці то на нейкую, яму знаёмую, яна вельмі ж падобна была. Але гэтаму ён і сам не даваў веры. Усе вясковыя, у горад прыехаўшы, крыху падобны адзін на аднаго.

— Вы ж лішні прыпынак праехалі,— тлумачыў ён ім.— Каб злезлі, не даязджаючы, шмат бліжэй вам было б.

— От бачыш! А казала: ведаю, завяду,— дакарала бойкая знакамітую.

Тая нешта была памкнулася сказаць, але бойкая перапыніла:

— Маўчы лепш! — Ды прасіла Адама: — Пакажэце, як нам тут прайсці.

Адам ...скую вуліцу ведаў. Меў ён увагу, што свае — вясковыя, і не меў занятку на вечар, дык не то каб паказаць, а на самую ...скую вуліцу завесці іх падрадзіўся. Знайшоў патрэбны ім, на паперцы з дому запісаны, нумар. Якраз насупраць пошты на другі бок вуліцы быў ён.

Пры рабоце коратак дзень. Адам жа ад цямна да цямна працаваць быў прывычан. Яму рана было а чацвертай гадзіне, далёка да вечара летнім днём. І назаўтрае, пасля таго кіна, пасля тае стрэчы, нейкая работа рупіла яму. Нарэшце ўспомніў, што не адпісаў ён яшчэ ліста Васілю.

Хацелася прыгадаць імя тае скудзельніцы, ды недзе згубілася ў памяці — не было яго на пашэве. Намагаўся Адам аднавіць яе вобраз, ды дарэмна. Быў добра ў памяці толькі скупы, пятага нумару лямпы, укручаны Януковых агонь.

Трацяголетняя скудзельніца непакоіла, але заўважыў Адам, што і тая, учора на трамвайным прыпынку сустрэтая, бойкая вясковая дзяўчына падабаецца яму.

Другі раз стаіўся б, а цяпер амаль не ўвесь ліст быў пра Януковых скудзельніцу.

Тры разы ступіць ад інтэрната да паштовае скрын-

кі. Але што было рабіць Адаму ад чацвертай гадзіны да далёкага вечара ў такі доўгі летні дзень?! І Адам пайшоў аж на ...скую вуліцу. Там гэтаксама на высокім паштовым ганку скрынка была.

Не было на ...скай вуліцы знакамітае дзяўчыны, а бойкую Адам у вакне ўбачыў. Дзень у горадзе яна пабыла і ўжо не пад бараду і не пад целяпень, а неяк іначай круглa хустку завязвала! Гэтак яна харашэйшаю выдавала. Але яшчэ адзін вясковы звычай мела ...ская вуліца: была ціхая, народу мала хадзіла па ёй, дык абы цень матнуўся ці пачула крокі — канечне было ёй ведаць, хто там, зірнуць у вакно.

Таму, што Адаму не было куды спяшацца, а дзяўчына жвавейшая была, ён і стрэў яе, ад пошты ідучы.

Апошнюю рупясць збыў Адам — паслаў ліст Васілю. Было ў яго цяпер вольнага часу даволі, і яна тут не на рабоце, а ў гасцях у замужняе сястры была, дык на горадзе цэлы вечар забавіліся. Вясковае ўспаміналі ўсё.

Расказвала бойкая дзяўчына, як яны, сюды едучы, да яе цёткі па дарозе заязджалі ды як там вечарынка была.

— Ці ні ў Паўташні часам? — цікнула Адаму.

— А няўжо ж дзе?!

— Людва,— толькі цяпер прыгадаў ён імя Янукавых скудзельніцы.— А я,— кажа,— і не пазнаў.

— Чаму ж я цябе адразачку пазнала — толькі з трамваю злез.

І па гэты раз — годзе Адам вінаваціць той скупы Януковых агонь.

— Што гэта ўчора за дзяўчына была з табою? — пра знакамітую ён папытаўся.

— З нашай вёскі. На цукерачнай фабрыцы тут. З серады,— яшчэ па-вясковаму па днёх лічыла Людва,— і я там станаўлюся на работу.

Шчаслівa — пацалункам таго вечара на ...скай вуліцы насупраць пошты скончылася ў іх. Традыцыйна, кінематаграфічна, але без усякае камедыі.

Жыццё ж такое вясёлае!

Не вельмі пазорная на пагляд Людва. Але не было Адаму лепшай, харашэйшай над яе.

*24-XI — 5-XII 1932 г.*
*Менск*

# ПУСТАДОМКІ

*Раман*

А ў нядзелю ды ранюсенька
Сіне мора калыхалася —
Сонейка купалася.
Купаючыся, ды затонула.
Там дзяўчынка ды воду брала—
Сонейка ратавала,
Ратуючы, ды сама ўпала.
— А мамачка, ды ратуй мяне
З глыбокага мора —
З вялікага гора.

*З вясельнай песні*

## *Перад пустым канцом*

### 1

Можа б, лепш было, каб цыганка паваражыла.

Можа, на зблытаных улукаткі дарожках Юголіных неўпынёных рук ужо тады назначыўся быў Чугуеўскіх пусты канец. Можа, кінуўшы карты, выпаў бы для іхняга лёсу казённы дом, а ў «што будзе» ляжа далёкая халодная дарога.

Ды быў у Чугуеўскіх свой чытач у хаце, катораму меншы брат, што жыў у Менску, «Беларускую вёску» з усімі дадаткамі выпісваў, і ён нарабіў крыку:

— Мамка!.. Ды не смяшэце вы людзей з сваімі варагамі! Мінулася... Цяпер не той свет.

А Юголя ўжо й гатова была. Ужо цыганка жартам, прыказкаю[1] вельмі ж спрытна да свінога цела дабралася, й Чугуеўская гатова была прынесці кавалак за спраўны язык, хоць таго цела ў кубельцы й не вельмі было — больш аб млечным жылі.

Каб не Марка... Праз яго без ніякага скутку пайшла цыганка за парог.

На двары таго дня гэтаксама мелася ашуканства быць.

Выпусціў Пракоп Чугуеўскі да студні паіць дэрашку. І — дайце рады! — прысляпіўся да яго цыган. Пішчаліцаю лезе.

---

[1] Згадай цыганскую прыгаворку: «Добрае дзела — свіное цела. Дай, божа, спажыць, што ў кубельцы ляжыць».

— Можа, бэцю, змяняем? — патыкаў ён Пракопу сваю здыхлу, што на вуліцы проці Чугуеўскіх двара спала ў аглоблях.

Каб цыганка паваражыла — сказала ім іхні лёс, можа, прыступнейшы тады быў бы Пракоп Чугуеўскі: змяняў бы дэрашку на тую віславухую здыхлу, бо якая Пракопу з таго карысць, што некаму так, як яму цяпер, будзе дэрашка па жарабяці, як ляльку, штогод прыводзіць. Як мае чорт лысы, хай бы цыган — крупель адсветны — ягоным дабром запамогся. А то:

— Адчапіся ты, смала,— сказаў Пракоп цыгану.

2

А Марка Чугуеўчык чытаў «Беларускую вёску». Там мастак на загалоўку аздобна быў забудаваў: хаты новыя, ды не па-старасвецку, а з закотамі, у гладкі нямецкі вугол, і пад кожную страху дрот з электрычнасцю шыецца, а паабапал вуліцы слупы, як у мястэчку.

— Паедзеш на ўсяночную? — спытаў Пракоп у гэтага чытача, бо было ўжо не цеперся.

Марка палажыў газету, дзе падрабязна (на цэлыя тры балонкі) тлумачылася, адкуль узяўся Вялікдзень.

— А як жа?! — кажа.

— То пара збірацца, калі думаеш.

Марка пайшоў падмазваць колы. Гэты раз меўся ён абнавіць узімку купленую каламажку на жалезным хаду.

У Чугуеўскіх быў Чугуеўскі, Чугуеўская й два Чугуеўчыкі: большы дома на гаспадарцы, а меншы — на свеце. І не было ў іх ніводнае Чугаеўшчынкі. Так што Марку ў на усяночную паехаць не было з кім.

Аж плюхцелі колы — так ён іх дагледзеў. Выцягнуў з адрынкі каламажку на гумно. Мякка вытаптаў сядзенне й арцабоваю посцелкаю заслаў. У перадок дэрашцы куравае канюшыны ўкінуў. Усё было гатова. Адно запрэгчы.

Пайшоў Марка сабе да Русецкіх хэўры старацца. Русеччык падрадзіўся ехаць. Клікаў Русецкаўну:

— Едзьма разам, Стэфка.

Але Русецкаўна адмовілася.

— Едзьце сабе,— кажа на Марку з братам.— Я з дзяўчатамі й пяхотам патраплю.

Не хацела Русецкаўна людзкое звягі, што яна нібыта да Чугуеўчыка чапляецца, гоніцца на іхнюю паўвалоку.

Усё як спрадвеку...

Напаткалі Чугуеўчык з Русеччыкам дзявочы гурт. Холадна так рана вясною, а яны ішлі босыя й чаравікі ў хустках увязаныя з сабою неслі. А ля Грабення штовясны доўга стаіць пасярод дарогі шырозная лужа.

— Сядайце да нас — мора перавязём,— зачапіў дзяўчат доўгі на язык Русеччык.

— Мы гэта мора хутчэй пяхотам абыдзем, як вы канём аб'едзеце.

Падалося Марку, што знаёмая... Недзе ён гэту дзяўчыну, каторая адказала Русеччыку, бачыў, а дзе — не мог успомніць.

— Паглядзім,— свіснуў Марка дрытаванаю пужкаю на доўгім стусіновым пугаўі. Каб жа цыганка тады павараждыла, каб ведаў Чугуеўчык свой марны лёс,— думаеце, ён марудзіў бы — так тонка віў і туга ўкручваў бы пугу або так вымэджваў пугавейца? Ніколі! Зачапіў бы якую вераўчаку на ядлоўчыну, і добра б было.

Чугуеўскіх дэрашка не цыгановай здыхле раўня. Хоць старая, але знаць, што некалі ў Міры была куплена. Ад аднаго «но» трухацца пачынала, а пачуўшы, які тонкі, балючы голас у Маркавае дрытаванкі, не выцятая нават, як вужака — аж лезла з скуры.

Адно пырскі ў бакі ляцелі...

Памінулі хлопцы тую лужу насупраць Грабення. Прыцемна было. Дзяўчаты, каторым кружно ўсё ж яе абыходзіць, адно чулі, як лекаталі ўсё далей і далей па сухой дарозе неўпынёныя колы на жалезным хаду.

## 3

У тыя гады на ўсяночную збіраліся ўсе: і хто чытаў «Беларускую вёску», і хто не чытаў.

І царква, і народны дом усімі вокнамі свяцілі.

У народным доме «Мікітаў лапаць» правіўся гэты раз. Туды схлянулі найбольш тыя, хто чытаў «Беларускую вёску». Вядома, што ад іх не адстаў і Марка Чугуеўчык. Але ягоны хаўруснік Анупрэй Русецкі, каторы не так, як Марка, у чытанне ўлягаў, адгаварыў яго:

— Хадзем лепш у царкву. Так прастарней хоць.

Так яны і пакінулі спектакль пасля першага акта. Ды было каму й там выпаўніць. Калі Марка праціскаўся праз народ, собіла яму, клышаногаму, наступіць на нейчы чаравік.

— Хадзі ды не спатыкайся! — аказалася дзяўчына. Ганарысты кірпаты насок у яе абутку ўжо нікуды не варт быў.

Марку знаёмым падаўся дзяўчынін голас. Азірнуўся. І самую яе, здаецца, недзе бачыў. У царкве пад агонь знаць было, што крыху неправўдзіва зардзеліся ў яе на гэты вечар шчокі. Відаць, чырвоная паперка асцярожна пахадзіла каля іх. Але гэта вадзіла не вельмі — чырвані было ў меру, а не цераз лад.

Раптам Марка ўспомніў.

— Зірні,— штурхануў ён локцем Русеччыка.— Тая самая, каторую мы каля Грабення памінулі,— па голасе пазнаў ён.

— От сказаў навіну! Я ведаю ўвесь іхні гурт.

— Ну?!

— З пасёлку, недалёка ад нас... З Захвойніку. А тая, што цяпер аказалася, Дзергаёва дачка, каторага «амерыканцам» дражняць.

Русеччык быў кравец. І паўсвету знаў праз гэта.

Тае ночы пад раніцу выявілася адна прыкрая Марку рэч. Як выйшаў на дзядзінец з царквы поп з крапідлам ды развязаў Чугуеўчык сваё пасвянцаць, убачыў, што ў газету ўверчан быў тугі масла крышан. Ужо днела тым часам. І Марка прачытаў, што якраз у той нумар, у каторым ён так і не дачытаў, адкуль жа і як з'явіўся Вялікдзень.

Другі раз гэта так бы мацеры не сышло: нашурмаваў бы Марка, дадому вярнуўшыся. Але гэты раз абышлося ціха, ды як ты будзеш распачынаць сварку ў такое вялікае свята — Вялікдзень, ды яшчэ на першы дзень!

«А ў нядзелі ды на панядзелак», як у іх таей песні пяецца, хадзілі валачобнікі. І Марка Чугуеўчык, хоць ён у сваёй хэўры і невялікаю асобаю — усяго толькі механошам быў, як настаў: зайшлі яны й на пасёлак Захвойнік. У Дзяргая — «амерыканца» гэтаксама спявалі пад акном:

— Во ці дома, дома, слаўны пане?
Слаўны пане, пане гаспадару.

Хоць ён і дома — не акажацца...
Не акажацца, не пакажацца —
У новай святліцы звялічаецца.

Тут яны не ўвалгаліся. Новая, як велікодны звон, стаяла Дзергаёва нядаўна збудаваная хата. Высозныя вокны, як у тэй газеце на малюнку, распласталі аканіцы па склюдаваных гладкіх сценах. Адно не пашанцавала «амерыканцу» дахоўкамі сваю святліцу накрыць для поўнага падабенства з тым малюнкам. Не лішняе прывёз ён далараў, распусціў іх усе, пакуль на гаспадарку ўзбіўся. І мусіў Дзяргай старасвецкаю саломаю абысціся.

Толькі таму, што няма моды ў песні слова мяняць, спявалі: звелічаецца гаспадар, валачобнікам на вочы не хоча паказацца. Дзяргай сядзеў у рагу стала й слухаў, а яго запрашалі:

— Адчыні акенца — паглядзі ў гуменца.
Ды твае двары тынам атынёны,
Тынам атынёны, садам асаджоны...

Гадоў колькі было яшчэ Дзяргаю ўсяго гэтага чакаць. Высозныя «амерыканцавы» вокны цяпер здзіўлёна пазіралі ў чыстае поле. Не пазнавалі яны: як бы і не ў нашым зялёным вясёлым краі жыў Дзяргай. Саду ў пасялкоўца адно завад. Мізэрныя дубчыкі там, дзе яму быць, тырчалі.

Спрадвечныя крывічанскія вёскі — тыя ўсё каля рэчак, як статак у гарачыню. Сціснуцца яны, горш за тыя палахлівыя авечкі,— страха пры страсе. Абляпілі рэчкі, як мухі мёд. А выйдзі на загуменне... куды ні зірні, лесам край неба аблемаваны.

Захвойніку такое раскошы не давялося: не то каб рэчкі — ручаінкі ніякай поблізу не было. Так шырока, як пасялкоўцы тут рассяліліся, разыходзіцца статак, трапіўшы на добрую, не здрасаваную пашу. А тая аблямоўка ў пасялкоўцаў на самым загуменні была. Выносісты, часты рос тут хваёвы бор. У грыбы і ў ягады хадзіць было блізка.

Акрамя прышчэп, што паміж град, яшчэ Дзяргай, як толькі зямлю пусціла, уваткнуў быў гэты год два клянкі ад вуліцы пры шчакетах. І цяпер, валачобную песню слухаючы, бачыў ён, як разрасцецца, раскарчыцца ўсё гэта тут, як усцешна будзе воку зірнуць

там, дзе некалі аднастайны абшарніцкі палетак быў.

Калі ж пачалі спяваць:

> — Вобад вісіць — калясо будзе...
> Пазаві ў хату — харашо будзе,—

Дзяргай нават песні скончыць не даў:

— Проша... проша, хлопчыкі, на пасвянцонае,— і траха не ўсё, што ў іхняй валачобнай песні спяваецца, паставіў ім на стол. А спяваецца там нямала:

> — Гарнец гарэлкі — то для пасядзенкі.
> Сыр на талерку — закусіць гарэлку.
> Парасё з хвастом ды цягні на стол,
> Сем пар кілбас, дык і будзе ■ нас.

Каб адыхтар як у песні — цяжка ўсё ж было выстранчыць. Але самае галоўнае то было: гарнец не гарнец, а дужаваная такі карафінка з'явілася ў Дзяргая на стале. Свае патаемнае работы была яна ў «амерыканца». Недзе ўся яго няхітрая фабрыка ў гэтым самым бары, што за гумном, пад вывараццю схована была: і сагнутая трубка, і гаршчок з дзіркаю ў дне.

4

Першы раз яшчэ Дзяргай пад сваім акном ды за сваім сталом валачобнікаў прымаў. Некалі, дваровым парабкам быўшы, ён іхнія песні адно здалёк чуў. Абміналі панскія чвыракі. Бо з чаго пачаць, чым скончыць?! Не было такіх песень, каб павелічаць чалавека, каторы на чужым хлебе жыве.

А цяпер быў рад Дзяргай гэтаму здарэнню. І вось што ён сказаў, крыху падпіўшы:

— Дзякуй вам, мае вы хлопчыкі, што на нас не забыліся, зайшлі, як да людзей, на гэты водшыб. І надалей не цурайцеся. Цяпер сюды, у Захвойнік, адусюль, як чарвей, народу напаўзло. 23 хаты на нашым пасёлку. А некалі голае як бубен панскае поле было. Я сам у дварэ за парабка быў, рабіў на гэтым полі. Вам не даводзілася так, што працуеш і смаку не чуеш, каб тваім добрым лысы чорт запамогся. А мне ўсяго на вяку было.

Добра ў памяць... Бывала, бярэцца пад восень, але яшчэ лета, яшчэ цёпла... Сакочуць жнярркі на недалёкім палетку, жнуць дваровы ячмень. А мы малоцім. Хлопцы прывозяць з поля шырока накладзеныя пара-

конныя кары жытніх снапоў, проста з воза падаюць у малатарню на стол. Я, увесь у пыле, як мурын, адкідаю ад бубна вялізнае паравое малатарні. Малоцім на дварэ, на сонцы, сярод шырокага скарбовага гумна. І работа не цешыць, і скупое восеньскае ўжо сонца не грэе. Моўчкі літасці просячы, падымаеш да яго ўгару закураныя вочы.

Вы не ведаеце, і не дай божа ведаць, як абрыдла марудзіць на небе парабоцкае дакучнае сонца. Раз-поразу пазіраеш, калі яно дакоціцца да таго месца на самым краёчку вось гэтага, што ў нас за гумном, бору, калі акажацца на дзядзінцы званок. Зарубіў бы яго — тое месца на небе, каб лепш знаць было. Думаецца: ці не старасвецкія марудныя валы вязуць непаваротнае сонца. І як бы ім уся дарога пад крутую гару.

Доўга, агоркла... Эх, няма на іх добрага паганятага!..

Крыўдна было, мае вы хлопчыкі, што ў нашым — такім кароткім — жыцці ды так спаважна (нага за нагу) валачэцца дакучны парабоцкі дзень.

А надыдзе тая часіна... Кінеш-рынеш усё чыста ды ў чвырак ідзеш (называны!) дадому. І тады не агледзішся, калі міне: так коратак свой акраец дню, што застаецца да змроку. Віда-віда ён гасне! Подбегам, бывала, коціцца сонца за гэты, што ў нас за гумнамі, бор. Так гаспадарскі конь з вялікае дарогі дадому прэцца: ні паганяць, ні кіраваць не трэба, і на паваротках сам знойдзе, кудэю бліжэй.

Марка Чугуеўчык ператрос позіркам усю хату і без ніякага скутку. Дзергаянкі, каторай чаравіку на ўсяночнай небалазе прыйшлося, нідзе не відаць было. Адно з печы з-за коміна свяціў на іхнюю хэўру цікавымі вачыма Дзергаеў малы — гадоў 8-мі.

А Дзергаянка ў кухні накраяла на талеркі. Нібы тулялася яна хлапцоў. Але не ўсцераглася — матнулася ў няшчыльна прычыненых дзвярах, і Марка згледзеў.

— Проша сюды, паненка,— паклікаў Чугуеўчык.

— Ды йдзі ж, Стафаніна,— клікала й маці.— Ідзі... Можа, каторы зяцем будзе,— нічога б Дзяргаіха не мела, каб гэты жарт праўдаю стаўся.

— Што вам так прыспела? — у бацькоў і хлопцаў спыталася Стафаніна, выйшаўшы на хату.

Цяпер ёй ніякае паперы не трэ было: мудрэй уча-рашняга зардзеліся шчокі.

Песні страх як любіў Марка, а голасу ані не меў. Быў ён у Чугуеўчыка такі недалугі, як у паколатага сагана звон. Нават цяпер, падпіўшы, не набраўся Марка смеласці з ім выткнуцца, а падбухторваў іншых:

— Хлопцы, паненцы спець.

— Ну!..— нецярпелася Марку, што марудзіў Яська Русеччык, каторы ў іх за пачынальніка быў.

— Малада паненка, адчыні акенка,— заспявалі хлопцы, седзячы ў Дзяргая за сталом.

Нічога б не хацеў Марка, каб толькі мець такі, як у Русеччыка, голас. Сабе й людзям на ўцеху быў ён у Маркавага хаўрусніка. А Чугуеўчык з сваім туляўся: больш губамі мыляў, чым пеў, каб ладу не сапсаваць. І адно там, дзе:

— Вясна красна на ўвесь свет...—

смялеў крыху Чугуеўчык, бо мацней, гучней гэта месца патрэбна было.

Лёгка было Марку й весела.

Назаўтрае, на другі дзень Вялікадня, першы раз людзі пачулі зязюльку. І каб Марка не так у «Беларускую вёску» ўвяраў, можа б, ён да гэтае птушкі прыслухаўся, папрасіў бы яе, каб пракукавала: колькі год яму, як гэты Вялікдзень, вясёламу быць.

А можа, зязюлька і без просьбы. Ды нешта кукавала не вельмі: акажацца разоў колькі ды й сціхне. Можа, якраз гэта Марку. Але ці ж мог увяраць у праматоры такі шчыры чытач «Беларускае вёскі», як Чугуеўскіх сын?!

## *Безымянны завулак*

Гаспадыніна дачка была па крайняй меры! Ужо не гаворым, якая з твару. На твар усякі ўвагу бярэ, й ніхто ганьбы не даваў. Даніла ад знакамітых чуў, што жанчыну з ног пачынаюць аглядаць. Як не было чаго рабіць, агледзеў ён гаспадыніну дачку такім спосабам (тым больш, кароткая мода агляду спрыяла) і не каяўся, што пераплачваў штомесяца лішніх 5 рублёў, у маткі гэтае дзяўчыны кватэру наняўшы.

Данілава гаспадыня вырасла на вёсцы. Дык паехала яна, старое паганяючы, на Ушэсце не то ў Гарадзі-

шча, не то ў Чыкі на фэст, а з фэсту мелася зайсці да сваякоў у госці — там недзе недалёка жылі. Дому пільнасць пакінула дачку, каторую Даніла кагадзе аглядаў такім знакамітым спосабам.

Гаспадыніна дачка дома рэдка стыкалася. Працавала яна ў нейкай «Утыльсыравіне» на сакратарскай пасадзе і цалюткі дзень крычала ў тэлефон пра рознае рыззё. Вечарамі йзноў не было ёй адхлання: то сходы, то паседжанні. І гэты вечар гаспадынінай дачцэ не так прыйшлося — здумала нейкую вельмі ж уважлівую прычыну.

Каб не было вусцішна адной, паклікала гаспадыніна дачка ў кватарантаў малую дзяўчынку да сябе начаваць для разгарнення, дакляраваўшы гасцінцаў, што маці з фэсту павінна была прывезці. Малое на гасцінцы квапіла, а разгарненне з яго было не вялікае — рана асавела, а далей і зусім папрасілася спаць.

— Даніла, што вы там робіце? — спыталася гаспадыніна дачка праз тонкую сцяну.

— Нічога такоўскага. Чытаю.

— Хочаце шмат ведаць?! Не варта! Хутка састарэеце. Хадзеце лепш да нас.— Яна прывыкла да тлуму й чуралася адзіноты.

А ўсё ж, як зайшоў Даніла, толькі аб кнігі й была ў іх (ды самая нецікавая) мова. Вельмі ж гаспадыніна дачка Цішкі Гартнага «Сокамі цаліны» цікавілася. У іхняй «Утыльсыравіне» стаяла на сходзе пытанне, каб знаць класікаў, і была на гэты конт абавязковая пастанова. Дык і няма з чаго дзівіцца, што гаспадыніна дачка прачытала 2 часткі й дапытвалася ў Данілы 3-е.

— Можа, у вас там,— казала,— у рэдакцыі лягчэй будзе дастаць.

Даніла дакляраваў. А тым часам агонь у лямпе ўвачавідкі з яго пакепліваў. Такі звадыяш!.. Раз-поразу, сімулюючы, што нібыта няма газы ў магазіне, вельмі ж выразна моргаў Данілу.

Даніла не так даўно перабраўся сюды на кватэру. І неяк так абыходзіўся — не было ў тым пільнае патрэбы — не называў па імені гаспадынінае дачкі. А цяпер агледзеўся, што тое імя лёгкае і мілагучнае.

— Людва.

— Што?

Даніла дзьмухнуў на лямпу. Агонь толькі вышэй,

як тыя разы, высалапіў яму язык ды зусім згінуў, каб не быць замінкаю. А шчарбатаму месяцу там угары на той час нехта добра-такі ўкруціў кнот: не свяціў, а ледзьве-няледзьве цьмеў ён. Аканіцы былі не зачынены, і ў верхнюю шыбу над фіранкаю прыглядалася густая летняя ноч.

— Выбірайцеся вон, распуснік! — Адно цікаўнай ночы й відаць было, якім шырокім гэстам паказала Людва на парог, а для Данілы папоцемку быў марны ўвесь эфект гэтага абуранага руху.

— Вы такая прыгожая...

Нібы нешта пад шчарбаты месяц можна было разабраць.

— Дзіця прачнецца.

— А вы будзьце цішэй.

— Я гвалт спраўлю. Людзей клікну.

— Хочаце скандалу? Калі ласка.

Невялікае што месяц у першай квадры, дый той рана з вечара заходзіць. Зусім папацёмку бязвольнаю млявою рукою разбірала Людва на канапе Данілу роўненька радок у валасах, якія сама ж і пакудлачыла.

Толькі цяпер прачнулася дзіця.

— Цётка.

— Чаго?

— Бабуля прыехала?

— Няма бабулі. Што табе падалося?

— А з кім вы там папацёмку шэпчаце?

— Ні з кім. От здумліваеш невядома што! Спі.



Данілу дома чэрствы зрабіўся бацькаў хлеб — ён зваложся на свет шукаць крошак. І здавалася: чаго хацець?! — тымі крошкамі сыт быў Невядомчык. От толькі... каторы год, як у горадзе жыве, і ўсё няма тут нядзелі. Бокам абышлі й памінулі ягонае жыццё святочныя дні. Для Данілы марна і ў тыя нават гады падзяляўся каляндар на чорныя й чырвоныя лісткі.

Некалі стары Вірута — Данілавае гаспадыні мужнябожчык — служыў на чыгунцы за кандуктара. Ды абрыдала яму, што мігцяць заўсёды ў вокнах і калышацца падлога пад нагамі. Ён службу кінуў, а купіў пляц і забудаваўся ў канцы горада. Тады толькі завадзіўся Безымянны завулак. Горад быў на гары, а тут

проста ад Вірутавых ганка пачыналася багна. Вусцішна было. Асабліва ўвосень, калі ўсходзіцца сіберны вецер. Проста не збыць было без работы доўгіх пліпаўскіх вечароў у святы ды ў прысвяткі.

Тое перабылося й забылася, бо даўно было. Гаварыць пра цяперашняе лепш будзе з Данілавага акна, на зялёны Безымянны завулак зірнуўшы.

Адзін толькі след там пасярэдзіне — каляіны як адным возам праехаць, а вуліца ў Безымянным завулку шырокая — невядома нашто! — уся чыста муравою зарослы. На таей мураве сядзелі безымянскія жанкі, тарчма пастаўляўшы старыя свае вострыя калені. Ім тут, дзеля іхняе нядзелі, ясна свяціла ціхае сонца, і ад ветру за горадам зацішак, і мяккая мурава, як бы знарок, праз увесь Безымянны завулак ім заслана была.

Але неўзабаве на такую ідылію аднекуль здалёк кэркнуў аўтамабіль.

— Даніла, цуд на Безымянным завулку! Зірніце сюды,— высунулася Людва ў адчыненае акно, каб усё бачыць.

Даніла толькі што зайшоў да іх, але ўжо быў назад памкнуўся, каб у сваім пакоі хоць збольшага што прыбраць. У яго была ўпэўненасць, што пяхотам не пойдзе, а па яго павінны прыехаць.

— Куды вы?! Зірніце: як спелая вішня — такі новы аўтамабіль на нашай мураве. О-ё-ёй!.. Як смешна! Ну адыхтар — кіно.

Аўтамабіль кэркнуў недзе бліжэй.

Даніла развазжыў, што ўдзень прыехаць усё ж такі не павінны, й астаўся ў Людвы. Абое бачылі: праўда — смешна, праўда — як у кіно: як куры ■ пяску, паўсхватваліся з муравы безымянскія жанкі.

Людва прыгадала кіно й паскардзілася, што даўно яна за сходамі ды за пасяджэннямі не мела часу туды схадзіць. А ў «Спартаку», казала, вельмі цікавая старая карціна гэтымі днямі йдзе.

— То я заўтра вазьму білеты. Добра?

Вядома, што Людва адказала:

— Добра.

Безымянскія жанкі доўга глядзелі свайму пярэпалаху ўслед, а як ён за павароткаю схаваўся, разышліся дадому. Віруціха і гэты раз дачку з кватарантам пра кніжкі гаворачы застала.

— Дастаньце мне Мурашкавага «Сына». Надоечы

ізноў у нас сход быў. Ужо і сучасную літаратуру ведаць трэба. Бібліятэкарка, што ў нас кватаруе, нядаўна мне «У іхнім доме» прыносіла. Цікава. А нехта дык узнават і напісаў у канцы: «Няўжо гэта ўсё ў такім узросце можа быць?» Хацела б яшчэ й «Сына» прачытаць — аднак абавязкова, але ім у бібліятэку яшчэ не прыслалі.

— А я, прызнацца, ахвотней вашы надпісы, як самыя гэтыя кніжкі, чытаў бы.

— Вы бачылі, што я напісала? — дужа пачырванела гаспадынiна дачка.— Адкуль вы ведаеце, што гэта [redacted] напісала? Можа, так хто напісаў, а не я.

— Лепш Зарэцкага прынясу.

Даніла толькі што прачытаў ягоных «Крывічоў» (яшчэ ў яго на стале ляжаў расхінёны той нумар «Полымя») і шмат што дараваў за іх гэтаму пісьменніку.

— А вялікае што? — дапытвалася гаспадыніна дачка.

— «Сцежкі-дарожкі». Мала чаго адышлі ад «Сына».

Вярнуўшыся ў свой пакой, Даніла загарнуў той нумар «Полымя» [redacted] «Крывічамі» і сказаў услых:

— Трэба лепш.

Сам ён спаранджаўся на невядома што. Вобраз дзяўчыны-крывічанкі даўно яго турбаваў. Ды каб адным словам!.. Каб сама Рагнеда Полацкая саступіла ёй.

Мінулую ноч ён скончыў аповесць. І цяпер, перагортваючы яе, мігцела па ахайных балонках жаночае адно імя. Была з вёскі, студэнтка... Але што яшчэ скажуць?! Даніла аднёс надвечар тую сваю аповесць аднаму вялікаму пісьменніку, каторы к таму яшчэ і аўтарытэтным рэдактарам быў.

Туды йдучы, собіла Данілу стрэцца [redacted] матчыным, адмыслова нядзельным словам. Дый сказана яно было якраз так, як некалі Данілава маці казала,— у тым самым цудоўным спалучэнні чуваць была і няпэўнасць, і лагодны дакор:

— Ці ты маеш лад?!

Ішлі наперадзе ў Данілы дзве дзяўчыны і так хораша, так жвава пра невашта гаварылі. Адна з іх была гаспадыніна дачка, а другая, каторая Данілавае маці нядзельнае слова ўжыла,— гаспадынінае дачкі сяброўка, бібліятэкарка.

— Хо-хо-хо!.. Аповесць?! — так стрэў Данілу вялікі пісьменнік.— Ну й добра,— кажа. Узяў рукапіс і адлажыў на потым.

А Даніла хацеў, каб цяпер прачытаць. Такі ж яны з вялікім пісьменнікам былі бадай што сябры: аднаго разу ў нейкім дурным расчуленні вялікі пісьменнік нават быў пацалаваў Данілу. Толькі цяпер ён на тое на ўсё як бы забыўся.

— Дзе бачыў! 84 балонкі, ды яшчэ твой такі дробны почарк...

Нешта злоснае потым пра Цішку Гартнага (нібыта тоўст ён садзіцца на высокія пасады — ці што) прастарэкаваў вялікі пісьменнік і смяяўся:

— Хо-хо-хо!..— як сава.

А Данілу было прыкра, й шукаў ён прычыны, каб хутчэй дадому пайсці.

## 7

Загадчык кіно «Спартак», звычайна скупы на рэкламу, гэты раз выставіў высозны шчыт, на якім славутая акцёрка, падвесіўшы бараду на сашчэпленых руках, шырокімі здзіўлёнымі вачыма пазірала на менскую вулічную рэчаіснасць.

Мала было клею ў маляровых фарбах. Сек крывы дождж, і поўны дабраякасны амерыканскае акцёркі імпартны твар аплываў непрыемнымі рагамі.

Даніла схадзіў заўгадзей, пакуль не разабралі, узяў 2 білеты. Пазваніў Людве з рэдакцыі:

— Ну як ты? Маеш часу на 3-ці сеанс?

Яна адказала, што ніяк не выпадае: над кашарамі «Утыльсыравіна» шэфства бярэ, і на ўвесь вечар яны туды пойдуць. Хоць і вельмі Людва шкадавала, што так сталася, але вырвацца, казала, ніяк нельга.

Тады Даніла ўспомніў, што ў Людвы ёсць сяброўка, ад каторай ён учора надвечар нядзельнае слова пачуў.

«Люба!

Сягоння маю вольнага часу цэлы вечар. Дык няхай ён Ваш будзе. Месца й час стрэчы — гл. білет.

Вам невядомы Даніла Невядомскі».

Перасціх дождж. Весела выбліснула сонца. Даніла, прыйшоўшы з працы, зірнуў у скрынку на лісты. Там ляжаў ягоны канверт з тэю, толькі што цытава-

наю, пісулькаю. І стаяла на ім паштовая пячатка — усё як след...

Вядома: куды там Любе проці гаспадынінае дачкі! Было гэта адзін жарт.

Няпэўная ісці ці не, траха не спазнілася гаспадынінае дачкі сяброўка. Як прыйшла, публіка ўжо была ў глядзельнай зале й сядзела на месцы.

— Прабачце... Што так пільна позіркам перабіраеце рады? — спытаўся Даніла ў свае суседкі, як тая села з ім поруч.

— Гэта вам усё роўна.

— Усё ж... Будзем знаёмы.

— Дзіўна б было не знаць, у адным доме жывучы.

— Я — Невядомскі.

— Вельмі благі псеўданім. Каб ведала, што такі ягоны носьбіт, мяне б тут цяпер не было. Ваш жарт быў так нязграбна здуман, што я спадзявалася тут каго-небудзь з даўнейшых сваіх знаёмых стрэць.

— Вы памыліліся. Хоць такі подпіс і стаяў разоў тройчы пад невялічкімі абразкамі з сялянскага жыцця, усё ж ён мае ўласнае прозвішча. Не вельмі ўважаю псеўданімы... І так у беларускую літаратуру навалаклі ўсякага пустазелля, з якога нават і трушанкі на харч не страсеш — толькі ў гной высыпаць.

Патух агонь. Засакатаў апарат у механікавай будцы. Гэты шум лепш як нядэшлы аркестр любіў слухаць Даніла. Стужка была старая, і прыкры дождждык беспярасціханку хвастаў экран. Не навіна, што рвалася стужка. Выйшла яшчэ цудней: собіла ёй струхлець на распачатым пацалунку.

— Хоць бы паведамленне далі, што «працяг будзе»,— не прамінуў Даніла гэтага выпадку.

— Не. Мусіць, сёння нам працягу не дачакацца. Надта ж доўга механік там кешкаўся з клеем.

— А хочацца, каб хутчэй?..

— Ну, пэўне.

— То можна прыскорыць.

— Няўжо?

— От убачыце.

Было цёмна. Слабенькім пошчакам пасыпаўся скрадзены гук у залу. А далей зашумеў ізноў апарат. Пырснула жыццё на экран. І Даніла (без асаблівага сэнсу — проста дзеля досціпу) учынак выйшаў у цудоўным абламаванні. На экране перша недакончаны

пацалунак паволі расклейваўся, й падазроныя гледачы той пошчак прыпісалі яму.

Пасля сеанса, мінаючы на вуліцы высозны рэкламны шчыт, ізноў зірнуў Даніла на імпартны маляваны твар. І — дайце рады! — тое, што на фанеры тлустымі — каб за вярсту відаць было — рысамі наляпана, тут жа побач з Данілам у Любы значна драбнейшае можна было заўважыць. І калі Даніла на віднай вуліцы лепш да свае суседкі прыгледзеўся, ён заўважыў, што Люба гэта падабенства ведала й лёгенька падкрэслівала агульныя з амерыканскаю акцёркаю, ім абедзвём уласцівыя рысы.

Усё ж Любе Даніла аддаў перавагу ў сваім параўнанні. Акцёрчын фанерны твар быў абмыты крывым дожджыкам і рагамі аплыў. Любіна ж вяршэнства было, што яе — крамянае дзяўчыны, яшчэ не руйнаваў, а толькі ўдакладняў, дамалёўваў час. Але ўсё ж далёка было Любе да гаспадынінае дачкі.

— Можа, працяг патрэбен? — спытаўся Даніла на развітанні.

— І так доўга зацягнулася,— паспяшалася Люба пастукаць сваім суседзям у акно; у Данілы на гэты конт лепшая была выгада: у гаспадыніных сенечках званок.

Ужо спалі на глухім Безымянным завулку, і сапсаваўся ўвесь эфект неспадзяванкі, якую дома Данілу падрыхтавала была гаспадыня. Яна папрасіла даўжэй на ганку забавіцца. Бразнула завалкаю, а сама — чуваць было — подбегам пусцілася, каб хутчэй схавацца пад коўдру. Так і не бачыла гаспадыня, якое на Данілу зрабіла ўражанне, калі ён запаліў агонь ды ■ акно амаль на велічыню абраз мадонны ў сваім пакоі на сцяне ўбачыў.

Мала ведала гаспадыня свайго кватаранта. Даніла ў дзяцінстве шмат чытаў бязбожніцкіх дробненькіх усякіх кніжак. Так шмат, што агідзела яму ўсё святое, а разам з святым... і тыя дробненькія кніжачкі.

Не любіў Даніла ні абразікаў, ні карыкатур. Але змірыўся з гаспадынінаю гасціцаю ў сваёй хаце. Яна была дабра ды такога росту, што — адно ложак у Данілы завузак быў... Толькі што з чужым дзіцем. Але тут — ізноў-такі... Даніла прыемна ўсміхнуўся ў люстэрка свайму ўспаміну: у яго ў самым пачатку, як толькі ў горад астаўся, таксама была з гатовым дзіцем.

У гаспадыні лепшага люстэрка не знайшлося, а тое, што яна паставіла ў кватарантаў пакой, вельмі ж абалоністае было. Усмешка ў ім выйшла папярочная, плюгавая...

Назаўтрае зайшоў быў Даніла да гаспадыні пасмяяцца: ці не хочуць яны яго часам у каталіцкую веру навярнуць. Ажно самой Віруціхі не было дома. А Людва плакала. Рэдка, але важка сыпаліся слёзы.

Зблізку непрыгожа чужое гора. Як у кіно. Буйным планам — на ўвесь экран — нязграбнае з ямачкамі аблічча. І па ём, як па раллі, плыве гразь. Чуць дайшоў Даніла, з якой жа гэта прычыны.

— Я ўсё ведаю,— гідкім ад плачу голасам дакарала Людва.— Але ж усё чысценька... І пра тое нават, як парвалася стужка на распачатым пацалунку.

Каб Даніла расказаў, як там было, Людва й сама б убачыла, што ўсё гэта жарт і адно дзеля смеху... Але, як на тую бяду, зайшла ў хату гаспадыня, пашкодзіла кватарантавай шчырасці. А пасля таго не траплялася зручнае часіны, каб сам-насам астацца. Пісулькі ж, што Даніла, неўзапаметку ад гаспадыні, падкідаў Людве, нічога не дапамагалі. Не раз марна чакаў ён у прызначаным месцы. Недзе доўга вечарамі бавілася Людва.

Надвячоркамі, як успадзе туга, куды было дзецца Данілу, як не да Людвінае сяброўкі?! Ён заходзіў, але ненадоўга. Як толькі Люба зашастае запалкамі, Даніла зараз жа браўся за шапку й азіраўся на ненадзейную фіранку, якой наўрад ці стане на яе адзінокае, але ўшыркі даволі прасторнае акно.

— Пагуляйце. Куды вам спяшацца?!

— О, не! Дзе бачылі?! Трэба йсці. Другім разам калі-небудзь.

— Ну ўбачым, калі ў вас той другі раз будзе,— адна аставалася Люба.

Яна з вёскі, далей — студэнтка, а там — была ізноў на вёсцы. Траха не так, як у Данілавай аповесці.

Любіны лятункі спраўдзіліся. Нарэшце, пасля гармідару студэнцкіх інтэрнатаў, яна была дома. Вёска, дзе вучыла дзецi, не лічыцца. Там не было свае часіны. Штодня сходы, тлум...

У сваёй хатцы свае парадкі Люба павяла. Тут быў і славутае амерыканскае акцёркі партрэт на сцяне, і Любін уласны здымак з ім побач, дзе яна, на імпарт-

ную красуню глядзя, знялася на ўзлакотках, голымі плячыма павярнуўшыся на аб'ектыў.

Пойдзе Даніла. На Безымянным завулку ціха. Люба запаліць асобны, самастойны агонь. Адзінокі, весела шумеў ён. І быў такі ветлы, утульны, бо — свой!

## 8

Вялікі пісьменнік скінуў пантоплі, абуўся ў чаравікі, узяў кіёк і выйшаў на спацыр. Тут яны й стрэліся.

— Даніла Невядомскі!.. Хо-хо-хо!..— нібы рад быў гэтай стрэчы вялікі пісьменнік; толькі ягоны савіны смех прарочыў нейкую здраду.— Ты наконт апавядання?

— Але.

— Даваў К. чытаць.

— Ну й што?

— Казаў: «Разьгата вельмі». Не пойдзе. Трэба перапрацаваць.

Даніла забраў назад рукапіс. У вялікага пісьменніка ён не бавіўся — яшчэ пасля працы дома не быў. Дзівіўся, Безымянным завулкам ідучы, што дагэтуль не заўважаў: тут адыхтар жа як на вёсцы. Нават перад кожнаю хатаю ад вуліцы агародчык — у каго з краскамі (як у Віруціхі, напрыклад), а ў каго і так.

Была гарачыня. Віруціха паадчыняла вокны. У яе шумела людная бяседа, як — не прымеркам — на вёсцы вяселле, але з вуліцы за разьгатым густам нейкіх жоўтых высокіх красак толькі аднаго госця відаць быў правы плячук у вайсковай зеленкаватай кашулі.

Дома Даніла ўвесь свой беспарадак, з стала на ложак пераложаны, застаў. Сесці таксама не было на чом — гаспадыня ўсё да сябе забрала.

Разаслаў Даніла на падлозе газету, прыняў туды з ложка, што замінала, а сам прылёг вокам звесці.

Мусіць, у ягонае гаспадыні былі й з вёскі госці, бо час-часом старасвецкім звычаем крычалі:

— Горка, горка!..

Шум вясельны — і на самай рэчы вяселле было. Сцяна ў Данілы тонкая. Ён чуў сур'ёзны, як гімнастычнае практыкаванне, пацалунак маладых. Хацеў заснуць і не мог.

Нешта муляла. Паглядзеў у кішэні — ажно гэта

быў скрутак [redacted] бракаванаю аповесцю. Даніла са злосці пашпарыў яго на разасланую газету. Той міфычны, што апошняе ў печ укінуў, мусіць, куды лепш выглядаў, як цяпер Даніла. Тым больш: люстэрка ў Данілы абалоністае, і ўвесь свет у ім быў папярочны, агідны. А чаго варт мадонна! — як цяпер ён у люстэрку прыгледзеўся. Такую місюгу, як мадонніна дзіця, каб разгадаваць, па першым спісе й першай катэгорыі трэба пайкі атрымліваць, да добрага зачыненага размеркавальніка быць прымацаваным — усё гэта шчасце пачало было з'яўляцца ў тыя гады, але Даніла, як і ўсе, павінен быў пытацца апошняга, калі яму што патрэбна было.

Балазе і ў Любы гарэў агонь — было куды ўцячы ад гідоты.

— Ну, сягоння пэўне воўк здох за гарою,— па-вясковаму жартавала яна [redacted] Данілавага неспадзяванага прыходу.— Там у вас тлумна сягоння?!.

Люба ўзаперлася наўзлакоткі на стол. Каля асабліва ветлае гэты вечар лямпы злажылі яны з Данілам дружныя галовы. Глядзелі здымкаў. І ў самой Любы, як на адным з іх, з'ехаў з плечука лёгенькі з вялікім горсам весні каптан.

Даніла азірнуўся на фіранку. (Гэтакая ў яго была старая й непатрэбная цяпер прывычка.) Фіранкі не толькі на акно хапіла, але каля вушакоў нават і невялічкі запас сабраўшыся быў.

Дапраўды ж само так здарылася, што, як п'яўка, прыліп Даніла да таго самага, калісь сфатаграфаванага, плечука.

— Гэта што яшчэ?! — усхапілася ўзлаваная Люба.

Зусім збянтэжыўся Даніла. Яму згадалася, што неяк раз быў плюнуў і заўважыў кроў.

— Вядома, у мяне, можа, й сухоты... Хоць рэнтгенам нічога не заўважана, але вынік аналізу харкавіння яшчэ невядомы.

Чуць трывала злосная Люба, каб не зарагатаць.

— Каб мне гэта апошні раз было!

Як хмара, выйшаў ён таго вечару ад Любы. Ды не дадому. Швэндаўся па вуліцах, адпачываў на каторай лавачцы цямней, дзе дрэвы гусцейшыя й далей ад ліхтара. Так і сцерлася тая агорклая ноч. Пад самую раніцу дастаў ён хустачку працерці бяссонныя вочы, але

не ад чаго-небудзь, а проста стрэўся з Данілам віхор на рагу й запарушыў іх.

Няспрытна было без стала пісаць потым на ложку, але Даніла спяшаўся, каб не забыцца патрэбных слоў, якія цяпер так лёгка траплялiся.

«Любы браце! — пісаў ён Марку на вёску.— Ты заўважыў, што людзі кручаных дзён сіверынаю чуваць? Як бы ў чыстым полі, дзе адно дзікае лінялае неба было тупа звісшы, раслі й гадаваліся яны.

Ці варта казаць, што свет як на верацяне?! Сама горш вось, што ні ў водным акне нам не мігае ветлы агеньчык. Напрыклад, зваліся дзяды. Ты больш гэта ведаеш: праўда ж? — не садзяцца больш усею сям'ёю за стол, калі на дварэ восень, на дарогах — гразь, і на цэлым свеце хвошча аблудных бесхацімцаў дробненькі, падсяваны дождж. Золкі ён. Вастрэй за голку працінае праз усякія цыраты і брызенты аж да самага пасінелага цела. А памятаеш, у тых, бывала, што за стол дзедаваць сядуць, сабе кожнаму сем'яніну ветла моргае лямпа, й спакойны ўсе, што варушкая гаспадыня поўную — ды ці адну! — паставіць міску на стол. Па самае годзе хопіць усім, ды яшчэ на дне й дзядам нанач пакінуць застанецца.

Шкода. Вельмі шкода... Мінулася й тое, што:

— Мароз, мароз, хадзі куццю есці,— клікалі яго каляднага, траскучага, сеўшы ў цёплай хаце за мяккі, сенам падасланы стол.

Як пустадомкі, туляемся каля чужых халодных вуглоў. Ды калі й свой па ордэры завядзецца, у ім, не сагрэтым пакаленнямі, пуста і няўтульна, як у ваўкаўні.

Любы браце!

Цяпер лета. Такое хараство! Ці чуваць хаця песні ў нашым баку? Ці збіраецца на прызбах моладзь?»

## *Русалка на пераездзе*

### 9

Яму ў дзяцінстве прыпаў невялічкі акрайчык таго заваляшчага свету. Шмат што дагэтуль у памяці злізала, але не ўсё і не датла. Вось чым з тых дат — на той бок нямецкае вайны — можа ён пахваліцца:

— Не хадзі адзін на поле,— перасцерагала Петручыха.— Нарвешся на русалку — будзе бяды. Ахіне слізкімі, як рачное багавінне, валасамі, насмерць заказыча жалезнымі грудзьмі.

Але Арсень не слухаў мачахі. Цішком, бывала, уцячэ ён на поле. Далёка адыдзецца мяжою. Любіў глядзець, як жвавы вецер лёгка коціцца палеткам, а паабапал мяжы каласы адно трасуць яму сваімі пустымі галовамі. Іхні шум любіў малы слухаць. Крадком прыглядаўся: ану, можа,— хоць здалёк ды жывую русалку ўбачыць.

Як сцяна, проці малога палетак. Арсень увесь ■ шапкаю хаваўся за ёю. А ўсярэдзіне ў той сцяне цёмна і зелена — нічога не відаць, колькі ён ні азіраўся. Адно дзе-нідзе, прымружыўшы ясныя вочы, усміхнецца з даходнага дзіцяці васілёк.

Неўзабаве — лета.

«А ў нас сягоння ды зажон, зажон»,— загаласіла аднаго разу надвечар шырокае поле. І Петручыха таго дня прынесла дадому перавязаную жычкаю жменьку збажыны. Паставіла на куце пад абразамі. Ад тых дат і пачаў хрумстаць серп на палетку, але яшчэ не прытном, а выборам — лапінамі.

Пятрук дома рэдка стыкаўся: усё па заработках хадзіў. Апошні час недалёка — вёрст пяць ад дому — у Грукаціч у ляснічага правіў люхты ў стаяках. Узяў ■ сабою і малога, пакуль жніва ды няма каму дома за ім наглядаць. А па-другое: хацелася свайму сыну, мужычаму дзіцяці, усярэдзіне панскія пакоі паказаць. І была там уся малога работа — замінаць бацьку пад рукамі.

Мала чаго старэйшая за Арсеня дзяўчынка на лета сыскалася да ляснічага. Ціхім тутэйшым летам і фальварковым спакоем ніяк нацешыцца яна не магла. У светлай сукенцы выходзіла ў сад, што за пакоямі, нашчыпаць траскучага агрэсту. Як матылёк, у яе з плечука на плячук пералятваў блакітны шырокі каснік. Хрумстаючы, чытала невялічкую аздобную кніжку, схаваўшыся ў трапяткое рабацінне летняга дню. Арсень адразу пазнаў, што гэта русалка: сюды ўцякла яна, як пабрыдчэла жыта ды каля яго завінуўся серп; але — хітры — спытаўся ў бацькі:

— Хто гэна?

— Дзе? — на хвілінку адхінуўся Пятрук ад працы.

— А вунь за йгрушу матнулася,— паказаў Арсень праз акно гэты цуд.

Абцёр тады муляр аб хвартух каравыя рукі. Дастаў партабак.

— Ляснічага,— кажа,— дачка. У горадзе вучыцца. От і ты не дурэй, слухай маці ды настаўніка, і цябе аддам у горад, як акзамінт здасі.

Пятрук пусціў першы дымок. Спрытна цыкнуў сліну праз свае скрышаныя зубы. Вельмі добра, што ніхто, акрамя ягонага нязналага сына, тады не чуў яго. Ато — прасмяялі б!.. Век ад кпінаў было б не абабраццца старому шалахтуну. Гэта трэба ведаць! — расказаў муляр свайму нязналаму сыну, што ён яго, калі не на ляснічага, дык на аб'ездчыка канечне выўчыць, і будзе Арсень, калі не ў такіх, дык у мала чаго горшых пакоях панам жыць. Пахваліўся, што ў яго на пошце каторы год як тры кацярынкі ляжаць, дый дома сёе-тое ў паклажы ёсць, што ўсё гэта не на што іншае, як на Арсеневу навуку.

У Петрука ўсё, нават самая шчырая праўда, на языку прырастала. З ягоных лятункаў хаця дзесятая доля каб спраўдзілася, даўно б ён смачна еў, доўга спаў і ў шаўкох хадзіў бы.

Прыцікаваў Арсень, што русалка, як чытала, так пад яблынаю і пакінула тую сваю аздобную кніжку. Хоць невялікі з Арсеня памагаты быў, але больш за праўдзівага муляра быў ён у гліне ўвесь чыста. А цяпер, каб да тае русалчынае кнігі дакрануцца, ён чыста вымыў рукі, выцягнуў падол ісподняе кашулі і насуха выцер іх.

Другазімец быў Арсень, але ніводнага слова не мог прачытаць у таей панскай — аж з рук плыве — кнізе,— рэдка каторую літару пазнаваў. Асцярожна прынёс бацьку гэты цуд на параду.

— Зірніце, якая дзіўная кніга!

— Хто табе даў?

— Сам знайшоў.

— Дзе?

— Пад яблынаю.

— Зараз жа занясі, Арсенька, палажы, дзе ўзяў. Няможна чужога чапаць. Гэта панская, польская кніга.

Невядома, бачыла ці не русалка, што Арсень тую

аздобную кнігу браў, але застала яна яго ў садзе з-пад яблыны йдучы.

— Ты чаго тут цягаешся? — злоснаю падалася русалка муляраваму сыну.

Арсень маўчаў.

— Каб больш і следу тут не палажыў!

Арсень зноў ні ачарніў, ні абяліў. На гэтым іхняя першая стрэча й першая спрэчка й скончылася.

Назаўтрае й па ўсёй рабоце ў ляснічага было. Зарабіў Пятрук два сажні добрых бярозавых дроў на зіму, а што падборкі, дык хоць цяпер едзь збірай колькі хочаш.

На малога ногі 5 вёрст — за блізкі свет. Прайшлі вёску, міналі стракатыя палеткі, бокам адступаліся назад зялёныя засценкі ды фальваркі. Нешта дзяцінае пра ляснічага русалку вярзлося Арсеню, і ён шчасліва ўсміхаўся ўсю дарогу. Так і не агледзеўся Арсень, калі яны на сваім полі ў прысадах апынiліся. Там Петручыха жала недалёка ад дарогі — убачыла. Пакінула яна адных жней ды пайшла разам з імі дадому. А яшчэ высока сонца было.

Забяліла міску крупніку.

— Ежце ж, мае вы работнічкі!

— Праўда, мама, што калі будзеш есці крупнік з хлебам, ніколі па-польску гаварыць не навучышся? — прыгадаўся Арсеню стары мачашын жарт.

— Шчырая праўда, Арсенька,— засмяялася мачаха.

— Бяры от...— дужаватую такі лусту адкавяліў Пятрук свайму памагатаму.

Арсень добра вымярхаўся з дарогі. Лыжка ў лыжку йшоў ён з бацькам. А да хлеба і не дакрануўся.

## 10

Вы, напэўна, ведаеце такіх малых.

Каб не салгаць — завецца ён, скажам, Пакумейка. Арсень...— той самы, катораму ў ляснічага русалку давялося бачыць. Прозвішча дробнае, і сам ён (хоць ад тых дат і падрос крыху) даволі шчуплае дзіця. Імя і цяпер гучыць важка, а тым больш калі крыху асталюецца, людскі слых да сябе прызвычаіць. Тады й прозвішча зраўнуецца. Так бывае позная рунь, чырвоная шчэ, закажанелая хаваецца пад снег, а на вёсну,

калі пакрэпяць цёплыя дажджы,— і не адрозніць: здаецца, гэта самая летась буяла.

Зойдзе, бывала, малы Пакумейка ў местачковую кніґарню, стане каля шчыту й доўга будзе адна за адною новыя неразрэзаныя кнігі перагортваць. Не відаць было яго купляючы, а ўчашчаў туды траха не штодня.

Калі Арсенеў бацька аднаго разу, седзячы з мужчынамі на прызбе пад сонца ў святы дзень, сказаў, што канечне свайго сына ў гарадскую школу вучыцца аддасць,— ніхто яму не даў веры. А калі муляр пабажыўся: «Да торбаў дайду, а на сваём пастаўлю».— «Не з тваім носам»,— нехта з гурту сказаў.

К таму часу ўжо ў яго больш як тры кацярынкі на гэту справу сабралася. Але вось па немалым часе і тыя кацярынкі — каторыя былі на пошце і каторыя дома — усе чыста ляснулі, а Пятрук такі свайго сына ў мястэчку вучыў.

Паложыць, бывала, Арсень свае сямігодскія падручнікі, у кнігарню зайшоўшы, на парэнчы, а Купалаву «Спадчыну» расхіне. Прыхваткамі малы шмат у ёй прачытаў. І кожны раз, бывала, Арсень на адвароце кошту паглядзіць. Усё тыя самыя, алоўкам напісаныя, 2 рублі нязменна стаялі. З павагаю ставіў Арсень «Спадчыну» на яе высокае месца, каб дастаць якое, яму трэ было шчэ на дыбачкі станавіцца.

У Старым Сяле адзін кнігар на ўсё раённае аддзяленне БДзВ быў, але кожны раз цэтлік у касу і прадаўцу адбітак пад капірку выпісваў, хоць бы ўсяго на залатоўку прыйшлося чаго-небудзь прадаць. Мітусіўся страшэнна, калі хто-небудзь рашучым крокам пераступаў парог ягонае крамкі. Арсень і так быў, як ціхае лета, а ў такія ўрачыстыя хвіліны яго й зусім у кнігарні не было знаць.

Аднэю такою хвілінаю й пакарыстаўся малы. Калі кнігар адвярнуўся свой, невядома навошта патрэбны, цэтлік выпісваць, ён палажыў «Спадчыну» ўсярэдзіну ў свае падручнікі. Як заўсёды, ціхенька браўся ён за дзверы. І ўсё добра было б. Каб не сэрца... Не начай, яго пачуў кнігар: так моцазна лапатала.

— Пачакайце,— выйшаў ён з-за парэнчаў.— Паглядзеце ў сваіх кніжках: ці не ўзялі праз памылку Купалавае «Спадчыны».

Паглядзеў Арсень і як вараны рак зрабіўся. Праўда — узяў.

— Прабачце. Я не знарок.

— Ну я ж і кажу: праз памылку,— ізноў «Спадчыну» кнігар высока паставіў.

Але замаркоціўся ён, калі Пакумейка з сораму пакінуў у кнігарню ўчашчаць. Спыніў нават кнігар Пакумейку, на вуліцы стрэўшы.

— Што ж вы цураецеся? А да нас апошнім часам цікавыя кніжкі прыйшлі,— і на развітанні малому Пакумейку руку падаў.— Заходзьце.

І ад таго разу, як бы і не было ніякае мітрэнгі. А на ад'ездзе, як скончыў Арсень сямігодку ды зайшоў у кнігарню з гэтаю навіною.

— Віншую, віншую...— рад быў стары кнігар.

— Пачакайце,— як той раз, калі з Купалаваю «Спадчынаю» так несамавіта выйшла, спыніў Пакумейку кнігар, толькі той памкнуўся за дзверы. Ён выйшаў з-за парэнчаў і вынес Пушчаву «Раніца рыкае» й Крапівова «Асьцё» — іх часцей як што Арсень пераглядваў.

— Вазьміце на ўспамінак.

З гасцінцам яшчэ хутчэй ягоны сябар, з каторага цешыўся стары, паджгаў за парог. Пакумейку хацелася як мага хутчэй з кніжкамі сам-насам застацца, бо іхняе знаёмства ў кнігарні вельмі ж тлумнае было.

Невялікі гасцінец — разам 64 невялікія балонкі, а з імі так прамільгнула ў Арсеня лета, што пра яго й напісаць няма чаго: даўжэй будзе чытацца, як перажылося.

Каго маці калі-небудзь збірала ў дарогу, паварушэце прыемны ўспамін: будзе акурат. Мала што Пакумейчыха Арсеню мачаха! Смела прыгадвайце сваё. Скупасць не скаланула Пакумейчышынай рукі, калі яна спакавала Арсеню ў невялічкі куфэрак два сушаныя сыры, вантрабяную шкілёнду й танчэйшых вэнджаных кілбас дзве пары, ды да ўсяго гэтага сала сырога й абгатаванага па велікаватым куску. Не век жа людзі шылам елі пайкаваны хлеб! З жарнавы камень яго, знарок на падсітак прасеянага й спечанага ў дарогу ўзяць, булку ўжо апрыч у мяшок, дзе бялізна й пасцель, давялося палажыць.

Не вельмі жнівень, такі рупны месяц, раскідаецца святамі. Быў будны дзень, а чыста, як да фэсту, прыадзеліся Пятрук Пакумейка з сынам.

Гэтаксама, як і вам некалі маці, па-святочнаму чы-

стаю посцелкаю заслала Пакумейчыха сядзенне на возе. Усею сям'ёю — і белашывы Лыска (таксама «Пакумейка») ■ імі — сышліся выпраўляць свайго семяніна ў дарогу.

Як бацька ■ сынам селі на воз, Пакумейчыха адчыніла вароты.

— Шчаслівае дарогі,— ласкавым словам выправіла іх з двара.

— Пачакай, Пятрук,— гукнула ім услед. Яна нечага забылася была ды ўспомніла.

Стары Пакумейка сутрымаў каня.

— Ты ж заўважай, дзе будзе конь фыркаць: на сваём ці на чужом полі — прыехаўшы скажаш,— падышоўшы да воза, наказала ў дарогу. Ну чым вам Пакумейчыха не родная маці?!

Конь фыркаў на саўгаскім полі.

— Дай жа божа! — сказаў Пятрук.— Астанешся...

Потым на станцыі, пакідаючы Арсеня аднаго, тысячу ўсякіх:

— Глядзі ж, сынку! — наказваў Пятрук, як што рабіць, каб не спракудзіцца ў чужых людзях.

— Добра... Ну добра, тата!

Даў сыну чырвонца на дарогу.

— Глядзі ж не распасор без толку — каб хапіла, пакуль казённая будзе якая дапамога.

— Ну добра, тата! — ледзьве выправіў Арсень бацьку дадому.

Цягніка доўга было чакаць, ды яшчэ к таму чырвонец — такія вялікія грошы! — у кішэні муляў. Арсень папрасіў аднае кабеціны куфэрка ■ мяшком папільнаваць, а сам пайшоў у мястэчка.

Трэба быць дужа сантыментальным, каб апісаць, як рад быў Арсеню стары кнігар. І ад гэтага я наперад адмаўляюся.

— Выпішце цэтлік.

Арсень вымеркаваў, што ён і аб васьмі рублях абыдзецца да тае казённае дапамогі.

Спраўдзілася неверагоднае. Была цяпер у Пакумейкі свая «Спадчына» і сам ён ехаў — жарты сказаць... у Менск.

...дзе самога Янку Купалу можна знянацку на вуліцы стрэць!

11

Першае, на чым спракудзіўся ў Менску Арсень Пакумейка, былі боты. Нібы бацька спадзяваўся, што Арсеня волат будзе, калі прасіў шаўца навырост напусціць запас у іх, як націны — ну адыхтар: вераб'ёвы — здаваліся Арсеневы ногі. І калі прымеркаваць малога Пакумейку да шырокага поля й бязлюднае дарогі, выйдзе пагана: нізашто, здавалася, ён бы тым на сваіх націнах не ўстояў, каб — няпрымеркам — крыху павеяў вецер. Нібы ён па тым полі й не хаджалы быў!..

Толькі ў Менску й агледзеўся Арсень, які клышаногі ў яго абутак, якія шырокія — нязграбна адтатуркшы — былі ягоныя халявы. Улетку ж дома не адно свае, гасцінца дадзеныя, 64 балонкі знаў ён. Удзень — то так. А як надыдзе вечар, як у чорныя сукачы пачнуць сукараціцца радкі друку, Арсень абуваў вось гэтыя самыя боты. Удзень хадзіў босы, а ўвечары дзе на прызбу да дзявочага гурту падысці ўжо босаму было ні сяк ні так. Бывала, шчоткаю з «функам» гэтыя самыя боты перавядзе. А «функ» да тавару куды лепш прыстае, як да літаратуры. Ого! Каб вы бачылі тады Арсеневы боты ў месячную ноч!.. А цяпер чапаліся яны ў Пакумейкі на нагах, як выходзіў з лекцыі ў калідор на перапынак.

Здавалася малому, што над менскі Белпедтэхнікум, куды ён паступіў, не знайсці лепшае школы. На дошцы абвестак знайшоў, што Паўлюку Трусу, каторага ён часта ў «Беларускай вёсцы» чытаў, нейкія падэсці падстроіла педрада, а Пятро Глебка меў па хіміі залікі на восень. Толькі самога Купалы так і не трапілася Пакумейку стрэць.

Па бруку ды па цэменце ў горадзе Арсень хутка тыя свае валатоўскія боты дабіў. За стыпендыю справіў шчыгульныя — якраз да нагі — чаравікі. І ад тых дат да шмат чаго ён тут прынаравіўся.

Ізноў, як тады ў ляснічага, знайшоў Арсень і тут з русалкаю, аднаму яму прыкметнае, падабенства. Па-дзяцінаму жвавая была яна, й абы чуць — чырванела без дай прычыны. Было ёй 17 год, а рост мела не Пакумейку раўня: выносісты, смелы. Ад дакладнейшае ж анатоміі аўтар адмаўляецца. Ён не жаночы кравец — меркі не здымаў і не мае шырокага знаёмства з гэтым прадметам.

Самае ж галоўнае здарылася на 2-м курсе.

Хаця... нічога такоўскага і там не было. Проста — сядзеў Арсень адзін на самай задняй лаўцы, рыхтаваў сузор'і па светабудове. І села з Арсенем побач яна, каб разам рыхтаваць.

Нічога такоўскага... Але калі прыдзірацца з параўнаннямі, дык можна сказаць, што дзве буйныя зоры самага блізкага сузор'я тут жа побач з Арсенем блішчалі. Але ці варта?! Пра вочы адно ў вершах пішуць, а Пакумейка быў трывалы наконт вершаў. Дык так і абышоўся, на тое сузор'е не зірнуўшы.

Швачкі, не зважаючы на метрыкі, яе за малую мелі: не прынялі пад увагу дзяўчыніны 17 год, калі кафтан скроілі. Не аднаму Пакумейку, а ўсім відаць было, што не тоўпілася ў шваччынай скупасці дзяўчыніна сталасць. Толькі Арсень больш зайздросна, чым хто, на гэта сціпіка цікаваў.

Хадзіла яна на літаратурны гурток. Можа, якраз праз гэта туды й Арсень запісаўся. І найбольш ён ганіў вершы, якія там чыталі, што вельмі ж яны дрэнныя. А да самога ніяк прыдрацца не маглі — ён вершаў не пісаў.

Больш такога здарэння, як на 2-м курсе, не было ў Арсеня. Няўзнак і датэрміновы выпуск надышоў. Цяпер не пара была надалей адкладаць. Але за ўтрапеннем Арсень не знайшоў часу. Некуды русалку за настаўніцу паслалі, і вельмі ж хутка выехала яна з Менска. Арсень, як не пара было, давай у сяброваk распытвацца: куды? Але ніводная яму нічога пэўнага не магла сказаць. Казалі: не то ў Глуск, не то ў Вызну, не то ў Любань, а можа, нават і ў самыя жахлівыя Лельчыцы атрымала яна прызначэнне. Пакумейку ж накіравалі зусім у другі бок — недзе пад Лепель.

І тады ўсё, што гадамі збіралася, у тым прыгожым азёрным краі ў адзіноце так крута састоілася, што Арсень пачаў пісаць вершы. Улетку, на вакацыі прыехаўшы ў Менск, занёс іх у «Маладняк». Прачыталі. І ўсе, хто пры том быў ды чуў, пагадзіліся на тым, што Арсень здолен на невядома што. Нагадзіўся там і сам Купала. Ён быў тае думкі, што і ўсе.

Зусім не той быў Купала, каторага Арсень, ні разу не бачыўшы, знаў. У гэтага Купалы блішчалі пацёртыя локці. А яшчэ больш сапсаваў ён Арсенева ўяўленне, дастаўшы карашкі. Аж прыкра было пазіраць

муляраваму сыну, як трэсліся старэчы паэтавы пальцы, калі круціў папяросу, і дробнаю пацярухаю сыпаліся далоў карашкі.

Нейчае нешта знялі, а Пакумейкава пусцілі ў самы блізкі нумар. І не паехаў Арсень назад пад Лепель. Застаўся ў Менску і ўладзіўся ва універсітэт.

От тут яму й спатрэбілася тое блізкае сузор'е з такіх аздобных зор. З гэтага давялося хлеб есці й чарку піць, без якой абысціся [redacted] «хлопцамі» ніяк нельга было. Прыгадваючы, Арсеню здавалася, што яны ў тае тэхнікумаўскае русалкі былі сінія, як у ягонага новага сябра Данілы Невядомскага. Арсень хацеў, каб сінія... Такімі некалі маломy муляраваму сыну й васілёк у жыце прымружваўся. Але мог ён і памыліцца. Абышоўся ж не паглядзеўшы, як было льга. Вунь Зарэцкі — не Арсенем быўшы — прыслухаўся чытачом з шэрым гатункам вачэй, а потым, як лепш разгледзеўся, прызнаўся, што былі яны на самай рэчы як бы крыху зеленкаватыя. Так што і Арсень не ва ўсіх вершах, што сінія, цвёрда ўпэўнен быў.

Жыў Пакумейка далёка — за чыгункаю. Дакладны адрас даць не бяруся. Цяжка было што-небудзь пэўнае расчытаць на ліхтарыку. Ліхтарык той да таго закураў, што газніца ў ім усярэдзіне штоночы зусім марна тлела. Была яна толькі міліцыянеру адчэпнага, каб не сляпіўся са штрафамі.

Даніла Невядомскі там не раз быў — дарогу ведаў.

— Заходзь, браце,— рад быў Арсень яму.— Што ж ты нешта такім рэдкім госцем у мяне стаў?

— Калі ж бо сам забраўся за блізкі свет, у чортавы зубы!

— У цябе цяпер хаты не пазнаць,— здзівіўся Даніла новай шырознай канапе, якая ў цесным Пакумейкавым пакоіку заняла ложкава месца і абавязкі.

— А гэта за зборнік справіў.

— Ну як?

— А вось паглядзі,— паказаў Пакумейка, як здратаваны быў самы любы ягоны раздзел «Пяць адмен тугі».

Пакумейкаваму зборніку не пашанцавала. У выдавецтве аддалі яго Цытатавічу на палітрэдакцыю. Упарта вартаваў той афіцыйную суровасць, і чым драбнейшая, дакладнейшая дзе была паэтава інтымнасць, тым круглей прыгінаўся збоку чэрствым крукам Цытаталі-

чаў чырвоны пытальнік. А ў выніку над усім раздзелам тлуста, са здавальненнем выведзены, таго самага колеру стаяў крыж.

У Пакумейкавым тым зборніку хадзілі каравыя змазчыкі, паілі колы, каб менш ад іх звягі, плётак у дарозе было. Як рэалістычныя дэталі, тырчаў увесь гэты народ на паэтавым пераездзе. На іх адных і ўважыўся Цытатавіч, а бухгалтар за іх паэту ордэр у касу выпісаў.

Невядомскаму хацелася яшчэ раз тых забароненых адмен паслухаць.

Арсень вельмі ж спрытна на сваёй канапе стоўпіўся, што яшчэ засталося й Данілу месца на мяккім прысесці. Вельмі ж пакаёвага росту быў Пакумейка. Умеў ён так, як цяпер, у тры пагібелі злажыцца, што нават і калені з канапы нікуды не тырчалі. Відаць было па ём, што звякуе ў горадзе. Ад вясковага Пакумейкі, катораму бацька наказваў: «Глядзі ж, сынку!» — асталіся бадай што адны валатоўскія боты. Ён, пад Лепелем быўшы, ім падноскі даў, і вельмі добра было на вёсцы швэндацца ў разводзіцу. Да Менска прыехаўшы, ён другі раз ды як мае быць дабіў іх: ніводзін шавец ужо не браўся правіць. Пара б ім было й на сметнік, але Арсень чамусьці пад канапу запраторыў, і цяпер адтуль шчэрылі зубы.

Гледзячы, як краталіся, чытаючы, Невядомскі заўважыў, што ў паэта надта ж таўстыя (не па ём) і, відаць, смолкія ў пацалунку негрыцянскія губы. Але добра ведаў Даніла свайго новага сябра, што да Таей, пра каторую ён пісаў невядома што, смолкімі сваімі губамі нават і ў сне не дакранаўся.

Цеперся было, як выйшаў Пакумейка Данілу праводзіць. Недзе паблізу аказаўся цягнік. Ягоны голас, гэтага вечару ў вершах ужо чужы, быў ярчэйшы, як калі.

Пакумейкаў зборнік зваўся «На маім пераездзе». Але дарма аўтар і ў вершах, і на самай рэчы выходзіў на пераезд сустракаць вячорныя цягнікі. Блішчэлі вокны... але вельмі слаба. Не праяснілася ніводнае з іх чаканым абліччам.

Якраз было ў пору. Перш чым самім той пераезд перайсці, сябры мусілі спыніцца й даць яго цягніку пераехаць. Як заўсёды, цьмяна мільганулі вокны.

Цягнік пераехаў, і сябры моўчкі развіталіся. Пасунуўся Пакумейка памаленьку дадому.

Можа, ён таго вечару прынёс з пераезду, каб запісаць і сабе прысвоіць яшчэ адну — шостую, нязнаную дагэтуль свету, адмену тугі.

Хто ведае?

12

Паводле «права ліць кроў з чужога сэрца» выходзіла, што за добрую, незаношаную рыфму роднага бацьку прадаць не толькі можна, але й патрэбна, а калі яшчэ скрыпіць на свеце які-небудзь заваляшчы дзед, дык і таго можна ў прыдачу прыкінуць.

Грамадзянства не павінна падглядаць ані ў якую шчыліну, чым жыве паэт. Асабістым жыццём ён нікому не ўзор і мае права быць апошнім плюгаўцам.

Талент, каторы разумеецца як спрытнасць скідаць вяршок з матэрыялу, пакрывае ўсё.

Ніколі не пісаць кроўю ўласнага сэрца. Не трэба інтымнага. Адзінота заўсёды падазроная.

Кроў уласнага сэрца — вельмі сантыментальна. Ад гэтае слодычы возьме на ваніты цвярозы чэрствага часу густ.

Усё роўна — над чым ні працаваць. Няма шчырасці й халтуры. Ёсць спрытнасць і нерастаропнасць.

Спрытнасць патрэбна ва ўсім. Трэба быць лёгкім, каб не пайсці на дно ў кручаным нашым віры. Трэба быць рухавым, каб кожны момант у найзграбнейшай паставе цябе бачылі на паверхні.

Тэмы — тое, што зверху заскарупла: адно вяршок які састроіўся над водарам цікавых дзён. Плуг — не начынне паэта, які ў найзграбнейшых паставах трымаецца над кручаным вірам. Драць цаліну, да жыўца даходзіць — не ягоная работа. Яму трэба адно зверху гладзенька забаранаваць, каб грудкі пад нагамі не мулялі.

Прышласць — усяму мерка.

Прышласці нішто не павінна заставаць. Там застанецца адно гатунковае зерне: яркае й ядранае, а рэшта зраўнуецца: і адданасць і здрада. Адданасць ідэалу перад судом прышласці — аргумент за, а здрада яму — аргумент супраць. Толькі каб яны з густам — зграбна былі выражаны.

Абы талент — усё будзе даравана.

Трэба толькі яснымі ранішнімі вачыма пазіраць на свет.

Пакумейка прызнаўся, што ў самога яго ёсць гэты ранішні позірк. Напрыклад: Езуса на крыжы шмат хто за сімвал укрыжаванае краіны мае, а Пакумейку здаецца, што ён проста на сваёй высокай шыбеніцы робіць гімнастыку, каторая развівае плечукі.

Усё было б як найлепш. Толькі трэ было Пакумейку дзе-небудзь пад самы ніз палажыць сваё «права» і пакрысе ім кіравацца.

Няўрокам кажучы:

«На маім пераездзе» выйшаў з друку. Рэцэнзіі хвалілі. У навучальных установах і работніцкіх клубах наладжваліся адмысловыя дыспуты. Хто чытаць не хацеў — мусіў.

У добры час сказаць, у ліхі — змоўчаць.

Ва ўсёй форме й з патарчакаю пры боку ўвайшоў Цытатавіч у літаратуру. І ніводным пытальнікам да другое Пакумейкавае кнігі «Усе юбілеі» ён не дакрануўся.

Было людзям на смех і сабе на глум Пакумейку шчырым быць. Так, прынамсі, яму й Невядомскі раіў, але пераканаць не мог. І знарок зайшоў Даніла (ды не адзін яшчэ) паслухаць, што ■ таго будзе. Застаў ужо гаворачы. Але дзіўная рэч! — яго з Любаю ў зале ўбачыўшы, Пакумейкавы думкі набылі задзірыстую акрэсленасць, а словы зрабіліся звонкія, як бывае звонкі разменены на дробязь рубель. Строні ж самога Невядомскага, строні ўсіх іхніх колішніх гаворак было тое, што Арсень сказаў пра адданасць і здраду. Ён прагнуў нейкае непатрэбнае волі, на варце якое й ставіў сваё — смеху вартае — «права». А яно цуралася ўсяго, што перашкаджала справіць канапу й чарку ■ «хлопцамі» піць.

Увесь час не зводзіў Арсень вачэй з таго месца, дзе Даніла з Любаю селі. Гэта быў самы сталы пункт погляду ва ўсім ягоным выступленні. Гаварыў многа больш, як перша запісана, а як скончыў, падышоў да іх.

— Калі? — ды: — Адкуль? Ці надоўга?

Ажно быў ён з Любаю знаём. Паводле таго, як рад быў Арсень, дазнаўшыся, што яна ў Менску стала жыве, і сляпы спострыў бы, што не пойдзе больш ён на пераезд сустракаць вячорныя цягнікі. Пасля гэтае

стрэчы адпала ўсякая патрэба марна сляпіць вочы, узіраючыся ў тыя мігатлівыя вокны.

«Хлопцы», што разам з Арсенем прыйшлі ў клуб, былі вельмі збянтэжаны ягоным выступленнем — нават Кучар... у каторага ўжо гатоў быў Пакумейкаў (накшталт Мараковага) літаратурны партрэт.

Так ласкава яшчэ пакаёвыя сабакі ўмеюць у гаспадарскія вочы зазіраць, як Кучар Цытатавічу. Ды запанібрата кратаў ён у крытыка тую патарчаку, калі раіцца даводзілася. Але ўсё ж Айзік і сваім одумам спудлаваў цяпер Пакумейкава «права» дарэшты, а з літаратурным партрэтам надумаўся пакуль што не вытыкацца.

Далей выступала маса. Нават каму перша паэтава «права» й спадабалася было, ганілі цяпер. Спаміж Пакумейкавых апанентаў вылкнуўся й нікому не вядомы, нічым не выдатны хлапчук у машастовай кашулі. Яго можна й не запамінаць — зусім эпізадычны (адно ў гэтым абзацы). Але для аматараў дакладнасці не цяжка паведаміць, што ў таго хлапчука быў яшчэ чырвоны радзімы плеш, не памятаю, на каторай шчацэ. Знепрывычкі высока стаяць і гаварыць з вялікай аўдыторыяй хлапчук блытаўся вельмі, але ўсё ж можна было з ягоных слоў зразумець, што Пакумейка ў сваё «права» нечага такога з О. Генры налыгаў.

Чакалі ад Пакумейкі, што яшчэ раз возьме слова і ў памылках пакаецца (так у тыя гады павялося), і засталіся вельмі здзіўлены, калі ён гэтага не зрабіў.

Было не да таго. Куды важнейшая памылка, на якой ён яшчэ ў тэхнікуме скапыціўся, цяпер уладзілася — не трэба лепш: Люба знайшла нейкую прычыну й дакляравала днямі быць у тым баку за ягоным пераездам.

Арсень думаў — для гэтага шмат што патрэбна. Ён нават тое тэхнікумаўскае заданне пра сузор'і, што некалі разам рыхтавалі, паўтарыў. Выйшла ж усё многа працей і зусім неўспадзеўкі.

У Арсеня валяліся пляшкі й пабольвала галава: не хадзіў нават таго дня ва універсітэт.

— Што ў цябе тут робіцца?! — гаспадыньскім вокам заўважыла Люба, што пляшкі каторыя сталі, а каторыя ляжалі.

— Гэта ж «хлопцы» ўчора ўвечары былі.

Хуценька прыняў ён з стала за канапу пляшку, у каторай на дне дужаватая такі «кропля» аставалася. Яшчэ з яе можна было ў прыгодзе кілішкаў два, а то й больш нацадзіць. Паставіў далей на акно шклянку, каб не так тхнула. Газетаю прыкрыў хлеба лусту й неадменнае фашыркі скрыль. Пустыя пляшкі пазбіраў і да гаспадароў вынес.

Люба, недзе — не то ў Глуску, не то ў Вызне, не то ў Любані, а можа, і ў самых жахлівых Лельчыцах — настаўніцаю пабыўшы, многа пасталела. Ёй быў цяпер 21-шы год. І швачкі прызналі Любіна права на сталасць. Прасторна ляжалі цяпер грудзі, як распранула паліто.

Зоры не спатрэбіліся. Абышлося прасцей. Як дома, прыперлася Люба дзівоснаю сваею сталасцю да Пакумейкавага стала. Як дома, знайшла люстэрка й паправіла перад ім валасы. Як свае, прыбрала і ў парадак зладзіла Арсеневы кнігі.

Не буду пільнавацца дробязей — у якой было паступовасці. Бо што ж тады застанецца язычлівым жанкам, каторыя й за пераездам так, як на Безымянным завулку, любяць тарчма пастаўляць старэчыя свае вострыя калені, сабраўшыся гуртам на якой-небудзь мураве. Як там ні было, а скончылася тым, што зусім перабралася Люба з Безымяннага свайго завулка за пераезд.

Русалка мінулася. Не чырванела больш Люба, як некалі на 2-м курсе, без дай прычыны. Як праўдзівая гаспадыня, агледзела яна, што без толку валяюцца ў Арсеня тыя валатоўскія недатопкі. Дастала іх, запылёныя, з-пад канапы — выкінула на сметнік.

— Што вы нешта нашае хаты цурацца сталі? — спытала яна Данілу, неўзабаве стрэўшыся.— Заходзьце. Вас часта Арсень прыгадвае. Адно будзьце цяпер больш асцярожнымі,— жартам прыгадала яму Люба той нехлямяжы ўчынак, калі ў яе сяброўкі Людвы вяселле было.

Даніла зайшоў. Праўда: Арсень яму быў вельмі рад — аж у крамку на рагу пабег, хоць Даніла й адмаўляўся, што не будзе бавіцца.

Сам-насам з Любаю застаўшыся, было няспрытна.

— Ведаеце, чаго я папрашу на адыходзе? Дайце мне на ўспамін здымак, каторы мы тады глядзелі.

— О, не! Дзе гэта відана?! Каб не той хаця ваш учынак, я падумала б яшчэ, а пасля таго — няможна: хай вам не нагадвае...

## 13

Шылавічы ўсяк — удоўж і ўмітуські — сваяўством пераблытаны. Адны Русецкія Невядомскім ніяк не прыходзіліся. Але была ўсё ж надзея, што Марка паправіць гэта прыкрае выключэнне.

Заўважым, што з Стэфчынымі сяброўкамі Марка быў куды гарэзлівейшы, як [redacted] ёю. Спынімся тут адно на святочным, аздобным — чаго шкода будзе, калі зліняе з памяці за змрочныя гады. А пра тое, каб усякую брыду напаказ выкалупаць, хай Сымон Баран турбуецца. Мяне ад гэтага — хавай божа!..

— Языком гавары, а рукам волі не давай,— гэта Стэфчына прыгаворка заўсёды ацінала Марку, калі ён пачынаў дурэць якім непадобным спосабам.

І прыкмецілі, што толькі Стэфцы паслухмяны быў Невядомчык. Увечары, калі разыходзілася моладзь з сяла з пагуляння, яны — як зіма, як лета — разам дадому йшлі. Потым абое спыняліся насупраць Русецкіх варот. І не хутка, бывала, пасля таго лясне завалка ў сенцах за Стэфкаю. Прыхваткамі шмат чаго ў іх самнасам перагаворана, а можа, што й дакляравана было. Ды цьмяна толькі — надвае можна зразумець.

Так цягнулася не першы год. Як на ніве колас, калі ўсё яшчэ молада, зелена, толькі выплываў у іх першы пацалунак.

Што молад — праўда, але ўжо не зелен Марка быў. Ён тымчасам адбыў прызыў. Дык нельга было пагадзіцца, што пад нашым лінялым сонцам да прыкрасці марудзіць пачуццё — не спее, а чаўрае. І Марка не раз (яшчэ пазалетась улетку) няўхільнае памыкаўся прыскорыць, калі яны вельмі ж доўга застойваліся насупроць Русецкіх варот. Але ўсякі раз яго Стэфка заўчасне спыняла:

— Не трэба. Яшчэ хто ўбачыць...

Марка браўся не так, як развітваючыся,— дзе шорсткая, да якое цяжка прыстаць мазалю, далонь, а крыху вышэй — дзе, як і ў тых яе сясцёр, што не зналі працы, Стэфчына рука мяккая й гарачая, дзе яскравей трапечацца ўтаймаваная кроў.

— Ты куды гэта? — сутрымліваў яе.

— Заўтра рана ўставаць. У нас сена ў пракосах на луках не разбітае ляжыць.

Марку таксама... Яму заўтра касіць ісці. Сена разбіваецца, як дабравата-такі падымецца сонца ды спадзе раса. А касіць з расою многа лягчэй, і ён ▪ бацькам — толькі развіднее — павінен ужо на луках быць. Гэта і сказаў Стэфцы.

— Думаеш, у мяне ўсяго й работы — сена разбіць! А каровы падаіць, каб не спазніцца на раніцу выгнаць? Яшчэ раней, як табе на лукі йсці.

Стэфка лёгка расчэплівала Маркаву руку — дужую, але паслухмяную ёй. Пакуль нічога не здарылася, спяшалася ў хату.

Бразне за ёю завалка ў сенцах, і Марку нічога не аставалася, як дадому йсці. Нехаця валокся.

Узімку мужчынам вальнейшы час. Калі ў лес не ездзіў, Марка часам, дома быдлу падаваўшы, да Русецкіх заходзіў. А Стэфка ўсё за работаю: то прадзе, то шые, то пер'е на падушкі скубе.

Марка не дзеля яе, а дзеля Яські да Русецкіх учапічаў. Толькі неяк трапляў ён часцей за ўсё ў такую пару, калі ягонага пярвейшага сябра якраз дома не было, калі шыў дзе-небудзь на людзях. А бывала і так, што зойдзе Марка і Яська дома, але той скажа:

— Ты пачакай крыху, я неўзабаве вярнуся,— і надоўга сыдзе куды-небудзь: ён быў пэвен, што за гэта ягоны пярвейшы сябар на яго не будзе маракаваць.

У Русецкіх хата яшчэ старасвецкая: нізкая, але добра агледжаная. Узімку добра яны напальвалі печ. Дык у летнім кафтаніку без рукаў прала Стэфка. Было не падобна, каб дзяўчыніны рукі на жывой касці выраслі — нібы дзе адмыслова (такія любыя) выбраны: гладкія, крамяныя. Паглядзець толькі збоку, як аздобна сморгала Стэфка кудзеліну бараду.

Бывае, Марка прыйдзе ў зусім непадобны час: і Яські дома няма, і Стэфцы аглядацца трэба йсці.

— Ты сабе рабі сваё,— скажа дачцэ прыхільная да Маркі Стэфчына маці.— Я сама сягоння.

Намяшае ў адным вядры кормным, у другім — надворным свінням ды панясе ў хлеў.

А Марка тады бліжэй да Стэфкі падсядзе. Ён скіне

дасужай праллі шнур на калаўроце. І, жартаўлівы які знайшоўшы прыклеп, трымаў упраўнейшую дзяўчыніну руку, не даваў надзець шнура.

— Адпачні хвілінку!

— Не дурэй! Што маці скажа, як убачыць?! — спакойна вырывалася Стэфка й рабіла сваё.

Як чыё шчасце!.. Марку, напрыклад, не шанцавала. З Невядомскіх акна добра відаць было, як выносілі ад Русецкіх машыну. Паставілі яе ў перадку й самі селі ў развалкі — Яська ■ нейкім незнаёмым чалавекам. Стэфка зачыніла за імі вароты й вярнулася ў хату. Неўзабаве пасля гэтага Марка, якому так не шанцавала, і прыйшоў да свайго пярвейшага сябра.

— Калі? — вельмі ж удала ў яго выйшла здзіўленне, ад Стэфкі пачуўшы, што Яську на засценак шыць забралі.— Я ж яго,— казаў,— сягоння бачыў вуліцаю йдучы.

— От толькі што...

Не адно Яські — і старых нікога дома не было: адна Стэфка. Тымчасам змяркалася. Цёмныя слупы ўжо шырока распласталіся па кутках. Стаяла Стэфка пры сваім ложку, каторы і ў будныя нават дні старанна засцілала. Не нізкага росту была дзяўчына, а куды вышэйшы за сябе мела пасаг: дзвём сціртам падушак на тым яе ложку мала чаго не хапала да самае столі, а на самым версе ў галавах маленькі, як вежа, і лёгкі, як лятунак, пуховы з вышытаю наўлечкаю ясек ляжаў.

Пачалося ■ таго, што як ралля навобмацак былі Стэфчыны прапрадзеныя пальцы.

— Не цісні. Шчыміць...— папрасілася яна.

Такі самы (без рукаў) быў у Стэфкі й святочны каптан. Дык Марка ўзяўся вышэй.

— Пусці...

Але таму, што ў Невядомскіх перад гэтым нейкі госць быў, і Марка дома падпіў крыху, ён на просьбу не ўважыўся, а мацней яшчэ абедзвюма рукамі каля плечукоў Стэфку ашчарэпіў, прыхінуў да падушак. Тое самае (што падпіўшы быў) прычынілася і здарылася гэты раз шмат такога, чаго доўга трэ было чакаць, каб яно само прыйшло натуральна й паступова.

— Ты што?.. Каб на мяне потым людзі пальцамі паказвалі?..

— Адчапіся, смала!.. Вунь нехта клямкаю бразгае.

Апошняе дапамагло. Стэфка вырвалася й пайшла на коміне запалак шукаць.

Ажно й праўда: у хату зайшла меншая Стэфчына сястра. Стэфка запаліла агонь, папраўіла падушкі, каб не было знаку, і думала, ужо ўсё. Але малая яшчэ непарадкі агледзела.

— Чаму гэта ясек доле валяецца?

Стэфка падняла.

У адным ражку на ясеку астаўся след ад шырокага мужчынскага абцаса. Стэфцы трэ было за гэта — на добры лад — злаваць. Ды нешта не збіралася злосці.

Малое папрасіла есці. Стэфка дастала яму нечага з печы і ў міску ўліла. Потым расказала Марку, што Новік, каторы ў блізкім двары кіраваў работнікамі, якія білі артэзіянскую студню, ды ў іхнюю вёску вечарамі гуляць прыходзіў, пытаўся ў бацькоў, каб да яе ў сваты прыйсці, а бацькі яму на гэта адказалі, што яе, Стэфчына, справа — яны не няволяць.

— Дармо, што з двара, а робіць як людзі,— казала й смела пазірала на Марку, а той свае вочы хаваў.

Пасля таго тыдні два саромеўся Марка Стэфцы на вочы находзіць. Русецкая заўважыла, што нешта тут нейкае — не адно, што Яські дома няма. Яна перш маўчала, а потым так і сказала:

— Што б з ім магло стацца?!

У будныя дні Марка з бацькам ездзіў у лес дровы секчы. Рана ўставалі. А ў Русецкіх ужо свяціў агонь. Яны з бацькам едуць паўз тыя бліскучыя вокны. Густа ды зграбна мароз палажыў на іх свае лапы. Але ўсё ж відаць, як дзяўчынін цень сморгае кудзеліну бараду, дастаючы з яе роўную, тонкую нітку, часам нахіліцца слінаю пальцы змачыць, каб не так прапраліся. Усе спяць, а ў Русецкіх досвіткам здалёк вокны, як зоркі. Бацька кіруе каня, а Марка на той бляск будзе пазіраць, аж пакуль не павернуць яны з вёскі на дарогу ў лес.

Потым ізноў усё стала на меры. Толькі Стэфка насіла каптан хоць з кароткімі, але з рукавамі. Часам паказвала яго Марку, што каля левага плечука былі знаць чатыры пальцы, а каля правага — усе пяць.

— От які ты нягодны!..— казала.

Тыя сінякі ў яе нешта доўга не сыходзілі. І Стэфка як бы гэтаму й рада была, што завялася невялічкая таямніца, якое, акрамя іх дваіх, ніхто больш не ведаў.

Пачаліся адлігі. Хлюпала пад нагамі, калі Марка йшоў у ток з рэзгінамі каровам трушанкі ўзяць. Чуваць было, як весела званілі шыбы ў Русецкіх. Вельмі ж моцна Стэфка гасіла набіліцамі.

Ішла вясна ў наш край. Усяе гэтае гасціцы яшчэ не было, але на дварэ ўжо блішчэла. А ў хаце ад гэтага яшчэ цямней, цяжэй знайсці нітку, калі часам парвецца ў бёрдзе. Але Стэфка спяшалася, каб хутчэй да праўдзівае, да зялёнае вясны скончыць. Там, па Вялікадні, як усеюцца і да касавіцы шмат будзе прыдатных свят: ушэсце, тройца, сёмуха, дзевятнік, дзесятуха... На тыя святы мела дзяўчына вялікую надзею — тым больш што Невядомскіх Югаля Стэфчыну маці й перад людзьмі й сам-насам сваціцаю звала.

— Дай божа! — казала на гэта Стэфчына маці, а дачка часам крадкам пазірала на тыя сінякі каля плечукоў. Ужо толькі ведаючы, дзе яны былі, можна было тое месца адрозніць, але Стэфка ўсё яшчэ не надзявала каптана без рукаў, і хоць значна радзей, але ўсё яшчэ дакарала Марку:

— От які ты нягодны!.. Гэта ж трэ было так?!.

І вось ціхія дажджы ды раптоўныя навальніцы змылі смугу з зямлі, што засталася была ад зімы ў спадках. Маладая травіца дружна ўзялася зелянець. І сады цвілі. Цешылася з гары на чысты, спакойны свет свойскае, не пякучае сонца. Яму напаказ яшчэ й Стэфка свой пасаг у садок вынесла. Гэта было хоць і неўзабаве, але ўсё ж па Вялікадні ўжо — толькі Стэфка нічога яшчэ не прыкмячала.

Усё было проста. Не было нават куплёнае фарбы ў тыя мітуслівыя гады, як пасталела Стэфка. Прадзедавым спосабам, забытым, але цяпер у патрэбе прыгаданым, чарніла яна маткі мучаном, што на балоце расце, а як выткала — выйшла чарней багны, чарней сырой раллі. Жаўціла альховаю карою, а калі цяпер на жэрдачцы павесіла, аж няспрытна яму там, угары, стала — у дзяўчыны колер выйшаў ярчэй і лепш, як у самога сонца. Бяліла лугам, паласкала ў крынічнай вадзе, а выйшлі дзяўчыніны абрусы траха не лепей за вішнёвы цвет, на каторы цяпер самая пара была.

А вышыванне на ручніках! Да чаго ж можна хітра выблутаць наш сціплы нацыянальны ромб і нарасістую лукатку! Усё ж вялося крыху ў Стэфчынае маці й добрай, перад вайною купленай фарбы. Так што з

параўнаннем наконт вышывання трэба крыху пачакаць. Яшчэ не пара. От як зацвітуць сенажаці, тады якраз такое прыгажосці і кветак можна будзе дабраць.

Урэшце: думаеце, гэта ў Русецкіх садку Стэфчын пасаг развешан быў? Дзе бачылі! Гэта сушылася й так на шчэпку высушаная дзяўчыніна маладосць. Не абрусы, ручнікі, посцелкі,— а дні, вечары, досвіткі ад тых дат, як паднялася крыху на ногі.

«Усё ж тваё ды мінаецца...» — сквапна пералічвае вясельная песня дзявочае жыццё: там і познае пагулянейка, й кавалерскае прывітанейка, і шмат усяго ўсякага, чаго так скупа прыйшлося на Стэфчыну долю. Дык не магла яна счакацца, каб на самай рэчы мінулася ўсё тое ды каб ёй песню [illegible] доўгім тым пералічэннем спелі.

Бо ўжо ўсё было гатова.

Калі Стэфчыну маладосць — усё, што мінулася,— назад у куфар спакаваць, цяжка будзе прыданым тую маладосць, нават прасушаную, падняць, каб на воз паставіць.

— Вам сягоння з дадаткам,— здалёк паштар пацешыў Марку.

— «Сейбіт» ці «Плуг»?

— Мудрэй таго.

Марка вытрас з сярэдзіны «Беларускай вёскі» ліст.

У Шылавічах самая праўдзівая пошта была: сквапная навіну пачуць і ахвотная навіною пахваліцца. Шмат Гаўрушчыку, каторы яе насіў, усяго ўсякага можна было сабраць, два разы на тыдзень гэсць вёсак і тры пасёлкі абыходзячы, робячы кругу 21 вярсту.

Гаўрушчык ведаў, ад каго, але ўсё ж:

— Ад брата? — спытаўся ў Маркі.

— Але.

— Цікава: што піша,— падсеў ён побач на прызбу.

Ён яшчэ дома цікавіўся гэтым лістом. Як выняла жонка з печы звараны свінням жалезнік бульбы, Гаўрушчык пагрэў ліст над параю. Адклеіўся лёгка. Прачытаў, нічога не зразумеў, назад заклеіў. А тую бульбу, як жонка ў ражку высыпала, узяў сечку і дробненька на цеста ссек.

Думаў Гаўрушчык што-небудзь пэўнае ад Маркі дайсці, але перад гэтым Югаля Невядомская бедавала, што сама ўжо нядужа гаршкі цягаць з печы, што патрэбен у хату сем'янін,— і пазірала на Марку, так

гаворачы; той аж палажыў лыжку й без пары злосны вылез з-за стала, бо гэта гаворка здарылася за полуднем. Пасля ўсяночнай ды, тым больш, на пасёлак з валачобнікамі схадзіўшы, Марку было прыкра слухаць строні таго выключэння, што яны Русецкім не свае. І толькі таму, што таго разу быў вельмі ж харошы сонечны дзень, хутка прастыла злосць, але яшчэ самы кончык яе тлеў, бо:

— Эт! што ён цікавае напіша?! — Таму, што быў не ў гуморы, палажыў Марка братні ліст у кішэню.— А што ў самых чуваць? — пад сонца ад тае злосці далей-болей сыходзіў прыкры цень, і хлапцова аблічча дабрадушна праяснівалася.

— Старыя кавалкі...— цяжка было пакрыўджанаму Гаўрушчыку ўставаць з нізкае прызбы ды без нічому брацца далей. І калі ён, хаты дзве памінуўшы, азірнуўся — тут жа на прызбе пад лагоднае сонца чытаў Марка братні ліст.

Марка адпісаў не хутка і не падрабязна, а збольшага. Лепш паглядзім самі, як і што на добры лад павінен ён быў бы адпісаць Данілу ў горад.

Пачаць Марку трэ было ■ таго, што гэна адно яны там, у гарадох, пустадомкамі парабіліся. А тут (не адно ў Шылавіч, але і ў вакулічнасці) яшчэ такія дамаатуры, што — проша прыехаць паглядзець!..

Або ж гэтак ужо спатрэбіўся падсітак Югалі! Гэтак яна тае сітніцы спячы нажадала!.. І чаму бо якраз тады, як Стэфка свой пасаг у садку вывесіла, пайшла Югаля да Русецкіх у пазыкі?!

— Вось арцабовыя... от гэта васьмінітныя... гэта ў чатыры ніты тканыя, тыя на дошчачку перабіраныя, а вунь у елачку,— надта ж ахвотна вадзіла суседку Стэфчына маці й паказвала, а потым: — Зайдзем у хату,— запрасіла, калі ўжо ўсё пераглядзелі ды перамацалі, як тонка й гладка.— Я там,— кажа,— падсітка пашукаю.

Толькі шукала Русецкая таго падсітка вельмі дзіўна: адчыніла ў стале шуфляду. Падсітка там не было, дык дастала талерку накроенага сырога сала.

— Каб іх боль ела!..— сварылася на дзеці.— От з'ёлкне, у століку стоячы, а каб хоць адну скварачку ўзяло каторае. Усё ім нясмачна!.. усё вымышляюць!..

Здавалася: дза б ім з чвэрткі й выстранчыць так штодня сала есці ўволю. Хто б гэта нават мог паду-

мацы! А Русецкай было не слабо й пабажыцца ў патрэбе, што яно так.

Стэфчына маці на прыпеку пад трыножкаю развяла агонь ды паставіла на скавárадзе тое сала падпячы крыху. А ўсё шукала падсітка. Адчыніла насценную шафку. Ажно падсітка й там не было. Дастала замест яго чорную пляшку, у каторай цяжка было пазнаць, якая яна: поўная ці гуляшчая.

— Гэта ж,— кажа,— наш стары крыху слёз выціснуў к святу.

Зусім у непадобную пару — пад паўдня — выскачыў у Русецкіх дымок з коміна. Яму, такому жвавамý, хацелася дапяць траха не да самых хмар, што былі, радзей яго самога, састоіўшыся на высокім небе таго дня. Але нагадзіўся вецер, каторы гэтаксама свой нораў мае,— садзьмуў неўпынёнага з гордае высі й па зямлі паслаў мізэрным туманам. От тут з ім на суседнім двару й размінулася Русецкіх малое ды знюхала, што госць у хаце: бо вельмі ж у смачнае — смажанае й крыху прыгарэлае — укачаўся дым, аціраючыся каля скаварады.

Гэтага дыму ні ў якім разе не павінен быў прамінуць Марка. Бо ў адных дэматуроў вядзецца ён такі смачны. А пустадомку хоць праз ліст яго знюхаць было б вельмі прыемна.

Той дымок і самай меншай Стэфчынай сястры прыйшоўся дасмаку. Пакінула яна сваіх сяброўак за дзіцячаю — вунь якою цікаваю — гульнёю ды прыбегла ў хату.

Перш моўчкі свяціла малое на мацеру ласымі вачыма, але маці збірала відэльцамі з скаварады назад на талерку скваркі, з якіх так смачна капала, і нічога не заўважала. Тады дзяўчынка пакрысе пачала егліць:

— Мамка!..

— Чаго табе? — не было ніякае спагады ў яе голасе.

За нейкаю патрэбаю Русецкая выйшла ў сенцы. І малое за ёю. Ажно й па ўсёй патрэбе было — ўгразіцца дзіцяці:

— Папрасі ў мяне толькі перад чужым чалавекам!..

Выштурхнула за дзверы.

— Бяжы гуляць. А калі што астанецца, то гэта будзе на тваю долю.

— Чысценька, чысценька...— патом прымушала яна Югалю.— Што ж ты гэта, мая любая, адно прыклеп робіш?!

— Калі ж надта моцная... Вельмі ж ужо твой стары на яе майстар добры.

— Закусуй, суседка,— нешта не вельмі Русецкая турбавалася аб таей у сенцах дакляраванай долі: бо вельмі ж гасцінны наш народ.

— Дзякуй, сваціца. Я й сама стараюся.

Думаеце, калі моцна, як праўдзівыя п'яныя, на ўсю хату гаманілі суседкі, дык так, не падумаўшы, і ляпнула тую «сваціцу» Югаля Невядомская. О, не! Яна цвёрда наважыла прыскорыць падзеі, каб паправіць тое прыкрае выключэнне ў Шылавічах. А Русецкая ўсё дачкою хвалілася:

— Як я ж ды мая Стэфка,— было ў яе самае частае слова.

Югаля патаквала.

Такія добрыя яны абедзве былі! І не верылася цяпер Невядомскай, што праўду дзейкаюць людзі — нібыта Стэфчына маці ведзьма: на Купалле робіцца чорным катом ды ходзіць чужыя каровы даіць.

Але каб згулялі Маркава з Стэфкай вяселле, тады праз год, праз паўтара магла б і гэта памоўка згадзіцца, каб выкінуць на вока, калі чаго з нявесткаю не падзеляць. А цяпер Югалі было проста прыкра, што ў памяці круцілася невядома што.

Нашто таіцца: хоць па крысе, але назбіраліся суседкі. Толькі п'янства не пашкодзіла Русецкай падсітак знайсці, такі вісеў ён зусім навідавоку — на цвічку над паліцаю. А столькі шукала!

Пра ўсё гэта не павінен быў Марка забыцца брату напісаць. Тут, можа, што яшчэ гусцей як у тых, катория на дзяды дзедаваць садзяцца.

І павінен быў яшчэ Марка на братняе пытанне адказаць, што (хоць старыя й кажуць: цяпер не тое, што за іхняю бытнасць у маладосці — прыціхлі крыху песні) — яшчэ далёка вечарамі й ад цяперашняе весялосці яха йдзе.

У свята ў Шылавіч свае хлопцы рэдка стыкаюцца гэту вясну. Вечарамі дзяўчаты астаюцца толькі з сваімі песнямі ў кампаніі.

Як вецер ■ таго боку да ціхі дзень, у Шылавічах можна чуць, як у Захвойніку скрыпяць вілы ў студні,

калі там чэрпаюць ваду: цераз балота нацянькі, цераз тарпавыя канавы туды блізка — гэта толькі дарогаю кружно. Дык няўжо ж адгэтуль не чуваць было там дзявочае песні, якая так злосна моцна спявалася, што нават і проці ветру магла цераз балота, тарпавыя канавы дайсці?!

Я павешу ключы
Проці цёмная начы:
Няхай любы ногі зломіць,
Да другое ідучы.

Толькі там было не да гэтага і ніхто не ўслухоўваўся. Спанатрылі шылавіцкія хлопцы туды на гушканку хадзіць. І Марка на пасёлак ісці быў першы. А як выявілася, на гушканцы высока падымацца ён не мог: круцілася галава й брала на ваніты. Ён раз папрабаваў, і стала нядобра — аж пайшоў да Дзяргая ў хату (насупроць якое на выгане й стаяла гушканка) вадою прагнаць млосць.

Была маладзікова — самая святая нядзелька. Вылез ад мачання з-за стала Дзяргай. Зняў ён з трамы Коласаву «Новую зямлю» і, калі Дзяргаіха прыняла са стала ды чыстым святочным абрусам заслала, сеў у рагу стала на ўдне каля акна. Расхінуў кнігу на тым месцы, дзе ў нейкі прысвятак на гэтым тыдні спыніўся быў. Так яго Марка й застаў, чытаючы, зайшоўшы напіцца.

Не пытаў, як Марку... Калі шчыра казаць, аўтару б хацелася самому на Невядомчыкавым месцы быць, ды не «Новую зямлю», а сваіх «Пустадомкаў» у пасялкоўцавых руках бачыць.

А можа... «Можа, калі й на наш гразкі, скапытаваны двор скіне пава залацістае пяро». І калі дзе заваляецца гэта нішчымная мая забаўка, яна тады будзе ў час. Будзе вельмі цікава ў лагодны па кручаным часе прачытаць. А пакуль што — хай ляжыць: есці не просіць. Можа, чаго далежыцца.

Некалі тое будзе...

Хаця... пакуль там што, не маю нічога, калі хто й цяпер перагорне гэтыя балонкі. Ану, можа, і усяго гэтага ды вырастуць шындзёлы тугі й замілавання, возьме рупнасць па дому.

Тады аўтар будзе вельмі ўсцешан, што не на ўзвей вецер было ягонае марудства, не марна па зернятку, па дробненькім збіраў ён, як крумкач косці, да ладу

даводзіў: і зялёныя веснавыя дні, і прапаласканую навальніцамі, высцебаную маланкамі свежасць свету.

Дый Марку ў пасялкоўца спадабалася: і сам гаваркі «амерыканец», і што ён «Новую зямлю» чытаў.

— Тут у вас бог жыве,— казаў Марка строні таго, што поле на пасёлку вельмі ж блізка: на ганку стаўшы, можна з самае дальшае нівы палуднаваць у хату клікнуць.

Але нагадзіўся на гэту гаворку Дзергаёў малы, каторы на Вялікдзень валачобнікаў з-за коміна слухаў. Ён хадзіў трэцюю зіму ў школу і быў к таму лёгак на язык.

— Дзе той бог? Настаўнік казаў, што няпраўда — не заходзіць да таго бог, у каго на сёмуху май натыкан.

— Хай сабе...— быў самому Марку блізак малога задзёр.— Я кажу адно, што вельмі ж харашо ў вас.

## 15

Няўзнак міналі прыдатныя святы: і ўшэсце, і сёмуха, і дзевятнік, і дзесятуха. Траціліся марна Стэфчыны надзеі.

А там пачалася вайна. Самая вясёлая вайна ў свеце. Без ніводнае кроплі крыві вайна! — хіба толькі каторая з жней ненарокам свой палец сярпу падставіць: то тая кроў будзе за дурам. Бралі поле, як кажа жніўная песня, у палон. Вайна самая пераможная! Палонныя туга вязаліся ў снапы й нават весела пры гэтым шасталі сваімі каласістымі галовамі.

На дажынкі паклікалі Невядомскія Стэфку Русецкаўну. І, можа, лепш было ёй, што марна мінулі прыдатныя святы, бо якраз Стэфцы трапілася нарваццa на залом. Мог быць ён многа горшы, каб каласкі былі ў зямлю паўтыканы, то гэта было б на смерць, ато яны былі адно абломаны — на галодны год ды на ліхія пакуты, значыць. Стэфка паклікала жней да свае пастаці на параду. Але знаўцаў па гэтай часці сярод іх не знайшлося.

І хлусілі потым жнеі, зацемна дадому вярнуўшыся, калі хваліліся гаспадару:

Змялі поле мяцёлкамі —
Прыйшлі дамоў з вясёлкаю,—

бо не чыста на полі пасля іх стала, а пакінулі пры мяжы з тым заломам невялічкую лапіну. Але гэта не вадзіла гаспадару патрабаванне жней спраўдзіць:

Тады казаў: жнейкі, жнеце,—
Цяпер кажы: жнейкі, пеце.

Апыталі Невядомскія славутага варажбіта, над каторага адрабіць і зрабіць таму, хто ламаў, не было большага майстра. Але такі ўжо Невядомскіх лёс: шанаваць бы сябе павінен такі знакаміты чалавек, а ён пакваліўся тае няшчаснае горасці крыху выціснуць, ды паленаваўся паглядзець перад гэтым у сваю чорную кнігу, што ў яговым лёсе напісана на гэтакі выпадак. Так яго й папалі з панятымі пры самым апараце, падкладаючы дрэўкі пад гаршчок. А цяпер, як Пракопу спатрэбіўся, рэдкі той чалавек недзе адрабляў за свае гультайства — што ў чорную кнігу ў пару не паглядзеў.

Так залому не адрабілі, й наканаванае пачыналася без ніякіх перашкод. Увосень прынеслі Невядомскім выканаць.

— Людцы мае! Ды што вы?! Мы ж усе выканаем, пакуль гэта выканаем...

Але — няма дуры!..

— Ды ўсіх нас на могліцы вывезуць, пакуль гэтульки вывезем.

Але таму, што ў заломе каласкі ўсяго абламаны, а не ў зямлю заткнёны былі, Невядомскія не сканалі, а выканалі, не іх, а яны вывезлі.

Толькі ўсё гэта Данілу, гарадскому Невядомчыку, больш як каму — было непрыемна. І турбавала.

Ён на Берасцянскай ці то Маляўшчыцкай нейкай вуліцы знайшоў сабе спакой, які яму даўно рупіў. Дык баяўся, таго спакою каб як не парушваць.

На Маляўшчыцкай ці то Берасцянскай вуліцы ў Даніліхі не такое, як у Данілы — мужычага сына,— а поўнае, фіксаванае дзяцінства было. На іх дваіх, калі пераглядалі, з старое карткі пазірала белагаловае дзіця ў светлай кашульцы, ашчарэпіўшы аберуч вялікі палец на пульхнай назе.

А яшчэ ў Данілішыных бацькоў стаяў на камодзе пузаты будзільнік. У спакойным, заваляшчым іхнім жыцці ніхто не памятае, з якога часу адным звагам тупае ён. Да яго нага шчабятання так прывыклі, што

яно было цішынёю. А каму патрэбна была праўда, мусіў будзільніку пакланіцца: стаяў, бачыце, крыху занізка.

Адзін Даніла знепрывычкі, калі яшчэ хлопцам быў ды хадзіў да будучае Даніліхі, таей праўдзе не даваў веры. Калі б ён ні прыйшоў, усё трапляў то на полудзень, то на падвячорак — усё за сталом іхнюю сям'ю заставаў. Данілу здавалася, што той будзільнік ад яды да яды без памяці шпарка накручвае свае шылаватыя вусы, а як Данілішыны бацькі, ягонае праўды дазнаўшыся, за стол сядуць, робіцца ціхі — паўзе, як лапцяваты той чорны таракан па сцяне.

— Ну калі вы, скажы, жывяце? — пытаўся Даніла ў будучае Даніліхі ў тых невялічкіх антрактах паміж полуднямі й падвячоркамі.— Вы ж усё палуднуеце...

А здарыўся адзін такі полудзень, што вельмі ж зацягнуўся. Здаецца, тады зусім не было антракту паміж ім і падвячоркам, ды не ў памяць — ці не толькі пасля падвячорку адразу й вячэру падалі. І гэта без перапынку (аж пашчэнкі панавярэджвалі) яда — дайце рады! — звалася Данілавым вяселлем.

Чаго было лепшага хацець?! Невядомскіх пустадомку прыйшлася жонка (будучая, як мае быць Даніліхаю стала) не такая аздобная, каб хто на яе паквапіў; пакоік, што ў Данілішыных бацькоў знайшоўся, не такі быў прасторны, каб камгас за лішніцу жыллёвае плошчы да яго прыдзіраўся.

Але ніякі спакой, ніякая лагода не затаймуе ў воўка тугі па тым кусце, вакол якога прайшло ягонае, хай сабе і не фіксаванае, дзяцінства. Гэты куст крыху падстрыгчы, ахаяць — каб не такі прыкметны, а ўсё ж любы, так і заставаўся й выбраўся Даніла-пустадомак.

Хоць пазычце, ды майце хвіліну ўвагі.

Скажам, вы самі прыехалі на вёску. Лучылі якраз у такую пару, як Даніла Невядомскі, калі вясна сама што пачынае, дзе толькі льга, зелянець. І пяхотам ішлі з вячорнага позпага цягніка за 15 якіх-небудзь гразкіх вёрст. Вам усю дарогу свяціў шчарбаты апошняе квадры месяц на шырокім — усеагульным, так сказаць, небе. Але прыйшлі бліжай, і той самы месяц ублытаўся, бо няспрытна яму ■ тымі ражкамі лазіць праз разьгатае поле. Гэта ваша родная, скажам, вёска.

Вам рады, як бацька Данілу, заспаныя сваякі. Паляць лямпу. Распытваюць няшмат. Гэта назаўтрае, на

паслязаўтрае адкладаецца, а цяпер і самім ім трэба, а тым болей вам, паспаць, адпачыць з дарогі. Прыносяць млека пасілкавацца й сцелюць пасцель. Ложак на вас не прызапашан, дык прыстаўляюць да лавы зэдаль, і выходзіць вельмі прасторна. І ні знаку, што на пусты канец усяго гэтага залом ужо заламаны.

Наўтрае ж пачынаецца раніца зусім не тады, як развіднее ў хаце, а як на вас, соннага, першая муха зляціць. Гэта крыху пазней. Цяжка толькі першай мусе раніцу пачаць, а наследавальніц першай, рашучай, знойдзецца шмат. І топчуць усім гуртам ваш сон. Крокі іхнія лёгкія — толькі след вельмі востры.

Маці, як спаняламу, наліла ў міску цеплаватай вады, але Даніла, маленства паганяючы, пайшоў мыцца пад студню да цэбра.

Быў свет, як у тым нефіксаваным дзяцінстве: лёгкі і ясны...

За навіну пачуў Даніла, што спяваюць птушкі, што паўнюсенек свет імі. Хаця птушкі больш шчабяталі ды ціўкалі, як спявалі. Моцазна, на ўсю смелую! — адыхтар у дзяцінстве — упэўнена, што ўсім ад іхняга ўтрапення будзе прыемна, а калі каму прыкра — то толькі тае бяды! Быў свет такі гаманкі. І ясны, калі глядзець на яго сквапнымі вачыма.

У хату трапіў Даніла якраз на першы блін. Гэта йзноў ■ тае пары, калі ніякіх заломаў і пачату не было. Данілу цяпер першы блін мірна прыйшоўся, а некалі колькі было спрэчак ■ братам — тым самым (сталым цяпер) Маркам — аж маці мусіла на гэты конт устанавіць чаргу (дзень — аднаму, дзень — другому). Так ад першага бліна адступілася ўсякая цікавасць — яго не еў ніводзін, бо ўсё на свеце можа сапсаваць чарга й норма.

Як бы і не было залому, ніякае наканаванасці — не марнае (колькі трэба: калі — жменю, калі — прыгаршчы, але ўсякі раз папоўніцы бранае) цягнулася жыццё. А што гадзіннік у Невядомскіх на сцяне целяпаўся, дык гэта адно дзеля прыклёпу. Жылі яны на цень глядзя. Пастушкі тут не счакаюцца, калі можна будзе цераз свой цень пераступіць, каб пусціць паству дадому. Але самы дакладнейшы цень быў у суседзяў на закоце.

Гарадскі Невядомчык заўважыў, што ў вясковых бацькоў больш тыдня, як каляндар не адрываны. Калі

пачаў ён там наводзіць парадкі, агледзеліся, што й гадзіннік уночы стаў — учора забыліся падцягнуць яму вагі. Але дзень быў надзіва, й цень выразны. Вілачкамі роўна на сярэдзіне самае высшае дошкі над акенцам у Русецкіх на закоце стаў цень. Паводле яго Пракоп — гадзіннік роўна на 12, і яшчэ яны не спазніліся сесці палуднаваць.

16

Ніхто б не сказаў, што Нічыпар Высаковіч савецкі службовец, каб на ім не фрэнч. А так — адыхтар: у падоле дзве вялізныя торбы на таей адзежыне нашыты і на грудзях дзве — мала чаго меншыя. Сядзеў ён сціхатою за сваім, не вельмі патрэбным, сталом у Грукаціцкай воласці ды памаленьку развязваў задачы ■ Шапашнікава-Вальцава ў тоўсты агульны сшытак. Была восень. Захаладала крыху, дык так Высаковіч і сядзеў, не распрануўшыся.

— Ну як? — пытаўся звычайна загадчык валаснога аддзела народнае асветы, зайшоўшы да Высаковіча.

— А нішто сабе. Правільна выходзяць.

Наогул жа Высаковіча турбавалі рэдка. Яму было прыпаручана шлюбы ды разводы запісваць, даваць пашпарты на той свет. У 21-м годзе яшчэ мала чаго пэўнага ўсталявалася на свеце. Не спяшаліся надта жаніцца. І радзіны здараліся нячаста. А наконт смерці — у Грукаціцкай воласці ўпарты народ: каторыя былі нядэшлыя, у вайну адсыпаліся, й засталіся цяпер адны здараўцы.

Загадчык аддзела народнае асветы — і так жвавы — аднаго разу шпарчэй як заўсёды забег на хвілінку (ён усюды быў толькі хвілінку) у бязлюдны Высаковічаў загс. Узяў расхінёны ў самым канцы Шапашнікаў-Вальцаў. Паглядзеў назвы. 2-я частка — было даволі аўтарытэтна, і загадчык аддзела народнае асветы афіцыйна паведаміў, што Высаковіч прызначаецца за выкладчыка фізікі й арыфметыкі ў гарадской школе, якую ягоны аддзел адчыняе ў Грукаціч.

Толькі і настаўнікам стаўшы, не развітаўся Высаковіч з тым сваім таўстым сшыткам. Насіў яго з сабою ў клас. Прыглядзеўся вучням.

Бывала, у тых не выходзіць задача.

— Адказ няправільны,— першае дзяцінае апраўданне ў такім выпадку.

Але Высаковіч не дасць хлусіць. Ён расхіне свой тоўсты сшытак, паглядзіць там праўды і скажа:

— Маніш. У гэтай задачы адказ правільны. Яна ў мяне добра выйшла.

От за што яго і зненавідзелі: што хлусіць не даваў. Пусцілі дзейку, што ў Высаковіча не ўласны сшытак — ён у некага падседзеў гатовыя, зробленыя задачы, а сам нічога не ўмее, і не слухалі настаўніка, стараліся ўсё рабіць яму наперакор. Вядома, не адставаў ад усіх і Даніла Невядомчык, каторы тыя гады вучыўся ў Грукаціцкім гарадскім.

Абрыдлыя з ненавіднымі дзецьмі міналі Высаковічавы настаўніцкія гады. Не адна вясна з іспытамі ды розным школьным утрапеннем сцерлася няўзнак. А Высаковічавы, яшчэ ў воласці за тым не вельмі патрэбным сталом распачатыя, лятункі пра універсітэт так і не спраўдзіліся. Усё спаранджаўся... А гэтага году, добра разважыўшы, ён іх і зусім адцураўся.

Тым часам самая праўдзівая вясна была на дварэ. З'явілася яна такая Высаковічу неяк раптоўна. Усё была гразь, разводзіца, туляўся снег, дзе большы цень, дзьмулі золкія вятры. А тут ні з таго ні з сяго агледзеўся закажанелы настаўнік аднаго дня, пасля лекцый са школы выйшаўшы, што цёпла і сцежка прасохшы, а снегу й праз лякарства нідзе не знайсці. Пачаў рупіць, цяжак зрабіўся Высаковічу з грубога салдацкага шыняля фрэнч на плячах. Ён яго ўжо не насіў колькі год, а цяпер уздзябурыў быў.

Што далей, то цяплей, харашэй станавілася. І хоць лятункаў пра універсітэт адцураўся, але так, як даўно рабіць налажыўся, зашчапіў на кручок сваю адзіноту й Рыбкіным засталучыў спакуслівы маладжавы свет. А той фрэнч, як даўней, ускінуў на плечы, хоць і не холадна было.

Толькі Высаковіч з сваімі канспектамі разлажыўся, як чуе стук. Прыходзяць і клічуць яго ў парадку грамадскае працы.

Высаковіч спытаў:

— На дварэ не холадна? — бо да Шылавіч за блізкі свет было.

— Вецер ёсць...

А ў тыя гады — хай яго кадук з ветрам! — павее

не з узгодненага боку... і пакуль той флюс — так ухіліць у што-небудзь небяспечнае. Так што ад усякае такое хваробы з гарантаванага матар'ялу надзеў настаўнік той свой фрэнч.

Калі прыйшлі да Невядомскіх, тыя вазілі гной. Гарадскі Даніла дапамагаў бацьку накідаць. Дык так яны абодва й выйшлі з сахарамі з хлява.

— Чаго? — пытаецца Пракоп у прышлых.

Так і так — кажуць...

На сваім вяку вока нікому не запарушыў Пракоп. Ён і цяпер пакорна вадзіў ды ўсё, што пыталі, паказваў. Не адрабіў залому, як пара была, дык от цяпер рады не было ад начар. Але Высаковіч, з сваім былым вучнем у хаце застаўшыся, непрыкметна адбіўшыся ад тае табаны, зусім іншых шукаў тлумачэнняў.

— У людзей, асуджаных на згубу, гора смешнае,— казаў ён.— Вы паглядзеце на сваю маці. Яна плача па абразіках...

Праўды: Югаля кінулася была здымаць з кута, каб забраць іх з сабою. Асабліва ёй шкада было таго, каторы з матчынае хаты з сабою прывезла. Нязграбны — закрыты,— ён з самага малку бачыў яе кожны крок. Толькі цяжка было на гэта шукаць тлумачэнняў у Югалінай цёмнай, курнай душы.

У казцы на панава пытанне: як вёска трымаецца,— мужык адказаў:

— Плот за плот, вугол за вугол — так і трымаецца.

А цяпер на Невядомскіх — на суседнюю — бяду з-за кожнага плота свяцілі цікаўныя, а з-за кожнага вугла блішчалі нажаханыя вочы. З гэтымі вачыма Югаля й пачала сварыцца.

— Чаго вы цешыцеся з нашае бяды?!

Але быў пры ёй Марка — неадступны сын.

— Ціха, маці. Не гняві светак,— нават сурова сказаў ён.

— А маё ж ты полейка!..— галасіла Югаля, як па нябожчыку.— Ды мне ж цябе болей не рабіць... А мае ж вы сцежачкі!.. Ды мне болей па вас не хадзіць... Мая ж ты адзежка!.. Ды мне болей цябе не насіць...

У горы пазнаюцца лепшыя й горшыя дзеці. Марка ні на хвілінку не адступаўся ад мацеры. Усё разважаў:

— Мамка. Годзе... Ну будзе вам!

А Даніла — каменнае яго сэрца! — перадзяваўся. Ён скінуў шарачковыя нагавіцы й зрэбную кашулю, што знарок узлажыў быў дзеля каравай работы. Мыўся ды надзяваў ізноў свой гарадскі гарнітур. Выкладчык жа фізікі і арыфметыкі казаў яму:

— Так трэба горач рассыпана найдрабнейшымі кроплямі. Па кроплі ўсім прыйшлося. І ад тае кроплі ўсе пачуваем цяжар. Але трэба падначаліцца. Усё вялікае зграбалася сабе нявольнымі рукамі. Прыгадайце званіцу, якую нашы суседзі заўсёды ў прыклад бяруць.

— І дурное...— наконт тае званіцы й тых велічаў злосна адгукнуўся Даніла.

— Паглядзеце, як прыгож, як зелен свет! Жыць,— казаў закажанелы,— ды яшчэ як! з берагоў выліваючы, трэба. Усяго выракайцеся: радні, жалю... Вам можна дастаць даведку. Старайцеся. Вы яшчэ не асуджаны на згубу. Вам прыйдзецца ўсяго адна — роўная для ўсіх — кропля. І затаймуйце абурэнне, што вашым бацькам ■ лішніцы прыйшоўся паўнюсенек кяліх.

Даніла, можа, й паслухаў, бо таго ж самага дня заспяшаўся, каб хаця не спазніцца на самы першы цягнік.

Бацькі яшчэ некалькі, але зусім адменных, дзён пражылі ў сваёй дамоўцы. І ў тым нязвыклым жыцці каляндар займаў непамернае месца. Ужо з календаром акуратныя былі Невядомскія, бо вельмі ж кароткі мелі тэрмін. А пасля яго Даніла атрымаў ад брата паштоўку з неязджалае даўней станцыі. Таму, што ў заломе каласкі адно абламаны, а не ў зямлю паўтыканы былі, Марка пісаў, што жывы й здаровы яны ўсе.

«Бывай!
Паляцелі ў халодны вырай»,—
як бы ні было крута, хай сабе горкі, але ўсё ж з нашым народам застаецца гумар.

З самога ж выраю да Данілы адзін за адным — цэлым шнурам ляцелі лісты. Там вясна не мела асаблівае пыхі, бо вырай — халодны. Таму Марка ў тых лістах больш пра сваю вясну пісаў:

...Ды ці тое яшчэ ў нас, на Крэвіі!..
Дома сабе, на бацькаўшчыне...

У нас усяк добра:

Няма лепш, калі сонца, адным словам, прыгрэе, калі высока намеценую, туга ўезджаную дарогу папрамываюць раўчукі, а ў вёсках каля плаксівых капяжоў пачнуць з жалезнякамі ўвіхацца рупныя гаспадары, паказваючы зручнейшую сцежку свавольнай вадзе, калі ў лагчынах ■ снегу хлюпкі кісель завядзецца ды ўзгоркі парыжэлыя свае лабэціны здзіўлёна ўверх пад спагаднае яснае сонца прасунуць. Каюк зіме!

Але не пагана, калі й нахмурэе, калі ў полі й прыслепіцца сівер да падарожнага шчок, хопіць за голыя рукі: а не цурайся без пары рукавіц! Хто плявузгаў, што гэта блага?! Хай сабе. Хай назбіраецца пад цяжкія, што, як падшываныя коўдры, звіснуць над зямлёю, хмары паўнюсенька туману. Ён снег — абрыдлую гэту зімовую слату — з'ядае. Каму яна міла й патрэбна напрадвесні, у сакавіку месяцы?! От так, як у гаршку, пабудзе дзён колькі, а там выблісне сонца — праясніцца, выпагадзіцца. Глядзіш — не адно ўзгоркі, але ж і на роўным полі гола цэлымі лапінамі. І невядома: якія — хмурыя ці ясныя дні вясне болей прыдбалі.

Ну куды там што проці бацькаўшчыны?!

...І блізка не стаяла!

Тыя ■ выраю лісты толькі ж вельмі паронкамі аддавалі. Відаць, быў у Менску — ды ці адзін! — Гаўрушчык.

А яшчэ пісаў Марка, што яму надта ж сняцца сны. І ў кожным яму ўдаецца непрыкметна вылузацца. Тады бывае ў знаёмых дарагіх мясцінах. А далей пачынаецца самае пакутнае: як бы назад у той халодны вырай вярнуцца, й каб не дазналіся, што яго там некаторы час не было. Толькі ачнуўшыся, пазбываўся Марка таго клопату.

Пісаў яшчэ Марка й пра сонца:

Я не магу... Не магу, калі надвечар бачу яго на захадзе. Гэта ж недзе там над нашым, Шылавіцкім, борам свеціць нашай зямлі, нашаму народу. Ледзьве ногі валачэш, а вабіць... Як воўка да таго, усім вядомага куста. Цяжка вытрываць — тых пакутных сноў не спраўдзіць. І тое можа стацца, калі не ў гэты чац-

вер — цераз сем (а то і ў дубальт таго) ненавідных нядзель можа выйсці з цярпення.

Дзеля чаго, па-твойму, хоць бы тое самае маею дарогаю штодня (ды яшчэ так навідавоку) ходзіць? Гэта яно праз лясы, праз горы сцежку цярэбіць — каб памятаў; каб не зблудзіў!

А мяне яшчэ сагрэе і не гэта — сваё сонца.

Ты ж, здаецца, бывала, дадому прыехаўшы, часам да Русецкіх заходзіў. Памятаеш сціпрту падушак у Стэфкі. У маіх цяперашніх снох і яны бываюць. Ды не толькі ў Стэфкі... Ці ў аднае дзяўчыны ў нашым краі мяне не счакаецца пасажная падушка, на якую схілю [redacted] дарогі зморaную галаву! Але ў Стэфкі — ты памятаеш? — ясёк... Маленькі такі, недасяжны — на самым версе... Можа, й на ім давядзецца адпачыць, бо далёкаму госцю — усё найлепшае.

Таго быць не можа... Яшчэ прайдуся па сваёй зямлі. Яна лёгкая хадзіць, а вочы прысыпаць і пагатоў — пухам!.. Калі побач з прашчурамі не пусцяць легчы, я згодзен і пад плотам — але пад сваім! З нас такіх не адзін, можа, курган завядзецца. Дзівіцца [redacted] іх будзе прышласць: што такое лютае тут было?

Уважлівы чытач!

Вам не трапілася от толькі што стрэць Марку Невядомчыка нацянькі крадком балонку пераходзячы? — аўтар гэтага не прыкмеціў. Бачыце, так шырока — на паўсвету (дзе Марка, а дзе Берасцянская ці Маляўшчыцкая вуліца!) — заняўшы, чалавек драбней мошкі робіцца. Хто яго ўсё згледзіць, усіх упасе!..

## 17

Вялікі пісьменнік сказаў Арсеню Пакумейку жахлівую праўду:

— Вашым творам бракуе праўдзівае рыскі. Вашы персанажы есці не хочуць, не аб хлебе, а «святым духам» — аб узнёслых прамовах жывуць. Уся вада, што аўтар жыў мала і няўзнак. Няма жыццяпісу. А трэба ўмець хоць самахцом тварыць сабе цікавы жыццяпіс. Гэта надта проста — адно трэба грунтоўна сапсаваць сабе жыццё.

Ды вялікі пісьменнік сваю гаворку, якая пачынала рабіцца цікаваю, звёў на плюгавенькі жарт.

— Некалі выклянуць дзеці, калі ў вашым жыццяпісе ўсё гладка будзе — незашта будзе памяці зачапіцца. Некалі задасць «Арсеня Пакумейку» настаўнік, каб з пройдзенага паўтарыць. І будуць блытаць вас, нажаханыя экзаменатарам, вучні. Хо-хо-хо!..— прыкрым савіным смехам перасыпаў вялікі пісьменнік.

Праўда: усё давалася Пакумейку лёгка, не знаў ён ні ў чым вялікіх перашкод. І цяпер бедаваў, як нецікава бачыць свет з добрага, фотагенічнага боку! Хутка прыгледзіцца, калі чыста й гладка ўсё. А недзе ж з благога боку і ў жыцці, як у тэатральных дэкарацыях, цвікі вострымі сваімі канцамі тырчаць. І, можа, куды цікавей, з таго боку ходзячы, аб іх незнарок якім-небудзь чынам прапароцца ды гаіць пякучыя болькі, можа, куды прыемней, чым, як Арсень, няўзнак лістаць зблажнелыя дні.

Кплівая наша песня вызначае сем гадоў па дзяўчыне сохнуць, дый на восьмым годзе лянуецца штонебудзь пэўнае дакляраваць. Арсень жа па Любе не ўвесь рачанец, а ўсяго два гады ў тузе выбыў. І потым раздумаўся, што прыйшлася яна яму лёгка й неўзабаве. Каяўся...— смеху варт!

От ужо ў маладых Пакумейкаў сын дык крыху замарудзіў. З'явіўся плаксун зусім неўспадзеўкі, калі ўжо яго пакінулі чакаць (прынамсі, Арсень). А цяпер якраз у такім узросце быў, калі бацьком з дзіцяці найбольшая ўцеха: пачынаў хадзіць.

Хто яго ведае чаму, ■ бацькоўскіх пачуццяў Арсень не меў. І без іх было нясприытна — даводзілася ўдаваць. Сын ад мамы да таты сваімі пульхнымі аглабелькамі тэпаў, штодня большыя ставячы рэкорды. А ў Арсеня ад удаванае любасці дранцвелі ў чаканні выцягнутыя рукі. Ды яшчэ цяжэй было яму ўтрымаць на твары так натуральна імітаваную бацькоўскую ветласць. Яна ў Арсеня дакладна з найдрабнейшых зморшчыкаў якраз на тым месцы, дзе й на самай рэчы ёй быць трэба, сабрана была.

Усё ж, калі хадзіць пачало, хоць большае падабенства з чалавекам у дзіцяці з'явілася. А раней быў проста вільготны камячок, якога маці перасыпала ўсякаю, у аптэцы купленаю, трасцаю, каб не так прэў. Ды нораву колькі ў жабуцькі?! — малечка што, дык і зачне егліць.

Бацькоўскага не было ў Арсеня. Намагаўся ён, каб

хоць, як старонні назіральнік, што-небудзь вартае й цікавае ў сына сабе для замілавання знайсці.

Хіба вочы...

Яны, калі поўны слёз, толькі яскравейшыя ад гэтага. Сінія, як тыя, пра каторыя некалі Пакумейка ў «Пяці адменах тугі» пісаў. Ні на мацерыны, ні на ягоныя не былі падобны вочы ў дзіцяці, бо ў Любы вочы блакітныя — вельмі кволага й няпэўнага колеру з ледзь прыкметнаю жаўтаватаю лукаткаю.

Вынаходкі трапляюцца так: ні на што большае ўжо не стае фантазіі, тады што-небудзь самае звычайнае знойдзецца на пашэве — яго бяруць, і гэта, як потым разгледзяцца, самае каштоўнае.

Так і з Арсенем.

Плакала дзіця. Ні цацкі, ні забаўкі не маглі яму дабраць — нічым суцешыць. Арсень, як вельмі ж ужо апрыкрала, уключыў радыё. Гэта была вынаходка.

— Во запрагу коні,
коні вараныя,
Ды паеду даганяць
леты маладыя...

Малое не толькі перасціхла, заслухаўшыся — на яго, як ад калыханкі, ад тае песні спусціўся сон; ды заслухаўся і Арсень. Бо самага лютага жалю было паўнюсенька ў засмучонай песні, асабліва калі песня звярталася:

— Вярніцеся, млоды леты,
хаця ка мне ў госці.

Больш Любе было марна таіцца. Арсень, пасля гэтае песні, ведаў: ёй таксама агорк фотагенічны бок жыцця — от чаму не сядзелася дома, ■ было Любе за ўцеху куды-небудзь (а злашча аднэй) сысці. У засмучонай песні была й Любіна доля, бо спявала яна ў дзяржаўнай капэле. Гэта была ёй добрая прычына рэдка быць дома: то выступленні, то спейкі...

Але няўжо праўда?.. Няўжо ўся цікавасць памінёна?

Усё ж у Арсеня была надзея, што, нажадаўшы, не позна сапсаваць жыццё.

...чорт не браў, а вялікаму пісьменніку здавалася, што ён усё з таго боку, куды цвікі тырчаць.

Юбілею не дачакацца было. 15 год, як вялікі пісьменнік надрукаваў свой першы невялічкі абразок.

У самую завіруху гэта было, і той абразок так «Завірухаю» і зваўся. А ўсё ж ён тады куды мацней і ўсякую ноч спаў, а не тое што на шаснаццатым годзе.

Турбавала сон думка, што ўсё гэта не так сабе.

Вялікі пісьменнік цураўся прасторных відных вуліц цэнтру. Любіў ваколіцы. Там можна з вуліцы ў вулку неўспадзеўкі трапіць, улукаткі завілкамі пайшоўшы, хутка непрыкметным стаць.

На аднэй такой вуліцы, на спацыр выйшаўшы, вялікі пісьменнік некага ўбачыў, што спыніўся перад чымсьці цікавым у чужым акне, і падумаў, што гэта быў — вядома хто.

Вялікаму пісьменніку як бы крыху праяснілася, чаму так марудзіў юбілей. Можа, знарок дзеля яго гэны — вядома хто — і апынуўся ў такой глухой вуліцы.

І пайшоў вялікі пісьменнік блытаць улукаткі ■ вулак у вулачкі. А калі з свайго высокага ганка азірнуўся — убачыў Арсеня, але не пазнаў. Яму падалося, што гэна той вядома хто вулкі й вулачкі выблутаў за ім усё чыста ды йдзе назір.

— Што ім трэба ад мяне?! — абурыла вялікага пісьменніка такая ўвага. Ён, зайшоўшы дадому, расхінуў на акне фіранку — шырока, як толькі было льга. Запаліў электрычнасць і сеў за стол. Хацеў так і пісаць — перад усімі, навідавоку, як на гасцінцы дзе пад бярозкаю. Але здолеў адно працяжнікам абзац пачаць, і не больш таго.

З знакамі прыпынку ў вялікага пісьменніка былі надзвычай інтымныя стасункі. Працяжнікі любіў... а дужкі ненавідзеў: любіў падкрэсліваць, а не нашэптваць. Прыкры яму былі яшчэ двукоссі на балонцы: не любіў гэтае грымасы ў голасе. Кропка — як спрэс чорны гарнітур. У ёй было нешта панскае. І вялікі пісьменнік быў рад, баржджэй да яе дапісаўшыся. Да коскак жа, як да вулічнага натоўпу, быў абыякавы.

Усё ж у тым публічным сеансе ў вялікага пісьменніка нічога не выходзіла. Закасаваў ён той працяжнік і далей усё, што на ягоным месцы пісаў, касаваць даводзілася. Толькі вылучалася пабочная зусім ягонай рабоце адна думка, што як маюць за ім валачыцца, можа, лепш вялікаму пісьменніку самому туды схадзіць. І сляпілася, як аса.

Ажно тут Арсень пазваніў.

Вялікі пісьменнік, пра іншых думаючы, вельмі ж ахвотна пабег адчыняць. Ён гатоў быў усюды весці, усё паказаць, бо на ўсіх ягоных планах (вялікі пісьменнік быў пэвен) Галаўліт добрую шырокую пячатку паставіць.

Зайшоў Пакумейка, і самому вялікаму пісьменніку ўсе ягоныя мадыгаванні да таго смешнымі падаліся, што ён ізноў, як звычайна, захінуў фіранку на акне, разуўся і ўссунуў на ногі мяккія пантоплі. А дагэтуль на ўсякі выпадак у чаравіках быў...

Толькі тая каравая думка, раз з'явіўшыся, так і цяпер засталася недзе глыбока тлець.

— Ты калі-небудзь даседжваўся да таго, каб ногі зацяклі? — пантоплевыя гаворкі распачаў вялікі пісьменнік.

— Не,— адказаў у гэтым нягрэшны Арсень.

— От бачыш!..— ты мала пішаш, а трэба пісаць шмат. Так нічога з цябе не будзе.

І калі Арсень прабаваў супярэчыць, што, можа, хоць што-небудзь ды будзе, вялікі пісьменнік злаваў вельмі:

— ...но з цябе будзе,— смачна казаў ён тое паскуднае слова, бо ці ж можа што-небудзь зраўняцца з тым, што сам вялікі пісьменнік пра сальнікаў піша.— Гэта на паўсвету, на ўсю Случчыну, пане ты мой!

У суседнім пакоі не маглі ніяк суцешыць дзіця. Вялікі пісьменнік схадзіў туды й прынёс яго ў свой кабінет.

— Скажы, дачушка, «...но будзе»,— строні тае ж з Арсенем гаворкі вялікі пісьменнік падбухторваў дзіця.

Праўда: дзіця развесялілася. Смеючыся й хаваючы ў бацькі на грудзях, паўтарала дачушка тое слова, шматкроп'ем тут сарамяжа азначанае.

Гэтаму вялікі пісьменнік быў вельмі рад. Ён любіў брыдкія словы.

Як назвач сядзеў Арсень у вялікага пісьменніка. Як бы прысох у роце непаваротны язык. Трэ было сказаць шчырае слова й пачуць уважлівае. Гэтага й прыйшоў. Ды нельга было. І не мог.

Здарылася гэта неяк з поўначы.

Ні душы было... А вялікі пісьменнік ішоў і азіраўся.

Шырока свяціў той вестыбюль. У яго вялікі пісьменнік шмыгнуў, як у норку.

Не доўга — толькі на першы пачатак вялікаму пісьменніку з непрывычкі здалося, што ва ўсіх там вельмі ж падазроныя вочы. Потым:

— Калі ласка...— і стараліся ■ ім быць ветлымі.

Там цалюткую ноч чуваць было Вялікаму Пантаплёвічу, як ляскаюць дзверцы аўтамабіляў — то ад'язджаюць, то пад'язджаюць да вестыбюля. І ад таго стуку паўзлі на ём мурашкі й крыху блыталася з дому добра падрыхтаванае да дыктоўкі апавяданне.

Не ўсе аўтамабілі кэркаюць. Ёсць такія, што пад'язджаюць, як да мышы кот. Мяккія ў іх шыны, спраўныя рысоры, а для матора нават з савою будзе вельмі ж шумнае параўнанне.

І Даніла, і Арсень, і яшчэ шмат хто разам з'ехаліся.

Правапіс прыпаручае клічніку радасць і здзіўленне. Вось тут аўтару й няспрытна, што няма дыферэнцыяцыі. Якім бы гэта клічнікам... каб толькі здзівіцца? — бо радавацца ім, з'ехаўшыся, не было з чаго.

А вялікаму пісьменніку дакляравалі юбілей.

Новы — куды цікавейшы, непараўнальна сюжэтны пачынаўся раман. І месца дзеяння небывалае — адваротны свет. Толькі пра гэта бадай што ніколі ад мяне не будзе працягу.

*Красавік 1933 — ліпень 1935 г.,*
*сутарэнне ў Менску — у Ірбіце на выгнанні*

# ДЗЕ КОСЦІ МЕЛЮЦЬ

*Аповесць*

**пра тое, як вясна-красна ў нашым краі**

Вы заўважылі, што людзі кручаных дзён сіверынаю смярдзяць? Як бы ў чыстым полі, дзе адно дзікае лінялае неба тупа звісшы было над імі, раслі й гадаваліся яны. Думаеце, лёгка было аўтару хоць дзе-нідзе на малую макулінку свойскага, хатняга, чалавечага ў іх напаткаць? І ці варта казаць, што свет як на верацяне і ні ў водным акне нам не мігае ветлы агеньчык.

Напрыклад, звяліся дзяды. Не садзяцца больш усёю сям'ёю за 12 патраў, калі на дварэ восень, на дарогах гразь, і на цэлым свеце сячэ аблудных бесхацімцаў дробненькі сеяны дождж. Золкі ён і вастрэйшы за голку і праз усякія цыраты і брызенты лёгка працінае да самага цела. А ў тых, што дзедаваць за стол селі, сабе кожнаму сем'яніну ветла лямпа свеціць, і спакойны ўсе, што варушкая гаспадыня поўную — ды ці адну?! — паставіць міску на стол. І самім даволі, і дзядам нанач астанецца.

Мінулася і тое, што:

— Мароз, мароз, хадзі куццю есці,— клікалі яго каляднага, траскучага, сеўшы ў цёплай хаце за мяккі, сенам падасланы стол.

Як пустадомкі, туляемся каля чужых халодных вуглоў. Ды калі й свой па ордэры завядзецца, у ім, не сагрэтым пакаленнямі, пуста і няўтульна, як у ваўкаўні.

А можа... «Можа, калі і на наш гразкі, скапытаваны двор скіне пава залацістае пяро», як некалі я пісаў.

Калі дзе заваляецца гэтая мая невялічкая забаўка, яна будзе ў час. У маладзікову, самую святую нядзельку вылезе гаспадар ад мачання з-за стала. І здыме па сняданні маю кніжку з трамы. Расхіне на тым мейсцы, дзе ў нейкі прысвятак на гэтым тыдні, меўшы час, спыніўся быў. Сядзе на відне каля акна за ўсланы чыстым арцыбовым абрусам стол.

Самому яму цікава ў лагодны ды пра кручаны час ведаць, а сыну (дармо, што ў апошнюю групу сямігодкі ходзіць) не дасць мае кніжкі ў рукі. Ён, бачыце, мал яшчэ,— думаецца бацьку,— падрасце большы — прачытае, будзе яшчэ час. Але ягоны хлапец — такі прабеглы й цікаўны — скрадзецца ды крадком, varуючыся бацькі, [redacted] тым большаю цікавасцю раней пары да гэтых балонак дабярэцца.

Гэта толькі бацьком здаецца, што маладзёнак гаспадарскі сын. А тым часам 15 год — дужаваты кавалак веку. Ужо не баіцца — абы толькі пацяплела, ходзіць ён адзін спаць у пуню. Адтуль зручней яму як з хаты (далей ад бацькоўскага пільнага вока), калі на прызбах заспяваюць дзяўчаты, да іхняга вясёлага гурту далучыцца. Дык ці не пара яму — такому сам у сабе чалавеку — сёе-тое, наперакор бацькам і настаўнікам — і лішняе ведаць?!

Некалі тое будзе...

А пакуль што — хай ляжыць. Есці не просіць. Можа, чаго далежыцца.

Але пакуль там што — не маю нічога супраць, калі і цяпер хто перагорне гэтыя балонкі. Ану, можа, з усяго гэтага ды вырастуць шындзёлы тугі й замілавання, возьме рупясць па дому. Тады аўтар будзе вельмі ўсцешан, што не на ўзвей вецер было ягонае марудства, не марна па зернятку, па дробненькім збіраў ён, як крумкач косці, да ладу даводзіў: і зялёныя вясновыя дні, і прапаласканую навальніцамі свежасць свету.

Можа, цікава будзе прачытаць?..

Далей дазнаецеся:

як завёўся таўсты сшытак у выкладчыка фізікі і матэматыкі і што ў ім было, чаму яго вучні так не любілі;

на што спаранджаўся і куды, як куры ў вырай, збіраў-

ся выкладчык; якая важкая кніга адна ляжала на самай высокай паліцы і чаму;
што, выгнаўшы сыць, вымышляла загадчыца пактэрні;
якая прыгода мелася быць, каб М. В. зубы не забалелі;
хто ў Грукаціч майстар зубы загаворваць;
як у палацы графоў Недапытальскіх завялася русалка;
хто надумаўся Купалле спраўляць;
чаму купальская ночка маленька;
і нарэшце:
ягое «і г. д.» з усяго гэтага выйшла.

5

### Новая мова

Паводкі яны хадзілі глядзець. Адны палі, як ражны, тырчалі далёка ў вадзе на тым мейсцы, дзе некалі былі так званыя недапытальскія масты: знесла іх недзе далёка — можа, нават у самы Нёман. Так была рада М. В. лёгкаму ветру і шырокай бурлівай вадзе. А калі на сухой сцежцы, дзе не цесна было ўдваіх поруўне сесці, А. Х. узяў яе за руку, дык так шчыльна, удзячна тулілася яна да А. Х.

Гэта ўсё асабістае — прыемнае і вясновае было.

Турбавала М. В.— новы прадмет, які ёй усуручыў загадчык. Вось гэта ўжо было службовае, абрыдлае. Але як адмовіцца, калі М. В.— скарб для ягонае школы?!

Чаму — скарб? Яна адзіная з усіх грукоціцкіх настаўнікаў падрадзілася выкладаць замежныя мовы, бо загадчык хацеў, каб мужыцкія дзеці канечне іх ведалі. Самому яму, як і большасці тутэйшых настаўнікаў — выхаванцаў розных настаўніцкіх семінарый, не давялося іх зазнаць. М. ж В. яшчэ ў спакойны час перад вайною скончыла класічную гімназію. Бацька яе, як вядома, быў поп. І цяпер ён меў недалёка ад Грукаціч багаты прыход ды правіў імшы вёрст за дзесяць, за пятнаццаць ездзіў наўкола на хрэсьбіны, на хаўтуры. У бацькі было за што даць ёй добрую асвету. А М. В. і няблага бралася за замежныя мовы, не астатняя была ў гэтым дачыненні ў класе. Але ўсё гэта даўно — на той бок вайны — было, а за гэтыя гады яна ні разу кніжкі ў руках не трымала. І калі ў Грукаціч у графскіх палацах адчынілася гарадское ды прыйшоў

да іх новаасаджаны загадчык прапанаваць ёй пасаду, М. В. была вельмі рада самастойнаму хлебу. Яна ахвотна падрадзілася выкладаць замежныя мовы. Яна ўзяла свае гімназіяльныя першапачатковыя нямецкую і французскую кніжкі, дзе назвы і прыблізнае вымаўленне чужаземных літар было рускімі літарамі запісана. З гэтага мейсца ўзялася паўтараць. А праз тыдзень у Грукаціч ужо дзеці спісвалі з дошкі «. . . . . . і . . . . . . . . . . . . . . ?» на вялікую радасць загадчыка школы.

— Вы разумееце, М. В.,— з першага дня адчынення Грукаціцкага гарадскога заўсёды быў узрушаны, заўсёды ў захапленні загадчык,— без замежных,— казаў,— моў няпоўная б была адукацыя.

І за гэту паўнату ў асвеце ён і цаніў вельмі сваю настаўніцу М. В., дзеля паўнаты асветы сялянскіх дзяцей даўно забыўся на свой закалец, што меў на папа, на М. В.-ны бацьку.

А калі паехаў у павет ды загадчыку далі там добрага фаеру, што ўсё ёсць — адно роднае мовы няма ў ягонай школе, ён расстараўся там падручнік Янчука па старой крэўскай літаратуры і, прыехаўшы, ізноў з бядою звярнуўся да М. В.

— Вы нас павінны выратаваць.

М. В. паглядзела падручнік. Літары не цяжкія — «рускія» былі, ды яшчэ загадчык так настаў — і з просьбаю і з грозьбаю, што адмовіцца ў М. В. проста не ставала характару. Хоць і не было паартыкульнага слоўніка ў канцы кнігі, як М. В. звыкла бачыць у падручніках замежных моў, але яна адважылася паспрабаваць, што выйдзе, але ў кожны зручны момант назаляла загадчыку:

— Зрабіце ласку, аддайце каму другому гэту новую маю мову.

Новая мова псавала ёй усё — і сяголетнюю вясну, і сягонняшні спацыр пад скавародскія масты. Заўтра мелася быць першая лекцыя. Гэтага нідзе — ні за раялем, ні ў прысадах побач з А. Х. не магла яна забыцца. Што трэба нешта рабіць, рыхтавацца, труціла ёй свет.

Назаўтрае ж так здарылася, што і званок на лекцыі зазваніў, ▪ яна за новую мову і не бралася. Учора не выпала часу. А цяпер, толькі як пачула званок, расхінула кнігу. І ненадоўга спазнілася на лекцыю.

Яна вынайшла вельмі лёгкі метад. «Рускія» літары крэўскае кнігі вучням гэтаксама, як і ёй, былі знаёмыя. Яна прыйшла ў клас, зрабіла кароценькі ўступ:

— Зараз мы пачнём вучыць новую нашу родную крэўскую мову.

А там разгарнула класічную часопісь і пачала з літары «А» спрытна выклікаць да стала чытаць. Кожнаму даводзілася па абзацы гэтае «кары».

Як там чыталася — можаце сабе самае найгоршае ўявіць, і яно будзе якраз у М. В.-ны на лекцыі «новае» мовы. Можаце сабе ўявіць гэта і заткнуць вушы.

— Усё зразумелі? — спытала выкладчыца замежных моў, як званок нарэшце спыніў абрыдлую, такую — як падалося — доўгую пакуту.

— Усё,— дружна ўсім гуртам адгукнуліся вучні, баючыся, каб настаўніца яшчэ не затрымалася ды не спытала там чаго-небудзь ■ прачытанага, якога ніхто не разабраў.

Ды не да пытанняў М. В. было, яна рада была свайму новаму метаду, які так вызваляў яе час, і кулём кінулася ў настаўніцкую, каб там А. Х. стрэць ды падгаварыць яго пасля лекцый схадзіць паглядзець, як поле прасыхае.

Вясёлая і бестурботная.

— Забудзьцеся вы хоць на хвіліну пра свой універсітэт,— дакарала яго.— Вясна ж цяпер на тое.

## 6

### Надышоў той час

Давыда, вучня Грукаціцкага гарадскога, вельмі ж вабіла адна кніга. Была яна самая тоўстая ў валасной бібліятэцы і, можа, загэтым адна апрыч ляжала на самай высокай паліцы. Дарослыя вясковыя рэдка хадзілі сюды, і чытачамі грукаціцкае валаснае біліятэкі-чытальні былі маль не выключна вучні з гарадскога. Ім тая высокая, дзе людскавалася таўстая кніжка, паліца была недасяжна за іх невысокі рост.

— Што гэта за кніжка? — спытаўся-такі Давыд.

— Творы Гогаля,— адказаў з удаванаю абыякавасцю загадчык бібліятэкі, вучань іхняга ж гарадскога.— Мы праходзім ужо,— дадаў загадчык, крыху пачакаўшы для большае важнасці: ён быў у старэйшым паводле Давыдавага класе.

— Можна паглядзець? — не церпелася ўсё ж Давыду.
— Што за карысць глядзець. Дадому яна не выдаецца.
— Дык хоць тут зірнуць,— такі ўдаўся назола, што загадчык такі мусіў стаць на стол і дастаць тую тоўстую кнігу.
У рукі ўзяўшы, яна яшчэ больш Давыду спадабалася, дармо, што была на дрэннай паперы і цьмяна, нечытэльна надрукавана. Малюнкаў не было, але ён з не меншаю цікавасцю перагартаў, шукаючы загалоўкаў. Вярнуўся назад, назву і эпіграф з Някрасава:

Придет ли времечко,
Когда мужик не Блюхера
И не милорда глупого,—
Белинского и Гоголя
С базара принесет,—

яшчэ раз прачытаў, загарнуў. Патрымаў у руках, паглядзеў на простую аправу ■ зеленкаватага кардону, на неахайна з рэдкае марлі зроблены карэньчык ды мусіў аддаць яе загадчыку. Той нешта ціхенька гаварыў з Міколам, Давыдавым аднакласнікам. Як Давыд звярнуўся да яго, загадчык хуценька схаваў у столік нешта невялічкае, уверчанае ў газету.
— Ну добра,— казаў Міколу, перакладаючы кніжкі, што той адабраў сабе.— А гэту,— даўжэй затрымаў ён самую ісподнюю,— доўга не трымай. Яна тут хутка патрэбна будзе.
Загадчык запісаў Давыду адабраныя ім кніжкі, і яны з Міколам пайшлі дадому. А загадчык тым часам адчыніў шуфлядку і дастаў тую ўверчаную ў газету рэч, што кагадзе хаваў. Давыд азірнуўся: што ж там такое? Ажно нічога цікавага. Загадчык развярцеў газету. Там быў кавалак хлеба і дужаватая такі скварка. Каля іх загадчык так завінуўся, як бы ён перад гэтым добра цэпам папамалочваў.
А пачакаўшы дзён колькі, пытаецца загадчык у Міколы:
— Твайму сябру, здаецца, гэта кніга спадабалася? — узяў ён у рукі адзінокі ў грукаціцкай чытальні важкі том.
— Яшчэ й як!
— Дык скажы яму — хай, калі хоча, купіць. Нядарага. Хай дзесяць хунтаў хлеба дасць.

Была гэта гаворка надвечар пасля заняткаў, але Мікола пераказу не стаў на заўтрае адкладаць, услед жа з бібліятэкі пайшоў з навіною да Давыда. Ажно той і не ведаў, што такія гішэфты не першыня ў Грукаціцкай воласці. Толькі цяпер Давыд дазнаўся, у якой страшэннай беднасці быў загадчык бібліятэкі. З гэтага ён, можна сказаць, і жыў. Мікола дык знарок з дому большую скварку браў, не шкадуючы сабе лусту хлеба кроіў у школу. Дык яго ўжо ў самога дома дужаватая бібліятэчка сабралася.

Загадчык бібліятэкі быў муляраў сын. Пакуль бацька крапіўся крыху, хадзіў па людзях ды ляпіў печы, у дастатку былі яны, і сын вучыўся ў мястэчку ў гарадскім. А памёр бацька, асталася маці з дробнымі дзецьмі і мусіла вярнуць сына дадому, не было за што трымаць за блізкі свет у мястэчку. Але тут пашанцавала: у Грукаціч — за тры вярсты ад іх — адчынілі гарадское. І хлопец, меўшы вялікую ахвоту да навукі, пачаў туды хадзіць: яму толькі год астаўся да апошняга экзамену. Цяжкавата было рана-вечар за тры вярсты хадзіць. А дома і яды і вопраткі было вобмаль. Але тут пашанцавала. Дастаў ён сабе гэту самую пасаду. І хоць з грашыма цягнулі — ужо каторы месяц як служыў, а ні разу не атрымліваў яшчэ. Але ён так, як мы бачылі, уладзіўся і сяк-так кідаўся.

Давыд быў не з Грукаціч. Ён папрасіў Міколу сказаць загадчыку, каб нікому не прадаў тае кніжкі, што ён бярэ. І назаўтрае схадзіў за 12 вёрст дадому хлеба ўзяць.

— Тае булкі не стала на 2 тыдні,— гладка салгаў мацеры.

— Раз'еўся ж нешта ты,— не ўпікала, а цешылася гэтым маці, бо Давыд хоць і высокі вырас паводле сваіх год, але худы быў, як хрушч. Самую большую булку ўзяў назаўтрае ранічкаю Давыд дома ў каморы. Там больш як 12 хунтаў было. Адразу, не заходзячы на кватэру, у школу проста пайшоў ён з торбаю. Было яшчэ рана. Каля палаца не відно вучняў, і ў вокнах, дзе класы, не тырчала яшчэ галоў. Зайшоў Давыд проста ў бібліятэку. Цяпер бралася на вясну. Было цёпла і не палячы ў печы, дык загадчык там і жыў. Ён яшчэ спаў. Але, убачыўшы булку хлеба, загадчык не маракаваў, што так рана яго пабудзілі.

Ён зняў з тае высокае паліцы і Давыду аддаў той

таўшчэзны том, а сам зараз жа, не мыўшыся, адкроіў і сухама ўзяўся яго есці. Шкода Давыду зрабілася яго. Давыд дастаў з торбы яшчэ кавалак сала, што маці на тыдзень яму дала.

— Вот яшчэ й сала,— не ведаў, як загадчыка, на «ты» ці на «вы» назваць, але без такое выразнасці абышоўся, хоць і выйшла няскладна.

— Дзякуй,— аж няспрытна таму было, адчуўшы шкадаванне ў гэтым Давыдавым учынку. Цяпер ён сабе далікатна невялічкую скварку адкроіў.

Еў ён памалу, смакуючы. Усё лепшую форму кавалку хлеба дабіраў. Перад сабою разаслаў газету. Скончыўшы, чыста з яе сабраў крошкі і жменяю ўсыпаў у рот. Ды што казаць пра такія дробязі! Іх адно той, каму самому хоць калі-небудзь даводзілася голад зазнаць, можа заўважыць і зразумець.

Пакуль загадчык снедаў, Давыд узяўся капацца ў сцірце кніг, што на падлозе ляжалі пры сцяне. «Родны край» — адна з іх яго вельмі зацікавіла.

— Вазьмі сабе, калі падабаецца,— мяккае натуры быў загадчык.

Давыд не адмовіўся.

## 7

### Сваё тое роднае

А ў суботу пайшоў ён ізноў за 12 вёрст дадому. І хоць утаміўшыся з дарогі быў, але крыху пасёрбаў забеленага крупніку — вельмі ж маці прычапілася была, каб з'еў крыху,— ды пайшоў з «Родным краем» да бацькі ў падпаветку. Там ён дзёўб дзіркі ў біле і гаварыў з суседам Тарасам, якому рабіў да весняга Міколы новую каламажку.

— Паглядзіце, тата, якая цікавая кніжка.

Бацька адмовіўся, што яму няма часу,— заўтра на то будзе свята, і ён паглядзіць. Дык Давыд падышоў бліжэй, разгарнуў на самым цікавым мейсцы.

— Вы адно паглядзіце, тата.

Бацька кінуў вокам.

— Ды дзе ты бачыў. Я ўжо й недабачу, дый літары ёсць нейкія незнаёмыя. Ці мне гэта толькі падалося?

Бачыць, што надта ж смолка прысляпіўся Давыд.

Мусіў-такі бацька кінуць дзяўбці. Скруціў папяросу, даў Тарасу закурыць, і яны пусцілі дымок.

— От я вам пачытаю. Тут такія цікавыя казкі ёсць.— Толькі гэтага й трэ было Давыду.

Ішла маці на той час паўз паветку. Спынілася яна ў дзвярах, паслухала, які воўк быў дурань, што нават баран з яго наздзекаваўся.

— Або! — кажа, як Давыд скончыў.— Бабіна казка ў кніжках ёсць, што нам твая баба, мая маці-нябожчыца малым разказвала. Дый [redacted] цябе малога, здэцца, ёю забаўляла, як калі занаровішся. Але тут многа складней пішацца. Ну адыхтар як баба-нябожчыца расказвала!

Падахвочаны Давыд прачытаў ім яшчэ пра кажух ды пра вату.

— Гэта ўжо бацькава казка, твайго дзеда.

Прадбачачы ўперадзе доўгую гаворку, новую папяросу зрабіў стальмах.

— О, нябожчык мэт быў на казкі. Адкуль яны ў яго й браліся.— Сам стальмах, спрытны на язык чалавек, прызнаваўся: — Я й дзесятае долі таго не ведаю, што бацька ўмеў.

— Ого, Цыпрук-нябожчык! — і Тарас гэта пацвердзіў.— Бывала, як маладзейшы быў, і я крыху [redacted] сякераю ў заработкі хадзіў разам з тваім бацькам, Давыдавым дзедам-нябожчыкам. Ён пярвейшы цесель — над усіх цесляў у вакулічнасці быў. Але з ім разам папарабляўшы, дык праз месяц ног не пацягнеш. Цалюткі дзень, бывала, з сякераю каля дрэва скачаш, а надыдзе ноч — адпачыць бы трэ было, але дзе там адпачнеш: Цыпрук, як толькі ляжам, крыху супакоімся, пачынае казкі расказваць. «Ну, сабе думаю, толькі гэту паслухаю, а там буду спаць». Ажно другая яшчэ цікавейшая пачынаецца. «Ну, яшчэ гэту, і годзе!» А там і на трэйцюю ўважышся: «Эт! хоць крыху сну ўкарачу, сабе думаеш, але яшчэ гэтую паслухаю. Толькі гэту!» Так надалей усё сон адкладаючы, і вунь да каторай пары вокам не звядзеш. А Цыпрук штурхане, бывала, Паўлоўскага пад бок. Таго таксама, не горш за твайго бацьку, на казкі здало. Той слухае. Устае, праціраве вочы і прыказкі, прымаўкі ў яго так і сыплюцца. А там да чаго-небудзь прычэпіцца, казку раскажа: «Гэта якраз з тым і з тым — [redacted] маскалём, [redacted] мельнікам ці з п'янюгаю якою было». І пайшло, пайшло...

Дайце рады! Адкуль у іх (абудвых ужо нябожчыкаў), Паўлоўскага і твайго бацькі Цыпрука, бралася. Усё новае і новае, ды што далей, то цікавей. Так адзін аднаго падмяняючы да белае раніцы прагавораць. Іх то самых чорт не браў — яны высыпяцца. Але абудва аднакае былі натуры. Як пабудзіць каторы другога сабе на змену, а сам як спаў — так і спіць як забіты. Хоць ты з гарматы над ім страляй! А нас, маладзейшых, ахвотнікаў паслухаць, у трэскі сушылі за лета. Ведама, без сну. І так ноч пры ночы. Елі добра — скваркі, мачанне... але нішто не помач было.

— Я ж кажу,— браўся Давыдаў бацька ізноў за мяшок з тытуном, каб трэйцюю зрабіць папяросу,— каб майму бацьку ды навука, дык ён бы такіх кніг чортаву гібель на свет пусціў.

Давыду кніжка з казкамі так спадабалася, што ён яе і на лекцыі, у школу насіў. Некалі, першы раз на крэўскую родную кніжку натрапіўшы, нашы лепшыя крэвіцы плакалі з радасці горкімі слязьмі. І хоць гэта не так даўно — толькі на той бок нямецкае вайны было,— але ўжо мінулася. Давыд з «Роднага краю» толькі ніяк нацешыцца не мог. І чаго яму было плакаць, калі гэтакіх кніжак толькі ў грукаціцкай бібліятэцы ляжала дужаватая такі сціртa, і гэта ж тут яны не першыя і не апошнія.

Аднаго разу, чакаючы пасля званка выкладчыка, Давыд быў так зачытаўся, што і не заўважыў, як ціха стала ў класе ды пачалася геаграфія пазаеўрапейскіх краін. Сам загадчык падышоў да яго.

— Вы чым гэта так захапіліся? — нязвыкла мякка запытаў у Давыда.

— А вось нейкая кніжка,— як рак чырвоны ад тае мяккасці зрабіўся вучань.

Загадчык узяў паглядзеў. Быў у добрым гуморы, і яму згадалася Нясвіжская семінарыя, Якуб Колас з старэйшага курса — «Дзед Кастусь», як яго звалі за выступленні на крэўскай мове на спектаклях.

— Гэта не «нейкая», а кніжка на нашай роднай крэўскай мове. А калі вам што будзе незразумела, дык звярніцеся да М. В. Яна выкладчыца гэтае мовы і вам усё растлумачыць.

— Мне ўсё тут зразумела,— адказаў Давыд, і ён прыгадаў прыкрае чытанне па спісе.

На перапынку да Давыда падышоў Мікола.

— Ты ж глядзі,— кажа,— у М. В. нічога не пытайся. А то ўскочыш у бяду. «Вам незразумела? — скажа.— А што вы ведаеце з папярэдняга?» — Ну? што ты ведаеш з папярэдняга?

І праўда: нічога з папярэдняга, з прыкрага таго чытання па спісе, Давыд не ведаў.

Аднаго разу з Давыдам здарылася-такі прыкрая рэч. Паглядзеў ягонае кніжкі Павэлак Лагода дый кажа:

— Якраз такую нашаму малому ў школе сяголета зімою былі выдалі.

Павэлак не ведаў, як ён гэтым Давыда ўразіў. Давыд ужо сябе не за малога меў — ён жа быў вучань гарадскога! І каб ягоную ўлюбёную кніжку маглі малым выдаваць — з гэтым ён ніяк не мог пагадзіцца. І ад тых дат годзе «Родны край» у школу з сабою браць. Ён крадком яго дома чытаў.

## 8

### Сырны край

Вясна тым часам убіралася ў сілу.

Пакрысе раней цярушыў дробен дождж. А ўчора ён пасмялеў ды як мае быць — з громам, з бліскавіцаю — раздажджыўся гадзіны на дзве. Змыў ён даванння ўсю смугу з поля, з сенажацяў, што яшчэ асталася была ад зімы. І ўсё пажвавела пасля гэтага. А як мурава — каб вы бачылі! — зазелянела? І такі быў водар наўкола, што не здаваліся цяпер цераз лад непрыгожымі шырокія, сквапныя насы.

М. В. пашанцавала. З самае раніцы, як быў дождж, грымоты, ёй прыпалі лекцыі. А пад канец дня расклад вызваляў ад заняткаў маладую настаўніцу. Яна ўзяла том Тургенева і выйшла ў прасторны графоў Недапытальскіх парк.

Калі ў вас надарыцца ўвесну вольная часіна, калі не будзе над каркам вельмі ж пільнае работы, паспрабуйце чытаць Тургенева. Гэта вельмі добра, калі неба яснае, сіняе, калі наўкола зелянее свет, пачынаюць нясмела расхінацца пупашынкі на дрэвах і калі ў кніжцы лагодна. Няма нічога лепшага выйсці тады з кніжкаю на прызбу, з злашча так, як М. В., у гарадской альтанцы на выспе сабе мейсца знайсці, дзе ў да-

датак да ўсяго хараства ды яшчэ і да возера два крокі ступіць.

Вясна за гэты час ужо многа пасталела. А напачатку была такая гарэзлівая. Калі разышлася ды разгулялася... Колькі псотаў нарабіла. Вунь сарвала Недапытальскія масты, і цяпер вёз з вакзала ў Грукацічы балагол пажылога ўжо мужчыну з зусім маладзенькаю дзяўчынаю і мусіў 5 вёрст кругу даваць — на 3 рублі даражэй узяў праз гэта за фурманку, ды яшчэ каб цішэй ехаць, каб большым здаўся той круг, адно крычаў ён на каня, а пугу пускаў рэдка ў работу. От чаму яны і спазніліся ў Грукацічы.

Балагол у дарозе заўсёды на каня здаваўся, адно на паваротах, дый то калі на неязджалую дарогу трэ было скіраваць, смаргаў ён ляйчынаю.

— Пачакайце, цётачка,— сказаў ён наўздагон загадчыцы, не спяшаючыся злезшы з воза.— Я ў вас маю нечага спытацца.

Яму, такому грузнаму й павольнаму, не так тое пытанне цікава было, як проста хацелася гаварыць.

Загадчыца ж спачатку супуцілася. Яна не ведала — да яе ці не да яе звяртаюцца. У тым 23-м годзе цяжка было пазнаць чалавека [redacted] адзежы. 23-ці год яшчэ з самымі галоднымі гадамі плеч-поплеч стаяў, калі горад спрадаваў усё, што меў, за пуд мукі на вёску. Цяпер, як крыху палягчэла, насілі хто што зарваў і што ў каго засталося. Што мог гаварыць кароценькі, падношаны ўжо кажушок — толькі тое, што прыезны на вясну не вельмі спадзяваўся. Што ён з горада і інтэлігентны, відаць, чалавек, у якога вядзецца капейчына ў кішэні, каб не хадзіць пяхотам у незнаёмым баку, пра гэта балагол больш, як што, сведчыў. Загадчыцу самую таксама не раз ён прывозіў з вакзала. І дзіва было ёй, чаму прыезны так проста (не раўнуючы, як у вёсцы — ганей за двое адсюль — гаворыць) назваў яе цётачкаю. А таго не ведала загадчыца, што — хоць і позна — але, пасля паводкі ў 23-м годзе, і да Грукаціч так званая «беларусізацыя» дайшла.

Загадчыца была не [redacted] простых, а з невялічкіх кручкоў, і яе перш паненкаю, а потым паняю звалі — у апошнія гады, праўда, нібы незнарок, нібы забыўшыся, казалі ёй гэта прыемнае слова. Загадчыцы яшчэ не

даводзілася сустракаць вельмі частых у тыя гады «шчырых крэвічаў». А прыезны быў з такіх. Больш таго — з дарэвалюцыйным стажам. Ён быў з таго пакалення нашае інтэлігенцыі, найбольш чулыя прадстаўнікі якога яшчэ плакалі, стрэўшы крэўскаю мовою друкаваную кнігу. І ад тых дат да гэтых кніг у іх з'яўлялася непераможная цяга. Выходзілі з іх лепшыя песняры нашага народа, краса і гонар наш. Хоць з гэтага прыезнага паджылага чалавека і не выйшла паэта — ён быў вельмі рэдкім выключэннем з таго правіла, што кожны адукаваны чалавек хоць адзін ды напісаў на сваім вяку верш,— але колішняе расчуленне на ўсё жыццё яго зрабіла шчырым крэвічам. Ён яшчэ перад вайной выпісваў «Нашу ніву» і, хоць не вершам, але крыху прычыніўся да краснага пісьменства. Пад сціплымі ініцыяламі ён змясціў быў у гэтай газеце допіс пра сваю вёску «Што турбуе нашых гаспадароў».

— Вы да мяне гаворыце? — прызаўнялася загадчыца.

— Да вас. Скажэце, калі ласка, дзе тут школа другое ступені?

— А вось, у палацы.

## 9

### Мелася нешта быць, ды М. В. зубы забалелі

Нейкі інакшы — адменна ўзрушаны з'явіўся А. Х. гэтага дня. Відаць было па ім, што сёння нешта такое мае быць.

— Добрага надвячорку, М. В.,— адменна ён прывітаўся гэты раз.

— Што ж гэта вас не чуваць?..

Не ўправілася М. В. адказаць, чаму ёй не гралася гэтага дня, якая грунтоўная была прычына, што сёння адпачываў раяль, з каторага і так наздзекаваліся даволі на ягоным вяку, не ўправілася М. В. усяго гэтага яму хоць збольшага растлумачыць, як заўважыў А. Х., што гэта не так сабе завязала М. В. цёплую бавальнічную хустку: вельмі ж ужо ў яе левая шчака таўстая была.

— Што вам далягае, М. В.?

Віда-віда спадала Алесева ўзнятасць.

— Нічога асаблівага благога. Зубы крыху ўсхадзіліся балець.

— Як-то нічога благога?! Хай яно праваліцца... Над зубы няма горшае болі.

— Боль яшчэ — дармо. Горш таго: прыехаў вунь інспектар, мне загадчык перыказваў, і заўтра канечне трэба лекцыю крэўскае мовы даць, а я не ведаю, ці змагу,— за балючую левую шчаку асцярожна, каб не ўразіць, узялася М. В.— Вось гэта горш за ўсё,— заўтрашняю лекцыяй больш як чым была ўстурбавана яна.— І трэ было ж хваробе прычапіцца якраз у такі нязручны час!

Тут М. В. заўважыла, што яна прагаварыла больш, як хворай гаварыць належыць, ды змоўкла. Калі баляць зубы, трэба асцерагацца, каб халоднае паветра ў рот не зайшло ды іх, наравістых, не ўразіла.

— А я хацеў вам прапанаваць пад Ляскавічы прайсціся, Недапытальскіх мастоў паглядзець,— сумна прамовіў А. Х.— Сёння такі ціхі, ясны надвячорак.

Як неба ў ветраны дзень, так хутка мяняліся ягоныя настроі. І цяпер дужаватая такі хмара на яго найшла. Моўчкі сядзеў ён у М. В. Збоку паглядзеўшы, можна было падумаць, што апошняе ў печ укінуў гэты чалавек. І ніякае надзеі не відаць было, каб што-небудзь здарылася... А Бічык нешта такое быў падрыхтаваўся стрэць і прыбраўся ў новае з гэтае, відаць, прычыны. А як у 23-м годзе строіліся? От, напрыклад, на А. Х. была белая ■ матчынае работы, знарок яму ў елачку вытканага палатна жакетка і новы з шараку клёш. І гэта хараша было. Рызыкантам выглядаў у такіх строях Бічык. Але марныя яны былі. Нос спусціўшы сядзеў ён у хворае настаўніцы.

Вельмі добра было, што якраз у гэту прыкрую хвіліну зайшоў сюды лішні чалавек — загадчык школы.

— Што такое? што вам? — укручаную ў белую цёплую хустку ўбачыў ён выкладчыцу замежных моў. Не так даўно на выспе ў альтанцы зусім здаровая была, а тут — на табе!

— Дайце рады!..— старалася не разяўляючы рота гаварыць М. В.— Нешта зуб... Яшчэ й з раніцы шчымеў, а пад вечар як усхадзіўся — рады няма! — далікатна, каб не ўразіць, узялася яна за балючую шчаку.

— Спачуваю, М. В. Няма нічога горшага над зубны боль. У мяне самога...— нешта хацеў прыгадаць загадчык, але ўспомніў, што часу вобмаль, і сам сябе перапыніў, каб сказаць тое, чаго зайшоў: — Вы ведаеце?! Паехаў інспектар...

— Ну?! — так рада была выкладчыца замежных моў, што сваім одумам адкінулася ў яе рука ад балючае шчакі.

— Але гэта не ўсё,— казаў загадчык.— Я яшчэ адну прыкрую вам вестку маю.

— А што? — не ўсцераглася, ды так шмат зайшло халоднага паветра да балючага зуба, але М. В. забылася ў гэту хвіліну на боль.

— Давядзецца вам лекцый зменшыць. Новую настаўніцу крэўскае мовы, сваю дачку, інспектар прывёз.

— Дзівак вы! Дык ваша ж вестка зусім... зусім прыемная.— Зубы ўжо аслухаліся халоднага паветра, і дармо, што яна, засмяяўшыся, маль не ўсе чыста іх паказала — белыя і здаровыя, як часнок. Яна пасмялела: калі й магла цяпер здарыцца прыкрасць з замежнымі мовамі, дык усё ж не такая: самай няпэўнай так лёгка пазбылася.

— Дык што ж вы?! Сядайце, Антон Якубавіч.

— Дзякуй. Я ненадоўга да вас. Трэба з кватэраю новай настаўніцы яшчэ ўпарадкаваць.

— Кіньце вы, Антон Якубавіч! Яшчэ ўпарадкуеце. Дык як яна, ваша крэвічка, на пагляд? — не было ратунку ад пападзянчынае цікавасці.

— А йдзеце вы, М. В.! Малая. Дзіця яшчэ... Адно са школьнае лаўкі.

— Ну, ну, Антон Якубавіч! Скажу жонцы,— патрэсла пальцам ласая на зводы выкладчыца замежных моў.

Загадчык пайшоў.

Адмянілася М. В. Вясёлая, гаваркая стала. Зубы ўжо прызвычаіліся да халоднага паветра. Яно больш не заходзіла ў іх, і М. В., крыху пачакаўшы, скінула цёплую хустку ды зусім зняла са шчакі халодны кампрэс, ад якога шчака толькі пахарашэла.

— А можа, сходзім паглядзім Недапытальскіх мастоў,— М. В. падахвоцілася.

## 10

### Майстар зубы загаворваць

У нас не тое, што ў якога-небудзь Тургенева: ліпа ў нас толькі праз лякарства — ад кашлю расце. Ды яшчэ дзеля пчол. Вы ведаеце, елі самы ранні і самы смачны ліповы мёд? А ў прысадах у нас — ясень, клён, на старых гасцінцах — гордыя вынослівыя бярозы.

Ад самага палаца і да славутых Недапытальскіх мастоў — траха не да самае вёскі Ляскавічы паабапал дарогі раслі шырокія кляны. Такую выгаду сваім гасцям некалі быў зрабіў граф Недапытальскі. Бывала, імчаць іх сюды шпаркія коні з сонца, з гарачыні. І от, пакуль у парк трапіць, ім яшчэ дзве вярсты халадку ад Недапытальскіх мастоў належыць.

Цяпер яшчэ за навіну цяпло было, і не вабіла стуліцца дзе ў халадок. На клянох яшчэ не было лапушных лістоў. М. В. і А. Х. ішлі сцежкаю каля самых прысад і адно цёгенькае рабаціне клалася на іх ад густа сплеценага галля.

Ужо цвіў клён. Дробнымі жоўтымі кветкамі быў усыпан. Увіхаліся каля іх дасужыя варушкія пчолы. Так што ў тым хвалёвым самым раннім ліповым мёдзе была і кляновая дужаватая такі доля. Вясновая свежасць і водар былі наўкола такія, што сам А. Х. на сваю алгебру забыўся. Ён пачаў быў нешта такое М. В.— не пра вясну гаварыць, а сам тым часам папрабаваў ісці побач і неўзапаметку ўзяць настаўніцу пад руку.

— Вы мне,— кажа,— пра веснавую мову зубоў не загаворвайце. Яны перасціхлі ўжо,— памаленьку вызвалілася яна ад ягонае рукі.

І другая была няўдача ў А. Х. Шырокаю дарогаю ісці дрэнна было. Рана сарвала масты, і ніхто не ездзіў сюдэю. Не абабілі яшчэ як след леташніх грудаў, што засталіся тырчаць ражнамі ад восеньскай гразі. А каля прысад вузенькая сцежка — толькі як прайсці было пратоптана. Збоку ж была ралля, пасеенае жыта.

— Вам жа так нігодна йсці,— ізноў ацяла А. Х. грукаціцкі скарб, калі ён спрабаваў быць з ёю побач.

Паводка ўжо сышла, і рэчка была ў берагох. Адно палі тырчалі ў тым мейсцы, дзе мост быў.

Вецер пажартаваў. Садраў ■ галавы і пакаціў па дарозе шапку. І дурныя ягоныя жарты былі. Няўмела,

няроўна дзьмуў, дык яна ўбок пайшла і траха не ў ваду, у канаву ўкацілася.

А. Х. паспрабаваў алегарычнае мовы ўжыць. Ён пачаў здалёк, з вады.

— Якая спакойная яна ў лыжцы. А збярэцца цераз лад, і тады — глядзі, што яна вырабляе! Я такое ж самае пастачы. Ціхі, спакойны, а як ужо да самага верху збярэцца...

— Што вы зубы загаворваеце, А. Х.? — страшэнна чэрствая і бессардэчная была М. В.— Яны ж,— гарэзавала,— перасціхлі балець.

Тым часам збіралася на дождж. Пахаладнела. Закруціўся віхор. Зашумелі мацней дрэвы. Далёка на захадзе бліснула маланка.

— Вы заўважаеце, М. В.,— паказаў А. Х.,— як небяспечна нахмурэла з захаду.

— Не хутка яшчэ тое свята будзе,— не вялікі страх быў пападзянцы. Але як пачало капаць, яна першая шпарчэйшыя пусціла крокі. А далей подбегам ды зусім бягом пусціліся яны наўцёкі. І залавіў крыху дождж, пакуль ім стары касцёл, дзе некалі хавалі нябожчыкаў графоў, на дарозе трапіўся.

Там яны на ганку перачакалі дождж. І ціха разышліся. Кожны сваею дарогаю мінаў лужы. Не было ўжо тае парнасці, як перад даждждом. Ды тымчасам ужо змяркалася. Недзе недалёка на вёсцы скрыпелі вілы на студні. А так было ціха.

Ад былое пыхі палаца графоў Недапытальскіх засталося цяпер мала чаго. Пустыя стаялі высозныя шафы ў бібліятэцы, праз якую праходзіла Люба. Кніжкі даўно расцягалі вясковыя. Каторыя на танейшай паперы былі, тыя дымком пайшлі да боскае славы, а каторыя на грубейшай — тыя ўаздобілі сцены. На цяжкіх дубовых дзвярах з самага прыходу такія зграбныя лапаносыя ільвіныя галовы выразаны былі, і птушкі паабапал іх. І некаму ж свярбелі рукі — не толькі ад насоў, але і ад мардатых сімпатычных ільвіных шчок адны кастрывыя мейсцы засталіся. А птушак цяжка й пазнаць было цяпер. Якраз на катлету былі яны прырыхтаваны.

## 12

### Чаму не сасвяткавалі Дня святога гультая

Яшчэ мудрэйшую штуку здумалі вучні другога раздуранага класа: не адну лекцыю, а ўвесь дзень сягоння нічога не ўмець, ніводнаму настаўніку не адказваць. Гэты раз расклад лекцый быў вельмі прыдатны на такую штуку. Фізіка з матэматыкаю сышліся сёння ў II класе — два разы (праз лекцыю) павінен быў у іх быць Калечыч, з якім такія жарты падстройваць не першыня. І два прадметы М. В. прыпалі — раз «новая» і раз мя нямецкая мова. М. В. — ну таксама зненавідзеў II клас, што з Калечычам яна ходзіць пад Недапытальскія масты. Апошняя ж лекцыя Вярэева, старога аднаго настаўніка, была. Быў Вярэй здацен на розныя апавяданні нібыта з свайго жыцця. За гэта ды за скрашаную гумарам старасць меў на Вярэя добрае вока нават нягодны II клас. Яму вучні абсеймікаваліся зрабіць так, каб і вялікага свята не парушыць, і не ўразіць вельмі старога; як толькі ён зойдзе ў клас, пра пінскія чарапахі гаворку распачаць. Адзін вучань спытацца меўся: ці праўда, што цераз чарапаху гармата колам пяройдзе і ёй нічога не зробіцца. Вучні ведалі, што на гэты кручок хутчэй як на што напэўна можна злавіць старога ладэнду. Ён блытаў, дзе што ў якім класе расказваў, і II клас быў пэўны, што, высветліўшы справу з гарматаю, ён пра тое, як, на Піншчыне настаўнікам быўшы, яму ў папа цудоўную свойскую чарапаху давялося бачыць. Сам, сваімі нагамі станавіўся, бывала, на яе і памаленьку такім чынам ездзіў па гразкай паповай сядзібе. Добра ведалі вучні, калі толькі Вярэю даць прычыну, каб на гаворку пра чарапаху ўзбіўся,— лекцыі ўжо няма чаго і дапамінацца.

Як сычы сядзеў II клас тры лекцыі: дзве Калечычавы і адну М. В.-ны паміж імі. А на чацвёртай здарылася неспадзяванка. Замест М. В.-ны прыйшла «новую» мову ды новая настаўніца выкладаць. Без кніжкі, без нічога выйшла яна з свайго пакоя, што тут жа, побач, быў, каб так, пагаварыць толькі на першы пачатак.

Што і як яна ім выкладаць будзе, пачала дужа цікава расказваць Магда. Яны будуць вучыць песні — простыя песні, тыя, што спяваюць на вяселлях, на

хрэсьбінах, прыпеўкі, што спяваюць дзяўчаты, сабраўшыся з кудзеляю, будуць вучыць тыя, што, можа, яны і самі спявалі, у валачобнікі пайшоўшы. А далей да гісторыі дайшла. Яны будуць вучыць тое, што тут, дзе мы жывём, з нашымі дзядамі ды прашчурамі было.

— Можа, й з вас хто што чуў дома ад сваіх бацькоў пра паўстанні супроць Масквы?

— Гэта як мяцежнікі да лесу хадзілі? — Васіль Пакумейка — правая Сівіцава рука — першы маўчанцы здрадзіў.

— Во-во!.. Можа, тут дзе славутыя мейсцы недалёка ёсць, дзе бойкі былі або куды, пасля маскальскае перамогі, хаваліся паўстанцы?

— А як жа!..— зусім на сваё гарэзлівае свята забыўся В. Пакумейка.— Ды ў гэтым жа палацы самая іх схоўка была. Тут, кажуць, ёсць пад зямлёю знарок пракапаныя лёхі. У адну такую лёху наш Сівіца быў траха не праваліўся.

Усміхаўся самы першы канавод II класа. I ён не так ужо моцна святкаваў гультая.

Магда паглядзела на гадзіннік.

— Астаецца да канца лекцыі 15 хвілін. Усё роўна нічога сягоння не зробім. Пакажэце мне, дзе тыя лёхі.

I ўвесь клас здаўся на Сівіцу.

— Ты ведаеш. Вядзі — паказвай...

— Толькі ціха йдзеце. Каб без стуку. Яшчэ займаюцца — не трэба перашкаджаць.

Траха не на дыбачках ціхенька выйшлі ўсе за дзверы. А перад вёў Мікалай Сівіца.

I калі пасля гэтага на апошнюю лекцыю Вярэй прыйшоў, зусім не ўдаўся святы гультай у II класе. Здэтанаваліся вучні і спазніліся са сваёю чарапахаю. А ён з самых дзвярэй, не прывітаўшыся нават, пра слімакоў пачаў гаворку, і перапыняць ужо было ні так ні сяк. А потым, калі пазаўчарашняе лекцыі пра рабакоў спытаўся перад званком Вярэй у аднае вучаніцы, яна так здэтанавалася — а ўмела,— што ўзяла дый вельмі добра ўсё спрытна адказала.

А маладая настаўніца дык і вельмі зладзіла з II класам.

— Цётка Магда!

— Цётка Магда! — ■ усякімі невялічкімі справункамі апаноўвалі яе другакласнікі, абы толькі ўба-

чылі: той песень ёй сшытак запісаў ад свае маткі, а той цікавых прыказак чуў вунь колькі штук.

А калі пачалі знаёміцца з старадаўняю літаратураю, не такою караю, як у М. В.-ны, зрабіўся нават Янчук,— і сваім нейкім чалавекам стаў Васіль Цяпінскі, якога партрэт у такой дзіўнай шапцы бачылі яны ў новым падручніку.

Хоць гэта, можа, і не зусім педагагічна, але лепшыя й горшыя завяліся вучні ў Магды ў II класе. Ужо яна пачала інспектара, свайго ж бацькі, пабойвацца крыху, каб не наехаў як знячэўку. Яна добра ведала, які суровы быў ён, што да роднае мовы. Але казала на Васіля Пакумейку:

— От хто нас выручыць, калі што якое.

Да самых вушэй чырванеў вучань, хоць яму гэта і прыемна было чуць ад настаўніцы. І ён часта, пільна, ці не яму патрэбна было, пытаўся ў яе ўсякае ўсячыны, прасіў кніжак чытаць — яна прывезла з сабою ўсё, што можна было дастаць у 23-м годзе.

## 14

### Дзе косці мелюць

Так мінула вясна-красна, ды на змену ёй ціхае лета прыйшло. Скончыліся заняткі ў Грукаціцкім гарадскім. Інспектару Віруту далі таксама адпачынак, і ён прыехаў да дачкі летаваць.

Раскарчыліся кусты ў графскім парку. Буяла на пагнойнай тутэйшай зямлі трава. Распусцілі школу дадому, і многа пацішэла ў гэтым мейсцы. Настаўнікі ж асталіся жыць у палацы. Тут так хораша было, што нават і пападзянка М. В. не паехала да бацькі летаваць. Вярэю таксама дадому недалёка было. Там была ў яго невялічкая гаспадарка. Але стары быў гультай да работы. Ён астаўся ў палацы. Тут сабе ўволю паспіць. Потым высунецца з кніжкаю дзе ў халадок. Адна (х) з сваіх Лясковіч рэдка паказвалася сюды.

Аднаго разу, зайшоўшы да сваёй колішняй супольніцы даведацца, ■ яе бацькам-інспектарам стрэлася (х). Вірута быў знаёмы ёй. Некалі ў аднэй воласці вучылі. Вельмі ж неўпынёны быў Магдзін бацька. Не мог ён болей двух-трох год на адным мейсцы выбыць — пісаў прашэнні і ўсё новага і новага шчасця шукаў.

— Дзе я толькі не быў? — хваліўся ён настаўнікам аднаго разу, гуртам сабраўшыся.

— А быў, дзе косці мелюць? — спытала ў яго (х). Супуціўся Віруга. Калегі засмяяліся.

— А я там нарадзілася, дзе косці мелюць,— пахвалілася дасціпная (х).

Да гэтае дзяўчыны (Адтуль, Дзе Косці Мелюць — Віруга яе, пасля тае гаворкі, і не называў іначай) ён тады — яшчэ нежанатым быўшы — заляцаўся крыху, але цяга да вандровак узяла вяршэнства, і Віруга ніколі больш не спадзяваўся яе дзе-небудзь стрэць. Яму надарылася потым другая (Магдзіна маці), з якою хутка вяселлем завяршылася.

Цяпер старыя сябры — як адно, так і другое — былі рады неспадзяванай стрэчы.

— Ну, сягоння я вас зваджу паказаць тое мейсца, дзе косці мелюць,— даўно мінулыя жарты згадвала (х).

Віруга падахвоціўся:

— Гэта было б вельмі цікава.

Пазней крыху яны пайшлі да Ляскавіч.

Тое мейсца, дзе некалі кашчарня была, недалёка ад Недапытальскіх славутых мастоў, паказала (х). Там цяпер адно невялічкая куча вялізных, з папрыставанаю да іх вапнаю, каменняў ляжала. От і ўсё, што засталося ад былое камяніцы. Было некалі больш, ды ляскавічане на падмуроўкі паразбіралі, каторае было прыдатнейшае — не такое цяжкое.

Доўга над тымі руінамі забавіліся. Ужо нярана было. Кучкамі ішлі малыя з вобрацямі на балота па коні. Ужо нізка было сонца. Можна было, як гэта вядзецца, качэргамі вызначаць ягоную вышыню.

— Дзе я ні быў, а як зірну на захад сонца, заўсёды сваю Наваградчыну згадаю. Вы ведаеце, дзе яно цяпер? — паказаў на сонца.— Яно над нашым борам на Наваградчыне. Вы былі калі-небудзь у гэтым краі?

— Не, не даводзілася! Я на Полаччыне вучыла.

— Дзе мы і стрэліся. Таксама цудоўны край. Хоць зямля благая. Але — сенажаці, азёры рыбаю кішаць. Вы адно на Полаччыне былі, а я ўсю Крэвію з канца ў канец абвандраваў. Дзе толькі мяне не было? І дзе б ты ні быў, у які бок ні зірні: усюды стужкаю лесу небасхіл падпяразан. Усюды на нашай бацькаўшчыне над барамі ходзіць сонца.

— А праз каго я такі валацуга быў зрабіўся?! Праз Пацукевіча! Дзяўблі мне ў школе, што бедная,

нязграбная наша краіна. Не, думаю, не можа гэтага быць. Сам на свае вочы пагляджу, адно толькі каб узбіцца на свой хлеб. І цяпер я ведаю, што няма лепшага краю над наш. От чаму так шмат тут навілі гнёздаў гэтыя груганы,— паказаў назад, дзе цямнеў густы выраслы графскі парк, а водалей пры самай дарозе ражэрні ды аборы бялелі. Крукі не будуць гняздзіцца, дзе блага жыць.

— Хадзем да нас,— паклікала (х) свайго даўняга знаёмага.— Ужо цукроўкі ў бацькі паспелі.

Ляскавічы — дармо, што вёска, а графскаму маёнтку ў прыгажосці не пададуцца. Кажуць, некалі там быў пажар. Усё чыста выкаціла. Будынкі, як свечкі, да боскае хвалы пайшлі. Дрэвы паабсмальвала. Гола, як бубен, на тым месцы, дзе вёска была, пасля пажару стала. Пакапалі сабе ляскавічане зямлянкі, пачалі па вёсках ездзіць.

— Падарэце пагарэльца,— у кожнай хаце здымалі шапкі.

А там забудаваліся, ды не сяк-так, а — адным словам. Шырокую пусцілі вуліцу ды яшчэ хаты крыху водалей ставілі, каб было льга перад акном агародчык на краскі зрабіць. На ўсе Ляскавічы адна толькі хата была па-даўнейшаму — [redacted] прызбаю на вуліцы, а то проці кожнае — агародчык, а на вуліцы — у нядзельку сесці пасядзець — лаўкі памошчаны.

І ў кожнага пасля пажару свой сад завёўся. Цяпер яны — тыя сады, разрасліся. Як лес вёска стала. Аж не тоўпяцца на сядзібе. Цераз штакеты на вуліцу голле паспускаўшы стаяць.

Толькі нядаўна перасціх, ато гэтага дня быў вялікі вецер. Натрос на вуліцу зялёных ападкаў, хоць ты іх у крушні складай. Як ішлі (х) з Вірутам, пастушкі свіней дадому пусцілі, дык рады ім у вуліцы даць не маглі — за сырызнаю і дому адракліся.

— Каб цябе ваўкі апранулі каторую,— траха не плакаў адзін малы, адганяючы вялізную чорную свінню ад яблыкаў. А тая і вухам не вяла — так аслухалася пугі.

Пахваліў Вірута цукроўкі.

— Прыходзьце,— запрашала (х),— яшчэ на сапяжанкі. Хутка вунь вішні паспеюць,— паказала на цэлы шар пры мяжы.— Папяровыя яблыкі ў нас смачныя бываюць.

## 15

### Купальская ночка маленька

Гэта Вірутава была выгадка справіць Купалле: запаліць вогнішча, пускаць вянкі на ваду. І натрапіў ён на такую шчаслівую думку зусім неўспадзеўкі, у той самы дзень. Гэта вясёлае свята на календарох не адзначаецца. Яно не муляе вачэй сваею ўрачыстаю чырванню. Агледзеўся Віруга, што сёння ж Купалле — вясёлая ноч, убачыўшы дзяўчат, як на някошанай яшчэ, а ўжо перад часам, сенажаці збіралі кветкі, каб высушыць іх праз лякарства.

— Ружы поле, ручкі коле...— далёка разляглося.

Таму, што гэта выгадка вынікала так раптоўна, і не было пры тым загадчыка школы. Ён якраз на гэты час з'ехаў быў у павет. Сабраліся яны ўшасцярых: самі Віруга, Магда Віруцішка, стары лгун Вярэй і Калечыч з Марыляю Васілеўнаю ды (х).

У Грукаціч ужо такога шыкоўнага — з кастрамі, з вянкамі — не спраўлялі Купалля, якое сабе справілі настаўнікі, даўніну паганяючы. Тут адно бегалі дзяўчаты купацца ў пшаніцу, каб самім белымі, нібы з пшэннае мукі, быць. Хлопцы абкочвалі кола навокал вёскі. Катом ці сабакам — нечым прыкінуўшыся — да іх павінна была ведзьма прыйсці. Старыя не спалі, крапівою-жычкаю паабтыкаўшы ад нячыстае моцы шчыліны й вялікія пазы.

Ну й разышоўся ж быў пры вогнішчы Давыд Віруга. Без жаднае хітрасці, што думаў, ад шчырага сэрца казаў ён, нават і тое, што яму — інспектару — і не след было гаварыць.

— Мы — настаўнікі. Выкладаем тое, што на сваё ці на чые — даваронымя нам, зусім цвярозыя вочы можна бачыць. Але ад гэтага квасу п'яны не будзеш. Хацелася б віна. Каб галава кругом пайшла. Таго, чаго ні чуць, ні бачыць нельга, але што прыгожа і прыемна сабе ўяўляць. Вы, можа, што-небудзь пра рэлігію скажаце. Ды — не! Я, каб прымеў, усе цэрквы, касцёлы от як,— ён пагарнуў рукою.— Каб яны не смуродзілі свету. Вера, хрысціянства зрабіла найвялікшае злачынства. Яно прынесла прыніжэнне, жарсць да пакут. А чалавеку трэба жыць ды радавацца.

М. В.— папоўская дачка,— падумала, што тут, мусіць, у гэтых словах нешта крыўднае строні яе ёсць.

— Мне, можа, пайсці адгэтуль?! — сказала яна ціхенька Калечычу.— Вы мяне, Алесь, правядзеце.

— З прыемнасцю. Але гуляйце, М. В. Тут жа так весела! Што вы надумаліся?!

Не вялікая была яму прыемнасць валачыся назад з наравістаю пападзянкаю, пакінуць на самым цікавым вясёлую гульню і потым дома шкадаваць — ужо ж ні так ні сяк будзе назад варочацца.

Нешта М. В. не весялілася, але ж, каб не было ніякае памоўкі, наважыла сябе прымусіць ды да канца дабыць.

— Смешна, браточкі,— казаў шчыры ў словах інспектар,— а мне б хацелася назад цудоўнае, вясёлае паганства вярнуць. І каб не заўтра Яну ў царкве паклоны адбівалі, а гэту ноч усе чыста — і старыя і малыя рады святу былі.

Разышоўся тае ночы Калечыч. Як пераскоквалі цераз вогнішча, пусціўся ён за Магдаю. Тая наўцёкі. Ён даганяць. Далёка адбегліся яны па някошанай роснай сенажаці. І нарэшце злавіў. Моцна сціснуў жвавую дзяўчыну ў абдымках. І ў абаіх цяпер чуваць было, як моцна білася сэрца. На ўсё забыўся Калечыч.

— На Купала што зрабіў, то прапала,— непрыстойную прыказку ў самым высокім сэнсе ўжыў ён ды хуценька пацалаваў проста ў крамяныя губы.

— Яшчэ чаго не было! — не ўдалося-такі цяпер Магдзе злоснаю стаць: вельмі ж голас супярэчыў словам. Гэта і паддало Калечычу смеласці.

— Не было, а цяпер ёсць. І ўсё праз вас. Вы ў гэтым прычынніца.

Як вужака, абвілася наўкол яго Магда ды таксама пацалавала.

— Не кажэце цяпер, што я вам што-небудзь вінавата,— назад да вогнішча бягом пусцілася яна.

Шчаслівы Калечыч варочаўся да гурту памалу. І, можа, таму, што такою павольнасцю ён ахаладзіў узнёслае забыццё, прыкрая думка ачарніла яму і гэту хвіліну. Калечыч згадаў, што ў яго ж сухоты, і чаму яму яшчэ аднаго чалавека браць на той свет.

Разыходзіліся позна. Пайшоў Вірта з (х) да Ляскавіч, а моладзь ■ старым Вярэем у палацы. Нос апусціўшы, усю дарогу хмурная ішла М. В. Толькі дзеля прыклепу скажа яна ўрэдкую слова, два. Затое весела была Магда. Як ніколі. Што ж ты зробіш? Не падзеліш

валася, няма ў яго ніякіх заган — ва ўсім прапорцыя. І пад вопраткаю ў яго знаць былі даволі моцныя біцэпсы. Як гумовыя, хутка збягаліся яны на выпадак патрэбы.

Малады яшчэ, а ўжо бародку меў, як у правадыроў якіх — клінком. І галоўнае — быў заўсёды спакойны. Твар яго не багат быў на адценні: усяго толькі дабраякасная сур'ёзнасць і аптымістычная, абавязковая для ўсіх газетных фатаграфій, усмешка па чарзе праходзілі па ём, а так — нічога лішняга!..

І галоўнае — самаўпэўнены. Страшэнна!.. Паводзіўся з людзьмі вельмі ўладарна, як паводзяцца ў заваяванай краіне. Нібы пэўны быў, што ўсё лепшае належыць яму.

Яшчэ адна асаблівасць: у яго не было мінулага — адно «Працоўны спіс», які пачынаўся бадай ад самага дня нараджэння.

Дзівіла прозвішча ... віч. Як бы й свой чалавек. Толькі нікому з мастакоў нідзе з ім да гэтага часу сустракацца не даводзілася. Аднекуль з-пад Масквы проста гатовы быў сюды прысланы загадваць.

Толькі ўсё гэта мела на Алену вялікі ўплыў.

Алесь не ведаў, што яна цяпер ходзіць на спатканні да Трэцяга й не мае патрэбы бачыцца ў выдавецтве, і загэтым не зразумеў, калі яна адмовілася, бо не мае часу, й самому яму давялося хадзіць спаганяць авансы.

Што далей, то радзей былі іхнія з Алесем спатканні, Алена скардзілася, што далёка да Алеся, а ў яе дома ўсё тыя сваякі — вялікая перашкода. Аднаго ж разу Алесь зайшоў да яе неўспадзеўкі, дык тых сваякоў і почату не было.

— Ну што ж? — цяпер усё добра.— Так лёгка здавалася Алесю.

Але з доўгіх адгаворак Алены выявілася, што ЖАКТ будзе нешта супроць мець, калі ён так хутка пераедзе, дык што наогул яму не спрытна хадзіць сюды. Лепш у яго, хоць гэта й далёка, будуць сустракацца.

Ёсць такія вокны, пад якія цягне падысці.

Па немалым часе, калі так агоркла адзінота, Алесь пайшоў пад тымі вокнамі прайсціся. Дык убачыў, што Трэці вельмі ж па-хатняму трымаўся там. У яго была нават расхрыстана сарочка... Вострым клінам ад яго-

нае правадырскае бародкі лажыўся на бялюткае цела цень. А далей відаць былі валасатыя панібрацкія грудзі. На іх пазіраў Алесь, як на цуд.

Стрэўшыся, Алесь, можа б, і не спытаў нічога, але Алена першая:

— Што ты на гэта, Алесь, скажаш, калі дачуешся, што я другі месяц як замужам.

Ну што ён мог сказаць?

Нешта сказаў. Ды зусім нязначнае.

**15. Спатканні на сузор'і Воз.** Пра адзіноту, як пра турму ўсё роўна, і чытаць нудна, і пісаць што можна пра яе цікавае? Але ў астрозе, як і ў адзіноце, ёсць шмат магчымасцей; напрыклад: можна прызначыць спатканне на сузор'і Воз.

Воз было выбрана як самае папулярнае.

Алесь прасіў Алены не пазніцца. Пад раніцу вельмі слізка на сузор'і Воз. І таму, што яно куляецца. А калі далей развіваць параўнанне, дык слізка — бо гразка, а гразка — то ўжо восень будзе, і ад таго (ад восені) прыкра, холадна...

Алена не прыходзіць на сузор'е Воз. Алесь чакае марна. Вандруе адзінокі. А ■ зоркі на зорку пераскочыць гэта не тое, што на балоце ■ купіны на купіну — трэба добра разагнацца, дый сінь тая жахлівей за ўсякую багну перад табою й пад табою ззяе.

Гэта не выйшла. Тады Алесь іншым спосабам прабуе.

Ён знаходзіць на дарозе балаголскую пугу. Гэта даволі рэдкая знаходка, калі такія частыя сталі аўтамабілі. Тую пугу ён называе бізуном, каб страшней было. Ніколі з гэтым не займаўся, а то піша верш: як яе муж бізуном лупсуе. Верш выйшаў, вядома, дрэнны.

**18. Камісіённы гарнітур.** Марна кажуць, што прарокам на сваёй бацькаўшчыне заўсёды крута. Усё ж прыкмецілі, што на Алесевай выстаўцы нашага неба блакітнасць. І за гэта яго траха не за прарока палічылі. Але куплялі мала — адно тыя карціны, дзе блакітнейшае неба было. Тады Алесь, як выйшла з цярплівасці, напісаў абвестку:

«За 3 рублі якую хочаш, на выбор!»

Гэта дапамагло.

Як прыскочыў пярвейшы сябар, ужо толькі парт-

рэт рыжанькага юнака ды яшчэ сёе-тое з дробязі асталося. Вядома, што ён нарабіў на Алеся крыку:

— Так не разгайдамашваецца, каб ты ведаў, праўдзівы талент!

Але ў Алеся завяліся грошы, і пярвейшы сябар завалок яго ў камісійны магазін і купіў яму гарнітур. Хоць крыху ў нейкіх там драбніцах быў ён устарэлае моды, але затое работа й матэр'ял — чыста амерыканскі. Гарнітур быў Алесю крыху цесны, й загэтым ён у ім выглядаў элегантна.

Алена на выстаўку й не заглянула.

А стрэўшыся з Алесем, была прыемна здзіўлена.

— Багаты будзеце,— сказала, прывітаўшыся.— Я вас не пазнала.

І праўда, ягоны амерыканскі гарнітур на заходзе сонца выглядаў цудоўна.

І сам Алесь у тым гарнітуры пасмялеў многа. Ён трымаўся куды больш самаўпэўнена, а дома напісаў Алене пісульку. Прызначыў спатканне цяпер не на далёкім халодным сузор'і Воз, а крыху бліжэй — у кіно на 3-м сеансе.

І гэты раз Алена прыйшла.

Непераможнае было ўражанне ад амерыканскага матэр'ялу ў тым асветленым пад'ездзе кіно, як выходзілі, а калі яны трапілі ў сад, дык там пад месяц яшчэ больш чараваў ён. І калі Алесь памкнуўся пацалаваць, Алена не ўхілялася. Алесь абнадзіўся і паўтараў не раз.

Пасля таго яны часта пісалі «да запатрабавання» адно аднаму.

Былі месячныя ночы. Адну не паспала Алена й назаўтрае напісала Алесю, што ў яе ніякіх пачуццяў няма да Трэцяга, і калі Алесь даў згоду, уцякла да яго.

Была з дзіцем. Гэтаму Алесь як бы рад быў. Ён узяў дачушку на рукі. Высока гайдае яе. Малой гэта да таго спадабалася, што яна ў захапленні ашчаперыла Алеся за шыю й дала незнаёмаму гэтаму «дзядзьку» мокрую, ды затое шчырую «буську».

**17. Выстаўка.** Мастацтва — тое самае, што і адзінота,— гэта боль. Ад адзіноты не так ужо, каб вытрываць нельга было, не: толькі шчыміць і ные. Вось чаму тварыць можна толькі ў адзіноце, а злашча, калі

з светам не ў злагадзе. Толькі шчыміць і ные. А калі разварушыць, раз'ятрыць — тады й сапраўды аж дзецца не бывае дзе.

...І ў гэтым прыемнасць.

Што ў мастакоў, якім не стае на натуршчыцы, на палотнах голыя іхнія жонкі — няпраўда. Яны выстаўляюць напаказ сваіх недасяжных каханак. І чым прывабней паставы, чым у выкананні лепшае майстэрства — тым цяжэй было трываць, тым немагчымы быў боль.

Вазьмеце прыклад ▪ Алеся. На каторую сцяну вы не зірнеце, як у першым, так і ў другім пакоі, усюды Алену на ягонай выстаўцы ўбачыце. І гэта, што так мілосна сядзіць на крэсле, схіліўшы аблічча на руку, засталучыўшыся такім аздобным локцем — гэта таксама яна.

Вы ўяўляеце сабе выстаўку, калі ўсё ўжо прыбрана й вам прырыхтавана. Вы ўяўляеце сабе выстаўку з таго моманту, як у абвестках сказана «Адчыняецца». А на самай рэчы выстаўка — гэта цвікоў трэба купіць, шпагату, гэта хто яго ведае, адкуль рэек на асадкі ўзяць. Гэта — дзён колькі ўпартае, як касу пацягаць на сенажаці, работы. А перад самым тым, калі ў абвестках паведамлена, бывае такі час, што можна прысесці, адпачыць і паглядзець, можа, што дзе яшчэ недагледжана, вось тады якраз так хочацца, бывае, пачуць прыхільнае слова. Так што пахваліць ніколі не саромейцеся. А ўсякія іроніі пра каніфоль зусім марныя тут.

І тым больш горка, калі хто так, як Вітка, разгледзіць усё дый скажа:

— Дрэнна.

Павёў ён Алеся й паказаў:

— От зірні, да чаго давяло, што ты не марудзіў.

Яшчэ зіхцела ўсё, але Вітка прыкмеціў, як на некаторых палотнах з Алесевай творчасці выступілі зусім непажаданыя слёзы. На дварэ восень. У зале было крыху вільготна. І праз гэта высветлілася, што на салявых мяшках напісана было.

— От успомніш маё слова, што аблушчыцца ў цябе. Кавалкамі адкідацца пачне — от убачыш.

— От успомніш маё слова,— сказаў Вітка, і больш яго ў тым Вам Вядомым горадзе не бачылі.

Невядома, каторую з сваіх рамантычных прафесій такі выбраў ён.

**19. Смерць робата.**

Железные поют и плачут люди,
Хватаясь за сердца.

Памёр Трэці раптоўна. Кажуць: ад разрыву сэрца — так, прынамсі, дактары сцвярджалі. Нібыта гэтак на яго падзейнічала вестка, што жонка кінула. У яго не знайшлося лекавае кніжкі — адно працоўны спіс.

Потым анатамавалі. І тут, кажуць, дактары толькі пераглянуліся ды змоўклі. Ён быў — робат: зверху сінтэтычны каўчук найпярвейшага гатунку, а далей алюміній і іншы лёгкі метал.

Тады ж было высветлена шмат цікавых драбніц. Калі з чэрапа парык саскрэблі, знайшлі радзімы знак: на самай патыліцы вельмі ж аздобнае таўро стаяла, тры літары МЗР.

І хто б гэта даў веры, што ён адтуль. Толькі цяпер, калі ўсё стала відавочна, зразумела стала й імя, й прозвішча. Тым больш, звацца Янкам — гэта ўжо называецца: перасаліць. А тым больш і з раднёю нахабна вельмі. Брацькавіч! — наце вам.

Ды чаго тут не разумець?! Робіць жа Галівуд гукавыя фільмы для розных краін на іхніх жа мовах, дык чаго тут М з-ду не дагнаць.

**16. Рамантычныя прафесіі.** Вітка гэты раз прыйшоў, як Алеся дома не было.

— Яго чэрці на форму не хапілі? — пытае ў гаспадыні.

Тая збянтэжана адказала, што праўда — няма дома. Яна заўсёды бянтэжылася на Віткавы пытанні.

— Куды ж гэта яго праметная сагнала?

— Хто яго ведае!.. Нічога не казаў.

Вітка пачакаў.

Як прыйшоў Алесь, ён не вельмі мадыгаваўся.

— Цябе, кажуць, чорт не бярэ цяпер. Пазыч. І аддаць, тое ведай, не дакляpую,— ён быў няўдачнік, а самае трагічнае ў лёсе такіх людзей, што нехта ж павінен аплачваць іх няўдачы.

Ён ізноў спракудзіўся. Ужо яго зволілі з дыктарскае пасады. Не было ў яго вялікае павагі да дывана-

мі высланых студый і перад самаю святыняю эфіру — перад самым мікрафонам трапляўся з ім зусім не ў пару кашаль. За гэта й зволілі.

Вітка загаварыў, што існуюць рамантычныя прафесіі.

Напрыклад, пераплётчык. Як добра апраўляць кнігі. Навакол цябе чыстыя, як снег, паперы. Працаваць не спяшаючыся. Чытаць вечарамі. І рабіць справы паводле самім устаноўленай вартасці кнігі. Вітка й цяпер разразаць новыя кнігі вялікі ахвотнік. Гэта адменнік рамантыкі для вялікага места.

Потым — будачнік на чыгунцы.

Цудоўна позіркам праводзіць неўтаймаваныя вокны, падняць зялёны сцяжок, каб ехалі далей. Назіраць спакойна людскую мітусню й усведамляць, што сам яе самохаць адцураўся.

Не так ужо й блага — пчаляр. Тут адзіная нязручнасць, што вельмі ж у тых мух пякучыя джалы. Але да іх можна прывыкнуць. А спакоем, ласкаю й свой характар ўраўнаважыш, і ■ драбязою гэтаю можна добрыя дачыненні ўстанавіць. І гэта дзе-небудзь у глушы, у Палессі.

Або — стаць злодзеем, што крадзе ў цягніках. Тут амаль навуковая праца: вывучэнне раскладаў цягнікоў і належныя, з усіх бакоў абгрунтаваныя высновы з яго. А яшчэ больш, як навуковае, тут артыстычнае працы. Тут выступаеш у самай складанай, самай адказнай ролі — пасажыр, чалавек, які нічым ад рэшты людзей не розніцца: у цябе стандартны чамадан, тыпова пасажырскага памеру й колеру, каб яго лёгка было пакінуць, а другі, якраз гэтакі, сабе «праз памылку» ўзяць; на табе стандартны, памеру й колеру дарожны паднюшаны пасажырскі гарнітур, на каторым няма ніводнае, хай мімавольнае, але прыкметнае плямы, які нічым запомніцца не можа. Адно розныя амплуа: тут ужо трэба быць хто з табою — такі й ты, тут патрэбны павярхоўныя энцыклапедычныя веды, але йзноў без ніякіх уласных, экстравагантных ідэй, перад якімі б здзіўляліся й якія б належалі ўласна табе.

А яшчэ была, ды цяпер нікчэмная, страшна адна рамантычная прафесія — млынаром быць у вадзяным павольным млыне, дзе доўга затрымліваюцца завознікі й дзе знарок дзеля іх коней стадола, а дзеля іх

казак запыленая хатка збудавана. Але, я ж кажу, гэта прафесія была ды перабылася.

І невядома было: якую ж сабе з тых прафесій выбраў Вітка, дзеля якіх, у якім кірунку, крокаў ён зрабіў пазыку.

**14. Усё растрэсена.** Тыя панібрацкія грудзі прычыніліся да таго, што Алесь у сабе зняверыўся: можа, сам ён нічога не варт, а той Трэці не такі ўжо пусты, механічны, як думалася.

Забудавалі дом мастака. Там збіраліся, там жылі. Адтуль плёткі пладзіліся. І было іх шмат пра Алеся, хоць ён яшчэ і жыў у сваёй ваколіцы.

Тое, што курыў Алесь шмат,— праўда. А каб так, што мог ён працаваць над аднэю рэччу, пакуль не закурыць, а закурыўшы, спыніўшыся, ужо не мог узяцца за старое — гэтага я не ведаю. Бадай што было няпраўда, дый напэўна няпраўда. Здумана для легенды.

Толькі зусім не Алесь, а пра Алеся складаліся легенды. У рэчаіснасці цяпер прыкрыя сталі спатканні з Аленаю. А было адно такое. Алена там упікала, што ва ўсякіх варунках Алесь шукае арыгінальнае пастаны.

— Вось хоць бы гэта самая папяроска... Я ненавіджу цябе за папяроску,— так і сказала.

І — дайце рады! — у яе вочы блішчалі праўдзівую нянавісцю.

Многа лагаднейшыя спатканні пачаліся потым, але пра гэта ўжо давядзецца дазнацца з наступнага раздзела.

**9. Алесь умеў, ды не хацеў пісаць так, як вымагалася, каб кожная жылка знаць была.** Пагарджаў тымі, хто вельмі ж тонкія пэндзлі меў.

— Што ты там гэтым шылам калупаешся? — казаў ён, бывала.

Але, калі наконт гэтага з адным прафесарам паспрачаўся, ён напісаў яму пейзаж, дзе кожны лісток асобна знаць быў, і ад тых дат пакінуў хадзіць на заняткі.

— Агідзела,— казаў.

Толькі часам заходзіў на тэхнікумаўскі калідор увечары.

Неяк раз убачыў Алену.

— Што гэта ты так распусціўся, што ніколі не відаць цябе?

— А я думаю дакументы забраць.

— З апошняга курса?.. Ну?

На ўсё жыццё застанецца адно яе пытанне:

— І табе нікога тут не шкада будзе?

Дарэшты ж згідзела Алеся, калі на сходзе ўжо проста пра яго пачалі вастрыць пытанні. Там гаварылася пра рэалізм, які зацверджаны і прыняты для кіраўніцтва. Давастрыліся да таго, што цурацца драбніц можа толькі той, каму дадзеў зямны тлум, што, можа, гэта й Алесь напісаў той адказ — толькі яны ад яго гэтага не спадзяюцца.

Алесь у гэтым месцы плюнуў (да сплявачкі не дайшоў — проста на падлогу), устаў і выйшаў са сходу й як скрозь зямель пайшоў.

Толькі Алесю не давялося жыць у мансардзе, дзе святло зверху, ён не быў прывілеяваным. Мансарды звычайна ў вялікіх дзяржаўных дамох, дзе патрэбен ордэр і іншая ўсякая злыбеда. А хто яму даў бы ордэр? Ён нават дакументаў як мае быць не меў і ні да якога саюза не быў прыпісан. Дык жыў недзе ў ваколіцы горада — ў невялікай мяшчанскай хацінцы наймаў пакой.

Але ўсё ж яго спытаў Вітка.

— Тут жыве Алесь Сітнік? — загрымеў ягоны голас.

— Тут.

— А ён жыў ці павесіўся?! — здзівіў першы раз Вітка Алесеву гаспадыню незвычайным сваім абыходжаннем.

Ён прыйшоў пазычыць якую дробязь, бо нават папалуднаваць Вітка не меў за што.

— Ты не падумай чаго!.. Я працую за дыктара на радыёстанцыі. Я аддам. За дыктара,— кажа,— з загадзе напісанага тэксту. Слухай і сягоння а 17 гадзіне 35 хвілін увечары. РВ 10.

Ды трапіў на такую пару, калі сам Алесь збіраўся ў каго ■ сяброў расстарацца.

11. Вялікая неспадзяванка ўсё ж была, калі пярвейшы сябар прывёў Алену. Ніколі б Алесь не падумаў, што якраз гэта будзе ў яго натуршчыца. І пакінуў пярвейшы сябар іх адных. Яму некуды вельмі ж хутка

адлучыцца трэ было. Да гэтага разу ўсё ж Алесь быў няўважлівы. Як было не аднатаваць сабе, што любіла яна насіць строі, каторыя як бы абшчыкнуўшыся ляжаць, і каб тонкія... Як было яму прапусціць паўз увагу, што такія прыгожыя, крамяныя ў Алены грудзі.

Алесь ніколі не думаў, што так хутка можна раздзецца. Асабліва жанчыне, у каторай так шмат гузікаў ды гумак розных.

Вельмі добра, што ў Алесевым пакоіку была канапа. На ёй гатова была Алена любую паставу прыняць. І прымяркоўвала ўжо некаторыя з іх.

— Вось так добра,— пагадзіўся Алесь.

Вось яно было, тое голае жаночае цела. Вядома, што яму перад ботам аддаў ён перавагу. Толькі не пісалася. Кінуў ён свае пэндзлі, падышоў, сеў каля Алены, давай гаварыць, што ён кахае яе... і гладзіў мяккае, падаўкое жаночае цела. Толькі пупышынкі на грудзях зблізку крыху страцілі сваю прывабнасць: яны як бы паколатыя былі, як на самай рэчы: вельмі ж аздобнай шылаватай формы, як точаныя.

Алена не праціўілася. Толькі яе разбіраў дурны смех.

— Няўжо ў цябе не хапала ўяўлення раней пакахаць мяне. У такім стане бачыўшы, у кожнага можа абудзіцца жарсць. А ты не зважай — застанься мастаком. Ты пішы. Мне вельмі хочацца як найбольш мець сваіх партрэтаў. Я толькі жанчына. Ад нас і фатографам найбольш прыбытку.

**Устаўка.** Пярвейшы сябар Алеся ў сенцы паклікаў.

— Табе, можа, грошы патрэбны?.. Калі трэба — кажы!

Пакуль той нешта сарамяжае некаў, пярвейшы сябар адлічыў.

— От на,— кажа.— І не вельмі ты на розную драбязу рассыпайся. Пішы й рыхтуйся да выстаўкі.

Як вярнуўся Алесь, Алена ўжо раздзеўшыся была.

**6.** Было шмат цікавых людзей на іхнім першым курсе, як Алесь разгледзеўся. Асабліва вось гэты Клемас Вітка, каторага Алесь часта ў гарадской бібліятэцы сустракаў. Асабліва калі адну гаворку собіла Алесю пачуць.

Выявілася, што яны з Аленаю перад мастацкім

яшчэ ў тэатральным тэхнікуме вучыліся. І вось, у першыя дні стрэўшыся, Вітка й пытаў, чаму яна кінула.

— А ты чаму?

— Будзе лепш, калі спачатку ты раскажаш, а я потым. Бо калі мне пачаць, ты яшчэ пакрыўдзішся.

Споведзі бываюць часта ў зусім не падобным месцы, напрыклад: у школьным калідоры.

— Мне страшэнна хацелася,— казала Алена,— акторкаю стаць. Летуцела пра кіно. У мяне былі ўсе паштовачкі, якія звычайна збіраюць дзяўчаты ў 15 год. Брала ўдзел у школьных спектаклях.

Мне і ўперад казалі, што граю добра, але... сама сябе, што няма ў мяне разнастайнасці характараў. А калі ў гэтым упэўнелася й пагадзілася, я кінула тэатральны тэхнікум.

Мне не быць акторкаю. Я не разнастайная... адзіная ў сваім характары — я жанчына.— Яна грала сваею «няздатнасцю», а Вітка сур'ёзна сказаў, што гэта вельмі добра.

— Ну?! — аж здзівілася Алена таей сур'ёзнасці.— Ну а ты чаму кінуў?

Вітка расказаў, што з тэатэхнікуму вынес перакананне, што людзі з акторскімі ўхіламі — вар'яты, і што ён адмыслова ў бібліятэках шукае падмацавання сваім поглядам, і гэта падмацаванне ёсць.

Ды наогул Вітка быў дзівак. Напрыклад, аднае раніцы здарылася ў інтэрнаце падзея. Вітка вывесіў плакат: «Прывучайся над усім марудзіць». І прысталі да яго, каб сарваць, бо такі лозунг нідзе не зацверджаны. Але Вітка меў ёмкаваты кіёк і свой плакат адстояў.

8. **Шушамяць!** Ну што пра гэту моладзь лепшае можна сказаць?! От пра калідоры трэ было б пагаварыць шмат і адно добрае. Гэта яны — толькі яны! — прычынны ў тым, калі што ў гэтае моладзі добрае ёсць. Тут бы трэ было пачаць з «о!» — ды, можа б, не адзін абзац напісаць шмат чаго хвалебнага школьным калідорам. Ды баюся пісаць прыгожа. Баюся, каб па выпісах не здрасавалі маіх слоў. Згадайце песню пра камара, які просіць не хаваць яго ў тым месцы, дзе здрасуюць ногі. Дык і я от баюся, каб па смерці не пахавалі край школьнае дарогі.

Хай у мяне будзе адно тое, чаго сам шукаю ў дру-

гіх кнігах: не сплянтаванага, якое я густую адзін, якое адшукаў без нічые назойлівасці.

Хто яго ведае што: можа, тое, што Алесь чытаў фантастычныя розныя раманы й цураўся сходаў, а можа, й тое матчына наведванне адгукнулася так. Толькі вярнуліся студэнты з вакацый, як ім падсунулі ананімную анкету.

«Чым бы вы хацелі быць?»

«Астраномам» — напісаў Алесь.

«Чаму?»

«Бо на небе ціха, а тут вечны тлум і ні на кроплю шчырасці ў тым, аб чым чэшуць языкі».

Толькі пасля Алесевага адказу стала яшчэ тлумней: сход за сходам. Усё вастрылі пытанне, і давастрыліся да аўтара. Толькі не Алеся, а Вітку. Ніхто не ведаў, што гэта Алесеў быў адказ, колькі ні галялячылі на сходах. А Алена адчула.

Аднойчы ўвечары адвяла яго ўбок у калідоры й сказала:

— От успамянеш маё слова!.. Ты такі ўскочыш...

Яна, мусіць, кахала яго.

— Гэта ты, а не Вітка напісаў той адказ.

— Чаму так думаеш?

— Я пэўна ў гэтым.

І Алесь перад Аленаю не таіўся.

**Увага!** Напісаць раздзел, як Вітка складаецца й збіраецца з інтэрната, калі яго выключылі.

# УТРАПЕННЕ

### 1. Зэнка малы ніколі не быў

Дальбог, праўда!

Глыбей таго Вялікадня — чорна, нічога там не было.

Але нават на Вялікдзень ужо Зэнка не малы быў. Каб малы, хто б яго пусціў аднаго так далёка — аж на той бок вуліцы на гумно.

У іх, у Боханаў, гумно голае, а ў суседзяў, у Дзешчыкаў, помежня садок. І Зэнка стаяў пры частаколе, пазіраў, што датваралася на тым баку. Дзятвы колькі было! Старыя, як, напрыклад, Зэнкаў бацька, у гумоны быўшы, жабуцькамі тых звалі, а Зэнку — гэна ўжо вялікія дзяўчаты. У нешта дзяцінае й вельмі рухавае — «жар гарыць» ці то ў «вавёрку» — яны гулялі. Ды не палянуйцеся згадаць, якая маладзюсенькая трава пасля зімы. Ды яе нават глянуць — мякка. Зэнку тым больш ціснулі, хоць навырост купленыя, але не разношаныя яшчэ чаравікі, што ў Дзешчыкавым садку зусім босыя бегалі.

Вельмі ж вёрткая там гульня была, але куды б ні матнулася дзяўчынка ў зязюлястай сукенцы, туды й Зэнка пазіраў. Яна была самая жвавая з усіх іх і самая вялікая.

Толькі што самога Зэнку маці не здалёк, як вялікага, паклікала на полудзень, а прыйшла на рукі ўзяць! Дык затое ён распытаўся, чыя гэта дзяўчына ў зязюлястай сукенцы.

Маці сказала, што Дзешчыкавых Марылька. Зэнка гэтага не ведаў. Яму здавалася, што ў Дзешчыкаў адна толькі Дзешчыха, каторая часта да іх ходзіць — гэтага святога дню таксама была — і есць. Ато ў іх яшчэ й Марылька!

Хоць ён ужо й немалы быў, маці ўзяла Зэнку на рукі. А ён папрасіўся, каб «гаршкі» яго несла на плячах. Дзеля свята, дзеля добрага гумору ва ўсіх — вялікіх і малых — у сям'і маці ўважыла. Пястун быў Зэнка!

Тое самае аб Зэнку й бабуля-нябожчыца казала: яна скардзілася, што бацькі далі яму патолю цераз лад. Яна тады яшчэ жыва была й пасвіла ўнука. Сядзе сабе на прызбе й грэецца пад сонца. А Зэнка, як не малы, мог гуляць на сваім гумне, на сваёй вуліцы. І самы большы, ндужай дагнаць ды пераняць, бабулі быў страх, калі Зэнка з сваёй ды на чужую вуліцу сыходзіў. Усякі раз згледзіць і кліча назад.

А Зэнку так хацелася на Дзешчыкаў двор праз шчакеты пацікаваць, а злашча дазнацца: штодня ці толькі па вялікіх святах носіць Марыля тую зязюлястую сваю сукню. І гэта можна было калі падысці туды, дзе высозны, паводле Зэнкі, камень на Дзешчыкавых вуліцы ляжаў. Хоць Зэнка ўжо й не малы — добра наважыўшы, *можа,* але ліха ведае — траха не край свету, так далёка гэны. Ды яшчэ бабуля з свае прызбы крычыць, абы чуць памкнуўся!..

Мудрэйшае дзіва было: улетку й то Зэнка сумодаў зубочшы дастаць. Тут бабулі й рука была: сварылася, што гэта яму якраз за тое, што аднаго разу яна не ўпасвіла, й Зэнка да самага Дзешчыкавага таго каменя дапаў.

Што сама часта хадзіла, ато цяпер знарок паклікалі Дзешчыху на параду. Яна была самы знакаміты доктар на гэту хваробу. Дзешчыха нюхала табаку; і нос, і пальцы, як вэнджаныя, мела. І вось такі чорны палец саджала Зэнку ў рот. Горка было, як там душыла зубошчы. Тройчы давялося цярпець гэту пакуту. І за кожным разам яшчэ тройчы трэ было плюнуць у сук.

Пакуль не паправіўся, Зэнку нікуды не пушчалі з хаты. А сама горш, што над душою ў яго стаяла бабуля:

— От будзеш ведаць другі раз!..

— Так,— казала яна,— было добра, як летась ні-

куды з свайго двара не хадзіў! — знойдзе сабе якую забаўку й гуляе. А цяпер [redacted] вуліцаю — чыстая бяда.

Зэнку не верылася. Ці было яно, тое ўхваленае «летась»? Там жа чорна за Вялікаднем на той бок. А калі бабуля не хлусіла, то гэта напэўна — «як ён малы быў».

### 2. Наддаткі

Боханы былі людзі ў сярэднім пер'і. Роскашы яны не зналі, але й гора не бачылі.

Гэта не роскаш, што ў восеньскія халады мала Зэнка мог грэцца на кафлянай ляжанцы ды сачыць, прымружыўшы вочы, як на вазоне лэскі, што ў акне стаяў, з лісцяў нязнаныя насатыя, прысадзістыя складаюцца фігуры. Адно дрэнна, што яны, тыя фігуры, цераз лад нетрывалыя былі: не то каб іх з лэскі выблытаць ды да сябе на ляжанку гуляць узяць, але нават калі вочы як мае быць расплюшчыць, куды яны й дзенуцца! Што было так шмат, розных, а то — ні знаку, няма ж... І не роскаш у яго гады было слухаць з ляжанкі, як злосна шурмуе на восеньскі прарэзлівы вецер высозны ясень над хатаю. А вось тыя Зэнкавы аднагодкі, на каторых у гэту пору лахманы матляў вецер у чыстым полі, каторыя стылі на скавышы, пасучы статак,— тыя ведалі гора, які з яго смак.

Боханам не гора было, калі ў іх заўсёды ляжала край стала, абрусам накрытая, булка хлеба, і пры ёй там жа пад абрусам нож. Кожны семянін мог прыйсці, калі яму трэба, і адкроіць, колькі яму трэба. От затаўка ў гаршку — гэта ўжо роскаш. Хоць частым, але госцем была яна ў іх.

Хлеб свой у Боханаў, а на затаўку, як і на тую кафляную ляжанку, бацьку Юстыну Бохану ўсю зіму даводзілася дрэва гэблікам грызці. Ён рабіў бандарку: кадзі, кублы й дробны ўсякі пасудак. Зэнка яшчэ не ў гадах быў, дапамагаць бацьку не давялося, і таму ў яго не балючая сярэдзіна, не калаццё ў баку, [redacted] прыемны пах смалісты хваёвых габлюшак застаўся ад бандаркі ў памяці.

А яшчэ Зэнкава дзяцінства кранулася зайздрасць.

Пад іхнюю вёску, пад самыя Далідавічы, падыходзіў панскага поля клінок. «Наддаткамі» далідаўцы яго ўпарта звалі. Як рабілі паншчыну, той клінок —

па гасцінец і да самае рэчкі, дзе яшчэ вёска касіла густую сенажаць,— быў далідаўскі палетак. Казалі: і цяпер, калі добра прыгледзецца, знаць, дзе даўней межы былі, дармо што, як толькі скасавалі прыгон, тыя «наддаткі» адышлі пану, і ён іх не адно баронамі, а й драбкачамі ды талеркамі драў.

— А вось тут,— паказвалі далідаўцы,— выдраныя межы ў капцы ляжалі. Баронамі іх сюды дваравыя парабкі пасцягвалі былі. Шмат сабралася, высока наклалі — як добры сена стог. Даўней,— казалі,— межы не такія, як цяпер, не скупыя былі: удвух размінуцца можна было.

Той капец дажджы даўно размылі. Зэнку ўжо адно прыкмету ў тым месцы паказвалі. Там за Зэнкава маленства чуць ліпеў дуплянаты скрыпучы клён на гасцінцы.

Не было шчасця ў далідаўцаў: яго з «наддаткамі» забралі ў двор. Вёсцы засталася мулкая, рупная зайздрасць.

Далей Зэнкава дзяцінства і ў хмурнае і ў яснае неба з грымотамі было. Недалёка, у Баранавічах, атаўбаваўся фронт.

Зэнкавага бацьку й траха не ўсіх падчыстую мужчын з Далідавіч выгналі на вайну. Калі хто й застаўся, дык ламаш які-небудзь. Ды яшчэ старыя. Бывае, і сонца яснае, й дзень цёплы, а яны — мерзлякі — прыбяруцца ў новыя кажухі ды выйдуць на гасцінец глядзець, як там, што вада ў рацэ, ішло войска ў той бок пад Баранавічы. Калі віхор зламаў скрыпучы клён на гасцінцы, то панскі аконам загадаў парабкам яго яшчэ выкарчаваць. Як і скрозь пры дарозе на паўмежку, так і там зелянела цяпер мурава. А ўсё ж далідаўцы, паўз тое месца ідучы, усякі раз згадаюць, што вось тут ляжала ўзадраных межаў з добрую капу. А стары Дзешчык, дык той усе чыста межы мог паказаць, у якім каторая з іх месцы.

— Вы адно прыгледзьцеся лепш,— казаў стары Дзешчык малодшым старым.

Тыя прыглядаліся й сцвярджалі:

— Але ж праўда!.. Знаць.

Як стрэмка ў воку, як скула ў боку былі далідаўцам тыя Наддаткі. І калі праве — не маглі прычакаць. А павінна было.

Няма чаго скардзіцца на недастачу: усяго ўсякага

ў Зэнкавым дзяцінстве прыпала. І трапілася яму адна такая гарачая восень, што паны, як апрышчаныя, уцяклі. Гэта было вельмі цікава. Зэнка нават з сваімі аднагодкамі хадзіў глядзець у пустыя палацы, што там такое ёсць.

Усё даступно было. Кожны браў тады, што паўздужаць мог. Сталыя ў сваім розуме людзі на цацкі не гналіся. Наўзахваткі, адзін перад адным на зіму заблігналі далідаўцы тыя Наддаткі. Восень трапілася працавітая, потная. Не было калі прыглядацца тых даўнейшых мет. Ды іх цяпер не дапамінаўся ніхто.

Юстын Бохан разам з усімі ад цямна да цямна поркаўся з плугам на Наддатках, каб налета ярыны якое пасеяць: хоць бы й таго самага ячменю, якога не вельмі густавалі ў Бохахнавых сям'і. Тады й бандарка не так бы пільна была, не так бы адбірала рукі й сярэдзіну — і без таго далася яна Юстыну ў знакі за шмат год.

Не ў Зэнкавых яшчэ гадах было думаць, як на свеце жыць. Яму для шчасця адно двух тых партрэтаў з палацу не ставала: грознага таго пана й пыхоўнай пані. І каб Зэнка ■ бацькам быў, то папрасіў бы, каб іх дадому ўзяць. Бацька б лёгка зняў, а сам Зэнка гэтага зрабіць не мог — нязручна, высока вельмі віселі. Дома б Зэнка ім побач з абразікамі месца даў. Калі холадна б было на дварэ, ён «...як малы некалі»,— думалася Зэнку: — узлез бы на ляжанку ды пагля-дзеў бы на іх, прымружыўшыся, як, бывала, на тую лэску ў акне.

Толькі гэтага Зэнку не прыйшлося. Нарваўся ў палацах на тых аздобных паноў старога Дзешчыка Мікалай, большы хлопец за іх за ўсіх, прымасціўся, зняў тыя партрэты й дадому сабе іх адтарабаніў.

Зэнку схадзіць да Дзешчыка тых паноў паглядзець, як гэта іншыя вясковыя рабілі, было зручней як каму: лапатлівая Дзешчыха — Мікалаева маці — траха не штодня да Боханаў «на хвілінку», як яна казала, пагаманіць заходзіла. І калі ёй пазычыць што трэ было, то й пагатоў — да Боханаў першых... Але ўсё ж Зэнка не пайшоў глядзець. Яму й так яны добра ў памяць былі. Надвячоркам, калі ціха ў хаце, Зэнка стоіцца дзе-небудзь ды чакае, каб не зварухнуць спакою, каб гусцеў змрок. А як змрок так загусне, такі круты стане, што, здаецца, скрыляць яго можна,

тады тая пыхоўная пані, як жывая, стаіць перад малым. І сукня ў яе, якіх даўно не носяць, такая доўгая — аж звісае за рамку. І гэта толькі што такая, як сцукраваны мёд, цішыня, тая пані нібы ў сваім палацы даўней, скрыва пазірае на Зэнку цераз гладкі пакаты плячук. А каб дыхнуў вецер — што б смеху было! На ўсю пагарду забылася б ды кінулася пані падол лавіць. Гэта было б нешта падобнае на Зэнкаву маці, калі яна ўвечары авечкі пераймае, як пастух [redacted] поля гоніць: гэтак сама й Крыся [redacted] абедзвюма рукамі кідаецца ва ўсе бакі, каб хапіць за воўну каторую, вельмі ж аблудную, што сваіх варот не пазнае.

Калі рана не запаляць лямпу, калі пушней усё падыходзіць той, густа замешаны, змрок, дык і стары пан, як у палацы ўсё роўна, з таго змроку грозіць Зэнку сваім кіем, якога таксама ў рамцы стоўпіць няма дзе, і кій тырчыць, як ражон. Што не меў патрэбы, а то хочацца Зэнку схадзіць да Дзешчыкаў, каб паглядзець: ці не абламаў Мікалай таго кія, спяшаючыся, калі здымаў пана ў палацы з сцяны.

Ды прыстараўся й Зэнка сяго-таго з панскага двара. Як цягалі кнігі з бібліятэкі — гэта ўжо яму па сіле было. Толькі што ён не такі ўпраўны, як іншыя дзеці. Пакуль разгледзеўся, што такі ж вялікі пакой — панская бібліятэка, гэта ў ім цесна толькі таму, што па бакох дзве на ўсю шырозную сцяну й самі высозныя — да самае недасяжнае столі амаль на вышкі — дубовыя шафы стаялі, замкнёныя й з паліцамі паабапал. Пакуль ён усё гэта раззіраў, тое шкло сыпалася, як лёд, калі ўзімку ля студні высякаць. Каторыя ўпраўныя вельмі, калечыліся да крыві. Затое яны лепшых — з цацкамі набралі сабе кніг. Зэнка крыві не праліў, але прыйшліся яму самыя абіркі: старадаўнія нейкія акты, у якіх не толькі цацак не было, але яшчэ й на паперы з суконку на грубіню былі тыя акты надрукаваны — на папяросу й то не варт. Такая Зэнку засталася дрэнь.

*Верасень 1935 г.*

**3. Ячнае — нясмачнае**

Ячменю работнік не любіць: і жаць яго нягодна — шындзёлы ды асот рукі колюць, і ў старану складаць — тое самае, ад асця рады няма: і ў цела і ў адзежу — стрэмак панаганяеш.

Зэнка Бохан з самага малку ячмень неўзлюбіў. Нават у місцы. Як паставіць маці забелены крупнік на стол, ён стараўся зверху забелку спіць, а калі адна гушча на дне застанецца, Зэнка клаў лыжку: ён пад'еў ужо.

Сам Юстын Бохан пайшоў у работу з малых год, а свайму сыну ён хацеў як найдалей пагуляць даць. Аддаў нават у блізкае мястэчка вучыцца ў сямігодку. Ужо мог бы, але ні сена грэбці, ні на іншую ніякую работу Зэнку не валалі. Толькі на адзін праклягы ячмень!.. Як звяжуць яго ў снапы й дадому ў ток звозяць, выпраўлялі Зэнку з кошыкам каласкі пазбіраць на пожні.

Каб касіць ці хоць бы той самы ячмень вязаць — гэта б яшчэ ахватней было, гэта сталых работа. А то каласкі збіраць! — як дзіцяці ўсё роўна. Да Зэнкі ў сямігодцы вунь сляпіліся, а ён не захацеў — бо не малы — у піянеры запісвацца; падаў заяву проста ў камсамольцы. І там не прынялі. Метрыкі Зэнку здрадзілі — давялося чакаць яшчэ паўтара года. От бачыце, як ён нідзе сваею сталасцю папусціцца не хацеў.

А такая праклятая збажына! Ніщто, як калюччы гэты ячмень, так не крышыцца і не сыплецца. Нічога так шмат не застаецца на полі.

— Ды гэта ж недалёчка. Вось тут, на Наддатках,— падахвочвала Зэнку маці, а таго яна не ведала, што сын сталы ўжо для такое работы.

— Што ж няма вушчуну! — як некалі бабуля-набожчыца, нашурмуе Крыся на Юстына, калі з Зэнкам выйдзе з цярпення.— Каб чуў дух, то нябось...

Няўжо маці думала, што Зэнка даўся б ушчуваць, як малога?! Яшчэ дзяжкаю, можа?!

Чаго не было!

Ды куды дзецца? Не сця любя Зэнка браў ганебны той кашэль. Усё ж добра было, што хоць на Наддаткі. Там помежня з Бохanaваю не было Дзешчыкавае нівы, а Зэнка — хто яго ведае чаму — больш як каго Дзешчыкавае Марылі саромеўся пры такой рабоце. І якраз яна, на тую бяду, аднекуль ішла гасцінцам.

— Памажы, божа! — было сказана, як добраму чалавеку, але Зэнку, як камсамольцу праз паўтара года, нават дзеля ветласці не выпадала дзякаваць.

Вядома, куды лепш было б, каб Марыля зусім яго не прыкмеціла, а то ўсяк ёй прыдумацца магло. Што

не на пяць, як на самай рэчы, а можа, намнога больш Зэнка за яе малодшы — была б з тых думак самая благая.

А каб жа яшчэ Марыля ведала, што маці сварылася на Зэнку, каб клаўся разам з імі, з старымі, спаць, абы сонца зайшло!.. Ён, на лета на вакацыі сыскаўшыся дадому, вельмі ж доўга вечарамі бавіўся на вуліцы.

Не толькі на адну мацеру — ад крыўд было не абабрацца кругом. Сталейшыя хлопцы самога Зэнку і ўсю ягоную далідаўскую хэўру «падшывальцамі» звалі й ані ў чым не бралі іх у рэзон. Усё ж, як камары цёплымі вечарамі ўлетку таўкуць мак, якраз гэтак і тая хэўра круцілася каля большых. Ім каб падцікаваць што. Сама ж пільна ведаць трэ было — якую дзяўчыну й каторы з большых праводзіць, як разыходзяцца дадому. Канечне дацікуюць! А Зэнка, дык нават вынаходку зрабіў.

Толькі крануцца большыя разыходзіцца, ён наперад забяжыць, залезе ў Дзешчыкавых агародчык перад хатаю дый ляжа пад штакетамі ля лавачкі, што памошчана ў іх на вуліцы.

Марылю Дзешчыкаўну, вядома было, што Вароніча Вінька праводзіць. І дацікавана было, што мелі яны моду, як усе з вуліцы разыдуцца, сесці на таей лавачцы, каб адным яшчэ пасядзець. Ды як бы ціхенька ні гаварылі, Зэнка, сваю вынаходку зрабіўшы, дзён колькі запар чуў, аб чым. Потым усё чысценька хэўры пераказваў. Тым з усяго гэтага такая фацэсія была, што аж клаліся з рогату. Аднак не асабліва трывала Зэнкава вынаходка. Аднаго разу яму так у тым агародчыку кашлянуць захацелася, што ніяк не ўтрымаўся. Хацеў, каб памаленьку — ажно пачулі...

— Хто тут? — усхапіўся з лавачкі Вінька Вароніч.

Зэнка зарагатаў і пусціўся наўцёкі.

На бяду, здарылася гэта ў бязлітасную месячную ноч. У агародчыку ў тні за хатаю ўтульна — чорна й схавацца можна, а як выбег Зэнка на відно, дык Марыля й пазнала.

— Гэта ж Боханчык,— кажа.— От шыбенік дзе быў! — Ды не вельмі яму даняло — значна горш уразіла Зэнку, калі Марыля яшчэ: — Ах ты, жабуцька ты!..— сказала наўздагон.

Можа, якраз за «жабуцьку» другі раз яшчэ дур-

нейшую штуку прыставіў ён: тым жа самым Віньку з Марыляю засыпаў пяском вочы — надраў тут жа з прызбы й сыпнуў навотліў. А яны таго вечару зручна для такога падэсці сядзелі на зборні з самага краю.

І нагарэла б Зэнку за гэны раз. Ну каб тады Дзешчыкавых Мікалай злавіў! Ён так і сказаў быў:

— Раздзяру жабу, каторую й кіну,— ды глядзі, што сваю пагрозу й спраўдзіў бы. Толькі трапілася яму шмат перашкод. Не разабрацца было адразу, у чым нават справа — шмат на прызбе там моладзі сабраўшыся было.

Мала таго, што месяц — таго вечару такі нішчымны (адно блішчасты рубчык) — саромеўся вытыкацца на людзі, каб не справілі з яго смех, а свой прыклеп адлажыў пад раніцу, напярэдадні адбыць, як ужо з вуліцы разыдуцца ўсе й пакепліваць не будзе каму; сама ноч была, як у песнях заўсёды,— спагадная, хмурная. Было не разабраць, чыя гэна работа, бо ўся хэўра, як рудыя мышы, пасыпаліся хто куды віда. Ліха яго ведае, каторага й лавіць было!

Даніманнем, ці як, але потым акурат дайшлі, што гэна Боханчыкава работа. Зэнка тое ліха ведаў: як прыйшла да іх Дзешчыха, ніхто не згледзеў, калі ён драпнуў з хаты. І не памыліўся, бо Дзешчыха паскардзілася Крысі, што ён разбазыраў вельмі.

А ў Крысі ва ўсім быў бацька, Юстын Бохан, вінаваты:

— Што ж — няма вушчуну!.. Каб угразіўся харашэнька...

На сваю галаву бяду пачуўшы, хто яго ведае, дзе цалюткі дзень бавіўся Боханаў шаляніца. І ўсё ж не прастыла к вечару ў бацькі злосць, як ён спадзяваўся. Пакуль не селі вячэраць, Юстын маўчаў. А як залез Зэнка на сваё звычайнае месца — траха не на самы кут, ды паабапал яго на лавах абселі, бацька й пачаў сваю казань. Але ж усяк чыста прабіраў! А Зэнка быў як сцяна. Крыся ў міску налівала й Юстыну патаквала. Яна яшчэ дзяўбла, што адных слоў мала, а не пашкодзіла б і перацягнуць чым. Скрозь зямель бы трэ было Зэнку праваліцца, каб не было ў бацькавым прабіранні прыемнага, што Зэнка не маленькі ўжо й дзе гэта відана такому хлопцу ды так блазнаваць!

Каб так паабапал не абселі, можа б, Зэнка кінуў,

не вячэраў бы. Якая там вячэра, калі сляза слязу пабіваючы!.. Што вырабіцца не было як, сілком мусіў да канца даседзець і нават лыжку ў міску мачаў, хоць і гэтак жвава, як іншыя. Як яшчэ крупнік паставілі, не разбіраў ён цяпер ні забелкі, ні гушчы — ва ўсім быў аднакі (ніякі) смак.

На вуліцы недзе далёка спявалі. Як вар варыўся там. А Зэнка моўчкі, як і за сталом, стаў раздзявацца, каб легчы спаць. І не камень матчына сэрца — за гэта самае напаследак пахваліла Крыся Зэнку.

Праўды дайсці — цяжка. Праўда заўсёды бывае нейчая і часам — хто яе ведае, чыя, каму веры даць.

Хоць бы і ў гэтым выпадку:

У жніво Марылю Дзешчыкаўну на Варонучавай ніве, а ў малацьбу — у іхнім жа таку часцей, як дома, застаць можна было. І ўсё ж не было наконт гэтага адзінае праўды.

Такім, як лапатлівая Дзешчыха, язычлівым далідаўкам тут відаць было хуткае вяселле.

Сама ж Дзешчыха казала, што проста ВаGronічы такія добрыя людзі — ну, дапраўды, пашукаць такіх! Нахваліцца імі не магла яна. Дык чаму не дапамагчы, час меўшы, калі тым работнік патрэбен?!

Дзешчышына праўда магла б самаю цвярдою быць, каб сама яна часам не шаптала Крысі, што першыя — язычлівыя — на зайздрасць ім, не так ужо й далёка ад праўдзівае праўды.

Гэных шэптаў страх як не любіў Зэнка. І ніколі не слухаў. Ён толькі, як яны пачнуцца, не спяшаўся сыходзіць з хаты. Знойдзе сабе якую работу й вельмі марудна, каб не стукаць і не скончыць без пары, будзе длубацца. Такім толькі чынам Зэнка нехаця ведаў усё, абедзве тыя праўды. Але ўсё ж ён сваю, трэцюю, праўду меў.

«Эксплаатацыя» — быў у яго наконт усяго гэтага зусім тэрміналагічны погляд.

І тэрміналагічная гэна праўда трывала, адно пакуль не нахмурэла.

Ізноў на ячмені была прыгода.

Боханы ў Дзешчыкаў — таксама не благія людзе. Ды тым больш з захаду вельмі ж цёмная падымалася ўверх па небе навальнічная хмара. А пагатоў, іхні ячмень у жменьках насох добра за пагоднія дні, й калі цяпер не звязаць, з поля не звезці — усё будзе

марна й давядзецца нанава сушыць. І не на Наддатках, а недзе на Блізшай ці Дальшай, дзе Боханава й Дзешчыкава нівы так, як сядзібы,— помежня, было гэта. От Дзешчыкавы жнеі й кінулі сваю, не так пільную, работу ды прыйшлі ўтраіх, каб суседзям да дажджу дапамагчы ўпыніць.

Зэнка каля Марылі Дзешчыкаўны сабе постаць заняў. І не ашукаўся. Бо, як ніколі, на такой постаці ахвотна вязалася яму.

У Марылі [redacted] рук проста сыпаліся снапы. Зэнка ж, як зусім сталы ўжо, каторага і ў камсамол прынялі, стараўся за ёю паспяваць, ды ўсё ж не заўсёды траплЯў, каб сноп у сноп. І яшчэ адна розніца была, якую толькі Крыся й ведала.

Марыліны снапы, як кулі: такія й таўстыя й тугія выходзілі, а Зэнкавы драбней крыху. Крыся смела хапіла была за перавясла, каб хутчэй Юстыну на воз падаць, дык розніца й выявілася: адно перавясла ў Крысінах руках засталося, а Зэнкавае работы сноп — раз'ехаўся.

Не была б то маці — нічога не сказала, сына не здрадзіла, а, у рабоце завіхаючыся, тае Зэнкавае вады больш і не зглелзеў ніхто. Крыся звязала той сноп другі раз і далей была больш асцярожная: не за перавясла, [redacted] пад паху старалася браць з Зэнкавае постаці.

Як ні чорна, ні грозна хмара была, а змаглася, прысунуўшыся за такую даль аж на далідаўскае поле. Былі ў яе адборныя, буйныя — не кроплі, а чысты крышталь. Але хмара здарожылася, не дужа была данесці, куды кіравалася, каб там харашэнька імі сербануць. Боханавы вязальніцы, за пагодаю з работаю ўправіўшыся, ішлі й бачылі, як чысцюткія тыя кроплі куцаліся ў пыл, у бруд на дарозе.

Мала што самога дажджу яшчэ не было! Усё ж не дарэчы ў такі настарожаны час... Зэнку можна было на другі раз пакінуць тое вельмі ж фацэтнае, што ён Марылі Дзешчыкаўне апавядаў дарогаю. Перад навальніцаю ўсё — нават вецер — прыціхае, а Марыля смяялася, слухаючы Зэнку. І моцна нават.

Што сказаць на гэта?!

Пра ячмень гэты раз Зэнка застаўся найлепшае думкі.

І хай бы хто тады Зэнку сказаў, што гэта эксплуатацыя была. От паглядзеў бы ён, як Зэнка вытрашчыў бы вочы.

Каторы смаліць у якую няшчасную хвойку ці бярозку дзе-небудзь на ўзгорку, той завецца пярун ясны, а Пярун Рыжы займаў у іх хату, што цераз сенцы, дзе віселі тыя з палацу некалі прынесеныя паны, не на вуліцу, а ў садок каторыя вокнамі. Толькі абразік, загадаў ён, каб там з кута знялі й сабе забралі гаспадары.

Акон іхні кватарант не завешваў. Гарэла ў яго вялізная лямпа. Хоць і галіў галаву, але вельмі ж хутка яна абрастала. Як гарбуз, вялізную і ўсю рыжусенькую можна было, зайшоўшы [redacted] таго боку, ад садка, бачыць Перунову галаву, схіліўшыся над паперамі.

Што тая галава на галаменку падобна, першая Марыля Дзешчыкаўна дабрала такое параўнанне. На вуліцы пра свайго кватаранта сакатала яна розныя фацэсіі.

А яшчэ Варонічавага Віньку тады ўзялі ў войска.

На дзве часткі і ў кнігах не прыгожа падзел. У жыцці — тым больш...

Дрэва можна ўвосень пасадзіць, а раскарчыцца, як мае быць прымецца яно толькі ўвесну. Тое самае і з чалавекам. Ды цяжка, балюча бывае, калі ў гэту пару вырваць яго самахцом. Бо самае балючае месца — калі міне дваццаць год. І якраз па ім казна стараецца ўцяць: абвяшчае прызыў.

Цяпер паміж першаю (незабытнаю) часткаю й другою (невядомым тым працягам) хоць не вялікі прагалак. Не тое што некалі, як 25 год у войску трымалі. Але, можа, гэта [redacted] цяжэй крыху: больш у тым месцы, дзе парвалася, шчыміць. Усякі ведае, што як адзёр ці скарлатыну ў маленстве, так гэты прыкры прагалак давядзецца перабыць, але кожнага ён застае раптоўна, калі той за нечым забыўся быў аб ім. Вось чаму ў кожнага што-небудзь ды бывае перапынена на самым няпэўным месцы. А праз гэта Марылі Дзешчыкаўне [redacted] пасыпаліся лісты.

Паштар Гаўрушчык пасміхаўся толькі, іх дзяўчыне аддаючы. І, пэўне, ведаў з чаго, бо паронкамі дыхцела. Але меў Гаўрушчык вусы, як густа сплецены частакол. За імі смех, як у загарадцы, бегаў, а не відно, напаказ прабіцца не мог — ён жа не птушка, каб поверх пераляцець.

Гаварылася некалі на таей лавачцы ўсякага шмат. А ў лістох нічога такоўскага — тое самае толькі Вінька пісаў. І калі Марыля крыху саромелася, чытаючы, дык гэта, можа, што пісана было расійскаю моваю. Некалі на лавачцы не гаварылася, а шапталася. Голас у Вінькі такі цёплы, як цёпла было тады сядзець побач блізка-блізенька. Таксама: кавалку паперы не паглядзіш у вочы, ці праўду ён кажа, як гэта некалі на лавачцы можна было зрабіць у самы горшы, насуплены які-небудзь вечар.

Было на вёсцы абгавораў! Не чужога каго — родную маці як не разрывала з цікавасці. Быццам сяброўка, паддобрывалася да дачкі.

— Хоць бы прачытала, што ён знаходзіць так часта пісаць.

Якраз так, як у сяброўкі, каторай не шанцуе, для якое яшчэ шмат на свеце не пазнаных таямніц, у Марылінае маці гарэлі вочы.

Марыля ўсё ж схітравала, выкруцілася, не прачытаўшы. На потым, як спакайнейшы будзе змест, яна адлажыла. І нічога іншага Марыля не мела на мэце, як толькі льга было мацеры Вінькаў ліст калі паказаць — толькі за гэтым адпісала яму той раз: «Не пішы ты хаця гэтак...»

Тых лістоў, каторыя льга было й мацеры паказваць, стала менш. І што далей, то большы гультай на іх рабіўся Вінька.

Якая б яна сабе ні была, як твань чорная, усё ж ноч прыдатней, чым такая адлегласць. Ліхадзеем робіцца і час, калі з адлегласцю схаўрусуе: толькі множыць трывожныя згадкі.

Яшчэ калі першы раз Марылі напісаў Вінька, што паступіў на нейкія там камандзірскія курсы, яна, хоць так і не адпісала, а падумала: наліха яны! Тым паведамленнем і дадзен быў кірунак Марыліным згадкам, калі яна Віньку шукала апраўдання. Мусіць, не ленаваўся ён пісаць, а за тымі курсамі часу не меў. І, напэўна, праз іх не вярнуўся дадому, тэрмін выбыўшы.

На вёсцы здагадваліся ўсяк. З тых згадак самая трывалая была — ці не ажаніўся толькі Вінька там дзе. Адна Марыліна маці таей згадцы не давала веры.

— Што яму, сваіх, вясковых, мала?! Будзе нейкага там гарадскога вытлука сабе цягнуць,— казала Крысі.

Усё гэта гаварылася й рабілася на Зэнкавых вачах. Ён ужо не адно ўлетку, але і ўвесь год дома быў. Скончыў сямігодку, а вучыцца далей не пусцілі. Ячэйка затрымала на вёсцы працаваць.

Называлася працаваў, што рабіў сходы. Гэта шчасце чытачу ці не так дадзела ды прыслухалася, як і далідаўцам. Дык не будзем мецьЗэнкавае моды —назаляць. Другая Зэнкава праца, калі чытачу гэтаксама, як і сходы, то ў Далідавіч, прынамсі, за навіну, была. Першы раз да насценнае газеты там народу схлянула шмат.

Галоўнае, што малюнкі, а бывае каторы й падобны на каго.

Адно з тэмамі Зэнкавы дапісчыкі гаравалі. Бывае, й знойдзецца, але так выходзіць, што праз гэна перад некім дапісчыку будзе няспрытна. Вось што сама горш!

Зэнка не меў у іх таварыства і да Дзешчыкаў хадзіў толькі, калі ў тых ігрышча збіралася, або каб на сход загадаць. І гэты раз ён зайшоў не так, а за патрэбаю. Зэнка хацеў, каб яму ў газету Даніла Невядомскі напісаў што — такі ж у Вам Вядомым Горадзе ў праўдзівай рэдакцыі працуе ён.

Даніла Невядомскі прыехаў дадому. Не сказаць каб ён часу не меў: у Дзешчыкаў жа праседжваў гразкія й цёмныя восеньскія вечары. Зэнка дазнаўся, што і ў працаўнікоў праўдзівых рэдакцый здараецца — не вядуцца тэмы. Зусім для іншага некага далідаўскі рэдактар меў сёе-тое ў запасе, ды мусіў Данілу выратаваць, што вось можна б было напісаць, як Іллюка канцавога свінні: «Я гэты факт,— казаў,— сам праверыў», зрылі сенажаць каля рэчкі, або што грамадзянам вёскі Далідавічы варта б было свядомымі быць і плаціць страхоўку, не чакаючы раты й пені.

Даніла не таму ратунку, а што ў Дзешчыкаў пра Варонічавага Віньку гаворка пачалася і тая — з Зэнкам — зацерлася, быў вельмі рад.

Даніла пацвердзіў, што праўда — Вінька ажаніўся; гэта было незадоўга перад ягоным ад'ездам. Нават Віньakаву жонку ведаў — была яна якраз Данілавае ж гаспадыні дачка.

Данілу, можа, нічога ў тым асаблівага, а Зэнку ж даводзілася ўсякія Дзешчышыны шэпты чуць, і цяпер

было дзіўна, як увачавідкі ў яе адмяніліся Варонічы. Ужо над іх не было горшых людзей.

З тых Данілавых апавяданняў пра гаспадыніну дачку адным Дзешчыкі спагналіся: былі яны рады, што хоць у Вінькавае жонкі імя вельмі ж брыдкае.

— Ты падумай, мая любая! Людва. Чортведама што! — ужо потым расказвала Дзешчыха Крысі.— Гэта ж у нас нідзе ў вакулічнасці такога імя не чуваць.

І ўсё гэта плёткамі, а не тэмамі звалася. Ніякага расследавання паводле іх нельга было зрабіць, нікога, усё пачутае напісаўшы, не прыцягнеш да адказнасці.

Тэм было скупа.

Яна з'явілася потым. Ды як жа шмат!

Іншым было ні сця-любя, як выпраўлялі Варонічаў. Нават каторыя хадзілі ў камісіі. А Зэнка заставаўся спакойны і ўважлівы. Гэтакі бывае ў бальніцы ардынатар, калі з прафесарам абыходзяць палату. Яму каб усё бачыць і нічога не прапусціць. Бяда, што далей развіць гэта параўнанне нельга. Хто ж тады як прафесар будзе? Пярун Рыжы? А чым ён не падыдзе?

Усім.

Там Зэнка не ў камісіі, а толькі дзеля тэм быў. Сабралася іх у хлопца так шмат, што адзін ніколі б усіх не паўздужаў. Як увесь галас у Варонічаў быў скончан, ён таго скарбу ўцалку не данёс дадому, а закіраваў па дарозе да Дзешчыкаў.

Хай бы Мікалаю, дык не — Марылі прапанаваў адну ▪ свайго вялікага запасу.

— Ну хоць бы,— казаў,— напісаць пра тое, як некалі цябе Варонічы эксплаатавалі, а цяпер як ты рада, што няма іхняга варожага класа больш у Далідавіч.

З Марыляю Зэнка многа пасмялеў. Ні да Мікалая, ні да старых у яго не было нават удавання інтарэсу. Дзеля яе адной зайшоў ён гэты раз да Дзешчыкаў. І пра тыя, што ў Вароніча выгледзеў, тэмы з Марыляю гаворачы дурэў крыху, калі старыя не пазіралі ў той бок.

Дзяўчына лагодна адхінула Зэнкаву руку, паправіла крыху кафтан.

Доўга забавіўся Зэнка, Марылю ўгаворваючы, што ёй прыходзіцца адна з лепшых тэм. І хоць усё пайшло намарна — ніколі Марыля не пісала й цяпер не падра-

дзілася, але да яе, як да найспраўнейшага свайго дапісчыка, далідаўскі рэдактар з гэтага разу часцей збіраўся заходзіць.

Некалі Зэнку гады вельмі ж палохалі. А яны на самай рэчы бываюць усякія: у Марылі былі доўгія, павольныя, а ў Зэнкі — кароценькія. Ён з сваімі, жвавейшымі, калі верыць Дзешчысе, гатоў неўзабаве ўперадзе, паводле Марыліных, апыніцца. Дзешчыха так у Боханаў і казала:

— Ды мая ж Марыля вашаму Зэнку аднагодка амаль.

І яшчэ шалахтала:

— Я ўсё роўна як тое ліха й ведала. Яшчэ ўперад, як Вінька вельмі ж упадаў, казала сваёй: «Пагуляй яшчэ. У такіх гадох тваё не дзе дзенецца. Не ганіся на багацце. Хай яно спрахне! Мала што хата дахоўкамі крыта! Яшчэ хто яго ведае, што ўперадзе можа быць».

Воранічаў ужо яна шкадавала.

Усё было б добра... Нават ад Дзешчыкаў выбраўся кватарант, Пярун Рыжы цяпер атаўбаваўся ў Варонічавай, дахоўкамі крытай хаце. А Марыля сабе там, цераз сенцы, дзе ён жыў, прыбрала: абцерла ад пылу тых паноў абодва партрэты, заслала чыстым абрусам стол, лепшаю посцелкаю ложак прыбрала й палажыла на ім падушак сцірту, павесіла йзноў абразік на куце, а каб харашэй было — бо той святы залішне зяркаты ўдаўся — з тонкай паперы ва ўсякія кветкі выразала ручнік і ім абразік — як анталяжамі, не раўнуючы,— аблямавала.

І ўсё ж да таго добра трэба дадаць — каб не...

Ужо й сапраўды стаў быў Зэнка так гайсаць па вуліцы, як некалі. На гэта новыя падгадаваліся. І яны, так, як некалі Зэнка зрабіў, асачылі, што Марыля адна ў другой Дзешчыкавай хаце ад садка спіць, а Пярун Рыжы штовечара лазіць туды ў акно. Прыйдзе, асцярожненька стукне, а Марыля адчыніць.

Некалі баялася Марыля Рыжага Перуна, перадражнівала яго ды кпіла з тае галаменкі. Зэнка сам гэта чуў і бачыў і цяпер навіне не паверыў, хоць падшывальцы большым хлопцам, такім, як Зэнка, бажыліся і ў грудзі сабе кулаком білі, што праўда.

Бяда, што гэта не тэма была, а бадай плётка: нельга было расследаваць і, калі праўда, прыцягнуць да адказнасці.

Нехта ў насценную газету нататку падаў. Хваліла яна Перуна Рыжага: нібыта ён нешта выкрыў ці высветліў — нейкія хітрыкі, ато, можа, й махінацыі. А ілюстрацыя да нататкі неўспадзеўкі злосная выйшла. Зэнка Боханчык, чыя гэта была работа, зрабіў мудрэй, як на самай рэчы: рыжусенькі старшыня ў хлопцаў выйшаў, а нос — жоўты нават.

Вось за гэты жоўты нос больш як за што зазлаваў Пярун. Так відаць было. Але ён маўчаў. Прабірала маці:

— Каб тваю чорт скуру спісаў! Што ж,— разводзіла Крыся рукамі,— калі змалку не было ніякага вушчуну! От паглядзіш! Успомніш маё слова! — ён табе падстроіць нейкую штуку. Сам будзеш нярад...

### 5. Ячнае пасмачнее, калі падсаліць

Няпраўда: Пярун Рыжы ніякае штукі не падстроіў. Але як Зэнка прынёс заверыць анкету — хлопца пусцілі нарэшце вучыцца — ён на драбінцы, на былым сацыяльным становішчы ўпёрся.

— Як гэта — «заможныя серадлякі»? — ад першага разу Зэнка абразіўся нават.— ...калі ў бацькі,— кажа,— усяго чатыры дзесяціны было.

— А на Наддатках?

Тут Зэнка, можна сказаць, змоўк, бо тое, што ён у сваё апраўданне сказаў:

— Ды там жа не мераў ніхто! — слабы доказ.

Прамераць Наддаткі было позна. Ізноў страціліся межы. Лічаныя гады пабыў спаласаваны гэты клінок, дый межы цяпер не такія шырокія пушчалі, як даўней,— адно хібок, а ўсё ж пырніку на гасцінец самі далідаўцы насцягвалі чортаву гібель. Высозны з яго выйшаў капец на гасцінцы ля клянка.

Стары Дзешчык (Марылін даўгавечны дзед) чуць ліпеў ужо. А й ён узяў кіёк ды прысунуўся сюды паглядзець на тое дзіва. Іншыя за работаю былі, а ён не мог ужо, дык тут сабе занятак знайшоў. На тым клянку Дзешчык глыбоку зарубку прадлубаў, па якое месца на высачыню капец займаў. Самому тры чвэрці да смерці было, а ўнукам дбаў.

— Згодзіцца,— кажа.

Таму клянку не такі, як Дзешчыку, яшчэ вялікі быў уперадзе век: надоўга мелася застацца па-

мятка. Дый Пярун Рыжы памяць аб Наддатках варуцыў:

— Хай сабе,— казаў,— і нямераных, а ў твайго бацькі з Наддаткамі разам было больш за чвэртку. Ды гэта што?!

Зэнка мусіў тую анкету дадому ўзяць і так, як Пярун Рыжы казаў, перапісаць.

Была не для сельсавецкае канцылярыі нядзеля. Там не святкавалі.

А ў Боханаў дома гэты дзень, як здаўна вялося, быў бы прыспаны й мінуў ня ў знак, каб не Зэнка з гэтакаю навіною вярнуўся.

Аж ён не рад быў, што пры мацеры пра тыя Перуновы падэсці гаворку ўшчаў: лепш бы аднаму бацьку сказаць, а то ці першы ж раз чуць:

— А я не казала?! От бачыш!

Каб барджджэй уціхамірылася, ніколі Зэнка мацеры не супярэчыў. Гэты ж раз — і пагатоў. Сам быў тае думкі, што ўсё гэта яму за той жоўты нос.

Святочны гэты дзень быў Зэнкавым уласным. Другому камсамольцу ён насценную газету перадаў, дык нікуды цягнуцца не трэ было. Мог сабе прылегчы, прымружыць вочы і так прыемна прагультаяваць.

Змрокам цяжкі, спрацаваны, знябыты бывае, а гэты — па-святочнаму ясна прыбраны, урачысты быў кавалачак цішыні. І кожны семянін у ім меў сваё, самае зручнае, месца, якога яму ў гэту хвіліну так даволі было, што нікуды не кратаўся — не вабіла нішто. Але як мне гэта таму растлумачыць, хто не злагаднай сям'і рос? Баюся, каб хаця ўсё зразумела было.

І ў каго не так, як у Боханаў, былі ў хаце вокны ў вясёлы бок (на ўсход ды на поўдзень), гатоў нічога не ўбачыць. А ў Боханаў спусціла сонца далоў свае дзве русыя бліскучыя касы. У іх кожны праменьчык нацягнут, як струна. А тых струн, што на цымбалах. Па іх ходзіць дробненькі пылок. Кволы ён вельмі — на дыбачках. Ад гэтага вагаецца яшчэ вышэй, але нячутна.

Сама лепш жа той зразумее і ўбачыць, хто ведае пару, як толькі ўсеюцца ды пакуль касіць не пачыналі. Той паверыць, што толькі чэрвеньскае сонца, пакуль яно без работы, пакуль яму нічога сушыць не трэба, пакуль не спяшаецца, толькі й можа так надоўга спыніцца, як цяпер у Боханавых вокнах.

— Нечага ж да нас Дзешчыха бяжыць,— зглядзела Крыся ў акно.— Пэўне з якою навіною — шпарка ж вельмі...

Як павуцінне, парвала яна, у хату зайшоўшы, самыя тугія праменні, калі прайшла праз абедзве тыя касы. І гэтага было даволі, каб пылок замітусіўся ў самых блытаных кірунках, каб зусім не прадбачаныя ў ім з'явіліся віры.

Дзешчыха, праўда, прыйшла не так. Навіну можна было нават на расследаванне паслаць, бо казала дакладна:

— «Амарыканцам» таго пасялкоўца дражняць, калі ведалі...

Зэнка ведаў добра. Але якія цяжкія цяпер павяліся тэмы! Гэна той з бліпчастымі вачыма малы ўдаў, што бацька з абагуленае нівы сваёй карове ўночы мяшок канюшыны прынёс. «Амарыканца» пагналі, а маці й сына выштырыла ўслед. І ад тых дат — ні на парог!

— Так малое й валочыцца: дзе ноч пераначуе, дзе дзве. Ото бо пайшоў свет! Каб яго пярун ясны,— казала,— высмаліў!

— Але ж, але ж, мая любая! — Дзешчышымі ж слоўмі патаквала ёй Крыся.

А Зэнка сцяну чытаў. Даўгавечныя былі тыя акты, што некалі Зэнка з палаца прынёс. Імі Боханы як аклеілі хату, так яны ў іх і заставаліся на сценах колькі ўжо год: грубая, незнашоная проста трапілася папера. А якраз над ложкам было:

Польшча квітнець лацізною,
Літва квітнець русьчызною.
Без той у Польшчы не прабудзеш,
Без сей у Літве блазнам будзеш.
Той лаціна ензык дае,
Та без Русі не втрывае.
Усюды Русь, тая хвала
Ва ўсім свеце юж дайзрала.

Не было ані надзеі на такое збавенне, але ўсё ж Дзешчыха агледзелася, што забавілася ды трэба ёй дадому йсці.

— Гуляй. Куды табе спяшацца?! — такая ў Бохаміхі была далікатнасць, хоць сама прычакаць не магла, каб хутчэй яе выправіць ды палуднаваць на стол паставіць.

— Ото лапатэнт! Адкуль у яе й бярэцца?..— гэта таксама ў Крысі далікатна было, бо гаваркая суседка ўжо выйшла з Боханавых двара й не магла адтуль пачуць, а Крыся дадала яшчэ: — Гэта я ёй не за вочы, а ў вочы скажу.

Тысяча каторы раз старадаўняю моваю напісаны верш, што на сцяне, трапляецца Зэнку на вочы. Ягоны сэнс усё як бы муляў, рупіў нязнойдзены. Прадчуваўся, нібы сонца на небе ў хмурны дзень. Ды лягчэй было наконт таго сэнсу памыліцца, як сказаць праўду, у якім ён месцы. А цяпер неўспадзеўкі выблiснуў.

— Тата.

— Чаго?

— Няўжо без гэтага нельга абысціся?.. Я вось ляжу й думаю... Няма паноў. І толькі тае бяды! І не трэба. Але няўжо канечне, каб і нашае з вамі адметнасці не было? Я не веру, каб без гэтага нельга было абысціся. Баюся, што не па старасці гэта, калі шкода, шкода, ды пара ўжо, а смерць у маладым вяку, як сама што ўбіраліся ў сілу — толькі б красавацца, а тут раптам такая выпадковасць. Баюся, што праз гэта шмат прыгожага і нязнанага страціць свет.

Крыся чула не адно запісаную, а ўсю гаворку.

— Ежце, пакуль сваё вядзецца,— разаслала яна абрус і паставіла патэльню на стол, а сама нешта вельмі ж хутка адвярнулася ў другі бок і ўзялася за ражок хусткі.

Ячмень усюды мала прыемны. Напрыклад, у воку. З аднаго ячменю й блін выходзіць як брус, і ніякага ў ім смаку. Ратавала грэчка, каторай прыемна было. Гэта таму, што з грэчкаю, высока падышлі бліны на скаварадзе, мяккія, пушныя спякліся. Лікам не шмат, а высозны касцёр зляжыла Крыся. Двух тых бліноў добраму касцу пад'есці. Ды калі яшчэ з мачаннем!..

Звер каля звера грэецца, а чалавек каля чалавека й пагатоў. Ды якое прыемнае гэта цяпло! Быў тут бацька, была маці, былі бацькаўскія дзеці. У такім котле ахвотней есца й ячны крупнік, з якога некалі Зэнка адно забелку зверху сліваў. Цяпер ён браў прытном з самага дна, як маці той крупнік паставіла пасля мачання.

— Нешта недасаль, ці што? — не мог добра разабрацца занадта маўклівы пасля тае гаворкі Юстын.

Ён усё пазіраў пад сябе, як нурэц які, а калі зірнуў

на Крысю, то й высветлілася, што Крыся даўно ўжо слязьмі пакрысе сабе прысольвала. І сварыўся Юстын на яе дужа за гэта самае. А што жонка вінавата, калі вочы на такім мокрым месцы: малечка што, дык і паплылі... Або ж сама Крыся не ведала, што тыя слёзы дурныя, што так было б лепш, замілавання не меўшы. Ды не магла.

— Будуць дзеткі, як шчаняткі, вочкамі на людзей бліщчаць,— не датрывала, пачала прыказваць ды загаласіла ўслых:

— От дурніца!.. Дурная дзе была!..— хацеў Юстын разважаць, ды сам нешта быў нязвыкла хмурны.



# СЛОЎНІК КАЛЮГАВАЙ МОВЫ



## *Заўвага пра чужыя словы і звароты*

1. Слова «зараз» у нашай літаратурнай мове ўжываецца няправільна, не гэтак, як у народнай. Выраз «Мы зараз маем пастанову Саўнаркому БССР...» — бяссэнсіца паводле жывой мовы народу (беларускага, вядома). І толькі тады можна будзе яго зразумець, калі «зараз» (у гэтым выпадку) замяніць словам «цяпер». Можна сказаць або «Мы зараз будзем мець пастанову...», альбо «Мы цяпер маем пастанову...». У нашай літаратурнай мове ўжо ўвайшло ў традыцыю ляпіць гэта слова ўсюды, дзе толькі можна было сказаць па-расійску «сейчас». А на вёсках, як у нашым раёне, так і ў другіх: ад сялян Магілёўшчыны, Віцебшчыны, Случчыны, з якімі мне даводзілася сустракацца, я ні разу не чуў слова «зараз» у цяперашнім часе (гэта слова ўжываецца толькі ў будучым часе).

Калі сур'ёзныя беларускія часопісі глухія на адно вуха да жывой мовы народу (тая фраза ўзята з «Полымя» № 2 за 28 г.), дык пра газеты і казаць няма чаго. Там гэта, дзе ні глянь. Селяніну, каб зразумець «нядбайству і цыганіне зараз не месца» («Беларуская Вёска» — лепшая сялянская газета!), дык «тлумача трэба мець».

2. Гэтаксама перакладаюць і расійскі выраз «обратить внимание». І выходзіць «па-беларуску» — звярнуць увагу. Не ведаю, як дзе, а ў нас кажуць (калі

трэба ўжыць гэта слова, а не пералажыць) «узяць увагу» на што ці на каго або «мець увагу» на каго. Апошні выраз ёсць і ў Я. Коласа «А бацька браў блінцом спавагу, бо на Антося меў увагу» («Новая Зямля», раз. III). Здэцца, што гэтак і прыгажэй і больш зразумела.

3. Акрамя таго, чым рабіць пераклады, лепш было б унесці ў літаратуру самабытныя звароты мовы, якімі гавораць сяляне розных куткоў Беларусі. Вось прыклады гэтага, фразы ўзятыя [redacted] вуснаў народу: «Касцом саўхоз даў за работу дзесяціну сенажаці ў грашах» (г. зн., што не даплаціў грашыма, затое сенажаці даў), ці: «Аб адным хлебе жыў будзеш, а паспрабуй пажыць аб капусце».

Іх нельга падпісаць пад адпаведнымі расійскімі выразамі, каб прыходзілася слова ў слова і нават парадку не зменіць, але ж затое яны — нашы нацыянальныя звароты мовы.

*К. Вашына*

*Вёска Скварцы каля Койданава, на Міншчыне*

## *Слоўнік Калюгавай мовы*

Творчасць Лукаша Калюгі пачалася ў той час, калі ішло станаўленне беларускай літаратурнай мовы, яе сцверджанне як мовы дзяржаўнай. Мова пісьменніка — у аснове беларуская літаратурная мова, у якой, аднак, выразна адлюстравалася лексіка і фразеалогія роднай Дзяржыншчыны, з яе метафарычнасцю, багатай сінанімікай і ацэначнасцю. Сёння цяжка з усёй паўнатой зразумець змест і вобразнасць Калюгавых радкоў без тлумачэння асобных слоў, словазлучэнняў, фразем. Асобнага тлумачэння патрабуюць і аўтаравы наватворы: індывідуальна-стылістычныя эпітэты, метафары, фразеалагізмы.

Каментарый да Калюгавых твораў — гэта не тлумачальны слоўнік, хоць у ім ёсць тлумачэнне слова як моўнай адзінкі. Гэта дапамога чытачу зразумець слова (словазлучэнне) непасрэдна ў кантэксце, убачыць тую ці іншую з'яву праз прызму аўтарскага ўспрымання. Каментарый дае тлумачэнне

асобных дыялектных ці вузкаўжывальных слоў, якія не сталі літаратурнымі або перайшлі ў пасіўны запас лексікі: нізаводня, строні, шкілёнда, градкі, рымець, распасорыць і інш.;

слоў ці словазлучэнняў, значэнні якіх канкрэтызуюцца толькі ў кантэксце,— такія моўныя адзінкі звычайна падаюцца ў мікракантэксце: абабраць лёстачку, лопаніны няма, падазадны авёс, фармазонскі птах і інш.;

фразеалагізмаў і аўтарскіх аказіяналізмаў тыпу: глядзець ручным ягнём, абсячы вушы, утрапёны поп хрысціў, метафарычны вечар.

Тлумачэнні слоў даюцца шляхам падбору сінонімаў: прамаворы — прыметы, забабоны; прыкладка — мянушка, назоўка; пракудаваць — гарэзіць, сваволіць, штукарыць; шляхам лагічнага азначэння: бесхацімцы — людзі, якія не маюць хат; жыгала — востры металічны прут, якім прапякаюць дзіркі ў дрэве, косці.

Калі словы маюць варыянты ў напісанні, яны падаюцца праз коску: браварка, бравэрка; прыскаліцца, прыскіліцца.

Значэнні слоў-амонімаў пазначаны лічбамі 1, 2: *прыклеп* — 1. *выгляд,* 2. *прычына, зачэпка; жаляска* — 1. *прас,* 2. *лязо гэбля.*

У асобных словах пастаўлены націскі: *вытлук, даматур, вушчун, варагі.*

У некаторых словах даецца спасылка на мову, з якой яны запазычаныя: *дэрашка — кабыла шэрай масці з прымессю іншага колеру (з венгер. deres); вандзелак — клунак (польск. węzełek).*

Растлумачаны сінтаксічныя канструкцыі, што не ўжываюцца ў сучаснай беларускай літаратурнай мове: *глыбей Вялікадня — да Вялікадня; на той бок немецкае вайны — да нямецкае вайны; праз лякарства — на лякарства.*

Фразеалагізмы маюць памету (*фр.*): *ад тых дат* (*фр.*), *намуляць вочы* (*фр.*), *з капыта рушыць* (*фр.*). Факультатыўныя кампаненты фразелагізмаў падаюцца ў дужках: *бадай* (*на цябе*) *упадак.*

Пераважная большасць слоў і словазлучэнняў прыводзіцца ў пачатковай форме: *кашары, злашча, жарсць, напрыкраціца, падпінаць, склюдаваць, опаранджацца, прабеглы, хаджалы, даматурскі хопец; посцілка, ператыканая анучамі.* Выключэнне складаюць тыя словы, калі аднаўленне пачатковай формы прыводзіць да змены сэнсавага значэння і экспрэсіўна-эмацыянальнай афарбоўкі: *людскавалася кніжка, каторы любя, у тні за хатаю.*

*Ніна Гаўрош*
*Тамара Трыпуціна*

**Ababraць лёстачку** — аб'есці мяса з рабрыны
**абалоністае** — хвалістае
**абвесткі** — паведамленні
**абгатаваны** — звараны; прыгодны для ўжывання
**абегаць па падоканню** — прабегчы па дварах (стукаць у акно, склікаючы на сход і пад.)
**абежнікі** — абвесткі, аб'явы, паведамленні, якія трэба хутка давесці да ведама (бегункі)
**абзадачыць** — паставіць задачу, прымусіць задумацца
**абзурыць** — адолець, перамагчы
**абіркі** — выбаркі, рэшткі
**аблавухая шапка** — шапка-вушанка
**аблудны** — бадзяжны
**абна́дзіцца** — панадзіцца
**абора** — вялікае памяшканне для жывёлы; кароўнік
**абратацца** — адчапіцца
**аброк** — корм для коней, звычайна авёс, які бяруць у дарогу
**аброчная торба** — торба, у якую сыпалі аброк для коней
**абрыдзоны** — абрыдлы, непрыемны
**абсеймікавацца** — дамовіцца; параіцца
**абсячы вушы (фр.)** — прыпыніць, асадзіць кагосьці; астудзіць запал
**абу́рыцца** — абяркуцца з возам
**абшчыкнуўшыся** — шчыльна, аблягаючы
**абярэцца** — знойдзецца
**абяцаць** — падымаць чарку і звяртацца са словамі «будзь здароў»
**абячайкі** — павекі
**агінуць** — пайсці
**агляднае** — агледзіны
**агу́рыцца** — сцішыцца, супакоіцца
**адбратацца** — адбіцца, пазбавіцца
**аддаваць (дыхцець) паронкамі (фр.)** — непрыемна пахнуць
**аддудзенчыць** — набіць
**аднатаваць** — адзначыць
**адваротная мова** — сказанае ў фігуральным (пераносным) сэнсе; словы з падтэкстам
**адзінокае** — адзінае
**адказаць** — пераказаць
**адказуваць** — пакідаць у спадчыну
**адкосніцца** — адчапіцца, адмовіцца
**адмыслова** — спецыяльна
**адмяніцца** — змяніцца; зрабіцца іншым, перамяніцца
**аднакія** — аднолькавыя
**адным звагам (фр.)** — манатонна
**адным словам** — добра
**адперці** — адчыніць
**адразанка** — абрэз, вінтоўка з абрэзаным ствалом

**адсветны** — сусветны
**адтатуркшы** — адтапыраўшы
**адукаваць** — вучыць
**ад тых дат** (фр.) — з таго часу
**адхла́нне** — перадышка
**адь́хтар** — сапраўды
**аздобна** — прыгожа; здатна
**азырацъ** — надакучыць, абрыднуць
**аказацца** — 1. падаць голас, азвацца, загаварыць; 2. звярнуцца з просьбай, прапановай
**акалот** — абмалочаныя снапы збожжа
**акалотныя каласы** — абмалочаныя каласы
**акулічнасць** — ваколіца, наваколле
**ангельцы** — англічане
**Ангельшчына** — Англія
**ападак** — няспелы апалы плод (яблык, груша)
**анталя́жы** — карункі
**апамагчы́ся** — разжыцца
**апароць** — знайсці, адшукаць
**апе́таваць** — есці са смакам
**аправа** — вокладка
**апранаха** — верхняе адзенне
**апраннік** (пранік) — плоскі драўляны брусок з ручкай для выбівання бялізны пры мыцці ці для абмалоту лёну і пад.
**апры́ч** — асобна
**арст** — пост
**аруйс вон!** — вон
**арцабовая** — назва пасцілкі, якая па знешнім выглядзе нагадвае шахматную дошку (у клетку)
**асадкі** — вокладкі; папка для папер
**асарамаціць** — зрабіць сорамна
**асачыць** — падпільнаваць
**аседласць** — сталае месца жыхарства
**аслухацца** — прызвычаіцца, прывыкнуць
**астатні** — апошні
**асыкацца** — агрызацца
**асэсар** (гіст.) — у дарэвалюцыйнай Расіі судовая службовая асоба, засядацель
**асьміна** — восьмая частка пуда
**атаўбавацца** — абжыцца
**ашлеіць** — ударыць
**ашчабак** — трэска
**ашчаджацца** — азірацца
**ашчаперыць** — абхапіць, абняць
**ашчыкнуцца** — шчыльна прылегчы, быць добра падагнаным
**Бабак** — гультай; дурань
**бабскія «казалы»** — плёткі

**бавальнічная хустка** — баваўняная хустка
**багабосціць** — гаварыць абы-што, балабоніць
**багавінне** — водарасці
**бадай (на цябе) упадак (фр.)** — каб (ты) прапаў (згінуў, памёр)
**бакі падарваць (фр.)** — моцна смяяцца
**балагол** — той, хто займаецца перавозам грузаў ці людзей на ўласнай фурманцы
**балазей** — добра
**балонка** — старонка кнігі, часопіса, газеты
**барджэй, бардзей** — хутчэй
**басхацімцы** — людзі, якія не маюць хат
**бісагі** — пісагі, шрамы
**біла** — верхняя жэрдка ў драбіне
**блізна** — пропуск ніцей у тканіне
**блуд узяць (фр.)** — заблудзіцца
**бляды** — бледны
**браварка, бравэрка** — верхняя кароткая мужчынская вопратка звычайна з аўчын, абцягнутая саматканым сукном
**братчык** — памочнік папа, псаломшчык
**брыдэзная мова** — брыдкая гаворка
**брэхня** — сварка
**бурка** — шырокая і доўгая вопратка з саматканага сукна з башлыком, якая надзявалася паверх кажуха
**бэсціць** — лаяць, ганьбіць
**быдла** — каровы
**Вáда** — загана, недахоп
**вáдзіць** — шкодзіць
**ваканцыі, вакацыі** — канікулы
**вакулічнасць** — наваколле, ваколіца
**валаводства** — валакіта
**валанцай** — валацуга, швэндала
**валанцей** — добраахвотнік
**валáць** — зваць, клікаць
**валачобнікі** — група песняроў, што хадзілі па хатах у велікодныя дні з віншаваннямі
**валока** — даўняя мера зямлі (каля 20 дзесяцін, прыблізна 21 га)
**вандзелак** — клунак (польск. węzelek)
**вандроўца** — вандроўнік
**вантробы** — унутраныя органы грудной клеткі і жывата
**ванцач** — нервовы прыпадак, падучка
**варагі** — варажба
**варушнáя** — рухавая
**варуючыся** — баючыся; хаваючыся
**варывенька** — будынак для захавання бульбы і рознай гародніны
**варысты грыб** — пласцінчатыя грыбы, якія, адварыўшы, салілі на зіму

**ваўкаўня** — воўчая яма
**вачэй не павымаць** — вачэй не пашкодзіць
**вёртак на язык (фр.)** — знаходлівы; востры на язык
**вёрткі** — здатны, здольны, умелы
**віда, віда-віда** — хутка, на вачах
**вілаватая** — няроўная, нялёгкая (дарога)
**вілкі** — вілачнік, рагач, прылада, якой дастаюць гаршкі з печы
**вісус** — свавольнік, распуснік
**вобмаль** — малавата
**вобратка** — аброць
**воглядка** — работа па гаспадарцы
**водалей** — далей
**водалека** — здалёк
**вокам звесці (фр.)** — задрамаць
**вопрамяць** — проста, напрамкі
**вораней** — раней
**восець** — асець, прыбудоўка да тока, у якой сушаць снапы
**восцер на язык (фр.)** — востры на язык
**вотах** — месяц у апошняй квадры, на зыходзе
**всядае гарт (фр.)** — супакойваецца
**вупраж** — збруя
**вушчу́н** — пакаранне, управа
**выблутаць** — зрабіць
**выбыць** — быць, прабыць
**выгадка** — задума
**выдаць баль (фр.)** — пакараць
**выжвара́ць** — вытвараць, выдумляць
**выйгранка** — выйгрыш
**вы́касаваць** — выкрасліць
**выкатаваць** — высеч
**выкідаць на вока (фр.)** — наўмысна і зласліва напамінаць пра штосьці непрыемнае
**вылатаць рубля** — зарабіць
**вымкнуцца** — высунуцца
**вымеркаваць** — разлічыць, прыкінуць
**вымерхацца** — прагаладацца
**вымэнджваць** — рабіць адмысловым
**вы́найдаваць** — выведаць, дазнацца
**выпараць** — знайсці
**выпачасаваць** — расчасаць (лён, каноплі)
**выпрачыць** — вытрымаць
**вы́рабіцца** — выбрацца, вылезці
**вы́рагатацца** — насмяяцца ўволю
**выскількі** — смешкі
**выскіляцца** — вышкаляцца, насміхацца
**выстранчыць** — 1. дагадзіць ва ўсім
2. хапаць, быць у наяўнасці

**вы́тлук** — распусніца, лайдачка
**вытылінгаваць** — выводзіць мелодыю, напяваць без слоў
**выштукаваць** — зрабіць, змайстраваць; вымеркаваць
**вы́штарыць** — выгнаць, прагнаць
**вышчыкнуць** — адшчыпнуць, адарваць
**вязовішча** — агароджа, затон для лоўлі рыбы
**вярзці лухту** (фр.) — гаварыць несусветнае
**вяршок** — мера даўжыні, роўная 4,4 см, якой карысталіся да ўвядзення метрычнай сістэмы
**вяршэнства** — 1. дасканаласць
2. кіраўніцтва
**Габлюшкі** — стружкі
**гадзіцца** — пагаджацца, дамаўляцца
**галадамір** — той, хто галадае
**га́лас** — бязладны шматгалосы крык, шумная нястройная размова
**галы́тра** — галыцьба
**гальдануць** — скокнуць
**галя́шчыць** — галёкаць, гаварыць
**гандзюрыць** — гаварыць
**гандлёўства** — гандаль
**ганцяная страха** — страха (дах) з гонту
**гапаву** — ГПУ
**гарка́ць** — картавіць, няправільна вымаўляць гук «р»
**га́рнец** — мера сыпкіх і вадкіх цел, роўная 3,28 літра, якой карысталіся да ўвядзення метрычнай сістэмы мер; драўляная пасудзіна на 3,28 літра
**гарнушак** — невялікі гаршчок
**гасіць** — з размаху біць, ударыць па чым-небудзь
**гасціца** — госця
**гешэфт** — справа (ад ням. geschäft — выгадная здзелка)
**гівер** — верх (шапкі)
**гліняннікі** — гаршкі
**глупасныя** — неразумныя
**глыбей Вялікадня** — да Вялікадня
**глядзець гаспадаркі** — працаваць на гаспадарцы
**глядзець ручным ягнём** (фр.) — быць знешне пакорлівым, патульным
**гнушка** — накрыўка, якой закрываюць гаршкі ў печы; падстаўка
**гоні** — вялікая доўгая ніва
**горс** — выраз, пройма
**гоцкацца** — падскокваць
**градава́я серада** — рэлігінае свята
**градка** — паліца
**гра́ды** — пераплёты аконных рам
**грунт** — двор, сядзіба
**грыў́ня** — дзесяцікапеечная манета (устар.)

**гуляшчы** — пусты
**гумаляст** — гума, рызіна (устар. гумалястыка)
**гумно** — пляцоўка перад будынкам на сена — гумном
**гунька** — верхняя адзежына з грубага сукна (польск. gunia)
**густаваць** — рабіць на свой лад: любіць
**гучысты** — разгалісты, з мноствам сучкоў (парасткаў, галінак)
**гэрц** — бягуны, лятун
**гэст** — жэст
**Давастрыліся да таго** — дагаварыліся да таго
**даваць «лапы»** — біць лінейкай па далоні (так у дарэвалюцыйныя часы настаўнікі каралі непаслухмяных вучняў)
**даведвацца** — наведвацца
**дадзець** — дакучаць
**дадумляцца** — думаць
**дайніца** — даёнка
**дакладаць** — прывучаць да працы, навучаць выконваць штосьці
**дакляраваць** — абяцаць
**далажыць** — прыдумаць, выдумаць
**далягаць** — непакоіць, хваляваць
**даматýр** — гаспадарлівы чалавек; той, хто мае сваю гаспадарку
**даматýрскі хлопец** — гаспадарлівы хлопец
**даніманне** — дазнанне
**дапісчыкі** — карэспандэнты
**даследзіць** — угледзець, убачыць, прасачыць
**да смерці даховаць** — дагледзець у старасці
**дасца** — парвецца
**датварацца** — рабіцца, адбывацца
**датвараць** — вытвараць, вычвараць
**дахоўка** — матэрыял, якім крыюць дах
**даходны** — цікаўны
**дацінаць** — дапякаць
**дацца** — памерці
**даць кішцы спакой** — пад'есці
**даць лататы** (фр.) — уцякаць
**даць прытон** — даць прытулак, месца
**даць спосаб** (фр.) — даць сродак існавання, памагчы стаць самастойным
**даць храпунца** (фр.) — моцна заснуць; захрапці
**джгаць** — хутка ісці
**джоргаць** — шкрэбаць
**дзевя́тнік** — хрысціянскае свята, якое адзначаецца ў чацвер дзевятага тыдня пасля Вялікадня
**дзедаваць** — святкаваць дзяды, памінаць нябожчыкаў
**дзейка** — чутка, пагалоска
**дзейкаць** — гаварыць; пускаць пагалоскі, чуткі

**дзеля прыклёпу** — дзеля прыліку
**дзеся́туха** — хрысціянскае свята, якое адзначаецца ў дзесятую пятніцу пасля Вялікадня
**дзесяцiннiкi** — уладальнікі дзесяціны зямлі плошчай 1,09 га
**длубацца** — марудна рабіць што-небудзь, калупацца
**довяг** — доўгі
**драбінка** — сялянскі воз з рашотчатымі бакамі (з драбінамі)
**драсаваць** — таптаць
**дратаваніца** — пуга
**драчыць язык** (фр.) — хацець пагаварыць
**дропнуць** — уцячы, пабегчы
**другазімец** — той, хто вучыцца ў школе другую зіму
**дрытава́ная** (дратаваная) — звітая з палосак сырамятнай скуры або тонкіх тугіх вяровачак пуга
**дрэнчыць** — не даваць спакою
**дудукаць** — гаварыць
**дужаватая бібліятэка** — даволі добрая бібліятэка
**дуплянаты** — дуплаваты
**дураўны́ клас** — дураслівы клас, схільны да свавольства
**дураўны́я гады** — вясёлыя, бесклапотныя гады
**дутаваты** — адутлаваты, тоўсты
**душу пластам высцілаць** (фр.) — раскрываць душу, гаварыць шчыра, ад душы
**дэрашка** — кабыла шэрай масці з прымессю іншага колеру (з венгер. deres)
**дэрба** — худы
**дэрбы** — рэбры
**дэўж** — даўжыня
**ды й толькі таго** — так сабе
**дзядзінец** — агароджаны пляц пры вялікай пабудове
**Егліць** — плакаць, хныкаць
**Жадны** — ніякі
**жакетка** — кароткая жаночая верхняя вопратка
**жалабатая клёпка** — клёпка з жалабком
**жалезнік** — чыгун
**жалязняк** — лапата
**жаляска** — 1. прас; 2. лязо, гэбля
**жарсць** — прага
**жаўткі адбіць** (фр.) — пячонкі адбіць
**жыга́ла** — востры металічны прут, якім прапякаюць дзіркі ў дрэве, косці
**Забавіцца** — запазніцца, затрымацца
**забыцца на закалец** — забыцца на злосць
**за́вад** — толькі знак, толькі назва, мала
**завала** — металічны стрыжань або палка, якой закрываюць дзверы
**заваліць** — закрыць на завалу
**завінуцца** — паспешліва і старанна пачаць рабіць што-небудзь

**завоз** — мнагалюдна
**загавець** — памерці
**загадзіць** — падкупіць
**загарадзіць** — запрасіць многа
**загваздка** — шпень, які ўстаўляецца ў дзірку на калёснай восі
**загвоздка** — затрымка
**загоджаны** — падкуплены
**задаць холаду** (фр.) — супакоіць, разважыць
**задзёр** — задор, ахвота задзірацца
**зазубень** — рыбацкі кручок
**зайздраваць** — 1. зайздросціць; 2. шкадаваць
**закажа́нець** — спыніць рост, трапіўшы ў неспрыяльныя ўмовы; зачахнуць
**закануркі** — закуткі
**закасаваць** — закрэсліць, выкрасліць
**закладка** — складка
**закот** — франтон з тонкага бярвення
**залатоўка** (уст.) — раней манета ў 15 капеек
**залёцісты** — той, хто любіць заляцацца
**залом** — зблытаны і заламаны пук жытніх сцяблоў, які, па ўяўленні забабонных людзей, быццам бы мог наклікаць бяду на гаспадара нівы
**замане́цца** — захочацца
**занаравіцца** — заўпарціцца
**занімацца** — запінацца, вымаўляць марудна, з цяжкасцю
**запамагчыся** — разжыцца
**запаме́тка** — 1. заметка, нататка; 2. вывеска, шыльда
**запаме́ціць** — заўважыць
**запраторыць** — схаваць, пакласці
**зарабіць** (гарэлку) — рашчыніць, падрыхтаваць рошчыну
**зарваць** — уварваць, ухапіць
**зарымець** — задрыжаць
**застава** — тое, што і заклад; рэч, пакінутая таму, хто даў пазыку
**за́ставаць** — перашкаджаць
**засталучыць** — засланіць, закрыць
**засябрыцца** — пасябраваць
**засценак** — хутар або невялікае паселішча дробнай шляхты
**за́таўка** — заправа са свінога сала, звычайна са здору
**заўгадзей** — раней, загадзя
**заўняцца** — спыніцца, затрымацца
**заўчасне** — своечасова
**закліпавацца** — гаварыць узахлёб
**зашыць розум** — прышыць што-небудзь на сабе, нічога не ўзяўшы ў зубы
**зблы́шыць** — сапсаваць
**зборня** — 1. сход, сходка, зборышча; 2. памяшканне, дзе адбываліся сходы грамады

**збрыдаць** — надакучыць
зваг — гул
**зваядыш** — зводнік, падбухторшчык
**звелічацца** — ганарыцца
**звеставанне** — благавешчанне (рэлігійнае свята)
**зга́дзіць** — зрабіць прыкрасць, непрыемнасць
**згадзіцца** — дамовіцца, умовіцца
**зглуміць** — сапсаваць
**згрэбсціся** — счапіцца (у бойцы, сварцы)
**згубенне** — згуба, страта
**здаравец** — моцны, дужы
**здаўмецца** — дадумацца
**здацен** — здольны
**здацца** — даверыцца каму-небудзь
**здацца** — паспадзявацца на кагосьці
**здубець** — змерзнуць
**здумліваць** (**здумляць**) — выдумляць
**здрасаваць** — затаптаць, зблытаць
**здэтанавацца** — захапіцца
**зжаць па жмені** — зжаць сярпом і жменькамі, не вяжучы ў снапы, пакласці сохнуць (даспяваць) на ржышча
**з'есці тое, што сабак трое** — многа
**зірнуць у кілішак** (фр.) — выпіць гарэлкі
**з капыта рушыць** (фр.) — хутка
**з капейкі жыць** (фр.) — усё купляць (адзенне, ежу і інш.)
**злагада** — дружба, сяброўства, згода
**злагадна жыць** — жыць у згодзе
**злашча** — асабліва
**злосець** — злавацца
**злоснік** — надзьмуты, раззлаваны, злосны
**злоўчыць** — схітраваць
**змыслы** — кемлівы, знаходлівы
**знаць** — відаць, можна заўважыць
**з памяці сышло** (фр.) — забылася
**зрабіць прыклёп** (фр.) — для прыліку
**зрэпіцца** — счапіцца
**з сораму згарэць** (фр.) — зведаць пачуццё вялікага сораму
**з суконку на грубіню** — з суконку таўшчынёю
**зуб зуба кліча** (фр.) — дрыжаць ад холаду, моцна змерзнуць
**зубошчы** — ангіна
**зубы продаць** (фр.) — смяяцца
**з шкляным богам павесці лады** (фр.) — выпіць гарэлкі
**зэдаль** — услон
**зябліць** — араць пад зябліва
**зязюлястая** (**сукенка**) — шэрая
**зякраты** — з вялікімі на выкаце вачыма
**І духу не ўказаць** (фр.) — прамаўчаць
**ізбач** — загадчык хаты-чытальні
**імша** — каталіцкая абедня

**і пагатоў** — тым больш
**і погату не было** (фр.) — нічога не чуваць
**ірха** — вузенькая палоска скуры або аўчыны, якая закладваецца ў шво кажуха
**і сок не пацячэ** (фр.) — непрыкметна
**іспадняя кніжка** — ніжняя, апошняя кніжка
**іспадняя полка** — ніжняя полка
**Й не шум баравы** (фр.) — хоць бы што
**Каб ваўкі апранулі** — каб ваўкі з'елі
**каб і шныру не было** (фр.) — каб і следу не было
**каб стала** — каб хапіла
**каб ты запаветрыўся** — каб ты прапаў
**кавалеры** — кветкі
**кагадзе** — толькі што, нядаўна
**кагалам** (кагал) — гуртам
**кадзь** — кадушка, вялікая драўляная пасудзіна для захоўвання капусты, агуркоў і інш.
**кажурына** — аўчына
**казань** — пропаведзь
**казлы падраць** (фр.) — ванітаваць
**калавурны** — каравульны, вартавы
**каламажка** — лёгкая выязная павозка на рысорах
**калаціць** — малаціць
**калаццём закалола** — закалола ад моцнага ўдару
**калашня** — месца, дзе кладуць неабмалочанае збожжа
**калдабáны** — калдобіны, выбоіны
**калейка** — чарга
**калом пайсці** (фр.) — прапасці, згінуць
**каляснік** — той, хто робіць калёсы
**кáмар** — пакой
**камандатарства** — камандзірства, верх
**камора** — халоднае памяшканне пры хаце, дзе захоўваюць запасы ежы, адзенне і інш.
**канавод** — завадатар, важак
**канечне** — абавязкова
**кантычкі** — кніжкі (літаральна — зборнікі каталіцкіх царкоўных песень. Польск. kantyczka)
**канчур** — канец
**капáрнік** — той, хто корпаецца, важдаецца
**капліца** — невялічкі царкоўны або касцельны будынак з іконамі без алтара; малення
**капота** — доўгі кафтан
**каптан** — кафтан, даўнейшая мужчынская і жаночая верхняя адзежына з доўгімі поламі
**капыткамі накрыцца** (фр.) — адмовіцца ад таго, што абяцаў; ашукаць
**капыціцца** — памыляцца, збівацца ў гаворцы, прамове
**капянуць** — таўхануць
**карáвы** — брудны

**карафінка** — шкляная пасудзіна (ад ім. caraffina)
**карта** — старонка ў кнізе
**карталюшка** — маленькая картачка, лісточак (паперы)
**ка́ры** — вялікія калёсы для перавозкі грузаў
**касамэ** — камуністычны саюз моладзі
**каснік** — істужка, якая ўплятаецца ў касу
**кастравы** — з кастрыцай
**кастрывы** — няроўны, нягладкі
**касцёр** (бліноў) — стос
**каторы любя** — які падабаецца
**кацярынкі** — грошы
**кашны** (блін) — грачанік
**кашэ́лік** — кошык
**кашары** (уст.) — казарма (румынск. casare)
**квадра** — кожная з чатырох фаз месяца (маладзік, сход, поўня, ветах)
**кварта** — чацвёртая частка гарца, 0,70577 літра (ад лац. quarta — чацвёртая)
**квапіць** — прагнуць, хацець, быць ласым
**квітаруснік** — квітанцыі, сшытыя ў выглядзе кніжкі
**квэцаць** — мазаць, пэцкаць
**кемкі** — кемны, кемлівы
**кепікі строіць** (фр.) — жартаваць, насміхацца, кпіць
**кешкацца** — калупацца, корпацца, марудна рабіць што-небудзь
**кіт** — замазка для акон
**класная часопісь** — класны журнал
**клышаногі** — касалапы
**кніга з цацкамі** — кніга з малюнкамі
**кнігар** — прадавец кніг
**котва** — гульня з фарбаванымі велікоднымі яйкамі
**котла** — сям'я
**крамач** — нож
**крамны** — фабрычны, куплены ў краме (матэрыял, адзенне)
**крант** — кран
**крапо́к** — моцны, дужы
**краснае пісьменства** — прыгожае пісьменства
**крозы** (уст.) — летуценні, мары
**кручаныя дні** — неспакойныя, трывожныя дні
**кружно ехаць** — даваць круг, не напрасткі
**крук** — груган; крумкач
**крушня** — куча (камення)
**крыжыкі** — снапы, складзеныя крыжыкам для прасушвання
**крываўка** — дызентэрыя
**крыша́н** — кавалачак (сала, сыру і інш.)
**Крэвія** — Беларусь
**крэўская мова** — беларуская мова
**кубелец** — кубел, драўляная пасудзіна з вушкамі, у якой захоўваюць сала

**кукамяць** — жмут (паперы)
**куксака́ зарабіць** (фр.) — атрымаць удар кулаком
**ку́пліва** — пакупка
**кура́вае** (сена) — старое, ляжалае, ад якога ідзе пыл, быццам дым
**курдавалкі** — кавалкі
**куродым** — дымар, прылада для акурвання пчол дымам
**куртаты** — 1. малы ростам; 2. кароткі
**куртач** — малы ростам чалавек
**ку́цацца** — забруджвацца
**куцця** — каша з ячных або іншых круп
**кучарысты** — кучаравы
**крэкнуць** — падаць голас
**Лабэціна** — лоб
**лаганіць** (лагоніць) — гаварыць, балабоніць
**лагво** — вытаптанае ў збожжы месца
**лады пайшлі** (фр.) — наладзілася
**ладэда** — балабон
**ладэдзіць** — гаварыць абы-што, балабоніць
**лама́ш** — 1. стары, зношаны; 2. інвалід
**лапаносы** — з кароткім пляскатым носам
**лапатэнт** — той, хто многа гаворыць, лапоча
**ласку ўчыніць** (фр.) — зрабіць добрае
**лезці пішчаліцаю** (фр.) — назойліва прыставаць
**лежава** — ляжанне
**лекатаць** — ляскатаць, утвараць дробны перарывісты гук
**лемантар** — буквар
**летуціць** — ма́рыць
**лёх** — падземны ход; падвал
**лімінявы** — алюміневы
**літанія** — доўгае манатоннае пералічэнне, прычытанне
**локшына** — страва з лапшы
**лопаніны няма** — смерці няма (лопнуць — памерці)
**лопацень** — той, хто многа лапоча, гаворыць
**луг** — едкі раствор, прыгатаваны з попелу, залітага варам; шчолак
**лука́** — мыс, абагнуты ракой, лукаві́на
**лукатка** — хвалістая палоска
**лу́чыць** — трапіць
**льга** (ільга) — можна, магчыма
**лэска** — пакаёвая расліна
**людскавалася кніжка** — красавалася кніжка
**люхта** — юшка
**лядзяк** — снежка
**лятункі** — мары, летуценні
**ляха** — рэха
**Магнэс** — магніт
**мадыгаванні** — мудраванні, мудрагельства
**мадыгавацца** — мудраваць, выгадваць

**мадэлек, мадэлак** — мадэль
**мала-веля** — трохі, больш-менш (ад паўтору двух слоў мала і веля; польск. wiele — шмат, многа)
**маладзёнак** — нясталы
**ма́лечка** — мала, трошкі
**малечка што** — мала што, ледзь што
**малёгаць** — угаворваць, упрошваць
**маль** — амаль
**маладнёг** — малады лес, маладняк
**манерка** — круглая бляшанка
**маніcткі** — рушы, тканіна, сабраная ў зборкі для абшыўкі чаго-небудзь, для ўпрыгожання
**маністы** — звязка нанізаных прадметаў (грыбоў, яблык, ягад і інш.)
**ма́ніцы** — каноплі
**маракаваць** — крыўдаваць, злавацца
**марманyць** — сказаць ціха, невыразна, прабубнець
**марнець** — марна траціць час; сумаваць
**марэда** — маруда, непаваротлівы
**матачнік** — вялікая ячэйка ў сотах, у якой выводзіцца пчаліная матка
**махнуць** — прадаць
**мацунак** — моц, трываласць
**мацыяш** — дужы, асілак
**машастовы** — пашыты з мошасту (аксаміту)
**машэр** — марш, шусь
**места** — горад
**метафарычныя вечары** — паэтычныя, вечары закаханых
**механоша** — той, хто носіць мех
**мець закалец** (фр.) — мець злосць на кагосьці
**мець за стаптаны падносак** (фр.) — не паважаць, не шанаваць
**мець** лад (фр.) — быць разумным
**мешчанчук** — мешчанін
**міло́сна** — міла, прыгожа
**мінуцца** — прапасці, здохнуць (пра жывёлу)
**мінуць не ў знак** (фр.) — непрыкметна, хутка, незаўважна
**місюга** — тоўстае, раскормленае дзіця
**мітрэнга** — разлад, трывога, неспакой
**млечнае** — малочнае
**модлы** — малітвы
**мова** — размова, гутарка, гаворка
**моцазна** — моцна, гучна
**му́рын** — негр, арап
**му́чан** — балотная расліна, якой фарбавалі палатно ў чорны колер
**мучаная трава** — нярослая, слабая
**мыля́цца** — памыляцца
**мыляць губамі** — чытаць паціху, варушачы губамі

**мэдзіцца** — валаводзіцца, важдацца
**мэдзіць** — выштукоўваць
**мэндлікі** — пяць снапоў (збожжавых), пастаўленых у кучку каласамі ўверх, пакрытых зверху шостым распасцёртым снапом
**мэнка** — му́ка, мучэнне
**мэт** — зух, дока
**мэцнуць** — стукнуць, ударыць
**мянціць касу** — вастрыць бруском касу
**мярцвіц** — нябожчык
**На апашку** — накінуты на плечы
**набіліцы** — драўляныя планкі ў кроснах, у якія ўстаўляецца бёрда
**набытак** — скот (коні, каровы, авечкі і інш.)
**наводны** — прышлы, чужы
**навозы** — ворная зямля адразу за гародамі
**навотліў (наводліў)** — навотмаш
**на выхілкі здацен (фр.)** — хітры
**нагно́м** — нагбом
**на грунце** — дома, у сваім двары
**надалончаныя рукавіцы** — рукавіцы з скуранымі (ці з матэрыялу) нашыўкамі на далоні
**на́даўбень** — абмежаваны, тупаваты чалавек
**надаядлы** — надакучлівы, надаедлівы
**надвечар** — пад вечар
**надвое варожанае (фр.)** — невядомае, няпэўнае
**над нашы Баркаўцы** — за нашы Баркаўцы
**нажа́хаваны** — напалоханы
**на задзёр** — задзірліва
**назвач** — чужы, няпрошаны
**назір** — назіркам
**найці на вочы (фр.)** — паявіцца перад кім-небудзь, паказацца на каня здавацца — **на каня спадзявацца**
**накпіваць** — здзекліва пасмейвацца, кпіць
**накрамзоліць** — напісаць
**наймі́ты** — парабак
**наказаць** — паведаміць
**накшае** — іншае
**на корх (уст.)** — на шырыню далоні (мера даўжыні)
**налажыцца** — напрактыкавацца, налаўчыцца рабіць што-небудзь; навучыцца
**налю́дзяць** — напоўніць людзьмі
**намарна** — марна
**намружыцца** — надзьмуцца, насупіцца
**намуляць вочы (фр.)** — прыгледзецца, надакучыць
**напал** — папалам, напалавіну
**напашэве** — пад рукамі
**наплясці кашалёў (фр.)** — навыдумляць
**напрыкрацца** — зрабіць прыкрасць

**напячы стрыжкі** — завіць валасы
**нарад** — панарад, калёсы без драбін
**нарокам** — жартам, не ўсур'ёз
**на смаку знацца** (фр.) — быць дэгустатарам
**настрэнчыць** — падгаварыць, падвучыць, падштурхнуць на што-небудзь
**натапырыць вушы** (фр.) — насцярожыцца, з вялікай увагай прыслухацца
**на тое будзе свята** — на тое будзе час
**на той бок нямецкае вайны** — да нямецкае вайны
**натрус** — натрэсенае, парастрасанае
**назаўтрае** — назаўтра
**на́ўда** — не дзіва, не навіна
**на ўзві-вецер** (фр.) — на вецер
**наўза́хваткі** — наперабой; наперагонкі, стараючыся зрабіць што-небудзь першым
**на ўзлакоткі** (**на ўзлакотках**) — абапёршыся на локці (стаяць, сядзець)
**наўлечка** — навалачка
**на ўнэт** — ушчэнт, зусім, дарэшты
**на ўсе застаўкі** (фр.) — вельмі моцна (спаць)
**на штукі здало** — здольны на штукарства
**націна** — сцябло агароднай расліны (агуркоў, гарбузоў, бульбы)
**начары** — чараўніцтва, варажба
**на чорта лысага** (фр.) — дарэмна, без карысці
**на шляхта не едзе** — да шляхты не едзе
**не аграшыцца** — не саграшыць
**не адкаснуцца** — не адчапіцца
**не адно** — не толькі
**не астояцца** — не ўстаяць
**не ацерабіцца** — не вызваліцца
**небалазе́** — нядобра, нялёгка
**не ва́дзіць** — не значыць
**невашта** — нешта
**недаваярак** — бязлітасны, жорсткі чалавек; ліхадзей
**не дае перад людзьмі** — не паказвае перад людзьмі
**недалу́гі** — слабы, хілы
**недапамінаць** — не ўспамінаць
**не́дасаль** — недасоленая страва
**не даць зладжыцца з брэхнямі** — не даць уставіць слова
**незаводня** — неадкладна, тэрмінова; абавязкова
**не запамячалася** — не прыкмячалася
**неймаверніца** — недаверлівая
**не капыціцца** — не памыляцца
**немаверпікі** — малаверы, недаверлівыя
**не мерыцца** — ненамераны, не збіраецца
**ненавідны** — ненавісны
**не напамкі** — не ў памяці, не наўме

**не натандэт** — нядобра, няякасна
**непадобнае месца** — непрыдатнае, нязручнае месца
**непазорны** — непрыглядны, стары, зношаны (пра адзенне, абутак)
**непазываны** — нязваны
**непамятушчы** — непамятлівы
**не пераперці** — не пераканаць
**не прызыраць** — не глядзець, не сачыць
**не прымеркам** — не раўнуючы
**не пусціць у паблуд** (фр.) — не даць у крыўду
**непярэліўкі** — не выходзіць, не выпадае, нязручна
**не разбухавайся** — не разыходзься
**не сулодаць** — не справіцца, не саўладаць
**не ўвалгацца** — не зманіць
**неўзапаметку** — непрыкметна
**не ўнімацца** — не супакойвацца, не спыняцца
**не ў нос** (фр.) — не даспадобы
**не цеперся** — не рана
**не цёрты чалавек** (фр.) — нявопытны
**не ціхі поп хрысціў** (фр.) — пра шустрага, непаседлівага, няўрымслівага (чалавека)
**нечародні сход** — нечарговы сход
**ні ачарніць ні абяліць** (фр.) — прамаўчаць, не сказаць ні слова
**нібы секачом адсячы** (фр.) — рэзка адказаць
**нізаводня** — неадкладна, тэрмінова
**ні прама́х** (фр.) — не промах, кемлівы, энергічны, умее дасягнуць пастаўленай мэты
**ні сьця-любя** — абыякава, неахвотна, няякасна рабіць штонебудзь
**ні ўгадана** — невядома
**новаасаджаны загадчык** — толькі што прызначаны загадчык
**ногі выпрастаць** (фр.) — памерці; здохнуць (пра жывёлу)
**нурэц** — унурлівы, унурысты, нелюдзімы
**нягеглы** — нязграбны
**нягодны** — злосны
**нядзелеваць** — адпачываць у нядзелю
**нядэшлы** — слабы, малы; стары
**няма дуру** (фр.) — рашучае выказванне нязгоды з кімсьці, адмаўленне (ад прапановы, умовы, занятку)
**няма сходу** (фр.) — нявыгадна, няма карысці
**няпры́меркам** — знянацку
**няпэўная** — няўпэўненая
**няўзнак** — непрыкметна
**нячыстая моц** — нячыстая сіла
**Паапрыч** — паасобку
**па бабіным куску** (фр.) — вялікімі камякамі (пра снег)
**пабратацца** — пасябраваць, прызнаць сябе роўнымі
**паверка** — давер

**паводле сваіх год** — на свае гады
**па Вялікадні** — пасля Вялікадня
**павяроны** — даveраны, верны
**пагандзюрыць** — пагаварыць
**пагатоў** — тым больш, у першую чаргу
**пагібаная** — пагнутая
**пагонка** — 1. выган; 2. прагон для жывёлы
**падазадны авёс** — адходы, астаткі аўса пры малацьбе або пры веянні
**па́дак** — ахвочы
**падалікацїць** — выказаць павагу, далікатнасць
**падаўкое цела** — падатлівае цела
**паджаробак** — малады жарэбчык
**падкачацца** — падрасці
**па́дкая** — вельмі ахвочая; старанная
**падколак** — той, хто любіць гаварыць што-небудзь непрыемнае, з'едлівае
**падложына** — дошка падлогі
**падносак** — частка падбітай падэшвы пад наском абутку
**паднядзелены** — прыбраны, адзеты ў лепшае
**падпасавіч** — памочнік пастуха
**падрадзіцца** — згадзіцца
**падседзець** — ашукаць; скарыстаць чужое
**падсябрыцца** — паддобрыцца
**падсябрычы** — сабутыльнікі
**падпінаць** — падцІскаць
**пад тахту** — у такт, у адпаведнасці з рытмам
**падчубэрыцца** — падпіць
**падпа́хнуць** — падпітурхнуць
**падпывалец** — хлапчук-падлетак
**падэсць** — 1. падман; 2. непрыемнасць, шкода
**пажарня** — пажарная
**пазава́ць** — пазіраваць
**па загароддзі** — за гародамі
**паза́дкі** — адходы пры малацьбе, веянні
**пазеблены** — узараны пад зябліва
**пазябліць, пазебліць** — узараць пад зябліва (пад вясеннюю сяўбу)
**пайсці з пылам (фр.)** — згінуць, прапасці
**пайшлі дзейкі** — пайшлі чуткі
**пакаўны** — умяшчальны, пакоўны
**паклады** — лагі, падклад, апора з бе́рвяна, на якую кладуць дошкі, бярвенні
**пакла́ш** — запас грошай
**пакупаць** — забрудзіць
**палаткі** — часовая сцэна, зробленая з дошак
**палітычна разбітны** — палітычна пісьменны, падрыхтаваны
**палюцкавацца** — паляжаць у добрым (людскім) месцы
**палярэс** — бумажнік

**памацавацца** — ударыцца, стукнуцца
**памінуць** — абмінуць, абагнаць
**памоўка** — гаворка, чутка, плётка
**памошчана** — зробленая з дошак
**пампаваць** — качаць насосам
**памяркоўная хатка** — ёмістая, пакоўная хатка
**панібрацкія** — звычайныя
**паняць моду** (фр.) — займець прывычку, узяць моду
**пападзянка** — дачка папа
**папасці ў бэту** (фр.) — трапіць у наёмнае становішча
**паплаўнічы** — чалавек, які вартаваў палеткі ад патравы, шкоды
**папораваць** — папорваць, спорваць
**парадкавацца** — упраўляцца з гаспадаркай; трымаць гаспадарку ў парадку
**паразгайдамашыць** — параздаваць, разбазарыць
**пара́ніцца** — прыйсці рана
**параспасораваць** — мерна патраціць, параскідаць
**пасаймікавацца** — параіцца
**па́сак** — частка конскай збруі, рэмень, перацягнуты ад адной аглоблі да другой цераз падсядзёлак
**пасвянцонае** — ежа, над якой выканалі царкоўны абрад асвячэння
**паскурацца** — парывацца
**пасляць за настаўніцу** — пасляць настаўніцай
**па-старасвецку** — як вучылі дзяды-прадзеды
**паста́ў** — сувой, рулон, скрутак
**пастаўнік** — загарадка для жывёлы ў полі
**паста́ча** — натура
**пастрах даваць** — хрысціць
**пастрыбучаць** — паганаравацца, пафарсіць
**пасудак** — посуд
**пасыпацца на друзы** — разбіцца на дробныя кавалкі
**пасэрас** — арандатар
**пата́ка** — патаканне
**патакваць** — падтакваць, выказваць згоду з чыёй-небудзь думкай, паўтараючы слова «так»
**патапцы** — лапці, звязаныя кручком з суканых нітак
**патарокацца** — патаргавацца
**патарчака** — палка, кол
**патоля** — патуранне, патаканне
**патом** — усё роўна
**патрава** — 1. страва; 2. шкода
**патрапіць** — прыйсці
**патрухацца** — паехаць трушком (павольнай рыссю)
**патураць** — дагаджаць; рабіць так, як робіць нехта
**патыка́ная сукном спадніца** — спадніца з тканіны, вытканай з льняных і шарсцяных нітак
**паўвалока** — былая мера зямлі, роўная палавіне валокі (валока — 21 га)

**паўздýжаць** — адолець; справіцца з тым, што патрабуе вялікіх намаганняў
**паўстаўляць вочы** (фр.) — здзіўлена глядзець
**паўтраці** — трэць — адна з трох роўных частак, на якія дзеліцца што-небудзь
**паўшасты́** — палова адной шостай часткі чаго-небудзь
**пацеры** — малітвы
**пачародні** — чарговы, наступны па чарзе
**пачасе** — рэшткі, адходы пры часанні лёну, канапель
**пачуваць** — адчуваць
**пашанота** — пашана
**пашпарыць** — 1. хутка пайсці; 2. кінуць, шпурнуць
**паштыраць** — прагнаць
**пашчэнкі** — сківіцы
**пая́дак** — наедак
**перабіжмавацца** — перайсці на прозвішча мужа
**пераваладчы путам** — ударыць путам, апяразаць путам
**перадкаваць** — узначальваць, быць першым, быць наперадзе
**перадточча** — месца перад токам у гумне (ток — пляцоўка для абмалоту збожжа ў гумне), куды зграбаюць мякіну, дробную салому
**перакорац** — той, хто гаворыць наперакор
**перакорыць** — пераспорыць, пераканаць у спрэчцы
**перабыць гарт** — пераджыць напружанне, хваляванне
**перакорная гаворка** — спрэчка
**пераставіць** — пераканаць, зрабіць па-свойму
**пераставіць сябе** — перамяніцца
**пераходка** — пераход, паход
**пе́рхаць** — капіляць
**пе́рша** — перш, спачатку
**песціць язык у носе** (фр.) — гаварыць у нос
**пець «хурню»** — мурлыкаць
**піліпаўка** — пост перад Калядамі
**пішчаліцаю лезці** (фр.) — назойліва прыставаць, дакучаць
**плашка** — палавіна расколатага ўздоўж бервяна
**плесці рэкашэ́ды** (фр.) — распускаць плёткі, пляткарыць
**плеч, поплеч** — побач
**плойма** — мноства, вялікая колькасць
**плюхцець** — зіхацець, ззяць
**плянтаваць** — блытаць, бэрсаць, топчучы нагамі
**пляц** — вялікая незабудаваная тэрыторыя ў горадзе або ў вёсцы, прызначаная для якой-небудзь мэты
**повуху шлеіць** — біць у вуха
**по́межня** — побач
**постаць** — палоска жыта або іншай збажыны, занятая адной жняёй у час жніва
**посцілка, пералтыканая анучамі** — посцілка з утканымі палоскамі са старога матэрыялу (адзення, бялізны і інш.)
**пошвыркам** — кідком

**прабеглы** — хітры, кемлівы
**прабудзець** — змезнуць
**прававаціца** — судзіцца
**правіцца** — 1. праводзіць; 2. ісці
**правіць** — рамантаваць
**прадлу́баць** — марудна зрабіць
**праз лякарства** — на лякарства
**практыкі** — практыкаванні, доследы
**пракудаваць** — гарэзіць, сваволіць, штукарыць
**пралупіць вочы** (фр.) — расплюшчыць вочы
**прамаворы** — прыметы, забабоны
**праметная** — нячыстая сіла
**пранцузы** — французы
**прастарэкаваць** — разважаць, як дарослы, сталы чалавек
**прапсюрыць** — прагнаць
**праўдзівы** — сапраўдны
**працівіць** — пярэчыць
**праштырыць** — прагнаць
**продаць** — прадаваць
**промешка** (вобмешка) — мука, вотрубі, якімі абмешваюць корм жывёле
**проці ноч** — на ноч
**прушчыновыя каўнерыкі** — манжэты з белага матэрыялу (з прушчыны)
**прыбытковы** — які прыносіць прыбытак; даходны, выгадны
**прыгалавіч** — слуп-апора з развілкай на канцы, які ўжываецца пры будаўніцтве гумна
**прыгалак** — прагаліна, прагал
**прыдабыць** — набыць
**прыезны чалавек** — прыезджы чалавек
**прыказваць** — 1. прыгаворваць; 2. прычытаць
**прыкархнуць** — задрамаць
**прыкладка** — мянушка, назоўка
**прыклеп** — 1. выгляд; 2. прычына, зачэпка
**прыме́ць** — магчы, мець уладу
**прымурак** — выступ печы, на якім можна сядзець, ляжаць
**прымяркоўваць** — спрабаваць
**пры нашай бытнасці** — у наш час
**прырыхтавана** — падрыхтавана
**прысвятак** — перадсвяточны дзень
**прыскаліцца, прыскіліцца** — прыжмурыцца, зажмурыцца
**прыслухаліся** — надакучылі
**прысляпіцца** — прыляпіцца
**прыспічыць** — вельмі захочацца, прыцісне
**прыстаранак** — адгароджанае ад току месца ў гумне для складвання снапоў, саломы, мякіны
**прыстаўляцца** — прытварацца, рабіць выгляд
**прыстаўляць** — выконваць ролю, іграць у спектаклі
**прысту́пны** — да якога можна прыступіцца; даступны

**прысукáцца** — далучыцца
**прытарнавацца** — прыпыніцца, прыстаць
**прытном** — 1. без перапынку; 2. суцэльна, запар
**прытон** — прытулак
**прычолак** — скат чатырохскатнай страхі над папярочнай сцяной
**прычындалы** — прылады, начынне
**прычынец** — прычына
**прычыніцца** — быць прычынай
**прычыніцца да пісьменства** — далучыцца да пісьменства
**прычыннік** — вінаваты
**прышласць** — будучае
**прыяць** — спрыяць
**прэнзлі** — махры ад ручніка
**псоты** — сапсаванае
**псюрыць** — выганяць
**пупашынкі** — пупышкі
**пусціць дзейкі** (фр.) — пусціць чуткі, пагалоскі
**пустадомак** — чалавек, які не мае гаспадаркі
**пушны** — пульхны
**пыхоўная пані** — ганарыстая пані
**пэвен, пэўны** — упэўнены
**пэкнуць** — лопнуць, трэснуць
**пярвейшы сябар** — першы сябар, лепшы сябар
**пярвушчы** — першы
**пятае цераз дваццатае** (фр.) — 1. без сувязі, непаслядоўна; 2. мала
**пяўчыцы** — дзяўчаты, якія спяваюць на вяселлі
**пяцца** — старацца
**Рабак** — гліст
**рабіць псоты** (фр.) — шкодзіць, псаваць
**рабункі** — грабёж
**рáгі** — пацёкі (ад вады, дажджу, слёз)
**рада** — гаворка
**раджайнае жыта** — урадлівае, ураджайнае жыта
**ражнамі пароць** (фр.) — здзекавацца
**ражон** — завостраны кій
**ражэрня** — аранжарэя (ад франц. orangerie)
**разазнацца** — пазнаёміцца
**разбазырацць** — распусціцца
**развязваць задачы** — рашаць задачы
**разгайдамашвацца** — раскідвацца
**разгарвацца** — разгарацца
**разгарненне** — 1. размах; 2. занятак; 3. пацеха
**раззірацць** — разглядаць
**разладэдзіцца** — разгаварыцца
**размандыкваць** — займацца пустою гаворкаю
**рамавік** — вулей
**размахлёрыць** — пусціць па ветры; растраціць попусту

**разьгаты** — разгаты; разгалісты
**разыдаваць** — вычвараць, рабіць што-небудзь незвычайнае; вытвараць
**раз'ятрыць** — выклікаць злосць, раздражненне; раз'юшыць
**рапяціца** — рэпетыцыя
**Раскарчыцца** — укараніцца
**раскол** — раскольнік, дэбашыр, задзіра
**раскурстацца** — разгледзецца, прыйсці да сябе, разабрацца
**раскурстаўшыся** — прачнуўшыся, раскатурхаўшыся
**распасорыць** — растраціць
**распратвацца** — распранацца
**расхінёны** — раскрыты, разгорнены
**распалопаць** — разабраць
**ра́та** — 1. адна з частак агульнай платы, доўгу і інш.; 2. чарга
**раты́ пазарасталі, як жабам у Пятроўку** — паціхлі, маўчаць
**рахавацца** — раіцца, абменьвацца думкамі
**рахаўніца** — лічыльнікі
**рачанец** — тэрмін
**рашка** — драўляная пасудзіна, у якой рыхтуюць ежу свінням
**рубель** — спіна (звычайна ў жывёлы)
**рука была** — на руку, зручна
**рупасць** — руплівасць
**рупясць** — рупеск, клопат
**рускі месяц (фр.)** — цэлы месяц
**ручы́цца** — весціся, добра гадавацца, пладзіцца
**Рык** — райвыканком
**рымець** — 1. дрыжаць; 2. бурчэць, выказваць незадаволенасць чымсьці
**рыхтычкі** — выліты, падобны (польск. rychtyk — з нямецк. richtig)
**рыштант** — арыштант
**рэкнуць** — сказаць
**Саграсіць** — настрашыць, напалохаць
**садзява́ць** — адзяваць
**сакуяш** — саквояж
**саладушная мука** — мука з прарошчанага зерня
**сальнік** — гандляр салам
**сага́н** — чыгун
**самагцом (самахцом)** — па сваёй волі, па сваёй ахвоце
**самадурня** — здуру
**самахцом** — сілком
**сам праз сябе (фр.)** — самастойна, сваім розумам
**самохаць** — па сваёй волі, добраахвотна
**сапсець** — зрабіцца нікчэмным з выгляду
**сапстрыкаць** — скасіць
**сапяжанка** — пашыраны ў Беларусі сорт летняй грушы з жоўтымі салодкімі пладамі
**са свету збаёдаць (фр.)** — звесці са свету; загубіць, знішчыць кагосьці

**сахор** — вілы, якімі накідаюць гной на воз
**сваім одумам** — па-свойму, як надумаўся
**сваціянка** — сваццця
**свет гарыць (фр.)** — бяда, непрыемнасці
**свяціць гультая (фр.)** — гультайнічаць, ленавацца
**сгліць** — дакучаць
**сервітут** — права карыстацца чужой уласнасцю; права на абмежаванне ўласніка ў пэўных адносінах (ад лац. servitus, servitutis — павіннасць, падначаленасць)
**сесці куццёю (фр.)** — паставіць сябе ў недарэчнае становішча
**сёмуха** — хрысціянскае свята, якое святкуецца праз сем тыдняў пасля Вялікадня
**сіберны** — вельмі моцны, рэзкі, халодны
**сіверына** — дзічына
**сіпка** — сіпата, сіпенне
**скавы́ш** — моцны пранізлівы вецер з завываннем
**ска́лкі** — тлушчавыя кроплі ў страве
**скапытаваны** — стаптаны капытамі жывёлы
**скарач** — ручнік з доўгімі махрамі
**скарбовы** — казённы, дзяржаўны
**скеміць** — сцяміць
**склюдаваць** — секучы ўздоўж, здымаць паверхневы слой ствала
**скрутнуцца** — мільгануць, крутнуцца
**скрыляць** — рэзаць скрылікамі
**скудзельніцы** — жанчыны, якія збіраюцца вечарам разам, каб прасці кудзелю
**скутак** — вынік
**слата** — назола
**след прастыў (фр.)** — хтосьці бясследна знік, збег, схаваўся
**следу не пакласці (фр.)** — перастаць хадзіць да каго-небудзь, перастаць бываць дзе-небудзь
**слёзы па бабовым каляве (фр.)** — буйныя, слёзы як боб
**слібізаваць** — чытаць марудна, па складах
**слімізарны** — няўдалы, нязграбны
**слова перапусціць (фр.)** — змоўчаць
**службовыя** — нанятыя на службу
**слюза** — снег з вадой
**сляза слязу пабіваючы (фр.)** — горка, жаласна (плакаць)
**слясак** — язычок клямкі
**смаргануць** — рэзка ўзняць
**смычыць нітку** — прасці
**собіць** — прыйсці ў галаву
**спагнацца** — 1. задаволіцца; 2. адпомсціць
**спадкі** — спадчына
**спаміж** — між
**спанатрыць** — прывыкнуць, прызвычаіцца рабіць што-небудзь; узяць моду

**спаня́лы** — спане́лы, далікатны
**спаранджацца** — спадзявацца, разлічваць на што-небудзь; старацца
**спарышы** — два спараныя гліняныя гаршчочкі, у якіх бралі яду на поле
**спасцігаць** — 1. разумець, спачуваць; 2. помсціць
**спацыр** — шпацыр, прагулка
**спеўка** — рэпетыцыя хору
**спіранне** — спрэчка, нязгода, упартасць
**сплявачка** — урна
**сплянтаваны** — збіты, зблытаны
**споздрыць** — скеміць, зразумець
**справункі** — справы
**спракудзіцца** — схібіць; зніякавець
**спрат** — схованка
**спрытны** — лоўкі, удалы
**спрыяць у руку** (фр.) — шанцаваць
**спудлаваць** — спудзіць, спалохаць
**спусціць жэрдку** — зрэзаць і абчасаць (жэрдку)
**спэнду** — з перапалоху, спалохаўшыся
**ссыпшчына** — плата пастуху збожжам
**стадола** — канюшня на заезным двары
**стальмашня** — майстэрня, у якой робяць калёсы
**старана** — месца ў гумне паабапал току для ўкладкі сена, збожжа
**«старыя ракашэды»** — плеткары
**стасункі** — адносіны
**стаяк** — галандская печ
**стоўпіцца** — уладкавацца
**стоўпіць** — змясціць
**страві́ць** — пераварыць
**страйніся** — пра дзяўчыну, якая любіць прыгожа апранацца, убірацца (параўн.: строі — уборы)
**страхар** — той, хто крые страху
**строі** — уборы; вопратка
**строіцца** — 1. прыбірацца; 2. апранацца
**строні** — для, дзеля
**стрымлюваць** — стрымліваць
**стрыжкі** — коратка астрыжаныя валасы
**стрыфлі** — барты (пінжака, кажуха, паліто)
**стрыхоўка** — прылада для выраўноўвання саломы пры пакрыцці страхі
**стусі́на** — прут, дубец
**стэльмах** — каляснік, той, хто робіць калёсы
**сукала** — прылада для насуквання нітак на цэўкі
**сукараціцца** — скручвацца, зліватца
**сукачы** — зрэбныя ніткі, скручаныя (ссуканыя) у некалькі столак
**су́кня** — сукенка

**суладаць** — змагчы
**сумодаць** — ухітрыцца
**супуціцца** — збянтэжыцца, зніякавець
**супэнду** — з перапуду, з перапалоху
**сусла** — 1. самаробная соска з жаванага цукрам хлеба, загорнутага ў анучку; 2. папяроса-самакрутка (перан.)
**сутрымаць** — стрымаць
**сутрымлююць** — стрымліваюць
**сухама** — усухамятку
**сухоты** — туберкулёз
**схлянуць** — сысціся, сабрацца
**сцаглянець** — зацвярдзець, зрабіцца як цэгла
**сцібіць** — украсці
**сціртa кніжак** — стос кніжак
**сціхата** — цішыня
**сціхатою** — ціха, у цішыні
**сыскацца** — вярнуцца
**сына не здрадзіла** — сына не выдала
**сыскваючы** — сустракаючы
**сысці на пшык** (фр.) — прапасці; застацца без выніку
**сысці ўпрочкі** (фр.) — пайсці з дому, пайсці прэч
**сыць** — яда
**сышоў на пшык** (фр.) — збяднеў, знясілеў
**Табала** — натоўп, гурт
**таварыства** — група людзей, аб'яднаных агульнымі інтарэсамі, заняткам
**такоўскі** — такі
**талеркі** — дыскі
**таншая** — таннейшая
**тарокацца** — таргавацца, спрачацца пра цану
**тарпавіна** — торф, торфакрошка
**таўстоўка** — шырокая, доўгая мужчынская кашуля ў складку з поясам
**твань** — балота, дрыгва
**трама** — апорная бэлька, якая падтрымлівае столь у хаце
**трапець** — станавіцца безразважным, праяўляць нястрыманасць, шаленства
**трасца носіць** — трасецца, дрыжыць
**траха** — ледзь
**трацiна** — трэцяя частка зямельнага надзелу (звычайна валокі)
**трацiннік** — чалавек, які меў траціну зямлі (трэцюю частку валокі)
**трацяголедні** — даўні, які быў тры гады назад
**тропнуць** — стукнуць, ударыць
**тропу шукаць** — шукаць дарогі
**трубіць у кулак** (фр.) — гараваць
**трумкаць** — трэнькаць, брынкаць (звычайна пра ігру на струнных інструментах)

**трунак** — алкагольны напітак, гарэлка
**трухкам** — трушком
**тулап** — тулава, тулавішча
**турбацыя** — турботы, клопаты
**турыць** — везці што-небудзь грувасткае
**тэпкацца** — тэпаць, ісці
**тэўсць** — таўшчыня
**У адзін зваг** (фр.) — 1. у адзін голас, згодна, зладжана; 2. аднатонна
**увабраць** — злавіць у шкодзе
**увавіць** — з'есці (літаральна: умяць, утрубіць)
**уважаць** — лічыць
**уважыцца на кепікі** (фр.) — змаўчаць, стрымаць сябе
**увалгацца** — салгаць
**увазнацца** — даведацца, дазнацца
**увазнаць «коні»** — набыць звычку гуляць у «коні» (дзіцячая гульня)
**увярацца** — верыць, давярацца
**увяраць** — верыць
**увярцецца** — абгарнуцца
**угаварыцца** — разгаварыцца
**угадзіцца** — дамовіцца
**у гады ўходзіць** (фр.) — сталець
**угоджаныя** — дамоўленыя
**удаваць** — рабіць выгляд, прыкідвацца
**удаць** — выдаць, данесці
**ударожыцца** — узяць звычку хадзіць кудысьці, бываць у адной дарозе
**у дзесяць столак** — многа, вельмі многа
**удубальт** — удвая
**узапёрся** — успёрся
**узбіцца на грошы** (фр.) — абжыцца, мець запас грошай
**узгорачак-лабэціна** — голы, без расліннасці (узгорак)
**уздзябурыць** — апрануць, нацягнуць (звычайна пра верхняе адзенне)
**узрэхі** — агрэхі
**узяць вяршэнства** (фр.) — узяць верх, адалець
**узяць у клямары** (фр.) — стварыць становішча безвыходнасці; узяць у абцугі (у шчыпцы)
**у кашу ўлезці** (фр.) — умяшацца, ублытацца (у бойку, спрэчку, гутарку і інш.)
**украсці ў дня раніцы** (фр.) — пазней паспаць, позна ўстаць
**укрэмзан** — упісаны, запісаны
**укуцаўся** — забрудзіўся
**уладзіцца** — навучыцца, прызвычаіцца, натрэніравацца
**улукаткі** — крыва, зігзагам
**уляглі** — уцягнуліся, захапіліся
**умітуські** — у розных напрамках
**унянчыць** — улагодзіць, задобрыць

**унаравіць** — дагадзіць
**у паблуд не пусціць** (фр.) — не даць у крыўду
**у пастух выгнаць** — выгнаць (карову) на пашу
**упраўны язык** — балбатлівы
**упадаць** — заляцацца
**упраўнейшы** — спрытнейшы, больш здольны
**упыліцца** — упяцца
**упыніць** — 1. прыбраць, спарадкаваць; 2. зрабіць, выканаць штосьці
**упыну не было** (фр.) — не спыніць, не супакоіць кагосьці
**урэдкаю** — зрэдку
**урэпіцца** — учапіцца
**усвежылася** — здохла (пра жывёлу)
**усурычыць** — усунуць, прымусіць узяць што-небудзь
**усход** — пад'ём
**усшурмавацца** — шумець, крычаць, сварыцца
**усшухарыцца** — усхадзіцца, раскрычацца
**у сярэднім пер'і** (фр.) — сярэдняга дастатку
**утаропіцца** — пільна ўгледзецца, не зводзіць вачэй, глядзець не адрываючыся
**уткнуць язык у чужую кашу** — умяшацца ў чыюсьці спрэчку, размову ў тні за хатаю — у цяні за хатаю
**утрапёны поп хрысціў** (фр.) — пра неўраўнаважанага, нястрыманага, імпульсіўнага (чалавека)
**утратнае** — страчанае, растрачанае
**утрубіць** — шмат з'есці
**уходаць** — забіць
**у хустцы пад целяпень** — у хустцы пад бараду
**учашчаць** — часта хадзіць кудысьці
**ушчаць** — пачаць
**ушчухарыцца** — усхадзіцца, пачаць сварку
**ушыцца** — уціснуцца
**ушэсце** — царкоўнае хрысціянскае свята
**Файны** — добры
**фармазонскі птах** — чортаў, д'ябальскі (літаральна: масонскі птах)
**фармазонскія грошы** — дармавыя, чортавы
**фацэсія** (фацэція) — пацеха, смех
**фацэтны** — камічны, смешны, забаўны
**фашырка** — вантрабянка
**флянцавацца** — пускаць новыя парасткі, флянсы (нямецк. pflanzen)
**фрэнзлі** — махры, якімі аздабляюць хусткі, фіранкі і інш. польск. frędzla, ад нямецк. Fränsel)
**фуз** — рэшткі стружак у гэбліку (ад нямецк. fuden)
**Хаджалы** — бывалы
**хатнік 1** — рамеснік, які жыве ў хаце гаспадара, на якога працуе
**хатнік 2** — загадчык хаты-чытальні

**хаўрусуюць** — робяць агульную справу
**хаўруснік** — напарнік
**хаўрусныя** — агульныя
**хвайт** — хваць
**хвартух** — фартух
**хібок** — верхні край мяжы
**ходарам хадзіць (фр.)** — моцна трэсціся, калаціцца; бурліць, кіпець (пра падзеі, справы)
**хорма** — форма
**хоцькі не хоцькі (фр.)** — вымушаны, інакш нельга
**хрэсцы** — хрышчэнне (рэлігійнае свята, якое бывае праз два тыдні пасля каляд)
**хунт** — фунт, руская мера вагі, роўная 409,5 г (існавала да ўвядзення метрычнай сістэмы)
**хустка-манічанка** — хустка-канаплянка, зробленая з канапляных нітак
**хурман** — фурман
**хэнць** — жаданне, ахвота
**хэўру паганяць (фр.)** — кампанаваць, хаўрусаваць
**хэўры старацца (фр.)** — шукаць кампанію
**Цацкацца** — займацца, важдацца
**ценжар** — цяжар
**цераз лад** — празмерна, залішне
**цікнула** — падумалася
**цікнула** — глянула
**ці ты над ім рэпку пей (фр.)** — моцна спіць
**ціцюляе** — бегае
**цудэнне** — дзівацтва
**цукроўка** — летні сорт ігрушы, якая дае дробныя прадаўгаватыя сакаўныя плады
**цуры** — кавалачкі (хлеба, булкі і інш.)
**цурыкаць** — чырыкаць
**цухмоліць** — чысціць
**цыбінка** — травінка, каліўца травы
**цяперашнім светам** — цяпер
**Чаляднік** — рамеснік у цэхавага майстра ў феадальных гарадах Беларусі, Літвы, Польшчы (руск. подмастерье)
**чародная** — чарговая
**чарпка** — невялікая гліняная міска
**час-часам** — час-адчасу, часам
**чаўрэць** — чэзнуць, марнець, гібець
**чацвярцінік** — селянін, які меў чацвярціну зямлі (чацвёртую частку валокі)
**чвыр** — жвір
**чвыраваты** — жвіраваты (глеба)
**чвыра́к** — барак
**чвэртка** — старая мера даўжыні, роўная чацвёртай частцы аршына (17,775 см)

**чвэртка** — мера зямлі, роўная 40 сажням даўжынёю і 30 шырынёю
**чмарыць** — лазіць, шкодзіць
**чмыхаць** — нюхаць
**чортава гібель** (фр.) — незлічоная колькасць, мноства
**чортам падшыты** (фр.) — негадзівы, злосны, нялюдскі
**чучарыць** — грызці, хрумсцець
**чырвонец** — грашовы крэдытны білет вартасцю 10 рублёў, які быў ва ўжытку ў СССР з 1922 да 1947 года
**Шалахвост** — пусты, несур'ёзны чалавек
**шалахта́ць** — балбатаць, гаварыць пустое
**шалахтун** — балбатлівы, пустазвон
**шамуль-шамуль** — тое, што і шторг-шморг
**шар** — рад
**шарачковы** — пашыты з грубай дамашняй тканіны, сатканай з льняных і шарсцяных нітак
**шаснастка** — плеценая з саломы карзіна, у якую ўваходзіла 16 кг (1 пуд)
**шасток** — драўляная жэрдка (звычайна на шасток вешалі касу, серп, а ў хаце — рознае адзенне)
**шатанская злосць** — вялікая, моцная
**шіва** — тое, што шыецца
**швырляць** — шпурляць, кідаць
**швэндацца** — бадзяцца, хадзіць без пэўнай мэты
**шкілёнда** — каўбаса з вантробаў
**шлейнуць** — стукнуць, пляснуць
**шматавата** — мнагавата
**шнапарыцца** — поркацца, корпацца
**шнур** (шнурок) — паласа зямлі
**шнуроўка** — гарсэт
**шныпарыцца** — корпацца, поркацца
**шныр** — след, знак
**шныру не засталося** — следу не засталося, нічога, анічога не засталося
**шпікнэр** — свіран
**штандары** — вялікія, звычайна дубовыя, укапаныя ў зямлю калоды, на якія кладуцца падрубы драўлянага будынку
**штукаваць** — жартаваць, вытвараць
**штучны чалавек** — штукар, жартаўнік, выдумшчык
**штыль** — востры стрыжань
**шумкі** — званочкі, бубенчыкі
**шурмаваць** — шумець; сварыцца
**шушамець** — смецце
**шчакеты** — вузкія драўляныя планкі ў плоце
**шчыгульны** — прыгнаны, у абцяжку
**шчыры бор** — бор, які складаецца з аднолькавых парод дрэў
**шыбе́** — шыбае, ахоплівае
**шыбе ахвота** (фр.) — бярэ ахвота, хочацца штосьці рабіць

**шындзёлы** — шыпшына
**шэрая гадзіна** (фр.) — час, калі пачынае цямнець, на стыку дня і ночы
**шэпшала** — нямоцны, слабы
**Як вол даўбні** (фр.) — пакорліва
**як горкі яблык-дзічка** (фр.) — вельмі надакучыць, абрыднуць
**як ляпе́ш** — дужая, моцная
**як на жывот** (фр.) — моцна крычаць
**як скрозь зямель пашоў** (фр.) — прапаў, знік
**як следня** — як след, як трэба, як павінна быць
**ямка** — выемка, ніша, куды зграбаюць жар, попел
**ямчэйшы** — спрытнейшы
**ярка** — 1. голасна, гучна (сказаць, загаварыць); 2. холадна
**яркавата** — халаднавата
**я́сек (я́сік)** — маленькая падушачка
**яха** — рэха



# ЛІСТЫ



## АНТОСЬ АДАМОВІЧ — ЛУКАШУ КАЛЮГУ

Дарагі браце Кастусь!

Сягоння перапароў свае архівы і адшукаў Адамавы лісты пра «Нядолю Заблоцкіх». Перачытаць іх цяпер яшчэ раз я меў вялікую прыемнасць — думаю, што не меншую прыемнасць ад гэтага будзеш мець і ты. За гады выгнання гэта, бадай, самыя значныя Адамавы выказванні на літаратурныя тэмы — і, бадай, ці не адзіныя выказванні ў гэтай галіне (прынамсі, ▪ другіх выказванняў мне цяпер прыгадваюцца толькі ягоныя заўвагі наконт Жылкавага «Тастаманту»).

Думаю, што чытанне Адамавых заўваг дапаможа табе шмат у чым пазнаць глыбей самога сябе, а таксама і дасць некаторую апору тваім уласным поглядам на тваю творчасць і самой гэтай творчасці. Раю табе прачытаць іх удумліва і не раз.

Каб не перашкодзіць твайму ўражанню, не падаю і сваіх камэнтараў да іх.

*17.08.34.* *Твой Антось*

# ЛІСТЫ АДАМА БАБАРЭКІ ПРА «НЯДОЛЮ ЗАБЛОЦКІХ»

## 4

Дарагі браце Антось!

«Нядоля Заблоцкіх» сваім пачаткам абяцае быць вялікім творам не толькі ў памеры, але й сваім значэннем. Уражанням ад выдрукаванага пачатку гэтага твора й думкам пра яго я даўно ўжо збіраўся прысвяціць асобны ліст да цябе. Ды замарудзіўся з ім аж да таго, што дачакаўся ад цябе не толькі ліста з дзвюма яго папярэдніцамі-паштоўкамі, але і трывожнае лістоўкі пасля яго. Ізноў нашы думкі спаткаліся.

Усяму таму, што ты паведамляеш у сваім лісце і лістоўках, я вельмі рад. Твае думкі — гэта іскры таго сапраўднага жыцця на ўздаллі нашым, якое пустэльню нашага выгнання ператварае ў ааз творчае мыслі. І ці тое, што ты перадумаў пра «Нядолю Заблоцкіх» ад яе, ці, наадварот,— ты свае думкі так сказаць, удумаў у яе — яно з'яўляе сабою адно — гэта радзіму (у першым сэнсе, г. зн. у Лукашовым) як тое адзінства, у якім знайшлі сябе і твор гэты, і твае думкі. Не было б гэтае радзімы, не было б чаго тады і ў твор удумліваць. Твае думкі за гэты час гавораць, што наш дух на гэтым уздаллі жыве вялікім і цікавым жыццём творчае мыслі. А гэта ж аснова з'яўлення і вялікіх творчых праяў у ягонай будучыні.

Ты слушна ўважаеш «Н. З.» за твор выдатнага таленту і з'яву глыбокае мыслі. Я таксама сваю думку пра гэты твор знаходжу на гэтай жа ступені яго значэння. Ягоны пачатак, а так жа тыя ўрыўкі, што вядомы мне з яго, становяць дастатковую падставу для такіх меркаванняў.

«Н. З.» сваею назваю абяцае з'явіць Заблоцкіх не ў іхняй долі, г. зн. часці, вызначанай ім у жыцці нечым ці некім іншым, а якраз у процілеглым, у тым, што ёсць іхняю нядоляю ў гэтым жыцці, што для іх не ёсць канечным, а г. зн. у тым, у чым яны вольны ад канечнасці вызначанай ім долі. Іначай кажучы, «Н. З.» асмысляецца ў радзе іншых асмысленняў і як Свабода Заблоцкіх, або, што тое ж: Заблоцкія ў адмаўленні долі свайго быцця.

Доля, як і нядоля, прадумоўліваюць цэлае, у якім

дадзеная доля ёсць яго доляй, ці нядоля — нядолей. Адсюль, нядолю магчыма асмысляць як усё тое, што не ўваходзіць у змест вызначанай у пэўным сацыяльным ладзе долі жыцця для тае ці іншае асобы або, як тут, і для цэлай фаміліі (ва ўсіх сэнсах гэтага разумення). Гэта вось і стварае наджыданне з'яўлення Заблоцкіх не ў звычайнай гісторыі іхняга няшчаснага жыццябыцця, у якой звык чытач бачыць іх у творах аўтаравых папярэднікаў у беларускай літаратуры, а ў нечым процілеглым, а таму і вольным ад звычайнасці.

Гэты настрой у наджыданні падмацняецца і падзагалоўкам — гэтаю другою назваю твора, яго жанравым вызначэннем. «Прыгоды й летуценні», а не аповесць ці раман там які, як звык бачыць чытач пад загалоўкам твораў і нятвораў вялікіх памерам і часта нагэтулькі вялікіх у сваёй нязначнасці і пустаце. «Прыгоды і летуценні» — гэта Заблоцкіх нядоля і гэта ж творчыя прыгоды й летуценні аўтара на шляху да вялікага мастацтва і вялікіх дум яго. Гэта творчыя прыгоды й летуценні ў дарозе да будучыны вялікай літаратуры, годнай свайго народу. Падзагалоўкам гэтым падкрэсліваецца незвычайнасць у азначаным праз загаловак «нядоляю» лёсе названых там жа герояў. Чытанне твора гэта сцвярджае цалкам.

Пачатак — «Край свету чулі... А таго не ведаюць...» — уводзіць зусім у гэту незвычайнасць для чытача, у тое, што край свету чулі і чаго ўсё ж таго самага край свету не ведаюць зусім, і што ёсць на свеце, ды не дзе-небудзь, а ў пэўным месцы («У Баркаўцох»), і чаго няма на тым самым край свету. Гэтак выяўляецца першая і асноўная асаблівасць твора, якую я тут негатыўна адзначаю як незвычайнасць і якая па сваёй істоце становіць пазітыўную старану ў таленце аўтара, з'яўленым у гэтым творы. Гэта тая ж асаблівасць, якую ты адзначаеш як нутраную дыялектычнасць твора. Існасць яе ў з'яўленні незвычайнасці звычайнага і простага «ў Баркаўцох» і «для Баркаўцоў», у з'яўленні свету самой істоты гэтай незвычайнай звычайнасці і няпростай прастаты.

Чытаючы твор далей, заўважаецца хутка, што ўсё тое, што мы чытаем, ёсць нейчая мова да некага, што за гэтаю моваю выступае нейкая асоба. Далей і дазнаёмся, што гэту мову вядзе адмысловы апавядальнік перад другою такою ж асобаю, адмысловым чытачом.

Праз іх гэта ў форме суб'екта і аб'екта твора і стае сама нядоля Заблоцкіх. Апавядальнік і чытач — гэта пярэднія прадстаўнікі яе.

Уважна прыглядаючыся да гэтых постацей у творы, ураз жа заўважаеш, што яны таксама з'яўляюць сабою заўважаную ўжо асаблівасць твора. Як апавядальнік, так і чытач тут зусім не такія, якія ўзвычаены ў раманах і аповесцях, прынамсі, беларускае літаратуры. У гэтым дачыненні яны сапраўды незвычайныя. Сапраўды: апавядальнік вядзе чытача ў «даўнейшае даўней», апавядальнік [redacted] чытачом стаяць пад акном аднаго з герояў твора і глядзяць, што робіцца за акном, унутры хаты, апавядальнік водзіць чытача па сцежках сваіх герояў, паказвае яму харомы свае творчасці. Ён і апавядальнік і чычэроне яму і напэўна далей з'явіцца яшчэ большым і ў большым.

Гэтай незвычайнасці ў форме твора аўтар адразу ж уступае ці наступае на супярэчнасць звычайных прадстаўленняў аб літаратуры, прынамсі беларускай, і рэчаіснасці гэтай літаратуры. Ты правільна заўважаеш, што гэты твор ёсць адмаўленне «палескіх глушэй» і падобных «у». Вось адкуль і тыя «апрадзяленні», якія пасыпаліся на галаву аўтара і яго твора ад тых, на чый мазоль наступіў гэты твор.

То ж аўтар гэтым творам кажа: «Зусім не тое ёсць літаратура, што вы думаеце і звыклі што ўважаць за яе. Літаратура і ваша апінія пра яе — гэта процілегласці. Вы думаеце, літаратура — гэта дармовы дадатак да чые-небудзь «Нівы». Глыбока памыляецеся. Гэтаму довады — прыгоды і летуценні вольнага ад работы чалавека. Вы вось, напэўна, думаеце, што й нядоля Заблоцкіх, якія край свету вядомы, у тым, што адзін з іх на мыле прарабіў. Зусім не ў гэтым іхняя нядоля. Гэта толькі адна з прыгод, адна з тых прыгод, калі чалавек з мылам хоча вылезці, ці выйсці, ці ўвайсці ў свет і людзі. (Прыгадайце шырока вядомыя выслоўі «з мылам...» і «без мыла...». Ото ж мой, маўляў, герой хацеў не без мыла, а з мылам...) Ці заўважаеш, Антось, усю глыбіню аўтаравае іроніі тут над усімі і «мыльнікамі» і «бязмыльнікамі». Таксама, далей як бы кажа аўтар, не ў няздольнасці да жыцця нядоля гэтых герояў. Наадварот, кожны [redacted] іх мае свой талент. І вось менавіта ў гэтым іх нядоля. Каб не мелі яны гэтых талентаў, мо шчаслівейшыя былі б яны ў свеце,

як сказалі б, пэўна, баркаўчане, над гэтым развіажаючы. Для вас гэта дзіўна. Вы дзівіцеся, як гэта можа быць, каб у таленце чалавека была яго нядоля, хіба такі ўжо талент няздольны. А яно так і ёсць. Вось вам твор, глядзеце.

Гэтак вось са ступенькі на ступеньку сыходзячы ў твор, адкрываецца ўрэшце і самое нутро яго, яго святое святых, самае зерне твора, якое ў гэтым урыўку яшчэ толькі-толькі назначаецца. У агульным абрысе гэта: творавы героі ў сваёй нядолі — гэта вядомыя свету героі ў невядомай яму нядолі іхняй, гэта што: «видимый миру смех сквозь незримые миру слезы». Вось — яны ў сваёй старасветчыне, як уяўляецца яна вольнаму ад работы чалавеку, гэта адна лінія. Вось у «даўнейшым даўней» яна пашчапаная на дзве палавінкі, як у казках тых: бедны брат і багаты брат з сваімі долямі-нядолямі. І, пэўна, пройдуць яны далей і праз «наша даўней», каб дайсці ўрэшце да нашага часу постаццю ці не таго ж апавядальніка і чытача, праз якіх і з'яўляецца свету нядоля гэтых герояў.

У чым іхняя нядоля? Коратка азначаючы яе на падставе прачытанага ўрыўка, можна выразіць гэта так: нядоля фаміліі Заблоцкіх у супярэчнасці між канечнасцю іхняга быцця і воляю іхняга духу. Іхняя нядоля ў тым, што яны мусяць *быць* не тымі, да чаго ляжыць іхняя натура, што іхнія долі вызначаюцца ўласна не імі самімі, а такімі ўстанаўленнямі людскімі, якія варожы іхняй істоце. Іх нядоля ў тым, што не па іхняй мыслі жыццё ідзе, што не гэтак вядзе яго той, хто сілу над імі мае. Іхняя нядоля ў тым, што яны, радзіўшыся сялянамі, мусяць імі й памерці. А да таго ж быццё селяніна так аплецена павуціннем усякіх баек, забабонаў і зданняў, што з-за іх чалавек у гэтым быцці й свету божага не бачыць, і свет гэтага чалавека таксама не ведае з-за іх. «Засталучылі байкі праўду...» З-за баек сам чалавек, іх натварыўшы, сам не свой становіцца, а нейкай цацкай у руках невядомых варожых яму сіл. Іхняя нядоля ўрэшце ў тым, што кожны ■ іх па-свойму стаў супроць свае долі, і ніхто з іх не ведае тым часам дарогі сапраўднай ■ гэтага быцця ў свет, ніхто з іх не ведае, як збудаваць жыццё паводле свае волі, натуры і мыслі. У іх пакуль свядомасць яшчэ толькі на ступені адчування патрэбы адмаўлення вызначанага лёсам быцця. Як жа гэта

зрабіць — яны не ведаюць. Практыкаю свайго жыцця, сваіх прыгод і летуценняў змушаны набываць гэту свядомасць і з'яўляць яе постаццю апавядальніка з чытачом. Практыкаю свайго жыцця праходзяць яны гэту грамадскую дысцыпліну, як бы сказаў гэта Якаўлеў (вядома, не менскі).

Усё гэта якраз тое, што ты ў сваім лісце адзначыў як быццё Заблоцкіх у «аб'екце» і першыя парасткі ўсведамлення сябе ў «суб'екце», або ў сабе суб'екта і таго, што ты стылем нямецкае філасофіі адзначыў як тэарэтычную й практычную свядомасць герояў твора. Дарэчы сказаць, тут вось якраз сваёю вастрынёй утыкаецца пытанне пра існасць філасофій пачатку й асновы. Гэта я заўважаю тут у дужках. Усплыло яно тут у звязку з азначэннем герояў твора як асоб, якія пачулі *ў сабе пачатак і аснову* (яскрава з'яўлена «апавядальнікам» і «чытачом» у творы). І тут я пра гэта ўспамянуў проста, каб не забыцца, кажучы Лукашовым стылем. Да слова: гэта заўвага апошняя — выражэнне яскравай адчувальнасці і менавіта Лукашовага стылю ў яго першых назначэннях.

P. S. Хоць гэты ліст не закончаны, але выпраўляю яго ў дарогу. Няхай ідзе і скажа табе, што мы і жывы, і здаровы, і рады лістом тваім, і гэты ліст, даўно ўжо збіраны, каб падзяліцца думкамі і каб гарэць агнём адзінае творчае мыслі ў пустэльні нашага выгнання. Не маракуй, Антось, што няскончаны табе адпраўляю ліст. Калі не адпраўлю яго, дык ён гатоў яшчэ доўга не выбрацца. Думаю наўдагон яму хуткім часам, мяркую, заўтрашнім вечарам, закончыць гэты ліст пра Лукашову нядолю. Баюся я, браток Антось, каб сапраўды не сталася гэта нядоля нядоляю самога Лукаша ў літаральным сэнсе, калі ўзяліся яе там «апрадзяляць» такія, папросту кажучы, прахвосты ў літаратуры і ад літаратуры. Свае думкі пра тое, што можа значыць гэтае «апрадзяленне» іхняе, я напішу табе, як буду пісаць канец гэтаму лісту пра «Н. З.».

*25.12.31*
*Слабадской*

Дзень добры, ці добры вечар, Антось! Гэта я з працягам.

У выдрукаваным урыўку «Нядолі Заблоцкіх», як

ужо я адзначаў ва ўчарашнім лісце, асабліва звяртаюць на сябе ўвагу постаці «апавядальніка» і яго аб'екта — «чытача». Яны форма, у якой з'яўляецца нядоля Заблоцкіх, і ў той жа час яны, на маю думку, асноўны змест твора.

«Апавядальнік» і «чытач» — гэта дзве постаці аднае й тае ж з'явы, а ўласна тут яны прадстаўляюць супярэчнасць літаратурнай рэчаіснасці з паняццямі пра гэтую рэчаіснасць. Першы і ўяўляе гэту рэчаіснасць у пэўных межах, як чалавек, вольны ад працы. Другі ж, як паказвае ўжо назва яго, ёсць прадукт кнігі, або той жа чалавек, толькі ў яго дачыненні да кнігі. Гэта суб'ект чытання, гэта прадстаўнік ад кніжнага розуму, ад кніжных паняццяў рэчаіснасці.

У будове прадстаўлення свету гэты апошні ёсць трэцім паверхам яе. Першы — гэта той, хто сам перажывае пэўнае быццё, хто з'яўляе сабой саму практыку жыцця, практыку рэчаіснасці. Другі — гэта той, хто гэту практыку адлюстроўвае ў сабе вольным ад работы часам, хто ўсведамляе гэту практыку й паказвае яе людзям праз слова. Трэцюю ж ступень складае той, хто прымае свядомасць другога, або, іначай кажучы, хто прымае рэчаіснасць, адлюстраваную ў свядомасці другога, хто глядзіць на першую ступень праз балоны другое. Калі першая — сама рэчаіснасць, а другая — непасрэдная свядомасць, дык трэцюю можна азначыць як свядомасць свядомасці. Або: першая — рэчаіснасць у самой сабе, другая — рэчаіснасць, пазнаная in conizeta, і трэцяя — тая ж рэчаіснасць in abstracto. І ўсе гэтыя ступені з'яўляюцца паверхамі аднае будовы — гэта аўтаравага прадстаўлення свету, ці, дакладней,— уяўлення пазнанага ім свету ў мастацкі твор. Гэтак мысліць Лукашоў твор у сваёй ідэі, наколькі яна здолела з'явіцца праз першы ўрывак твора. І тут цяпер можна ставіць пытанне, наколькі твор гэты адпавядае сваёй ідэі, наколькі хапіла аўтаравых сіл і ўмення ажыццявіць гэту ідэю сваім творам. Выдрукаваны ўрывак гаворыць, што аўтар уладае немалым талентам дзеля таго, каб з'явіць свету свае прыгоды і летуценні свайго творчага духу.

Такім чынам, суставамі твора ў ягонай ідэі з'яўляюцца: 1) «наш чалавек» у рэчаіснасці, 2) ягоны апавядальнік і 3) ягоны чытач. Што ж гэтыя постаці ў сваёй ідэі?

Заблоцкія — гэта невядомыя свету людзі вядомай усім фаміліі, з'яўленыя ў дзвюх лініях ад аднаго бацькі ды не аднае маткі. Гэта людзі ў сваім незвычайным з'яўленні, у нядолі, якою ёсць не іхняя прырода, не іхняя воля, а якраз процілеглае гэтаму — устанаўленні чужой волі, і таму супярэчнасць быцця гэтых людзей у чужой волі ўсяму духу іхняе «фаміліі».

Апавядальнік — майстра свайго мастацтва і знаўца свае справы. Ён, як кажуць, на вышыні свайго прызначэння. Карэннямі сваімі гэты апавядальнік вырастае з «даўнейшага даўней», як і ягоныя героі, а верхавінаю сваёю ён узнімаецца на вяршыні сучасся. Гэта, можна сказаць, класік у сваім нацыянальным з'яўленні. Гэта — што Віргілій беларускага Дантэ ў сучассі. Ён ужо *ўладар* праўды жыцця, прынамсі, жыцця беларускай літаратуры, пачынаючы ад яе «даўнейшага даўней». Як апавядальнік ён нацыянальная праява сусветнай сілы, якую можна азначыць як класічнае мастацтва ў пісьменстве. Ён ведае, што без адпаведных сацыяльных прадумоў намарна йдуць усе самыя найлепшыя імкненні і летуценні аддзельнай асобы, што самыя гэтыя імкненні абарочваюцца ў згубу гэтай асобы. Ён свядомы ў патрэбе адмаўлення сацыяльных устаноў «даўнейшага даўней» для нямарнага жыцця найлепшых імкненняў чалавека працы ў вольны ад гэтае працы час. Ён свядомы ў патрэбе адлучыць праўду ад баек, і гэта ўважае за свой абавязак і за існасць свайго мастацкага таленту.

Чытач — гэта аб'ект апавядальніка, гэта другая старана яго — ёсць уяўленнем літаратурных прадстаўленняў сучаснасці. Гэта тое, што выхавана літаратураю, што абернена да яе тварам і што прад'яўляе ёй свае пэўныя патрабаванні. Гэта тое, што прадстаўляе пэўныя густы й мае пэўныя паняцці на падставе чытання. Калі яго — суб'екта, г. зн. апавядальніка, можна азначыць як уладара праўды ў байках, дык гэты будзе яго процілегласцю — уладаром баек у праўдзе. І адначасна гэта толькі дзве стараны аднаго чалавека, гэта што два сыны аднаго бацькі ды не аднае маткі, гэта чалавек у двух сваіх з'яўленнях: у апавяданні і ў чытанні.

Так уяўляюцца гэтыя сустаўныя часці твора ў сваёй ідэі. Тут зноў жа на месцы пытанне, наколькі гэтай ідэі адпаведзен сам твор. Першы ўрывак і тут гаво-

рыць, што Лукаш творыць «Н. З.» як твор вялікага значэння.

Вядома, больш поўна пра твор можна будзе казаць тады, калі ён будзе ўвесь выдрукаваны й прачытаны. Магчыма, што некаторыя меркаванні некалькі зыначацца ў сваіх дэталях, але ў аснове цяпер ужо гэты твор азначаецца творам выдатнага таленту.

«Нядоля Заблоцкіх» — гэта выступленне Лукаша ў ролі майстра-апавядальніка кшталтам класічных майстроў светавай літаратуры. Кожнаму ўзросту пісьменніцкага развіцця ўласцівы перажыванні творчасці ў пэўных адменах, уласцівых данаму ўзросту. І гэта выступленне Лукаша ёсць праява аднаго з момантаў у ягоным літаратурным развіцці, або кажучы ягоным стылем, у ягонай літаратурнай «нядолі», у ягоных творчых прыгодах і летуценнях. Гэты момант даным творам вызначаецца як перажыванне класікі пісьменніцкага мастацтва, адроджанай у нацыянальным матэрыяле.

Шлях Лукаша, з'яўлены «Н. З.», ёсць шлях, што йдзе праз аўладанне спадчынаю мастацтва класічнага пісьменства (літаратурная спадчына), з аднаго боку, і праз аўладанне спадчынай нацыянальнага дасведчання, з'яўленага ў пэўных яго сацыяльных станах, з другога — да свае ўласнае творчасці, да творчасці свайго ўласнага мастацтва ў беларускім прыгожым пісьменстве. На пытанне, наколькі Лукаш аўладаў і тым і другім, адкажа твор гэты ўцалку.

Цяпер жа цікава выявіць, у чым зерне Лукашовай асаблівасці, як яна з'явілася ў першым урыўку «Н. З.». У чым тое, з чаго выростае ў беларускай літаратуры менавіта Лукаш Калюга. Гэта зерне, на падставе прачытанага, адзначаецца як *чалавек досугам*. Гэта вось тое, з чаго выростае Л. Калюга як адменны талент беларускай літаратуры. Творчасць выражэння або люстры для творчага духу чалавека, вольнага ад канечнасці, духу нашае радзімы — вось пункт накіраванасці Лукашовага развіцця ў літаратуры. Свет і чалавек ва ўяўленні «вольнага ад работы чалавека» — вось тое, што становіць Лукашову адмену ў беларускай літаратуры.

Свет і людзі ў «казалах» і ў сапраўднасці — так можна азначыць Калюгаў спосаб пісьма. «Нядоля Заблоцкіх» — гэта свет і людзі ў простых людзей няпро-

стым прадстаўленні. Кажуць, людзі вось якія на свеце ёсць, сам свет вось такі й такі — такое вось паняцце пра свет гэтыя людзі маюць, такое вось здумалі людзі сабе пра свет і людзей. Вось, маўляў, што здольна ўтварыць думка вольнага ад работы чалавека, вось іхняя творчая здольнасць. Вось іхняе ўяўленне. Вось на што пайшла яго вольная часіна, ягоныя «святы» і «прысвяткі». І адкуль у іх гэтакае ўяўленне свету й людзей? Ці гэта іх уласнае, ці прышлае? І ці сапраўды такія свет і людзі, як думаюць гэтыя людзі? І ці сапраўды самі яны такія, як самі пра сябе здумалі? То ж на першы погляд дык для іх няма анічога на свеце, што было няясным і не растлумачаным на іхні лад і манер. То ж як бы і няма для іх аніякіх загадак на свеце. А ці сапраўды гэта ўсё так? — На ўсе гэтыя пытанні й мусіць адказаць «Н. З.» у сваім далейшым працягу.

«Вольны ад работы чалавек» Лукашовай «Нядолі Заблоцкіх» — гэта ж чалавек перайшоўшы з панства канечнасці ў царства свабоды, кажучы стылем сучаснай філасофіі. Гэта ён уласна галоўны герой Лукашовага твора і адзнака Лукашовай асаблівасці ў творчасці.

«Нядоля Заблоцкіх» дае шмат матэрыялу для меркавання наконт зместу гэтага чалавека. А чалавек гэты не пустая фігурка ■ слоў, а жывое ўяўленне праўды беларускай рэчаіснасці. Гэта тое, дзе пачынаюцца карэнні адменнай філасофіі.

Вось, прыкладам, вазьмі і такія выразы, як: «у чалавека ёсць час» і «ў чалавека няма часу», ці не з'яўляюць яны сабою адменнага паняцця часу. Калі час у чалавека можа быць і можа не быць, дык што гэта такое — гэты час — у паняцці гэтага чалавека? Час — гэта свабода ад работы, ■ яшчэ агульней, час — гэта свабода ад канечнасці. Гэта тое, у чым чалавек належыць самому сабе. А прыгадай, Антось, такія выразы, як: «яму пэўна не будзе калі й памерці», ці нешта падобнае, што ўжываецца ў нашай мове. Ці не ёсць гэта найвышэйшае выражэнне няволі чалавека. Самому сабе, кажуць, не волен чалавек. Ці не тут гэта праўда й «Н. З.»?

А вазьмі азначэнні чалавека, у якіх ён падаецца ў «Н. З.». Гэта ж чалавек *бывае* розны: і змыслы, і даходны, і ліхі, і не абы-які, і славен, і абрыдзоны, і па-

трэбны, і гаспадарскі, і наш, і чужы... У кожнага з іх свае граніцы. Дык ці не ёсць гэта й чалавек быццё толькі (прыгадай адпаведны выраз «быць ці стаць чалавекам»). Чалавек — гэта тое, чым *бывае* чалавек для чалавека. А чым ёсць «наш чалавек» у свеце? і што ён сам па сабе? — так вось, уласна, ставіць пытанне Лукаш сваею «Н. З.». Пакуль што першым урыўкам ёю на гэта пытанне негатыўны адказ, [redacted] менавіта — наш чалавек — гэта не тое, што вы пра яго думаеце, што вы пра яго чытаеце ў дармовых дадатках да «Нивы».

Далей вазьмі выразы «рабіць [redacted] розумам», «зашыты розум» — ці не носяць яны ў сабе тае асаблівасці ў светаглядзе, якую набыло народнае дасведчанне жыцця суб'екта ў аб'екце канечнасці, вызначанай воляю аб'екта гэтага.

А гэта раскрыванне існасці літаратурнага мастацтва як мыслі вольнага ад работы чалавека. Ці не яно гэта й нагадвае постаццю апавядальніка з чытачом, лірыка з матэматыкам.

Словам, «Нядоля Заблоцкіх» — гэта немалы прастор для мыслі. У гэтым сэнсе яна багатая крыніца каштоўнага матэрыялу. А гэта значыць, што тым самым яна не можа не паслужыць повадам для розных спекуляцый.

«Н. З.» — праява сілы выдатнага літаратурнага таленту. Дык якое дзіва, што на яго з'яўленне пачалі накідвацца тыя, на чый мазоль наступае гэты талент, тыя, хто бачыць у гэтым таленце сваё зацьменне. І тое, што дзяўкаюць цяпер на гэты твор, гэта праява страху перад праяваю літаратурнай сілы ўсяго, што гэтай сілы не мае, а ў звязку з гэтым і адпаведны га́лас супроць яе. Ён лішні довад таго, што твор гэты значны.

Адно толькі ясна, што Лукашоў твор — твор чэснай мыслі, у той час як тых, што яго цяпер «апрадзяляюць» у сямі смяротных грахах, сваімі выказваннямі не даюць падстаў падазраваць іх у падобным мысленні.

«Н. З.» — гэта гутарка аўтара з самім сабою і для сябе. А падобна таму, як пра філасофію адзін нямецкі філосаф казаў, што «ў філасофскіх разважаннях дзіўным чынам выходзіць, што менавіта толькі тое, што хто-небудзь толькі для сябе передумаў і даследаваў, бывае потым прыгодным і іншым, а не тое, што з са-

мага пачатку прызначалася для іншых», так бывае і з чэсным мастацтвам.

І якая іронія ў лёсе літаратурнага твора. «Нядоля Заблоцкіх» ды ў адмаўленні. Выходзіць, што гэта не нядоля Заблоцкіх, а доля іх, што так яно й мусіць быць, што гэта супярэчнасць быцця і духу як бы і ў парадку рэчаў. Якая прыгода «прыгод і летуценняў»!

У Гётэ ёсць такое чатырохрадкоўе:

Hast du einmal das Rechte getan,
Und sieht ein Feind mehr Schlechtes daran,
So wird er gelegentlich, spät oder früh,
Dasselbe tun, er weiß nicht wie.

P. S. Пішаш ты, што нехта прапанаваў ліквідаваць «Узвышша». Хто ж гэта моцан на задні розум! То ж яно ўжо ліквідавана даўно. А калі што й было там яшчэ на тым месцы, дзе было яно, дык гэта цень яго або тое, што ты сваім часам адзначыш узніжжам. Зрэшты, у гэтай прапанове ёсць зерне здаровага сэнсу: то ж ліквідаваць цяперашняе «Узвышша» азначае выкрыць яго як не ўзвышша, а ў яго сапраўднай істоце ўзніжжы або цені беларускае літаратуры.

*26.12.31*

## ЛУКАШ КАЛЮГА — НІНЕ КАЗЛОЎСКАЙ

*Пяцьдзесят чатыры гады я зберагаю гэтыя лісты Лукаша Калюгі. Нялёгка, відаць, зразумець, чаму так цяжка мне аддаваць іх на публікацыю, чаму хочацца прасіць у яго прабачэння за такі ўчынак. Але, мне думаецца, гэтыя лісты дапоўняць вобраз пісьменніка як асобы, што не паспела на поўную моц разгарнуцца за гады яго кароткага жыцця.*

*Звёў нас лёс у мінскім Белпедтэхнікуме ў 1928 годзе. Тры гады праляцелі бліскавіцай. Мы былі тады ў няспынным руху: усялякія дыспуты, спеўкі, рэпетыцыі, багатая бібліятэка — на ўсё ледзь ставала часу. Лісты ад Кастуся Вашыны (тады я не ведала яшчэ, што ён — Лукаш Калюга) я пачала атрымліваць на трэцім курсе, але яны былі без подпісу, і я доўга не магла здагадацца, хто іх аўтар. І калі гэта высветлілася, мы ў гаворцы ніколі пра гэта не згадвалі.*

*Атрымлівала я яго лісты і ў 1931/32 навучальным годзе, калі працавала ў Чырвонаслабодскай сямігодцы.*

*У Мінск вярнулася ў пачатку 1933 г., і неўзабаве мы сустрэліся. Помніцца, хадзілі на выстаўку мастака Волкава-старэйшага, і ў той жа вечар Кастусь паказаў мне дом, у якім наймаў пакойчык (гэта каля Вайсковых могілак па Берасцянскай вуліцы). Праз некальні дзён я прыбегла да яго прасіць дапамогі — прывезла з Новага Двара (непадалёк ад Мінска) хворую нашу аднакурсніцу, трэба знайсці ёй нейкі прытулак. Было гэта вечарам, Кастуся не было дома, калі я папрасіла дазволу пакінуць запіску, гаспадар паказаў мне на запячатаныя дзверы яго пакойчыка. Я ўсё зразумела.*

*Ішлі дні, месяцы. Дзесьці ў кастрычніку-лістападзе да мяне на працу прыйшоў пажылы чалавек і прынёс ад Кастуся пісьмо, толькі папрасіў прачытаць і падраць пры ім. Відаць, гэта быў вартавы з турмы — і сярод іх знаходзіліся добрыя людзі.*

*Пасля было пабачанне ў турме на вуліцы Валадарскага. Дасюль не магу забыць той шырокі калідор, яго шэрыя сцены і доўгі стол, паабапал якога стаялі людзі і штосьці крычалі адзін аднаму. Кожны стараўся перакрычаць суседа, каб пачуў той, якога бачыць, можа, апошні раз. Памятаю ўсмешку і вочы Лукаша.*

*А потым быў Ірбіт, вольнае пасяленне, і вельмі*

*шмат лістоў, з якіх цудам захаваліся вось гэтыя — прыйшла ж вайна, была эвакуацыя і шмат іншых бед.*

*Пра тое, што Лукаш зноў арыштаваны і сасланы ў канцлагер, даведалася з ліста яго сябра (адзінага ліста) і маленькай запіскі памерам з карабок ад запалак, напісанай на папяроснай паперы: «Табе і Радзіме ніколі не здраджу». Гэта апошнія радкі-клятва, якія ён пакінуў мне.*

*Ніна Казлоўская*

*3 лютага 35 г.*

Ніна!

Сягоньня я ўладзіўся на новую працу, але сказалі пачакаць да 18-га — цяпер няма дзе сесьці. З 18-га сесьці будзе дзе, і я пачну працаваць. (Ты заўважаеш гумарыстычнасьць становішча?!)

Дома ў мяне сесьці ёсьць дзе, а часу да 18-га ізноў жа пазычаць ня прыходзіцца,— так што, калі захочаш мець даведку ад бюро надвор'я, табе скажуць: *«доўгія і «обильные» лісты»* (як град будуць сыпацца на тваю няшчасную галаву).

Гэты раз пахвалюся, што мне найбольш спадабалася за апошні час. Каб не падумала, што гэта маё — падаю без перакладу:

«Овидий написал книгу о любви — «Науку любви», и другую книгу «Лекарство от любви».

Лекарство было скучное.

Овидий об'яснил науку расставания.

Нужно в мыслях называть сутулой ту, у которой круглые плечи.

Нужно вспоминать весёлую, как крикливую.

Так делил неделимую, неудачную любовь Овидий.

Небо Греции было населено переплетающимися между собою зверями и героями. К этому небу Овидий писал примечания.

Небо Греции было уютно, плотно.

Наше настоящее небо глубокое, разно отстоящее, дальнее небо.

Мы это небо ещё не обжили».

Перапісаў... і ня з усім згодзен. Чым «скучнее» навука растаньня? А ў Авідзіевым выкладаньні яна, нават, вельмі практычная. Хаця-б для мяне...

Ня буду таіцца: я дастаў тваю картку (яна ў мяне ў ангел. слоўнічку — заўсёды пад рукамі) й гляджу, якія плечы...

Каб мне трапілася ў рукі Авідзіева «Навука каханьня, быць ня можа, каб там я не знайшоў, што маўчаньне, *асабліва ў жанчын*, служыць знакам згоды. Але мала з усяе гэтае навукі практычнае дапамогі. З чым жа ты згодна?! Я столькі раз кідаўся ў самыя працілеглыя крайнасьці. Столькі раз супярэчыў сам сабе. Заблытаўся дарэшты і не магу адрозьніць — што было, чаго ня было.

Наконт таго, каб абжываць неба... Я залішняе празаічны. Лепш бы абжываць пакой, новы горад у крайнім выпадку. А такі касьмізм, як — абжываць неба ды бадай з працілеглых пунктаў земнае кулі у мяне выходзіць [illegible] вялікаю нацяжкаю. Я-ж кажу: проза я; чэрствая, а хутка буду (не ў пераносным — у простым сэнсе) бяззубая проза. Я-ж кажу: зблытаўся дарэшты — а некалі, здаецца, пісаў: «пашукаем паэзіі»?!

От і ўсе мае заўвагі да тае вытрымкі. *К.*

Краткам цалую.

(Калі праціўна — закасуй, хочаш мацней — падкрэсьлі.)

Прачытаў усё спачатку і бачу — залішняе шматкроп'я.

Як у «заштатных паненак» Ісакоўскага, нераўнуючы!

«После каждой фразы ставят многоточия
И совсем не ставят запятых».

*14.II.1935 г.*

...каб ты ведала, як ныю, як агідзеў сам сабе?!

Жаночая псіхалогія мне вядома: было б карысней для мяне, каб крышку, хоць для віду, пагарджаў табою і трымаў сябе спакайней. Але я пагарджаю ўсякімі вытрыманасцямі й тактыкамі. На свае раны ад чужога вока не хачу класці ніякіх павязак. Хай будуць наверсе! На раны гідка, непрыемна пазіраць (на чужыя, вядома). Ну што ж?! — гідзься, але ўсё гэта праз цябе — Ты прычынніца!

Як у мяне, ні ў кога ў свеце няма такога няшча-

сця, і ўсё праз тое, што кахаю цябе, што ад аднэй цябе несчакаюся ветлага слова.

P. S. Часта круцішпа думка: хоць бы абразіць чым-небудзь — можа б тады аказалася. Ад лютае злосці замярзаюць мазгі і не магу дабраць абразы. Самую горшую, якую толькі мог здумаць, ужыў летась гэтаю парою. Паўтарадь няспрытна (я шаную хараство стылю нават у лаянцы) — можа, яшчэ не забылася.

*13.IV.1935 г.*

Ніна!

Гэты раз нічога пісаць не буду.

Мяне цікавіць, перш-наперш: што значыць тваё маўчанне? што такое здарылася? Здагадваюся розна. Я пераслаў табе безліч лістоў, а ад цябе апошні толькі летась у кастрычніку меў.

Мае пачуцці застаюцца нязменныя. І тая картка ў мяне на стале.

Што на канверце будзе нейкая новая — я сам не ведаю якая — пячатка, хай гэта цябе не дзівіць: жыву на старым месцы. Адрас той самы, які ты ведаеш (Ірбіцкая, 116).

Чакаю адказу. *К.*

*5 ліпеня 35 г.*

Добрая Нінусенька!

Сягоння ўзяў твой апошні ліст і прачытаў яшчэ раз. І дазнаўся, што ты — добрая: дазваляеш прыласкаць сябе.

Спяшаюся з просьбаю: забудзь папярэдні ліст, які я напісаў быў у роспачы, што ў цябе нават *слоў* ласкавых няма для мяне. Забудзься на яго.

Нінусенька! — а я бываю ласкавы з табою.

У лятунках, у снах часам хаджу на вакзал. Да самых драбніц, да найвялікшае рэальнасці ў мяне передуманы гэтыя стрэчы. Хаця з рэчаіснасцю не вельмі лічуся... Напрыклад: цягнікі сюды прыходзяць раніцаю, а 6-й гадзіне. А я сваволю з раскладам, і ты з'яўляешся падвечар. Бо люблю надвячоркі — лірычную гэту так званую «шарую гадзіну». Гэта наша з табою пара. Тады пяшчоты кволыя.

Але бываюць у маіх лятунках і глухія вар'яцкія поўначы. Свет становіцца далёкі й глухі. Ды якая наша справа да свету — нават добра, што ён гэтакі,— бо ў саміх нас для нас даволі паўнаты і зместу.

Вот оно, глупое счастье
С чёрными окнами в сад...

Гэта з твайго даўнейшага, такога слаўнага і многа ласкавейшага да мяне, як наступныя, лісту. А з «чорнымі» вокнамі таму, што ў тыя вокны пазірае густая «знойная» ноч.

(Ты ведаеш, што я люблю ўсё «знойное»? — і цябе ў тым ліку — крозу маю «знойную» й пяшчотную.)

А яшчэ [redacted] над саду проста ў тыя чорныя вокны блішчыць Вялікая Мядзведзіца, кожнаю зоркаю блізкая нашым успамінам.

Каб ты ведала, кроза мая Нінусенька, якія мы сам-насам бываем гарэзлівыя! Як прыгожа трацім розум!.. Пра гэта я больш гаварыць не магу — захлынаюся ад захаплення, ад усякіх клічнікаў. Бывае ўсё, што толькі магчыма... Драбніц не апісваю, шануючы тваю дзявочую сарамлівасць, хоць усе яны мне нават у лятунках неацэнныя. А што ж бы было, каб хоць дзесятая доля [redacted] іх, хоць калі-небудзь каб прыйшлася мне ў рэчаіснасці?! Чым бы я табе аддзячыў за такую роскаш?!

Вазьмі багацці душы мае — выпі, выцісні іх... А як нічога не застанецца, тады вон мяне выкінь. Я сваім лёсам застануся здаволен: буду ведаць, што знаў шчасце — гэтага з мяне будзе даволі.

Ніна! Нават у лятунках маіх нічога грубага не бывае. Я толькі стараюся адгадаць твае маўклівыя жаданні. А ты ставіш такія вялікія вымаганні, што толькі бязмернае маё каханне дапамагае мне не скампраметаваць сябе. І дзіўлюся яшчэ: адкуль у цябе так шмат усякіх мілых варыянтаў? Але тлумачу гэта тым, што пачуццё, якое я стараюся абудзіць у цябе ўсімі даступнымі мне сродкамі, падказвае табе тое, што даецца звычайна практыкаю. І ўся «прелесть» інтуіцыі ў яе свежасці.

Проста баюся сваіх лятункаў. Бо ў кахання дзікая логіка. Можна з другім, з абыякавым нават... і ўяўляць, што з каханым.

Нінусенька! Калі будзеш калі-небудзь хоць на маленькую макулінку кахаць мяне — пашкадуй: не йдзі на спакусу гэтае логікі.

Ніна! я ж ведаю тваю «гаспадарку». У цябе ў чамадане ляжаць канверты, напісаныя незнаёмаю мне рукою. Яны перавязаны кволаю ружоваю стужкаю. Даволі важкая пачка. Якраз такую — з такою самаю стужкаю, я бачыў у аднаго паэта, добрага майго прыяцеля (цяпер нябожчыка). Ён хаваў іх ад жонкі.

А ты не хавай ад мяне, твайго шчырага друга. Я ўдзячан усім тым, хто хоць хвілінку прынёс табе шчасця.

Сам хачу гэтаксама быць тваім шчасцем... Хачу, каб мяне на ўсю цябе хапіла. Калі будзе мала, вымаю апошнія магчымасці. А не выстарчыць іх, карай тады мяне. Варт буду гэтага й падпарадкуюся твайму справядліваму гневу. Толькі я ўпэўнен за сваю маладосць, за сваё каханне. І не гнеў спадзяюся заслужыць у цябе, а пяшчотную ўдзячнасць.

Толькі ўсё гэта... так далёка, што адно галава круцінца, зірнуўшы ў ягонае прадонне. А хацелася б сарвацца з верхавін сузірання й ляцець — у прадонне, у жах... Хоць разбіцца, а ляцець. Кінематаграфічнаму герою ў такіх выпадках бываюць падрыхтаваны радасныя абдымкі. А што мне?.. Што мне?!.— каханая мая, незабытная, пяшчотная Нінусенька!

Ты, можа, забылася, а мне ў памяць тое спатканне, што ты даўно-даўно прызначыла была на Вялікай Мядзведзіцы ўвечары а 7-ай гадзіне. Я і цяпер часта адыходжуся ў тую даль. Адзінокі вандрую ў марнай надзеі стрэць цябе. Ды пуста там... І змора бярэ мяне. З зоркі на зорку пераскочыць — гэта не з купіны на купіну табе: нават з маімі прыроднымі доўгімі дадзенымі, трэба добра разагнацца.

Ці выходзіш ты з *кім-небудзь* ці *да каго-небудзь* на спатканне на Вялікую Мядзведзіцу ўвечары а 7-ай гадзіне? Ці магу я там, у тузе вандруючы, хоць выпадкова цябе стрэць?

Вось чаму я так упарта дамагаюся лістоў ад цябе — кожнае тваё слова для мяне мае глыбокі сэнс. Кожнае тваё слова майму жыццю прыдае неспадзяваны сэнс...

Для цябе ў мяне заўсёды хопіць «изумрудов безумия». Няўжо ты ніколі не здолееш залюбавацца імі? Ты

мае пачуцці назвала «кветкамі». Я вельмі ўдзячан за такую атэстацыю. Але цвітуць яны для цябе.

Высокашаноўная Ніна Іванаўна!

Шчыра прашу лічыць маім лістом да Вас вось гэты. А тыя два чарнавікі, што пасылаю,— гэна крык роспачы, прадонне душы мае. Прабачце, калі што ў іх — ды можа й многае — Вам непрыемна будзе. Каб даравацъ, спачатку зразумейце мяне.

Толькі нашто такія прадмовы? Можа прасцей было б проста не пасылаць, чым за пасланае прасіць прабачэння. Не! Гэта не прасцей. Якраз можа прасцей, калі ўвесь расхрыстваюся перад Вамі, набіваюся, каб зрабілі гэту — не ведаю, як для Вас прыемную — экскурсію. Хачу, каб усяго знал мяне — чалавека, які маліўся (а можа моліцца й цяпер — хто ведае?) на Вас, які гатоў на ўсё — на самае нізкае й самае высокае дзеля Вас.

Калі Вы будзеце так ласкавы, што не пазбавіце мяне найвялікшае прыемнасці хоць гады ў рады атрымаць ад Вас сяброўскіх слоў колькі, я абяцаю Вам быць зусім прыстойным да Вас і карэктным, ніколі нічым не абражаць ні Вашых пачуццяў, ні Вашага гонару. Даю слова. І датрымаю яго.

Калі Вы зможаце застацца маім сябрам (я на большае не кваплю, не маю падстаў — і баюся нават спадзявацца) можа не адмовіце мне расказаць што колечы з свайго жыцця — асабліва апошняга часу. Гэтага я прашу. Будзьце пэўны за мяне, што ніводным намёкам нават не абражу ні Вашых пачуццяў, ні блізкіх Вам людзей. Вазьму сябе ў добрыя цуглі.

> А самое страшное видели —
> лицо моё,
> когда я спокоен.

Каб Вы толькі ведалі, як прыдалася мне цяпер тая Ваша хустачка. Я абсалютна спакоен. Але туманіцца часам свет. І я разумею, які глыбокі сэнс у Вашым падарунку.

Шкадую, што ў Вас ад мяне няма ніякага падарунку — няма чаму нагадваць смешнага, няспрытнага ў жыцці (а злашча ў каханні) Вашага знаёмага, якога Вы можа хутка «былым» знаёмым ... станеце назы-

ваць. А цяпер Вам, замужняй, дарыць падарункі, мусіць ... Ды ўрэшце я не ведаю этыкету.

Толькі заўсёды, пры ўсякіх варунках з нязменнаю павагаю да Вас

*16 ліпеня 35 г. Кастусь.*

*7 жніўня 1935 г.*

Добры дзень!

Ваша ўпартае маўчанне тлумачу сабе тым, што Вы даўно ад мяне ліста ня мелі.

Паслаў быў Вам яшчэ раз «гісторыю» на васьмі ці нават і больш таго балонках (дакладна не памятаю). Цешу сябе надзеяй, што тае «гісторыі» Вы не атрымалі, што не пашкадуеце для мяне слоў колькі так, як бы «гісторыі» не атрымлівалі й наогул яе ніколі ня існавала.

У мяне няма й ня было сястры. Калі Вам ня прыкра, будзьце для мяне хоць бы нагэтулькі блізкім чалавекам, як сястра... Каб я змог час-часам да Вас прагаварыць шчырае слова... Каб Вы, калі трэба, падтрымалі, а калі трэба, дык і пасварыліся на свайго бяспутнага брата. З замілаваннем буду лавіць кожнае ласкавае Ваша слова, пакорна буду слухаць Вашы дакоры. Дык што Вы на гэта скажаце?!

Мой адрас цяпер крыху перайначыўся: ул. Кірова, 67.

Дазвольце спадзявацца, што гэта паведамленне ня марнае. Толькі патурбуйцеся зразумець мяне й самі ўбачыце, што злаваць на мяне — занадта вялікая кара, што ўсё ж я варт таго, каб прабачыць. Гэтага і прашу — за ўсё, усё прабачэння.

Для Вас заўсёды з найлепшымі пажаданнямі,
ва ўсім заўсёды Вам пакорны,
а сам застаюся з надзеяй быць як бы Вашым братам.

*Кастусь.*

Цешу сябе надзеяй, што ў Вашым адказе будзе такая фраза:

«Ніякае «гісторыі» другі раз не атрымлівала».

Не зважаючы на ўсё,

шаноўная Ніна Іванаўна!

> Кажется,
> рухну с помоста дней.
> Я душу над пропастью натянул канатом,
> жонглируя словами, закачался на ней.

Твой апошні ліст каштаваў мне апетыту. Атрымаў я яго 6-га, і от ужо мінае цэлая шасцідзёнка, як я ніяк не магу акрыяць ад уражання. Прыгнечан і знішчан — да тла... Тэарэтычна я дапушчаў гэту магчымасць, але ўсё ж ліст твой мяне збянтэжыў вельмі, і ніякія тэарэтычныя мудраванні на гэты конт не даюць жаданага спакою.

Тлумачыцца лёгка: узрост узяў сваё. Ды й матэрыяльны бок жыцця... Я ўяўляў цябе як цуда, як крозу. А ты вельмі празаічная й апошнім сваім лістом сцвердзіла гэта цалкам.

Яшчэ раз пераглядаю твой прадапошні ліст. Там ты прыгадваеш Лошыцу, пішаш пра каханне «не зважаючы на асобы». Ды цяпер (пасля апошняга твайго лісту) не тое. Цяпер не магу кахаць лошыцкім спосабам. Тады былі хоць надзеі — цяпер надзеі зруйнаваны ўшчэнт.

Не трэба цябе.

Ты не мая... Я хачу й буду кахаць твой цень. Прышлі мне картку. Калі можаш — не адну нават. Я цябе ўсякую хачу бачыць. Хацеў бы бачыць і яго. Прышлі. Калі разам зняўшыся — прышлі. Я зраблю вось што: цябе адрэжу й сабе пакіну, а яго назад адашлю. Я толькі на яго пагляджу й адашлю, бо пакінуць для мяне б вельмі было прыкра. Павер маёй чэснасці, што дрэнна не выкарыстаю ягонае карткі. Я не здолен (асабліва ў дачыненні да цябе) на шантаж.

Які ж я быў дурны й нездагадлівы. То ж у тваім перадапошнім лісце праглядвае сытасць, задаволенасць. Я ненавіджу тваю сытасць, праклінаю задаволенасць! Калі ты сыта й задаволена якою-небудзь мізэрнатою — значыць, ты мае прагі не ўтаймавала б.

Цяпер усё зразумела. Тады як у цябе і «думкі адляталі і слоў не было для мяне», для другога ў цябе знаходзіліся ласкі, пяшчоты.

Вам здаецца — я імкнуся быць адменным, арыгінальным. Вы памыляецеся. Арыгінальнасць, адмен-

насць ад усякае (часам самае прыстойнае) людское дробязі — мая ўласцівасць. Гэта ўва мне прыроджанае. Не магу быць інакшым. Арыгінален увесь чыста, пачынаючы з вонкавага выгляду. Так выходзіць само па сабе: самі абставіны жыцця ставяць у арыгінальныя становішчы. І нават баюся ўсяго лішняга. Людзі, якія хацелі сказаць мне прыемнае, называлі эстэтам мяне. (Вядома, я стаўлюся крыху іранічна да такое шчодрасці.) Казалі, што [redacted] баюся безгустоўнага, што ўва мне развіта пачуццё меры.

А каб хацеў арыгінальнічаць, ведаеце, што зрабіў бы? — сабраў бы разам Вашы лісты, перавязаў ружовую стужкаю [redacted] зрабіў бы да іх аздобную этыкетку «Гісторыя надзей і роспачы». Але я так не зраблю, а паддамся волі выпадку. І выпадак зробіць так, як мне век бы не здумаць. Мяне мой лёс вядзе тудэю, кудэю іду, падпарадкаваўшыся выпадку. І таму так і прыходзіцца балюча, што нідзе не збочваю. І хто мяне адкідае — тым горш для іх: яны рыхтуюць сабе ворага.

Вельмі шкода, што Вас турбуе мой практыцызм, што да ліставання. У Вас жа былі лятункі стаць акторкаю. Дык няўжо Ваша артыстычная душа не можа зразумець мае неразважлівае натуры? Няўжо яна так тлушчам заплыла? Няўжо стала гэтаксама «сытаю й здаволенай»? Няўжо Вы не ведаеце, што Чэхаў калісьці пісаў: «Калі ў актора ёсць грошы, ён шле не лісты, а тэлеграмы»?

А можа вам здаецца, што 300 рублёў задорага за мой аўтограф?! Ды няўжо Вы ні разу не прыкмецілі, што сярод тых аўтографаў былі часам (траплялiся) цуды стылістыкі? Можа яны з часам маглі б стаць скарбам для будучага музею майго імя...

У лістах з Вамі я быў залішне шчыры, кожны раз імкнуўся як мага дакладней, яскравей расказаць Вам свой настрой у той момант. От чаму часта сам сабе супярэчыў — праз некаторы час нават здавалася, што хлусіў папярэдні раз. А я хоць супярэчлівы, але кожны момант для таго моманту быў шчыры. А для друкавання патрэбна паслядоўнасць і стылістычнае «хладнокровие». Між іншым. У абодвух апошніх лістах Вы нічога не пішаце — пісаць мне больш ці не. Я, вядома, хацеў бы і нават прасіў бы гэтага, але калі Вам назаляе, калі нязручна ў Вашым новым становішчы — тады пакінуць... І яшчэ адна акалічнасць тур-

бує мяне: пішу, здаецца, на хатні адрас. Баюся, што *ён* можа такі недалікатны ■ Вамі, такі Ваш уласнік, што чытае Вам адрасаваныя лісты. І можа, калі каторы не вытрымае цэнзуры, гатоў Вам і не перадаць. І хоць Вас і выводзіць з раўнавагі, але гэты (апошні) раз пасылаю каштоўным, каб атрымалі *Вы* (і калісьці і цяпер каханая, неацэненая мая!).

Калі Вы знойдзеце хоць што-небудзь, хоць чыста літаратурную якую-небудзь цікавасць у нашым ліставанні, паведаміце той адрас, на які зможаце атрымліваць *толькі Вы*, а то баюся, што Ваш «уласнік» люты цэнзар маіх пачуццяў: ён можа здзекавацца з мяне.

Было б вельмі добра, дазнаўшыся ад Вас, хто ж такі «ён». Цікава ведаць Ваш густ і таксама... у якой ступені пастрадала маё самалюбства. Напішыце, якія перамены адбыліся з Вамі...

...Можа, самі таго не прыкмячаючы, Вы ўсё ж кахаеце мяне,— і наносіце мне боль. Я прашу гэтае болі, прашу далей і далей раз'ятрываць раны. Што з таго, што вялікія каханні заўсёды бясплённыя бываюць, ды даюць адно вялікія раны, а верх бярэ цвярозы разлік. Можа жыццё маё страціць сэнс без гэтых ран.

А ўсё ж кахаю Вас. Не зважаючы ні на што. І толькі кіўні, я твой буду, буду каля цябе — усіх кіну, усяго выракуся...

Усё нічога не значыць. Буду рад Вам пасля ўсяго. Ніводным словам ніколі не зраблю закіду.

Я часта апошнія дні думаю. Хачу такое драбніцы: каб у дачкі быў такі чароўны носік, як у мацеры. І буду прасіць вельмі прыслаць фатаграфію.

Кахаю... Шалёна кахаю гарэзлівую, сумазбродную Ніначку. Хачу яе... толькі яе! Каторая здольна на такія штучкі: маючы высокую артыстычную душу, нячэрстваe сэрца, самым празаічным чынам вельмі практычна выходзіць замуж. З ёю мы пры стрэчы вельмі смяёмся з гэтага камічнага эпізоду й пацалункамі праганяем усю, якая толькі была, горыч і боль. А цяпер на развітанне, як даме, галантна цалую ручку. Для чужых гэты пацалунак афіцыйны і таму вонкава стрыманы, а па сутнасці ён — ад шчырага сэрца.

Вось які Кастусь.

Видите 10/VIII-35 г.: гвоздями слов прибит к бумаге я.

Высока гайдаю Вашу пекную дачушку. Вышэй за мяне ўжо ніхто не можа. Яна літасцівейшая за мацеру й рада маім ласкам. Так, як маці ніколі, моцна ашчарэплівае шыю й мне, першы раз сустрэтаму, дае дзіцячую мокрую «буську».

*22.VIII.35 г.*

Фрэйдыстыя, як Вам вядома, азначаюць мастацтва як жаданні, прыгнечаныя ў рэчаіснасці і ў творчасці сімвалічна здзейсненыя. Калі стаць на гэты пункт погляду, дык маё «сімвалічнае здзейсненне» будзе вельмі блізка датычыцца Вас.

Калі Вам не апрыкрае гэта «гісторыя», каторая ў гэтым канверце, калі вы яшчэ дасцё згоду слухаць мяне, я пісаць Вам не пакіну. У мяне шмат у запасе тэм. З тае ж самае «Шушамяці» магу ўзяць любую, й яна будзе вельмі блізка й агульна нам (з Вамі). Мне б нават хацелася тыя тэмы такім чынам удакладніць, пачуць Вашы на іх заўвагі. Вы ж ведаеце, што ў Вашых выказваннях я заўсёды знаходжу можа часам для Вас і зусім неспадзяваны сэнс, што цаню кожнае Ваша слова. Толькі будзьце ласкавы не заганарэцеся й не пабольшвайце цаны сваім словам рэдкім іх ужываннем.

Адсылаю гэту гісторыю
і надзеяй застацца ўсё ж вашым
хоць бы «карэспандэнтам». *Кастусь.*

*23 жніўня 1935 г.*

Ніначка!

Пазаўчора атрымаў Твой ліст. Не ведаю, што было б далей, каб ты яшчэ маўчала. Я з тымі ўсімі «гісторыямі» страшэнна быў заблытаўся. Горш заблытацца, здаецца, проста ўжо немагчыма. А каб ты змоўчыла, то я напісаў бы яшчэ — і заблытаўся б больш: калі пачынаю разблытвацца, я заўсёды заблытваюся больш — толькі ў адваротны бок. Так здарылася (памятаеш?), калі ты адказала, што адна мая прапанова ў цябе выклікала смех. Я тады, таксама разблытваючыся, так далёка зайшоў у адваротным кірунку, што табе ж самой давялося спыніць (памятаеш?).

Аднак, калі ты яшчэ не звярнула на гэта ўвагі, то звярні, што ўсе «гісторыі», на якія я такі няўдалы майстар, усе блытанні й разблытванні, кожнае маё слова сведчыць аб адным — аб нязменнасці і шчырасці майго пачуцця да цябе.

Хотите — буду от мяса бешенный.
И как небо, меняя тона —
Хотите: буду безукоризненно нежный —
Не мужчина, а облако в штанах.

«Бешенным» я ўжо быў. Гэта тое самае, што ты назвала «дзікі». Але ці так ужо блага дзікім быць? Можа нават лепш стаць дзікім, даць пачуццю волю гаварыць поўным голасам, як быць чэрствым паляня-кам. Спадзяюся, што ты таксама... крыху дзікая. А можа й больш як крыху, бо колькі я памятаю тваю ўласцівасць хутка чырванець — гэта пра што-небудзь ды сведчыць, калі верыць старым раманістам.

А хацелася б яшчэ быць і «безукоризненно нежным» з табою: млець у захапленні (восторге) ад цябе. Толькі ўсё гэта ад цябе залежыць, усё ў тваіх руках. Толькі пажадай — буду. Тваё «я так хачу» заўсёды было й будзе для мяне законам. І ты гэта даўно ведаеш.

Твой апошні ліст (злосны такі!) усё ж прывёў мяне ў раўнавагу. Цяпер мне больш акрэслена ўяўляюцца нашы стасункі. Цаню ў ім (такі пякучы для мяне) гумар. Калі ты ўваходзіш у азарт, я крадуся й знянацку цалую твае губкі, якія здольны заставацца такімі чароўнымі нават гаворачы бязлітасныя для мяне словы.

Твая картка. У першай ты была вельмі ж «не чапай мяне». А цяпер з'явілася з вызавам «але мы яшчэ паглядзім!». І я гэтага на першы пачатак нават не зразумеў быў. Я не пазнаў быў у ёй Цябе, аддаваў нават перавагу першай, у каторай больш фотатэхнікі, а ты Сама там самая няўдзячная. Тая ты, каторая на першай картцы, піша мне, што ў самой пустата й наогул пуста, няўтульна на свеце. Яна думае, што шчыра піша, а тымчасам хлусіць, бо недзе ж (стаілася толькі, а не знікла) блізка тая — гарэзлівая, каторая на другой картцы. У таей, першай вельмі ж насцярожаныя й крыху журботныя вочы пазіраюць з-пад ілба й губкі зложаны капрызна. Тую каб і пацалаваў,

яна б толькі млявою рукою адапхнула ды яшчэ можа сказала б:

— Назола...— але ад роспачы абыякавым голасам.

От другую, апошнюю я ўсё роўна — што б мне гэта ні каштавала — рызыкнуў бы пацалаваць. Хоць і ведаю наперад, што гэта мне каштавала б таго самага, што ў Лошыцы Алесю каштавала адна ягоная нерастаропнасць. Але хай сабе. Мне прыемна было б зазнаць *ад цябе* гэта пякучае адчуванне. Можа каб ад каго другога яно й было б прыкрым і абразлівым.

Між іншым, можаш не турбавацца перасылаць мне ў лістох «пякучыя адчуванні» накшталт толькі што згаданага лошыцкага: тваіх фатаграфій я не цалую — баюся, што пацалункі былі б вельмі палкія й доўгія, а я шкадую тваe цені, у якіх кахаю Цябе, каб надаўжэй яны захаваліся — так, як і сваё каханне да цябе, стараюся іх захаваць бесканечна. А для цябе маю на гэты конт дакор: вельмі ж ты энергічна на адвароце сваё прыемнае для мяне напісала — двума ягонымі ражнамі проста ў самае левае вока парнула — аж на добрым баку знаць. Мне гэта баліць кожны раз, як прыгледжуся. На другі раз зрабі ласку — будзь далікатнейшая з Сабою.

І вочы ў цябе, другой, непараўнальна весялейшыя. Я б сказаў — гарэзлівыя. А губкі зложаны якраз так, каб шчодра пасылаць тыя самыя дакоры, што я, нібыта, і «подл ■ тебе», і што мне прыродаю дадзена мілае» (у двукоссі!) мастацтва, а раней было нешта накшталт таго, што я — быдля.

Цяпер я ведаю і бачу перад сабою тую цябе, каторая гаворыць такія «прыемныя» штучкі. Нават заганы апошняе тваe фатаграфіі (напрыклад, цьмянасць) набываюць не прадбачаную ні табою, ні фатографам вартасць. Такую цьмяную, як бы надвячорную, цябе можна палічыць за «порождение мечты», і тое, што на картцы толькі ледзьве назначана, гледзячы на яе, я дамалёўваю ў лятунках аб табе. І гэта ўжо вельмі прыемнае перажыванне. За яго табе я глыбока ўдзячан.

Неахайнасць фатографавага выканання стварае неакрэсленасць формы, што пры пэўным выбражэнні можа быць адзнакаю зменнасці, руху. Ты такая жвавая ў апошнім сваім адменніку. І галоўнае — молада.

Непераможна, бяскрайна молада. А дайшоўшы да гэтае тэмы, я раблюся сантыментальным.

Нінусенька!

Усё ж як гэта добра, калі моладасць?! Маладая душа, якая свеціцца праз абедзве пары — і праз засмучоныя, і праз гарэзлівыя — твае вочы. (У дужках у мяне да цябе будзе *вялікая просьба*: здыміся ў такой паставе, як — памятаеш? — некалі на апошняй маёй менскай кватэры партрэт у мяне быў, работы аднаго майго сябра-мастака, і потым прышлі мне: я хачу кахаць цябе і такую, трэцюю — ранішнюю.)

У мяне самога бываюць такія моманты, калі адчуваю, як я да безабразія молад. Ніколі так, як сягочасны год, я не пачуваў сябе маладым. Ідзеш вуліцаю і кожнай аздобнай жанчыне нахабна зазіраеш у вочы. Проста дзець маладосці не ведаю куды. Здаецца, праменіцца яна. І такая лёгкасць!.. Можа ўсё гэта да некаторага стопню табе вытлумачыць маю дзікасць.

Вось чаму так да болю хочацца, каб гэту маладасць падзяліць [redacted] чалавекам, якога кахаеш. Каб [redacted] ім страціць яе да канца, а не дзе-небудзь у абыякавасці рассеяць, як мулкую ношу. І цяжка, пакутна бывае страмліваць шчасце, якое праменіцца. Вось чаму такі дзікі, такі неўпынёны, такі ненасытны ў дачыненні да цябе.

Як бачыш, твой падарунак выклікаў у мяне «чувственные» перажыванні. Пішу й абедзве Вы перада мною на стале ў такіх вось паставах.

Наконт таго, чым я атруціўся, напішу ў наступным лісце (у адказе на твой ліст). На гэта патрэбен час, каб пашукаць у лацінскім слоўніку належнага тэрміну.

Хоць дыягназ і не пастаўлен, усё ж магу параіць табе (маёй добрай, але іранічнай, жорсткай «сястры») пашукаць у сваёй аптэцы. Зрабі найвялікшую ласку, не пашкадуй часу, прыкладзі ўсю стараннасць, добра разбярыся ў сваёй аптэцы й знайдзі для мяне Тваё Каханне. Адно яно мне патрэбна, аднаго яго мне не стае.

Я ведаю, што калі жанчына гаворыць «не», гэта азначае «можа быць»; калі гаворыць «можа быць» — гэта зн. «так»; а калі скажа «так» — то яна ўжо не жанчына. Тэарэтычна я добра ведаю гэту жаночую

логіку — от практычна толькі ўсіх адценняў адрозніць часта ў пору не здолен.

Каханая, нічога табе не пашкодзіць сказаць «так» і застацца пры гэтым жанчынаю. Зрабі гэта для мяне — такога непісьменнага ў жаночай логіцы.

Мне здаецца, ты стрымліваеш сябе. Не рабі гэтага. Паддайся пачуццям і настроям. Пішы. Калі злосна, калі лагодна, а будзе належны настрой, то і ласкава (а можа пяшчотна). Я заўсёды зразумею цябе, і мне тым цікавей будзе, бо ўсякую цябе хачу ведаць — усякую кахаю. Адрас мой — тая самая, пакуль што, Кірава, 67 (дзе жыў, як толькі прыехаў сюды). Гэта не мая кватэра, але лісты туды даходзяць добра (там жыве мой адзін сябар). У гэтым годзе мне нешта з кватэраю не шанцуе на адным месцы ўсталявацца. Цяпер жыву на трэцяй па ліку, але таксама дачасна. Шукаю сталай. Тут наогул з кватэрамі значна лягчэй, як у Менску, але маё гультайства — мой вораг. Усё ж да зімы спадзяюся мець што-небудзь прызваітае. І тады ў мяне будзе зусім іначай планавацца жыццё.

Цяпер гарачыня тут страшэнная. Чуць выседзіш свае 7 гадзін. А каля рэчкі народу да ліха. І я таксама стараюся карыстацца, пакуль цёплая вада. Гультай зрабіўся. Летась вучыў англійскую мову, а гэта лета і не ўзяўся нават. Давядзецца, як пазбаўлюся свае беспрытульнасці, калі буду мець сталую кватэру, паўтарыць усё з пачатку і займацца далей. Цяпер маю слоўнік і кнігі для чытання. Яшчэ выпісаў Ч. Дыкенса «Запіскі піквікскага клуба» ў аўтэнтыку.

На зіму збіраюся жыць планава й разумна. Па-першае, жыць ліставаннем з табою, а па-другое — займацца: паўтарыць англійскую мову й займацца далей, ды яшчэ ёсць магчымасць, якую, відаць, і давядзецца не прапусціць — узяцца за французскую мову. Гэта ўсё запашу к старасці. А маладосць сваю здаю ў твае рукі. І цікава: што ты з ёю зробіш?!

Чаму ты, Ніна, ніколі не адказваеш мне на тыя пытанні, якіх я заўсёды шмат стаўлю ў кожным сваім лісце? Калі я табе адпісваю, то стараюся ніводнага твайго, проста ці ўскосна пастаўленага, пытання не прапусціць і яшчэ фіксую ўсякія думкі, якія ў сувязі з тваімі пытаннямі і ўвогуле ў сувязі з тваім лістом набягаюць. Я не скупы — заўсёды табе пішу так, што больш нічога ў мяне пры сабе не застаецца. Адным

словам: «прими мой дар, дорогая,— больше я, быть может, ничего не придумаю». Калісьці ты скардзілася, што не ведаеш, што мне пісаць, а гэта прасцей простага: адказвай на мае лісты. Чаму ты ніколі не напішаш аб прозе твайго жыцця: вучыш ці вучышся, дзе і ў якіх варунках жывеш (памятаеш, я цікавіўся гэтым), чым адмяніўся за гэтыя гады Менск.

Нінка, ты ўсё ж напішы, у чым менавіта я «подл к тебе в своей нескромности», хоць можа і для цябе і для мяне мала прыемнага варушыць тыя «гісторыі», самы факт існавання якіх я прасіў цябе ўтаіць, а ты была так няласкава, што гэтага не зрабіла. Я ўсё ж значна лепшы, чым тое ўражанне, якое б магло злажыцца аба мне ў таго чалавека, які б прачытаў твой апошні ліст да мяне. Не буду апраўдвацца, чым менавіта лепшы. Гэта не так пільна. Я толькі вельмі засмучон тым, што ты так страшна пра мяне думаеш.

Таго ж самага дня, як гэты ліст атрымаеш, а 8 гадзіне ўвечары прыйдзі на спатканне на Сузор'е Воз. Хай далей вядзецца гэта прыгожая наша традыцыя. Я чакаць буду на апошняй зорцы насупраць Палярнае. Толькі адзявайся цяплей, каб не падхапіць прастуды. Я цяпер углядаюся на Вас абедзвюх, каторыя на маім стале, і разважаю, каторая з іх прыйдзе на Сузор'е Воз. Прапанавала такое месца для спатканняў тая, першая, «не чапай мяне». Хоць каторай з іх я падаю рукі, падхопліваю і перанош цераз той глыбокі небяспечны коўш на сваю зорку, што насупраць Палярнае. Гэта ўсё вельмі забаўна, й ты становішся другою, каторая «але мы яшчэ паглядзім». Ды глядзець тут доўга няма чаго — я

моцна, моцна цалую. *Увесь твой Кастусь.*

P. S. Ты заўважыла, можа, як я скуп на паперу: ні за што не магу пакінуць чыстага няспісанага месца. Гэта P. S. толькі гэтаю скупасцю й выклікана, а яшчэ каб занатаваць для нашае гісторыі, што твой ліст атрымаў 20 жніўня й той дзень і заўтрашні збіраўся з думкамі, 22 і 23 пісаў раніцамі і так, што аж абодва тыя дні на працу пазніўся, дапісваю ж сягоння 2-га. Заўсёды жыву табою, а гэтыя дні то *выключна* табою жыў. *К.*

*23 жніўня 1935 г.*

Ніна!

Мне дадзелі злосныя й ласкавыя эпітэты да твайго імя, тым больш што ўсе яны — бясплённыя.

Мяне от непакоіць адна думка: няўжо ўсе мае «пасланні», як ты іх завеш, не змаглі ў цябе выклікаць некаторых думак, а можа... і настрояў? Ці то ты такая зайздросная, лютая ў дачыненні да мяне, што табе шкода імі са мною падзяліцца. Я пішу гэта ведаеш чаму: вельмі ж не церпіцца, дадзела чакаючы — калі тое «ачэпнае» (так?) будзе ад цябе.

Сягоння я надумаў нешта зусім дурное: паслаць табе дзве пісулечкі, якія быў атрымаў ужо тут, у Ірбіце. Яны можа табе скажуць, што не такі ўжо я нявартый, што не ўсе так, як ты, пагарджаюць мною, што яшчэ могуць у каго-небудзь і кволыя, ласкавыя словы для мяне знайсціся. Гэта толькі ты пісала, што такіх слоў у цябе няма для мяне.

Я раблю найвялікшае глупства, пасылаючы табе гэтыя два лісты. Ты можаш падумаць, што я так жа нячэсна абыходжуся й з Тваімі лістамі, якія так дарагі мне й да мяне так бязлітасны. Хоць тут прабачэння трэ было б прасіць у Китти, але я прашу яго ў Цябе. Больш такога ўчынку я сабе ніколі не дазволю. Ты адна толькі можаш у мяне выклікаць такія безразважныя ўчынкі.

А ёсць яшчэ ў мяне, пасылаючы іх табе й некаторы разлік: ты ж, вядома, мне іх адашлеш назад, твая сумленнасць табе не дазволіць змоўчаць, а там ужо табе нясспрытна будзе адаслаць ні слова ад сябе не напісаўшы. А гэтага Твайго слова я толькі й чакаю.

Яшчэ я хачу, каб ты мне паверыла, што я заўсёды быў і ёсць шчыры з табою. Ніколі, нават прыгожа, не хлусіў табе. А калі й абвінавачваў кагадзе сябе ў хлусні, дык толькі затым, што мая шчырасць для мяне здавалася яшчэ недастатковай.

Ты мне павер, што якраз тады, як у мяне «вочы былі журботныя» — тая журба была: думкі аб табе, што ў цябе не знаходзіцца для мяне ласкавых слоў. Ніколі, ні аднае хвіліны не было такое, калі б ты не існавала для мяне. Якія б ні былі прывабныя «падрабязнасці ў афішах», я заўсёды кахаў цябе, ты заўсёды была маёю крозаю — недаступнаю на вялік...

Вось за «злосць» ізноў прабач мяне. Але ж я шчыры й не магу ад цябе ўтаіць — ёсць яна!..

Злосці не будзе. Яна знікне адразу ж, як толькі я пачую ад цябе хоць адно адзінае гаючае слова ад цябе, што ты... Я таго слова не дапісваю. Яно б так цудоўна гучала з тваіх вуснаў (!).

«Разве я не молод, не красив?»

...Нават бліжэйшыя мае сябры нічога не ведалі аб тым пачуцці, ад якога я чэз так шмат год. Ты — маё першае каханне. Маё *пастаяннае*, самае глыбокае...

І хацеў бы застацца тваім К-ём.

*23 верасня 1935 г.*

Ізноў, Ніна!

Як якога-небудзь «аракула», шукаў «Інгеборг».

Пачаў росшукі ■ свае былое настаўніцы англійскай мовы. Яна, апрача ўсіх іншых сваіх хібаў і якасцяў, яшчэ — былы бібліятэкар. На яе ў мяне куды большая была надзея, як на тутэйшыя бібліятэкі. І надзея спраўдзілася: яна «Інгеборг» ведае. Адно сказаў назву, і спыніць былую маю настаўніцу ўжо нельга было, бо гэта такі цудоўны твор! З такою асалодаю яна яго некалі чытала ў Маскве! І так шкода, што ёй не ўдалося ўласнага яго мець!

Хвалю, Ніна, твой густ. Табе трэ было б «хутка год, як замужам» за пісьменнікам быць. Адно бяда, што там у Менску нікога з нежанатых лепшага за мяне няма. Дальбог, праўда!

Цябе хвалю, а сябе дакараю, што мала на нямецкую літаратуру ўвагі браў. У мяне ў гэтым дачыненні (што да літаратурных сімпатый) была, так сказаць, французская арыентацыя. Келерман у мяне ж скампраметаваўся сваім «Тунелем».

Усё ж ад свае былое настаўніцы я пра «Інгеборг» дазнаўся мала: адно што ён зрабіў такую «пакость» (як настаўніца выславілася) — кідаў кветкі пад цягнік, калі Інгеборг адʼязджала ■ Другім.

Прылічаю сабе як заслугу, што выказаў згадку, нібы гэны твор на «Пана» Кнута Ґамсуна падобен. Настаўніца маю згадку сцвердзіла, а сюжэту расказаць не змагла.

Я калісьці чуў ад былое настаўніцы, што каханне яна ведае толькі паводле літаратуры. Можа вось гэта й стала прычынаю. Мой погляд такі, што ў творы дзейныя асобы — нешта накшталт алгебраічных сімвалаў: чытач заўсёды пад некаторую [redacted] іх самога сябе падстаўляе й тады толькі з'яўляецца зацікаўленасць у лёсе дзейных асоб, з'яўляецца цікавасць. І, відаць, у мае настаўніцы не хапіла ўласнага перабытага-перапакутаванага, нават каб прыгадаць сюжэт. Параіла мне падрабязней сюжэт дазнацца ў аднэй яе сяброўкі, з якою ў Маскве падзялілі захапленне гэтым творам.

Сягоння мне была такая ўдача. У свае былое настаўніцы я застаў тую сяброўку. У пакойчыку ад трох чалавек, я — чацвёрты, пяты — вершы, павярнуцца не было дзе. Калі былая мая настаўніца сама прызнаецца, што ў балет яна не падыходзіць (ёй даводзіцца кіёк нагам на дапамогу мець), дый нос таксама не тоіць, што падгуляў: ні грэчаскага, ні рымскага не датрымаў узору, а вышаў як у Паўла І (згадай «Паручнік Кіжэ»), дык пра настаўнічыну сяброўку як бы знарок зложана: «На щеках ТЭЖЭ, на губах ТЭЖЭ, на глазах ТЭЖЭ... поцеловать где же?» Пакуль тае сяброўкі тут не было, я думаў, што вельмі непрыгожа так валасы стрыгчы, як Сейфуліна (мяркую паводле партрэта), а цяпер я гэтага не думаю.

Сяброўцы, відаць, не толькі паводле літаратуры давялося знаць, бо расказала сюжэт «Інгеборг» вельмі паслядоўна, густуючы выразнейшыя моманты.

Я дазнаўся пра «Час без жаданняў», які ён спакойны, сузіральніцкі быў і што праз Інгеборг пачаўся вельмі ж інтэнсіўны «Час жаданняў», калі Інгеборг палка дарыла сябе й Ён быў удзячны за падарункі. Дазнаўся, што Трэці быў сябрам Яго і што далей сюжэт пачаў развівацца паводле схемы — трыкутнікам: Ён — Яна — Мерзавец (іначай Трэці). Як заўсёды, Інгеборг была ў тым трыкутніку гіпатэнузаю. Гіпатэнуза з сваіх пякучых кроз.

Каб ты ведала, Нінусенька, у якой я меланхоліі сягоння. Не развітваюся нават...

Такая цёплая, спакойная ноч. І так цяжка... Чортведама як цяжка!

*К.*

P. S. Як бачыш, можна пісаць шмат і ніводным словам не ўпісацца, а не тое, што быў адзін раз. Ды ў чым там упішашся, калі адзінота... Хаця адзінота была й тады, як здарыўся той прыкры раз.

Усё ж вельмі добра, што трацяцца лісты. Так бы мне было брыдка перад табою, каб усе даходзілі. А калі ты не ведаеш, то я й не скажу за што.

Ніна!

Выходзіць так: нібы мы развіталіся і разышліся, а потым я даганяю цябе, бо мне пільна патрэбна нешта сказаць табе. Далей высвятляецца, што нічога пільнага няма — я проста хачу яшчэ пагаварыць з табою, проста — мне не хочацца, цяжка быць без цябе... Якраз яно гэтак!

Толькі тры ці чатыры дні, як паслаў табе ліст. І вось ізноў. Паспрабуй сама развіць далей параўнанне [illegible] першага абзацу, і ты ўбачыш, што сама нават скупога «Умгу» мне пашкадавала.

У шмат чым, нават зусім лішнім і прыкрым прызнаюся табе. Прызнаюся і ў гэтым: я пад старасць буду п'яніцам. Ужо цяпер ёсць пагражальныя сімптомы. Вось яны: бадай месяц, я чытаю «Анну Карэніну». Гэта такі мацунак, што не магу шмат — цягну чуць ледзь... праз саломінку. Дый спяшацца няма куды — я ж перачытваю. Любуюся цудоўнымі некаторымі мясцінамі. Напрыклад IX раздзел 1-е часткі. Гэта там напісана: «Он (Левін) сошел вниз, избегая подолгу смотреть на нее (Кіці), как на солнце, но он видел ее, как солнце, и не глядя». «Он чувствовал, что солнце приближалось к нему». Я не ведаю, колькі трэба паставіць клічнікаў, каб перадаць маё захапленне гэтаю мясцінаю. Або канец і ўвесь XII раздзел трэцяе (здаецца, хаця не пэвен) часткі. Мне асабіста блізак Левін і ягонае жаданне (нават не жаданне, а настрой такі) пабрацца з сялянкаю. Або (гэтае ўжо з чацвертае часткі) ці не зрабіў я таго самага, што Левін, аддаўшы Кіці свае дзённікі.

Маю адзін «замысел»: хачу прысланць табе «Кюхлю» Юрыя Тынянова; там на Вілі, каторому мне прыемна спачуваць, хацелася б звярнуць тваю ўвагу.

Ва ўсім перабіраю меру. Гэта мая прыкрая асаблівасць. Здаецца, я залішне гаваркі, падрабязны з табою. Можа за гэтае табе і сапраўды цяжка са мною — не застаецца нічога недаказанага, што б інтрыгавала, выклікала не адказ, на высвятленне няяснага.

*К.*



*Франц Гінтаўт*

# УСПАМІНЫ ПРА СЯБРА



> Спыняюся перад маладосцю, перад момантам — зменным, імклівым. Ступаю шырэй, абмінаючы акамянелую старасць, бо няма калі, бо далі вабяць. І адна ў мяне надзея на шырокі крок.
>
> *Л. Калюга*

... Жыццёвыя шляхі мае, і Лукаша Калюгі, скрыжаваліся ў Мінскім белпедтэхнікуме.

У апошнія сонечныя дні жніўня 1928 года інтэрнат Белпедтэхнікума, што быў каля гарбатага маста цераз Свіслач (цяпер там парк імя Янкі Купалы), гудзеў бы вулей. Ды як яму было не гусці, гэтаму драўлянаму аднапавярховаму будынку, калі туды адзін за адным, нібы пчолы, залятаялі хлопцы (інтэрнат быў мужчынскі) — старэйшыя студэнты з канікулаў і ўпершыню навічкі — «аўстрыякі» (так звалі першакурснікаў, бо тыя мелі сярмяжны выгляд, нагадвалі ваеннапалонных аўстрыякаў часу першай імперыялістычнай вайны). Гучныя прывітанні, абдымкі, рогат — гэтае ў «старыкоў», а «аўстрыякі» сціхатою, нясмела сунуліся са сваімі куфэркамі, выпытвалі нумар свайго пакою і там знаёміліся, уладкоўваліся. Пах яблык, слуцкіх бэраў, прывезеных з дому, не толькі стаяў у будынку, але праз адчыненыя вокны выплываў на панадворак ды хваляваў пешаходаў.

У адным з пакояў (на шасцярых) фармавалася студэнцкая сямейка, да якой далучыў лёс і мяне. На пачатку прыбыло нас, з аднаго заходу, пяцёра. Без спрэчак падзялілі ложкі і пераznаёміліся. Фізічнае лідэрства мы адчулі адразу ў Сяргея Брыцькі яшчэ вітаючыся, бо «лёгкі» поціск яго рукі быў вельмі адчувальны і гэты асілак без натугі разгінаў конскую

падкову рукамі. Пульхны Язэп Вус асабліва нічым не вызначаўся, але яго добразычлівыя вочы і твар казалі, што на дружбу іншага шукаць не трэба. Смуглявы, з чорным хвалістым чубам і вялікімі чараўнічымі вачыма, задумённы і не вельмі гаваркі Сяргей Астрэйка адпавядаў вобразу паэта, і з часам мы сапраўды даведаліся, што ён складае вершы. Алесь Юрэвіч, прысадзісты бялявы хлопец, як толькі пазнаёміліся, пачаў пахваляцца самаробным дэтэктарным радыёпрыёмнікам. Пятым пасяленцам быў я. Мне давялося другі год быць першакурснікам, бо ў мінулым навучальным годзе я хварэў і атрымаў акадэмічны водпуск.

Перазнаёміўшыся, мы пачалі рабіць здагадкі — хто будзе шосты. Неўзабаве праз акно ўбачылі, што на ганак ступае хлопец-Гулівер.

— Няўжо да нас?! — выгукнуў нехта ад нас, а праз колькі хвілін адчыніліся дзверы, і дзівосны Гулівер апынуўся перад намі, з усмешкай агледзеў нас, ліліпутаў, і сказаў:

— Ну, здэцца, ягамосці, усе ў зборы, бадай, толькі мяне нехапала?! То будзем знаёмы і здаровы, дражняць мяне з маленства Кастусь Вашына.

— Вашына ці Вышына? — хмыкнуўшы, спытаў Сяргей Брыцька.

— Па царкоўнай метрыцы Вашына, але калі вам так карціць прыстасаваць прозвішча да майго росту — не пакрыўдую,— адгукнуўся Кастусь.

Праз колькі дзён, калі мы ўжо добра абнюхаліся, даведаліся, што наш Гулівер піша і друкуе невялікія апавяданні пад псеўданімам Лукаш Калюга.

Увогуле хлопцы ў пакоі падабраліся ўдала, і дружба між намі трымалася праз увесь час вучобы. Да нас і старэйшыя студэнты ставіліся з павагай, не абзывалі «аўстрыякамі», як іншых. З Сяргеем Брыцькам можна было смела хадзіць у парк імя Горкага, і ніхто з Камароўкі (там вадзіліся задзірыстыя хлопцы) не чапіўся, бо аднойчы паспрабавалі сілу нашага сябра. Кастуся ахвотна запрашалі ў баскетбольную каманду, асабліва тады, калі гулялі з камандай польскага педтэхнікума. І без падскоку Кастусь лёгка закідаў мячы ў карзіну.

У нашым пакоі можна было і паслухаць навіны з самаробнага прыёмніка (горад жа яшчэ не быў радыёфікаваны), а кансультацыю ў Юрэвіча атрымаць, як

той прыёмнік самому зрабіць. Тут можна было і атрымаць параду, што чытаць,— я, Кастусь і Сяргей Астрэйка, заядлыя бібліяфілы, заўсёды былі ў курсе літаратурных навін і падзей, бо стараліся не прапускаць дыскусій і літаратурных вечароў у Доме пісьменніка.

Жылі мы камунай — прысмакі, што даставаліся з дому, знішчалі ўсім кагалам. Яшчэ варта адзначыць, што студэнцтва трымалася воддаль ад спакусаў Бахуса і дымакурства.

Так пачыналася наша студэнцкае жыццё і маё знаёмства з Лукашом Калюгай і Сяргеям Астрэйкай, якое з часам перайшло ў шчырае сяброўства.

Студэнцкі час авеяны юнацкай рамантыкай. Ён самы цікавы, незабыўны ў жыцці кожнага, каму давялося яго перажыць.

Для нас, студэнтаў, пераважна моладзі з вёсак, наш Белпедтэхнікум здаваўся такім, як таму Тарасу з палясоўшчыкаў Парнас. Праўда, тут панавалі іншыя багі, і ў іх уладаннях былі іншыя справы. Тутэйшых багоў мы велічалі дзядзькамі.

Дзядзька — зварот, што выяўляў павагу юнака да старэйшага. Вось гэты этыкет, пераняты з вёскі, імпанаваў нам, ды нейкім чынам радніў сваім дэмакратызмам выкладчыка са студэнтам, прыахвочваў нас старанна трымацца закліку Леніна — вучыцца, вучыцца і вучыцца.

Дзядзька Грамыка — бог камянёў. Абклаўся ён імі рознымі паўсцяж сцен у сваім седале-кабінеце: быў геолаг, выкладаў мінералогію і крышталаграфію. Вельмі ж здзіўляў нас сваімі прадбачаннямі, што прыйдзе час, і ў нетрах Беларусі адкрыюць вучоныя розныя солі, нафту, а можа, нават і руду жалеза. Рослы, самавіты, гаварыў крыху пявуча, артыстычна, бо яшчэ і складаў вершы, пісаў п'есы, якія ставіліся ў тэатры.

Малады чарнавалосы Замбржыцкі і з лысай галавой Сакалоўскі знаёмілі нас з вялікімі скарбамі літаратуры: першы — беларускай, а другі — рускай і замежнай. Гэта былі не толькі добрыя літаратуразнаўцы, але і выдатныя выкладчыкі. Яны стараліся, каб мы не былі пасіўнымі слухачамі, а вучыліся разважаць, дыскутаваць, набывалі тэарэтычныя веды, умелі разабрацца ў творчасці пісьменніка, ацаніць твор.

Дзядзька Пракапчук, сціплы, спартыўна рухавы, кучаравісты, з іскрыстымі вачыма — бог усяго жыво-

га на Зямлі, біёлаг. Ён мог расказаць шмат цікавага пра кожную жывёліну ці расліну і здзіўляў нас тым, што ведаў іх назвы па-лацінску, нават гэтым ганарыўся перад намі. На экскурсіях мы спрабавалі яго экзаменаваць — кожны вышукваў штосьці незвычайнае і бег да яго паказваць, чакаючы той загадкавай навуковай назвы. Ён хутка даваў мясцовую назву, а пасля пстрыкаў пальцамі і выстрэльваў належную лаціну.

Не дзядзька, а ўжо дзядуля Барташэвіч (прасіў так яго зваць), занадта паўнаваты, грузны, з дабрадушным, прыветным позіркам, паўсвету аб'ехаў, бо калісьці працаваў у Пецярбурзе аграномам пры тых славутых парках Пецергофа. Аблічам нагадваў Льва Талстога. У савецкі час вярнуўся ў родную Беларусь і стаў актыўным прапагандыстам агранамічных ведаў сярод сялянства. Дзівіліся мы, як ён, адарваны ад радзімы, не забыўся роднай мовы ды з якім стараннем дапамагаў укараняць агранамічную культуру на родных беларускіх палетках. Ён быў сталым лектарам пры Доме селяніна, пры гэтым за лекцыі ніякай платы не браў. Паводле свайго характару, па ідэях, лектарскім таленце ён радніўся з К. А. Ціміразевым, ды раней і часта з ім сустракаўся. Дзядуля Барташэвіч схіляў нас да таго, каб мы, настаўнікі, былі прапагандыстамі агранамічных ведаў сярод вучняў і насельніцтва.

У Белпедтэхнікуме скампанавалася эліта самавітых выкладчыкаў. Доказам было тое, што выпускнікі з дыпломам тэхнікума пахвальна працавалі не толькі ў пачатковых школах, а нават спраўляліся з выкладаннем матэматыкі, фізікі, мовы, літаратуры ў сямігодках.

А прапеў я тут дыфірамбы нашым педагогам таму, што яны шчодра засявалі зерні ў нашу глебу пазнання, якія пасля буйна квітнелі ў нашых дзеяннях на ніве працы, у тым ліку і пісьменніцкай.

Белпедтэхнікум у 20-я гады рыхтаваў настаўнікаў, але адначасова быў і сапраўднай літаратурна-мастацкай школай. Былыя навучэнцы мелі падставу, калі ва ўспамінах пісалі, што ён нагадваў ліцэй часоў Пушкіна. Мабыць, не было ў той час іншай установы, якая б выпеставала такую колькасць таленавітых беларускіх пісьменнікаў,— іх выйшла адтуль больш за дваццаць. Так здарылася, што ў сталічным педтэхнікуме на пачатку яго станаўлення падабралася плеяда таленаві-

тых пісьменнікаў-пачаткоўцаў, яны і заклалі там фундамент літаратурнай школы. Гэтаму шмат пасадзейнічаў і Якуб Колас, які тады працаваў у тэхнікуме выкладчыкам,— імя яго было прыцягальным для літаратурнай моладзі.

У духоўным развіцці немалую ролю адыграла багатая бібліятэка, літаратурныя вечары і дыскусіі. На ўвесь горад славіўся тэхнікумаўскі хор пад кіраўніцтвам вядомага хормайстра У. Тэраўскага. Шмат чаго рабілася для таго, каб мы былі ідэйна і маральна загартаванымі настаўнікамі, маглі несці святло ідэй савецкай улады ў народныя масы.

Да прыходу ў тэхнікум Лукаша Калюгі і Сяргея Астрэйкі студыя «Маладняка» спыніла сваю дзейнасць, значная колькасць былых пачаткоўцаў выйшла на торную пісьменніцкую дарогу. Яны сталі прызнанымі паэтамі, пакінулі сцены свайго «ліцэя». Заставаліся С. Шушкевіч, В. Маракоў, С. Ліхадзіеўскі, рыхтаваўся стаць крытыкам А. Кучар, а пасля прыехалі давучвацца [redacted] Мсціслаўля А. Куляшоў і Ю. Таўбін, бо іх тэхнікум чамусьці закрылі. Не пакідалі наведваць родныя сцены былыя навучэнцы П. Глебка, М. Лужанін, П. Трус, С. Дарожны, яны выконвалі ролю неафіцыйных дарадцаў на занятках літгуртка і пры асабістых сустрэчах.

Традыцыі літстудыі доўжыў літгурток. Ніхто з настаўнікаў яго не апекаваў, існавала самакіраўніцтва. У гурток уваходзілі не толькі студэнты, якія лічылі сябе пісьменнікамі, але і хто наогул цікавіўся літаратурай.

На занятках літгуртка адбываліся дыскусіі па актуальных праблемах літаратурных напрамкаў, абмяркоўвалася творчасць паасобных пісьменнікаў. Тут былі прыхільнікі БелАППа і «Узвышша», а сярод іх — «левыя» і «правыя», таму дыскусіі праходзілі ў гарачых спрэчках, кожны стараўся грунтоўна, з выкладкамі, даводзіць слушнасць свайго погляду. Студэнты ўмелі самастойна мысліць, выказвалі арыгінальныя, цікавыя думкі.

Сярод літгурткоўцаў было некалькі прыхільнікаў сацыялагічных схем папулярнага ў той час крытыка Л. Бэндэ, іх называлі «каршункамі». «Каршункі» мясілі ўсіх, хто не ўкладаўся ў бэндаўскія схемы. Яны любілі дзяўбаць Дубоўку, Пушчу, не спыняліся нават

перад тым, каб абвінавачваць Янку Купалу і Якуба Коласа. Адзін з іх заўзята крытыкаваў «узвышэнца» Лукаша Калюгу, амаль заўсёды знаходзіў прычыну для чарговых наскокаў. Калюга ж звычайна спакойна, з гумарам, як ён выдатна ўмеў гэта рабіць, падаграваў эмоцыі крытыка. «Каршунок» тады распаляўся ажно да крыку, неяк надзімаўся, каб надаць больш значнасці сваёй асобе. Побач жа з высачэзным Лукашом нізкарослы, крыху кульгавы «каршунок» выглядаў ліліпутам, і гэта вельмі пацяшала прысутных.

У такім асяроддзі праходзіла наша вучоба і сталенне разам з Лукашом Калюгам і Сяргеем Астрэйкам. Віхуры часу параскідалі нас у розныя бакі, але захаваліся добрыя ўспаміны пра наша юнацтва, дружбу і вялікія летуценні. Лукаша і Сяргея даўно няма, а іх жыццё нагадвае мне лёс дзвюх знічак, якія ярка ўспыхнулі на літаратурным небасхіле і раптоўна патухлі, аднак заслужылі павагу нашчадкаў.

Малой Радзімай Кастусю Вашыну сталася вёска Скварцы на 40 двароў, якая размясцілася ў 30-ці кіламетрах на паўднёвы захад ад Мінска, прыпісаная да Дабрынёўскага сельсавета ў Дзяржынскім раёне. Бацькі, Пётр Мікалаевіч і Вольга Сцяпанаўна Вашыны, не маглі нацешыцца першым нашчадкам — сынам, які моцна радаваў іх сваімі дзіцячымі забавамі. Аднак праз два гады ў хату ўвалілася няшчасце — памерла Кастусёва маці, і ён застаўся на руках у незамужняй бацькавай сястры Марыі. Бацька другі раз не жаніўся, бо моцна кахаў сваю жонку ды пабойваўся, каб не папалася благая мачыха.

На Дабрынёўскіх могілках знаходзіцца бадай адзіны помнік з чорнага мармуру — на магіле маці Кастуся. Помнік невялікі, але па тым часе даволі дарагі, ён сведка духоўнай культуры бацькі Кастуся, яго пачуццяў да Вольгі Сцяпанаўны. Не кожны з незаможных сялян траціўся б на такое.

Цётка Кастуся вельмі любіла свайго пляменніка-сірацінку і аднойчы пры сустрэчы казала мне пра яго маленства: «Звычайна дзеці на слёзы лёгкія, а Кастусёк, нават калі нарадзіўся, доўга лыпаў вачыма і ніякага голасу не падаваў. Бабка не ўцерпела — усе ж дзеці родзяцца і кугакаюць, а ён, бач, уздумаў радавацца — і дала яму добрага шляпунца. Кастусёк паморшчыўся, крыху нехаця кугакнуў ды пачаў губамі

чмокаць — гэта давай яму есці». Цётка ніколі не чула, каб Кастусь заплакаў, калі на назе палец збедзіў на вуліцы ці аб што выцяўся. Быў не капрызны, і гадаваць яго была адна ўцеха.

Бацька Кастусёў хоць сам здолеў скончыць толькі чатырохкласную школу, але паважаў навуку, а таму з малых гадоў прыкладаў свайго хлапца да граматы. Кастусь удаўся кемлівы, хутка навучыўся чытаць і ўжо ў шэсць гадоў перастаў цікавіцца цацкамі, раздаваў іх сябрукам, а сам прыліпаў да кніжак. У яго была незвычайная памяць. Заўжды ўважліва слухаў, што яму чыталі, а пасля мог пераказваць слоўца ў слоўца ці прадэкламаваць, калі гэта быў верш. Доўгі час даражыў самаробнай скрыпачкай, якую яму падараваў дзед па мацеры, Сцяпан Фабіянавіч Івашын. Яму вельмі ж хацелася навучыцца іграць так, як іграў сусед Хамёнак, але кніжкі нарэшце перамаглі, і ўсё старанне аддаў ім.

Калі Кастусю споўнілася сем гадоў, бацька павёў яго ў Дабрынёўскую пачатковую школу, і там настаўнік быў здзіўлены хатнімі ведамі хлапчука. Кастусь выразна чытаў, някепска пісаў, спраўляўся ■ задачамі трэцяга класа. Настаўніку прыйшоўся даспадобы прагны да навукі хлапчук і яго дабрадзейны бацька, і таму ён з Кастусём доўжыў заняткі дома, прыводзіў яго веды ў пэўны парадак. У час грамадзянскай вайны школы не працавалі, таму Кастусь толькі ў 1921 годзе змог паступіць у Станькаўскую сямігодку і скончыў яе ў 1925 годзе.

За год да сканчэння сямігодкі памёр Кастусёў бацька, і яго замяніў яму родны дзядзька па мацеры, Уладзімір Сцяпанавіч Івашын, бо ён прыстаў у прымы да цёткі Марыі яшчэ ў 1921 годзе.

Да чаго пасля сямігодкі хацеў нахінуць Кастуся ягоны дзядзька, апісана ім у аўтабіяграфічнай аповесці «Ні госць ні гаспадар». Там Ігналя Чвардоўскі (трэба разумець — Кастусёў дзядзька) падбіраў такія доказы: «Што вучоны? Добра — дык пан, нераўня нашаму брату. Спракудзіўся ж чым крыху — дык і пастух. А ў галодныя гады, у самую завinduced заваруху што рабілася? У гаспадара таго чорнага, карэлага ўсе гэтыя панкі і палупанкі скарынку цвілую прасілі даць... калі то голад прыскічыў і гаспадар жа,— і пры гэтым бацькаў голас, як можа, урачыста звініць,— гаспадар, крый

божа толькі бяды якой напасці, дык ніякага чорта не хоча знаць. Адно да турмы не ведай дарогі».

Дзядзька падбіраў розныя захады да Кастуся, каб прывабіць яго да гаспадаркі. Сам дзядзька славіўся на ўсю ваколіцу рознабаковым талентам: знаўся добра на ўсякай сталярцы, а калі была патрэба — мог пайсці ў кузню і адкаваць якую хочаш рэч для гаспадаркі, і не абы-якую, а як цацку. Быў знаным пчаляром на ўсю акругу. Кастусь не адмаўляўся ад яго навук, і добра ў яго многа чаго выходзіла.

Кастусь, калі застаўся дома, памагаў дзядзьку па гаспадарцы, бо яго сыны, Міхась і Уладзік, былі яшчэ маленькія. Цікавасць да кніжак не прападала, даставаў іх дзе толькі мог і чытаў. Акрамя гэтага, з суседскімі хлопцамі верхаводзілі ў тамтэйшай камсамольскай ячэйцы.

У 1926 годзе, мабыць, хтосьці з настаўнікаў падгаварыў Кастуся паступаць у Магілёўскі педтэхнікум. Ён туды паехаў, вытрымаў належны экзамен і стаў студэнтам. Але там не засядзеўся. Пацягнула яго ў родную вёску, пра якую ў адным апавяданні з часам скажа так: «Весела ў Баркаўцах жыць, я яе ні на адну вёску, ні на адзін горад не прамяняў бы. За нашы Баркаўцы ў свеце лепшай вёскі няма. Ні за што з яе не выбраўся, хоць бы мне й прыплачвалі».

Праз месяц ён вяртаецца на гаспадарку, да сваёй вясковай камсамоліі, з дзейнасцю якой ён моцна зжыўся. У той час узрастала і набірала сілы маладая Беларуская Савецкая Сацыялістычная дзяржава, абуджалася сацыяльная і нацыянальная свядомасць у моладзі, узнікала імкненне будаваць на руінах мінулага новае жыццё, шанаваць здабытую свабоду. Як помніцца, вельмі ж кранаў нашы юнацкія пачуцці заклік Янкі Купалы ў вершы «Арлянятам».

Гэй, узвейце сваім крыллем,
Арляняты, буйна, бурна,
На мінулых дзён магіле,
Над санлівасцю хаўтурнай!..

Кожны юнак-камсамолец імкнуўся «не праспаць у пасцелі» той дзіўны час руплівай дзейнасці ў адраджэнні краіны. З тагачасных скварцоўскіх камсамольцаў выйшлі вядомыя людзі, а блізкі сябар Кастуся, Васіль Чэрнік, стаў нават палкоўнікам-авіятарам.

Кастусь ізноў дома, дапамагае дзядзьку па гаспа-

дарцы, аддана працуе ў камсамоле, займаецца самаадукацыяй, многа чытае. У яго рояцца думкі, і яны, нібы тыя кумкі з песні, пачынаюць назаляць яму. Ужо даўнавата запала ў душу яму кніжка М. Горкага «Мои университеты», не раз перачытвае яе, мяркуе — ёсць чаму наследаваць. А як прыгожа гучыць роднае слова ў Якуба Коласа, Янкі Купалы, М. Чарота, а яны таксама, як і Горкі, здабывалі веды праз самаадукацыю... Гартаючы старонкі часопіса «Чырвоны сейбіт», даведваецца, што там друкуюць вершы і апавяданні вясковыя хлопцы... І тады ў яго ўзнікла думка спрабаваць напісаць пра жыццё сваёй вёскі. У школе настаўнік яго пісьмовыя работы пахвальваў.

Бадай самай цікавай падзеяй на вёсцы было — надзел зямлёй беззямельнага сялянства. Адразалі лішкі ў заможных хутаранцаў. Забіралі пераважна ўчасткі паўскрай хутарскіх зямель, якія звычайна ляжалі цалінай у дзірванах для выпасу жывёлы. Беззямельныя ахвотна іх бралі і там будаваліся.

«Выйшлі на цаліну» — так назваў Кастусь першае апавяданне (1926), дзе адлюстраваў падзеі, як беззямельныя пачынаюць будавацца на цаліне, а хутаранцы злуюцца на гэту галоту.

Тады было модна пісаць пад псеўданімам, і Кастусь пачаў іменаваць сябе Лукашом Калюгам. Калюгамі ў Скварцах называлі копанкі з-пад торфу, напоўненыя вадой. Адна такая даволі вялікая калюга, з мноствам водных кветак, аеру — любімае месца дзяцей, знаходзілася каля яго вёскі, мабыць, яна і паспрыяла ў выбары псеўданіма.

Першы блін выйшаў крыху камякаваты, бо ў «Паштовай скрынцы» часопіса «Чырвоны сейбіт» № 5, 1926 г. за снежань надрукавалі такое паведамленне: «Лукашу Калюгу. «Выйшлі на цаліну» мы друкаваць не будзем. Тэма цікавая, але вы вельмі агульна да яе падышлі. З вашай манэры пісаць — відаць, што ў вас ёсць літаратурная здольнасць. Прысылайце больш матэр'ялы».

Хаця першае апавяданне не было надрукавана, але пахвала падахвоціла Кастуся далей выпрабоўваць свой талент. На пачатку 1927 года ён напісаў другое апавяданне — «Вясна», па тэматыцы блізкае да першага. Вось тут яго талент заіграў шматкаляровымі адценнямі. Яно было надрукавана ў часопісе «Чырво-

ны сейбіт», №№ 13—14, 1927 г. (май — чэрвень). У лістападзе таго года надрукавалі другое яго апавяданне «У Клянках» (№№ 20—21). На гэтыя апавяданні звярнуў увагу Кузьма Чорны. У тым жа годзе ў рэдакцыі «Беларускай вёскі» Кастусь сустрэўся з Кузьмой Чорным, і адзін аднаму спадабаліся. Тады К. Чорны даў многа парад у літаратурнай працы і параіў паступаць у Мінскі белпедтэхнікум, тагачасную літаратурную школу.

Пасля сустрэчы з Кузьмой Чорным у Кастуся нібы выраслі крылы, і ён за адзін 1928 год напісаў чатыры апавяданні («Краўцы і чаляднікі», «Лук'ян — капяраціўскі сабака», «Трахім з Пагулянкі», «Баркаўцы — добрая вёска і баркаўчане вясёлыя людзі») і аповесць «Ні госць ні гаспадар». У 1929 годзе выйшлі ў свет чатыры апавяданні, а ў верасні 1931 г.— першая частка аповесці «Нядоля Заблоцкіх».

Да тэхнікумаўскага Парнаса Кастусь хутка прывык, прыйшоўся яму да густу, стаў старанным студэнтам. Усе дысцыпліны даваліся лёгка. Пэўны час захапляўся выяўленчым мастацтвам, наведваў гурток, якім кіраваў вядомы мастак У. Кудрэвіч. Яшчэ ў школе праклёўваліся задаткі да малявання. Кудрэвіч не раз хваліў яго эскізы з натуры. Кастусь валодаў каліграфічным почыркам, ён яму прыдаўся пазней у цяжкія часіны жыцця, зарабляў тую-сюю капейку, працуючы перапісчыкам.

Кастусь сярод студэнтаў быў прыкметным юнаком: прыгожы, прыветлівы, інтэлігентны твар, разумныя вочы, багаты інтэлект. Вельмі ж жывым, з характэрным выразам аблічча ён атрымаўся на фатаграфіі, якая змешчана ў гэтай кнізе. Здымак зроблены ў гарадской бібліятэцы г. Ірбіта Свярдлоўскай вобласці ў 1935 г., і, мабыць, рабіў яго майстар свайго фаху. На ім відаць, што ён значна пасталеў, знікла колішняя вясёласць і несцеркавая ўсмешка, на яго вуснах запанавала пара развагі, роздуму, можа, і сумавання па сваіх родных Скварцах.

Кастусь быў чалавекам эмацыянальным, але не ўмеў хмурыцца, а калі ж хто спрабаваў яго пазлосціць, то ён адбрыкваўся хвацкім жартам. Валодаў вострым мастакоўскім вокам, мог імгненна заўважыць нешта такое асаблівае, характэрнае пры назіранні той ці іншай падзеі, паводзін чалавека і выказаць так тра-

пна і вобразна, што здзіўляў усіх прысутных. Ветлівы, разумны гумар, красамоўства спрыялі яго аўтарытэту тамады ў студэнцкім асяроддзі. Да яго хілілася ўсё добрае, чалавечнае, хцівасць, пыхлівасць, дваістасць былі арганічна неўласцівыя яму.

У Белпедтэхнікуме зачаравала Кастуся сусветная літаратура. Асабліва захапляўся Ф. Рабле, Дж. Сфіфтам, Вальтэрам. Больш дасканала пазнаёміўся з творамі рускай класікі. Дзесьці пад канец вучобы адкрыў для сябе «Прыгоды бравага салдата Швейка» Я. Гашака і «Зайздрасць» Ю. Алешы. Творы гэтыя так яго захапілі, што ён адразу пачаў перакладаць іх на беларускую мову. Пераклады адобрыў К. Чорны і дапамог, каб яны дайшлі да чытача.

Для цікавай кніжкі Кастусь мог адарваць добры кавалак ночы, ■ часам пазбыцца і ўсёй. Калі што ў кніжцы ўсхвалявала яго, не трымаў пры сабе, а стараўся расказаць сябрам, падахвоціць прачытаць. У падборцы аўтараў, кніг дапамагаў яму літаратурны эрудыт П. Рагачэўскі (супрацоўнік гістарычнага музея) і дазваляў карыстацца сваёй багатай бібліятэкай.

Найбольшы ўплыў на пісьменніцкае майстэрства Лукаша Калюгі зрабілі М. Гогаль, А. Чэхаў, Я. Колас, К. Чорны, Я. Гашак і часткова Ю. Алеша, але найбольш пакланяўся ён М. Гогалю. Яго творы, асабліва «Мёртвыя душы», перачытваў часта, паасобныя мясціны ведаў на памяць. Адчуваецца і падабенства твораў Гогаля і Калюгі — уласцівы ім самабытны тонкі народны гумар, дзе сутнасць яго скіравана на рэалістычны паказ жыцця. Іх пісьменніцкі стыль мае адзіныя вытокі, бо яны абодва карысталіся народнай творчасцю, толькі адзін — украінскай, а другі — беларускай. Гэтым меркаваннем адпавядаюць выказванні Яна Скрыгана пра творчасць: «Мне падабаўся гэты пісьменнік. Арыгінальны па стылі і самабытны. Глыбокі па роздуме, прычым роздум ляжаў не ў радках, не наверсе, а недзе ў яе сутнасці, за тэкстам, як арганічны скутак сваіх адчуванняў. Культурны па мысленні і па філасофскай напоўненасці. Чараўнік па мове: так і бруіцца, так і зіхаціць яна ўсім багаццем народнай дасціпнасці. Усмешнік — не-не дый пакажацца яна, гэтая добрая чалавечая ўсмешка, можа, нават крыху хітраватая і таксама схаваная за тканінай слоў».

Сюжэты Л. Калюга чэрпаў з жыцця сялянства, мно-

га чаго прыдбаў са сваёй вёскі Скварцы, якую ён у творах называе Баркаўцамі. Мне некалькі разоў давялося гасцяваць у Кастуся на вёсцы і нават спатыкацца там з прататыпамі некаторых герояў яго твораў. Падчас вучобы ў тэхнікуме частавата наведваў родны кут, адкуль прыводзіў цэлы сшытак цікавых моўных выразаў. Уголас чытаў нам, смакаваў і дзівіўся, як там сяляне ўмеюць складна, паэтычна размаўляць, не так нават, як многія граматныя гараджане. «Гараджанін і лаяцца прыгожа не ўмее,— казаў ён.— А прыслухайся да лаянкі вяскоўца, асабліва жанок, там у кожнай свая лаянка, вобразная, сакавітая, не лаянка, а цэлая паэзія».

Белпедтэхнікум Лукаш скончыў у 1931 годзе і пасля працаваў стыльрэдактарам у навукова-даследчым Інстытуце прамысловасці ВСНГ, на Беларускім радыё.

Жыў на прыватнай кватэры ў раёне Даўгабродскай вуліцы, побач з Вайсковымі могілкамі. Непадалёк кватараваў яго блізкі сябра Сяргей Астрэйка. Тагачасныя забудовы гэтай часткі горада нагадвалі вёску — драўляныя хаты, хлявчукі, а кожны двор славіўся галасістым пеўнем і звяглівай псінай на ланцугу. Кожнаму госцю ўтульнага невялікага пакойчыка Л. Калюгі запаміналася кніжная паліца на ўсю сцяну, застаўленая цікавымі выданнямі аўтараў нашай і замежнай літаратуры, а таксама карціна таленавітага мастака Р. Семашкевіча — «Раніца юнацтва». Зіхаценне ружовых і васільковых колераў выказвала летуценні прыгожай дзяўчыны-камсамолкі з блакітнымі вачыма, з закладзенымі за галаву рукамі, на фоне неба, калі сонца выплывае на ўскрай Зямлі, праменіцца і гуляе. Гэтую карціну мастак (выгнаннік Заходняй Беларусі) падарыў Лукашу ў знак знаёмства, калі той наведаў яго першую выстаўку ў Мінску. (Карціны Р. Семашкевіча захаваліся толькі ў музеях г. Масквы.)

На прадвесні 1933 года адбылося вялікае сталінскае паляванне на беларускіх «нацдэмаў», пераважна былых навучэнцаў Мінскага педтэхнікума, не толькі пісьменнікаў, але і настаўнікаў. У 20-я гады Мінскі педтэхнікум, апрача таго, што слыў літаратурна-мастацкім ліцэем на Беларусі, яшчэ насіў імя прэзідэнта АН БССР У. Ігнатоўскага. Камусьці здавалася, што ўсе навучэнцы гэтага тэхнікума былі заражаны вірусам «нацдэмаўшчыны».

Тагачасная змрочная навала не абмінула і Лукаша Калюгу, яго адправілі на спецпасяленне ў г. Ірбіт Свярдлоўскай вобласці. Аднак з часам гэтае пакаранне выдалася недастатковым, і ў 1937 годзе выгнанца, як і многіх другіх, прыгаварылі да расстрэлу. Пакаранне адбылося 2 кастрычніка, дзе пахаваны — невядома.

## ЗМЕСТ

Калюга Л.
К17 Творы: Раман, аповесці, апавяданні, лісты / Уклад., прадм. Я. Р. Лецкі; Камент. Н. В. Гаўрош, Т. М. Трыпуцінай.— Мн.: Маст. літ., 1992.— 607 с., [5] л. іл.— (Спадчына).
ISBN 5-340-00870-3.
Калюга Л. Произведения: Роман, повести, рассказы, письма.

У кнізе найбольш поўна сабрана ўсё лепшае, зробленае за нядоўгае жыццё (1909—1937) адным з самабытных празаікаў 20-х — пачатку 30-х гадоў Лукашом Калюгам (Канстанцінам Пятровічам Вашынай).

Непаўторна арыгінальны стыль, тонкае псіхалагічнае майстэрства робяць яго аповесці «Ні госць ні гаспадар», «Нядоля Заблоцкіх», лепшыя апавяданні прыкметнай з'явай у гісторыі нашай літаратуры.

У кнігу ўвайшлі і перапіска Л. Калюгі, і ўспаміны пра яго.

К $\frac{4702120201—059}{М 302(03)—92}$ 121—92 ББК 84Бел7

Литературно-художественное издание

ЛУКАШ КАЛЮГА

*(Константин Петрович Вашина)*

ПРОИЗВЕДЕНИЯ

Роман, повести, рассказы, письма

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

ЛУКАШ КАЛЮГА

*(Канстанцін Пятровіч Вашына)*

ТВОРЫ

Раман, аповесці, апавяданні, лісты

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Л. Р. Законнікава. Мастак С. В. Макееў. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктары Л. М. Маслоўская, К. А. Крукоўская.

ІБ № 3646

Здадзена ў набор 27.08.90. Падп. да друку 29.01.92. Фармат 84×108[1/32]. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 31,92+0,53 укл. Ум. фарб.-адб. 33,08. Ул.-выд. арк. 34,01. Тыраж 1900 экз. Зак. 1033. Цана 3 р. 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.